# ГІСТОРЫЯ
## СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ

## ЗАХОДНЯЯ ЕЎРОПА І ВІЗАНТЫЯ
## (V-XIII ст.)

**У дзвюх частках**

**Частка 1**

**Пад рэдакцыяй**
**В.А. Фядосіка, І. А. Еўтухова**

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь*
*у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў*
*вышэйшых навучальных устаноў по спецыяльнасці “Гісторыя”*

Аўтары:
**В.А. Фядосік, І. А. Еўтухоў,**
**А.А. Прохараў, А.Дз. Смірнова,**
**Л.П. Сушкевіч, В.У. Нічыпаровіч,**
**Л.В. Вансовіч, В.У. Шылай**

**МІНСК**
**БДУ**
**2002**

# Уводзіны

## §1. Сярэднія вякі. Перыядызацыя

**Сярэднія вякі ў гісторыі чалавецтва**. Тэрмін "сярэднія вякі" (або сярэдневякоўе) мае заходнееўрапейскае паходжанне, а дакладней, яго ўвялі італьянскія гуманісты XV–XVI ст. Так была названа эпоха паміж антычнасцю і перыядам Адраджэння, які яны разумелі перш за ўсё як зварот да культурных, сацыяльных, палітычных каштоўнасцей антычнага грамадства. З цягам часу, калі даволі трывала замацаваўся падзел еўрапейскай гісторыі на старажытную, сярэдневяковую і новую, за сярэдневякоўем таксама трывала замацавалася дэфініцыя як эпохі гісторыі паміж старажытнасцю і новым часам.

Адносіны гісторыкаў да гэтай эпохі былі (і зараз ёсць) рознымі. Негатыўна ацэньвалі сярэдневякоўе гуманісты, якія разглядалі яго як нешта прамежкавае паміж бліскучай антычнасцю і надыходзячым зваротам да яе каштоўнасцей. Яны процістаўлялі кансерватыўнае сярэдневяковае грамадства з яго строгай іерархічнасцю, карпаратызмам, манархічным дзяржаўным ладам, шматлікімі міжусобнымі войнамі, усеагульным кантролем царквы за ўчынкамі і думкамі людзей антычнай свабодзе чалавека-грамадзяніна, поліснай дэмакратыі, дасягненням філасофскай думкі, літаратуры, мастацтва. З пункту гледжання гісторыкаў эпохі Асветніцтва сярэдневякоўе таксама было эпохай заняпаду, асабліва ў культуры і норавах людзей. Іншыя гісторыкі, наадварот, ідэалізавалі сярэдневякоўя, лічылі яго "залатым векам", усхваляючы яго строгі іерархічны парадак, вернасць васала сеньёру, адвагу рыцараў, іх культ Прыгожай Дамы, глыбокую рэлігійнасць людзей.

Зразумела, гэта былі крайнія падыходы. Сярэдневякоўе, як і любая іншая гістарычная эпоха, мела шмат чаго, што можна ацэньваць і негатыўна, і пазітыўна. Але яно – неад'емная частка гісторыі чалавецтва, адзін з элементаў фундамента, на якім стваралася сучаснае грамадства. Вядома, калі мы бачым цэнтры многіх сучасных еўрапейскіх гарадоў, велічныя храмы, замкі, чытаем аб рыцарах "Круглага стала", Робін Гудзе, то адразу ўсведамляем, што гэта спадчына сярэдневякоўя. Але мала хто ўсведамляе (акрамя, вядома, гісторыкаў), што мноства са з'яў сучаснага жыцця, да якіх мы прывыклі і лічым іх неабходнай нормай, таксама паходзяць з сярэдніх вякоў. Сучасныя народы Еўропы сфарміраваліся ў сярэдневякоўі. Тады ж узнікла і большасць еўрапейскіх дзяржаў, што існуюць і зараз. Нямала, на жаль, і існуючых зараз канфліктаў маюць свае карані ў тую далёкую ад нас эпоху. Парламент, як неабходны атрыбут дэмакратыі, мае сярэдневяковае паходжанне. Універсітэты таксама ўзніклі ў сярэдневякоы. Асновы банкаўскай справы паходзяць ад сярэдневяковых італьянскіх фінансавых дамоў. Буйнейшыя рэлігійныя цэнтры склаліся ў сярэдневякоы. Нават друкаваная

кніга, без якой немагчыма ўявіць наша жыццё, таксама з'яўляецца вынаходніцтвам сярэдневякоа. Адтуль жа, на жаль, паходзіць і агнястрэльная зброя, як і рэцыдывы непрыязнасці да людзей іншай веры, іншых поглядаў.

Сярэдневякоўе таксама з'явілася важным связуючым звяном паміж сучаснай цывілізацыяй і антычнасцю. Напрыклад, абсалютная большасць выдатных твораў старажытнагрэчаскіх і рымскіх філосафаў, вучоных, паэтаў дайшла да нас дзякуючы карпатлівай працы сярэдневяковых перапісчыкаў, галоўным чынам, манахаў, да якіх так пагардліва адносіліся гуманісты і асветнікі. Узнікшае ў антычнасці хрысціянства з трыумфам прайшло праз сярэднія вякі, стаўшы дамінантай ментальнасці еўрапейцаў.

Жыццё сярэдневяковых людзей значна адрознівалася ад нашага. Іншай была ментальнасць, як спосаб арыентацыі чалавека ў свеце, як сукупнасць установак думаць і дзейнічаць пэўным спосабам, у многім, несвядома. Іншай была сістэма каштоўнасцей. І гэта, перш за ўсё, павінен усвядоміць гісторык перад тым, як з далягляду нашага часу ён пачынае даследаваць тую ці іншую праблему сярэдневякоўя. Добра на гэты конт сказаў расійскі вучоны А. Я. Гурэвіч: “Для таго каб зразумець сэнс выказвання, якое змешчана ў гістарычнай крыніцы, гэта значыць, правільна расшыфраваць пасланне яго аўтара, трэба зыходзіць не з ідэі, быццам людзі заўсёды, на ўсім працягу гісторыі, мыслілі і адчувалі аднолькава, таксама, як адчуваем і мыслім мы самі, – наадварот, непараўнальна больш прадуктыўнай з'яўляецца гіпотэза аб тым, што ў гістарычнай крыніцы ўвасоблена **іншая** свядомасць, што перад намі – "Іншы"”.

**Перыядызацыя**. У гістарычнай навуцы трывала замацаваліся храналагічныя рамкі еўрапейскага сярэдневякоўя, як перыяду з канца V да канца XV ст. Пачатковай датай прынята лічыць 476 г., калі была канчаткова ліквідавана імператарская ўлада ў Заходняй Рымскай імперыі. З апошнім храналагічным рубяжом сярэдніх вякоў сярод гісторыкаў няма такога адзінства. Адны бачаць яго ў пачатку Вялікіх геаграфічных адкрыццяў з яго эпахальнымі падзеямі адкрыцця заходнееўрапейцамі Амерыкі і марскога шляху ў Індыю, што паслужыла пачаткам да якасна новай эпохі ў гісторыі чалавецтва, калі гістарычны працэс перастаў быць гістрыяй асобных цывілізацый, а іх лёсы пачалі зліваццца ў адзіную плынь гістарычнага лёсу чалавецтва. Другія гісторыкі канчатковым рубяжом сярэдніх вякоў лічаць Рэфармацыю ў Германіі, адсоўваючы храналагічныя рамкі к пачатку XVI ст. Трэція прапануюць лічыць канцом сярэдневякоўя 1453 г. – год узяцца туркамі-асманамі Канстанцінопаля, што паклала канец існаванню візантыйскай цывілізацыі. Есць і канцэпцыі “працяглага сярэдневякоўя” – да канца XVIII ст. Яе прытрымліваецца, напрыклад, вядомы французскі гісторык Жак Ле Гофф, зыходзячы з кансерватыўнасці ментальнасці аграрнага насельніцтва Еўропы.

На наш погляд, найбольш удалай з’яўляецца перыядызацыя сярэдневякоа канцом V–XV ст. Вядома, тут нямала ўмоўнага, напрыклад у вызначэнні таго ж

пачатковага рубяжа. Чаму трэба лічыць канцом эпохі старажытнасці менавіта падзенне Заходняй Рымскай імперыі? Гэта ж была частка антычнай рымскай цывілізацыі, Усходняя Рымская імперыя (Візантыя) захавалася і працягвала існаваць да 1453 г. А калі ўзяць гісторыю пазаеўрапейскіх цывілізацый, то наогул цяжка знайсці эпахальныя гістарычныя падзеі, якія б стасаваліся з еўрапейскімі. У Кітаі, напрыклад, старажытная імперыя Хань пала ў канцы II ст., V ст. – гэта час панавання качэўнікаў, а імператарская ўлада была адноўлена ў VI ст. З канца XIV да сярэдзіны XVII ст. у Кітаі – час імперыі Мін, і ніякіх асаблівых узрушэнняў у яе існаванні на рубяжы XV–XVI ст. мы не заўважым. Улічваючы ачаговы характар развіцця цывілізацый да новага часу перыядызацыя сярэдневякоўя ў кантэксце ўсеагульнай гісторыі непазбежна выступае як дастаткова ўмоўная. І сама гэтая перыядызацыя патрэбна хутчэй для сінхранізацыі гісторыі розных цывілізацый.

Заходнееўрапейскае сярэдневякоўе прынята падзяляць на тры перыяды: ранняе сярэдневякоўе (канец V–IXст.); высокае сярэдневякоўе (X–XIIIст.) і позняе сярэдневякоўе (XIV–XVст.). Кожны з гэтых перыядаў меў свае адметныя характарыстыкі, суправаджаўся істотнымі зрухамі ў жыцці грамадства.

Прапануемая перыядызацыя некалькі адрозніваецца ад той, якая існавала ў гістарычнай навуцы СССР, дзе яна ахоплівала час ад канца V да сярэдзіны XVII ст. Але гэтае “некаторае адрозненне” мела глыбокі метадалагічны сэнс і зыходзіла з разумення сутнасці сярэдневякоа. У падручніках СССР можна было сустрэць фразы накшталт: “Буржуазныя гісторыкі не змаглі прапанаваць якога-небудзь адзінага навучнага вызначэння паняцця “сярэднія вякі”... Марксісцка-ленінская гістарычная навука ўкладвае ў гэтую традыцыйную перыядызацыю зусім іншы змест. Разглядаючы гістарычны працэс як заканамерную змену грамадска-эканамічных фармацый, гісторыкі-марксісты разумеюць сярэднія вякі перш за ўсё як час узнікнення, панавання і заняпаду феадальнай грамадска-эканамічнай фармацыі, якая змяніла рабаўладальніцкі ці першабытнаабшчынны лад, а затым у новы час саступіла гістарычную арэнукапіталізму”. Такім чынам, марксісцкая гістарычная навука вывучала не столькі сярэдневякоўе ва ўсіх яго праявах, колькі феадалізм як сацыяльна-эканамічную катэгорыю. Фактычна сярэдневякоўе і феадалізм атаясамліваліся, хаця і рабіліся вымушаныя агаворкі аб тым, што яны “не зусім аднолькавыя” пад уплывам неаспрэчных фактаў, напрыклад, што “доўгі час у ранняе сярэдневякоа ў шэрагу рэгіёнаў Еўропы (асабліва ў Візантыі, скандынаўскіх краінах) феадальны лад вытворчасці не быў пануючым”, або, што “феадальны ўклад захоўваўся ў эканоміцы многіх краін стагоддзям і пасля сярэдневяковай эпохі”. Такое разуменне сутнасці сярэдневякоўя асабліва паказвала сваю незвычайную аднабокасць пры вывучэнні пазаеўрапейскіх цывілізацый. Дзе там можна было знайсці аналаг нават самому паняццю “феод”, адшукаць феадальную вотчыну, прыгонніцтва, адносіны сюзерэнітэту –

васалітэту? Бадай што, падобнае існавала толькі ў сярэднявечнай Японіі. А выраз "афрыканскі феадалізм" выклікаў яўнае непаразуменне, паняцця ж "амерыканскі феадалізм" (дакалумбавага часу) наогул сарамлів пазбягалі. Ішлі гарачыя дыскусіі аб нейкім "азіяцкім ладзе вытворчасці", асаблівасцях феадалізму ў краінах Азіі. Хаця ўсё станавілася зразумелым, калі прызнаць ачаговы характар развіцця цывілізацый сярэдневякоўя, прызнаць само існаванне розных цывілізацый. Але ж гэта азначала "метадалагічна няправільнае" адступленне ад канонаў адзіна правільнай гістарычнай марксісцкай навукі ("вучэння адзіна правільнага, таму што яно слушнае" – ну чым не тэолаг II ст. н. э. Тэртуліян з яго славутым тэзісам – "веру, таму што абсурдна"?).

І ўсё ж непаўторныя лёсы розных краін і народаў уціскваліся ў жорсткія рамкі перыядызацыі феадалізму сярэдневякоўя, якія па сутнасці былі ўмоўнымі. Эпоха з канца V да сярэдзіны XVII ст. падзялялас на тры перыяды: 1) ранняе сярэдневякоўе (або фарміраванне феадалізму) – канец V – сярэдзіна XI ст.; развіты феадалізм – з сярэдзіны XI ст. да канца XV ст.; 3) позняе сярэдневякоўе (або позні феадалізм) – XV – першая палова XVII ст.

Апошні рубеж гэтай перыядызацыі быў абвешчаны ў савецкай марксісцкай гістарыяграфіі універсальным. Ён ужываўся да гісторыі любой краіны любога рэгіёна. Між тым абвяшчэнне сярэдзіны XVII ст. заканчэннем еўрапейскага сярэдневякоўя панавала толькі сярод гісторыкаў СССР. У заходняй гістарычнай навуцы гэты рубеж традыцыйна пазначаўся канцом XV ст. (або пачаткам XVI ст.). Дарэчы такі рабілі і гісторыкі дарэвалюцыйнай Расіі. У прыватнасці, будучы вядомы беларускі гісторык У. М. Перцаў у сваіх дарэвалюцыйных "Нарысах усеагульнай гісторыі" добра паказаў, што XVI – XVII стагоддзі ў заходнееўрапейскай гісторыі – гэта пачатак новага часу. Непрызнавалі "савецкую" перыядызацыю сярэдневякоа нават марксісцкія гісторыкі так званых "краін народнай дэмакратыі". Вядома, цяжка было ўсвядоміць, напрыклад, гісторыку Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, што Рэфармацыя – гэта з'ява сярэдневякоўя.

Але чаму ў савецкай гістарычнай навуцы апошнім храналагічным рубяжом сярэдніх вякоў была абрана менавіта сярэдзіна XVIIст.? Справа тут не толькі ў атаясамліванні паняццяў "сярэдневякоўе" і "феадалізм" і не толькі ў тым, што ў сярэдзіне XVII ст. адбылася англійская буржуазная рэвалюцыя (прычым падкрэслівалася, што гэта – першая буржуазная рэвалюцыя, якая мела агульна еўрапейскае значэнне, бо заканамерна ўзнікала пытанне: а чаму не нідэрландская?). Былі і іншыя матывы. Вядома, што капіталістычныя адносіны не складваліся адначасова нават у розных рэгіёнах Еўропы. Расія, у прыватнасці, значна адставала ў развіцці ад Італіі, Англіі, Францыі. Тая ж асабістая залежнасць сялян у Расіі яшчэ афармлялася, а на захадзе Еўропы яна ўжо амаль знікла. На некалькі стагоддзяў пазней у Расіі з'явіліся мануфактуры. Такім чынам,

гістарычныя факты не адпавядалі ідэалагічным устаноўкам сталінскага рэжыму, які ўчэпіста валодаў “самай перадавой краінай свету –СССР”. У выніку быў выкарыстаны тэзіс У. І. Леніна (які і да гэтага абгрунтоўваў шэраг дарэвалюцыйных гісторыкаў Расіі, што вывучалі, дарэчы, не сусветную, а расійскую гісторыю) аб тым, што новая гісторыя Расіі пачынаецца з другой паловы XVII ст. Зноў зазначым, што гэта адносілася толькі да гісторыі Расіі. Але прапанаваная перыядызацыя была пашырана і на сусветную гісторыю.

Прадмет гісторыі сярэдніх вякоў як навучальнай дысцыпліны гісторыкамі-марксістамі быў звужаны да вывучэння феадалізму ў яго марксісцкім разуменні. Адсюль у падручніках непадзельна панавала сацыяльна-эканамічная праблематыка з кароткімі экскурсамі ў палітычную гісторыю, культуру, рэлігію, рэдка ў побыт, светаўспрыманне людзей сярэдневякоўя. Рыхтуючыся па такіх падручніках, студэнту-гісторыку было цяжка скласці для сябе нават больш-менш паслядоўную канцэпцыю палітычнай гісторыі той ці іншай краіны. А калі дыпламаваны спецыяліст-гісторык трапляў у якую-небудзь з заходнееўрапейскіх краін, то са здзіўленнем усведамляў, што яго глыбока засвоеных ведаў аб сялянскіх абшчынах рознай формы, двухполлі і трохполлі, арганізацыі вотчыны, формах феадальнай рэнты, барацьбе прыгонных сялян з феадаламі-прыгнятальнікамі яўна не хапае, каб зразумець гісторыю гэтай краіны, яе спецыфіку. Аднак нельга адмаўляць цалкам вынікі прац гісторыкаў-марксістаў. Трэба аб'ектыўна адзначыць, што прымусова пастаўленыя ў жорсткія рамкі фармацыйнага падыходу, яны тым не менш многа зрабілі ў вывучэнні сацыяльных адносін, эканомікі сярэдневякоўя (хоць і тут не трэба перабольшваць, напрыклад, французскія гісторыкі,  зрабілі ў гэтай галіне яшчэ больш) ды ішэрагу іншых праблем. І ўжо цалкам абсурдным будзе агульна адвяргаць усе катэгорыі, паняцці савецкай гістарычнай навукі, абвяшчаючы іх “учарашнім днём”, напрыклад, само паняцце “феадалізм”. Гэта значыць паказаць не толькі сваё няведанне гісторыі (ці нежаданне ведаць яе аб'ектыўна), а проста, як гаворыцца, выплюхваць разам з купеллюідзіця. Феадалізм як катэгорыя ўзнік задоўга да марксісцкай гістарычнай навукі, ён і зараз з'яўляецца асноўнай катэгорыяй гісторыі сярэдніх вякоў Еўропы як навукі. Праўда, ён разумеецца не як жорстка ідэалагічна зададзеная грамадска-эканамічная фармацыя.

Прадметам дадзенага вучэбнага дапаможніка з’яўляецца гісторыя сярэдневякоўя Заходняй Еўропы і Візантыі ва ўсіх праявах існавання гэтых дзвюх сярэдневяковых цывілізацый Еўропы:і іх сацыяльным ладзе, палітычных адносінах, эканоміцы, рэлігіі, духоўнай і матэрыяльнай культуры, этнічных узаемаадносінах, светаўспрыманні тагачасных людзей, паводзінах у сям'і, грамадстве. Гісторыя славянскіх народаў у беларускіх універсітэтах складае прадмет асобных лекцыйных курсаў, хоць, канешне, у гэтым ёсць і пэўная штучнасць – напрыклад, гісторыя сярэднявяковай Свяшчэннай Рымскай імперыі

выглядае недастаткова поўнай без гісторыі Чэхіі, як яе часткі. Аднак вылучэнне гісторыі заходніх славян у асобны курс дазваляе больш уважліва прасачыць іх гісторыю.

## § 2. Крыніцы па гісторыі сярэдніх вякоў

**Класіфікацыя сярэдневяковых крыніц.** Сярэдневяковая гісторыя Заходняй Еўропы і Візантыі адлюстравана ў шматлікіх і разнастайных крыніцах. У залежнасці ад формы фіксацыі інфармацыі вылучаюцца пяць тыпаў крыніц: 1) прыродна-геаграфічныя; 2) этнаграфічныя; 3) рэчавыя; 4) мастацка-выяўленчыя; 5) пісьмовыя.

У сукупнасці яны асвятляюць усе бакі жыцця сярэдневяковага грамадства. У залежнасці ад таго, які бок жыцця людзей сярэдневякоўя або які перыяд сярэдніх вякоў даследуе гісторык, ён аддае перавагу таму ці іншаму тыпу крыніц. Напрыклад, рэчыўныя крыніцы маюць важнае значэнне пры даследаванні ранняга сярэдневякоўя, мастацка-выяўленчыя даюць надзвычай каштоўную інфармацыю аб сярэдневяковай культуры. Але галоўным для ўсіх перыядаў сярэдніх вякоў і амаль усіх бакоў жыцця тагачаснага грамадства з’яўляюцца пісьмовыя крыніцы. Іх можна падзяліць на чатыры класы, у межах якіх крыніцы распадаюцца на некалькі відаў:

1. Дакументальныя матэрыялы: публічныя і прыватныя акты, гаспадарчыя опісы, рахункі і бухгалтарскія гандлёвыя кнігі, ваенныя, адміністрацыйныя і іншыя дакументы дзяржаўнай улады, афіцыйная перапіска службовых асоб.
2. Заканадаўчыя помнікі: “праўды” (г. зн. запісы звычаёвага права германскіх і іншых народаў), кодэксы грамадзянскага, крымінальнага, царкоўнага права, асобныя законы і ўказы, гарадскія хартыі, статуты і судовыя пратаколы і г. д.
3. Апавядальныя крыніцы: аналы, хронікі, біяграфіі, гісторыі, агіяграфічныя творы, мемуары, перапіска неафіцыйнага характару, трактаты і памфлеты.
4. Літаратурныя крыніцы: песні, паданні, вершы, навелы, раманы і г. д.

З усіх відаў крыніц дакументальны матэрыял вызначаецца найбольшай дакладнасцю. Ступень дакладнасці прававых крыніц неаднолькавая. Што да апавядальных крыніц, то ў іх часцей за ўсё падзеі адлюстраваны скрозь прызму свядомасці іх аўтараў. Таму гэтым крыніцам уласцівая суб’ектыўнасць успрымання, свядомае скажэнне ці замоўчванне фактаў.

Большасць крыніц заходнееўрапейскага сярэдневякоўя напісана на латыні, але не на класічнай, а сярэднявяковай. Толькі ў другі перыяд сярэдніх вякоў сталі з’ўляцца тэксты на народных мовах. У XIV–XV ст. у большасці краін Заходняй Еўропы ў асноўным ужо пераважалі народныя мовы. Аднак у некаторых галінах грамадскага жыцця (дыпламатыя, царква, навука) лацінская мова захавала свае пазіцыі аж да пачатку новага часу.

**Крыніцы па гісторыі V–IX ст.** Утварэнне на тэрыторыі Заходняй Рымскай імперыі варварскіх дзяржаў выклікала неабходнасць пісьмовага афармлення звычаяў, што існавалі ў германскіх народаў, а таксама прыняцця законаў, рэгулюючых адносіны з насельніцтвам заваяваных правінцый. Таму ўжо з канца V ст. у германскіх народаў сталі з'яўляцца судзебнікі. Яны пісаліся на латыні і вядомы ў медыявістыцы як "праўды". На Брытанскіх астравах такія судзебнікі з'явіліся пазней, у VII – XI ст., а ў Скандынавіі – у XII – XIII ст. і былі запісаны на народных мовах. Збіральна гэтыя судзебнікі звычайна называюць *варварскія праўды*. Кожная праўда адпавядае назве племені, да якога яна належыць.

Праўды ўяўлялі сабой запіс ужо дзеючых прававых норм, якія былі выпрацаваны ў працэсе развіцця грамадства (звычаёвае права). Яны фіксавалі штрафы і іншыя пакаранні за розныя злачынствы і праступкі. Але складальнікі праўд запісвалі далёка не ўсе старажытыя звычаі. Адбіраючы, яны ўносілі ў тэкст некаторыя дапаўненні і змяненні, якія адлюстроўвалі ўтварэнне новага грамадскага ладу і дзяржавы.

Варварскія праўды з'яўляюцца важнай і нярэдка адзінай пісьмовай крыніцай, што адлюстроўвала пачатковую стадыю станаўлення феадалізму. Яны даюць матэрыял для даследавання ўзроўню прадукцыйных сіл, форм уласнасці, пачатку сацыяльнай дыферэнцыяцыі, форм судзебнага працэсу і г. д. у перыяд разлажэння абшчыны і зараджэння феадальнага ладу.

Праўды падзелены на *тытулы* (главы), якія ў сваю чаргу распадаюцца на параграфы. Тэкст праўд вельмі складаны па сваім саставе з прычыны пазнейшых наслаенняў, уставак, шматлікіх рэдакцый (варыянтаў). Больш раннія рэдакцыі праўд захавалі важнейшыя нормы старажытнага звычаёвага права. У гэтым сэнсе асаблівую каштоўнасць прад'яўляе старажытны закон салічных франкаў – *"Салічная праўда"*, створаная ў пачатку VI ст. Рымскі ўплыў на праўду нязначны і праявіўся галоўным чынам у знешніх рысах: лацінская мова, штрафы ў рымскіх грашовых адзінках.

Асаблівасцю "Салічнай праўды" як крыніцы з'яўляецца мноства яе варыянтаў і розначытанняў. Справа ў тым, што "Салічная праўда" ўжывалася франкамі з VI па IX ст. Таму на працягу гэтага часу ў тэкст "Салічнай праўды" ўносіліся дапаўненні.Таму ў спалучэнні з іншымі крыніцамі больш позняга перыяду яна дае магчымасць прасачыць эвалюцыю ад родаплеменнога ладу да феадальнага франкскага грамадства. "Салічая праўда" апісвае характар заняткаў франкаў, сведчыць аб сацыяльным расслаенні ў іх асяроддзі, дае ўяўленне пра абшчыну на яе пераходным этапе, пра характар і формы ўласнасці і г. д.

*"Рыпуарская праўда"* была складзена ў вобласці рыпуарскіх франкаў, што жылі на сярэднім Рэйне. Запіс яе па часе супадае з запісам "Салічнай праўды" (VI ст.) і мае з ёй шмат падабенстваў (хоць і ўзнікла зусім самастойна). Побач з артыкуламі, якія адлюстроўваюць прыблізна такі ж узровень развіцця грамадства,

як у “Салічнай праўдзе”, ёсць і такія артыкулы, у якіх ужо выступаюць рысы феадальных адносін (роль царкоўнага землеўладання, узнікненне патранату і імунітэту і г. д.).

*“Аламанская праўда”* была складзена ў пачатку VIII ст. на падставе больш ранняга варыянта запісу звычаяў аламанаў. У яе ўвайшлі таксама законы меравінгскіх каралёў, выдадзеныя для аламанаў у пачатку VII ст.

Запіс права ў іншых германскіх плямён – бавараў, цюрынгаў, саксаў, фрызаў, хамаваў *(“Баварская праўда”*, *“Саксонская праўда”*, *“Цюрынгская праўда”* і інш.) быў ажыццёўлены ў каралінгскую эпоху, па меры ўключэння плямён у імперыю Карла Вялікага. Па сваім змесце яны часткова блізкія да “Салічнай праўды” і “Рыпуарскай праўды”. Разам з тым гісторыя іх запісу цесна звязана з падзеямі каралінгскага перыяду. Таму на гэтых крыніцах больш адчуваецца рымскі ўплыў.

Запіс звычаёвага права лангабардаў называецца *“Эдыкт Ротары”* (643 г.). У зборы зафіксаваны працэс разлажэння радавога ладу і абшчынных форм землекарыстання. На некаторых палажэннях эдыкта адчуваецца рымскі ўплыў – у наследным праве, у парадку перадачы маёмасці і г. д.

Праўды англасаксонскіх каралеўстваў, утвораных на тэрыторыі Брытаніі з другой паловы V да пачатку VII ст., адлюстравалі яшчэ раннюю стадыю абшчынна-радавога ладу. У іх больш перажыткаў родавых зносін, чым у старажытных германскіх праўдах, узнікшых на кантыненце. Праўды складзены на мясцовых дыялектах англасаксонскай мовы. У канцы IX ст. уэсекскім каралём Альфрэдам былі сабраны ўсе старыя законы англасаксонскіх каралеўстваў і выдадзены як адзіны збор, дапоўнены новымі каралеўскімі пастановамі. Так, у 893 г. узнікла *“Праўда караля Альфрэда”*, у якой ужо адлюстравана развіццё феадальных адносін.

У некаторых варварскіх каралеўствах былі выдадзены спецыяльныя законнікі, якія рэгулявалі прававыя ўзаемаадносіны заваёўнікаў з мясцовым насельніцтвам. На тэрыторыі Вестгоцкага каралеўства каля 506 г. быў складзены законнік, названы пасля *“Брэвіарый Аларыха”*. Ён прызначаўся для вырашэння цяжбау і спрэчак паміж рымлянамі і готамі і ўяўляў зборнік даслоўных вытрымак з розных крыніц рымскага права.

У Остгоцкім каралеўстве для рымлян і готаў быў выдадзены *“Эдыкт Тэадорыха”* (каля 500 г.). Неабходна адзначыць значны ўплыў рымскага права на остгоцкае заканадаўства.

З дадаткаў і паправак да праўдаў паступова нарадзілася каралеўскае заканадаўства. Найбольш значным яго помнікам з’яўляюцца *капітулярыі* франкскіх каралёў (названы таму, што тэкст падзяляўся на капітулы, г. зн. главы). Сваю класічную форму капітулярыі набылі на рубяжы VIII – IX ст. пры Каралінгах. Капітулярыі дазваляюць з большай выразнасцю прасачыць за зменамі

ў франкскім грамадстве. Яны ўтрымліваюць разнабаковую інфармацыю аб гаспадарцы, сацыяльным ладзе, палітычных інстытутах, ваеннай справе, адлюстроўваюць узмацненне ўлады каралёў і знаці. Мова капітулярыяў – уладарная, рашучая, таму іх тэкст гучыць загадам. Гэта дэманструе паходжанне капітулярыяў як каралеўскіх распараджэнняў для абавязковага выканання.

*Дакументальны матэрыял* ранняга сярэдневякоўя невялікі. Гэта тлумачыцца неаднолькавай пачатковай распаўсюджанасцю дакументацыі ў розных рэгіёнах, а таксама неаднолькавай яе захаванасцю. Напрыклад, у Паўночнай і Цэнтральнай Еўропе пісьмовае афармленне здзелак, распараджэнняў і іншых актаў пачало ажыццяўляцца толькі на прыканцы ранняга сярэдневякоа. На тэрыторыях, што належалі былой Рымскай імперыі, складанне дакументаў працягвала заставацца звыклай справай, але не ўсе яны захаваліся. Архівы гінулі ў выніку іншаземных заваяванняў, недаўгавечным быў папірус – асноўны пісчы матэрыял у Заходняй Еўропе да VIII ст. (у Папскай курыі ён выкарыстоўваўся да канца XI ст.). З VIII ст. на тэрыторыях на поўнач ад Альпаў выкарыстоўваўся ўжо пераважна пергамент, і тэкстаў напісаных на ім дайшло да нас значна больш. Папера ж з’явілася ў Заходняй Еўропе толькі ў высокім сярэдневякоўі — у XI ст., а распаўсюдзілася толькі ў другой палове XIII ст. Амаль усе дакументы таго часу напісаны на латыні.

Пастанаўленні каралеўскага суда, акты дарэнняў, куплі-продажы, абмену, акты, замацоўваючыя ўступленне ў залежнасць – вось асноўныя тыпы раннефеадальных дакументаў (часцей за ўсё носяць назву – граматы, а таксама хартыі і акты). Граматы, а тым больш комплексы грамат даюць багатую інфармацыю. Гэта асноўная крыніца па гісторыі эканомікі, грамадскага ладу, палітычных інстытутаў, вераванняў, па храналогіі, генеалогіі і г. д.

Граматы звычайна складаліся па пэўных узорах. Яны называліся *формуламі* і адлюстроўвалі ўсе тыпы здзелак. Але сутнасць справы ў іх выкладаецца ў абстрактнай форме, г. зн. без упамінання канкрэтных імёнаў, дат, геаграфічных назваў. Формулы адлюстроўвалі тыповыя праваадносіны сярэдневякоа і маюць вялікую каштоўнасць як крыніца па эканамічнай і сацыяльна-палітычнай гісторыі ранняга перыяда сярэдніх вякоў. Акрамя таго, наяўнасць зборніка формул у нейкай ступені кампенсуе страту сапраўдных грамат.

Самым раннім з’уляецца *Анжэрскі зборнік*, які ўтрымлівае каля 60 формул (складзены ў пачатку VII ст.). Даволі каштоўным з’уляецца фармулярый, які быў складзены манахам Маркульфам каля 700 г. (паўночная Галія). Ён падзелены на дзве часткі: акты публічнага права і акты прыватнага права. Гэты зборнік карыстаўся значнай папулярнасцю, быў дапоўнены, а ў канцы VIII ст. некалькі перапрацаваны. У 721 г. быў складзены *Буржскі зборнік*. Названыя зборнікі адносяцца да меравінгскай Галіі. У каралінгскі перыяд з’яўляюцца зборнікі формул, якія прымяняліся на ўсёй тэрыторыі імперыі.

Вялікае значэнне маюць інвентарныя дакументы сярэдніх вякоў. Яны прадстаўлены вопісамі царкоўных маёнткаў (французскіх, нямецкіх, італьянскіх), створаных з VI па IX ст. Іх звычайна называюць *паліптыкамі*, што па-грэчаску значыць “шматліставыя”. Гэта класічная крыніца не толькі па гісторыі раннефеадальнай вотчыны. Паліптыкі каштоўныя пры вывучэнні дэмаграфіі, гісторыі паселішчаў і г. д. У паліптыках даецца пералік сялянскіх трыманняў, з указаннем іх месцазнаходжання і належных павіннасцей, часам указаны імёны і сацыяльны статус трымальнікаў і членаў іх сямей.

Адной з самых падрабязных пісцовых кніг з’яўляецца *Паліптык Ірмінона* абата Сен-Жэрменскага кляштара пад Парыжам (складзены ў пачатку IX ст.). Паліптык не дайшоў да нас поўнасцю. Страчана каля дзвюх пятых тэксту. У тым, што захавалася, падрабязна апісаны пяць кляштарных маёнткаў (гэта вынік апытання насельніцтва), паказана колькасць кляштарнай зямлі, адзначаны пералік сялянскіх надзелаў і характарыстыка ўваходзячых у іх зямель, а таксама імёны сялян і іх павіннасці. У паліптыку маюцца вопісы зямельных дарэнняў. Паліптык Ірмінона – важная крыніца па гісторыі царкоўнага землеўладання, разам з тым гэта і своеасаблівая аграрная энцыклапедыя, якая ўключае розныя звесткі. Навука валодае паліптыкамі Рэймскага абатства св. Рэмігія, фульдскага абатства (у Цюрынгіі) і інш.

Большасць дакументаў царкоўных архіваў, у тым ліку і вопісаў, захавалася не ў арыгіналах, а ў копіях, перапісаных у спецыяльныя зборнікі — *картулярыі.*

Практыка вопісаў памесцяў прывяла да стварэння асобай інструкцыі для каралеўскіх пасланцаў. Яна называлася *“Узоры вопісаў зямель царкоўных і каралеўскіх”*. Крыніца ўтрымлівае ўзоры вопісаў і прыкладныя справаздачы аб становішчы памесцяў. Акрамя таго, у яе ўключаны звесткі, якія адсутнічаюць у паліптыках: апісанне пабудоў, падлікі інвентару, розных гаспадарчых запасаў.

Інструкцыі іншага тыпу па кіраванні буйнымі памесцямі ўяўляе сабой *“Капітулярый аб памесцях”* Карла Вялікага (складзены каля 800 г.). У ім падрабязна апісаны абавязкі кіраўніка вялікага каралеўскага памесця і яго падначаленых, расклад сельскагаспадарчых і ішых работ, парадак забеспячэння каралеўскага палаца рознымі прадуктамі, інвентаром, павозкамі і г. д. Гэта крыніца адлюстроўвае ўсе аспекты жыцця вялікага памесця, а таксама ўтрымлівае звесткі па гісторыі агракультуры, сацыяльных адносінах.

Такім чынам, паліптыкі, куртулярыі, інструкцыі – своеасаблівыя гістарычныя дакументы пра арганізацыю буйнога феадальнага землеўладання, асноўных катэгорыях залежных сялян, формах іх эксплуатацыі.

Асноўнай крыніцай, адлюстраваўшай гісторыю Візантыі VI ст., з’уляецца *“Звод цывільнага права”,* складзены пры імператары Юсцініяне. Законы тычацца пытанняў землеўладання, рабаўладання, кіравання правінцыямі, а таксама міжнародных адносін, падатковага абкладання, адміністрацыйнага і ваеннага

кіравання. Значнае месца ў заканадаўстве Юсцініяна адведзена рэгуляванню гандлёвых, крэдытных аперацый, арэнды, права на спадчыну і г. д. У далейшым у Візантыі гэты помнік неаднаразова перапрацоўваўся. Крыніцы па гісторыі Візантыі VII—IX ст. вельмі бедныя. Гэта тлумачыцца не толькі дрэннай захаванасцю помнікаў візантыйскай пісьменнасці, але і тым, што значная частка літаратуры гэтага перыяду (Іканаборніцкі) была знішчана ў IX ст. У сувязі з гэтым прававыя помнікі адыгрываюць асобную ролю для вывучэння гісторыі Візантыі ў VII—IX ст.

Каштоўнай крыніцай па гісторыі аграрных адносін у Візантыі з’уляецца *“Земляробчы закон”* (VIII ст.). Як і варварскія праўды, ён з’яуляецца запісам звычаёвага права. У дакуменце даецца пералік пакаранняў і штрафаў за розныя правапарушэнні. У “Земляробчым законе” адлюстравана жыццё свабоднай суседскай абшчыны, якая яшчэ з’яўляецца вярхоўным уласнікам зямлі.

Другім прававым помнікам VIII ст. з’уляецца *“Эклога”*, якая была выдадзена ў 726 г. (датаванне спрэчнае) імператарамі-іконаборцамі Львом III і Канстанцінам V. Мэта гэтага зводу грамадзянскага і крымінальнага права – замацаваць фарміраванне феадальных адносін і абараніць інтарэсы землеўладальнікаў. “Эклога” стала першым афіцыйным зборам, напісаным на грэчаскай мове, даступнай для насельніцтва Візантыі таго часу.

Апавядальныя крыніцы ранняга сярэдневякоа разнастайныя і шматлікія. Каштоўнай крыніцай для вывучэння палітычнай і ў нейкай ступені сацыяльнай гісторыі ранняга сярэдневякоа з'яўляюцца *аналы* – запісы найбольш важных падзей па гадах. Яны з’явіліся ў кляштарах у VI ст. і першапачаткова мелі форму кароткіх нататкаў на велікодных табліцах. Пазней запісы станавіліся больш частымі, а з канца VII ст. – штогадовымі. Яны заносіліся ў спецыяльныя рукапісы. У аналах даецца кароткі пералік падзей палітычнага і царкоўнага жыцця.

Большасць аналаў маюць назвы тых кляштараў і кафедральных сабораў, у якіх яны ствараліся (*“Малыя Лоршскія аналы”*, *“Вялікія Лоршскія аналы”*, *“Сэн-Бертэнскія аналы”*, *“Фульдскія аналы”* і інш.). Росквіт заходнееўрапейскай аналістыкі прыпадае на VIII – X ст., калі з’яўляюцца аналы больш шырокага тэрытарыяльнага масштабу, якія складаліся пры каралеўскім двары.

Сярод гістарыяграфічных твораў ранняга сярэдневякоўя асобнае месца займаюць *гісторыі*. Гэта буйныя творы, у якіх апісваюцца значныя і ў асноўным сучасныя аўтару палітычныя падзеі ў “гісторыях” адчуваецца ўплыў у рамках познаантычнай хрысціянскай традыцыі з яе націскам на выкладанне гісторыі ад стварэння свету. У іх змяшчаліся паданні пра продкаў, перасяленні, пра першых герцагаў і каралёў, а таксама народныя песні, сагі, звесткі пра першыя вякі гісторыі асобных германскіх народаў. Цэнтральнае месца ў “гісторыях” усё ж займалі бягучыя падзеі.

Менавіта ў такіх традыцыях класічнай антычнай гістарыяграфіі напісаны

*“Гісторыя войн Юсцініяна”* вядомага візантыйскага гісторыка *Пракопія Кесарыйскага* (каля 507 – пасля 565). У гэтай вялікай гістарычнай працы ён малюе дакладны ход ваенных падзей, дыпламатычныя перамовы. Разам з тым у працы Пракопія прадстаўлены разнастайны матэрыял пра жыццё рымска-італійскага грамадства ў перыяд візантыйскага заваявання Апенінскага паўвострава, геаграфічныя і этнаграфічныя даныя пра тыя народы, з якімі прыходзілася сутыкацца візантыйскай арміі.

Гісторыя франкскай дзяржавы Меравінгаў прадстаўлена ў вядомай працы *Грыгорыя Турскага* (каля 540 – пасля 594) *“Гісторыя франкаў”*. Аўтар даў галоўным чынам зводку палітычнай гісторыі, але разам з тым у працы шырока паказана карціна сучаснага Грыгоыю жыцця франкскага грамадства. Звесткі аб эканоміцы і гандлі, падатках, становішчы розных груп насельніцтва, бражэнні сярод прыгнечанага народа, які быў даведзены да адчаю вымаганнямі чыноўнікаў, царкве і яе палітыцы, культуры і быце і многія іншыя факты рассеяны па ўсім творы, што робіць яго каштоўнай крыніцай меравінгскага грамадства ў цэлым.

Каштоўныя звесткі па гісторыі гоцкай Іспаніі дае ў сваіх працах вядомы гісторык *Ісідор Севільскі* (каля 560 – 636). З яго гістарычных прац найбольшае значэнне мае *“Гісторыя каралёў готаў, вандалаў і свеваў”*. Пры напісанні часткі, прысвечанай готам, ён скарыстаў працы сваіх папярэднікаў, сучаснікаў, а таксаму вусную гістарычную традыцыю. Праца Ісідора – найбольш поўная крыніца па гісторыі вестгоцкай Іспаніі канца VI – пачатку VII ст.

*Беда Шаноўны* (каля 673 – 735) – манах з Нартумбрыйскага кляштара Ярроў, стаў першым англійскім гісторыкам. Яго галоўная праца – *“Царкоўная гісторыя народа англаў”* у пяці кнігах. Беда імкнуўся перш за ўсё адлюстраваць гісторыю развіцця хрысціянскай царквы ў Англіі. Але ён надае шмат увагі і палітычнай гісторыі англасаксонскіх каралеўстваў.

Своеасаблівы гістарычны лёс лангабардаў і іх дзяржавы знайшлі адлюстраванне ў творы адзінага гісторыка лангабардаў *Паўла Дыякана* (каля 720 – 799). Успаміны аб подзвігах продкаў, народныя паданні, гісторыя родаў і генеалогія сем’яў, перасяленні плямён, заваяванне імі Італіі, размеркаванне зямель – складаюць асноўны змест гэтай каштоўнай крыніцы па гісторыі лангабардскага народа.

Адным з буйных гістарычных твораў каралінгскага перыяду з’яўляецца праца *Нітгарда* (каля 790—844 гг.) *“Чатыры кнігі гісторый”*. Праца Нітгарда гэта каштоўная крыніца па гісторыі тых трох гадоў, якія папярэднічалі Вердэнскаму дагавору 843 г. і паздзелу імперыі Карла Вялікага.

Гісторыя саксаў і першых каралёў саксонскай дынастыі адлюстравана ў творы *“Дзеянні саксаў” Відукінда Карвейскага* (каля 925 – каля 980). Значнасць гэтай крыніцы ў тым, што Відукінд змог найбольш удала адлюстраваць тую аб’ектыўную рэчаіснасць, сведкам якой быў сам.

Каштоўнай крыніцай па палітычнай гісторыі ранняга сярэдневякоўя з’яўляюцца біяграфіі манархаў, епіскапаў, і іншых буйных феадалаў (вядомы з IX ст.). Класічным узорам гэтага гісторыка-літаратурнага жанра выступае *“Жыццё Карла Вялікага” Эйнгарда* (каля 770—840 гг.). Ледзь толькі з’явіўшыся, гэты твор стаў узорам для пераймання. Ён ператварыўся ў канон, якім з рознай ступенню поспеху кіраваліся многія пісьменнікі сярэдневякоўя.

Біяграфія Людовіка Набожнага была напісана епіскапам Трырскай акругі *Цеганам* (пачатак IX – каля 863 г.). У працы *“Жыццё імператара Людовіка”* (напісана ў 837—838 гг.) Цеган дае характарыстыку Людовіка Набожнага (за перыяд з 818 па 835 г.), не хаваючы сваіх асобых адносін да некаторых учынкаў імператара.

Асоба і шматбаковая дзейнасць караля Альфрэда знайшлі адлюстраванне ў працы *“Жыццё Альфрэда, караля англасаксаў”*. Аўтарам гэтай біяграфіі, напісанай у 893 – 894 гг., быў сучаснік Альфрэда, яго біёграф епіскап Шэрборнскі Ассэр. Праца напісана на лацінскай мове і ахоплівае 855 – 887 гг. Асобая ўвага біёграфа сканцэнтравана на барацьбе караля з датчанамі. Ассэр усяляк усхваляе перамогі караля.

*Агіяграфічныя творы* (жыція рэальных і выдуманых людзей, якія прылічваліся царквой да ліку святых, апісанні іх падзвіжніцтва, бачанняў і цудаў) з’яўляюцца важнейшымі гістарычнымі крыніцамі ранняга сярэдневякоўя. Большасць з іх была створана ў перыяд хрысціянізацыі (у Галіі – гэта IV – VI ст., у Брытаніі і Германіі – VII – VIII ст.), ці ў перыяд буйных узрушэнняў унутры царквы (эпоха іканаборніцтва ў Візантыі – VIII – IX ст.). Агіёграфы, карыстаючыся трафарэтам, апавядалі пра легендарныя, выдуманыя падзеі. Але ў той жа час у жыціях змешчана шмат каштоўнай інфармацыі па гісторыі матэрыяльнай культуры і эканомікі, звесткі пра быт і норавы, вераванні той эпохі, даведкі пра гісторыю царквы і рост яе землеўладання. Побач з выдуманымі аўтары паведамлялі і пра зусім рэальных людзей, якіх яны ведалі асабіста, у тым ліку і пра буйных палітычных дзеячаў.

*Публіцыстыка* ў эпоху ранняга сярэдневякоўя яшчэ не вылучылася ў самастойны жанр, а прысутнічала ў гістарыяграфіі, пасланнях і асабліва трактатах, меўшых часта дыдактычны характар. Такім, напрыклад, з’яўляецца трактат *“Аб дварцовым і дзяржаўным кіраванні”* (канец IX ст.). Аўтарам гэтага твора, напісанага для караля Карла Праставатага, з’яўляецца рэймскі архіепіскап *Гінкмар*.

Трактат *“Аб кіраванні імперыяй”* (сярэдзіна X ст.) візантыйскі імператар Канстанцін VII адрасуе свайму сыну Раману з мэтай навучэння і настаўлення будучага імператара ў пытаннях міжнароднай і ўнутранай палітыкі. У трактаце ёсць каштоўныя звесткі не толькі па гісторыі самой Візантыі, але і аб краінах, сумежных з ёй.

Адзначаныя вышэй трактаты (настаўленні) з’яўляюцца каштоўным помнікам грамадска-палітычнай думкі. Яны ўтрымліваюць разам з тым важныя звесткі пра дзяржаўны лад, знешнюю палітыку, суседнія народы і г. д.

Да разраду непалітычных трактатаў можна аднесці *“Хрысціянскую тапаграфію”* (VI ст.) візантыйскага купца, адважнага мараплаўца *Касьмы Індыкаплова*. Ён маляўніча апісаў падарожжа ў Аравію, Усходнюю Афрыку, на Цэйлон, прадставіў карціну ажыўленага гандлю Візантыі з многімі “заморскімі” краінамі.

У пачатку IX ст. арлеанскі епіскап *Іона* напісаў трактат *“Устанаўленні для недухоўных”*. Мэта, якую ставіў аўтар, – прывіць франкскай знаці хрысціянскія нормы паводзін. Ананімны трактат XI ст. *“Абавязкі розных асоб”* з’яўляецца настаўленнем вотчыннікам у справах гаспадарання і адносінах з васаламі.

Важнейшы, іншым разам унікальны матэрыял па самых разнастайных праблемах, змяшчаюць агульныя і спецыяльныя энцыклапедыі ранняга сярэдневякоўя. Да іх належаць *“Этымалогіі”* у 20 кнігах Ісідора Севільскага. Гэта збор рэшткаў антычных ведаў.

**Крыніцы па гісторыі высокага сярэдневякоўя.** Перыяд X—XIII ст. характарызуецца значнымі пераменамі ў жыцці народаў Заходняй Еўропы, якія наклалі свой адбітак і на характар крыніц. Іх адразу значна пабольшала, з’явіліся новыя віды.

Асаблівую значнасць  для гэтага перыяду сярэдневякоўя мае дакументальны матэрыял. Ён дакладна адлюстроўвае складаную рэчаіснасць, фіксуе ўсе змены ў палітыцы ўрадаў, дэталёва асвятляе дзейнасць буйных палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, надзейны ў адносінах дат, імён і наогул фактычнага матэрыялу.

Прынята адрозніваць акты публічныя і прыватныя. Да ліку публічных актаў належаць граматы і дыпломы, якія выдаваліся імператарамі, каралямі, гарадскімі камунамі і сеньёрыямі,  вышэйшымі царкоўнымі асобамі: рымскімі папамі, патрыярхамі, епіскапамі.

Прыватнымі былі дакументы, якія складаліся натарыямі. Гэта былі людзі, якія мелі юрыдычную адукацыю, і асобы статус, што даваўся імператарамі, каралямі ці папамі. Натарыі складалі дакументы па спецыяльных узорах для кожнага роду актаў, такіх як купля-продаж уласнасці, даўгавыя абавязацельствы, здача ў арэнду, завяшанні, дарункі і г. д. Натарыяльныя акты разам з граматамі і іншымі дакументамі звычайна капіравалі і ўключалі ў картуляры (зборнікі дакументаў).

Важнымі крыніцамі з’уляюцца *зямельныя вопісы* і *кадастры* (перапісы насельніцтва, што плаціла падаткі). Складаліся яны выключна з фіскальнымі мэтамі. Найбольшую цікавасць сярод іх уяўляюць англійскія *“Кніга Страшнага суда”* (1086) – матэрыялы ўсеагульнага перапісу каралеўства, а таксама *“Соценныя світкі”* – вопісы зямельных уладанняў канца XIII ст. Першы з гэтых

дакумента¢ атрыма¢ сваю назву таму, што людзі прысягалі гаварыць чыно¢нікам караля чыстую пра¢ду як перад Богам на Страшным судзе.

Юрыдычныя крыніцы X – XIII ст. вылучаюцца вялікай разнастайнасцю. Гэта запісы звычаёвага і гарадскога права, хартыі прывілей, каралеўскія і імператарскія законы, пратаколы судовых устаноў рознага тыпу і г. д.

Першапачаткова юрыдычныя помнікі ўяўлялі сабой запіс нормаў звычаёвага права. Па меры развіцця феадальных адносін іх пачалі складаць спецыяльна падрыхтаваныя асобы, знаўцы права. Юрыдычныя помнікі ўтрымліваюць толькі прадпісанні аб дзеяннях у пэўных жыццёвых сітуацыях, але ў іх нічога не гаворыцца пра ход падзей, іх прычыны і наступствы. Гэтым яны адрозніваюцца ад крыніц іншага тыпу. Тым не менш у юрыдычных крыніцах ёсць багата матэрыялу для даследавання палітычнага, эканамічнага развіцця, сацыяльнай структуры і прававога становішча ўсіх слаёў сярэдневяковага грамадства.

У сувязі з развіццём гарадоў і наладжваннем гарадскога самакіравання ўзнікла неабходнасць у прававой рэгламентацыі ўнутрыгарадскога жыцця і адносін горада з феадальнымі сеньёрамі. На гэтай аснове паступова фарміруецца ўласна гарадское права. Яно знайшло адлюстраванне ў гарадскіх хартыях і статутах. Хартыі фактычна ўяўлялі сабой сапраўдныя дамовы паміж сеньёрамі (феадаламі ці каралём) і гараджанамі і вызначалі іх узаемаадносіны, правы і вольнасці гараджан. Аб’ём і характар гэтых правоў залежаў ад тыпу города.

Адной з самых ранніх гарадскіх хартый Францыі з’яўляецца хартыя, нададзеная Людовікам VI гораду Лорысу (першая палова XII ст.). Пазней яна была прынята за ¢зор амаль ва ўсіх гарадах каралеўскага дамена. Большая частка нармандскіх і частка аквітанскіх гарадоў жылі паводле хартыі Руана. *“Руанскія ўстанаўленні”* (паміж 1160 і 1170 гг.) былі падараваны Генрыхам II Плантагенетам і падрабязна фіксавалі права камуны. У другой палове XII і асабліва ў XIII ст. многія гарады Англіі атрымалі самакіраванне і прывілеі. Лондану хартыя была дадзена ў 1131, Норычу – у 1194, Йорку – у 1212 г. Большая частка хартый нямецкіх гарадоў складзена ў канцылярыях царкоўных феадалаў (хартыі Кёльна, Вормса, Трыра), многія хартыі дадзены ад імя імператараў, герцагаў, графаў (Фрэйбург). Адной з самых змястоўных і цікавых гарадскіх хартый Германіі з’яўляецца *Старажытнае (ці Першае) права Страсбурга* (1189 г.). Хартыі з эканамічнымі і палітычнымі прывілеямі даваліся італьянскім гарадам, у XI—XII ст. імператарамі Свяшчэннай Рымскай імперыі. Так Феррара атрымала хартыю ў 1055 г., Піза – у 1081 г. Статуты італьянскіх гарадоў нярэдка аб’ядноўваліся ў вялікія зводы, што ствараліся на працягу некалькіх вякоў, як, напрыклад, *“Кніга правоў Генуэзскай Рэспублікі”*.

Акрамя гарадскіх статутаў, ствараліся статуты цэхаў, гандлёвых карпарацый, універсітэтаў, манаскіх ордэнаў. Першым еўрапейскім цэхавым статутам можна лічыць візантыйскую *“Кнігу эпарха”*. Гэта зборнік пастаноў, якія тычыліся

гандлёва-рамесніцкіх карпарацый Канстанцінопаля. Складзены спачатку X ст., зборнік дае магчымасць пазнаёміцца з арганізацыяй канстанцінопальскага рамяства і гандлю, структурай рамесніцкіх і гандлёвых карпарацый, з правамі і абавязкамі рамеснікаў і купцоў. Аднак пастановы “Кнігі эпарха” — гэта пастановы імператарскага чыноўніка, які кіраваў сталіцаю, і заключалася ў дэталёвым дзяржаўным рэгуляванні і кантраляванні дзейнасці карпарацый рамеснікаў і гандляроў.

Іншы характар мелі цэхавыя статуты заходнееўрапейскіх гарадоў. Яны афармлялі стварэнне і функцыянаванне самакіруемай цэхавай абшчыны. Там падрабязна рэгламентаваліся якасці прадукцыі, цэны на яе, працягласць рабочага часу, колькасць падмайстраў, вучняў і г. д. Прыкладам такога цэхавага статута можа быць *“Кніга рамёстваў горада Парыжа”* (XIII ст.). Была яна складзена каля 1268 г. па загаду каралеўскага прэво ў Парыжы Эцьена Буало. “Кніга рамёстваў” змяшчае статуты 100 цэхаў. Кожны статут рэгулюе права ўступлення ў цэх, узаемаадносіны членаў цэха, куплю сыравіны, аб’ём і якасць прадукцыі і г. д. Арыгінал “Кнігі рамёстваў” згарэў у XVIII ст. Але копіі, што захаваліся да нашых дзён, блізкія да арыгіналу. У XIV – XV ст.ст. у Францыі з’явілася шмат цэхавых статутаў, якія сваім зместам вельмі набліжаныя да “Кнігі рамёстваў”. Захаваліся і дайшлі да нас шматлікія цэхавыя статуты (больш позніх рэдакцый XIV – XV ст.) нямецкіх гарадоў (Кёльна, Любека, Франкфурта і інш.). У большасці італьянскіх гарадоў цэхавыя статуты былі складзены ў XIII – XIV ст. Першы цэхавы статут Венецыі датуецца 1219 г., статуты фларэнційскіх цэхаў з’явіліся ў перыяд 1299 – 1385 гг., статут сіенскіх шэрснікаў – у 1298 г. і г. д.

З XIII ст. у краінах Заходняй Еўропы з’яўляюцца запісы феадальнага звычаёвага права, якое дзейнічала ў асобных абласцях ці правінцыях. Да іх належаць французскія *куцюмы*, нямецкія *зерцала*, іерусалімскія *асізы*. Гэтыя помнікі адлюстроўваюць спецыфічныя формы феадальнай зямельнай уласнасці, становішча асобных слаёў насельніцтва і іх узаемаадносіны, мясцовыя асаблівасці адміністрацыйнага кіравання і судаводства.

Сярод крыніц гэтай катэгорыі найбольш вядомыя *“Куцюмы Бавезі”* – запіс права Паўночна-Усходняй Францыі. Былі складзены каля 1280 г. юрыстам Бамануарам (каля 1250 – 1296 гг.). У іх сабраны звесткі аб прававым становішчы ўсіх слаёў насельніцтва і іх узаемаадносінах, падрабязна і сістэматызавана адлюстравана сацыяльная структура і права феадальнага грамадства. Бамануар апісаў права правінцыі, у якой асабістая залежнасць сялян была ў стадыі распаду. “Куцюмы Бавезі” маюць асаблівую каштоўнасць у сувязі з тым, што яны адлюстравалі становішча ў тым рэгіёне Францыі, дзе праз 80 гадоў успыхнула Жакерыя. У XIII – пачатку XIV ст. з’явіліся куцюмы Анжу, Турэні, Шампані, Брэтані і іншых абласцей Францыі. Некаторыя куцюмы, асабліва паўднёва-французкія, адчулі значны ўплыў рымскага права.

У Германіі запіс звычаёвага права ў асобыя судзебнікі пачаў ажыццяўляцца ў пачатку XIII ст. Выдатным помнікам гісторыі, права, грамадска-палітычнай думкі і культуры Германіі XIII ст. з’яўляецца *“Саксонскае зерцала”*, складзенае вядомым знаўцам права Эйке фон Рэпкавым (1180 – пасля 1233). “Саксонскае зерцала” – гэта запіс звычаёвага права Усходняй Саксоніі, што склалася на працягу вякоў з раздзяленнем права на леннае (толькі для асоб феадальнага саслоўя) і земскае (для невысакародных). Асаблівая ўвага ў “Саксонскім зерцале” надаецца пытанням феадальных зямельных адносін і зямельнай уласнасці. У ім змешчана падрабязная характарыстыка грамадскага ладу, саслоўяў і сацыяльных груп, адносін паміж феадаламі і сялянамі, а таксама сярод сялян і ў асяроддзі феадалаў. “Саксонскае зерцала” з’явілася ўзорам для складання новых прававых кніг у самых розных раёнах і гарадах Германіі і дзеянне яго прыцягвалася даволі доўга.

Найбольш раннім зводам звычаёвага права на тэрыторыі Іспаніі сталі *“Барселонскія звычаі”* (каля 1076 г.). Гэты звод адлюстроўвае сацыяльныя і ўласніцкія адносіны, характар графскай улады на каталонскіх землях, яго права ў галіне заканадаўства, суда, адміністрацыі, падрабязна апісваюцца васальныя сувязі, узаемныя абавязкі феадалаў, метады ўладжвання канфліктаў між імі; змяшчаюцца каштоўныя звесткі пра каталонскую вёску. Пасля аб’яднання Арагона і Кастыліі ў 1162 г. “Барселонскія звычаі” пачалі дзейнічаць і ў Арагоне, але з улікам мясцовых звычаяў.

Да ўказанай вышэй катэгорыі крыніц належаць *“Іерусалімскія асізы”*, у якіх засведчаны нормы феадальнага права, што прымяняліся ў галоўнай дзяржаве крыжаносцаў – Іерусалімскім каралеўстве. Яны падзяляюцца на *“Кнігу Асіз Вышэйшага суда”* і *“Кнігу Асіз Суда гараджан”*, якія ўяўляюць сабой запіс юрыдычных нормаў, што выкарыстоўваліся для разгляду судовых спрэчак паміж гараджанамі. У кожнай з дзяржаў крыжаносцаў існавалі свае “Асізы”, якія ствараліся па ўзоры і на аснове “Іерусалімскіх асізаў”. Побач з запісам звычаёвага і гарадскога права ў дзяржавах Заходняй Еўропы развіваецца і каралеўскае (імператарскае) заканадаўства. Каралеўскія законы (арданансы – у Францыі і Англіі) уяўляюць сабой важную крыніцу па гісторыі складвання цэнтралізаванай дзяржавы.

Імкненне да сістэматызацыі ведаў у розных галінах, гаспадарчага вопыту прывяло да павелічэння такога віду крыніц, як *трактаты*. Яны ствараліся амаль па ўсіх галінах навукі і грамадскага жыцця: тэалогіі, палітыцы, астраноміі, вайсковай справе, земляробстве і г. д. Агранамічныя і аграТэхнічныя веды даюць візантыйскія *“Геапонікі”* (сярэдзіна X ст.). Гэты трактат уяўляе сабой па сутнасці сельскагаспадарчую энцыклапедыю, у якой шмат што запазычана з твораў антычных аўтараў, але і нямала звестак, сучасных складанню кнігі. Трактат *“Сума тэалогіі”* зрабіў бесмяротным імя *Фамы Аквінскага* (XIII ст.) Ён выдатна

сістэматызаваў каталіцкае багаслоўе, выкарыстоўваючы аргументы як веры, так і розуму, навукі. Аднак гэты твор — не толькі важная крыніца па тэалогіі і філасофіі, там можна сустрэць, напрыклад, і сярэдневяковыя эканамічныя тэорыі. Па трактату англійскага абата *Некама "Аб начынні і прыладах працы"* (канец XII ст.) мы можам у дэталях вывучаць тагачасную сялянскую гаспадарку.

Апавядальныя матэрыялы складаюць значную частку крынічнай базы заходнееўрапейскага Высокага сярэдневякоа. Сярод іх найбольш важнымі з'яўляюцца аналы, хронікі, гісторыі, мемуары, дзённікі і г. д.

У феадальна раздробленай Еўропе X – XII ст. цэнтрамі летапісання па-ранейшаму былі манастыры і іншыя царкоўныя ўстановы. Але ў XII – XIII ст. на першы план усё больш выходзяць *хронікі*, складанне якіх пераходзіць ад манахаў да свецкіх асоб. У адрозненне ад аналаў у хроніках даецца больш звязнае і дэталёвае выкладанне падзей у храналагічнай паслядоўнасці, але з адступленнямі, устаўкамі, супастаўленнямі. Храністы валодалі больш шырокім кругаглядам, таму яны не проста рэгістравалі факты, але і імкнуліся даць ім уласную інтэрпрэтацыю. У хроніках найлепшым чынам выяўляецца асоба аўтара, яго інтарэсы, сімпатыі.

У хроніках даецца багаты матэрыял не толькі мясцовага, але і еўрапейскага масштабу. Развіццё гэтага тыпу крыніц ярка адлюстроўвае асноўныя этапы ў палітычным жыцці краін сярэдневяковай Заходняй Еўропы. У іх маюць месца звесткі пра міжусобныя разлады, працяглыя войны, паходы, пра рост гарадоў і іх палітычную ролю, пра сялянскія і гарадскія выступленні і г. д. Як гістарычныя крыніцы хронікі спазналі пэўную эвалюцыю. Першапачаткова ў іх было багата запісаў, характэрных для аналаў, але ў далейшым хронікі паступова ператвараюцца ў гістарычныя творы.

Вялікая колькасць хронік звязана з гісторыяй крыжовых паходаў. Сярод іх важнай па ахопу і дакладнасці асвятлення падзей 1095 – 1099 гг. з'яўляецца ананімная хроніка *"Дзеянні франкаў і іншых іерусалімцаў"* (складзена каля 1100 г.). Гэтая хроніка адна з немногіх хронік Першага крыжовага паходу. Яна дае больш ці менш выразнае ўяўленне пра бітвы, што адбываліся ў 1097 – 1099 гг. у Малой Азіі, Сірыі, Палесціне, размяшчэнні баяздольных атрадаў, тактыку крыжаносцаў і іх праціўнікаў. Ананім даволі дакладна малюе бытавыя дробязі рыцарства ў час паходу.

Наступная па гістарычнай значнасці хроніка – *"Іерусалімская гісторыя"* французскага клірука *Фульхерыя Шартрскага*. Яна змяшчае патрэбны і карысны фактычны матэрыял не толькі па гісторыі самога крыжовага паходу, але і па гісторыі крыжаносцаў на ¢сходзе. Гэты храніст даў адзінае ў сваім родзе апісанне Канстанцінопаля канца XI ст. Па багаццю і дакладнасці звестак самага разнастайнага характару праца Фульхерыя Шартрскага належыць да лепшых летапісаў Першага крыжовага паходу.

У адрозненні ад хронік Ананіма і Фульхерыя Шартрскага – найбольш

дасканалых крыніц па гісторыіі Першага крыжовага паходу, аўтары іншых летапісных твораў XII ст. звычайна выкарыстоўвалі вядомыя ўзоры, галоўным чынам хронікі адзначаных вышэй аўтараў. Да гэтай катэгорыі твораў кампілятыўнага характару належаць *“Дзеянні Бога праз франкаў”* (складзена ў 1108 – 1110 гг.). Аўтар гэтай хронікі — вядомы французскі пісьменнік і гісторык *Гвіберт Нажанскі* (1053 – 1124). Галоўная мэта, якую паставіў перад сабой храніст, паказаць на прыкладзе крыжовага паходу пастаяннае ўмяшанне боскай сілы ў людскія справы. Каштоўнасць гэтай хронікі заключаецца ў тым, што ў ёй даецца апісанне Клермонскага сабора і агульных абставін у Францыі напярэдадні Першага крыжовага паходу.

Некаторыя хронікі з’яўляюцца важнымі крыніцамі па гісторыі Чацвёртага крыжовага паходу. Аўтарам адной з іх – *“Заваяванне Канстанцінопаля”* быў знатны сеньёр, маршал Шампані *Жафруа Вілардуэн* (каля 1150 – 1213). У сваёй працы ён выкладае афіцыйную версію падзей. Аўтарам другой хронікі, таксама *“Заваяванне Канстанцінопаля”* (пачатак XIII ст.), быў просты ам’енскі рыцар *Робер дэ Клары* (каля 1170 – пасля 1216). У адрозненне ад Вілардуэна ён не ведаў закуліснага боку паходу, таму падзеі адлюстроўваў як радавы ўдзельнік паходу.

Пачынаючы з XIII ст., ствараюцца зводныя хронікі пра гісторыю краіны ў цэлым. Гэта перш за ўсё *Вялікія французскія хронікі* (канец XIII ст.), *Сент-Албанскія хронікі* ў Англіі (XIII – XV ст.), усеагульная іспанская хроніка, складзеная ў XIII ст. кастыльскім каралём Альфонсам X і працягнутая ў XIV ст. У Італіі хронікі ў асноўным асвятляюць гісторыю асобных краёў і гарадоў. *Вялікія міланскія аналы* (за 1154 – 1177 гг.), *Венецыянская хроніка* (складзеная ў IX – X ст., потым даведзеная да пачатку XIII ст.), *хроніка Сіцылійскага каралеўства* (першая палова XIII ст.).

Адным з найбольш вядомых аўтараў хронік Германіі XII ст. быў епіскап *Атон Фрэйзінгенскі* (1111 – 1158), якому належаць гістарычныя творы – *“Кніга пра дзве дзяржавы”* і *“Дзеянні імператара Фрыдрыха”.*

З другой паловы XIII ст. паяўляюцца гісторыка-мемуарныя творы. Напрыклад, *Жана дэ Жуанвіля*, маршала Шампані (канец XIII — пачатак XIV ст.)

Шмат крыніц захавалася па гісторыі царквы, як каталіцкай, так і правасла ¢най. Найбольшую кашто¢насць маюць пастановы царко¢ных сабора¢, якія прымаліся па асно¢ных пытаннях жыцця царквы, грамадства. Асаблівая ¢вага ¢ канонах сабора¢, на якія збіраліся вышэйшыя іерархі царквы, надавалася барацьбе з ерасямі. Неабходна за¢важыць, што рашэнні каталіцкіх сабора¢ (а сярод іх былі і Усяленскія саборы) не прызнаваліся правасла¢най царквою (за некаторымі выключэннямі), а каталікі ¢ сваю чаргу не прызнавалі пастано¢ сабора¢ правасла ¢нага духавенства. Усё большую ролю ¢ гэты час у Заходняй Е¢ропе пачалі адыгрьгваць распараджэнні рымскіх пап, якія імкнуліся надаць гэтым распараджэнням статус, вышэйшы за калектыўныя пастановы сабора¢. З

саборных канона¢, папскіх распараджэння¢ можна здабыць кашто¢ную інфармацыю аб структуры царквы, яе месцы і ролі ¢ грамадстве, маралі таго часу, адносіна¢ да іншаверца¢, паміж “светам каталіцкім” і “светам правасла¢ным”, па знешняй палітыцы і г. д. Сачыненні багаслова¢ уводзяць нас не толькі ¢ сферу тагачаснай тэалагічнай думкі, але і раскрываюць многае са света¢спрымання людзей сярэднявечча.

Менавіта светаўспрыманне яскрава адлюстро¢ваюць і тагачасныя творы літаратуры, мастацтва, фальклору. Рыцарская і гарадская літаратура асвятляе розныя бакі жыцця адпаведных слаёў арамадства. Фальклор з'я¢ляецца кашто¢най крыніцай для вывучэння ментальнасці “ма¢клівай большасці”, як рад гісторыка¢ назвалі асно¢ную масу насельніцтва, якая не належала да інтэлектуальнай і грамадскай эліты і мала заставіла ¢ласных слядо¢ у пісьмовых крыніцах.

**Крыніцы па гісторыі позняга сярэдневякоўя.** 3 апошняга перыяду сярэдневякоўя да нашых дзён захавалася непара¢нальна большая з дзвюма папярэднімі перыядамі колькасць першакрыніц розных тыпа¢. 1 справа не толькі ¢ тым, што ад іх стварэння прайшло менш часу, чым ад ранняга альбо Высокага сярэднявечча, але і ў тым, што саміх крыніц было створана значна больш. У познім сярэдневякоўі заходнее¢рапейская цывілізацыя імкліва выходзіць на лідзіруючыя ролі. Іншым становіцца тэмп жыцця заходнее¢рапейца¢, набірае моц прадпрымальніцтва, адбываюцца змены ¢ эканоміцы, сацыяльных адносінах, ментальнасці, культуры. Стваюцца і ўмацо¢ваюцца цэнтралізаваныя дзяржавы, феадальная іерархія, якая саступае месца грамадскай сувязі манарх – падданыя, сялянства вызваляецца ад уласнай залежнасці. У шэрагу дзяржа¢ з'я¢ляюцца сасло¢на-прадста¢ніцкія органы.

Для позняга сярэдневякоўя характэрна рэзкае ўзрастанне колькасці дакументальных першакрыніц, яны становяцца і больш разнастайнымі. Захавалася шмат дакументаў дзяржаўных органаў кіравання: пратаколы, афіцыйная перапіска, інструкцыі чыноўнікам, справаздачы і г. д. Яны асвятляюць розныя бакі жыцця тагачасных дзяржаў і грамадства: палітыку, дыпламатыю, структуру дзяржаў, становішча эканомікі, сацыяльныя адносіны і г. д. 3 гэтых крыніц можна атрымаць і даволі аб'ектыўную інфармацыю аб відных дзяржаўных дзеячах. У цэлым шмат якія даследчыкі лічаць дакументальны матэрыял самай надзейнай і аб’ектыўнай першакрыніцай. Ён амаль пазбаўлены ад суб'ектывізму, дакладна датуюцца, даў непасрэдную інфармацыю аб бягучых падзеях. У гэтых крыніцах утрымліваецца вялікая колькасць фактаў. Па сукупнасці фактаў можна прасачыць паслядоўнае развіццё тых ці іншых падзей, для іх нехарактэрна адарванасць або замоўванне адпаведных звестак аўтарамі гістарычных хронік.

Павялічылася колькасць натарыяльных актаў, сярод якіх значнае месца займалі дакументы, што афармлялі камерцыйныя здзелкі. У Італіі з’явіліся і гандлёвыя кнігі кампаній.

Стварэнне саслоўна-прадстаўніцкіх манархій выклікала і з'яўленне новых відаў крыніц. Гэта *парламентскія статуты і акты ў* Англіі (з XIII ст.), *пратаколы* паседжанняў французскіх Генеральных штатаў, *пастановы* картэсаў дзяржаў Пірэнейскага паўвострава (з XIII ст.) і г. д. Па-ранейшаму важнай крыніцай заставаліся і такія юрыдычныя крыніцы, як запісы гарадскога права, куцюмы, матэрыялы дзяржаўнага заканадаўства і судаводства.

Змены ў сацыяльна-эканамічных адносінах абумовілі з’яўленне так званага “рабочага заканадаўства” ў такіх краінах, як Англія, Італія, Францыя і інш. Яго нормы перш за ўсё рэгулявалі працягласць рабочага дня і заработную плату наёмных рабочых. Вельмі жорсткім было “рабочае заканадаўства” ў Англіі, якое прадстаўлена арданансам 1349 г. караля Эдуарда III і статутамі 1351, 1361, 1388 гг. Пад пагрозай турэмнага зняволення і вялікіх грашовых штрафаў усім людзям ад 12 да 60 гадоў, якія не мелі зямлі і іншых сродкаў для існавання, загадвалася наймацца на працу за заработную плату, памеры якой не дазвалялася перавышаць.

Шмат каштоўных звестак даюць заканадаўчыя акты манархаў. Неабходна назваць *Залатую булу,* якая была зацверджана імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Карлам IV Люксембургам у 1356 г. у якасці асноўнага канстітуцыйнага акта гэтай дзяржавы. Фактычна яна санкцыяніравала стварэнне сістэмы тарытарыяльных княстваў у Германіі. У Залатой буле былі зафіксаваны вялікія правы і прывеліі князёў, парадак выбараў імператара калегіяй 7 курфюрстваў. Сваю назву гэты дакумент атрымаў са залатой капсулы, у якую была ўкладзена залатая пячатка, прымацаваная да самога дакумента.

Аднак з XIV ст. назва *“була”* трывала замацавалася за найбольш важнымі *граматамі рымскіх пап.* Буламі гэтыя дакументы называліся таму, што да іх подвешвалася круглая пячатка (лат. – bulla – ярлык). Называліся булы па першых двух словах іх тэкстаў. Вырваныя з кантэксту булы гэтыя словы звычайна мала што гавораць аб змесце тэкста. Напрыклад, була папы Баніфацыя VIII “Unam sanctum” прысвечана абгрунтаванню вяршынства папскай улады над каралеўскай. Яна адыграла істотную ролю ў канфлікце папы з магутным французскім каралём Філіпам IV.

Для вьвучэння гісторыі так званага “вялікага раскола” ў каталіцкай царкве вялікую каштоўнасць маюць *дакументы сабораў* каталіцкай царквы. У дакументах аднаго з іх (Канстанцкага) ёсць і звесткі аб вучэнні, дзейнасці і абвінавачваннях Яна Гуса, Джона Вікліфа.

У познім сярэдневякоцци працягвалася складанне хронік. Праўда, іх каштоўнасць для гэтага перыяду ўжо не такая значная, як для папярэдніх за кошт – перш за ўсё, вялікай колькасці дакументальных матэрыялаў. Тыповымі з’яўляюцца так званыя “каралеўскія хронікі”. Яны пісаліся на працягу дзесяцігоддзяў і стагоддзяў аўтарамі (якія змянялі адзін другога), набліжанымі да каралёў, і там выкладаўся афіцыйны пункт гледжання на гісторыю дзяржавы.

Свае хронікі ствараліся і ў італьянскіх гарадах-дзяржавах: З іх найбольш вядома *“Гісторыя Фпарэнцыі” Леанарда Бруні* (XIV ст.).

Хронікі і іншыя гістарычныя сачыненні маюць выключна важнае значэнне для вывучэння познесярэдневяковай Візантыіі. На жаль, турэцкае заваяванне прывяло да знішчэння значнай колькасці дакументальных крыніц па гісторыіі Візантыі. У XV ст. афінянін *Лаонік Халкакондзіл* у сваёй *“Гісторыі”* апісаў гісторыю Візантыі і многіх іншых краін і народаў. Ён стварыў шмат гістарычных партрэтаў выдатных асоб. Гэты аўтар не лічыў пагібель Візантыі непапраўнай катастрофай, палымяна верыў у адраджэнне элінскай дзяржавы і культуры. Куды больш песімістычным быў яго сучаснік *Георгій Сфрандзі.* Яго *“Хроніка”* надзвычай цікавая тым, што напісана сведкамі штурму і ўзяцця туркамі Канстанцінопаля ў 1453 г. Сфрандзі знаходзіўся каля імператара, бачыў яго пагібель, а сам папаў у турэцкі палон. Яго “Хроніка” – гэта больш іемуарны твор, а гэты жанр быў шырока распаўсюджаны ў Еўропе позняга сярэднявечча. З іншых гісторыка-мемуарных сачыненняў асабістую цікавасць выклікае твор радцы караля Францыі Людовіка XI *Філіпа дэ Каміна* (канец XV ст.).

У асабістую і вельмі каштоўную групу крыніц па заходнееўрапейскім познім сярэдневякоўі можна ўключыць творы гуманістаў, дзеячаў Адраджэння. Іх творы з’яўляюцца не толькі крыніцамі па гісторыі духоўнай культуры таго часу, феномена Адраджэння і гуманізму. Гуманісты распрацавалі і новыя погляды на гістарычны працэс, гісторыю як навуку. У рэшце рэшт ім мы абавязаны з’яўленнем тэрміна “сярэднія вякі”. Гісторыя ў гуманістаў набыла яскравы антрапалагічны, нават антрапацэнтрычны змест – у цэнтры яе чалавек, прычым чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, а не пасіўны выканаўца Божай волі. Не падвяргаючы сумненню асновы хрысціянскай веры і царквы, гуманісты тым не менш адышлі ад правідэнцыяльнага поаляду на гісторыю. Гістарычныя падзеі яны разглядалі з рацыяналістычных пазіцый, выкарыстоўвалі крытычны аналіз першакрыніц. На іх гістарычныя творы, напрыклад на “Гісторыю Фларэнцыі” Леанарда Бруні, наклалі моцны адбітак сачыненні антычных гісторыкаў. Для гуманістаў характэрны уяўленні аб развіцці ў гісторыі, аб зменлівасці грамадскіх з’яў і маральных каштоўнасцей, аб заканамернасці гэтых змен.

Вядома, нават агульная характарыстыка асноўных тыпаў і відаў першакрыніц па гісторыі сярэдневякоўя заняла б не адзін тоўсты фаліянт. Час адкрывае для нас усё новыя і новыя крыніцы, больш канкрэтнымі становяцца метады іх аналізу. Гісторык адрозніваецца ад усіх тых людзей, якія любяць разважаць аб гісторыі, тым, што ў сваіх выніках строга абапіраецца на матэрыялы першакрыніц. У сваёй практычнай рабоце медыявіст рэдка абмяжоўваецца якім-небудзь адным відам або тыпам першакрыніц. Для працы над першакрыніцамі медыявіст павінен валодаць ведамі і ўменнямі, якія даюць многія дапаможныя гістарычныя дысцыпліны: археалогія, этнаграфія, палеаграфія, сфрагістыка, нумізматыка і інш.

## § 3. Медыявістыка як гістарычная навука

**Медыявістыка новага часу.** Тэрмін “медыявістыка” паходзіць ад лацінскіх слоў “medius” (сярэдні) і “aevum” (век, эпоха). Так называецца галіна гістарычнай навукі, якая вывучае гісторыю сярэднявечча, пераважна Еўропы.

Гісторыя краін Заходняй Еўропы пасля падзення Заходняй Рымскай імперыі пачала вывучацца яшчэ ў часы самога сярэднявечча. Для нас жа працы сярэдневяковых гісторыкаў ужо самі з'яўляюцца гістарычнымі крыніцамі. Аб галоўных з іх гаварылася, а больш канкрэтны аналіз іх будзе праводзіцца ў наступных параграфах. Зараз спынімся толькі на агульнай характарыстыцы сярэдневяковай гістарычнай навукі. У той час у Еўропе панаваў хрысціянскі погляд на гісторыю. Хрысціянства адвергла антычнае ўяўленне аб цыклічным развіцці гісторыі чалавецтва з яго ідэяй паступовай змены эпох (вякоў) ад ідэальнага (“залатога”) веку да больш недасканалых з надзеяй на зварот да мінулага “залатога веку”. Хрысціянскае вучэнне сцвярджала прагрэсіўнасць развіцця гістарычнага працэсу. Гісторыя чалавецтва ўяўлялася як правідэнцыяльна вызначаны Богам працэс выратавання людзей. Кульмінацыяй гісторыі выступала дзейнасць і ахвярная смерць за людзей Ісуса Хрыста. У адрозненне ад хрысціянскіх антычных гісторыкаў сярэдневяковыя гісторыкі шмат увагі надавалі асвятленню трыумфу хрысціянства сярод розных народаў. Адсюль выцякалі і такія адметныя рысы сярэдневяковай гістарычнай навукі, як імкненне ахапіць увесь час зямной гісторыі, уключыць у гістарычны працэс усе краіны і народы, дзе было распаўсюджана (ці павінна было распаўсюдзіцца) хрысціянства. Таму, напрыклад, хронікі ці “гісторыі” тагачасных аўтараў звычайна пачыналіся ад стварэння свету і заканчваліся эмацыянальным апісаннем будучага Страшнага суда. Разам з такімі маштабнымі творамі, асабліва ў познім сярэднявеччы ствараліся і хронікі альбо “гісторыі”, прысвечаныя асобным буйным падзеям, гісторыі асобных гарадоў, асвятленню параўнальна невялікіх гістарычных перыядаў.

Італьянскія гуманісты XV–XVI ст., якім належыць вынаходніцтва тэрміну “сярэднія вякі”, упершыню выдзелілі гісторыю сярэдніх вякоў у асобны перыяд. Як на характэрныя рысы гэтага перыяду яны звярнулі ўвагу на сістэму феодаў, палітычную раздробленасць. Гуманісты паклалі пачатак навуковай крытыцы сярэдневяковых першакрыніц.

Гісторыкі эпохі Асветніцтва з іх рацыяналістычным падыходам да гістарычнага працэсу ў сваёй большасці негатыўна адносіліся да сярэднявечча, лічылі яго перыядам заняпаду. Аднак імкненне адкрыць агульныя законы развіцця чалавецтва прыводзіла іх да неабходнасці пільнага вывучэння сярэдневяковай гісторыі. Менавіта гісторыкі-асветнікі ўвялі ў навуку паняцце “феадалізм” як

азначэнне грамадскага ладу, які панаваў у сярэдневяковай Еўропе. Дзякуючы іх намаганням медыявістыка ў XVIII ст. становіцца асобнай гістарычнай дысцыплінай. У пэўнай ступені рэакцыяй на ідэі гісторыкаў-асветнікаў было ўзнікненне ў медыявістыцы на рубяжы XVIII–XIX стст. рамантычнай плыні, прадстаўнікі якой (Ю. Мёзэр, Ж. дэ Мэстр, Э. Бёрк і інш.) ідэалізавалі сярэднявечча, супроцістаўлялі рацыяналізму правідэнцыялізм.

Значным крокам наперад у развіцці медыявістыкі былі працы вучоных першай паловы XIX ст.: французаў Ф. Гізо, А. Цьяры, Ж. Мішле, англічаніна Т. Карлайла, немца В. Цымермана. Гісторыкі гэтага часу вывучалі ў асноўным палітычныя падзеі, юрыдычныя нормы, дзейнасць выдатных асоб. Аднак ужо Ф. Гізо перанёс акцэнт з чыста палітычнай гісторыі на сацыяльна-эканамічныя структуры, даў азначэнне феадалізму як іерархічнай сістэмы асабістых сувязей, падкрэсліваў умоўны характар зямельнай уласнасці, злучэнне яе з вярхоўнай уладай. Дарэчы французскія гісторыкі таго часу прыйшлі да высновы аб падзеле грамадства на класы і аб барацьбе гэтых груп людзей паміж сабою.

XIX ст. было стагоддзем "палявання за першакрыніцамі", калі ў навуковы абарот уключалі ўсе новыя і новыя першакрыніцы. Выдадзеныя ў той час фундаментальныя зборнікі сярэдневяковых дакументаў і ў наш час з'яўляюцца істотнай крыніцазнаўчай базай для медыявістаў, напрыклад Monumenta Germaniae Historica, Scriptores rerum Britannicorum medii aevi і інш.

У 30–40-я гады XIX ст. медыявістыка як навука склалася ў Расіі. Ля вытокаў яе стаяў выдатны вучоны Ц. М. Граноўскі, які быў прыхільнікам поглядаў Ф. Гізо, але надаваў больш увагі сацыяльнай праблематыцы. Палітычныя падзеі заходнееўрапейскага сярэднявечча даследавалі П. М. Кудраўцаў, С. В. Яшэўскі, У. І. Гер'е, М. А. Асокін і іншыя. Сацыяльна-эканамічныя праблемы вывучалі І. В. Лучыцкі, М. І. Карэеў, М. М. Кавалеўскі, П. Г. Вінаградаў. Пераважна праблемамі культуры займаліся М. С. Карэлін, В. А. Добіаш-Раждзественская, Л. П. Карсавін.

Наогул для медыявістыкі XIX ст. характэрна існаванне нацыянальных навуковых школ, якія трактавалі праблемы сярэдневяковай гісторыі часта ў залежнасці ад сваіх нацыянальных прыхільнасцяў. Так, нямецкія вучоныя І. Г. Дройзен, Г. фон Зібель, Г. фон Белаў бачылі ў германскіх плямёнах заснавальнікаў заходнееўрапейскай цывілізацыі. Насуперак ім французскія вучоныя (К. Левасёр і інш.) падкрэслівалі карані рымскіх традыцый у фарміраванні сярэдневяковага еўрапейскага грамадства.

У Беларусі да XX ст. не склалася свая нацыянальная навуковая школа медыявістыкі. Адной з прычын таму была адсутнасць адпаведнага навуковага цэнтра. Медыявістыка існавала, галоўным чынам, як частка вучэбнага курса ўсеагульнай гісторыі. У такім выглядзе яна выкладалася з XVIII ст. у сярэдніх навучальных установах. Вывучалася яна і ў нядоўга праіснаваўшай (з 1813 па

1820 г.) Полацкай езуіцкай акадэміі з правамі універсітэта.

На высокім узроўні выкладалася гісторыя сярэдніх вякоў у Віленскім універсітэце, дзе ў канцы XVIII ст. была створана кафедра ўсеагульнай гісторыі. Лекцыі чыталі Т. Гусажэўскі, І. Лялевель, І. Анацэвіч, прычым Т. Гусажэўскі ўключыў у свой курс не толькі гісторыю Еўропы, але і гісторыю краін Усходу. Сярод выпускнікоў універсітэта (зачыненага ў 1832 г.) быў і вядомы беларускі арыенталіст В. М. Кавалеўскі, які напісаў шмат прац па гісторыі сярэдневяковай Манголіі.

Некалькі разоў перавыдавалася праца ўраджэнца Беларусі Ф. Папроцкага "Еўропа са старажытнейшых часоў" (першае выданне – у 1756 г.). Сістэмнасцю выкладання вылучаліся падручнік для школ і "Нарыс усеагульнай гісторыі", створаныя ў сярэдзіне XIX ст. выкладчыкам Віленскага шляхецкага інстытута А. Здановічам, ураджэнцам Міншчыны. Належнае месца ў гэтых падручніках займала гісторыя сярэднявечча. І ўсё ж трэба адзначыць, што калі беларускія вучоныя XIX ст. дасягнулі значных поспехаў у галінах антыказнаўства, арыенталістыкі, то спецыяльных даследаванняў па праблемах медыявістыкі яны не вялі.

Асноўнымі кірункамі ў медыявістыцы другой паловы XIX ст. былі палітычны, гісторыка-прававы і пазітывісцкі.

Першы з гэтых кірункау найбольшы ўплыў меў у Германіі і ў трэцяй чвэрці стагоддзя ў Расіі. Яго прыхільнікі сканцэнтраваліся на вывучэнні палітычнай гісторыі сярэднявечча, якую ўяўлялі як вынік дзейнасці буйных гістарычных асоб. Большасць з іх не імкнулася да пошукаў заканамернасцей гістарычнага працэсу, а скрупулёзна даследавала сукупнасць асобных гістарычных падзей. Тыповай працай гісторыкаў гэтага накірунку было 12-томнае выданне Ф. Дана "Каралі германцаў". Гэта надзвычай падрабязнае даследаванне гісторыі развіцця каралеўскай улады ў германскіх народаў ад II ст. да сярэдзіны I тыс. Даследчык выкарыстаў велізарную колькасць першакрыніц. Гісторыю ўзнікнення дзяржавы ў германцаў Ф. Дан разглядаў хутчэй як вынік самаразвіцця ўлады племянных правадыроў, надаючы мала ўвагі сацыяльна-эканамічным фактарам. Другі з выдатных медыявістаў гэтага кірунку Г. фон Зібель аб'ектыўную заканамернасць развіцця гістарычнага працэсу бачыў у існаванні "маральнага закону", які ён выводзіў з "чалавечай прыроды". У працы "Узнікненне нямецкага каралеўства" Г. фон Зібель выступіў супраць ідэалізацыі старажытнай гісторыі германцаў, лічачы, што гэта толькі наносіць шкоду аб'ектыўнаму вывучэнню гісторыі.

Гісторыя дзяржавы і права былі асноўным аб’ектам даследаванняў медыявістаў гісторыка-прававога напрамку (Л. Маўрэр, У. Стэбс, Г. Мэйн і інш.). Развіццё дзяржавы і права яны лічылі вызначальным фактарам гістарычнага працэсу. Аднак гісторыю гэтых інстытутаў яны даследавалі на шырокім фоне сацыяльнага і эканамічнага жыцця сярэдневяковага грамадства.

Пазітывісцкі кірунак, які ўзнік у сярэдзіне XIX ст., набыў найбольшую папулярнасць сярод медыявістаў розных краін Еўропы (у тым ліку і Расіі) і ЗША ў канцы XIX – пачатку XX ст. Гісторыкі-пазітывісты разглядалі гістарычны працэс як вынік роўнага ўздзеяння розных фактараў: эканамічнага, палітычнага, ідэйнага, псіхалагічнага, біялагічнага і г. д. Прычым яны не надавалі прыярытэту якому-небудзь аднаму з гэтых фактараў (адсюль іх метадалогію іншы раз характарызуюць як “тэорыю раўнапраўных фактараў”). Найбольш вядомымі з медыявістаў-пазітывістаў былі Ф. дэ Куланж, І. Тэн, Г. Мано, у Расіі – М. М. Кавалеўскі. Выдатны французскі даследчык Фюстэль дэ Куланж рашуча выступаў за аб’ектыўнасць гістарычных даследаванняў, апору чаму ён бачыў у скрупулёзным і дакладным аналізе тэкстаў пісьмовых першакрыніц. Ён заклікаў давяраць толькі матэрыялу першакрыніц ва ўсёй іх шматграннасці, а не “выбіраць” з іх толькі той матэрыял, які адпавядае папярэдне зададзенай канцэпцыі гісторыка. Таму Ф. дэ Куланж рэзка асуджаў шэраг сучасных яму медыявістаў за іх палітычныя і нацыянальныя прыхільнасці. Дарэчы, ён зыходзіў з існавання класаў у сярэдневяковым грамадстве. Адвяргаў рашаючую ролю класавай барацьбы ў гісторыі расійскі вучоны М. М. Кавалеўскі. Аднак яго даследаванні па эвалюцыі абшчыны атрымалі высокую ацэнку аднаго з заснавальнікаў марксізму Ф. Энгельса. Сялянская абшчына і была галоўным аб'ектам даследаванняў М. М. Кавалеўскага, які для яе вывучэння выкарыстаў фактычны матэрыял не толькі па еўрапейскім сярэднявеччы, а і па цывілізацыях Азіі і нават Амерыкі.

Марксізм, які ўзнік у Германіі ў XIX ст., трактаваў сярэднявечча як час панавання феадалізму. Рухаючай сілай гісторыі, яе “лакаматывам” К. Маркс і Ф. Энгельс лічылі класавую барацьбу, якая, у рэшце рэшт, павінна прывесці чалавецтва да дыктатуры пралетарыяту. К. Маркс і Ф. Энгельс выдалі шэраг сваіх прац па праблемах медыявістыкі: “Старажытная Ірландыя”, “Франкскі перыяд”, “Аб разлажэнні феадалізму і развіцці нацыянальных дзяржаў” і інш. Пытанні сярэдневяковай гісторыі разглядаліся і ў многіх іх асноватворных работах, такіх як “Маніфест Камуністычнай партыі”, “Капітал”, “Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы” і г. д.

Заснавальнікі марксізму зыходзілі з таго, што феадальнае сярэдневяковае грамадства было антаганістычным, у ім існавалі клас феадалаў і клас прыгонных сялян, якія былі “непасрэднымі вытворцамі”. Асновай феадалізму яны лічылі панаванне феадальнай зямельнай уласнасці. Вытворчыя адносіны феадалізму характарызаваліся наяўнасцю панавання буйной зямельнай уласнасці разам з дробнай гаспадаркай надзеленых зямлёй сялян, якія валодалі сродкамі вытворчасці. Менавіта на адносінах уласнасці здзяйснялася эксплуатацыя феадаламі сялян. Асноўнай формай феадальнай эксплуатацыі была феадальная рэнта. Такім чынам, К. Маркс і Ф. Энгельс сфармулявалі больш шырокае

разуменне феадалізму, зрабіўшы акцэнт на сацыяльна-эканамічных адносінах паміж феадаламі і сялянамі. У прынцыпе яны найбольш яскрава завастрылі агульную тэндэнцыю ў медыявістыцы XIX ст. – узрастаючую цікавасць да эканамічнага жыцця сярэдневяковага грамадства, што адчувальна праяўлялася ў працах многіх гісторыкаў-пазітывістаў. Але ў адрозненне ад апошніх (тым больш ад навукоўцаў іншых накірункаў) К. Маркс і Ф. Энгельс аддалі безумоўны прыярытэт у вызначэнні сутнасці сярэдневяковага грамадства яго сацыяльна-эканамічнай сферы жыцця. Яны не адмаўлялі ролю палітычных і прававых інстытутаў гэтага грамадства, але лічылі, што яны паходзяць з сацыяльна-эканамічнага боку жыцця. Напрыклад, Ф. Энгельс падрабязна даследаваў эвалюцыю феадальнай умоўнай уласнасці на зямлю (бенефіцый – феод), але ж лічыў гэтую ўласнасць не сутнасцю феадалізму, а толькі прававой формай сацыяльна-эканамічных адносін. Асабістыя адносіны панавання – падпарадкавання ў сярэднявеччы К. Маркс называў “характэрнымі маскамі”, у якіх праяўляліся “грамадскія адносіны асоб у іх працы”. Пераход ад антычнасці да сярэднявечча класікі марксізму разглядалі як сацыяльную рэвалюцыю – крызіс рабаўладальніцкага ладу вытворчасці і ўсталяванне ладу феадальнага. Прычым, яны былі далёкімі ад вульгарнага разумення гэтай рэвалюцыі, паказваючы як у нетрах антычнага грамадства зараджаліся правобразы феадальных адносін, як гэтыя адносіны пастунова складваліся ў германцаў. Праблеме найвышэйшай праявы класавай барацьбы ў сярэднявеччы – узброеным паўстанням сялян К. Маркс і Ф. Энгельс не надавалі шмат увагі, бадай што, яскравым выключэннем была тут цікавасць Ф. Энгельса да сялянскай вайны ў Германіі, што адбывалася, праўда, ужо спачатку XVI ст.

**Медыявістыка ў XX стагоддзі.** Марксісцкае разуменне гісторыі стала пануючым у СССР, а потым і ў краінах так званага “сацыялістычнага лагера”. Марксізм быў догмай для гісторыкаў, любыя адхіленні ад яе жорстка спыняліся, а то і караліся. У працах гісторыкаў-медыявістаў абавязковымі былі цытаты з прац К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна (які не напісаў ні адной працы па медыявістыцы) і у пэўны час – І. В. Сталіна. Спасылкі на класікаў для абгрунтавання тых ці іншых палажэнняў гісторыка мелі пераважнае значэнне нават над матэрыялам першакрыніц. Зразумела, аб аб’ектыўнасці вывучэння гісторыі гаварыць было цяжка, яе “сапраўды навуковае” разуменне змяшчалася ў працах класікаў. Тым не менш, гісторыкі-марксісты ўнеслі свой істотны ўклад у вывучэнне сярэднявечча, галоўным чынам, у тую праблематыку, даследаванне якой не парушала рамак марксісцкай канцэпцыі, але было істотным для ўсёй сусветнай медыявістыкі. Перш за ўсё, гэта былі пытанні сацыяльна-эканамічнага жыцця сярэднявечча, а таксама яго культуры. Істотны ўклад у даследаванне гісторыі сярэдніх вякоў Заходняй Еўропы і Візантыі ўнеслі савецкія вучоныя М. П. Грацыянскі, Я. А. Касмінскі, А. І. Неусыхін, С. Д. Сказкін, З. У. Удальцова, В.

У. Штокмар, А. Р. Корсунскі, Г. Л. Курбатаў, М. А. Гукоўскі і інш. Перавага сацыяльна-эканамічнай праблематыкі дыктавалася марксісцкім вучэннем аб грамадска-эканамічнай фармацыі, аснову якой складаў “базіс” (эканоміка), а ўсе астатнія бакі жыцця грамадства – гэта толькі “надбудова”. Эканоміка выступала галоўным фактарам развіцця грамадства.

Трэба адзначыць, што нягледзячы на татальны ідэалагічны кантроль, у савецкай медыявістыцы ішла сур’ёзная барацьба з вульгарызатарскімі канцэпцыямі, накшталт “рэвалюцыі рабоў і калонаў” пры пераходзе ад антычнасці да сярэдневякоўя. Такая “канцэпцыя” паявілася па прамой указцы І. В. Сталіна і лагічна патрабавалася для дакладна сфармуляванай У. І. Леніным тэорыі грамадска-эканамічных фармацый, якія паслядоўна змяняюць адна другую (першабытнаабшчынная, рабаўладальніцкая, феадальная, капіталістычная, камуністычная, якая павінна была стаць апошняй для чалавецтва). Палажэнне К. Маркса і Ф. Энгельса аб сацыяльнай рэвалюцыі было прымітыўна зведзена да “вышэйшай формы барацьбы прыгнечаных мас”. Шмат спатрэбілася прымусовых высілак савецкіх гісторыкаў, каб “адшукаць” тое, чаго не існавала. Што толькі не выдавалі за “паўстанні рабоў і калонаў”, а то і проста прыдумвалі, каб у рэшце рэшт адмовіцца аб бессэнсоўнай і марнай задумы. Асноўныя намаганні гісторыкаў канцэнтраваліся вакол “галоўнага стрыжня гісторыі” – класавай барацьбы. Вывучэнню паўстанняў сялян, гараджан надавалася асаблівая ўвага, іх апісаннямі былі перанасычаны падручнікі. Але ўжо тады, нават з пункту гледжання марксісцкай тэорыі, гэта здавалася марным: які сэнс быў у гэтых паўстаннях, калі сяляне не маглі перамагчы, бо не былі рэвалюцыйным пралетарыятам на чале з яго партыяй? Ды і не сяляне прывялі да ўсталявання капіталістычнага грамадства. Праўда, ігнараваўся феномен шэрагу сялянскіх паўстанняў у Азіі, дзе паўстанцы перамагалі і стваралі свае дзяржавы на прынцыпах сацыяльнай роўнасці. Але гэтыя дакучлівыя з’явы ніяк не ўпісваліся ў марксісцкую схему. Часам узнікалі дзіўныя дыскусіі, накшталт “разгойдвалі ці ўмацоўвалі сялянскія войны феадальны лад”.

Адметнасцю савецкай медыявістыкі, як і іншых галін сусветнай гісторыі (у адрозненне ад айчыннай гісторыі) было тое, што вучоныя працавалі з замежнымі крыніцамі, замежнай даследчыцкай літаратурай. Нягледзячы на патрабаванне крытыкі работ немарксісцкіх гісторыкаў, савецкія медыявісты паступова пераконваліся ў аднабаковасці “адзіна навуковай метадалогіі”, усведамлялі яе хібы. І яшчэ ў так званыя “застойныя часы” з’явіліся работы савецкіх медыявістаў, якія ўражвалі сваёй глыбінёй і нязвыкласцю і былі далёкімі ад марксісцкай метадалогіі, як, напрыклад, працы А.Я. Гурэвіча па сярэдневяковай ментальнасці, М.А. Барга па сярэднявечных уяўленнях на гістарычны працэс.

Палітычныя падзеі ў СССР канца 80 – пачатку 90-х гадоў паклалі канец дыктату марксісцкага погляду на гісторыю. Новая сітуацыя не заспела знянацку

большасць медыявістаў, новыя метадалагічныя падыходы не былі для іх нечаканасцю, бо яны былі добра знаёмы з працамі сваіх замежных калег. Для медыявістаў краін, якія ўтварыліся пасля распаду СССР і "сацыялістычнага лагера" наступіў час шырокага выкарыстання новых метадалагічных падыходаў: цывілізацыйнага, аксіялагічнага (які зыходзіць з сістэмы каштоўнасцей, што складваюцца ў асобнага чалавека, грамадскіх груп і ў грамадствах); антрапалагічнага (у цэнтры якога знаходзіцца чалавек у розных праявах яго жыцця і дзейнасці); культуралагічнага (галоўным аб'ектам якога з'яўляецца гісторыя культуры як квінтэсенцыі розных сфер жыццядзейнасці чалавецтва) і інш. Адкрыліся магчымасці значна пашырыць праблематыку даследаванняў, аб'ектыўна падысці і да многіх традыцыйных для былой савецкай навукі праблем.

Між тым заходняя "буржуазная" медыявістыка ў XX ст. на "стадыі імперыялізму" (як пазначаў У. І. Ленін "апошнюю загніваючую стадыю капіталізму") на самой справе не перажывала крызіс, як сцвярджалі марксісцкія ідэолагі і паслухмяныя (а ў большасці вымушаныя слухацца) савецкія гісторыкі. Вядома, хапала там і хібаў, напрыклад, пэўная папулярнасць у 20–30-я гады мадэрнізатарскай канцэпцыі А. Допша. Гэты вучоны адмаўляў натуральны характар гаспадаркі ў раннім сярэднявеччы, сцвярджаў, што ў той час выкарыстоўвалася наёмная праца, былі распаўсюджаны таварна-грашовыя адносіны. Толькі адзін яго тэрмін "вотчынны капіталізм" ужо можа ахарактарызаваць канцэпцыю А. Допша. Яго погляды падвергліся справядлівай крытыцы, у тым ліку і савецкімі вучонымі.

На якасна новы ўзровень канцэптуальнага асэнсавання сярэднявечча медыявістыку вывелі французскія вучоныя Марк Блок і Люсьен Фэўр, якія ў 1929 г. пачалі выдаваць часопіс "Аналы". Іх погляды атрымалі шырокае прызнанне сярод медыявістаў, і вакол часопіса склалася "школа "Аналаў"", як часцей за ўсё называюць гэты навуковы накірунак, хоць яго прыхільнікі аддаюць перавагу ўласнай назве – "новая гістарычная навука". М. Блок і Л. Фэўр адышлі ад апісання гістарычных падзей па матэрыялах першакрыніц і звярнуліся да прынцыпа працы гісторыка "гісторыя – праблема". На першы план высоўвалася не падпарадкаванасць таму шматграннаму матэрыялу, які даюць крыніцы, а пастаноўка праблемы гісторыкам. Гэтая праблема з'яўляецца актуальнай менавіта для сучаснасці, і, выбраўшы яе, гісторык потым адбірае неабходныя крыніцы, якія могуць утрымліваць патрэбную інфармацыю па праблеме. Такім чынам праблемы сярэдневяковай гісторыі вызначаюцца нашай сучаснасцю, а не мінулым. За гэта, праўда, "школу "Аналаў"" крытыкуюць вучоныя іншых накірункаў, абвінавачваючы яе ў неналежнай ўвазе да тэкстаў пісьмовых крыніц і ў аддаванні перавагі іншым групам гістарычных крыніц. Вызначальнымі рысамі сярэдневяковага грамадства М. Блок лічыў сістэму пазямельных адносін (паміж феадаламі і сялянамі, паміж сеньёрамі і васаламі) і сістэму асабістых адносін

панавання – падпарадкавання (феадалы–сяляне, сеньёры–васалы). Гэты погляд ў працы “Цывілізацыя сярэдневяковага Захаду” лаканічна і трапна сфармуляваў адзін з яго выдатных паслядоўнікаў Жак Ле Гоф: феадалізм – гэта пазямельныя адносіны, феадалізм – гэта адносіны панавання – падпарадкавання. І ніякіх груваcткіх спекулятыўных пабудаванняў з “базісам” і “надбудовай”, безвыніковай класавай барацьбой і г.д.

Прадстаўнікі “школы “Аналаў”” максімальна пашырылі праблематыку медыявістыкі, яны вывучаюць праблемы, пастаноўка якіх раней здавалася неверагоднай, напрыклад мысленне, светаўспрыманне сярэдневяковага чалавека, успрыманне цудаў людзьмі сярэднявечча, іх разуменне сацыяльнай структуры, маргінальныя групы насельніцтва и г.д.

Але, бадай, самае галоўнае ў метадалогіі гісторыкаў “школы “Аналаў””, гэта тое, што ўжо М. Блок і Л. Фэўр лічылі гісторыю навукай аб чалавеку. Яны і іх паслядоўнікі шмат увагі надавалі вывучэнню ментальнасцей, сацыяльнай псіхалогіі. З гэтых пазіцый яны даследавалі сацыяльную гісторыю зыходзячы з таго, што духоўны свет чалавека не існуе асобна ад эканомікі, грамадскіх, палітычных адносін, а з’яўляецца неадъемнай часткай сацыяльнага жыцця людзей. Ментальнасць – гэта не проста перажыванні, уяўленні людзей аб навакольным свеце, грамадстве, аб Богу, аб чалавечай сутнасці, але і іх практычныя ўстаноўкі дзейнічаць тым ці іншым спосабам, гэта і іх жыццёвая практыка. Таму шмат увагі гэтыя вучоныя надавалі і надаюць не традыцыйнаму вывучэнню твораў і дзейнасці сярэдневяковай інтэлектуальнай эліты (што раней разглядалася як культура ўсяго грамадства), а вывучэнню ментальнасці так званай “маўклівай большасці” насельніцтва альбо простага люду. І сацыяльная гісторыя такім чынам атрымала новы змест – гэта ўжо не проста гісторыя класаў, саслоў’яў, іншых грамадскіх груп, а і гісторыя чалавека. Адбылося свайго роду “ачалавечванне гісторыі”. Гэта ярка адлюстроўвае калектыўная праца гісторыкаў названага напрамку, якая выйшла ў 80-х гадах пад назвай “Чалавек сярэднявечча”.

У залежнасці ад пераважных прыхільнасцей да той ці іншай праблематыкі паслядоўнікі “школы “Аналаў”” падзяляюцца на шэраг кірункаў, сярод якіх “татальная гісторыя” (найбольш вядомыя яе лідэры французскія медыявісты Фернан Брадэль і Жак Ле Гоф), якая вывучае ў адзіным комплексе матэрыяльную, духоўную культуру, з’явы паўсядзённасці, “гісторыя ментальнасцей” (француз Ж. Дзюбі, немец У. Раульф), якая даследуе пераважна праблемы сацыяльнай псіхалогіі і светаўспрымання. Да іх блізкія сучасныя напрамкі “новай сацыяльнай гісторыі” у ЗША, Англіі і іншых краінах.

Вядома, новыя падыходы да вывучэння сярэднявечча ў сучаснай сусветнай медыявістыцы не вычэрпваюцца толькі вышэйзгаданым. Існуе, напрыклад, “псіхагісторыя” з яе цягай да псіхалагічных партрэтаў дзеячаў або пэўных груп мінулых грамадстваў. Новыя падыходы з'яўляюцца і ў асэнсаванні той

праблематыкі, якая ўжо здавалася вырашанай. Напрыклад, аўтары “Оксфардскай гісторыі сярэдневяковай Еўропы” (1988 г.) прапануюць вывучаць еўрапейскае сярэднявечча не як гісторыю заходнееўрапейскіх дзяржаў, ля вытокаў якіх стаялі варвары, і Візантыі, а як гісторыю былога рымскага Міжземнамор'я і Паўночнай Еўропы, адзначаючы “рух цэнтраў цывілізацыі з поўдня на поўнач і з усходу на захад падчас сярэдніх вякоў”.

**Сучасная беларуская медыявістыка.** У XX ст. навуковым цэнтрам беларускіх медыявістаў стаў Беларускі дзяржаўны універсітэт, заснаваны ў 1921 г. У 1934 г. у ім была створана кафедра гісторыі сярэдніх вякоў (з сярэдзіны 60-х гадоў – кафедра гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў). Шэраг медыявістаў працавалі і працуюць на кафедрах усеагульнай гісторыі іншых ВНУ Беларусі. Ля пачаткаў беларускай савецкай медыявістыкі стаяў Уладзімір Мікалаевіч Перцаў (1877 – 1960). Ён нарадзіўся ў г. Курску (Расія), скончыў Маскоўскі універсітэт і быў пакінуты там працаваць. З утварэннем БДУ стаў адным з першых яго прафесараў, а ў 1934 г. узначаліў кафедру гісторыі сярэдніх вякоў. У. М. Перцау даследаваў розныя праблемы гісторыі сярэднявечча: абшчынную ўласнасць на зямлю ў старажытных германцаў, гісторыю каталіцкай царквы, пачаткі італьянскага гуманізму, гісторыю Тэўтонскага ордэна. Найбольш пільна ён даследаваў гісторыю старажытнай Прусіі, барацьбу прусаў з нямецкімі захопнікамі. Даследчык шмат зрабіў для асвятлення сацыяльнага і эканамічнага жыцця прусаў, іх рэлігіі і культуры. Ужо з пачатку 20-х гадоў У. М. Перцаў у сваіх работах карыстаўся марксісцкай метадалогіяй, асабліва гэта адчувалася ў яго гістарыяграфічных працах па “буржуазнай медыявістыцы”. На жаль, ён вымушаны быў толькі далікатна канстатаваць адзін з галоўных хібаў марксісцкай гістарычнай навукі, калі не ўсе перыяды гісторыі лічыліся метадалагічна раўназначнымі, а сярэднявечча разам з папярэднімі эпохамі разглядалася як “перадгісторыя”.

Такі падыход згубна адбіўся на развіцці медыявістыкі ў Беларусі. Даследаванні па замежнаму сярэднявеччу лічыліся неактуальнымі, іх цяжка было надрукаваць, да таго ж існавала і ідэалагічная цэнзура за праблематыкай такіх даследаванняў. Праблематыка і вывады даследчыкаў павінны былі адпавядаць рамкам і духу марксісцкага вучэння.

Разнастайным даследчыкам быў прафесар БДУ, доктар гістарычных і доктар філасофскіх навук Гілер Маркавіч Ліўшыц (1909 – 1983), які з 1944 г. працаваў на кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ён – аўтар каля 30 манаграфій, шматлікіх навуковых артыкулаў. Найбольш значныя працы Г. М. Ліўшыца прысвечаны праблемам антыказнаўства, але належнае месца ў яго навуковай спадчыне займае і даследаванне праблем медыявістыкі.

Шмат увагі Г. М. Ліўшыц надаваў даследаванню гісторыі каталіцкай

царквы ў сярэднявеччы з атэістычных пазіцый. На аналізе вялікай колькасці першакрыніц (што наогул характэрна для гістарычных прац гэтага даследчыка) пабудавана яго манаграфія “Свабодамыснасць і атэізм у старажытнасці і ў сярэднія вякі” (1973). Па сутнасці гэта не толькі даследаванне светапогляду буйных мысліцеляў сярэднявечча (а гэта не толькі Пётр Абеляр, Арнольд Брэшыянскі, а і Іаан Скот Эрыугена, Фама Аквінскі і г.д.), але і шырокая панарама развіцця еўрапейскай культуры і навукі ў той час. Можна зазначыць, што прафесар Г. М. Ліўшыц быў у БССР адзіным медыявістам, які даследаваў не толькі еўрапейскае, але і ўсходняе сярэднявечча.

З 1974 па 1986 г. працаваў на кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў БДУ доктар гістарычных навук Юрый Яўгенавіч Івонін. У цэнтры яго навуковых інтарэсаў былі праблемы міжнародных адносін у Еўропе канца XV – пачатку XVII ст., гісторыя Англіі і Свяшчэннай Рымскай імперыі таго часу. Італьянскія войны 1494–1559 гг. даследчык разглядаў не як рэгіянальны, а як першы агульнаеўрапейскі канфлікт.

Вострую палеміку сярод гісторыкаў Беларусі і СССР выклікалі ў “застойныя часы” манаграфіі прафесара кафедры ўсеагульнай гісторыі Мінскага педагагічнага інстытута (зараз БДПУ) Веры Іванаўны Гарамыкінай, якая выступіла з уласнымі арыгінальнымі канцэпцыямі па шэрагу кардынальных праблем медыявістыкі. Яе вывады рэзка разыходзіліся з пануючымі тады ў савецкай гісторыі сярэднявечча поглядамі. Галоўная праблематыка медыявістычных даследаванняў В. І. Гарамыкінай – пытанні генезісу феадалізму ў Еўропе і сацыяльна-эканамічны, палітычны лад варварскіх каралеўстваў. У сваіх публікацыях канца 60 – пачатку 90-х гадоў даследчыца, шырока выкарыстоўваючы матэрыялы першакрыніц па гісторыі франкаў, вестготаў, бургундаў, Скандынавіі, Старажытнай Русі, абгрунтоўвала, што раннія сярэдневяковыя дзяржавы былі не раннефеадальнымі, а рабаўладальніцкімі.

Пытанні гісторыі сярэдневяковай Чэхіі, пачатку Вялікіх геаграфічных адкрыццяў даследавала дацэнт Н. А. Гусакова, французскага гуманізму – кандыдат гістарычных навук Р. А. Смольскі.

У сучасны момант беларуская медыявістыка з’яўляецца універсітэцкай навукай у літаральным сэнсе. Медыявістычныя праблемы даследуюцца на кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў БДУ і на кафедрах усеагульнай гісторыі іншых універсітэтаў Беларусі. У Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, на жаль, да гэтага часу не створаны медыявістычны навуковы цэнтр. Цяпер беларуская медыявістыка вызначаецца шырокім спектрам даследаванняў, разнастайнасцю метадалагічных падыходаў. Праўда, магчымасці яе абмяжоўваюцца невялікай колькасцю адпаведных навуковых кадраў. Гісторыю каталіцкай царквы, ерасей даследуе прафесар В.А. Фядосік (БДУ), духоўную культуру, ментальнасць раннесярэднявечнага грамадства, канцэпцыі

сярэдневяковых гісторыкаў – прафесар І. А. Еўтухоў (БДУ), гісторыю Візантыі і Польшчы, Адраджэння – дацэнт Л. П. Сушкевіч (БДУ), сярэдневяковы быт – дацэнт А. Дз. Смірнова (БДУ), сярэдневяковую гісторыю Брытаніі – кандыдат гістарычных навук А. І. Малюгін (БДПУ), франкскай дзяржавы – кандыдат гістарычных навук А. М. Сурта (БДПУ). Праблемы сацыяльна-эканамічных адносін у Цэнтральнай Еўропе даследуе прафесар Я. Г. Рыер (Магілёўскі дзяржаўны універсітэт); гістарыяграфію гісторыі сярэдніх вякоў, праблемы метадалогіі медыявістыкі вывучае прафесар А .М. Нечухрын (Гродненскі дзяржаўны універсітэт).

Медыявістамі БДУ падрыхтаваны першыя беларускія падручнікі па гісторыі сярэдніх вякоў для школ. Наспеў час стварэння падручнікаў па гісторыі сярэднявечча і для вышэйшай школы Беларусі.

# Частка 1
# Ранняе сярэдневякоўе (канец V – IX ст.)

## § 1. Заходнееўрапейскае грамадства ранняга сярэдневякоўя.

**Грамадства як сістэма.** Грамадства ўяўляе сабой цэласную сістэму, устойлівасць якой забяспечваецца пастаянным узнаўленнем яе эканамічнага падмурка, сацыяльнай структуры, палітычнай арганізацыі і менталітэту. Дынамічным элементам сістэмы з'яўляецца эканоміка, эвалюцыйнае развіццё яе выклікае адпаведныя паступовыя змяненні ў астатніх элементах. Кансерватыўным (або стабілізуючым) элементам сістэмы выступае менталітэт.

Пераход эканомікі на якасна новы ўзровень выклікае да жыцця новую ментальнасць, якая пасля ўмацавання ў грамадскай свядомасці ператвараецца ў актыўна дзеючы фактар. Адначасова адбываюцца адпаведныя змены ў сацыяльных структурах і палітычных інстытутах грамадства. Сумеснае дзеянне новых фактараў мае вынікам узнікненне новага грамадства, пасля чаго аднаўляецца раўнавага. Эканоміка захоўвае дынамізм, які, аднак, запавольвае свой тэмп, фарміраванне ментальнасці заканчваецца.

**Заходнееўрапейская эканоміка ў V – IX ст.** У эканамічным жыцці Заходняй Еўропы у V – IX ст. працягваліся працэсы аграрызацыі і дэзурбанізацыі, якія пачаліся яшчэ ў часы дамінату (канец III – IV ст.). Моцным каталізатарам для іх сталі германскія ўварванні пачатку V ст.

У выніку значнага скарачэння гандлю, у першую чаргу сухапутнага, што было звязана з разбурэннем рымскай сістэмы камунікацый, замацоўваецца прынцып эканамічнай *аўтаркіі* (самадастатковасці). Гэта азначала імкненне забяспечыць жыццё з уласных рэсурсаў амаль без выхаду на рынак.

Аднак трэба мець на ўвазе, што ў пачатку IX ст. рэалізацыя тэндэнцыі, накіраванай на фарміраванне замкнутай эканамічнай сістэмы, затармазілася. У дзяржаве франкаў, якая ахоплівала ў тыя часы большую частку кантынентальнай Заходняй Еўропы, назіраецца відавочны эканамічны ўздым. Яго вонкавымі выяўленнямі былі штотыднёвыя кірмашы ў большасці епіскапскіх гарадоў Галіі, трох-чатырохкратны рост чаканкі манеты, актыўны міжабласны і транзітны гандаль. Стабілізацыя, аднак, не была трывалай. У другой палове IX ст. тэндэнцыя да эканамічнай аўтаркіі набірае новыя абароты. Яна была значна ўзмоцнена працэсамі феадалізацыі, якія пачаліся ў франкскай дзяржаве (з'яўленне бенефіцыяў), і набегамі нарманаў.

Асноўнымі эканамічнымі адзінкамі ў Заходняй Еўропе таго часу былі *парцэла* (сямейна-індывідуальная сялянская гаспадарка), *маёнтак* (панскі ці

дзяржаўны) і *кляштар*.

Парцэла існавала спачатку ў дзвюх асноўных формах. Гэта познерымскі каланат і *алод*.

Калоны IV – V ст. у заходняй частцы Рымскай імперыі вялі гаспадарку ўласнымі прыладамі працы на надзелах, на якія ў іх былі пэўныя ўладальніцкія правы, але якія нельга было пакінуць. Павіннасці іх фіксаваліся ў законах, што адпаведна абмяжоўвала самавольства латыфундыстаў. У адміністрацыйным плане калоны былі пад юрысдыкцыяй буйных землеўладальнікаў.

Алод (ад верхненямецкага al – поўная і od – уласнасць) – гэта свабодна адчужальная зямельная ўласнасць малой сям'і. Алод можна было прадаць, перадаць у спадчыну, абмяняць. У той жа час уладанне алодам было звязана з выкананнем абавязкаў перад дзяржавай, у першую чаргу з удзелам у паходах, будаваннем умацаванняў, рамонтам мастоў. Пазней з алодаў пачалі спаганяць падаткі. У поўнай уласнасці аладыста былі неабходныя прылады працы і рабочая жывёла. Абшчына захоўвала кантроль над рабочай жывёлай (часткова), *альмендамі* (абшчыннымі землямі, лясамі, ловамі), млынамі, прэсамі.

У выніку пастаянных войнаў, непасільнага фіскальнага ціску ў спалучэнні з драбленнем алода паміж спадчыннікамі пачалося разарэнне сялянства. Дзеля таго каб забяспечыць сабе жыццё і адхіліцца па магчымасці ад падаткаў сяляне пераходзілі разам з алодам пад патранат буйного землеўладальніка, які прымаў на сябе сялянскія абавязкі перад дзяржавай. Гэты шлях вёў да страты ўладальніцкіх правоў на алод, якія пераходзілі да патрона, і частковай ці поўнай страты асабістай свабоды. Яшчэ адным варыянтам забеспячэння жыцця было атрыманне ад буйнога землеўладальніка ў часовае трыманне дадатковага надзелу на пэўных умовах, у выніку чаго аладыст трапляў у пазямельную залежнасць.

Агульнай для абедзвюх формаў парцэлы была паступовая трансфармацыя алода ў *прэкарый* (часовае карыстанне зямлёю ў адказ на пісьмовы зварот), а з цягам часу і ў сервільны, г. зн. звязаны з павіннасцямі, надзел.

Раннесярэдневяковыя маёнткі выраслі з алодаў знатных германцаў. Гэтыя алоды не толькі былі больш значнымі па памерах з самага пачатку, але і мелі відавочную тэндэнцыю да росту ў будучым, за кошт новых заваяванняў і пажалаванняў з боку каралеўскай улады. І ў першым, і ў другім выпадку знаць атрымлівала зямлю на правах алода, што забяспечвала ім максімальна поўны набор уладальніцкіх правоў. Аднак каб атрымаць ад зямлі прыбыткі і забяспечыць такім чынам сваё жыццё ў мірны час, знатныя германцы вымушаны былі спалучаць рабочыя рукі з асноўным сродкам вытворчасці – зямлёю. Зрабіць гэта можна было двумя шляхамі: 1) даць сялянам надзелы і спаганяць з іх арэндную плату натурай ці адработкамі; 2) адвесці частку алода пад панскае поле і прымусіць там працаваць на пастаяннай аснове былых рымскіх рабоў і калонаў. Найбольшы плён у тых умовах дасягаўся пры адначасовым выкарыстанні абодвух

варыянтаў у межах адной гаспадаркі, што і прывяло урэшце рэшт да фарміравання маёнтка.

Зямля маёнтка дзялілася на панскую частку (*дамен*) і сялянскія *сервільныя надзелы*. Абкружалі маёнтак вёскі, насельніцтва якіх складалі асабіста свабодныя аладысты і прэкарысты. Пад кантролем вясковай абшчыны захоўваліся альменды.

Шмат земель было ў касцёла, у першую чаргу ў кляштараў, куды заможныя людзі рабілі ўклады на ўспамін сваёй душы. Акрамя таго, шмат якія кляштары давалі зямлю ў якасці прэкарыяў і ператваралі іх з цягам часу ў сервільныя надзелы.

Тэарэтычнае абгрунтаванне ідэі кляштара, як эканамічнай адзінкі звязана з імем Бенедыкта Нурсійскага (VI ст.), які лічыў, што галоўныя абавязкі манахаў гэта малітва і фізічная праца. Прычым ён падкрэсліваў, што працаваць трэба менавіта ў сельскай гаспадарцы, каб забяспечыць кляштар, а калі ёсць магчымасць, то і наваколле ўсім неабходным для жыцця. Пра тое, як адукаваныя людзі таго часу ўяўлялі сабе ідэальны кляштар, можна даведацца з праэкта, які быў прадстаўлены ў 820 г. на абмеркаванне абату Сен-Галена Гонберту. На плане ёсць піваварні, пякарні, птушыны двор, свірны, млынавыя камяні, памяшканне для ступаў, соладасушылка, авечнік, свінарнік, кароўнік, стайня, пастаўнік для коз.

**Сацыяльная структура раннесярэдневяковага грамадства.** У першыя паўтара стагоддзі сярэдневяковай гісторыі структура заходнееўрапейскага грамадства была дваістай. Карэнныя жыхары, былыя рымскія грамадзяне, жылі па законах дзяржавы, якой ўжо не існавала, захоўвалі свае сацыяльныя і часткова палітычныя інстытуты ўлады (калі браць на ўзроўні мясцовага самакіравання).

Што да германцаў, то ў іх пачалося структураванне друзлай плямённай арганізацыі. Вылучаюцца кароль і яго прыбліжаныя, радавая знаць, пастаянная дружына, воіны якой атрымлівалі больш высокі сацыяльны статус у параўнанні з простымі воінамі.

Вонкавым выяўленнем сацыяльнага статусу быў *вергельд* (Wergeld – цана чалавека) – грашовая кампенсацыя за забойства свабоднага чалавека. Адпаведна, чым больш цэнным у вачах грамадства быў той ці іншы чалавек, тым большым вергельдам абаранялася яго жыццё (у выпадку несвоечасовай выплаты вергельда або адмовы ад яго выплаты аўтаматычна запускаўся механізм дзеяння права кроўнай помсты і забойца перадаваўся родным забітага).

Шматлікія прыклады размеркавання вартасці людзей па вергельдах даюць судзебнікі, "праўды". Найбольш паказальным у сусветнай медыявістыцы з мінулага стагоддзя лічыцца прыклад сістэмы вергельдаў паводле Lex Salica ("Салічная праўда").

Свабодны франк абараняўся вергельдам у 200 солідаў, знатны чалавек каралеўства – у 600 солідаў, свабодны воін у паходзе, г. зн. на каралеўскай

службе, – у 600 солідаў (трайны вергельд), каралеўскі *антрустыён*, г. зн. знатны франк на пастаяннай каралеўскай службе, і знатны воін у паходзе – у 1800 солідаў (трайны вергельд). Рымлянін-землеўладальнік абараняўся штрафам у 100 солідаў, рымлянін, які быў на каралеўскай службе, – у 300 солідаў.

Наступны этап у працэсе структуравання грамадства – яго уніфікацыя. Германцы паступова пераходзілі з арыянства ў каталіцызм (толькі франкі перайшлі ў каталіцызм з паганства), пачалі плаціць падаткі, якія да гэтага спаганяліся толькі з рымлян, была скасавана забарона на змешаныя шлюбы. Рымляне пачынаюць служыць у войску не ў парадку выключэння, а як і усе германцы. Каралі выдаюць законы, агульныя і для германцаў, і для былых рымскіх грамадзян. Закончылася ўніфікацыя прыблізна ў VI – VII ст.

Яшчэ адным вонкавым выяўленнем працэсу структуравання грамадства стала фарміраванне новых пластоў *бенефіцыяраў* і *ўладальнікаў імунных грамат.*

З'яўленне бенефіцыяраў было вынікам змен у падыходзе да фарміравання войска. Цяпер яго аснову складала не народнае апалчэнне, а прафесійная конніца з цяжкай зброяй. Гэтыя воіны не мелі ані жадання, ані магчымасці апрацоўць зямлю. Яны мелі відавочную патрэбу ў пастаянных практыкаваннях, каб быць у належнай форме. Каб забяспечыць іх сродкамі для існавання, кароль даваў за службу зямельныя надзелы (*бенефіцыі*). У адрозненне ад алода бенефіцый перадаваўся ва ўмоўнае трыманне. Бенефіцыяр мог быць пазбаўлены гэтага падаравання ў выпадку акта *фелоніі* (невыканання сваіх прамых абавязкаў). Пасля смерці бенефіцыяра зямля вярталася да яе непасрэднага гаспадара. Сын мог атрымаць бенефіцый у спадчыну толькі пры ўмове асобнай прысягі і выканання бацькоўскай службы.

Каб атрымаць падтрымку ад знатных германцаў, ператварыўшыхся ў буйных землеўладальнікаў (*магнатаў*), каралі пачалі даваць ім *імунныя граматы*, якія гарантавалі неўмяшальніцтва цэнтральнай улады ў справы іх уладанняў (за пэўнымі выключэннямі). Па сутнасці гэта азначала пачатак пераразмеркавання палітычнай улады і перадачу магнатам паўнамоцтваў ніжэйшай юрысдыкцыі (пакуль без права жыцця і смерці), фіскальных і адміністрацыйных функцый.

Адначасова са структураваннем вышэйшых слаёў грамадства, ніжэйшы слой – рабы, былыя рымскія калоны, асабіста залежныя сяляне – паступова ператвараліся ў больш-менш аднародны пласт асабіста і пазямельна залежнага сялянства.

Сярэдні пласт грамадства, свабодныя сяляне-аладысты, размываўся. Выяўлялася тэндэнцыя да ўцягвання іх у залежнасць ад магнатаў. Пры гэтым частка з іх трапляла ў залежнасць непасрэдна, у выніку разарэння і наступнага атрымання ад магнатаў або кляштараў прэкарыяў ці сервільных надзелаў, змешаных шлюбаў, частка – апасродкавана. Справа была ў тым, што аладысты жылі на тэрыторыі імунных акруг, а значыць, былі пад юрысдыкцыяй магната.

Яны плацілі падатак каралю, але гэты падатак атрымліваў толькі магнат – уладальнік імуннай граматы. Апошняя акалічнасць і дазваляе выказаць меркаванне, што гэты падатак выступае ў якасці своеасаблівага аброку. Акрамя таго, як жыхары акругі аладысты выконвалі пэўныя работы, напрыклад, рамонт мастоў. Гэтыя работы ў сваю чаргу можна разглядаць як выкананнне своеасаблівай паншчыны.

**Раннесярэдневяковая манархія.** Асноўнымі элементамі палітычнай арганізацыі германцаў у перыяд пераходу ад ваеннай дэмакратыі да дзяржавы былі *народны сход*, у якім на роўных правах прымалі ўдзел усе свабодныя члены племені, здольныя трымаць зброю ў руках; *савет старэйшын* з правам суда і выбарныя ваенныя правадыры (*конунгі*) з пастаяннай дружынай.

Спачатку гэтая структура захоўвалася, але паступова яе абрысы пачалі размывацца і ў выніку адбывлося запаўненне старой формы новым зместам. Народны сход абмежаваў свае паўнамоцтвы пытаннямі мясцовага ўзроўню. Сюды цяпер збіралася толькі сярэдняя частка грамадства (асабіста свабодныя сяляне). Вышэйшая частка грамадства пачынае збірацца асобна, на свой уласны "народны сход" – *з'езды магнатаў*, якія склікаліся па некалькі разоў на год. Савет старэйшын ператварыўся ў *савет знаці*. Конунг становіцца *каралём* – чалавекам, які стаіць над грамадствам і мае спецыяльныя адзнакі сваёй улады – доўгія валасы і адмысловую дзіду. Паступова ў розных формах пачынае замацоўвацца прынцып спадчыннасці каралеўскай улады – праз усталяванне практыкі выбараў каралёў з вызначанага роду, праз сумеснае кіраванне, калі сын становіцца каралём пры жыцці бацькі.

Вонкавым выяўленнем узмацнення каралеўскай улады было з'яўленне спецыяльнай каралеўскай вопраткі, кароны, трайнога вергельду для абароны людзей, якія знаходзіліся на каралеўскай службе. Падмуркам узмацнення каралеўскай улады было яе права на размеркаванне зямельнага фонду краіны праз бенефіцыі, кантроль над фіскам (дзяржаўнай казной, якая не супадала з каралеўскай), адміністрацыйнай і судовай уладай. На краіну кароль глядзеў як на сваю ўласнасць. Магчыма, менавіта з гэтым момантам звязаны шматлікія падзелы краін паводле каралеўскіх запаветах у адпаведнасці з колькасцю сыноў. Падзелы гэтыя не маюць рацыянальнага эканамічнага ці палітычнага тлумачэння з пункту гледжання сучаснага чалавека.

Цэнтральная ўлада мела магчымасць для ажыццяўлення больш-менш эфектыўнага кантролю над насельніцтвам краіны. Тэрыторыя разбівалася на асобныя адзінкі, *графствы*, на чале якіх стаялі каралеўскія службовыя асобы: *графы* і іх намеснікі – *віконты*. Прыгранічнымі землямі (*маркамі*) кіравалі *маркграфы*.

Па меры развіцця палітычных інстытутаў у Заходняй Еўропе фарміравалася тэндэнцыя да *дысперсіі палітычнай улады*, якая пачынае пакрыху

пераразмяркоўвацца паміж каралеўскім палацам і альтэрнатыўнымі цэнтрамі палітычнага жыцця. У якасці апошніх выступалі графы, якія атрымалі ад караля правы на перадачу сынам у спадчыну сваіх пасад, і ўладальнікі імунных акруг, якія па меры атрымання новых зямельных уладанняў і замацавання правоў імунітэту пачалі схіляцца калі не да сепаратызму, то да максімальнай аўтаноміі сваіх уладанняў.

**Заходнееўрапейскі менталітэт ранняга сярэдневякоўя.** *Менталітэт* можна вызначыць як сукупнасць не сфармуляваных адназначна і не зусім асэнсаваных, ці зусім неасэнсаваных спосабаў мыслення, характэрных для пэўнага грамадства або цывілізацыі. Гэта своеасаблівы аўтаматызм думкі, які дазваляе чалавеку арыентавацца ў прыродным і сацыяльным асяроддзі; гэта пазаасабістыя ўстаноўкі на той, ці іншы варыянт паводзінаў.

Як можна бачыць, менталітэт не супадае са светаўспрыманнем, але шлях для разумення першага ляжыць праз аналіз апошняга.

Вельмі добры матэрыял для выхаду на раннюю сярэдневяковую ментальнасць даюць скандынаўскія плямёны і блізкія да іх па мове, культуры і рэлігіі англасаксы.

Мадэль Сусвету ў скандынаваў будавалася па ўзоры сялянскай гаспадаркі – хата, двор, агароджа, за агароджай – лес. Калі паглядзець вачыма скандынава на свет па ўмоўнай гарызанталі, то можна пабачыць *Мідгард* (тое, што знаходзіцца ў межах агароджы) – добра ўпарадкаваную частку Сусвету, дзе жывуць людзі. Яго абкружае *Утгард* (тое, што знаходзіцца па-за межамі агароджы) – частка Сусвету, дзе пануюць хаос і стыхія, жывуць пачвары і волаты. Абмяжоўвае Сусвет *змей Ёрмундганд*.

Такім чынам, *базавай апазіцыяй* у менталітэце германцаў было “вядомае – невядомае”. Пры гэтым першы элемент азначаў дабро, другі – зло. Наогул, невядомае і яго носьбіты ўспрымаліся германцамі рэзка адмоўна і ў больш позняя часы. Аб гэтым сведчыць, у прыватнасці, артыкул 20 законаў англасаксонскага караля Інэ (688–726): “Калі чалавек, які ідзе здалёку (feorcund mon), ці чужынец, па-за гасцінцам ідзе лесам і не крычыць, і ў рог не трубіць, то яго трэба лічыць злодзеем; хай заб’юць, альбо возьмуць выкуп”. Тут можна прасачыць наступную рэалізацыю базавай апазіцыі: у ролі элемента “вядомае” выступае гасцінец, ён жа выконвае функцыю апазнавальніка “свой – чужы”, ролю элемента “невядомае” адыгрывае лес.

Па вертыкалі скандынаў бачыў наступную карціну. Расце вялікае дрэва, *ясень Ігдрасіль*, карані якога праз Утгард ідуць у падземнае царства *Хель*, дзе жывуць нябожчыкі, вяршыня дрэва сягае ў нябёсы, дзе знаходзіцца сядзіба *багоў-асаў*, *Асгард*. Прычым вертыкаль успрымаецца як непарыўнае адзінства, кожная з частак якога існуе ў дадзены момант.

Жыццё Мідгарда з’яўляецца адбіткам жыцця Асгарда і можа існаваць толькі

пры ўмове пастаяннага аднаўлення сувязі Мідгард–Асгард праз: 1) рэгулярнае ўзнаўленне міфічных падзей у адпаведных рытуалах; 2) жыццё паводле этычных нормаў асаў, якія былі дадзены ў выглядзе прамога звароту правадыра асаў Одзіна да конунга Геалаві (сага “Прамовы Высокага”).

Пераход да новых умоў існавання пасля рассялення на землях былой Заходняй Рымскай імперыі, умоў больш камфортных, выклікаў пэўную дэзарыянтацыю. Элемент “вядомае” ў апазіцыі пачаў размывацца, знікала яго былая адназначна станоўчая афарбоўка. Паралельна больш станоўчае гучанне набывае і другі элемент апазіцыі. У выніку парушаецца ўстойлівасць сістэмы, што пасеяла ў людзей няўпэўненасць у былых жыццёвых арыенцірах і стэрэатыпах паводзін.

Дастаткова паказальны прыклад апісанай сітуацыі даёцца ў раздзеле 13 другой кнігі “Царкоўнай гісторыі народу англаў” Беды Шаноўнага (672–735).

На савеце першых асоб двара, скліканым каралём Эдвінам, прысутнічаў Паўлін, епіскап Ёркскі, пасланы папай рымскім Грыгорыем Вялікім на дапамогу Аўгусціну, які прапаведаваў сярод саксаў хрысціянства. Выслухаўшы Паўліна, Эдвін заявіў, што яму неабходна параіцца з бліжэйшымі сябрамі і дарадцамі. Кароль спытаў меркаванні ў кожнага з удзельнікаў сустрэчы паасобку. Першы жрэц Койфі выказаўся наступным чынам: “Калі ты палічыў, што прапаведанае нам зараз, лепш і мацнейшае, то мы без усякага прамаруджвання паспяшаемся гэта прыняць”. Больш яскрава і вобразна адчуванне дэзарыянтацыі выявіў не названы па імені знатны чалавек: “Цяперашняе жыццё людзей падаецца мне такім, быццам ты сядзіш за абедам са сваімі элдармэнамі і тэнамі зімовай парой, у сярэдзіне гарыць полымя і ў сталовай цёпла, а звонку поўсюдна шалеюць віхры зімовага дажджу і снегу; і тут, наблізіўшыся да дома, хутка праляцеў шпак ці верабей. Ён, заляцеўшы ў адны дзверы, тут жа вылецеў праз іншыя. Пакуль ён быў унутры, пралятаючы праз найдрабнейшую прастору ціхамірнасці, яго не біла зімовая бура, але ён тут жа вярнуўся з зімы ў зіму і знік з тваіх вачэй. Так і жыццё чалавечае з’яўляецца толькі на кароткі час. Што ж будзе потым і што было перад гэтым, мы зусім не ведаем. Па-гэтаму мне падаецца, што калі новае вучэнне дае штосьці больш вызначанае, яно абавязкова павінна быць прынята”. Пасля таго як у тым жа духу выказаліся прадстаўнікі радавой знаці і каралеўскія дарадцы, Паўлін па просьбе Койфі і па загаду караля зрабіў прамову пра Бога, пасля чаго жрэц параіў прыняць хрысціянства і кароль абвесціў, што прыняў веру ў Хрыста.

Адначасова германцы імкнуліся да атрымання дастаткова надзейных гарантый. Калі падчас спрэчкі рымска-каталіцкіх і ірландскіх місіянераў кароль Осв’ю пачуў, што Ісус Хрыстос даў ключы ад царства нябеснага Пятру, першаму рымскаму епіскапу, то заявіў, што ён жадае, каб Пётр адчыніў для яго райскую браму і вырашыў спрэчку на карысць рымакатолікаў. Былі, аднак, і іншыя варыянты. Сыны караля Саберта адмовіліся ад хрышчэння і заявілі пры гэтым:

“Мы не жадаем уваходзіць у гэтую крыніцу, таму што не ведаем, ці трэба туды ісці”.

Такім чынам, каб хрысціянства стала часткай свядомасці германцаў, трэба было перакласці веравызнанне на мову зразумелых для іх сімвалаў і вобразаў. Такімі прыкладамі служаць устаўкі хрысціянскага кшталту ў старажытны англасаксонскі гераічны эпас “Песня пра Беавульфа”.

Адначасова на больш зразумелую мову пераходзіла і афіцыйная царкоўная прапаганда, разлічанная не толькі на германцаў, але і на непісьменнае рымскае вясковае насельніцтва. Гэты пераход выявіўся ў *пасіёнах* (VIII ст.), у якіх апавядалася пра хрысціянскіх пакутнікаў і якія былі запоўнены шматлікімі казачнымі цудамі. Мова пропаведзей набліжалася да народнай.

У выніку апазіцыя “вядомае–невядомае” паступова набывае хрысціянскае гучанне. Узнікае новая апазіцыя “выратаванне–катаванне”, дзе першы элемент звязваўся з касцёлам, другі з супраціўленнем волі Бога, касцёла, караля. У адрозненне ад першай базавай апазіцыі, абодва элементы другой былі упарадкаваны.

Працэс разгортвання новай базавай апазіцыі адбываўся ў рамках асобага літаратурнага жанру – бачанняў замагільнага свету, закліканых напоўніць кожны з элементаў апазіцыі канкрэтнай і вобразнай інфармацыяй.

**Замагільны свет у бачаннях IX ст.** Найбольш цікавымі сярод бачанняў замагільнага свету ранняга сярэдневякоўя ўяўляюцца тры тэксты, якія паходзяць з тэрыторыі рассялення ўсходніх франкаў: “Бачанне Вецiна”, запісанае Хетанам, манахам з Рэйхенау; “Бачанне Бернольда”, запісанае Гінкмарам, архіепіскапам Рэймскім; “Бачанне Карла III”, захаванае ў складзе гістарычнага твора Вільяма Малмсберыйскага.

Па-першае, у гэтых бачаннях знаходзіцца дастакова дэталёвае апісанне асноўных сектараў замагільнага свету. Па-другое, візіянеры асобую ўвагу звяртаюць на тыя пакаранні, ад якіх пакутуюць пасля смерці прадстаўнікі кліра і вышэйшага свецкага саслоўя, аж да каралёў.

Вецін, настаўнік у кляштарнай школе, асабліва адзначае святароў, прывязаных спіною да слупоў рамнямі і падвешаных у полымі. Іх караюць за юр. Тут жа знаходзяцца і разбэшчаныя імі жанчыны. Анёл сказаў, што кожныя тры дні б’юць іх прутамі па дзетародных частках. Далей пабачыў Веццін з хаатычна складзенага дрэва і каменя будынак, з якога ідзе дым. Там адбываецца ачышчэнне манахаў ад брыдоты. Адзін манах знаходзіцца ў алавяным куфэрку да Страшнага суда.

Пасля з’явілася Веціну нейкая высокая гара. На гары абат нясе ачышчэнне праз “жорсткае паветра і ад цяжару дажджоў і ветраў”. Але яго пакуты не вечныя. Епіскап, які не паверыў бачанню клірыка і не маліўся за гэтага абата, знаходзіцца тут жа на іншым схіле гары.

Паказалі Веціну і гаспадара, які кіраваў скіпетрам Італіі (усе каментатары сходзяцца на тым, што тут маецца на ўвазе імператар Карл Вялікі). Звер зубамі шматаў "саромныя часткі яго цела". Анёл сказаў, што ён нясе пакуты за "спакусы разбэшчанасці", але ж яму прызначана вечнае жыццё. Там жа ён пабачыў дары, прадстаўленыя графам у пакаранне за ліхвярства, рабунак, сквапнасць. Сустрэў ён і іншых "без ліку", але дзеля сцісласці аўтар апускае іх.

Аднак, жывыя могуць дапамагчы пакутуючым грэшнікам. Прынамсі, менавіта такую місію выканаў прэсвітэр Бернольд, з імем якога звязана наступнае бачанне. Спачатку візіянер прыйшоў у нейкае нявызначанае месца. Туды ўвайшлі 41 епіскап, апранутыя ў нейкія лахманы, чорныя, брудныя. Падчас размовы высвятляецца, што Бернольд быў выкліканы з цела ў замагільны свет таму, што епіскапу Эбо і яго сабратам патрэбна дапамога праз міластыню, малітву і прынашэнні клірыкаў і міран, якую тыя павінны зрабіць для іх. Бернольд не ведае, дзе ён можа адшукаць гэтых людзей, таму епіскапы далі яму суправаджальніка. Апошні адвёў Бернольда ў вялікі палац, дзе было шмат іншых епіскапаў, і пагутарыў з імі. Адтуль Бернольд разам з суправаджальнікам вярнуўся ў тое месца, дзе былі першыя епіскапы, але ўжо ў зусім іншым выглядзе: "...яны былі з прыемнымі тварамі, быццам вычышчаныя і вымытыя ў лазні, і мелі белую вопратку, (якую называюць) стола, сандалі на нагах". Эбо пытае: "Ці бачыш ты, як нам дапамагла твая місія?"

Пасля гэтага візіянер, праўда, невядома якім чынам, патрапляе ў новы сектар прасторы – нейкае цёмнае месца. Там Бернольд бачыць караля Карла (відавочна Карла Лысага) ў багне смроднай сукравіцы. Яго грызуць чэрві, якія ўжо з'елі мяса і пакінулі жылы і косці. З суседняга боку ў гэтым месцы лілося святло. Там быў чароўны луг з духмянымі кветкамі. Кароль кліча Бернольда па імені і пасылае яго сказаць епіскапу і людзям, каб тыя былі ўпэнены, што іх малітвы дапамогуць і вызваляць караля ад віны.

Бернольд ідзе туды, дзе святло і водар. Яно настолькі цудоўнае, што аж нельга яго апісаць. Тут шмат людзей розных рангаў у белых вопратках. У касцёле вядзецца падрыхтоўка да імшы. Пасля гэтага Бернольд вяртаецца да караля. Манарха выводзяць ў светлае месца і ў здаровае цела. Кароль кажа Бернольду: "Бачыш, як мне дапамагла твая місія?"

Праўда, пры гэтым трэба ўлічваць, што гарантыі, і вельмі значныя, да вызвалення ад пякельных пакут манархі мелі. Падчас бачання Карл III пачуў ад свайго бацькі, Людовіка II, які стаяў у бочцы з кіпнем, што вызваліць яго адсюль могуць малебны і спевы псалмоў епіскапаў і ўсяго кліру. Нарэшце Карл бачыць у райскай даліне свайго дзядзьку, караля Лотара II, які сядзеў на вялізным тапазе з каштоўнай дыядэмай на галаве.

Такім чынам, раннесярэдневяковыя бачанні не давалі пакуль цэласнай і закончанай карціны пасмяротнага лёсу чалавека. Асноўны акцэнт рабіўся на

пякельных пакутах, а месцы райскай асалоды былі ў прыведзеных творах ледзь абазначаны.

## § 2. Франкская дзяржава

**Варварскія заваяванні ў Галіі. Узнікненне дзяржавы франкаў.** У часы Рымскай імперыі у яе склад уваходзілі тэрыторыі (з мясцовым насельніцтвам) сучасных Францыі, Бельгіі, Люксембурга, часткі Нідэрландаў, Швейцарыі, заходняй часткі Германіі. Большасць насельніцтва гэтых зямель складалі розныя плямёны кельтаў, якіх рымляне назвалі галамі. Рымскія заваяванні ў гэтым рэгіёне пачаліся яшчэ ў рэспубліканскі перыяд Рыма, калі да яго ў канцы II ст. да н. э. быў далучаны поўдзень сучаснай Францыі як правінцыя Нарбонская Галія. Галоўныя ж заваяванні здзейсніў Юлій Цэзар у 50-х гадах I ст. да н. э. На новых тэрыторыях Рымскай дзяржавы былі створаны правінцыі Галія Лугудунская, Бельгіка і Аквітанія. Потым адміністрацыйны падзел некалькі разоў змяняўся, правінцыі разробняліся. Яшчэ Юлій Цэзар сустрэўся з германскімі плямёнамі свеваў, якія ўварваліся ў Галію і якіх ён перамог. Зрэшты першыя пераможныя для рымлян сутычкі з германцамі адбыліся раней, калі ў 102–101 гг. да н. э. Гай Марый разграміў у паўднёвай Галіі кімвраў і тэўтонаў, якія дайшлі датуль з Ютландыі. Далейшыя спробы рымлян прасунуцца на землі, заселеныя германцамі, прывялі да катастрофы ў Тэўтабургскім лесе ў 9 г. н. э., калі былі знішчаны тры рымскіх легіёны. Пасля гэтага граніцы Рымскай дзяржавы стабілізаваліся па лініі рэк Рэйн і Дунай, дзе былі пабудаваны магутныя ўмацаванні.

Мясцовае насельніцтва падверглася раманізацыі, асабліва моцнай на поўдні Галіі. Адбываўшыяся сацыяльна-эканамічныя працэсы былі тыповымі для Рымскай імперыі. Асноўныя формы землеўладання ў часы позняй імперыі – муніцыпальная і буйная экзіміраваная сенатарскіх фамілій. Апошняя набывала ўсё большую вагу, на такіх землях працавала шмат рабоў з пекуліем і калонаў. Паступова распаўсюджваліся прэкарныя адносіны і патрацыній. У рымскім праве прэкарый (precarium) разглядаўся як рухомая ці нерухомая маёмасць, аддадзеная яе ўласнікам у доўг ці ў часовае карыстанне. У познерымскім грамадстве прэкарныя адносіны ўсё больш датычыліся зямлі. Уладальнік зямлі даваў надзел земляробу звычайна на ўмовах пэўных плацяжоў і меў права яго адабраць. Патрацыній уяўляў сабою апякунства зямельных магнатаў над сялянамі, жыхарамі гарадоў. Тыя, хто аддаваліся пад апякунства, пазбаўляючыся ад непасільных дзяржаўных падаткаў (патрону яны аддавалі менш, чым дзяржаве), траплялі ў асабістую і пазямельную залежнасць ад сваіх патронаў. Шэраг даследчыкаў лічаць буйную экзіміраваную зямельную ўласнасць з выкарыстаннем працы калонаў і рабоў з пекуліем, прэкарныя адносіны,

патрацыній элементамі протафеадальнага ўкладу ў позняй Рымскай імперыі (экзіміраваныя сальтусы – як першы крок да буйнога феадальнага землеўладання, прэкарый – да бенефіцыя, патрацыній – да камендацыі). Аднак яшчэ адзін істотны элемент такого ўкладу – сялянскія абшчыны ў рымскай Галіі паступова знікаюць. Разам з тым у Галіі захавалася і значная частка мясцовага свабоднага сялянства ўдзельнічала ў руху багаўдаў, адстойваючы, перш за ўсё свае правы на зямлю.

У канцы II – пачатку III ст. каля межаў Рымскай імперыі склаўся шэраг племянных германскіх саюзаў: алеманаў (швабаў) на поўдзень ад Майна, саксаў па ніжнім цячэнні Эльбы, франкаў па ніжнім Рэйну, вандалаў па сярэднім Дунаі і готаў на Балканах. Іх лёс ў далейшым так ці інакш быў звязаны з Галіей. Франкі ў 50-я гады III ст. прайшлі па Галіі, Іспаніі і захапіўшы караблі пераправіліся нават у рымскую паўночную Афрыку. Яныі алеманы зноў уварваліся ў Галію ў 70-х гадах таго ж стагоддзя, але былі выбіты рымлянамі. І ў апошнія дзесяцігоддзі III ст. і на пачатку IV ст. франкі нападалі на Галію і на ўзбярэжжа Брытаніі, пакуль імператар Канстанцін Вялікі на некаторы час здолеў захаваць бяспеку рымскіх граніц ад іх нашэсцяў. Мэтай нападаў франкскіх і іншых германскіх плямёнаў у той час быў захоп не зямель Рымскай імперыі (каб там асесці), а багатай здабычы. Па сутнасці гэта былі грабежніцкія набегі. Іншы раз франкі выступалі і саюзнікамі рымлян, напрыклад яны былі ў войску сепаратнай Гальскай імперыі, існаваўшай у 259–274 гг. падчас апагею палітычнага крызісу Рымскай імперыі III ст. У канцы III ст. на тэрыторыі рымскай паўночнай Галіі з’явіліся першыя паселішчы франкаў і іншых германцаў на правах лэтаў. Гэта былі ваеннапалонныя, якія атрымлівалі зямельныя надзелы ад імператараў (без права адчужэння) і былі абавязаны даваць рэкрутаў у рымскае войска.

З сярэдзіны IV ст. напады франкаў, алеманаў, а таксама бургундаў на Галію ўзмацніліся. Цяпер іх галоўнай мэтай быў ужо захоп зямель для таго, каб іх потым апрацоўваць. Спачатку рымскія ўлады былі ў стане процістаяць такім спробам варвараў, але ўжо ў IV ст. частка германцаў асела на рымскіх землях у Галіі, атрымаўшы іх на правах федэратаў. З IV ст. рымскія імператары вымушаны шырока выкарыстоўваць адных варвараў для барацьбы з іншымі, таму з плямёнамі заключаўся саюз (foedus) і тыя ператвараліся ў рымскіх ваеннаабавязаных. Такія федэраты захоўвалі свае парадкі і сваіх правадыроў.

Магчыма, частка франкаў (так званыя салічныя франкі) сталі рымскімі федэратамі напрыканцы 50-х гадоў IV ст. Пры імператары Юліяне (361–363) на вышэйшых ваенных пасадах ужо было нямала военачальнікаў франкскага паходжання. Гэтыя ваенныя правадыры франкаў уліваліся ў панўючыя колы Рымскай імперыі, аднак іх інтарэсы не супадалі з мэтамі астатніх франкаў. Так, рымскі военачальнік Арбагаст (з франкаў) на пачатку 90-х гадоў IV ст. узначаліў паходы супраць сваіх сародзічаў, якія ўзбунтаваліся, і прымусіў іх узнавіць саюз

з рымлянамі.

Між тым вялікае перасяленне народаў, штуршок якому быў дадзены далёка ў Азіі, з яго механізмам дзеяння па "прынцыпу даміно" (калі варварскія народы з усходу штурхалі далей на захад сваіх заходніх суседзяў, а тыя наступных) дакацілася да межаў Рымскай імперыі. Ратуючыся ад гунаў, вестготы звярнуліся за паратункам да улад Рымскай імперыі і былі паселены на яе тэрыторыі па ніжнім Дунаі на правах федэратаў. Аднак невыкананне рымлянамі умоў дагавору аб саюзе выклікала паўстанне вестготаў. Вынікам яго было катастрафічнае паражэнне рымскай арміі пад Адрыянопалем у 378 г. І хоць імператару Феадосію І удалося іх на пэўны час "замірыць", вестготы паступова пачалі прасоўвацца на захад імперыі, і у 410 г. узялі Рым. Крыху раней, на рубяжы 406 і 407 гг. германскія плямёны остготаў, вандалаў і свеваў, а таксама аланы прарвалі абарончую лінію рымлян на рэйнскай мяжы і ўварваліся ў Галію.

Франкі, якія абаранялі гэты рубеж, захавалі вернасць саюзу з рымлянамі, аднак не здолелі адбіць напад. Толькі перакідка войскаў з Брытаніі дазволіла рымлянам аднавіць рымскую граніцу, але вандалы, свевы і аланы, спусташыўшы значную частку Галіі, перайшлі Пірэнеі і замацаваліся ў іспанскіх правінцыях. За остготамі, свевамі, вандаламі і аланамі рушылі на захад і бургунды, але яны спыніліся на Рэйне і атрымаўшы ад рымлян правы федэратаў, пасяліліся на тэрыторыі правінцыі Германіі Прыма, цэнтрам якой быў горад Магунцыяк (Майнц). Калі бургунды ў 30-я гады V ст. паспрабавалі захапіць правінцыю Бельгіку, то іх разграміў рымскі палкаводзец Аэцый, які выкарыстаў для гэтага наемнікаў-гунаў. Быў забіты бургундскі кароль Гундарах разам з яго братамі. Гэтыя падзеі склалі аснову для стварэння пазней вядомага твора гераічнага германскага эпасу "Песні аб Нібелунгах", хаця акцэнт у творы XIII ст. зроблены на асабістыя адносіны каралеўскіх асоб і многія гістарычныя рэаліі не адпавядаюць V ст. (напрыклад, ісландская правіцельніца Брунхільда, да якой заляцаўся кароль бургундаў). Разгромленыя бургунды зноў былі паселены на правах рымскіх федэратаў у паўднева-усходняй Галіі (без выхаду да Міжземнага мора).

А тым часам вестготы пакінулі Італію і некаторы час у якасці рымскіх федэратаў ваявалі супраць вандалаў і аланаў у Іспаніі. У 418 г. па імператарскім загадзе вестготы перайшлі у паўднева-заходнюю Галію і атрымалі для пасялення тэрыторыю рымскай правінцыі Аквітанія: дзве трэціворнай зямлі, палову паш і лясоў, частку рабоў і калонаў. Тут і узнікла першая дзяржава варвараў на тэрыторыі Заходняй Рымскай імперыі. Звычайна датай заснавання лічаць 418 год, хоць фармальна вестготы яшчэ некаторы час лічыліся рымскімі федэратамі і дапамаглі рымлянам змагацца з іншымі варварамі, але потым яны пачалі захапляць іншыя рымскія тэрыторыі. Калі ж на іх у 470 г. рушыла імператарскае войска, вестготы разбілі яго.

Страшэнная пагроза навісла над Заходняй Рымскай імперыяй у 451 г., калі гуны на чале з Атылай выступілі з Паноніі ў паход на захад. Калі яны дасягнулі амаль сярэдзіны Галіі, то былі разбіты ў бітве на Каталаўнскіх палях. Гэта была сапраўды "бітва народаў". На баку рымлян на чале з Аэцыем змагаліся вестготы, бургунды, франкі, аланы, у войску гунаў – воіны з германскіх плямёнаў остготаў, гепідаў, герулаў, ругіяў, частка зарэйскіх франкаў. Паражэнне прымусіла Атылу пакінуць Галію.

У 50-я гады канчаткова аформілася яшчэ адно варварскае каралеўства на тэрыторыі рымскай Галіі – бургундаў. Яны перасталі выконваць абавязкі рымскіх федэратаў, захапілі шэраг тэрыторый, у тым ліку горад Ліён, які зрабілі сваёй сталіцай. Вяршыні сваей магутнасці Бургундскае каралеўства дасягнула пры каралі Гундабадзе (480–518гг.). Пры ім былі створаны два зводы права: адзін для бургундаў ("Бургундская праўда"), другі – для мясцовага рымскага насельніцтва. Шлюбы паміж бургундскім і гала-рымскім насельніцтвам гарадоў забараняліся. У гарадах дзейнічала рымскае муніцыпальнае самакіраванне, гала-рымскае насельніцтва карысталася нормамі рымскага права. Бургунды ж па сваіх правах падзяляліся на тры разрады: вышэйшы (аптыматы), які складалі знаць, дружыннікі караля і епіскапы; сярэдні – асноўная маса воінаў-землярабаў і ніжэйшы – свабодныя, але разораныя сяляне. Ніжэй стаялі рабы.

Неўзабаве пасля смерці Гундабада каралеўства бургундаў было заваявана франкамі (534 г.). Раней (у 507 г.) такі ж лес напаткаў вестгоцкую дзяржаву ў Галіі са сталіцай у Тулузе. Захаваліся ўладанні вестготаў у Іспаніі. Вестготы ў Галіі у сваім развіцці прасунуліся далей, чым іх заваёўнікі франкі. У іх дзяржаве пад вярхоўнай уладай бургундскіх каралёў таксама фактычна суіснавалі два грамадствы: гоцкае і гала-рымскае. Сацыяльная структура апошняга была такой, як і пры рымскай уладзе. Захоўваліся буйныя зямельныя магнаты, рабы, калоны, прэкарысты, права прыватнай уласнасці на зямлю. Рымскімі заставаліся гарады; готы, якія складалі усяго 2–3 % насельніцтва, у гарадах сяліліся рэдка. Рымляне плацілі падаткі, але не неслі ваеннай службы. Готы ж, наадварот, складалі войска і не плацілі падаткаў. У апараце кіравання дамінуючая роля належала готам. Родаплемянныя адносіны сярод готаў разлагаліся хутка. Узнікла аладыяльная форма уласнасці на зямлю. Знаць мела буйныя зямельныя ўладанні. У готаў былі рабы, у разрад якіх маглі трапіць і даведзеныя да галечы супляменнікі, якія маглі стаць і прэкарыстамі. Афіцыйна быў прызнаны і патрацыній сярод готаў. Наогул, звод законаў караля Эйрыха для готаў спалучаў у сабе нормы звычайнага германскага права і рымскія прававыя нормы (у прыватнасці, адносна адчужэння зямлі, абарона уласнасці).

Але дамінуючай варварскай дзяржавай на тэрыторыі Галіі стала каралеўства франкаў. Пасля таго як франкі набылі статус рымскіх федэратаў, іх адносіны з рымлянамі былі даволі неадназначнымі. Яны то дапамагалі рымлянам у барацьбе

з іншымі варварамі, то, так бы мовіць, “у перапынках” рабілі захопы новых рымскіх тэрыторый. У 450 г. яны захапілі Кёльн, каля 470 г. – Трыр. Рымскія аўтары таго часу лічылі іх людзьмі вераломнымі, ілжывымі, дзікунамі, называючы іх нават monstra – пачварамі.

Прасоўваючыся ў глыб Галіі, франкі апынуліся ля межаў створанай у Паўночнай Галіі рымскай дзяржавы Сіагрыя. Гэтая дзяржава ўзнікла у 461 г., калі рымскае войска, што знаходзілася там, адмовілася падпарадкоўвацца уладам Заходняй Рымскай імперыі. Сіагрый, яе трэці па ліку правіцель, абвясціў сябе “царом” і некаторы час адбіваўся ад варвараў, захоўваючы на гэтай тэрыторыі рымскае панаванне. Сталіцай яго дзяржавы быў горад Суасон, каля якога войска Сіагрыя і было разбіта у 486 г. салічнымі франкамі на чале з Хлодвігам. Разгром Сіагрыя паклаў канец рымскаму панаванню ў Галіі.

Хлодвіг, які нарадзіуся каля 465 г., быў сынам конунга адной із груп салічных франкаў Хільдэрыка. Спачатку Хільдэрык разам з рымскімі правіцелямі Паўночнай Галіі адбіваў напады вестготаў, а потым разарваў саюзны дагавор з Сіагрыем. Магіла Хільдэрыка, які памер у 481 г., была знойдзена у XVIII ст. Гэтае багатае пахаванне яскрава сведчыць аб месцы і ролі конунга у тагачасным франкскім грамадстве. Было знойдзена сто залатых манет, адчаканеных у Канстанцінопалі, дзвесце сярэбраных, залатая брошка, якую звычайна насілі рымскія военачальнікі, доўгі меч з пазалочанай ручкай, кароткі меч, дзіда і баявая сякера. Уладу бацькі атрымаў у спадчыну Хлодвіг, пры якім франкі падпарадкавалі сабе большую частку Галіі.

Асноўнай крыніцай па гісторыі франкаў пры Хлодвігу з’яўляецца “Гісторыя франкаў” Грыгорыя Турскага. Яна напісана амаль праз сто гадоў пасля пачатку праўлення Хлодвіга, і даследчыкі заўважылі пэўныя недакладнасці у храналогіі Грыгорыя Турскага. На жаль захаваліся толькі адзінкавыя сведчанні сучаснікаў Хлодвіга, і мы вымушаны арыентавацца на храналогію турскага епіскапа.

Пасля заваявання дзяржавы Сіагрыя Хлодвіг падпарадкаваў цюрынгаў, якія жылі на левым беразе Рэйна. У 497 г. разам з правадыром сярэднерэйнскіх франкаў Сігібертам ён разграміў алеманаў. Сігіберт у бітве загінуў, а алеманы вымушаны былі прызнаць уладу Хлодвіга. У 507 г. франкі на чале з Хлодвігам разграмілі на поўнач ад Пуацье вестготаў. Толькі пры падтрымцы остготаў вестготам удалося захаваць невялікую частку сваіх уладанняў на поўдні Галіі, якая аднак закрывала франкам выхад да Міжземнага мора. У асноўным жа адносіны паміж Хлодвігам і каралем остготаў Тэадорыхам былі мірнымі, што прадаманстраваў шлюб сястры Хлодвіга з Тэадорыхам. Сам Хлодвіг ажаніуся з пляменніцай караля бургундаў. І хаця спачатку Хлодвіг ваяваў з бургундамі, у кампаніі супраць вестготаў ён дзейнічаў ужо ў саюзе з імі. У апошнія гады праўлення (а памер ён у 511г.) Хлодвіг быў заняты далучэннем да сваіх уладанняў іншых дзяржаў франкаў, якія былі даволі дробнымі. Пры гэтым шмат

конунгаў і знаці салічных франкаў ён фізічна знішчыў нягледзячы на тое, што многія з гэтых людзей былі яго сваякамі.

Моц дзяржавы, створанай Хлодвігам, характарызуе факт прыбыцця да яго ў 508 г. у Тур пасольства візантыйскага імператара. Уладар Візантыі надаў каралю франкаў тытул ганаровага консула, прыслаў атрыбуты вышэйшай улады: хламіду (разнавіднасць плашча), пурпурную туніку і дыядэму. Хлодвіг прыняў хрысціянства ў яго артадаксальным (нікеа-канстанцінопальскім) варыянце, што ліквідавала канфесіянальную варожасць паміж гала-рымскім насельніцтвам і прышэльцамі-франкамі  і забяспечыла яму падтрымку мясцовага духавенства.

Пасля смерці Хлодвіга тэрыторыя і насельніцтва франкскай дзяржавы была падзелена паміж чатырма яго сынамі. Спачатку яны дзейнічалі сумесна, заваёўваючы суседнія тэрыторыі. Калі ж адзін з іх, Хладамер, быў забіты ў бітве, астатнія браты падзялілі яго ўладанні, нічога не пакінуўшы яго сынам. У 534 г. франкі захапілі дзяржаву бургундаў. У 536 г. остгоцкі кароль аддаў франкам Праванс (на поўдні сучаснай Францыі), спадзеючыся на іх дапамогу ў барацьбе з візантыйцамі, якія высадзіліся ў Італіі. Аднак у гэты час нашчадкі Хлодвіга перасталі дзейнічаць узгоднена і пачалі барацьбу паміж сабою. Хтосьці з іх падтрымаў візантыйцаў, хтосьці ваяваў з імі, а хтосьці ваяваў і супраць візантыйцаў, і супраць вестготаў. У 558 г. адзіным франкскім каралём з нашчадкаў Хлодвіга застаўся яго сын Хлотар. Але гэтае адзінства захоўвалася ўсяго тры гады – да смерці Хлотара ў 561 г., пасля чаго дзяржава зноў была падзелена паміж яго чатырма сынамі. К сярэдзіне VI ст. франкі заваявалі амаль усю Галію, яны падпарадкавалі сабе таксама і цюрынгаў, алеманаў, бавараў (на тэрыторыі Германіі).

На думку даследчыкаў, у V ст. у рымскай Галіі жыло ад 6 да 10 млн чалавек. Колькасць германскіх варвараў, якія захапілі гэтыя тэрыторыі складала каля 0,5 млн чалавек (з іх 200 тыс. франкаў, 150 тыс. вестготаў, 100 тыс. алеманаў, 50 тыс. бургундаў).

**Франкская дзяржава Меравінгаў.** Хлодвіг паходзіў з роду Меравея. Таму дынастыя каралёў франкаў, якая паходзіла ад яго, атрымала назву Меравінгскай. Правіла яна ў франкскай дзяржаве да сярэдзіны VIII ст., але ў апошнія дзесяцігоддзі улада меравінгскіх каралёў была ўжо толькі фармальнай, за іх фактычна правілі іншыя.

Сацыяльныя адносіны ў дзяржаве Меравінгаў характарызаваліся спачатку суіснаваннем тых адносін, якія склаліся раней сярод гала-рымскага насельніцтва, і грамадскіх адносін паміж варварамі-заваёўнікамі. Прычым тэрмін “суіснаванне” не зусім дакладны, бо і гала-рымляне і германцы падпарадкоўваліся адзінай вярхоўнай уладзе – уладзе франкскіх каралёў. Доля заваёўнікаў-германцаў у агульнай колькасці насельніцтва дзяржавы Меравінгаў была непараўнальна меншай, чым мясцовага насельніцтва – ад 5 да 8 %, хоць гэты паказчык

з’яўляецца больш высокім, чым у многіх іншых дзяржавах варвараў, заснаваных на тэрыторыі былой Заходняй Рымскай імперыі. На поўдні Галіі вестготы і бургунды сяліліся у асноўным упярэмешку з мясцовым насельніцтвам і “падзялялі” з ім землі (дакладней, адабралі) – забралі дзве трэці ворнай зямлі і значную частку рабоў. Франкі ж сяліліся на поўначы Галіі асобнымі ад гала-рымлян паселішчамі і не “дзялілі” зямлю і рабоў з мясцовымі уласнікамі шляхам экспрапрыацыі. Спачатку жыццё германскіх прышэльцаў рэгулявалася іх звычаёвым правам, а гала-рымскага насельніцтва – нормамі рымскага права. Яшчэ пры Хлодвігу ўдзельнічаць у вайсковым апалчэнні маглі толькі франкі, аднак ужо пры яго сынах гэты абавязак быў пашыраны і на гала-рымлян. Калі пры першых Меравінгах пазямельны і падушны падаткі выконвала толькі гала-рымскае насельніцтва (што захавалася яшчэ з антычных часоў), а франкі былі ад іх вызвалены, то паступова гэтая павіннасць была распаўсюджана і на іх.

Далейшае развіццё сацыяльных працэсаў у франкскай дзяржаве ішло па шляху выспявання новых адносін у гала-рымскай і варварскай супольнасцях з іх узаемным уплывам. У выніку адбылося іх зліццё ў адносіны новага тыпу – феадальныя. Сутнасць гэтага працэсу даследчыкі часта характарызуюць як сінтэз. Пры гэтым часта ў дачыненні да франкскай дзяржавы гаворыцца аб “прапарцыянальным сінтэзе” ў сэнсе раўназначнасці позneантычнага і варварскага элементаў, хоць такі тэзіс вельмі лёгка аспрэчыць, бо праблема крытэрыяў сінтэзу вельмі дыскусійная, і выбар тых ці іншых крытэрыяў можа даць узаемавыключальныя вынікі. Як бы там ні было, але сінтэз сапраўды адбыўся. І гэта значна паскорыла складванне феадальных адносін у параўнанні з тымі грамадствамі, дзе не было позneантычнага (напрыклад, ва ўсходніх славян) ці варварскага (у Візантыі) субстрату.

Роля гала-рымскага субстрату ў фарміраванні новых сацыяльных адносін у франкскай дзяржаве часта недаацэньвалася даследчыкамі, і не толькі тымі, хто разглядаў генезіс феадалізму як выключна эвалюцыю ладу варвараў. Апошнія археалагічныя даследаванні абвергні погляд аб тым, што паўночна-заходняя Галія была слаба раманізаванай. Была адкрыта вялікая колькасць рымскіх маёнткаў, частка якіх ацалела і пасля ўварвання франкаў. Тыя маёнткі (буйныя латыфундыі, вілы), уласнікі якіх не ўцяклі ці не былі забіты, захавалі сваю ўласнасць на зямлю і рабоў. Прыватная ўласнасць у яе рымскім разуменні захавалася. Захаваўся і каланат. Буйным зямельным уладальнікам заставалася царква, землі якой апрацоўвала мноства рабоў. “Салічная праўда” ведае падзел гала-рымскага насельніцтва на “каралеўскіх сатрапезнікаў” (буйных землеўладальнікаў, набліжаных да караля), пасэсараў (дробных землеўладальнікаў) і трыбутарыяў (якія выконвалі павіннасці за карыстанне чужою зямлёй). Вергельд “каралеўскага сатрапезніка” быў у 1,5 разы вышэйшы за вергельд радавога вольнага франка, пасэсара – у 2 разы ніжэй, а трыбутарыя – ніжэй у 3 разы. Буйныя магнаты,

епіскапы пашыралі сваю судова-адміністрацыйную ўладу над насельніцтвам, якое жыло на іх землях, аб чым сведчаць палажэнні прававых актаў ужо першай паловы VI ст. наконт таго, што яны ігнаруюць патрабаванні каралеўскіх суддзяў. Зямельная ўласнасць буйных гала-рымскіх магнатаў была прыцягальным узорам для фарміравання такой уласнасці сярод вярхушкі франкаў.

Паступова ўзрастала колькасць рабоў, пасаджаных на зямлю. Ім даваліся зямельныя надзелы, і яны павінны былі выплочваць аброк. Шмат рабоў працавала і на землях дамена. Захоўваліся і рабы-слугі. Рабы не мелі ніякіх грамадзянскіх правоў, яны лічыліся часткай маёмасці свайго гаспадара, ім забаранялася служыць у войску. Гаспадар, праўда, ужо не мог беспакарана забіць раба, але ж кара яму за гэта была толькі царкоўная.

Захоўваліся вольнаадпушчанікі, якія па-ранейшаму абавязаны былі выконваць павіннасці на карысць сваіх патронаў (у тым ліку паншчыну і аброк). Яны атрымлівалі зямельны надзел ад патрона ці ва ўласнасць, ці у часовае ўладанне.

Шматлікім слоем гала-рымскага насельніцтва былі прымацаваныя да зямлі калоны. Іх статус быў спадчынным. Яны не служылі у войску. Маёмасць калонаў лічылася маёмасцю іх гаспадара, па суду яны маглі падвяргацца тартурам. Але калонаў, як правіла, не прадавалі без іх зямельных надзелаў, яны самі маглі прадаваць уласны ўраджай, маглі падаць у суд на свабодных людзей, абавязкі іх гаспадару былі строга зафіксаванымі.

Сярод дробных зямельных уласнікаў як гала-рымскага, так і варварскага паходжання, пры Меравінгах працягвала існаваць практыка перадачы зямлі у прэкарый. Яна стала адным з галоўных спосабаў уцягвання свабоднага сялянства ў пазямельную залежнасць ад буйных землеўладальнікаў. Спачатку пераважала такая форма прэкарыя, калі землеўладальнік даваў частку сваей зямлі чалавеку, які не меў яе зусім ці меў недастаткова (precaria data – прэкарый дадзены). У адпаведнай прэкарнай грамаце фіксаваліся павіннасці такога ўладальніка чужой зямлі – звычайна натуральны аброк. У больш позні перыяд пашырыўся “прэкарый вернуты” (precaria oblata), калі дробны землеўладальнік пад прымусам абставін сам аддаваў сваю зямлю буйному ўласніку і атрымоўваў яе зноў, але ўжо не на правах уласнасці і з абавязацельствам выконваць пэўныя павіннасці. Быў і “прэкарый з узнагародай”, калі былы ўласнік надзела атрымліваў ад гаспадара не толькі свой надзел, але і дадатак з зямель буйнога ўласніка.

Адным з галоўных каналаў складвання асабістай залежнасці дробных свабодных землеўладальнікаў ад магнатаў была камендацыя (як сярод гала-рымлян, так і варвараў). У пэўным сэнсе яна была вынікам эвалюцыі познеантычнага патрацынія. Калі рымскія імперскія ўлады, занепакоеныя змяншэннем паступленняў падаткаў у казну, імкнуліся забараніць патрацыній, то ў варварскіх каралеўствах ён быў легалізаваны. Камендацыя (ад лац. commendatio

– даручэнне) была актам уступлення свабоднага чалавека ў пэўную асабістую залежнасць ад буйнога землеўладальніка (свецкага ці духоўнага). Той, да каго камендаваліся, браў на сябе абавязкі апякунства, перш за ўсё, забяспечваў бяспеку асобы і маёмасці (калі яна была) падапечнага. Тыя ж, хто камендаваўся, абавязваліся выконваць пэўную службу на карысць патрона або аддавалі сваю зямлю. Нярэдка людзі, якія не мелі зямлі, пасля камендацыі атрымлівалі ад патрона зямлю. Такім чынам камендацыя (асабістая залежнасць) спалучалася з прэкарнымі адносінамі (пазямельная залежнасць). Камендаваныя людзі мелі статус свабодных людзей, але калі яны пакідалі свайго патрона, то абавязаны былі вярнуць яго маёмасць.

Сярод варвараў пачаткі камендацыі можна заўважыць ужо ў адносінах дружыннікаў да свайго правадыра, якому яны абавязваліся служыць, а той забяспечваў іх зброяй, часткай здабычы, а потым і зямлёю. Камендацыя, такім чынам, служыла складванню адносін асабістай залежнасці не толькі у дачыненні да ніжэйшых слаёў свабоднага насельніцтва, але і да яго верхніх слаёў.

Заваёўнікі-германцы пераходзілі да новых феадальных адносін ад першабытнага ладу, і гэты пераход быў паскораны ўплывам прыватнаўласніцкіх адносін гала-рымскага грамадства.

Аб пачатках маёмаснага расслаення сярод франкаў сведчыць ужо “Салічная праўда”, якая ўяўляе сабой запіс звычаевага права. Многія даследчыкі лічаць, што гэты запіс быў зроблены пры Хлодвігу, хоць іншыя юрыдычныя дакументы франкаў не даюць звестак аб існаванні такога запісу да канца VI ст., а зробленая ў VIII ст. спасылка на волю “першага караля франкаў” можа быць аднесена і да Хлодвіга, і да яго бацькі Хільдэрыка. Акрамя таго, “Салічная праўда” дапаўнялася аж да IX ст.

“Салічная праўда” сведчыць аб тым, што дамінуючым заняткам франкаў было земляробства. І гэта рэзка кантрастуе з характарыстыкай германцаў (няхай і тэндэнцыйнай) рымскага гісторыка Тацыта: “намнога цяжэй пераканаць іх узараць поле і чакаць цэлы год ураджаю, чым схіліць змагацца з ворагам”. Зямля выступае сапраўды галоўным сродкам вытворчасці. Сацыяльная структура франкаў выглядае наступным чынам: знаць, свабодныя, напаўсвабодныя, рабы. Вергельд чалавека, які знаходзіцца на каралеўскай службе, паводле “Салічнай праўды” складаў 600 солідаў, свабоднага франка – 200, літа – 100.

Рода-племянная знаць у “Салічнай праўдзе” не ўпамінаецца, хутчэй за ўсё, тут адлюстраваны перыяд, калі яна адцяснялася новай служылай знаццю (каралеўскімі дружыннікамі). Няма ніякай дыферэнцыяцыі прававога статусу сярод простых свабодных.

Галоўны элемент палажэнняў “Салічнай праўды” – абарона асобы і маемасці свабодных гаспадароў. Такі гаспадар валодаў домам, ворыўным надзелам, карыстаўся выпасам для сваёй жывёлы, лесам. Сяляне-земляробы, якія жылі у

адным паселішчы (ці ў некалькіх суседніх хутарах), складалі абшчыну. Аб яе характары ішлі і ідуць дыскусіі сярод навукоўцаў. Наўрад ці яе можна ахарактарызаваць як землябробчую (з калектыўнай уласнасцю на тэрыторыю і падзелам ворыўнай зямлі паміж вялікімі патрыярхальнымі сем'ямі) ці як абшчыну-марку (або суседскую з індывідуальнай уласнасцю малых сямей на надзелы ворыўнай зямлі пры захаванні калектыўнай уласнасці на іншыя ўгоддзі). Плаўная эвалюцыя германскай абшчыны ад кроўнароднаснай (з сумесным вядзеннем гаспадаркі і калектыўнай уласнасцю на зямлю кроўных сваякоў) да землябробчай, а потым да суседскай падчас германскіх заваяванняў была парушана. Масавыя перасяленні прыводзілі да змен месцаў паселішчаў, сістэмы землекарыстання, парушалі кроўнароднасныя сувязі. Вялікая колькасць зямлі пры малой колькасці насельніцтва прыводзіла да панавання хутарскіх паселішчаў і рабіла непатрэбнай калектыўную ўласнасць на ворыўную зямлю. Неабходнасць рэгулявання адносін паміж суседзямі-землябробамі узнікла па меры павелічэння колькасці насельніцтва. Глава 45 "Салічнай праўды" гаворыць аб тым, што калі у паселішчы пажадае абаснавацца які-небудзь перасяленец, то ён можа не атрымаць дазволу на гэта, калі толькі адзін з мясцовых гаспадароў выступіць супраць, зусім не сведчыць аб вярхоўнай уласнасці абшчыны на зямлю. Гэтая глава сведчыць хутчэй за ўсё не аб калектыўнай волі жыхароў паселішча, а аб іх індывідуальных інтарэсах. Артыкулы "Салічнай праўды" аб узаемадапамозе кроўных сваякоў не могуць служыць прамым доказам аб існаванні вялікай патрыярхальнай сям'і, тым больш аб яе ўласнасці на ворыўныя надзелы ці аб сумеснай працы тых, хто ў яе ўваходзіў. "Салічная праўда" адлюстроўвае адзін з апошніх этапаў пераходу ад землябробчай да суседскай абшчыны. Гэта – аб'яднанне суседзяў, якія асобна валодалі ворыўнымі надзеламі і якія былі зацікаўлены ў рэгуляванні сумеснага карыстання іншымі угоддзямі. Такая абшчына яшчэ аморфная, фарміраванне яе завершыцца пазней. І істотным крокам была адмена ў другой палове VI ст. прававых абмежаванняў распараджэння алодам (зямельным надзелам малых сямей). Алод перастае быць спадчынным уладаннем, ён ператвараецца ў прыватную ўласнасць гаспадара, які можа яе завяшчаць, падараваць, прадаць.

Узнікненне алода як прыватнай уласнасці вяло да паглыблення сацыяльнай дыферэнцыяцыі сярод франкаў. Стваралася магчымасць да канцэнтрацыі зямлі ва ўласнасці прадстаўнікоў аднаго полюса грамадства і пазбаўлення яе прадстаўнікоў процілеглага полюса. Ужо крыніцы VII ст. сведчаць аб тым, што ў прэкарныя адносіны, камендацыю ўцягваецца і некаторая частка свабодных франкаў, а не толькі гала-рымскае насельніцтва.

Істотная роля ў стварэнні буйнога землеўладання ў франкаў пры Меравінгах належала каралеўскай уладзе. Каб мець надзейную апору, каралі шчодра раздавалі землі і імунітэтныя правы сваім дружыннікам, саноўнікам, епіскапам,

абатам. Падчас заваяванняў каралі сталі уласнікамі вялікіх зямельных масіваў, якія раней належалі заходнерымскім імператарам, каралям бургундаў, вестготаў. На землях, атрыманых з гэтага фонду франкскай знаццю, працавалі як рабы франкаў і іх літы, так і залежныя людзі з гала-рымскага насельніцтва.

Франкскія літы самастойна вялі гаспадарку, але на зямлі, якая належыла іх гаспадару, і выплочвалі яму аброк. Літы маглі распараджацца маемасцю, якая належыла ім. Яны находзіліся ў асабістай залежнасці ад свайго гаспадара; поўныя правы свабоднага чалавека літ мог атрымаць толькі тады, калі яго адпускалі на волю.

Далейшая эвалюцыя сацыяльных адносін у франкскай дзяржаве ішла ў кірунку складвання класа феадальных землеўладальнікаў як германскага, так і гала-рымскага паходжання і класа залежных сялян праз размыванне слоя простых свабодных уласнікаў алодаў і ніверіравання становішча розных катэгорый залежных людзей.

Заваяванне франкамі часткі тэрыторыі былой Заходняй Рымскай імперыі паскорыла працэс фарміравання дзяржаўнай структуры. Пры Меравінгах яна была яшчэ даволі прымітыўнай з мноствам рэшткаў былой родаплемяннай арганізацыі, якія паступова саступалі свае месца новым дзяржаўным інстытутам.

На чале дзяржавы стаяў кароль, які перадаваў сваю ўладу ў спадчыну. Ён быў амаль поўнаўладным манархам. Усё насельніцтва дзяржавы (і свабодныя, і несвабодныя), дасягнуўшае 12-гадовага ўзросту павінна было прыносіць прысягу вернасці каралю, калі ён займаў прастол. Парушэнне загадаў караля цягнула за сабою пакаранне вялікім штрафам або фізічным калецтвам, крымінальныя дзеянні супраць яго асобы караліся смерцю. Манарх мог беспакарана без усякага суда пазбавіць жыцця любога свайго падданага.

Кароль меў вышэйшую заканадаўчую ўладу. Па каралеўскім загадзе запісваліся Салічная, Алеманская, Баварская і іншыя “варварскія праўды”. Кароль выдаваў і свае заканадаўчыя распараджэнні, якія пры Меравінгах называліся эдыктамі і дэкрэтамі, а пры Каралінгах – капітулярыямі. Аднак тэксты эдыктаў і дэкрэтаў сведчаць аб тым, што каралі выдавалі іх са згоды знаці і дружыннікаў, якія пастаянна знаходзіліся пры двары караля, ці запрашаліся ім з месцаў. Больш шырокі савет знаці збіраўся пад час “сакавіцкіх палёў” для абмеркавання заканадаўчых пытанняў. “Сакавіцкія палі” (пазней “майскія”) ужо не былі былым агульным народным сходам франкаў, яны ператварыліся ў ваенныя агляды, дзе зачытваліся каралеўскія ўказы. Неўзабаве і гэтыя ваенныя агляды перасталі склікаць.

Каралеўскі двор быў па сутнасці цэнтральным апаратам кіравання дзяржавай. Акрамя дружыннікаў і знаці, важная роля ў ім належала служачым і слугам караля. Свабодныя франкі грэбавалі выкананнем функцый слуг (нават і каралю) і звычайна ў слугі набіралі несвабодных людзей, рабоў. Усімі

прыдворнымі слугамі кіраваў старэйшы раб, які стаў у далейшым першым міністрам з тытулам маярдом. Міністрамі зрабіліся і слугі, якія ўзначальвалі пэўныя службы: пфальцграф (старшыня палацавага суда), тэзаўрарый (зберагальнік скарбаў), маршал (адказны за канюшню) і г. д.

Адміністрацыйны падзел Франкскай дзяржавы быў заснаваны галоўным чынам на былым рымскім падзеле на акругі (пагі і цывітас). Гэтыя акругі ператварыліся ў графствы – асноўныя адміністрацыйныя адзінкі. На чале іх стаялі графы, якія назначаліся каралём і былі адказныя перад ім. З пачатку VII ст. графы назначаліся толькі з буйных землеўладальнікаў дадзенага графства. Граф меў адміністрацыйную, судовую і фіскальную ўладу над мясцовым насельніцтвам незалежна ад яго этнічнага паходжання, а таксама ўзброены атрад. Сабраныя падаткі і штрафы граф адсылаў каралю, але трэцюю іх частку пакідаў сабе як узнагароду за службу.

У шэрагу мясцовасцей былі створаны больш буйныя адміністрацыйныя адзінкі – герцагствы. Мясцовыя графы падпарадкоўваліся герцагу, які камандаваў апалчэннем падначаленых яму графстваў. Адны з герцагаў былі былымі племяннымі князямі германцаў, іншыя назначаліся каралём.

Графствы падзяляліся на “сотні”, якія паходзілі яшчэ ад адпаведных старажытнагерманскіх структур. Але сотнікі ужо не выбіраліся мясцовым насельніцтвам, а назначаліся каралём ці графам. Яны старшынствавалі на судовых сходах, збіралі падаткі і штрафы, адказвалі за пастаўку воінаў у апалчэнне.

Пасля чарговага падзелу Франкскай дзяржавы паміж сынамі Хлотара разгарэлася жорсткая барацьба, якую працягнулі іх жонкі і сыны. Пераможцам у гэтай барацьбе выйшаў Хлотар II, унук Хлотара, які у пачатку VII ст. зноў аб’яднаў усе франкскія ўладанні. Апошнім моцным каралём з дынастыі Меравінгаў, які здолеў правіць усей дзяржавай, быў яго сын Дагаберт (629–638). Дагаберт паспяхова змагаўся з сепаратызмам і свавольствам правінцыяльнай знаці, імкнуўся (хоць і без асаблівых поспехаў) заваяваць новыя землі на ўсходзе, у тым ліку і заходніх славян. Пасля яго смерці моц каралеўскай улады значна аслабла. Франкская дзяржава фактычна распалася на шэраг самастойных тэрыторый, сярод якіх выдзяляліся каралеўствы Аўстразія (на паўночным усходзе), Нейстрыя (на паўночным захадзе), Бургундыя (на паўднёвым усходзе), герцагства Аквітанія (на паўднёвым захадзе). У самастойных франкскіх каралеўствах правілі каралі з Меравінгскай дынастыі. І хоць апошні кароль гэтай дынастыі быў звергнуты толькі у сярэдзіне VIII ст., і дынастыя правіла франкамі больш за два з паловай стагоддзі (столькі не правіла ні адна з каралеўскіх дынастый Заходняй Еўропы ў раннім сярэдневякоўе), верхавенства Меравінгаў у апошняе стагоддзе было толькі намінальным. Яны былі марыянеткамі у руках груповак франкскай знаці, якая значна ўзмацнілася да гэтага часу.

Меравінгскіх каралёў гэтага перыяду (638–751) называлі *“гультаяватымі каралямі”*. Першакрыніцы (з большага тэндэнцыйна) характарызуюць многіх з іх як “простых розумам” або хворых ад нездаровага ладу жыцця. Аднак нельга цалкам давяраць гэтым сведчанням, якія складаліся пад яўным уплывам Каралінгаў, хоць пэўная глеба да такіх сцвярджэнняў і існавала – немала каралёў пачыналі правіць яшчэ немаўлятамі. “Гультаяватымі” ж яны былі не ад гультайства, а ад таго, што ім не давалі правіць па ўласнай волі.

Фактычна Аўстразіяй, Нейстрыяй і Бургундыяй правілі не каралі, а іх першыя міністры – *маярдомы*, хоць і адбывалася гэта ў барацьбе розных груповак мясцовай знаці. Спачатку маярдомы прызначаліся каралямі, потым іх ставіла знаць, а ўзмацніушыся маярдомы пачалі перадаваць сваю пасаду ў спадчыну сынам. І ужо не каралі прызначалі маярдомаў, а маярдомы каралёў.

Спачатку мацнейшымі былі маярдомы Нейстрыі, галоўным горадам якой быў Парыж. Потым перавага перайшла да маярдомаў Аўстразіі, якія з цягам часу ўсталявалі сваё фактычнае вяршэнства над усёй краінай. У Аўстразіі яшчэ з пачатку VI ст. стварылася сапраўдная дынастыя маярдомаў. Ля яе вытокаў стаяў Піпін (якога пазначаюць як Піпін I), маярдом караля Дагаберта. У далейшым маярдомамі станавіліся патомкі ад шлюбу яго дачкі і сына радцы Дагаберта епіскапа Арнульфа. Таму першых прадстаўнікоў гэтай дынастыі маярдомаў часта называюць Арнульфідамі або Піпінідамі (а потым Каралінгамі).

У 687 г. аўстразійскі маярдом Піпін II, выкарыстаўшы канфлікты паміж знаццю ў Нейстрыі, разбіў войска нейстрыйскага маярдома. Ён усталяваў сваю фактычную ўладу над дзвюма буйнейшымі часткамі Франкскай дзяржавы, а канчаткова аб’яднаў усю краіну пад сваёй уладай яго сын (дарэчы не ад законнага шлюбу) Карл Мартэл (“молат”). За час свайго праўлення ён асабіста прызначыў трох каралёў-марыянетак. Калі ж апошні з іх памёр, то на працягу чатырох гадоў (да сваёй смерці у 741 г.) Карл не прызначыў новага караля, што яшчэ раз яскрава прадэманстравала, хто з’яўляецца сапраўдным гаспадаром у дзяржаве.

Пасля смерці Піпіна II (714 г.) па загадзе яго ўдавы, якая імкнулася правіць краінай у якасці рэгентшы маярдомаў, Карл быў заключаны ў турму. У гэты час знаць Нейстрыі скінула ўладу аўстразійскіх маярдомаў, і нейстрыйскае войска ўварвалася ў Аўстразію. Вызвалены Карл паквітаўся са сваёю крыўдзіцелькаю і перамог мяцежных нейстрыйцаў; потым ён аднавіу панаванне франкаў над фрызамі, саксамі, алеманамі і баварамі. Цынічна і жорстка ён падпарадкаваў сабе правіцеляў Аквітаніі і Праванса, выкарыставаўшы іх барацьбу з арабскімі захопнікамі. Калі войска герцага Аквітаніі разбілі арабы, той вымушаны быў звярнуцца за дапамогай да Карла. У 732 г. Карл Мартэл разграміў арабаў у бітве каля Пуацье. Калі ж неўзабаве герцаг Аквітаніі памёр, Карл акупіраваў яго ўладанні. Крыху пазней Карл Мартэл нанёс паражэнні арабам у Правансе і за адным заходам марсельскаму герцагу, далучыўшы Праванс да сваіх уладанняў. У

Бургундыі ён прызначыў новых чыноўнікаў і здзейсніў пераразмеркаванне зямель на карысць сваіх прыхільнікаў.

Выключна важную ролю ў фарміраванні феадальных адносін адыграла так званая бенефіцыяльная рэформа Карла Мартэла. Непасрэднымі яе прычынамі былі, па-першае, неабходнасць стварэння моцнага коннага войска, якое пераўзыходзіла пешае войска па баявых якасцях – апалчэнне са свабодных сялян (і франкская конніца паказала сваю моц у бітвах з арабамі, у якіх менавіта яна была галоўнай ударнай сілай). Моцнае войска асабліва было неабходным, каб утрымаць далучаныя да Аўстразіі уладанні, даць адпор знешнім ворагам і ў далейшым пашырыць межы Франкскай дзяржавы. Слой свабодных людзей, уладальнікаў дробных алодаў, размываўся, у выніку чаго скарачалася колькасць воінскага апалчэння з гэтых людзей. Па-другое, бенефіцыяльная рэформа мела мэтай стварэнне шырокага слоя землеўладальнікаў-воінаў, залежных ад каралеўскай улады, якой яны абавязаны былі службай на ўмовах надзялення зямлёю з людзьмі, сваёй працай забяспечваўшых іх матэрыяльна. Гэта было надзвычай актуальным у тыя часы, калі стабільнасць сітуацыі у краіне пастаянна парушалася барацьбой паміж рознымі групоўкамі знаці.

Калі раней пажалаваныя меравінгскімі каралямі землі перайшлі у прыватную ўласнасць асобных людзей і царквы і, такім чынам, былі страчаны для дзяржаўнай улады, то Карл Мартэл пачаў раздаваць землі ва ўмоўнае і часовае ўладанне ў выглядзе бенефіцыя. Зямля (звычайна з людзьмі, што працавалі на ёй) давалася ў пажыццёвае карыстанне на ўмовах выканання яе ўладальнікам ваеннай (радзей адміністрацыйнай) службы. Калі уладальнік бенефіцыя паміраў, гэтае пажалаванне вярталася таму, хто яго даваў. Бенефіцый мог быць аддадзены іншаму чалавеку, але звычайна зноў даваўся яго нашчадку бенефіцыярыя на тых жа ўмовах пажыццёвага выканання службы. Калі бенефіцыяр дрэнна выконваў службу або дрэнна веў гаспадарку бенефіцыя, то пажалаванне магло быць адабрана. Гледзячы на вярхоўнага правіцеля, і іншыя буйныя землеўладальнікі пачалі даваць землі на ўмовах бенефіцыя, ствараючы слой залежных ад сябе землеўладальнікаў-воінаў.

Узнікненне бенефіцыя садзейнічала ўсталяванню адносін пазямельнага і асабістага панавання-падпарадкавання паміж тым, хто даваў зямлю, і тым, хто яе атрымліваў на ўмовах службы. Бенефіцыяр быў ужо васалам, яго залежнасць ад уласніка перададзенай яму зямлі (сеньёра) была заснавана на дагаворных адносінах. У адрозненне ад дружынніка, які цалкам залежаў ад свайго гаспадара, васал быў абавязаны выконваць для свайго сеньёра толькі пэўную службу і сам матэрыяльна забяспечваў сябе, кіруючы гаспадаркай бенефіцыя.

Фонд зямель, якія можна было раздаць у якасці бенефіцыя, пры Карле Мартэле быў ужо адносна невялікім. І калі спачатку Карл раздаваў землі, канфіскаваныя ў апазіцыйнай знаці, то потым вымушаны быў ажыццявіць па

сутнасці першую ў гісторыі Еўропы частковую секулярызацыю царкоўнай зямлі. Слой каралеўскіх бенефіцыяраў-васалаў, які быў створаны ў выніку рэформы, на першых часах стаў моцнай апорай вышэйшай дзяржаўнай улады ў франкаў.

**Франкская дзяржава Каралінгаў.** Паколькі Карл Мартэл усталяваў рэальную ўладу над усёй Франкскай дзяржавай, шэраг даследчыкаў лічыць, што ўжо пачынаючы з яго можна гаварыць аб праўленні новай дынастыі у франкаў – дынастыі Каралінгаў (ад імені Карл). Аднак фармальна Карл Мартэл яшчэ не абвяшчаў сябе каралём. Гэта зрабіу яго сын Піпін ІІІ, які за свой нізкі рост атрымаў мянушку "Кароткі".

Праўленне Піпіна Кароткага пачыналася ў няпростай сітуацыі: пасля смерці Карла Мартэла (у 741 г.) з-пад улады франкскіх маярдомаў выйшлі герцаг Аквітаніі і алеманскі і баварскі герцагі. Піпіну прыйшлося весці цяжкія войны з імі, каб зноў падпарадкаваць сабе гэтыя тэрыторыі. Асабліва жорсткім быў яго апошні паход у Аквітанію, які суправаджаўся спусташэннем і масавымі забойствамі.

Узмацніушы ўладу ў краіне, Піпін Кароткі вырашыў пазбавіцца ад стаўшай непатрэбнай яму шырмы меравінскіх каралёў. Каб надаць легітымнасць перавароту, ён вырашыў выкарыстаць аўтарытэт царквы. Атрымаўшы згоду папы рымскага, Піпін у 751 г. прымусіу апошняга караля з Меравінгаў пастрыгчыся ў манахі, а сам быў на сходзе франкскай знаці абвешчаны каралём у Суасоне. Франкскі епіскап здзейсніу над ім асобы царкоўны абрад памазання на царства. Гэты абрад быў паўтораны асабіста папам рымскім у 754 г. падчас яго візіту да Піпіна. У падзяку Піпін нанес паражэнне лангабардам, якія пагражалі папе, і аддаў таму землі у цэнтры Італіі.

Піпін памер у 768 г., і у адпаведнасці з яго воляй Франкская дзяржава была падзелена паміж яго двума сынамі Карлам і Карламанам. Аснову ўладанняў Карла склалі Аўстразія і Нейстрыя, Карламана – Бургундыя, Праванс, Алеманія. Браты пачалі канфліктаваць з-за Аквітаніі, але смерць Карламана ў 771 г. пакінула Карла адзіным уладаром Франкскай дзяржавы. Яго праўленне (768 –814 гг.) было часам найвышэйшай магутнасці гэтай дзяржавы. Менавіта таму яго называлі Карлам Вялікім (дарэчы, у адрозненне ад бацькі ён быў высокага росту), і многія даследчыкі менавіта ад яго імені выводзяць назву Каралінгскай дынастыі. Адзін з яго набліжаных Эйнгард напісаў біяграфію Карла, першую свецкую заходнееўрапейскую сярэдневяковую біяграфію, узорам для якой была біяграфія імператара Аўгуста, напісаная рымскім гісторыкам Святоніем. Па словах Эйнгарда, Карл быў моцнага здароў'я, умераным у ежы, любіу ездзіць конна, паляваць, плаваць. Гэты ўладар мог размаўляць і чытаць на латыні і крыху разумеў грэчаскую мову, вучыўся рыторыцы, матэматыцы, граматыцы, але пісаць (і то дрэнна) навучыўся толькі пад канец жыцця.

Рэзідэнцыяй свайго двара Карл зрабіу горад Ахен. За доўгія гады праўлення

ён здзейсніў вялікую колькасць паходаў. Канчаткова падпарадкаваў шэраг тэрыторый, правіцелі якіх імкнуліся да незалежнасці ад франкскіх каралёў: Аквітанію, Баварыю. Карл значна пашырыў межы сваей дзяржавы. У доўгіх войнах з саксамі, якія цягнуліся больш за 30 гадоў, ён далучыў Саксонію. Пры гэтым Карл Вялікі дзейнічаў з выключнай жорсткасцю, пакараўшы смерцю, напрыклад, пасля адной з бітваў 4,5 тыс. заложнікаў. Пад пагрозай цяжкіх пакаранняў і смерці ён насаджаў хрысціянства сярод саксаў-язычнікаў. Барацьбу з саксамі Карл вeў у саюзе з абадрытамі (палабскімі славянамі). Разам з баварамі у яго дзяржаву была ўключана і частка паўднёвых славян (харваты, славенцы).

На ўсходніх рубяжах Карл сустрэўся с качэўнікамі-аварамі, якія стварылі сваю дзяржаву, цэнтр тэрыторыі яе складала сучасная Венгрыя (менавіта праз Венгрыю пралягаў традыцыйны шлях качэўнікаў у цэнтр Еўропы, таму што там былі неабходныя іх коням стэпы). Рашаючая перамога над аварамі была дасягнута ў 796 г., калі Карл захапіў іх лагер. Правадыр авараў здаўся і прыняў хрысціянства, а заходняя частка аварскай дзяржавы ўвайшла ў склад уладанняў караля франкаў.

Адгукнуўшыся на просьбу папы рымскага аб дапамозе супраць лангабардаў, Карл разграміў іх дзяржаву ў Італіі і да тытула “кароль франкаў” дадаў “і лангабардаў”.

На поўдні ён выкарыстаў усобіцы паміж мусульманамі у Іспаніі і адваяваў у іх паўночна-усходнюю частку Пірэнейскага паўвострава, якая стала Іспанскай маркай (пагранічнай тэрыторыяй) яго дзяржавы.

У апошнія гады праўлення Карл Вялікі пачаў ваяваць нават з Візантыяй, аднак без асаблівага поспеху. Раней нават у Карла існавала магчымасць заняцць візантыйскага трон, калі імператрыца Ірына прапанавала яму заключыць шлюб, але яна была звергнута.

Стварэнне вялікай і моцнай дзяржавы прывяло Карла Вялікага да думкі аб прыняцці імператарскага тытула. Тэрыторыя яго дзяржавы была не меншай, чым уладанні візантыйскіх імператараў. Сам акт прыняцця тытула імператара, відаць, выглядаў як рэстаўрацыя імператарскай улады на Захадзе, ліквідаванай у 476 г. Да гэтага караля падштурхоўваў рымскі папа Леў ІІІ. Папа, становішча якога ў Рыме было вельмі хісткім (яго ледзь не забілі мясцовыя арыстакраты), жадаў мець асаблівую падтрымку ад уладара вялікай дзяржавы і, магчыма, з дапамогай хрысціянскага імператара ўзначаліць усю царкву (у тым ліку і хрысціянскай Візантыйскай імперыі). 25 снежня 800 г. у Рыме Карл быў каранаваны папам як “імператар рымлян”. Праўда, з сярэдзіны 801 г. яго тытул у афіцыйных дакументах гучаў як “Imperator Imperium Romanorum gubernans” (імператар, які правіць Рымскай імперыяй). Візантыя спачатку не прызнавала яго новага тытула, але ў 812 г. візантыйскі імператар назваў Карла “імператарам франкаў”.

Вялікая дзяржава патрабавала і адпаведнай сістэмы кіравання ёю, і Карл

надаваў гэтаму асаблівую ўвагу. Пэўныя зрухі у сістэме кіравання адбыліся, але яны былі не настолькі эфектыўнымі, каб надоўга захаваць існаванне Франкскай імперыі.

Па-ранейшаму цэнтральным апаратам дзяржаўнай сістэмы быў каралеўскі двор. Яго вышэйшыя служачыя выконвалі функцыі міністраў, напрыклад *камерарый* загадваў каралеўскай казной, *рэферэндарый* – дзяржаўнай канцылярыяй, справамі каралеўскага дамена кіравалі *стольнік* і *чашнік* і г. д. Пасада маярдома была ліквідавана. Нягледзячы на тое, што колькасць каралеўскіх служачых была большай, чым пры Меравінгах, чыноўніцкі штат цэнтральнага апарату заставаўся мінімальным, ён быў вельмі прымітыўным у параўнанні з дзяржаўным апаратам, напрыклад тагачаснай Візантыі ці Кітая. У дзяржаве Каралінгаў не было цэнтральных ведамстваў, палат з дакладна акрэсленымі функцыямі кіравання рознымі сферамі жыцця краіны.

Аснову заканадаўства краіны ўжо складалі каралеўскія капітулярыі. Яны выдаваліся ад імя караля, але звычайна кароль папярэдне абмяркоўваў іх з вышэйшымі чыноўнікамі двара і вышэйшай знаццю правінцый, якія стваралі каралеўскі савет. Два разы на год збіраліся сходы знаці і царкоўных іерархаў. Адзін – вясною (у маі), на які з’язджалася ўся знаць дзяржавы і дзе прымаліся рашэнні па галоўных дзяржаўных справах на бягучы год. Другі – восенню, на якім толькі вышэйшая знаць папярэдне абмяркоўвала дзяржаўныя справы на будучы год. Склікаў гэтыя сходы кароль. У часы Карла Вялікага такі орган дапамагаў каралю ўмацоўваць яго ўладу над падданымі, але ён жа мог і дыктаваць сваю волю яго слабым папярэднікам.

Упаўнаважанымі караля былі *графы* і іх намеснікі *вікарыі*, у іх падпарадкаванні знаходзіліся *сотнікі*, якія кіравалі сотнямі – дробнымі адміністрацыйнымі акругамі. На ўскраінах дзяржавы былі створаны ваенна-адміністрацыйныя акругі – маркі на чале з маркграфамі. Амаль усе герцагствы былі ліквідаваны. Карл Вялікі значна павялічыў кантроль за графамі. Пры ім практыка перадачы пасады графа ў спадчыну прыпынілася, за злоўжыванні і невыкананне сваіх распараджэнняў Карл часта здымаў графаў. Значную (але кароткачасовую) ролю ва ўмацаванні каралеўскай улады на месцах адыграў інстытут каралеўскіх пасланнікаў. Кожны год у графства пасылаліся дзве прызначаныя асабіста каралём асобы (свецкая і духоўная) з шырокімі правамі кантролю за дзейнасцю графаў. Потым яны складалі падрабязныя справаздачы каралю.

Стварэнне бюракратычнага апарату патрабавала наяўнасці адукаваных служачых. Агульны ж культурны заняпад рабіў гэта праблематычным. І Карл Вялікі значную ўвагу надаваў адукацыі, развіццю культуры, адвёўшы галоўную ролю ў гэтай справе царкве. Пры яго праўленні адбыўся пэўны культурны пад’ем, які звычайна называюць “Каралінгскім Адраджэннем”, аднак ён не закрануў

шырокія слаі насельніцтва. Цэнтрам “Каралінгскага Адраджэння” быў каралеўскі двор, куды Карл запрасіу шмат вядомых вучоных з розных куткоў Еўропы: Італіі, Ірландыі, Англіі, Іспаніі. Пры яго двары была створана сапраўдная школа інтэлектуалаў, адначасова двор быў і “кузняй кадраў” каралеўскіх чыноўнікаў. Афіцыйная мова многаэтнічнай дзяржавы Каралінгаў – лацінская.

По першым часе ўзмацненню каралеўскай улады садзейнічала шчодрая раздача Каралінгамі бенефіцыяў і імунных правоў. Такім чынам каралеўская ўлада разлічвала стварыць шырокі слой верных сабе васалаў і перакласці на іх частку ваенных, адміністрацыйных і судовых функцый ад нешматлікіх прадстаўнікоў сваёй адміністрацыі.

Менавіта да часоў Карла Вялікага шэраг даследчыкаў адносіць завяршэнне так званага “перавароту ў пазямельных адносінах” у Франкскай дзяржаве, калі асноўная маса сялянства ператварылася ў пазямельна і асабіста залежных людзей.

Свабодныя сяляне траплялі у пазямельную і асабістую залежнасць рознымі шляхамі. Яны паступова страчвалі свае былыя правы-абавязкі –адхіляліся ад удзелу ў мясцовых судовых сходах, не маглі выносіць цяжар ваеннай службы (а войны былі частымі). Пры Карле Вялікім права асабіста ўдзельнічаць у войску захавалі толькі багатыя сяляне (тыя, якія мелі больш за чатыры зямельныя надзелы), іншыя павінны былі аб’ядноўвацца, каб выставіць аднаго воіна (атрымлівалася ў суме – з чатырох надзелаў), а астатнія выплочвалі грашовы падатак за тое, што не ўдзельнічалі у войску. Капітулярыі Карла Вялікага сведчаць аб існаваўшай практыцы, калі графы, епіскапы, абаты прымушалі сялян аддаваць сваю зямлю, пакідаючы ім яе на правах прэкарыя і вызваляючы ад ваеннай службы.

Шырока распаўсюдзіліся прэкарныя адносіны, асабліва “прэкарыі вернутыя” і “прэкарыі з узнагародай”. Як правіла, яны суправаджаліся з вялікім аброкам і нават баршчынай прэкарыста. Камендацыя вяла не толькі да асабістай залежнасці, але і з цягам часу – да пазямельнай. Буйныя землеўладальнікі атрымлівалі правы імунітэту, якія часта давалі ім уладу і над асобай і зямлёй свабодных сялян, што жылі на тэрыторыі імуннай акругі. Крыніцы фіксуюць і выпадкі прамога прымуса свабодных сялян выконваць павіннасці на карысць графаў, вікарыяў.

Асноўнай формай буйнога землеўладання становіцца вотчына. Такое ўладанне (“класічная вотчына”) мела больш за 100 га зямлі, што дзялілася на дамен (панскую зямлю), на якім вялася гаспадарка самога пана (звычайна 1/4 ці 1/3 усіх зямель вотчыны) і надзелы залежных сялян, якія адбывалі паншчыну і выплочвалі аброк. На землях вотчыны былі і алоды свабодных сялян, і бенефіцыі васалаў вотчыніка. Ужо ў IX ст. у вотчынах жыла і працавала трэцяя частка залежнага сялянства. Вотчынная гаспадарка была натуральнай. Рамесныя вырабы вырабляліся самімі сялянамі і дваровымі рамеснікамі. Куплялася толькі тое, што

нельга было вырабіць у вотчыне: соль, жалеза, віно і раскошныя рэчы для пана. Прадаваліся толькі лішкі сельскагаспадарчай прадукцыі. У адрозненне ад Візантыі, мусульманскіх краін, гандаль у франкскай дзяржаве меў нязначную ролю, пастаянныя гандлёвыя сувязі паміж рознымі часткамі краіны адсутнічалі.

**Распад Каралінгскай імперыі.** Вялікая дзяржава Каралінгаў не была трывалай. Яна складалася з мноства народаў, якія мелі розныя культурныя традыцыі, мовы і ўзроўні сацыяльнага развіцця. Станаўленне феадальных адносін прывяло да ўзмацнення буйных феадалаў, якія клапаціліся перш за ўсё аб сваіх вотчынах. Натуральны характар гаспадаркі не даваў магчымасцей для складвання трывалых эканамічных сувязей паміж рознымі часткамі Франкскай дзяржавы. Праз некаторы час пасля смерці Карла Вялікага адзіная Франкская дзяржава распалася на вялікія часткі са сваімі каралямі, якія паклалі пачатак існаванню буйных дзяржаў: Францыі, Германіі, Італіі.

Значную ролю ў распадзе адзінай дзяржавы Каралінгаў адыграла сама імператарская ўлада. Франкскія манархі адносіліся да дзяржавы як да сваей маемасці, якой можна распараджацца па ўласнай волі. Трэба заўважыць, што і да Карла Вялікага правіцелі франкаў часта дзялілі дзяржаву паміж сваімі нашчадкамі. Карл Вялікі дзейнічаў у адпаведнасці з трывала існаваўшай традыцыяй. Пры жыцці ён паклапаціуся аб тым каб забяспечыць сваіх сыноў. Яшчэ ў 781 г. ён абвясціў сына Піпіна каралём лангабардаў, а самага малодшага (яму было тады ўсяго тры гады) Людовіка – каралём Аквітаніі. Зразумела, гэтыя “каралеўствы” былі штучнымі утварэннямі унутры дзяржавы Карла. У 806 г. Карл Вялікі сваім капітулярыем устанавіу падзел дзяржавы, які павінен быў адбыцца пасля яго смерці, паміж трыма яго сынамі. Акрамя ўладанняў Піпіна і Людовіка, значную частку зямель (у тым ліку Аўстразію і Нейстрыю) павінен быў атрымаць і яго старэйшы сын Карл.  Цікава, што аб перадачы ў спадчыну імператарскага тытула нічога не гаварылася, відаць, на той час Карл Вялікі лічыў гэты тытул толькі асабістым. Аднак неўзабаве памерлі Піпін і Карл, прамым нашчадкам застаўся толькі Людовік. Вось такім чынам адзінства Каралінгскай дзяржавы было ўратавана.

Незадоўга да сваёй смерці Карл Вялікі загадаў каранаваць Людовіка як імператара (“імператара Аўгуста”) у Ахене. За сваю набожнасць Людовік атрымаў адпаведную мянушку “Набожны”. Ён нават каранаваўся другі раз, каб атрымаць памазанне на царства асабіста ад папы рымскага. Людовік правіу з 814 па 840 г. Але яшчэ ў 817 г. ён паклапаціуся аб будучым падзеле імперыі паміж трыма яго сынамі. Піпіну ён завяшчаў Аквітанію, Людовіку (празванаму Нямецкім) – Баварыю, а астатнюю вялізную частку – старэйшаму з сыноў Лотару. Адразу Лотар быў каранаваны імператарам, каб паказаць, што ён будзе галоўным над астатнімі братамі. Фармальна Лотар зрабіуся суімператарам бацькі.

Аднак сітуацыя ўскладнілася пасля смерці першай жонкі Людовіка

Набожнага і нараджэння ад другой жонкі яшчэ аднаго сына – Карла (празваным потым Лысым). Жаданне бацькі завяшчаць частку імперыі і яму выклікала незадавальненне яго старэйшых сыноў, якія ў гэтым выпадку страчвалі частку сваіх уладанняў. Справа дайшла да бітвы сыноў супраць бацькі летам 833 г., у якой Людовік Набожны быў пераможаны. Узяты ў палон, ён пакаяўся на саборы епіскапаў і адмовіуся ад прастола. Людовіка саслалі у кляштар. Але праз год ён выйшаў адтуль і зноў пачаў правіць, канфліктуючы з сынамі. Пасля яго смерці малодшыя сыны Людовік Нямецкі і Карл Лысы (Піпін да таго часу памер) пачалі барацьбу супраць Лотара. Іх войскі летам 841 г. разграмілі войска імператара Лотара каля горада Фантэнца. Лотар вымушаны быў пагадзіцца на новы падзел імперыі.

Гэты падзел адбыўся ў 843 г. у Вердэне. У адпаведнасці з ім тры браты атрымалі адносна роўныя часткі. Землі на ўсход ад Рэйна дасталіся Людовіку Нямецкаму (Усходне-Франкскае каралеўства). Землі на ўсход ад Шэльды і Роны – Карлу Лысаму (Заходне-Франкскае каралеўства). Вузкая тэрыторыя паміж імі (але з Ахенам), якая рэзка пашыралася на поўдзень уключаючы паўночную і сярэднюю Італію, склала ўладанні Лотара. За Лотарам застаўся імператарскі тытул, але права вяршэнства над братамі ён яму не даваў.

Барацьба працягвалася пры сынах і ўнуках нашчадкаў Людовіка Набожнага. У 880 г. паўночная частка былых уладанняў Лотара (Латарынгія) адышла да ўсходне-Франкскага каралеўства. На некалькі гадоў адзінства імперыі Каралінгаў было адноўлена, калі у 884 г. сын Людовіка Нямецкага Карл Тоўсты стаў не толькі каралём бацькоўскіх уладанняў, але і каралём Італіі і Заходне-Франкскай дзяржавы. Пасля яго смерці адзінства Франкскай дзяржавы засталося толькі у мінулым. На абломках яе склаліся Францыя, Германія, Італія. Паміж імі некаторы час існавалі каралеўствы Бургундыя, Праванс, Латарынгія.

## § 3. Брытанія

**Канец рымскага панавання ў Брытаніі. Перасяленне германскіх плямёнаў на востраў Вялікабрытанія.** Да часоў Рымскай імперыі Брытанскія астравы знаходзіліся па-замежамі антычнага свету. Аб іх існаванні ведалі яшчэ старажытныя грэкі. Напрыклад, Арыстоцель дае старажытныя мясцовыя назвы двух буйнейшых з гэтых астравоў: Альбіён (Вялікабрытанія) і Іерне (Ірландыя). Гэтыя астравы былі заселены пераважна кельцкімі плямёнамі, якія перабіраліся туды напрацягу I тыс. да н. э. На поўначы Вялікабрытаніі жылі пікты, паходжанне якіх навукоўцамі яшчэ дастаткова невысветлена, хутчэй за ўсё, гэты народ склаўся ў выніку змяшэння кельтаў з больш старажытным мясцовым насельніцтвам. Кельтаў Ірландыі рымляне называлі скотамі. Ужо пасля адыходу рымлян з Брытаніі скоты перасяліліся на тэрыторыю Шатландыі (ад іх і паходзіць

назва гэтай краіны), кельтаў жа самой Ірландыі звычайна называлі ірамі.

Першыя спробы рымлян падпарадкаваць сабе жыхароў Вялікабрытаніі былі здзейснены Юліем Цэзарам падчас яго паходаў у 55–54гг. да н.э. Нягледзячы на тое, што ваенная перамога была на бакуЦэзара, ён не здолеў замацавацца на далёкім ад Рыма востраве. Новая правінцыя Рымскай імперыі пад назвай Брытанія з’явілася пры імператары Клаўдзіі, калі ў 43г. н. э. чатыры рымскія легіёны заваявалі паўднёвую частку Вялікабрытаніі. Але неўзабаве кельты-брыты паўсталі супраць рымскага прыгнёту. Узначаліла гэтае магутнае паўстанне Боўдзіка, удава правадыра племені іцэнаў. У 61г. рымляне жорстка падавілі паўстанне. Пры імператары Веспасіяне ў 77г. рымскія войскі прасунуліся далей на поўнач – да паўднёвай Шатландыі. Імператар Адрыян, які вымушаны быў адвесці войскі з поўдня Шатландыі, загадаў пабудаваць моцную лінію абарончых збудаванняў (*“вал Адрыяна”*), якая перасякла ўсю Велікабрытанію з захаду (ад сучаснага Карлайла) на ўсход (да Ньюкасла). “Адрыянаў вал” быў надзейнай перашкодай для набегаў піктаў з поўначы. Нападалі на рымскую Брытанію і скоты. Паступова мясцовае насельніцтва раманізавалася, найбольш на поўдні вострава. Рымляне заснавалі шэраг гарадоў: Ландыніум (Лондан), Эбуракум (Йорк) і інш. У часы позняй Рымскай імперыі ў Брытаніі распаўсюдзілася хрысціянства.

У IV ст. павялічыўся ціск на Брытанію з боку варвараў. Апрача піктаў і скотаў, на яе нападалі і германскія плямёны з кантынента. Каб асабіста ўзначаліць абарончыя аперацыі супраць варвараў, у 399 г. у Брытанію прыбыў нават камандуючы заходнерымскім войскам Стыліхон. У цэлым рымскае войска ў Брытані і паспяхова спраўлялася з варварскімі нападамі, і сітуацыя там была значна спакайнейшай, чым на кантынентальных межах імперыі.

Але менавіта рэзкае пагоршанне становішча на кантыненце паклала канец рымскаму панаванню ў Брытаніі. У наваготнюю ноч на 407 г. вандалы і свевы перайшлі Рэйн і ўварваліся ў Галію, за імі рухаліся бургунды. Улады Заходняй Рымскай імперыі не здолелі даць ім належны адпор, і вандалы, аланы і свевы прайшлі праз Галію ў Іспанію. У Брытаніі ж адбыўся мяцеж, і ў 407 г. рымскія войскі ў ёй абвясцілі імператарам Канстанціна III, хаця легітымным імператарам быў Ганорый. Па загадзе Канстанціна III рымскія войскі пакінулі Брытанію і пераправіліся на кантынент, дзе здолелі аднавіць частку граніц імперыі. Канстанцін III неўзабаве загінуў у барацьбе з Ганорыем, а рымскія войскі ўжо ніколі не вярнуліся ў Брытанію. Гэты зыход рымскага войска адбыўся паміж 407–410 гг.

Ад Брытаніі ўвага заходнерымскіх імператараў была адцягнута значна больш небяспечнымі для іх падзеямі. Нават Рым (у якім імператары баяліся жыць, абраўшы сваёй рэзідэнцыяй добра ўмацаваную сярод балот Равену) быў двойчы (у 410 і 455 г.) узяты варварамі. І просьбы раманізаваных брытаў аб дапамозе

(напрыклад, да пераможцы Атылы выдатнага палкаводца Аэцыя) засталіся без адказу.

Пакінутыя без рымскіх легіёнаў жыхары Брытаніі самі вымушаны былі сустрэцца з варварамі, для якіх ужо вал Адрыяна не ўяўляў сур'ёзнай перашкоды. Далейшыя падзеі дакладна ўявіць даволі цяжка з-за малой колькасці пісьмовых першакрыніц і пэўнай тэндэнцыйнасці іх аўтараў (кампіляцыя “Гісторыя брытаў” Ненія, “Аб разбурэнні Брытаніі” манаха Гільдаса, “Царкоўная гісторыя народа англаў” Беды Шаноўнага, “Англасаксонская хроніка”). Аднак у агульных рысах сітуацыю можна ўявіць, праўда, калі адмовіцца ад гіперкрытычнага падыходу да тэкстаў крыніц.

Не ў стане арганізаваць самастойны адпор піктам і асабліва скотам жыхары Брытаніі не атрымаўшы ніякай дапамогі ад улад Заходняй Рымскай імперыі звярнуліся за дапамогай да саксаў. Саксы, як і іншыя германскія плямёны англаў і ютаў і да гэтага нападалі на Брытанію, засноўваючы на яе ўзбярэжжы паселішчы, свайго роду пірацкія базы. Па паданні, на просьбу брытаў аб дапамозе адгукнуліся правадыры саксаў Генгіст і Горса, якія прыбылі на востраў каля 450 г. Але чымсьці незадаволеныя Генгіст і Горса паднялі паўстанне супраць брытаў і заснавалі на ўсходзе Брытаніі свае каралеўства.

Пакінуўшы ў баку дыскусію аб праўдзівасці гэтага падання можна аднак канстатаваць, што міграцыя саксаў, англаў і ютаў у Брытанію расцягнулася на дзесяцігоддзі. Яна не была такой адначасова масавай, як міграцыі варвараў на кантыненце – марскі бар’ер быў таму перашкодай. Таму небяспрэчна прымяняць такія тэрміны, як “нашэсце”, “уварванне”. Звесткі пешакрыніц аб ліквідацыі рымскага ладу жыцця, антычных інстытутаў нельга даводзіць да сцвярджэння, што прышэльцы або вынішчылі раманізаваных брытаў, або адцяснілі іх на захад, як робяць некаторыя навукоўцы. Сапраўды, падчас захопу тэрыторыі нямала брытаў было забіта, многіх зрабілі рабамі. Але значную частку насельніцтва англасаксонскіх каралеўстваў усё ж складалі мясцовыя кельты, нават некаторыя англасаксонскія каралі мелі кельцкія імёны. Кельты адстаялі ад заваёўнікаў захад Вялікабрытаніі, дзе заснавалі свае каралеўствы (адсюль і назва гэтай тэрыторыі – Уэльс, што на мове англасаксаў азначала “замежны”). Яшчэ адна частка брытаў мігрыравала на тэрыторыю Галіі ў Арморыку, якая ад іх атрымала назву Брэтань (ці Малая Брытанія, як часцей яе называлі ў сярэдневякоуі). Што да нападаў астраўных варвараў, то яны мелі намнога меншыя наступствы. Пікты былі больш занепакоены перасяленнем на поўнач Вялікабрытаніі скотаў, якія засноўвалі там свае каралеўствы і зацята ваявалі паміж сабою і з карэнным насельніцтвам. Адным з такіх каралеўстваў была Далрыяда, якая вырасла з паселішча скотаў у заходнепаўднёвай Шатландыі ў V ст. З VI ст. каралі Далрыяды правілі сваімі ірландскімі ўладаннямі ўжо з шатландскай тэрыторыі. Яны вялі цяжкую барацьбу з правіцелямі ўсходняга Уэльса.

Англы, саксы і юты, што рассяліліся на тэрыторыі сучаснай Англіі, стварылі шмат дробных каралеўстваў, якія іншы раз называюць “племяннымі каралеўствамі”. Фрагментарныя і супярэчлівыя звесткі з першакрыніц не дазваляюць нават падлічыць колькасць такіх каралеўстваў. Але паведамленні аб пагібелі ў бітвах іх каралёў і наступным знікненні іх уладанняў сведчаць аб тым, што гэтыя ўтварэнні былі нетрывалымі.

Германскія прышэльцы былі язычнікамі, і там, дзе яны ўсталявалі сваё панаванне, хрысціянства амаль што знікла. Толькі некаторыя ўскосныя звесткі з першакрыніц даюць хісткія падставы меркаваць, што дзе-нідзе на поўдні Брытаніі яшчэ захоўваліся нешматлікія яго прыхільнікі. Між тым у V ст. пачалася масавая хрысціянізацыя насельніцтва Ірландыі.

**Гептархія.** Тэрмінам *гептархія* (або “сямідзяржаў’е”) вучоныя пазначаюць перыяд у гісторыі Англіі, які пачаўся з VII ст. На пачатку гэтага стагоддзя ў асноўным завяршылася узбуйненне германскіх утварэнняў на тэрыторыі Вялікабрытаніі і склалася сем каралеўстваў. Тры з іх стварылі англы (Мерсія, Нартумбрыя і Усходняя Англія) у цэнтральнай і паўночнаўсходняй Англіі, тры – саксы (Уэсэкс, Эсэкс і Сасэкс) на поўдні Вялікабрытаніі, а юты правілі Кентам на паўднёвым усходзе вострава. Кент хоць і быў невялікім каралеўствам, але месцазнаходжанне яго было стратэгічна важным – на самым узбярэжжы праліва Па-дэ-Кале.

Першыя звесткі аб узнікненні Кента адносяцца да канца VI ст., калі там правіў кароль Этэльберт (менавіта пры ім быў складзены самы ранні англасаксонскі звод законаў). Адначасова ўзнікла і Нартумбрыя (самая паўночная з сямі дзяржаў) шляхам аб’яднання двух каралеўств з кельцкімі назвамі Берніка і Дэйра. Калі Этэльберт узяў у жонкі дачку караля франкаў, якая была хрысціянкай, то з ёю ў Кент прыбыў хрысціянскі епіскап. Неўзабаве ў Кенце з'явіліся місіянеры, пасланыя папам рымскім, і Этэльберт прыняў хрышчэнне. Пачалася хрысціянізацыя Кента, якая толькі на кароткі час прыпынілася пры сыне Этэльберта Эдбальдзе, калі ён зноў звярнуўся да паганства. Але адступніцтва Эдбальда хутка скончылася, больш таго, ён выдаў сваю сястру-хрысціянку за караля Нартумбрыі, які згадзіўся прыняць хрысціянства. Аднак хуткая смерць паўночнага караля не дазволіла разгарнуць дзейнасць рымскіх хрысціянскіх місіянераў у Нартумбрыі.

Кароль Нартумбрыі Эдвін загінуў у 632 г. у бітве з аб’яднаным войскам каралёў Мерсіі і Гвінед (дзяржавы ў паўночнаўсходнім Уэльсе). Уладу ж у Нартумбрыі захапіў Освальд (633 – 642 гг.), які да таго быў ў выгнанні ў Ірландыі, дзе прыняў хрысціянства. Освальд разграміў уэльскага караля, пры ім Нартумбрыя выйшла на першыя ролі ў гептархіі. Каб ахрысціць сваіх падданых, Освальд запрасіў у краіну ірландскіх манахаў, а не рымскіх місіянераў, якім спрыяў яго сапернік Эдвін.

Тым часам ўзмацнілася і суседняя Мерсія, якая знаходзілася ў цэнтры Англіі. Яе кароль Пенда ваенным і дыпламатычным шляхам падпарадкаваў сабе мноства дробных правіцеляў, і яго дзяржава тэрытарыяльна была буйнейшай у гептархіі. Найбольшым з каралеўстваў, якія здолеў падпарадкаваць Пенда, было ўтварэнне сярэдніх англаў. Пенда быў язычнікам. Галоуную пагрозу яго дзяржаве ўяўляла суседняя Нартумбрыя, і таму Пенда заключыў саюз (на ўмовах падпарадкавання) з хрысціянскім каралём дзяржавы брытаў Гвінед. Яны разам перамаглі нартумбрыйскага караля Эдвіна. Пасля гібелі караля Гвінед у бітве з нартумбрыйцамі (маштабы гэтай бітвы былі непараўнальна меншымі, чым сутыкненні паміж варварскімі каралямі на кантыненце) Пенда ўжо без саюзніка адбіў спробы паўночнага суседа захапіць яго тэрыторыі. Кароль Освальд загінуў у бітве з Пендай. Мерсійскі кароль выгнаў караля Уэсэкса з яго дзяржавы, забіў караля Усходняй Англіі. Так быў закладзены фундамент магутнасці Мерсіі. Але сам Пенда загінуў у паходзе ў Нартумбрыю ў 655 г., і амаль да канца VII ст. гегемонам у гептархіі стала Нартумбрыя. У гэты час ў выніку дзейнасці ірландскіх місіянераў насельніцтва Мерсіі прыняла хрысціянства.

Спробы каралёў Нартумбрыі пашырыць свой уплыў на поўдзень і на поўнач скончыліся дэстабілізацыяй у іх дзяржаве, і з канца VII ст. першую ролю ў гептархіі зноў пачала адыгрываць Мерсія. І ўжо англійскі гісторык Беда Шаноўны ў 30-я гады VIII ст. пісаў аб тым, што каралю Мерсіі падпарадкоўваліся каралі Уэсэкса, Эсэкса, Сасэкса, Усходняй Англіі і шэрагу дзяржаў брытаў. Найбольш магутным з каралёў Мерсіі быў Офа (757 – 796 гг.). Ён пабудаваў моцную абарончую лінію на мяжы сваёй дзяржавы з Уэльсам, ўстанавіў дыпламатычныя адносіны з каралём франкаў Карлам Вялікім. Захаваліся яго просьбы да Карла аб спрыяльных умовах для англійскіх гандляроў і паломнікаў на тэрыторыі Франкскай дзяржавы. У сваю чаргу захаваліся і лісты да Офы, напісаныя прыдворным радцам Карла Алкуінам, які да гэтага быў дыяканам у Нартумбрыі. Франкскія ўлады прасілі Офу клапаціцца аб стварэнні школ для падрыхтоўкі англійскага духавенства. Офа вёў перапіску і з папам рымскім, у прыватнасці, кароль прасіў надаць аднаму з мясцовых епіскапаў сан архіепіскапа. Між тым Офа не меў пастаяннай сталіцы, а вандраваў са сваім дваром па краіне, як гэта звычайна рабілі многія правіцелі варварскіх каралеўстваў.

Да канца VII ст. хрысціянства было пануючай рэлігіяй ва ўсіх англасаксонскіх дзяржавах, і іх каралі пачалі замацоўваць гэтае становішча хрысціянства ў сваіх законах. Калі на поўначы і ў цэнтры Брытаніі галоўную ролю ў распаўсюджванні хрысціянскай рэлігіі адыгралі місіянеры з Ірландыі, то на поўдні – пасланцы з папскага Рыма. Працэс хрысціянізацыі англасаксаў, у пэўнай меры быў звязаны і з палітычнымі матывамі. У гэтым плане даволі цікавым было абарачэнне ў хрысціянства каралёў Усходняй Англіі. Спачатку VII ст. кароль Рэдвальд, вымушаны падпарадкоўвацца каралю Кента Этэльберту,

прыняў хрышчэнне. Але, як потым засведчыў Беда Шаноўны, Рэдвальд размясціў у адным будынку хрысціянскі і язычніцкі алтары. Відаць, такім чынам кароль хацеў пазбегнуць залішніх турбот унутры сваёй дзяржавы, выкліканых рэлігійнай рознасцю. Яго нашчадак прыняў хрысціянства ўжо пад уплывам караля Нартумбрыі. Аднак наступны кароль быў прыхільнікам паганства. Але потым з выгнання ад франкаў вярнуўся яшчэ адзін сын Рэдвальда Сігберт, які прывёз з сабою франкскага епіскапа, і ва Усходняй Англіі запанавала хрысціянства рымскага ўзору.

У першай палове IX ст. адбылося кароткачасовае ўзвышэнне Уэсэксу. Там у 802 г. захапіў уладу выхадзец з Кента Эгберт. Ён заваяваў у 825 г. Кент, у 839 г. Эсэкс, у 829 г. Мерсію, шэраг тэрыторый у Уэльсе, яго вышэйшую ўладу прызнаў і кароль Нартумбрыі. Незалежнасць захавала каралеўства Усходняя Англія. Некаторыя гісторыкі лічаць, што менавіта Эгберт першым аб'яднау усе англасаксонскія каралеўствы у адну дзяржаву – Англію. Пры гэтым называецца дата – 829 г. Зразумела, ёсць пэўныя сумненні наконт такога тэзіса. Па-першае, больш дакладнай датай з'яўляецца 839 г., бо ў 829 г. не быў падпарадкаваны Эсэкс. Па-другое, пад уладай Эгберта не знаходзілася Усходняя Англія, каралі якой захоўвалі самастойнасць да 870-х гадоў (да захопу вікінгамі), ды і не высветлена добра сітуацыя з Сасэксам. Тым не менш ва уэсэкскіх першакрыніцах сцвярджаецца, што Эгберт меў тытул *брэтвальды* (“правіцеля Брытаніі”). Праўда, упершыню гэты тытул першакрыніцы фіксуюць за каралём Нартумбрыі Освi (642 – 670 гг.), калі Нартумбрыя ў чарговы раз зрабілася гегемонам гептархіі. Не дзіўна, што многія гісторыкі проста “не заўважаюць” аб'яднання Англіі пры Эгберце. У любым выпадку ўтварэнне Эгберта распалася пасля яго смерці (у 839 г.), а на першыя ролі зноў высунуліся каралі Мерсіі. Але ў гэты час усё большую пагрозу для Англіі пачалі ўяўляць набегі вікінгаў. Эгберту яшчэ ўдалося адбіць іх напад у 838 г.

**Вікінгі на Брытанскіх астравах. Англія пры Альфрэдзе Вялікім.** Першыя рэйды вікінгаў у Англію былі поўнай нечаканасцю для мясцовага насельніцтва. Калі датчане (*даны*) у першы раз з’явіліся ва Уэсэксе, іх сустрэў каралеўскі чыноўнік, які так і не зразумеў, што гэта за людзі, і быў імі забіты. Відаць, прышэльцаў прынялі за гандляроў. Першы зафіксаваны ў крыніцах напад вікінгаў пазначаны 793 г. Ахвярай нарвежскіх вікінгаў стаў астраўны кляштар Ліндысфарн каля ўзбярэжжа Нартумбрыі. Потым нарвежцы разрабавалі яшчэ некалькі знакамітых кляштараў, у тым ліку на востраве Айона (795 г.). Для вікінгаў-язычнікаў гэта было крыніцай лёгкай і багатай здабычы : яны забіралі каштоўны літургічны посуд, здзіралі з кніг вокладкі, аздобленыя золатам, серабром, каштоўнымі камянямі, выкідвалі рэліквіі, каб забраць багатыя скрыні, у якія тыя былі пакладзены. Гэта выклікала сапраўдны шок у насельніцтва Брытанскіх астравоў, які ўзмацняўся апантанай крыважэрнасцю бязлітасных

рабаўнікоў. Многія лічылі, што смерць, агонь, разбурэнне, якія прынеслі вікінгі, былі Боскай карай за грахі, як у свой час рымляне тлумачылі разбуральнае нашэсце полчышчаў Атылы.

Доўгі час вікінгі прытрымліваліся тактыкі драпежных набегаў, першая іх зімоўка іх флота ў Ірландыі адбылася ў 840/841 г., у Англіі — у 851/852 г. Першыя ж паселішчы (гэта былі нарвежцы) з'явіліся на Шэтландскіх і Аркнейскіх астравах, а потым на узбярэжжы Шатландыі і на Гебрыдах. На гэтых астравах зніклі мясцовыя мовы, відаць, разам з іх носьбітамі. У 790-я гады нарвежскія вікінгі пачалі напады на Ірландыю. Там у 830 – 840-я г. яны заснавалі свае паселішчы – Дублін, Лімерык, Уотэрфорд і інш. Вакол Дубліна і Лімерыка стварыліся каралеўствы вікінгаў, якія ваявалі з каралеўствамі іраў, жыхароў Шатландыі, Уэльса, а пазней і з каралеўствамі вікінгаў у Англіі. У канцы 40-х гадоў IX ст. у Ірландыі разгарэлася своеасаблівая грамадзянская вайна паміж вікінгамі нарвежцамі і датчанамі. Туды прыплыў магутны дацкі флот, і ў марской бітве сышлося некалькі соцень караблёў. Потым, каб аднавіць сваё панаванне над Дублінам, да Ірландыі быў адпраўлены нарвежскі флот.

Трэба адзначыць, што ўжо самыя першыя напады вікінгаў прымусілі правіцеляў Англіі паклапаціцца аб абароне. У 90-я гады VIII ст. мерсійскі кароль Офа і Карл Вялікі арганізавалі абарону сваіх ўзбярэжжаў ад вікінгаў. Але асноўныя напады скандынаваў тады адбываліся далей на поўнач. Спачатку ў іх удзельнічала мала караблёў, і вікінгі не пранікалі ўглыб тэрыторыі. Нарвежскія вікінгі атакавалі, галоўным чынам, узбярэжжа Нартумбрыі і разам з брытамі Карнуола Уэсэкс (дзе іх і разбіў Эгберт). Набегі вікінгаў узмацніліся ў 30-я гады IX ст. Тады датчане, супраць якіх удалую абарону сваіх уладанняў арганізаваў сын Карла Вялікага імператар Людовік, перанеслі галоўны націск на паўднёвыя берагі Англіі. Гэта яны ў 842 г. і спалілі Лондан. Пасля смерці Людовіка сярод франкскіх правіцеляў разгарэліся ўсобіцы, і вікінгі зноў перанеслі свой асноўны ўдар на кантынент. Толькі спачатку 60-х гадоў IX ст. заходнефранкскі кароль Карл Лысы здолеў стварыць эфектыўную абарону супраць вікінгаў, пабудаваўшы шэраг крэпасцей і ўмацаваных мастоў, каб не даць магчымасці нарманскім караблям плысці па рэках. Яму ўдалося выкарыстаць частку прагных да багацця вікінгаў для барацьбы з іншымі скандынавамі.

І вось тады ў 865 г. у Англіі з'явілася так званая *"Вялікая армія"* дацкіх вікінгаў, што прыплылі з Францыі і высадзіліся ва Усходняй Англіі, кароль якой заключыў з імі мір. Там вікінгі перазімавалі. У наступным годзе яны ўварваліся ў Нартумбрыю і захапілі яе сталіцу Йорк. Там яны паставілі свайго караля – марыянетку з англаў. У 868 г. вікінгі ўварваліся ў Мерсію, якая вымушана была заключыць мір з імі. Потым яны прымусілі зрабіць тое ж самае караля Уэсэкса. Безумоўна, хоць першакрыніцы аб гэтым і не гавораць, асноўнай умовай кожнага такога міру быу выкуп вікінгам. Вікінгі ў той час не асядалі на землях Англіі, не

засноўвалі сваіх каралеўстваў. Галоўнай іх мэтай была здабыча. Англасаксонскія дзяржавы, заключаючы мір, фактычна адкупаліся ад заваёўнікаў, каб пазбегнуць забойстваў і разбурэнняў, якія тыя неслі з сабой. На карысць гэтага сведчаць і тыя шматлікія факты, што вікінгі пільна сачылі за палітычнай сітуацыяй у каралеўствах, якія заключылі з імі мір. Яны былі зацікаўлены ў моцнай каралеўскай уладзе ў гэтых дзяржавах, каб каралі спраўна збіралі з насельніцтва падаткі, большая частка якіх ішла на выплаты заваёўнікам. Калі ж хто-небудзь з каралёў не задавальняў іх, датчане змяшчалі яго і ставілі новага.

Стратэгія вікінгаў змянілася з сярэдзіны 70-х гадоў IX ст. У 876 г. адзін з іх правадыроў абвясціў сябе каралём Нартумбрыі і пачаў раздаваць землі сваім воінам. Неўзабаве падобнае адбылося ў Мерсіі і ва Усходняй Англіі.

Адзінай дзяржавай англасаксаў, якая здолела аказаць сур'ёзнае супраціўленне "Вялікай арміі" быў Уэсэкс. Гэты адпор узначаліў кароль Альфрэд (871 – 899 гг.), празваны Вялікім. Уэсэкс быў найбольш далёкай англійскай дзяржавай ад месца высадкі "Вялікай арміі". Спачатку Альфрэд адкупіўся ад вікінгаў, заключыўшы з імі мір, як гэта рабілі і іншыя англасаксонскія правіцелі. Але потым выкарыстаўшы спрыяльны момант, калі значная частка флоту вікінгаў была знішчана штормам, нанёс ім паражэнне. У адказ вікінгі ў студзені 878 г. раптоўна напалі на зімовую стаянку караля, дзе ён знаходзіўся са сваім дваром. Момант быў выбраны нетрадыцыйны, зімой тады звычайна не ваявалі, і войска караля было распушчана. Толькі імклівыя ўцёкі выратавалі Альфрэда. Вясною, сабраўшы войска, ён разграміў захопнікаў у бітве і асадзіў іх лагер. Правадыр вікінгаў капітуліраваў і абавязаўся прыняць хрысціянства. Альфрэд заключыў дагавор з захопнікамі (879 г.), па якому тэрыторыі на поўдні і паўднёвым захадзе Англіі заставаліся пад яго ўладай, а паўночна-ўсходнія тэрыторыі прызнаваліся пад уладай дацкіх вікінгаў. На гэтых тэрыторыях, дзе аселі вікінгі, дзейнічала дацкае права, адсюль пайшла і назва Дэнло (Danelow).

Так, амаль на стагоддзе Англія была падзелена на дзве часткі: адной правілі правадыры датчан, якія замянілі сабой былыя дынастыі каралеўстваў англаў, другой – дынастыя Альфрэда, каралі якой прэтэндавалі на тытул "каралёў усіх англічан" і імкнуліся вызваліць захопленыя вікінгамі тэрыторыі. Аднак не ўсе жадалі ад уэсэкскіх каралёў такога вызвалення. Брыты Карнуола (які ўваходзіў у іх уладанні) ці знаць Нартумбрыі, напрыклад, лічылі за лепшае мець саюзнікамі датчан. Заваёўнікі былі значна адсталымі ў параўнанні з англасаксамі, іх аседлаць на англійскай зямлі прывяла да даволі хуткай асіміляцыі, ды і складалі яны зусім невялікую меншасць насельніцтва. Ужо ў канцы IX ст. антыдацкія настроі ў этнічнай самасвядомасці насельніцтва Англіі амаль не адчуваліся. У дамове таго ж Альфрэда з вікінгамі, слова даны (датчане) нават не упамінаецца, а гаворыцца аб "людзях ва Усходняй Англіі". Некаторыя сучасныя англійскія гісторыкі лічаць магчымым сцвярджаць, што нашэсце вікінгаў прынесла не толькі смерць і

разбурэнне, але, як гэта ні парадаксальна, спрыяла сапраўднаму аб'яднанню Англіі, фарміраванню адзінага англійскага народа, усталяванню моцнай каралеўскай улады. Гэтае нашэсце ў значнай ступені паклала канец канкурэнцыі паміж каралеўскімі дынастыямі розных дзяржаў англасаксаў за вяршэнства ў Англіі. Засталася толькі адна дынастыя – уэсэкскіх каралёў, якая ужо ў другой палове X ст. далучыць да сваіх уладанняў тэрыторыю Дэнло.

Між тым Альфрэд Вялікі зусім не спадзяваўся на эфектыўнасць дагавору з вікінгамі. Ён прыняў дзейсныя захады па ўмацаванні абароны сваёй краіны. Яго войска складалася з пешага апалчэння вольных сялян і цяжкай конніцы воінаў-землеўладальнікаў. Было пабудавана шмат добра ўмацаваных бургаў, Альфрэд абавязаў навакольных сялян удзельнічаць у іх будаўніцтве і забяспечваць харчаваннем гарнізоны гэтых умацаванняў. Сяляне абавязаны былі выплочваць каралю і *дацкія грошы* – асобы падатак, які ішоў зусім не на выплаты вікінгам, а на патрэбы барацьбы з імі. З 879 г. войскі вікінгаў зноў палічылі за лепшае адправіцца ў Францыю, выкарыстаўшы яе цяжкую сітуацыю, якая склалася там пасля смерці Карла Лысага. І калі гэтая армія вікінгаў у 893 г. зноў вярнулася ў Англію і рушыла па Тэмзе, то моцны адпор з боку англічан прымусіў іх адмовіцца ад новага заваявання англійскіх зямель.

**Сацыяльныя адносіны.** Калі паспрабаваць падысці да ранняй сярэднявяковай гісторыі Англіі з пазіцый папулярных сярод гісторыкаў дыскусій аб кантынуітэце ці дыскантынуітэце паміж антычнасцю і сярэдневякоўем ці сінтэзе варварскіх і рымскіх элементаў у заходнееўрапейскім грамадстве ранняга сярэдневякоа, то вынікі прынясуць мала плёну, а іншы раз выявяць і нешта даволі парадаксальнае. Несумненна, галоўным ланцугом паміж антычнасцю і сярэдневякоўем Еўропы было хрысціянства, якое перажыла сваю калыску – Рымскую імперыю і стала дамінантай сярэднявяковай заходнееўрапейскай цывілізацыі. З прыходам англасаксаў хрысціянства ў Брытаніі было амаль вынішчана. Здавалася б, ланцуг перарваўся. Аднак варвары зрабіліся хрысціянамі (як дарэчы потым і вікінгі), і царква зноў вярнула знікшыя элементу антычнага ладу. Менавіта зямельныя дарэнні царкве былі першымі прарывамі ва ўстанаўленні прыватнай уласнасці на зямлю ў разуменні яе рымскім правам. Даравальныя граматы на зямлю англасаксонскіх каралёў складаліся па форме, запазычанай з канцылярыі рымскіх пап. Тэрытарыяльная структура царквы будавалася па ўзоры рымскай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай сістэмы. І вядома, вялікую ролю адыграла хрысціянская царква ў перадачы антычнай культурнай спадчыны, нягледзячы на рэзка адмоўныя адносіны да антычнага язычніцтва. На жаль, бязлітаснае рабаванне вікінгамі манастыроў пакінула нам няшмат матэрыяльных сведчанняў гэтага.

Англы, саксы, юты, асеўшыя на востраве Вялікабрытанія, па ўзроўні развіцця сацыяльных адносін знаходзіліся на больш нізкай стадыі, чым,

напрыклад, вестготы, франкі, бургунды. Праўда, доля іх у насельніцтве Англіі была значна большай, чым тых жа франкаў у Галіі ці вестготаў у Іспаніі. Яны займаліся у асноуным земляробствам. Важная роля ў жыцці прышэльцаў належала і лесу, якога шмат было ў Англіі. Там палявалі, здабывалі сыравіну для сялянскага рамяства, будаўнічы матэрыял, паліва. Нізінныя раўніны і лясы Англіі прыцягвалі прышэльцаў, а не толькі багацці брытанскіх гарадоў, многія з якіх у выніку зніклі, а іншыя прыйшлі ў заняпад, як, напрыклад, Лондан. Некаторыя гарады захаваліся як рэзідэнцыі каралёў, іх адміністрацыі і асабліва неўзабаве як рэзідэнцыі епіскапаў. Але каралі часта засноўвалі свае рэзідэнцыі не на месцы былога горада, а побач.

Германскія прышэльцы звычайна засноўвалі паселішчы на яшчэ не занятай зямлі (яе хапала). Яны былі асобнымі ад пасяленняў мясцовага насельніцтва. Англасаксы сяліліся пераважна на раўнінах, кельты жылі на аблюбаваных імі раней узвышшах. Тут не адбылося пераразмеркавання зямель паміж заваёўнікамі і раманізаваным насельніцтвам, што было тыповай з'явай на кантыненце. Гэта, таксама як і большая адсталасць англаў, саксаў і ютаў, абумовілі замаруджанае развіццё сацыяльных працэсаў у параўнанні з варварскімі дзяржавамі франкаў, вестготаў, остготаў і інш. Працэс феадалізацыі ў Англіі праходзіу больш марудна.

Сведчанні аб сацыяльных адносінах у раннесярэднявяковай Англіі мы атрымліваем пераважна са зводаў законаў англасаксонскіх каралёў. Гэта тыповыя варварскія праўды, такія як “Законы Этэльберта”, “Законы Уітрэда” (Кент), “Законы Інэ” (Уэсэкс). За межы варварскіх праўд выходзяць “Законы Альфрэда”, хоця пры іх стварэнні было выкарыстана папярэдняе законадаўства.

Англасаксонскія варварскія праўды зафіксавалі наяўнасць рабоў і *лэтаў* (у кентскіх законах) або *ўіляў* (Уэсэкс). Апошнія не мелі ўласнай зямлі і працавалі на эрлаў (знаць). Мяркуючы на тым, што тэрмін “уілі” паходзіць ад англасаксонскага “чужы” (што прымянялася да кельцкага Уэльса), гэтымі паўсвабоднымі людзьмі былі мясцовыя кельты, падпарадкаваныя заваёўнікамі. Яны ж былі і рабамі, якія, ў асноўным, выкарыстоуваліся у якасці прыслугі, або працавалі на зямлі выплочваючы аброк. На процілеглым полюсе грамадства знаходзіліся каралі, *эрлы*, *гезіты* (каралеўскія дружыннікі). Гезіты атрымлівалі ад каралёў зямельныя пажалаванні (на пэўны тэрмін)для матэрыяльнага забеспячэння належнага выканання імі воінскай службы. Цяжка дакладна зразумець, што сабою ўяўлялі такія пажалаванні. Найбольшую інфармацыю аб гэтым даюць уэсэкскія “Законы Інэ”, але і яны пакідаюць шмат невысветленага. Па кодэксе законаў гэтага заходнесаксонскага караля гезіты павінны былі засяліць пэўную частку падараваных ім уладанняў. Хто былі тыя людзі, якіх засялялі на такія землі і на якіх умовах гэтага рабілася, можна толькі здагадвацца. А што адбывалася з незаселенай часткай зямлі? Ці яна заставалася неапрацаванай, ці была нечым накшталт дамена гезіта? Вядома, сам гезіт не мог апрацаваць 70 – 200 га зямлі.

Магчыма, там працавалі рабы.

Асноўную масу насельніцтва англасаксонскіх каралеўстваў складалі *кэрлы*. Гэта свабодныя сяляне, якія валодалі вялікімі зямельнымі надзеламі – *гайдамі* (каля 50 га). Такі надзел магла апрацаваць толькі вялікая патрыярхальная сям'я, сямейная абшчына. Пытанне аб характары англасаксонскай сялянскай абшчыны з'яўляецца дыскусійным сярод гісторыкаў. Ясна, што яна не была падобнай на суседскую абшчыну – марку. Слушнымі падаюцца меркаванні расійскага гісторыка А. Я. Гурэвіча, які адзначыў, што сельская абшчына ў англасаксаў не адыгрывала такой ролі, як у франкаў. З аднаго боку сацыяльныя сувязі кэрлаў былі больш вузкімі – сямейная абшчына, а з другога – выходзілі за межы калектыва вёскі. Аснову тэрытарыяльнага ладу англасаксаў складалі не сельскія абшчыны, а больш шырокія акругі, якія ўключалі шэраг паселішчаў. Жыхары акругі карысталіся самакіраваннем, яны абавязаны былі сачыць за парадкам. Вышэйшым органам акругі был *гемот* – сход галоў сямей, дзе вырашаліся асноуныя агульныя праблемы, судовыя справы. Акругі падзяляліся на сотні. Удзел у народных сходах быў галоўнай адзнакай і правам свабоднага чалавека, таксама як і ўдзел у вайсковым апалчэнні. З VII ст. акруговыя сходы ўзначальваліся каралеўскімі ўпаўнаважанымі і знаходзіліся пад аховай каралеўскай улады. Гэта сведчыць аб тым, што, з аднаго боку, каралеўская ўлада мусіла лічыцца з самакіраваннем кэрлаў, а з другога, імкнулася іх кантраляваць. Калі гезіты-дружыннікі былі пастаяннай ваеннай апорай каралёў, то асноўную масу вайсковага апалчэння складалі ўзброеныя кэрлы.

Ператварэнню гайды ў алод перашкаджала ўласнасць на яе вялікай патрыярхальнай сям'і. Гайду нельга было прадаваць, яна пераходзіла ў спадчыну толькі ў рамках вялікай сям'і (і не па жаночай лініі). Пазней такое землеўладанне, заснаванае на старым, абшчынным праве пачалі называць фолклэндам (народная зямля).

Іншы характар меў *боклэнд* – зямля, атрыманая па каралеўскім пажалаванні, грамаце (boc, пазней book – грамата і land – зямля). Боклэнды паявіліся з канца VII ст. (спачатку для духавенства, а потым і для служылых людзей) і яскрава сведчаць аб фарміраванні буйнога феадальнага землеўладання. У працэсе фарміравання феадальных адносін у Англіі асаблівая роля належала каралеўскай уладзе. Формулы каралеўскіх грамат на боклэнды не павінны ўводзіць у зман – там часта выкарыстоўваюцца тэрміны рымскага права аб прыватнай уласнасці на зямлю, якая перадаецца навечна. Але пад гэтым мелася на ўвазе бясспрэчная непарушнасць права на каралеўскае пажалаванне, адрасаванага канкрэтнай асобе.

На самой справе боклэнд – гэта далёка не феод. Каралі давалі фактычна не ўласнасць на зямлю, а права на даходы з яе (*кармленні*). Зямля заставалася ва ўласнасці кэрлаў, а трымальнік боклэнда збіраў з іх сабе тыя падаткі, якія яны раней выплочвалі каралю. Але з цягам часу ўладальнікі боклэндаў пашыралі свае

правы: заводзілі на гэтых землях сваю панскую гаспадарку, прымушалі кэрлаў адбываць паншчыну. Гэтаму садзейнічала і тое, што часта па каралеўскіх граматах уладальнік боклэнда атрымліваў і судовую ўладу над мясцовым насельніцтвам : ён старшынстваваў на мясцовым судовым сходзе. Так паступова свабодныя сяляне ўцягваліся ў падзямельную і асабістую залежнасць.

Уладальнікі боклэндаў з цягам часу ператваралі права на атрыманне даходаў у права поўнай уласнасці на землі. Буйных землеўладальнікаў называлі *глафордамі* (пазней *лордамі*, што адпавядала французскаму “сеньёр”). Падпарадкаванню кэрлаў глафордамі садзейнічалі войны з вікінгамі, асноўны цяжар якіх вынесла сялянства. Камендацыя становіцца ў Англіі звычайнай з'явай. Ужо ўнук Альфрэда спачатку X ст. выдаў указ, па якім кожны чалавек павінен быў мець свайго гаспадара – глафорда. Глафорд адказваў за паводзіны свайго падапечнага, сам судзіў яго, ці дастаўляў у каралеўскі суд. Асаблівасцю сацыяльных адносін у раннесярэдневяковай Англіі была адсутнасць прэкарыя – аднаго з важнейшых сродкаў устанаўлення пазямельнай залежнасці сялян, напрыклад у дзяржаве франкаў. Нават зямельныя ўладанні царквы ў Англіі фарміраваліся не шляхам перадачы сялянамі права ўласнасці на іх надзелы, а праз падараванні зямель каралямі і знаццю.

Больш доўга, чым у франкаў у дзяржаўнай структуры англасаксонскіх каралеўстваў захоўваліся народныя сходы. Існавалі яны ў сотнях, але ў іх удзельнічалі толькі некалькі ўпаўнаважаных ад сялян разам з соценным старэйшынай, буйнымі землеўладальнікамі і святарамі. Такі сход меў судова-фіскальны характар. Вышэй знаходзіліся сходы па акругах, якія звычайна супадалі з былымі племяннымі каралеўствамі. На чале акругоў стаялі нашчадкі былых правадыроў плямён – *элдармэны*. Іх памочнікамі былі каралеўскія ўпаўнаважаныя – *шэрыфы* (“шайр” – акруга, “герэфа” – стараста). Шэрыфы паступова адцяснілі элдармэнаў і сталі на чале акруг. Фактычна гэта быў аналаг франкскім графам і графствам. Шэрыф меў у акрузе судовую і паліцэйскую ўладу, збіраў падаткі для караля. Пад яго старшынствам два разы на год збіраліся сходы акругі, на якіх было мала прадстаўнікоў ад сялян, а галоўная роля належала буйным землеўладальнікам. На сходах вырашаліся судовыя справы, пытанні падаткаабкладання, зачытваліся законы і ўказы караля.

Англасаксонскія каралі спачатку больш нагадвалі ваенных правадыроў плямён. У ранні перыяд вергельд караля быў роўны вергельду епіскапа. Але потым каралеўская асоба зрабілася недатыкальнай, замах на жыццё караля караўся смерцю. Кароль меў вялікі ўласны дамен, яму ішлі падаткі з насельніцтва, частка судовых штрафаў. Ён меў моцную дружыну. Але ўлада караля сур'ёзна абмяжоўвалася “саветам мудрых” (*уітэнагемотам*) – саветам знаці каралеўства. Гэты савет быў вышэйшым судовым органам краіны – да “мудрых” звярталіся з апеляцыямі на пастановы акружных судоў. Без згоды уітэнагемота кароль не меў

права выдаваць законы, нават граматы на зямельныя падараванні (іх абавязкова падпісвалі і “мудрыя”). Хоць каралеўскі прастол і перадаваўся ў спадчыну, але нашчадак мог заняць яго толькі са згоды уітэнагемота.

На тэрыторыях “дацкага права” феадальныя адносіны складваліся больш марудна, вікінгі прынеслі з сабою больш адсталыя адносіны. Перасяленцы са Скандынавіі не прызнавалі ніякай залежнасці, толькі ад сваіх правадыроў, ды і то незаўсёды. Свабоднае сялянства захоўвалася тут даўжэй.

## § 4. Апенінскі паўвостраў

**Дзяржава Адаакра.** На тэрыторыі Апенінскага паўвострава, у Італіі, у другой палове V ст. былі дзве ўплывовыя палітычныя сілы. Першую з іх рэпрэзэнтаваў патрыцый Арэст, які ў кастрычніку 475 г. звергнуў імператара Непата і ўзвёў на трон свайго шаснаццацігадовага сына Ромула Аўгуста. Другую – скір па маці і гун па бацьку Адаакр, які быў правадыром германскіх атрадаў з не вельмі буйных германскіх плямёнаў (скіраў, герулаў, ругаў), размешчаных у Лігурыі.

Германцаў не вельмі задавальняла ўтрыманне і кватараванне за дзяржаўны кошт. Яны імкнуліся атрымаць зямлю для рассялення. Адмова Арэста выканаць гэтае патрабаванне выклікала ў жніўні 476 г. паўстанне, у выніку якога Ромула Аўгуста скінулі. Улада перайшла да Адаакра.

Рэакцыя вышэйшых слаёў Рыма на пераварот была памяркоўнай. Большасць сенатараў у хуткім часе падтрымаў Адаакра. Пасольства Сената нават заявіла ўсходнерымскаму (візантыйскаму) імператару Зянону, што цяпер у Італіі будзе кіраваць Адаакр, вельмі спрактыкаваны палітык і воін. Гэтае ж пасольства перадала Зянону знакі імператарскай годнасці. У адказ усходнерымскі імператар вытрымаў пэўную паўзу (пачакаў, пакуль не памрэ ў 480 г. перадапошні легітымны імператар Заходняй Рымскай імперыі Юлій Непат) і вызнаў Адаакра сваім прадстаўніком на Захадзе з традыцыйным рымскім тытулам rex gentium, даў яму годнасць патрыцыя, пагадзіўся на прызначэнне консулаў. Усе гэтыя захады з боку Зянона зрабілі ўладу Адаакра легітымнай у вачах itала-рымлян.

Новая дзяржава была фармальна падпарадкавана Візантыйскай імперыі. Аб гэтым у прыватнасці, сведчыць той факт, што Адаакр не чаканіў залатую манету і наогул адмовіўся ад імператарскага тытула. Аднак пераацэнваць ступень залежнасці нельга. Фактычна Адаакр праводзіў цалкам самастойную палітыку.

Перш за ўсё было вырашана пытанне пра рассяленне германцаў. Яны атрымалі 1/3 частку зямель італа-рымлян. Іншы раз рэальнай замены гаспадароў не адбывалася, тады германцы атрымоўвалі 1/3 частку прыбыткаў адпаведнага маёнтка. Да караля перайшлі землі імперскага фіску, якія выкарыстоўваліся ім для ўласных патрэб і ў якасці фонду да наступных наданняў магнатам. Якіх-небудзь

значных змен у эканамічнай структуры краіны не адбылося. Захоўваліся познерымскія гаспадарчыя адзінкі – буйныя (massae) і сярэднія (villae) маёнткі. Галоўнай рабочай сілай заставаліся рабы і калоны.

Не было значных змен і ў сістэме публічнай улады – захоўваліся Сенат і галоўныя пасады адміністрацыйнай сістэмы перыяду дамінату: прэфект прэторыя, прэфект горада, падзел на правінцыі. У той час, як і ў іншых германскіх каралеўствах, італа-рымляне жылі па нормах, замацаваных у рымскім праве і плацілі падаткі, а германцы карысталіся сваім звычаёвым правам і падаткаў не плацілі. Аднак у адрозненне ад іншых германскіх каралеўстваў, рымляне ў дзяржаве Адаакра служылі ў войску і ўваходзілі ў склад дзяржаўнага савета. Апошні момант можа быць вытлумачаны невялікай колькасцю германцаў на тэрыторыі Апенінскага паўвострава.

У знешняй палітыцы Адаакр імкнуўся да ўрэгулявання адносін з суседнімі краінамі. Ён пацвердзіў усе тэрытарыяльныя ўступкі, якія зрабіў германцам у Галіі імператар Непат. Акрамя таго, было заключана пагадненне з паўночнаафрыканскім каралеўствам вандалаў і аланаў, што тыя ў абмен на пэўныя выплаты не будуць рабаваць Сіцылію, дзе было шмат маёнткаў знатных італа-рымлян. У той жа час нельга гаварыць і пра выключна пасіўны характар знешняй палітыкі Адаакра. У 480 г. ён правёў паспяховы паход у Далмацыю, у 488 г. брат караля разграміў германскае племя ругаў, якое пасялілася на Дунаі. У выніку была ўмацавана паўночная мяжа каралеўства.

Дзякуючы дастаткова ўзважанай знешняй і ўнутранай палітыцы ў краіне не было ўплывовай унутранай апазіцыі. Аднак гэта, як паказалі наступныя падзеі, не гарантавала стабільнага развіцця дзяржаве. Існаваў яшчэ адзін моцны фактар, знешні – Візантыйская імперыя.

Актывізацыя апошняга фактару, як можна меркаваць, была вынікам не вельмі асцярожнага кроку Адаакра. Ён надаў свайму сыну тытул цэзара. Паводле жа сістэмы ўлады пры дамінаце цэзар з цягам часу павінны быў стаць аўгустам (імператарам). Адпаведная перспектыва аднаўлення імперскіх амбіцый на Захадзе непасрэдна закранала інтарэсы Візантыі, якая пачала рабіць адпаведныя захады па іх нейтралізацыі.

У новых умовах імператар Зянон бярэ курс на максімальнае паслабленне дзяржавы Адаакра з наступнай акупацыяй Апенінскага паўвострава і ператварэнне Італіі ў візантыйскую правінцыю. Выканаўцай гэтых планаў павінны быў стаць правадыр германскага племені остготаў Тэадорых, які пагражаў Канстанцінопалю.

У выніку складаных і неадназначных перамоў остготы рушылі на Апенінскі паўвостраў (490 г.). Першае сутыкненне дзвюх германскіх армій адбылася ў ракі Ізонца. Пасля паражэння Адаакр адступіў спачатку да Вяроны, потым да Равены, дзе і замацаваўся. Тэадорых вырашыў не спыняць рух сваёй арміі. Ён пакінуў

каля Равены атрады на чале з Туфам (былым афіцэрам Адаакра, які перайшоў на бок заваёўнікаў), а сам разам з асноўнымі сіламі рушыў на Медыялан (Мілан). Аднак у хуткім часе Туф зняў аблогу Равены, арыштаваў остгоцкіх афіцэраў і перадаў іх Адаакру. У выніку апошні рушыў на Медыялан. Тэадорых быў вымушаны адступіць (верасень 491 г.).

Другое ўварванне Тэадорыха на тэрыторыю Апенінскага паўвострава развівалася па падобным сцэнарыі. Пасля першага паражэння Адаакр зноў схаваўся ў Равене. Частка італа-рымлян перайшла на бок заваёўнікаў, частка захавала вернасць Адаакру. Відавочнай перавагі не было ў ніводнага з бакоў. Вайна зацягвалася. У выніку Тэадорых быў вымушаны прапанаваць перамовы, якія пачаліся пры дапамозе каталіцкай царквы. Умовы, прапанаваныя Адаакру, былі дастаткова пачэсныя. Пасля здачы Равены краіна пераходзіла пад сумеснае кіраванне Адаакра і Тэадорыха. У гонар мірнага пагаднення быў улаштаваны шыкоўны банкет, падчас якога Адаакра забілі (493 г.). Адзіным гаспадаром Апенінскага паўвострава стаў Тэадорых.

**Остгоцкае каралеўства.** Першым каралём дзяржавы остготаў стаў Тэадорых, якога сучаснікі празвалі Вялікім (493 – 526). Пасля таго як ён захапіў уладу ў Італіі, рымская арыстакратыя звярнулася да візантыйскага імператара Зянона, каб той прызнаў яго каралём, што і было зроблена. У 518 г. новы імператар Юсцініян у адказ на зварот Тэадорыха вызнаў правы на остгоцкі прастол за яго зяцем Эўтарыхам. Сам жа Тэадорых неаднаразова заяўляў, што будзе кіраваць згодна з візантыйскімі законамі. Вельмі актыўна дзейнічаў Тэадорых і з іншымі германскімі каралеўствамі. Так, ён дапамог вестготам у барацьбе супраць франкаў і ў выніку пасадзіў на вестгоцкі прастол свайго ўнука. Да канца жыцця Тэадорых у якасці рэгента кіраваў Іспаніяй, дзе былі размешчаны остгоцкія гарнізоны.

Што да ўнутранай палітыкі, то апазіцыю Тэадорых падаўляў жорстка і бязлітасна. Аб гэтым вельмі добра сведчаць падзеі 20-х гадоў VI ст.: за здраду ў 524 г. быў пакараны Северын Баэцый, першы міністр з 522 г., у 525 г. – лідэр сената Сімах, у 526 г. быў арыштаваны рымскі епіскап Іаан I, які ў хуткім часе памёр.

Падчас рассялення ў Італіі остготы атрымалі 1/3 частку зямлі, галоўным чынам тыя надзелы, якія ў свой час даў германцам Адаакр. Была створана спецыяльная камісія на чале з патрыцыям Ліберыем, якая вызначыла памеры надзелаў і правы остготаў адносна рымлян. Надзелы былі розныя і больш знатныя остготы атрымалі больш зямлі, акрамя таго, яны атрымалі пэўную колькасць зямлі ў якасці каралеўскіх наданняў. Правы на зямлю і па раздзелу, і па наданню замацоўваліся спецыяльнай граматай. Замест надзелу остгот мог атрымаць 1/3 частку прыбытку адпаведнага землеўладальніка. Па-ранейшаму захоўвалася каралеўскае, рымскае, царкоўнае землеўладанне. Спробы неарганізаванага захопу

зямель остготамі вельмі жорстка спыняліся каралеўскай уладай. Рымляне, як і германцы, атрымлівалі граматы на зямлю. У хуткім часе надзелы ператварыліся ў алоды.

Пераразмеркаванне зямельнага фонду прывяло да фарміравання значнага слою дробных землеўладальнікаў, якія мелі пэўную гаспадарчую самастойнасць. Праца свабодных сялян-абшчыннікаў, якіх падтрымлівала каралеўская ўлада, была эканамічнай глебай стабільнага развіцця каралеўства на першым этапе яго гісторыі.

Дзяржава забяспечвала меліярацыйныя работы, дзеля чаго Тэадорых запрасіў з Паўночнай Афрыкі вядомых інжэнераў-меліяратараў, даў ім вялікія грошы, каб толькі працавалі, і жорстка кантраляваў іх працу. Зямля, уведзеная ў гаспадарчы абарот, вызвалялася ад падаткаў. Былі зроблены крокі, каб палепшыць пароды жывёлы. Дунайская парода быкоў была заменена алеманскай, больш прыдатнай для плужнага земляробства. У выніку гэтых і іншых захадаў Італія цалкам забяспечвала сябе харчаваннем, частка збожжа паступала на экспарт. А тое, што дзяржава зафіксавала максімальную цану на асноўныя прадукты харчавання (збожжа, мяса, віно), станоўча адбілася на ўзроўні жыцця насельніцтва. Вонкавым выяўленнем стабільнага развіцця краіны стала адраджэнне масавых цыркавых і тэатральных відовішчаў, раздача хлеба і мяса плебсу. Даволі актыўна будаваліся муры гарадоў, масты, дарогі, водаправоды ў Рыме і Равене. Найбольш вядомай пабудовай дадзенага перыяду стаў маўзалей Тэадорыха. У Рыме была арганізавана першая школа для дзяцей знаці, каб рыхтаваць кадры для дзяржаўнай службы.

Хуткімі тэмпамі развіваліся рамяство і гандаль. Дзяржава кантралявала здабычу золата, жалеза, мармуру, працягвала распрацоўку руднікоў. Дзяржаўныя манетныя двары існавалі ў Рыме, Равене, Медыялане. Дзеля развіцця гандлю, у тым ліку марскога, вялося актыўнае судабудаванне (Тэадорых марыў пра тысячу вялікіх караблёў), у 508–511 гг. час ад часу скасоўваўся падатак з продажу на хлеб, віно, алей.

Аднак адначасова назіраліся і пэўныя трывожныя тэндэнцыі: 1) зрастанне натуральных адносін; 2) пераход рамеснікаў з гарадоў у вёскі; 3) уцёкі з гарадоў курыялаў.

Прававая сістэма каралеўства грунтавалася на выдадзеным каля 500 г. “Эдыкце Тэадорыха”, які складаўся з 155 артыкулаў. У 508 г. з’явіўся эдыкт пра абарону касцёльнай маёмасці. У 533 – 534 гг. – эдыкт караля Аталарыха, які забараняў самавольныя захопы зямель. Асаблівасцю остгоцкіх законаў была іх абавязковасць для выканання і германцамі і італа-рымлянамі.

Лозунгам афіцыйнай прапаганды стала адзінства. Тэадорых неаднаразова падкрэсліваў, што адзіны лад жыцця, адзіны закон, адзіная ўлада звязваюць готаў і рымлян. Хоць остготы былі па веравызнанню арыянамі, яны дастаткова станоўча

ставіліся да католікаў. Той жа Тэадорых заяўляў, што чалавека нельга прымушаць да веры.

Улада караля была манапольнай, яму належала выкананне вайсковай, адміністрацыйнай, судовай і выканаўчай функцый. Аднак прынцып спадчыннасці каралеўскай улады так і не замацаваўся. Прынамсі з васьмі остгоцкіх каралёў тры апошніх не належылі да роду Амалаў і былі выбраны на агульным сходзе войска.

Каралеўскі савет складаўся з прадстаўнікоў германскай знаці і рымскай арыстакратыі. Дзейнічаў Сенат Рыма, але яго паўнамоцтвы былі вельмі абмежаваныя і фактычна зведзены да выканання функцый гарадскога самакіравання. Сенатары плацілі падаткі, што сведчыць пра зніжэнне іх палітычнага ўплыву. У прывінцыях, як і раней, кіравалі рымскія прэфекты, аднак фінансавыя, адміністрацыйныя, судовыя, вайсковыя функцыі выконваліся не імі, але остгоцкімі графамі.

Аўтарытэт каралеўскай улады быў вельмі значным. Тут сваю ролю адыграў інстытут асабістай абароны (tuitio). Пры гэтым кароль выступаў гарантам асабістай абароны правоў тэрыторыі, народа, асобнага свабоднага чалавека. Права ажыцяўлялася праз выдачу спецыяльнай каралеўскай граматы, якая гарантавала недатыкальнасць суб’ектаў абароны і іх маёмасці. Умацаванню каралеўскай улады садзейнічалі і штрафы, што спаганяліся на карысць каралеўскай казны. Кантроль за выкананнем каралеўскіх загадаў ажыцяўляўся сайонамі, якія прызначаліся каралём і былі яму падпарадкаваны. Яны мелі паўнамоцтвы на арышт, штраф, канфіскацыю маёмасці. Арыштаваць жа самаго сайона можна было толькі згодна з санкцыяй караля.

Адначасова адбывалася павялічэнне эканамічнай, вайсковай і, адпаведна, палітычнай магутнасці остгоцкай знаці. Асобныя магнаты мелі дружыны, да складу якіх уваходзіла да адной-двух тысяч воінаў. Кожны дружыннік у сваю чаргу мог мець пры сабе да пяці чалавек. Вельмі шмат разоў остгоцкія каралі ў сваіх лістах скардзіліся на сваволле знаці, якая ўхіляецца ад выканання вайсковай службы і выплаты падаткаў.

Пасля смерці ў 526 г. Тэадорыха Вялікага остгоцкая карона перайшла да яго малалетняга ўнука Аталарыха (526–534). Рэальная ўлада пры гэтым належала яго маці, дачке Тэадорыха Амаласунце. Менавіта пад яе ўплывам былі зроблены пэўныя крокі, накіраваныя на дасягненне кампрамісу з рымскімі коламі. Так, нашчадкам пакараных Баэцыя і Сімаха вярнулі канфіскаваную маёмасць. Але гэта выклікала адмоўную рэакцыю остгоцкай знаці. Тады Амаласунта вырашыла канчаткова стаць на бок рымлян і пачала таемныя перамовы з імператарам Юсцініянам пра пераход Італіі пад яго поўную ўладу. Фактычна быў узяты курс на скасаванне остгоцкай дзяржаўнасці. Тым часам памёр Аталарых. Амаласунта была вымушана падзяліць уладу са сваім стрыячным братам Тэадахадам (534–

536). У хуткім часе Тэадахад выслаў Амаласунту на востраў на возеры Балсэна і арганізаваў яе забойства.

Смерць Амаласунты стала фармальнай зачэпкай для Візантыі каб пачаць вайны з остготамі. На самой справе такім чынам адбывалася рэалізацыя знешнепалітычнага курсу Юсцініяна, накіраванага на аднаўленне былой Рымскай імперыі пад эгідай Канстанцінопаля.

У 534 г. на востраў Сіцылія ўварвалася армія на чале з Велізарыем. Праз некалькі месяцаў ён пераправіўся на Апеніны. Яшчэ адна рамейская армія рушыла на остготаў з Далмацыі. Ужо ў 536 г. рамеі ўступілі ў Рым. Тэадахад пачаў перамовы з магутным праціўнікам, больш таго, даў прынцыповую згоду на вызнанне супрэматыі Візантыі. Аднак адмова ад барацьбы прывяла да дэтранізацыі Тэадахада і яго забойства готамі.

Германскае войска выбрала новага караля – Вітыгіса (536–540), але і яму не пашанцавала. У 540 г. была захоплена Равена, сталіца каралеўства, Вітыгіс капітуляваў і быў адпраўлены ў Канстанцінопаль у якасці палоннага. Тым часам на поўначы краіны супраціўленне заваёўнікам працягвалася на чале з новым каралём Ільдзібадам (540–541).

Падчас вайны з Візантыяй остгоцкарымскі саюз канчаткова вычарпаў свае магчымасці. Каралеўская ўлада пачала абапірацца пераважна на радавых воінаў, якія неслі на сваіх плячах асноўны цяжар вайны. У новых варунках сталі магчымымі радыкальныя захады новага караля остготаў – Тацілы (541–552).

Таціла здолеў адмабілізаваць усе сілы готаў і значна павялічыць колькасць арміі. Дзеля гэтага ён пачаў браць на вайсковую службу рабоў і калонаў. Першым абяцялася свабода, другім – вызваленне ад аброку. Усе дзяржаўныя падаткі накіроўваліся непасрэдна ў каралеўскую казну. Акрамя таго, Таціла дазволіў дробным і сярэднім землеўладальнікам на законных падставах карыстацца тою зямлёю, якая фактычна была захоплена імі.

Спачатку Таціла ваяваў паспяхова – вызваліў Кампанію, Паўднёвую Італію, Рым. Магчыма, перамогам Тацілы спрыяла і адкліканне з Апенінаў Велізарыя. Аднак у хуткім часе зноў пачалі перамагаць рамеі, на гэты раз пад кіраваннем палкаводца Нарсеса. Таціла пачаў перамовы, паабяцяў адмовіцца ад Сіцыліі і Далмацыі, плаціць дань, накіроўваць остгоцкую моладзь на службу ў візантыйскую армію. Але цяпер Візантыя імкнулась атрымаць усё і на кампраміс не пайшла. Вайна працягвалася. У 552 г. Таціла загінуў. Новым і апошнім каралём остготаў стаў Цейя (552–553). Ён працягваў барацьбу, але ў хуткім часе таксама загінуў у баю. Італія апынулася пад уладай Візантыі.

У 554 г. імператар Юсцініян выдаў так званую "Прагматычную санкцыю", якая не толькі скасоўвала ўсе рэформы Тацілы, але і наогул аднаўляла ў Італіі дагерманскія парадкі. Рымскія арыстакраты атрымалі сваю зямлю, рабоў, калонаў, сенатары – прывілеі. Гэты дакумент захоўваў юрыдычную сілу да 568 г., калі на

Апенінскі паўвостраў прыйшоў германскі народ лангабардаў, які заняў большую частку рэгіёна.

**Каралеўства лангабардаў.** Гісторыя каралеўства лангабардаў мае шэраг асаблівасцей: 1) гэта было храналагічна апошняе германскае каралеўства, якое ўзнікла на землях Заходняй Рымскай імперыі; 2) лангабарды адзначаліся асаблівай агрэсіўнасцю адносна рымскага насельніцтва; 3) даволі працяглы перыяд у лангабардаў існавала своеасаблівая дыхатомія ўлады – каралеўскай і герцагскай.

Лангабарды на чале з каралём Альбаінам прыйшлі ў Італію з берагоў Дуная ў 568 г. Ужо ў 572 г. Альбаін быў забіты сваёй жонкай Разамундай. Не вельмі доўга правіў і наступны кароль, Клеф. У 574 г. яго забілі дружыннікі. Пасля гэтага “жалезная карона лангабардскіх каралёў” была безгаспадарчай.

Заваяванне тым часам працягвалася. Германцы захапілі Паўночную і Сярэднюю Італію, частку Ўсходняй Галіі. На гэтых землях узніклі тры лангабардскія дзяржавы: уласна каралеўства са сталіцай у Павіі і два герцагствы – Спалета і Беневент.

Рассяляліся лангабарды *фарамі*, кроўнарадавымі абшчынамі, якія мелі адзіную тэрыторыю і правы вайсковай адзінкі. Паступова фарыператварыліся ў суседскія абшчыны. Рымскія землеўладальнікі плацілі 1/3 сваіх прыбыткаў, але вельмі шмат з іх замест гэтага аддавалі сваю зямлю разам з залежным насельніцтвам. Часта рымляне гвалтоўна зганяліся з зямлі. Лангабардамі-арыянамі таксама канфіскоўваліся зямельныя ўладанні каталіцкай царквы.

У 584 г. каралём лангабардаў стаў сын Клефа – Аўтарых. З улікам таго, што кароль не меў значных зямельных уладанняў герцагі пайшлі на дастаткова рашучы крок – кожны з іх перадаў на карысць кароны палову заваяваных зямель. Аднак Аўтарых у хуткім часе зрабіў дастаткова грубую памылку, перайшоў да пасіўнай знешняй палітыкі і заключыў мір з франкамі. У выніку ў 590 г. кароль быў забіты.

Вельмі прыметны след у гісторыі лангабардаў пакінуў кароль Ротары (636–652). Менавіта пры ім адбылася кадыфікацыя права. У 643 г. быў выдадзены “Эдыкт Ротары”. Акрамя традыцыйных нормаў, тут былі зафіксаваны новыя рэаліі, акрэсліваліся паўнамоцтвы каралеўскай і герцагскай улады, статус залежных слаёў насельніцтва, права на беспакаранае забойства па загадзе караля і г. д. Эдыкт былі абавязаны выконваць і лангабарды, і рымляне. У той жа час асобныя плямёны, напрыклад тыя ж осготы, з дазволу караля маглі карыстацца ўласнымі законамі.

Пасля праўлення Ротары каралеўства лангабардаў уступіла ў паласу суцэльных унутрыпалітычных канфліктаў, паўстанняў, грамадзянскіх войнаў.

Адносную стабілізацыю краіны можна адзначыць толькі ў часы праўлення Ліутпранда (712–744). Новы кароль падтрымліваў добрыя адносіны з франкамі,

даў каталіцкай царкве такія ж прывілеіі, якія былі ў арыян. Знешнепалітычна лангабарды пашырылі свой уплыў на Спалета і Беневент.

У VIII ст. герцагі ператварыліся ў кіраўнікоў адміністрацыйных акругоў з публічна-прававымі паўнамоцтвамі. Яны разам з каралеўскімі чыноўнікамі (*гастальдамі*) складалі пласт вышэйшых службовых асоб. Гастальды, у сваю чаргу, паступова ператвараліся ў буйных землеўладальнікаў.

Пад кантроль каралеўскіх суддзяў-намеснікаў перайшлі пытанні набору войска і замены вайсковай службы адработкай. Яны ж давалі санкцыю каралю на прыняцце новых законаў.

Паспрыяла стабілізацыі краіны і вайсковая рэформа, якая была праведзена пры каралі Айстульфе (749–756). Згодна з гэтай рэформай: 1) маламаёмасныя сяляне адхіляліся ад вайсковай службы, іх абавязак перад дзяржавай абмяжоўвайся працай; 2) у пяхоце служылі ўладальнікі надзелаў да 40 югераў; 3) уладальнікі надзелаў у 40 югераў і больш служылі ў конніцы, але без панцыра, 3) уладальнікі маёнткаў, дзе працавала сем і больш сялян-трымальнікаў, служылі ў конніцы з поўнай зброяй.

Адначасова ў VIII ст. лангабардскімі каралямі шырока практыкуецца раздача ўмоўных трыманняў і судовых паўнамоцтваў без адпаведнага кантролю з боку цэнтральнай улады. У выніку адбываецца паступовы рост сепаратысцкіх памкненняў герцагаў, што аслабіла краіну перад такімі магутнымі знешнімі ворагамі, як каралеўства франкаў і Візантыйская імперыя.

У 774 г. каралеўства лангабардаў было заваявана франкамі і ўключана ў склад іх дзяржавы.

## § 5. Пірэнейскі паўвостраў

**Каралеўства свеваў.** У 429 г. вандалы-асдзінгі, вандалы-сілінгі і аланы, якія ў самым пачатку V ст. атрымалі для рассялення зямлю на Пірэнейскім паўвостраве, пачалі рух на поўдзень, у Поўночную Афрыку. Пасля гэтага пачалася ўпартая барацьба за кантроль над дыяцэзам Іспанія паміж свевамі і іспана-рымлянамі. Падчас пастаянных войнаў вайсковае шчасце часцей было на баку германцаў – перамогі караля Рэхіна (440, 446 гг.), караля Рэкіярна (448, 449 гг.).

Нарэшце іспана-рымляне звярнуліся за дапамогай да імператара Авіта, які направіў на паўстраў атрады сваіх федэратаў – вестготаў і бургундаў. У баі са свевамі перамагла армія цэнтральнай улады. Кароль Рэкіярн загінуў, яго краіна трапіла пад кантроль вестготаў.

У хуткім часе Агівульф, вестгоцкі намеснік на свеўскіх землях, пачаў паўстанне супраць свайго караля. Агівульф загінуў, але свевы здолелі аднавіць незалежнасць. Новым каралём стаў Мальф, які правіў да 469 г.

Далейшая гісторыя свеўскага каралеўства па аўтэнтычных крыніцах не прасочваецца. Асноўнай крыніцай для яе апісання служаць некалькі раздзелаў з “Гісторыі каралёў готаў, вандалаў і свеваў” Ісідора Севільскага. З яе мы ведаем, што каралеўства свеваў ахоплівала тэрыторыю Галісіі і паўночную частку Лузітаніі, што каролі Мір і Аўдэка падтрымалі паўстанне Германгільда супраць свайго бацькі, вестгоцкага караля Леавегільда, у выніку чаго свевы ў 585 г. страцілі незалежнасць і іх краіна ператварылася ў правінцыю вестгоцкага каралеўства.

Улада свеўскага караля была спадчыннай, але новы кароль зацвярджаўся на народных сходах. Адносіны паміж свевамі рэгуляваліся традыцыйным звычаёвым правам. У пытаннях веравызнання свевы выявілі пэўную ступень абыякавасці. Пры Рэкіярне яны былі каталікамі, пры Рэмісмундзе (каля 465 г.) – арыянамі, у 80-х гадах VI ст. – зноў сталі каталікамі. Іспана-рымскае насельніцтва захоўвала традыцыйную сацыяльную структуру і сістэму кіравання. Жыло яно па рымскіх законах, падчас перамоў са свевамі выступало ў якасці асобных суб’ектаў права.

Пра палітычную гісторыю свеўскага каралеўства ёсць інфармацыя, а пра сацыяльна-эканамічнае жыццё краіны даследчыкі вымушаны аперавацьацэначнымі катэгорыямі. У прыватнасці, можна меркаваць, што эканамічнае развіццё рэгіёна было больш-менш устойлівым. Прынамсі, зыходзячы з таго, што, па-першае, свевы вельмі агрэсіўна ставіліся да іспана-рымлян і перыядычна рабавалі іх, і, па-другое, гэты дзівосны сімбіёз рабаўніка і ахвяры праіснаваў амаль паўтары сотні гадоў, можна зрабіць выснову, што гаспадаркі іспана-рымлян давалі дастаткова прадукцыі для існавання двух народаў. Наступнай высновай можа стаць вызначэнне свеваў як вайсковага саслоўя, якое ажыццяўляла эксплуатацыю іспана-рымскага насельніцтва праз бязвыплатную канфіскацыю часткі іх прыбытку.

**Каралеўства вестготаў.** Канчатковая рыса пад федэратыўнымі адносінамі паміж вестготамі і імператарскай уладай была падведзены каралём Эйрыхам (466–484), які ў 468 г. пачаў заваяванне Пірэнейскага паўвострава. У 470 г. германцы ўшчэнт разграмілі армію імператара Анфімія, а праз пяць год рымскі імператар Непат падпісаў з Эйрыхам пагадненне, згодна з якім Рымам вызнаваліся ўсе тэрытарыяльныя набыткі вестготаў – амаль увесь Пірэнейскі паўвостраў і частка Галіі. Пры Эйрыху была праведзена кадыфікацыя вестгоцкага права (475 г.), але, хоць новы кодэкс быў напісаны па рымскім ўзоры, ён рэгуляваў адносіны толькі паміж германцамі.

Разам з тым нельга было выпусціць з-пад увагі і іспана-рымлян. Паводле прыблізнай ацэнкі іх было каля 6 млн супраць 200 тыс. вестготаў. Праблему быў заклікааны вырашыць выданы падчас праўлення Аларыха II (484–507) спецыяльны свод законаў – “Брэвіарый Аларыха” (506). Рыхтаваўся ён пры дапамозе спрактыкаваных рымскіх юрыстаў і каталіцкіх епіскапаў (вестготы былі

арыянамі). Фактычна “Брэвіярый Аларыха” стаў адаптацыяй рымскага права з германскага пункту гледжання, зробленай для рымскіх грамадзян. У яго не былі ўключаны тыя законы, якія накіроўваліся супраць арыянаў, вызначалі дзяржаўны лад, вайсковую арганізацыю. Захоўваліся прыватная ўласнасць на зямлю, падзел людзей на свабодных і рабоў, пэўныя прывілеі для сенатараў, якія цяпер вызначаліся як nobiles і majores, муніцыпальны лад гарадоў.

Такім чынам “Брэвіярый Аларыха” стаў першым крокам да ўніфікацыі вестгоцкага грамадства. Германцы жылі па законах Эйрыха, па ім жа рашаліся іх спрэчкі з іспана-рымлянамі. Апошнія жылі па законах, якія былі ім дадзены германцамі.

У пачатку VI ст. у Вестгоцкага каралеўства з’явіўся яшчэ адзін вельмі моцны знешні вораг – дзяржава франкаў на гальскіх землях. Пасля таго як Хлодвіг прыняў каталіцызм, галоўным аб’ектам знешнепалітычнай экспансіі франкаў сталі землі іншых германскіх каралеўстваў, дзе пануючай рэлігіяй было арынства. Гальскія ўладанні вестготаў Хлодвіг захапіў у 507 г., пасля таго, як у бітве пры Вуйе армія Аларыха II была разгромлена, а сам кароль загінуў.

Пасля гібелі Аларыха II ў краіне з’явіліся два прэтэндэнта на карону: пазашлюбны сын караля Гезаліх і законны сын караля Амаларых. За спіной апошняга стаяў цесць Аларыха II магутны кароль остготаў Тэадорых Вялікі, што і наканавала зыход барацьбы. У бітве пры Барселоне перамагла армія остготаў, карону атрымаў Амаларых III (507–531), але ён не мог кіраваць самастойна. Кантроль над краінай, і вельмі жорсткі, ажыцяўляў рэгент – Тэадорых Вялікі. Больш таго, у Равену была перавезена дзяржаўная казна вестготаў. Аднавіць сваю незалежнасць вестгоцкая дзяржава здолела толькі пасля смерці Тэадорыха Вялікага ў 526 г. Некалькі пазней, у 532 г., была вырашана і франкская праблема. Армія караля Теўдзіса (531–548) разбіла франкаў пад Сарагосай, пасля чаго апошнія адмовіліся ад планаў заваявання Пірэнеяў.

У VI ст. тэрыторыя вестгоцкага каралеўства абмяжоўвалася Іспаніяй, але яны паступова сталі сапраўднымі гаспадарамі і крок за крокам заваявалі ўвесь Пірэнейскі паўвостраў. Праўда, тут вестготы сутыкнуліся з яшчэ адным магутным сапернікам, Візантыяй, якая імкнулася аднавіць былую Рымскую імперыю. У 551 г. рамеі захапілі паўднёвы ўсход Пірэнеяў – Бетыку і частку Картахены. Аднак урэшце рэшт гэтая тэрыторыя і частка Маўрэтаніі была адваявана вестготамі (канчаткова ў 636 г.), у 585 г. вестготы далучылі да сваіх уладанняў каралеўства свеваў.

У VI ст. адбываецца відавочнае ўзмацненне каралеўскай улады – з’яўляецца асобая каралеўская вопратка, прастол, тытулатура (sanctissimus princeps), пасля 529 г. крыніцы не паведамляюць пра народныя сходы. На чале асобных палацавых устаноў стаялі каміты. Правінцыямі кіравалі каралеўскія намеснікі (дуксы). Каралеўскія чыноўнікі (каміты, вікарыі, суддзі) распараджаліся ў

гарадах. Аднак, пасля гібелі ў 531 г. караля Амаларыха дынастыя Балтаў закончылася. Разам з ёю з юрыдычнай практыкі каралеўства знік і прынцып спадчыннай перадачы кароны ў рамках аднаго рода. Каралеўская ўлада стала выбарнай. Спробы ж наступных манархаў вярнуцца да прынцыпу спадчыннай перадачы ўлады поспеха не мелі.

Найбольш важкім для лёсу краіны ў VI ст. стала праўленне Леавігільда (568–586). Менавіта ў гэты час краіна перажыла грамадзянскую вайну, якая пачалася ў 579 г. і цягнулася да 585 г. Сын Леавігільда Герменегільд, які ажаніўся з франкскай прынцэсай Ігундай, каталічкай, і паступова трапіў пад яе ўплыў, таемна перайшоў у каталіцызм і ўзняў паўстанне супраць бацькі. На бок Герменегільда перайшлі свевы, якія спадзяваліся такім чынам аднавіць сваю незалежнасць. Аднак паўстанцаў не падтрымалі каталіцкія іерархі.

Адным з асноўных вынікаў грамадзянскай вайны было стымуляванне прававой уніфікацыі грамадства. Яшчэ да пачатку паўстання Леавігільд у сваім кодэксе скасаваў забарону на шлюбы паміж германцамі з іспана-рымлянамі. Цяпер жа ён вырашыў дамагчыся большай кансалідацыі грамадства на глебе арыянскага веравызнання і ў 580 г. максімальна спрасціў працэдуру пераходу з каталіцызму ў арыянства. Праўда, ужо наступны кароль, Рэкарэд (586–601), змяніў канфесіянальную арыентацыю. У 589 г., пасля таго як кароль на III Таледскім саборы вызнаў каталіцкі сімвал веры, вестготы прынялі каталіцызм. Маёмасць арыянскай царквы была канфіскавана. Нешматлікія паўстанні прыхільнікаў арыянства былі задушаны. Каталіцкія епіскапы ператварыліся ў састаўную частку дзяржаўнага апарату. Яны сачылі за спагнаннем падаткаў і паведамлялі каралю пра злаўжыванні, якія здараліся пры гэтым. Пасля VI Таледскага сабора пачалося праведзенне больш жорсткай канфесійнай палітыкі, накіраванай супраць яўрэяў. Паводле рашэнняў сабора, асобы нехрысціянскага веравызнання не маглі пражываць на тэрыторыі каралеўства.

Наступны крок да ўніфікацыі грамадства зрабіў кароль Рэкесвінт (649–672). Яго кодэкс 684 г., са зменамі 681 і 693 гг. (liber judicum альбо fuero juzgo, адкуль паходзіць назва больш позніх іспанскіх і партугальскіх законадаўчых помнікаў – фуэрас), не толькі ахопліваў практычна ўсе бакі жыцця тагочаснага грамадства, але і меў агульнаіспанскае значэнне і рэгуляваў адносіны як вестготаў, так і іспана-рымлян. Нашчадкі абодвух этнічных груп выконвалі вайсковы абавязак (раней у войску служылі выключна германцы), вестготы ў сваю чаргу пачалі плаціць падаткі, але толькі за тую частку зямлі, якую яны набылі пасля пачатковага радзелу іспанскіх зямель.

**Заваяванне Пірэнеяў арабамі.** Становішча ў Вестгоцкім каралеўстве рэзка абвастрылася ў канцы VII – пачатку VIII ст.

Нарастанне праблем пачалося пасля адхілення ад улады дастаткова моцнага караля Вамбы (672–680), адбіўшага ў 677 г. першую атаку арабаў. У наступным,

аднак, баі з арабамі разгортваліся няўдала для вестготаў, у выніку чаго яны страцілі Маўрытанію (697 г.).

Аслабленне пазіцый каралеўскай улады азначала адпаведнае ўзмацненне палітычнай актыўнасці магнатаў, чые правы былі пашыраны пры каралі Вітыцы (701–710). Пасля смерці апошняга карона вестготаў была перададзена не яго сыну, але дуксу Бетыкі Радэрыку (710–711). У адказ на гэта сям'я Вітыцы звярнулася за дапамогай да паўночнаафрыканскіх берберaў. На Пірэнеях высадзіўся атрад Тарыка ібн Зіяда. Яго падтрымалі прыхільнікі Вітыцы, у тым ліку граф Юліян, вестгоцкі камендант крэпасці Сеута (на афрыканскім беразе Гібралтарскага праліва). 19 ліпеня 711 г. асноўныя сілы каралеўства былі разбіты. Лёс Радрыга застаўся невядомым. У 712 г. з Афрыкі прыбыла 18-тысячнае войска. У хуткім часе, практычна не сустракаючы супраціўлення, арабы захапілі буйнейшыя гарады краіны. Заваяванне Пірэнеяў у асноўным было завершана да 714 г.

Пад вестгоцкім кантролем заставаўся толькі невялікі горны рэгіён на поўначы паўвострава. Тут замацаваліся рэшткі вестгоцкага войска на чале з Пелаё, унукам караля Гіндэсвінта. Менавіта сюды ў 718 г. для ліквідацыі апошняй апорнай базы вестготаў, быў накіраваны атрад арабаў, але ў даліне Кавадонга яго ўшчэнт разграмілі. Гэтая перамога традыцыйна лічыцца пачаткам зваротнага заваявання Пірэнеяў, Рэканкісты, якая расцягнулася на стагоддзі і завяршылася перамогай хрысціян у 1492 г.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё.** У сферы эканамічнага жыцця Пірэнейскага паўвострава пры вестгоцкіх каралях захоўвалася арыентацыя на земляробства і жывёлагадоўлю. Пры гэтым вырасла плошча зямель уключаных у гаспадарчы абарот. Пад ворыва расчышчаліся лясы. Збожжа экспартавалася ў Італію. На стабільным узроўні падрымлівалася рамесная вытворчасць. У Галісіі працягвалася распрацоўка шахтаў і руднікоў.

Землі, якія раней уваходзілі у склад імперскага фіску, перайшлі пад каралеўскі кантроль і стварылі фонд да наступных наданняў знаці і дружыннікам. Буйнымі землеўладальнікамі, акрамя караля, былі прадстаўнікі племянной знаці, іспана-рымскай арыстакратыі, каталіцкая і арыянская цэрквы.

Фіскальную сістэму каралеўства складалі пазямельны і падушны падаткі на ўтрыманне войска і службовых асоб, спагнанне грошай з гандлёвых аперацый, выкананне насельніцтвам пэўных дзяржаўных павіннасцеў.

Аладыяльная зямельная ўласнасць у вестготаў сфарміравалася яшчэ да іх паяўлення на Пірэнеях. У выніку ў VI ст. зямля стала звычайным аб'ектам куплі-продажу, пастаянна пашыралася свабода перадачы зямлі ў спадчыну. Галоўнай рабочай сілай у буйных маёнтках былі рабы і калоны, там жа працавалі і дробныя свабодныя гаспадары, якія патрапілі ў пазямельную залежнасць.

Становішча рабоў паступова змянялася ў лепшы бок. Вырасла іх

гаспадарчая самастойнасць, павысіўся юрыдычны статус – рабы атрымалі права на рухомую маёмасць, жывёлу, маглі выступаць сведкамі на судзе, нават судзіцца са свабоднымі. Такім чынам, можна гаварыць пра працэс сбліжэння дзвюх груп вясковага насельніцтва. Становішча рабоў і калонаў крыху паляпшаецца, а дробных свабодных сялян крыху пагаршаецца, у выніку фарміруецца больш-менш аднародны слой залежнага сялянства.

Адбываецца павышэнне сацыяльнага і маёмаснага статуса некаралеўскіх дружыннікаў. Калі раней яны атрымлівалі за службу ў знатнага вестгота зброю, то цяпер, калі іх гаспадар ператварыўся ў буйнога землеўладальніка, яны пачалі атрымліваць за службу галоўным чынам вайсковую зямлю. Яе можна было перадаць сыну ў спадчыну, калі той будзе выконваць бацькаўскую службу.

## § 6. Скандынавія

**Скандынаўскі субрэгіён.** Скандынавія (магчыма, ад агласаксонскага Sconeg, Scedenieg – “цудоўны востраў”) ўключае ў сябе Скандынаўскі паўвостраў, паўвостраў Ютландыя, шэраг іншых астравоў і з’яўляецца тэрыторыяй сучасных каралеўстваў Даніі, Швецыі, Нарвегіі. У часы ранняга сярэдневякоа гэты рэгіён быў заселены шматлікімі германскімі плямёнамі, буйнейшымі сярод якіх былі плямёны гаутаў, свіёнаў, данаў. У Заходняй Еўропе жыхары Скандынавіі былі вядомы пад агульнай назвай “нарманы” (паўночныя людзі), у Кіеўскай дзяржаве – як варагі. Самі сябе яны называлі вікінгамі. Этымалогія назвы дакладна невядома. Магчыма, карані трэба шукаць у германскім слове vik (бухта, заліў). Тады вікінг гэта той, хто схаваўся ў заліве. Магчыма, назва звязана з англасаксонскім wic (гандлёвы пункт, горад, умацаваны лагер). Магчыма таксама паходжанне ад глагола vikja (адхіляцца, паварочваць).

Дзякуючы цёплым плыням мора, клімат рэгёна, за выключэннем паўночнай часткі, быў вільготны і сярэдні. Глеба – камяністая, што не вельмі спрыяла развіццю земляробства, таму ў сельскай гаспадарцы доўгі час пераважала жывёлагадоўля. Адначасова берагавая лінія, зрэзаная шматлікімі вузкімі залівамі-фіёрдамі, вельмі зручнымі стаянкамі, наканоўвала гаспадарчую арыянтацыю скандынаўскіх народаў на марское рыбалоўства і кітабойны промысел.

**Палітычная гісторыя.** Ранняя палітычная гісторыя скандынаўскіх народаў амаль невядома. Першая больш-менш пэўная інфармацыя пра адносна ўстойлівыя племянныя саюзы на чале з конунгамі паступае з V – першай паловы VI ст. Гэта землі свіёнаў (Упланд) і гаутаў (Остэрготланд і Вэстэрготланд) на тэрыторыі сучаснай Швецыі, дзе панавалі конунгі з роду Інглінаў, агульных дынастычных продкаў швецкіх і нарвежскіх каралёў, дзяржава Скволдунгаў на дацкай тэрыторыі, племянныя саюзы на нарвежскіх землях.

Асноўныя падзеі палітычнай гісторыі Скандынавіі ранняга сярэдневякоўя

адбыліся на мяжы VIII – IX ст. Працяглая міжусобная барацьба ў Упландзе завяршылася перамогай конунга Інг'яльда Суровага над дробнымі конунгамі астатніх абласцей свіёнаў. Крыху пазней у англасаксонскім гераічным эпасе "Песня пра Беавульфа" фіксуецца назва Швецыя (sveorice, svearike, sverige). У гэтыя ж часы ўзнікла дацкая дзяржава, у склад якой уваходзілі Ютландыя, Зеландыя, Сконе, Хедэбю (сучасны Шлезвіг), шэраг дробных астравоў. Першым вядомым дацкім каралём быў Готфрыд (памёр пасля 810 г.), з імям якога франкскія храністы звязваюць будаванне абарончай сістэмы ад Балтыйскага да Паўночнага мора – *"Дацкі вал"* (Dannevirke). Аднак дэндрахраналагічны аналіз дае больш раннюю дату – пасля 737 г. У прамежак 872–900 гг. нарвежскія землі аб'ядналіся ў адзіную дзяржаву пад уладай Харальда І Прыгожавалосага. Тады ж з'явілася і назва Нарвегія (Norđvegr – "шлях на поўнач").

**Сістэма кіравання.** Адначасова з узнікненнем дзяржавы ў Скандынавіі пачалося фарміраванне адпаведнай адміністрацыйнай сістэмы. Абшчыны аб'ядноўваліся ў сотні, са сваімі сходамі (*цінгамі*). Некалькі соцен складалі больш буйныя адзінкі – шведскія *ланды*, нарвежскія *фюлькі*, на чале якіх быў не толькі адпаведны народны сход, але і выбарны кіраўнік. Цінг вырашаў пытанні вайны і міру, спагнання даніны, выбараў конунга. Абмяркоўваліся таксама эканамічныя праблемы, адбываўся суд.

Вярхоўная ўлада і выкананне сакральных функцый належалі каралю (rigr), які лічыўся сынам бога і атрымліваў ад яго ўладу, маёмасць і г. д. Карона пераходзіла ў спадчыну ў межах аднаго роду, але афіцыйна праводзіліся выбары. Пры каралі існаваў савет знаці – род.

Асноўнай мэтай ранніх скандынаўскіх манархаў было ўсталяванне над краінай больш-менш стабільнага кантролю. Матэрыяльны падмурак каралеўскай улады складалі своеасаблівы прымітыўны падатак, які меў адзнакі даніны (*скат* – "падарункі", *вейцле* – "кармленне"), мытныя зборы з гандляроў, даніна з падуладных зямель і прыбыткі з уласных зямельных уладанняў, каралеўскіх маёнткаў, якія існавалі ў розных раёнах краіны. Акрамя таго, апошнія выконвалі пэўныя падатковыя функцыі і стваралі пачатковую структуру каралеўскай адміністрацыі, якая не супадала з племяннай арганізацыяй. Узнікненне каралеўскіх маёнткаў у Даніі адносіцца да першай паловы IX ст., у Нарвегіі і Швецыі – да другой паловы IX ст.

**Эканамічнае развіццё.** Асноўнай эканамічнай адзінкай у Скандынавіі быў адаль, спадчыннае ўладанне свабоднага абшчынніка, бонда, якое было неадчужаемай калектыўнай уласнасцю вялікай сям'і. Вярхоўным уладальнікам зямлі спачатку лічылася ўсё племя, потым – кароль. Жылі сяляне пераважна па хутарах ці ў маленькіх (ад 3 да 8 гаспадарак) вёсках.

Рост насельніцтва прывёў у VIII ст. да пачатку ўнутранай каланізацыі, у выніку якой у гаспадарчы абарот уводзіліся новыя землі. Павялічылася

вытворчасць жыта, з’явіліся пасевы рэпы, гароху, капусты. Распаўсюджваецца плуг, выкарыстоўваецца двухполле. У выніку таго, што прыдатнай для ўраблялення зямлі было не вельмі шмат, унутраная каланізацыя паступова ператвараецца ў знешнюю. Нарвежцы арганізоўваюць ваенна-гандлёвыя экспедыцыі супраць сваіх паўночных суседзяў саамаў, заваёўваюць іх землі, спаганяюць даніну. Шведы накіроўваюць свае экспедыцыі ў Балтыю.

Дастаткова хуткімі тэмпамі ў рэгіёне развівалася рамяство, галоўным чынам у галінах, звязаных са здабычай і апрацоўкай жалезнай руды, кавальскай справай. Узніклі асобыя цэнтры (*вікі*) з пастаянным гандлёва-рамесным насельніцтвам – Шлезвіг (Ютландыя), Скірынгсаль (захад Нарвегіі), Лёдзёсе і Кунгсхеле (на мяжы Швецыі і Нарвегіі).

Найбольш вядомым з‘яўляецца шведскі вік Бірка (востраў Бьёркё на возеры Маларэн), які праіснаваў ад 800 да 975 г. Вік складаўся з умацавання і пасялення. За валамі было вельмі шмат магільнікаў. У 1871–1895 гг. шведскім навукоўцам Я. Стольпе былі праведзены маштабныя археалагічныя даследванні Біркі. Адшуканы матэрыял уяўляў сабой кітайскі шоўк, сасуды з Ірана, егіпецкія шкляныя кубкі, упрыгожванні з Харэзма, Візантыі, Кіеўскай дзяржавы. Усё гэта дазваляе зрабіць выснову пра дастаткова шырокія, хоць і апасрэдванныя, сувязі Скандынавіі з астатнімі рэгіёнамі Еўропы, Азіі, Паўночнай Афрыкі.

На экспарт паступалі футра, бурштын, цюленевы тлушч, медзь, рыба, *осмунд* (жалеза ў брусках), ювелірныя вырабы, нажы. Імпартаваліся фрызскія тканіны, франкскія мячы, бронзавыя і шкляныя сасуды, ювелірныя вырабы, манеты, кераміка. Пачалося развіццё таварна-грашовых адносін. Аб гэтым сведчыць пачатак манетнай чаканкі ў другой палове IX ст. – спачатку па франкскіх узорах, потым па англасаксонскіх.

**Сацыяльная структура грамадства.** Грамадства і большая частка насельніцтва ў краінах Скандынавіі апіралася на бондаў, свабодных абшчыннікаў, уладальнікаў адаля. Менавіта ўладанне адалем гарантавала бонду поўны набор грамадзянскіх правоў і рабіла яго паўнапраўным членам грамадства. Сярод гэтых правоў трэба адзначыць удзел у народным сходзе, права насіць зброю, права-абавязак удзельнічаць у народным апалчэнні (*ледунгу*). Меншы набор правоў мелі малазямельныя і беззямельныя сяляне. Несвабодную частку насельніцтва рэпрэзэнтавалі хатнія рабы і залежныя людзі з ліку ваеннапалонных.

Вышэйшы слой грамадства, параўнальна нешматлікі, складалі радавая знаць (эрлы) на чале з конунгамі, іх целаахоўнікі і служылыя людзі (дружыннікі).

**Прычыны экспансіі вікінгаў.** У канцы VIII ст. скандынаўскія плямёны пачалі моцны націск на Заходнюю Еўропу, які па сваім ўплыве можа параўноўвацца з вялікім перасяленнем народаў.

Паводле меркаванняў А. Я. Гурэвіча, пры аналізе экспансіі вікінгаў можна вылучыць традыцыйныя для перасяленняў прычыны: 1) разлажэнне радавога

ладу; 2) фарміраванне прыватнай уласнасці; 3) прага багацця; 4) развіццё гандлю; 5) спрыяльная для экспансіі міжнародная сітуацыя і прычыны, характэрныя менавіта для гэтых падзей: 6) развіццё мараходства; 7) “унутранныя стымулы руху людзей, якія далі настолькі моцны імпульс, што ён прымусіў людзей парваць з традыцыйным ладам жыцця”.

Прафесар Ёркскага універсітэта Эдуард Джэймс, зыходзячы з адносна шырокіх гандлёвых сувязяў Скандынавіі і яе больш-менш стабільнага развіцця, бачыць раптоўны выбух экспансіі ў эканамічным становішчы, якое склалася. Ён пісаў: “Можна выказаць меркаванне, што скандынаўскія гандляры прыбывалі ў Русь і вывозілі вялікую колькасць срэбра з Абасідскай імперыі на Ўсходзе ў каралеўства Карла Вялікага. Гэтае срэбра... стымулявала каралінгскую і скандынаўскую эканомікі. Скарачэнне здабычы срэбра ў 20 – 30-х гг. IX ст., якое было выклікана палітычнымі ускладненнямі ў Абасідскай імперыі, паскорыла крызіс у Каралінгскай імперыі і прымусіла скандынаваў, чыі пазіцыі залежалі ад гандлю срэбрам, да пірацтва”. Меркаванне гэтае вельмі цікавае, але, як уяўляецца, тут перабольшваецца ступень інтэграцыі скандынаўскай эканомікі з астатнімі лакальнымі эканомікамі.

**Паходы вікінгаў.** Свае паходы вікінгі рабілі на дракенах, аднамачтовых караблях з вёсламі і ветразем, да 23 м у даўжыню і да 5 м ушыркі, з фігурай дракона на носе. Рыхтаваліся дракены бондамі, аб’яднанымі ў карабельныя акругі. Бонды на чале з эрлам, складалі каманду дракена (60–100 чалавек). На дракен грузілі коней, запасы прэснай вады, харчаванне ў жывым выглядзе. Усім паходам, які збіраў дзясяткі і сотні дракенаў, кіраваў кароль.

Традыцыйнай датай пачатку паходаў вікінгаў лічыцца чэрвень 793 г., калі быў атакаваны кляштар святога Куберта на востраве Ліндзісфарн, каля берагоў Нартумбрыі.

Пасля гэтай паспяховай экспедыцыі вікінгі захапілі і каланізавалі астравы Фарэрскія, Шэтландскія, Аркнейскія. У 795 г. высадзіліся на востраве Рэтлін, пачаўшы такім чынам заваяванне Ірландыі, якое закончылася ў 30-х гг. IX ст. пасля ўзнікнення тут каралеўства вікінгаў на чале з Олафам Белым. Каля 800 г. дацкі кароль Готфрэд атакаваў дзяржаву франкаў. Па сутнасці гэта была разведка боем, за якой паследвала яшчэ некалькі атак, і ўжо ў 809 г. праліў Ла-Манш стаў вельмі небяспечным для мараходства.

Пасля 834 г. атакі вікінгаў на гарады ў вусцях судаходных рэк Шэльда, Маас, Рэйн, сталі штогадовымі. Нарэшце, у 838 г. вікінгі захапілі горад Дорэстад.

Пачынаючы з 40-х гадоў IX ст. набегі вікінгаў страцілі сезонны характар. Скандынавы пачалі зімаваць у Еўропе: у 840–841 гг. у Ірландыі, у 843 г. у Францыі, у 851 г. у Англіі. Найбольш вядомая аперацыя вікінгаў у гэтым рэгіёне Еўропы – гэта абрабаванне Парыжа ў 845 г. дружынай Рагнара, якая на 120 дракенах падышла да горада па Сене.

Адначасова вікінгі працягвалі рух на поўдзень. У 844 г. яны на 54 дракенах падышлі да Лісабона. Хоць дадзеная аблога горада не дала плёну, вікінгі абрабавалі наваколле Лісабона і ўзялі вялікую здабычу. У 859 г. вікінгі здейснілі свой самы глыбокі рэйд у Міжземным моры – дайшлі да Пізы.

У 60-х гадах IX ст. на Заходнюю Еўропу рушыла так званая “Вялікая армія”, на чале якой стаялі 8 конунгаў і 20 эрлаў.

У 865 г. “Вялікая армія” высадзілася ў Брытаніі. Спачатку вікінгі захапілі Нартумбрыю, потым Мерсію і Усходнюю Англію. У 879 г. іх тэрытарыяльныя набыткі былі замацаваны Уэдмарскім мірам з Уэсэксам.

У тым жа 879 г. частка Вялікай арміі рушыла на заходніх франкаў. Найбольш значнай падзеяй пры гэтым стала барацьба за Парыж у 885–886 гг. з удзелам да 700 дракенаў і да 40 тыс. вікінгаў. 1 мая 888 г. сабор у Мецы вырашыў уключыць у тэкст набажэнства словы A furore Normannorum libera nos, o Domine! (“І ад жорсткасці нарманаў вызвалі нас, Божа! ”). У гэтым жа годзе адпор вікінгам на тэрыторыі Францыі даў Эдо, граф парыжскі, і заваёўнікі вярнуліся ў Брытанію. Паражэнні напаткалі вікінгаў і на тэрыторыі ўсходнефранкскага каралеўства, дзе супраць іх ваяваў Арнульф.

Па ацэнцы Г. С. Лебедзева ў 890–891 гг. былі забіты ўсе вікінгі, што рушылі ў паход. Генерацыя 860–870 гг. была абескроўлена. Экспансія пайшла на спад.

Пэўны патэнцыял, аднак, захоўвалі рэшткі Вялікай арміі, якія ў 896 г. рушылі ў раён ніжняй Сены на чале з вядомым правадыром Роланам Пешаходам. Там у пачатку X ст. ім была заснавана Нармандыя.

Адначасова з экспансіяй у Еўропу дракены вікінгаў накіроўваліся на Захад. У 874 г. на востраве Ісландыя высадзіліся першыя нарвежскія каланісты: Інгольф Арнарсан з жонкай Халвейг Фродадоцір. Яны заснавалі сваю гаспадарку, якую назвалі Рэйк’явік. Пазней да іх далучылася да 400 семьяў з Нарвегіі і іншых рэгіёнаў Паўночнай Еўропы.

**Пачатак хрысціянізацыі Скандынавіі.** Скандынаўскае язычніцтва добра вядома па “Гісторыі гамбургскіх епіскапаў” Адама Брэменскага (каля 1070 г.). Тут ёсць, у прыватнасці, апісанне храма ў Старой Упсале (Gamla Uppsala), які праіснаваў ад VI да XI ст.

“Найбольш шануемы храм, які быў пабудаваны гэтым народам, называюць Упсала. Размешчаны ён каля горада Сіктоны. У гэтым багата упрыгожаным золатам храме народ пакланяецца статуям трох багоў. Трон самага магутнага з іх, Тора, стаіць пасярэдзіне трыкдініума. Па абодва бакі ад яго размешчаны Водан і Фрыг. Богі гэтыя кіруюць markрознымі сіламі. Тор, як мне сказалі, сядзіць высока ў нябёсах, распараджаецца громам і маланкай, ветрам і дажджом, надвор’ем і ўрадлівасцю. Другі бог, Водан, г. зн. гнеў, апекоўвае войны і дае воінам храбрасць перад тварам ворагаў. Трэцяе бажэства, Фрыг, дае людзям мір і асалоду... Шведы таксама шануюць багоў, якія раней былі людзьмі і атрымалі бессмяротнасць за

свае высокія дзеянні”.

Першым з хрысціянскай місіяй у Скандынавію прыбыў каля 700 г. англасакс Віліборд, але дзейнасць яго не дала ніякага плёну. У 826 г. у Майнцы прыняў хрышчэнне дацкі конунг Харальд Воран. Пасля гэтага папа рымскі назначыў архіепіскапа Рэймскага Эбо сваім легатам у паўночных землях Еўропы. Эбо і імператар Людовік Набажны накіравалі ў Скандынаўскі рэгіён бенедыктынскіх манахаў Ансгара і Вітмара, якія прыбылі ў Бірку. Праўда да гэтага часу іх паспелі ўжо абрабаваць мясцовыя жыхары. Пачалі місіянеры свае дзейнасць у 829–830 г. Прыблізна 10 гадоў пропаведзь Евангелля ішла паспяхова. Быў пабудаваны касцёл, у Бірке з’явіўся епіскап Гаўтберг, падпарадкаваны архіепіскапу Рэймскаму. Сам Ансгар стаў епіскапам Гамбургскім.

Аднак у 845 г. вікінгі захапілі Гамбург, дзе быў кананічны цэнтр царкоўнага жыцця Скандынавіі. Адначасова выбухнула паўстанне язычнікаў у Бірке. Гаўтберга выгналі.

У 852 г. Ансгар зноў прыбыў у Бірку і аднавіў касцёл. Але дзейнасць католікаў у другой палове IX ст. была вельмі млявай.

## § 7. Заходняе хрысціянства ў раннім сярэдневякоўі

**Хрысціянізацыя Еўропы.** У Рымскай імперыі ў канцы IV ст. хрысціянства было абвешчана адзінай афіцыйнай рэлігіяй. Язычніцтва ў любых яго праявах было забаронена. Па-за законам былі абвешчаны і ерасі. Да таго часу, калі Заходняя Рымская імперыя пала пад націскам варвараў, яе насельніцтва было хрысціянскім, прынамсі фармальна. Найбольш учэпіста язычніцтва трымалася ў сельскай мясцовасці, аб чым сведчыць нават новае значэнне тэрміна paganus (сельскі) – “язычніцкі”, “паганскі”.

Многія з варварскіх плямёнаў ужо падчас сваіх нападаў на Заходнюю Рымскую імперыю прынялі хрысціянства, прычым у форме арыянскай ерасі. Першымі гэта зрабілі вестготы каля сярэдзіны IV ст. Найбольш знакаміты прапаведнік хрысціянства сярод іх – епіскап Ульфіла. Ён быў напалову гоцкай крыві, выхоўваўся сярод готаў. У 341 г. у Антыёхіі яго пасвяцили ў епіскапа і накіравали абарачаць у хрысціянства вестготаў. Ульфіла пераклаў Біблію на гоцкую мову. Нягледзячы на тое, што спачатку готы-хрысціяне падвяргаліся ганенням з боку сваіх супляменнікаў-язычнікаў, хрысціянства неўзабаве стала пануючай рэлігіяй сярод вестготаў. Калі ў 410 г. яны ўзялі Рым, то з канфесійнага пункту гледжання гэта быў захоп Рыма, насельніцтва якога прытрымлівалася артадаксальнага хрысціянства, хрысціянамі-арыянамі. Тое ж можна сказаць і аб узяцці Рыма ў 455 г. вандаламі, якія прынялі хрысціянства ў выглядзе арыянскай ерасі на пачатку V ст.

Бургунды таксама прынялі арыянства ў пачатку V ст. Стагоддзем пазней

арыянамі сталі лангабарды. Свевы прынялі артадаксальнае хрысціянства ў сярэдзіне V ст., але ўжо ў 465 г. перайшлі ў арыянства.

У варварскіх дзяржавах суіснавалі дзве царквы: арыянская заваёўнікаў і артадаксальная мясцовага насельніцтва. Першай фактычна кіраваў кароль, які, напрыклад, прызначаў епіскапаў. У набажэнствах варварскіх арыянскіх цэркваў выкарыстоўвалася родная мова, на роднай мове чыталася і Біблія. Арыянскае духавенства не ведала цэлібату. Але па ўзроўні адукацыі, эканамічным становішчы, па ўплыве на масы вернікаў (а заваёўнікі складалі меншасць насельніцтва) яно не магло параўнацца з артадаксальным духавенствам. Звычайна каралі варварскіх дзяржаў імкнуліся дабіцца лаяльнасці ад епіскапаў-артадоксаў, выкарыстаць іх аўтарытэт. Хоць іншы раз адбываліся і рэпрэсіі супраць артадаксальных хрысціян, як, напрыклад, у дзяржаве вандалаў.

У шэрагу выпадкаў варварскія каралі мянялі сваё веравызнанне – з арыянства на артадоксію і наадварот. Так было ў свеваў, бургундаў. Галоўныя прычыны гэтага – палітычныя, у прыватнасці ціск з боку франкаў, якія выкарыстоўвалі лозунг барацьбы з ерассю ў сваіх войнах супраць іншых варварскіх дзяржаў. У рэшце рэшт ва ўсіх варварскіх каралеўствах умацавалася артадаксальнае хрысціянства, акрамя дзяржавы вандалаў, чыя арыянская царква загінула разам з заваяваннем Паўночнай Афрыкі візантыйцамі.

Ад язычніцтва да артадаксальнага хрысціянства адразу і назаўсёды перайшлі франкі. Гэты адбылося ў самым канцы V ст. пры каралі Хлодвігу. Па звестках Грыгорыя Турскага, Хлодвіг напярэдадні рашаючай бітвы з алеманамі даў зарок, што прыме хрысціянскую веру, калі Бог хрысціян дапаможа яму перамагчы ворагаў. Пасля перамогі кароль ахрысціўся тайна, праз некаторы час ён пераканаў тры тысячы сваіх воінаў прыняць хрышчэнне, затым гэта павінны былі зрабіць і ўсе астатнія франкі. Прыняцце Хлодвігам артадаксальнага хрысціянства ліквідавала канфесійную варожасць паміж мясцовым гальскім раманізаваным насельніцтвам і заваёўнікамі-франкамі, садзейнічала ўнутранай стабілізацыі Франкскай дзяржавы. З гэтага часу каралі франкаў выкарыстоўвалі розніцу ў веравызнанні як падставу для войнаў супраць іншых варвараў (арыян або язычнікаў). Прыняцце франкамі хрысціянства адыграла вельмі важную ролю ў хрысціянізацыі Заходняй Еўропы, большая частка якой з цягам часу ўвайшла ў склад хрысціянскай Франкскай дзяржавы.

У самой дзяржаве франкаў, як і ў іншых варварскіх каралеўствах, царква была дзяржаўнай. Фактычна ёю кіраваў кароль. Ен прызначаў епіскапаў, склікаў саборы духавенства, надаваў сілу дзяржаўных законаў іх пастановам.

Па-за межамі вялізнай дзяржавы франкаў засталіся Брытанскія астравы, Скандынавія. Між тым, на Брытанскіх астравах ў канцы перыяду антычнасці і на пачатку сярэднявечча адбываліся складаныя і важныя працэсы, значэнне якіх для хрысціянізацыі Еўропы было, бадай што, не на шмат меншым, чым прыняцце

хрысціянскай рэлігіі франкамі.

Напрыканцы рымскага панавання ў Брытаніі значная частка мясцовага кельцскага насельніцтва была раманізавана і выспавядала  хрысціянства. Адыход рымскіага войска з Брытаніі ў пачатку V ст. прывёў да заняпаду хрысціянства – англы, саксы і юты, якія захапілі раманізаваную частку Брытаніі, былі язычнікамі. Хрысціянская вера захоўвалася сярод адцесненага германскімі прышэльцамі раманізаванага насельніцтва на захадзе і паўночным захадзе галоўнага з Брытанскіх астравоў. Прычым многія з кельтаў вярталіся да былых язычніцкіх вераванняў.

Новы штуршок распаўсюджванню хрысціянства ў Брытаніі быў дадзены з Ірландыі, якую ў свой час зусім не закранула раманізацыя і дзе грамадскія адносіны яшчэ не выйшлі за рамкі родавага ладу. Першыя буйныя поспехі ў хрысціянізацыі іраў былі дасягнуты ў выніку місіянерскай дзейнасці св. Патрыка (390–460). Патрык паходзіў з раманізаванай кельцскай сям'і, у 16-гадовым узросце быў захоплены ірамі і шэсць гадоў правёў у рабстве. Здабыўшы волю, ён вырашыў прысвяціць жыццё распаўсюджванню хрысціянства ў Ірландыі. З гэтаю мэтай, атрымаўшы адпаведную падрыхтоўку (ці то ў Брытаніі, ці то ў Галіі) і сан епіскапа, Патрык у 432 г. зноў з’явіўся ў Ірландыі. Праз некалькі дзесяцігоддзяў Ірландыя стала хрысціянскай.

Ірландская царква была даволі асаблівай. Яна прыстасавалася да ўмоў кланавага ладу іраў. Духавенства яе было бедным, яго матэрыяльнае становішча не ішло ні ў якое параўнанне з багаццямі хрысціянскіх святароў на кантыненце. Царква ў Ірландыі была манаскай (яе аснову складалі святары-манахамі), галоўную ролю ў ёй адыгрывалі не епіскапы, а абаты, цэнтрамі рэлігійнага жыцця з’яўляліся манастыры. Ірландская царква мела шмат адрозненняў у розных сферах свайго жыцця ад іншых цэркваў. Самабытным быў, напрыклад, рытуал абраду хрышчэння, споведзь была тайная (у іншых цэрквах у той час – публічная). Да XIII ст. у адным з ірландскіх манастыроў манашкі падтрымлівалі вечны агонь, што было несумненным рэліктам паганства. Нават *танзура* ў ірландскіх святароў-манахаў была не такой, як у рымскіх – ірландцы галілі пярэднюю палову галавы, а на патыліцы пакідалі доўгія валасы.

Адметная рыса ірландскай царквы – яе місіянерскі характар. Прыхільныя да суровага аскетызму ірландскія манахі лічылі адным з яго галоўных сродкаў пакіданне роднага асяроддзя і далёкія вандроўкі ў амаль невядомыя землі, каб сеяць там веру ў Ісуса Хрыста. У 563 г. ірландскі манах Калумба разам с 12 паплечнікамі заснаваў манастыр на востраве Айона паміж Ірландыяй і Шатландыяй. Гэты манастыр стаў фарпостам хрысціянізацыі язычніцкага насельніцтва Шатландыі. Ахрысціўшы большасць жыхароў Шатландыі, ірландскія місіянеры ў VII ст. актыўна заняліся хрысціянізацыяй паўночных англа-саксонскіх каралеўстваў. Першай была Нартумбрыя. З 597 г. пачалі

распаўсюджваць хрысціянства сярод англасаксаў і місіянеры, пасланыя папам рымскім Грыгорыем І. Яны дзейнічалі з поўдня – з Кента.

Ірландскія манахі вялі місіянерскую дзейнасць і на кантыненце. Найбольш вядомы з іх святы Калумбан, які ў другой палове VI і ў пачатку VII в. прапаведаваў у Бургундыі, на тэрыторыі сучасных Швейцарыі і Італіі. Крыху пазней да гэтай справы далучыліся і англасаксонскія місіянеры з Брытаніі. Хрысціянскія прапаведнікі з Брытанскіх астравоў дзейнічалі сярод бургундаў, фрызаў, алеманаў і іншых германскіх народаў. Місіянеры-англасаксы лёгка адаптаваліся да моўнага асяроддзя – і прапаведнікі, і тыя, каму прапаведавалі, належалі да адной германамоўнай групы народаў.

Сярод англасаксонскіх манахаў, якія распаўсюджвалі хрысціянства сярод германцаў-язычнікаў на кантыненце, найбольшую славу здабыў святы Баніфацый (сапраўднае імя Вінфрыт). Ен карыстаўся падтрымкай рымскіх пап і маярдома франкаў Карла Мартэла. Цэнтрам місіянерскай дзейнасці Баніфацыя быў кляштар у Фульдзе (Заходняя Германія). Папа надаў яму тытул архіепіскапа ўсіх германцаў. Акрамя  распаўсюджвання хрысціянства за межамі Франкскай дзяржавы, Баніфацый спрабаваў палепшыць норавы, дысцыпліну франкскага духавенства, пачаў рэгулярна склікаць царкоўныя саборы для калектыўнага вырашэння галоўных праблем царкоўнага жыцця. Баніфацый загінуў у 754 г. як пакутнік сярод язычнікаў-фрызаў – быў забіты імі пад час малітвы.

На поўдні і ўсходзе Еўропы сярод славян распаўсюджвалася хрысціянства візантыйскага (усходняга) узору. Ад Візантыі прыняла хрысціянства ў IX ст. Балгарыя. У высокім сярэдневякрўі праваслаўе прынялі Кіеўская Русь, Сербія. Пэўныя поспехі мела дзейнасць праваслаўных місіянераў Кірыла і Мяфодзія ў Маравіі, але пасля іх смерці там узяў верх заходні кірунак у хрысціянстве.

“Свет каталіцкі” працягвае пашырэнне і ў высокім сярэдневякоўі. На ўсходзе да яго былі далучаны (акрамя германскіх народаў) палабскія славяне, палякі (з X ст.), прыбалтыйскія народы, прычым часта гэта рабілася прымусова, як вынік германскай экспансіі на ўсход. Качэўнікі-венгры, якія з IX ст. захапілі тэрыторыі па сярэднім цячэнні Дуная, паступова далучыліся да заходнееўрапейскай цывілізацыі, а значыць і да “свету каталіцкага”. З канца ранняга сярэдневякоўя хрысціянства пачало распаўсюджвацца ў Скандынавіі, і хрысціянізацыя жахлівых заваёўнікаў-вікінгаў была істотнай часткай працэсу іх далучэння да цывілізацыі Заходняй Еўропы. У VIII ст. заходняе хрысціянства панесла істотныя страты, калі арабы-мусульмане захапілі хрысціянскія Паўночную Афрыку і Пірэнейскі паўвостраў. Але неўзабаве еўрапейцы пачалі адваёўваць (Рэканкіста) пірэнейскія землі ў мусульман. Па сутнасці Рэканкіста была рэлігійнай вайной хрысціян супраць мусульман.

Позняя антычнасць і асабліва ранняе сярэдневякоўя прынеслі нябачную яшчэ з’яву: прыхільнікі язычніцкіх рэлігій пераходзілі ў хрысціянства не

паасобку, а цэлымі плямёнамі, народамі. Галоўнай мэтай хрысціянскіх місіянераў было ахрысціць правадыра племені або караля варварскай дзяржавы. Далей пад іх прымусам новую рэлігію павінны былі прыняць іх супляменнікі, падданыя. Але шмат элементаў язычніцкіх вераванняў, культу трывала захоўвалася сярод новаспечаных хрысціянскіх вернікаў, асабліва сярод сялянства. Жыццё і побыт селяніна непарыўна былі звязаны з прыродай, з гадавым ураджайным цыклам. Многія язычніцкія багі ўвасаблялі ў сабе прыродныя сілы, і людзі верылі, што толькі з іх ласкі можна сабраць багаты ўраджай, выгадаваць здаровую і добрую жывёлу, адвесці непагадзь і г. д. Калі ж не выконваць пэўных рытуалаў, якія выкарыстоўваліся ўжо на працягу стагоддзяў і забяспечвалі чалавеку выжыванне ў гэтым прыродным свеце, то пазбаўленыя чалавечага ўздзеяння сілы прыроды могуць нанесці людзям вялікую шкоду. Царква жорстка змагалася з язычніцкімі перажыткамі, абапіраючыся ў гэтым на каралеўскую ўладу (у франкаў, напрыклад, найбольшую колькасць жорсткіх распараджэнняў супраць рэшткаў язычніцтва выдаў Карл Вялікі). Але царква, забараняючы пакланенне язычніцкім багам, адначасова вымушана была прыстасоўвацца да паўсядзённых вераванняў і звычаяў асноўнай масы насельніцтва. У гэтым сэнсе асабліва паказальны культ многіх святых, на якіх былі фактычна перанесены функцыі язычніцкіх багоў. Хрысціянскія святыя абвяшчаліся апекунамі розных відаў гаспадарчай дзейнасці, важных момантаў у жыцці чалавека. Напрыклад, каб не хварэла хатняя жывёла, замест язычніцкіх багоў маліліся святым Леанарду, Антонію, Стэфану.

Фактычна ў сярэдневяковым хрысціянстве існавала дзве плыні. Адна – гэта афіцыйнае вучэнне царквы з яго тлумачэннем вучонымі багасловамі. Другая – вераванні простых людзей, у якіх змешваліся хрысціянскае веравучэнне і старадаўнія вераванні і забабоны.

Былі і іншыя прычыны, па якіх язычніцтва прыцягвала да сябе людзей і якія выклікалі пратэст супраць насаджэння хрысціянства. Для сялян насаджэнне хрысціянства ўладамі звязвалася з устанаўленнем пазямельнай і асабістай залежнасці, язычніцтва асацыіравалася з былой воляй. Язычніцтва выступала і як сімвал незалежнасці ў барацьбе з замежнымі хрысціянскімі захопнікамі. Так было, калі супраць франкаў змагаліся саксы, калі з нямецкай і дацкай экспансіяй на ўсход змагаліся народы ўсходняй часткі Прыбалтыкі (дарэчы, хрысціянства ўсталёўвалася там даволі позна).

**Франка-папскі саюз і ўзнікненне свецкай дзяржавы рымскіх пап.** Бурлівыя падзеі позняй антычнасці і пачатку сярэдневякоўя ў Заходняй Еўропе прывялі да ўздыму ролі у жыцці грамадства епіскапаў многіх гарадоў. Ва ўмовах зменлівасці, слабасці (а то і адсутнасці) грамадзянскай адміністрацыі да епіскапаў як асоб, што мелі вялікі аўтарытэт сярод гараджан-вернікаў, пераходзіў шэраг функцый свецкіх улад. Епіскапы вымушаны былі клапаціцца аб гарадской гаспадарцы, аб бедных, бежанцах, іх нярэдка прасілі весці дыпламатычныя

перагаворы, да іх суда ўсё часцей звярталіся людзі. Рым у гэтым сэнсе не толькі не быў выключэннем, а выступаў, бадай што, у якасці найбольш яскравага прыкладу ўзрастання кіруючай ролі свайго епіскапа ў жыцці горада.

Ужо з канца III ст. Рым паступова страчваў значэнне сталічнага горада імперыі. Імператар Дыяклетыян абраў рэзідэнцыяй Нікамедыю ў Малой Азіі, а яго суправіцель на Захадзе Максіміян – спачатку Медыялан, а потым Равену. З 330 г. сталіцай імперыі стаў Канстанцінопаль. Пасля падзелу імперыі на Заходнюю і Усходнюю заходнерымскія імператары лічылі за лепшае мець рэзідэнцыю не ў Рыме, а добра ўмацаванай Равене. Такім чынам, кантроль імператараў над епіскапам Рыма быў намнога слабейшым, чым раней, і непараўнальна меншым, чым візантыйскіх імператараў над канстанцінопальскімі патрыярхамі. Паступова епіскапы Рыма вылучаліся на першыя ролі ў горадзе. Яны (а не свецкія ўлады) уратоўвалі рымлян ад знішчэння варварамі. Так, папа Леў I пры захопе вандаламі Рыма ў 455 г. дамовіўся з іх правадыром аб тым, каб тыя, рабуючы горад, не забівалі яго жыхароў і не чапалі цэркваў. Крыху раней гэты ж папа, як гаворыць паданне, адгаварыў правадыра гунаў Атылу ад нападу на Рым.

Пасля звяржэння апошняга заходняга рымскага імператара Рым спачатку ўваходзіў у дзяржаву Адаакра, потым яго захапілі остготы. У 536 г. Рым узялі візантыйцы, у 546 г. яго адваяваў остгоцкі кароль Татыла, а праз некалькі гадоў Рым зноў быў уключаны ў склад Візантыйскай імперыі. У 568 г. заваяванне Італіі пачалі лангабарды, якія захапілі паўночную частку Апенінскага паўвострава, а таксама шэраг тэрыторый к поўдню ад Рыма. Такім чынам, Рым быў абкружаны лангабардамі. Візантыйскія імператары не маглі гарантаваць бяспеку сваім падданым-рымлянам, якія мусілі разлічваць галоўным чынам на ўласныя сілы ў барацьбе з лангабардамі. І зноў на чале гэтай барацьбы сталі папы рымскія. Яны самастойна (без санкцыі імператара з Канстанцінопаля) вялі перамовы з каралямі варвараў (нават схілілі іх ад арыянства да артадаксальнага хрысціянства), выплочвалі вялікую колькасць золата лангабардам за іх абяцанне не нападаць на Рым, узбройвалі на царкоўныя грошы апалчэнне. Вельмі высокі аўтарытэт меў папа Грыгорый I, прazваны Вялікім (590–604). Акрамя таго, што ён быў выдатны тэолаг, місіянер-арганізатар (гэта ён адправіў манахаў з Рыма ў 597 г. для хрысціянізацыі Брытаніі), Грыгорый Вялікі стаў і сапраўдным валадаром Рыма. Дарэчы, гэты папа (між іншым, першы папа з манахаў) у маладосці займаў пасаду вышэйшага чыноўніка Рыма і меў адпаведны вопыт кіравання гарадскім жыццём і гаспадаркай. Грыгорый I меў даходы ад папскіх уладанняў не толькі на Апенінскім паўвостраве, але і ў Сыцыліі, Галіі і ў іншых мясцовасцях. Гэтыя даходы ішлі на харчовае забеспячэнне насельніцтва Рыма, на ўтрыманне шматлікіх бежанцаў, стварэнне ўзброенных атрадаў, выплаты лангабардам, на жалаванне гарадскім чыноўнікам і г. д. Карацей кажучы, папа зрабіўся сапраўдным гаспадаром горада. Аднак Грыгорый I адчуваў сябе лаяльным

падданым візантыйскага імператара, нягледзячы на тое, што Канстанцінопаль ненаднаразова выказваў незадавальненне самастойнасцю рымскіх пап.

З пачаткам іканаборства ў Візантыі адносіны паміж канстанцінопальскімі патрыярхамі, якія падтрымлівалі гэты рух, і рымскімі папамі, якія трымаліся непрымірыма да іканаборства, рэзка абвастрыліся. Імператары пазбавілі пап шэрагу ўладанняў. Разам з тым у сярэдзіне VIII ст. абвастрылася і пагроза Рыму з боку лангабардаў. У такім крытычным становішчы для пап як гаспадароў Рыма яны знайшлі найлепшае выйсце – саюз з моцнай дзяржавай франкаў. Гэты саюз не толькі захаваў вяршэнства пап над Рымам, але і прывёў да стварэння папскай дзяржавы ў Сярэдняй Італіі.

Зацікаўленасць у саюзе была ўзаемнай. Папы шукалі сілу, з дапамогай якой можна было б пазбавіцца пагрозы захопу Рыма лангабардамі. Візантыя ж была далёка, імператар не аказваў рэальнай дапамогі, да таго ж імператар Канстанцін V рашуча распраўляўся з праціўнікамі іканаборства і пры яго праўленні ў 754 г. візантыйскі царкоўны сабор адлучыў ад царквы ўсіх тых, хто шанаваў іконы. Маярдом франкаў Піпін Кароткі са свайго боку палічыў, што нельга далей цярпець "гультаяватых" каралёў з дынастыі Меравінгаў, і шукаў магчымасці надаць хоць нейкі выгляд легітымнасці немінучаму дзяржаўнаму перавароту. Найлепшай персонай для санкцыяніравання такога перавароту быў валадар Рыма – цэнтра магутнейшай у свеце імперыі; да таго ж папу рымскага ўжо тады вельмі паважалі ў царкве, за ім было прызнана права на спадчыну прастола апостала Пятра, якога сам Ісус Хрыстос прызначыў галоўным сярод апосталаў і які, па паданню, быў першым епіскапам Рыма.

У 750 г. Піпін адправіў дваіх пасланцоў да папы рымскага Захарыі з запытам, ці добра, што ў дзяржаве франкаў каралямі з'яўляюцца тыя, хто не мае ўлады і нічога не робіць. Папа адказаў, што будзе лепш, калі каралём стане той, хто мае сапраўдную ўладу, і загадаў франкам зрабіць каралём Піпіна Кароткага. У 751 г. на сходзе франкскай знаці апошні з "гультаяватых" каралёў Хільдэрык III быў звергнуты, а Піпін абвешчаны новым каралём. У 754 г. новы папа Стэфан II прыбыў да Піпіна і ўрачыста сатварыў абрад памазання на царства над каралём франкаў і яго сынамі Карлам і Карламанам. Папа забараніў франкам выбіраць у будучым сабе каралёў з якой-небудзь іншай дынастыі, акрамя дынастыі Піпіна (якую потым пачалі называць каралінгскай). Але, бадай што, галоўнай мэтай візіту Стэфана II да франкаў былі перагаворы аб дапамозе франкаў супраць лангабардаў.

Пасля доўгіх угавораў Піпін нарэшце рушыў на лангабардаў і прымусіў іх адысці ад Рыма. Адваяваныя ў лангабардаў землі Піпін у 756 г. падараваў ва ўласнасць папе рымскаму. Так узнікла папская дзяржава ў цэнтры Італіі. У гэтай дзяржаве папа быў не толькі духоўным галавою хрысціянскіх вернікаў, але і свецкім уладаром. Гэта была тэакратычная дзяржава. Асаблівасць яе заключалася

ў тым, што прастол у ёй не перадаваўся ў спадчыну (святары павінны былі выконваць зарок цэлібату). Новы папа-правіцель выбіраўся, і пры гэтых выбарах часта востра сутыкаліся інтарэсы як феадалаў і гараджан Сярэдняй Італіі, так і вышэйшых духоўных персон. Галоўны ўплыў на вынік выбараў мелі каралі франкаў, якіх папы вымушаны былі лічыць сваімі апекунамі.

Між тым з юрыдычнага пункту гледжання сам акт стварэння папскай дзяржавы выглядаў зусім не бездакорна. Папа быў падданым візантыйскага імператара, без згоды якога ён запрасіў на дапамогу франкаў. Больш таго, папа атрымаў у падарунак ад франкскага караля землі, якія візантыйцы лічылі сваімі. Каб апраўдаць такі ўчынак папы, неўзабаве была зроблена фальшыўка, вядомая як *"Канстанцінаў дар"*. Гэтая падробка імітавала эдыкт рымскага імператара Канстанціна Вялікага рымскаму епіскапу пачатку IV ст. Сільвестру. Па сваім стыле гэты дакумент мала нагадвае афіцыйныя імператарскія распараджэнні. Большая частка яго – вельмі лірычнае і дэталізаванае апавяданне "імператара Цэзара Флавія Канстанціна" пра тое, як ён захварэў на праказу і як лячыўся ад гэтай жудаснай хваробы. Асабліва эмацыянальна выпісана сцэна, калі Канстанцін быццам падрыхтаваўся купацца ў купелі з крыві дзяцей, якіх павінны былі забіць у яго на вачах. Такі адзіна магчымы "сродак лячэння" параілі імператару вышэйшыя язычніцкія жрацы. Канстанцін пашкадаваў ні ў чым невінаватых дзяцей і іх маці і адпусціў дадому. Ноччу ў сне да яго з'явіліся апосталы Пётр і Павел, якія паведамілі, што калі ён прыме купель хрысціянскага хрышчэння, то адразу пазбавіцца ад праказы. Хрысціць жа імператара павінен рымскі папа Сільвестр (ён чамусьці хаваўся ад ганенняў Канстанціна, які, як вядома, ніякіх рэпрэсій супраць хрысціян не прадпрымаў). Прыняцце хрысціянскага хрышчэння вылечыла імператара. І заканчваецца ілжээдыкт апісаннем тых прывілеяў, якія расчулены Канстанцін быццам даў свайму выратавальніку Сільвестру. Галоўныя з іх: імператарская пастанова аб вяршэнстве рымскіх пап ва ўсёй хрысціянскай царкве і аб тым, што Сільвестр і ўсе наступныя рымскія папы атрымліваюць уладу не толькі над Рымам і Італіяй, але і над усёй заходняй часткай Рымскай імперыі. Сабе ж высакародны Канстанцін, паводле "эдыкта", пакінуў усходнюю частку імперыі, заснаваўшы там новую сталіцу – Канстанцінопаль, "таму што несправядліва, калі зямны імператар мае ўладу там, дзе праўленне святароў і галавы хрысціянскай рэлігіі усталявана Імператарам неба".

Са зместу "Канстанцінавага дара" атрымлівалася, што "Піпінаў дар" быў юрыдычна абсалютна бездакорны, бо папы атрымалі толькі невялікую часцінку ад таго, што ім "законна" належала яшчэ з пачатку IV ст. У далейшым папы шырока выкарыстоўвалі фальшыўку, каб абгрунтаваць сваі прэтэнзіі на вяршэнства як над усёй хрысціянскай царквою, так і над манархамі заходняй часткі Еўропы. Такія дзеянні пап маглі мець поспех толькі ў грамадстве з мізэрным узроўнем адукацыі і культуры. У Візантыі ілжээдыкт Канстанціна Сільвестру ніколі не

прызнавалі, у Заходняй Еўропе аб яго падложнасці гаварылі яшчэ ў часы высокага сярэдневякоцця (напрыклад, рымскія прыхільнікі Арнольда Брэшыянскага ў сярэдзіне XII ст.). У часы Адраджэння з яго асаблівай цікавасцю да антычнай гісторыі "Канстанцінаў дар" выглядаў проста бязглуздзіцай.

**Усталяванне прымату рымскіх пап у заходнім хрысціянстве.** У антычныя часы ў хрысціянскай царкве не было вяршэнства якой-небудзь адной духоўнай асобы. Структура раннехрысціянскай царквы нагадвала своеасаблівую канфедэрацыю епіскапаў, а потым канфедэрацыю архіепіскапаў, мітрапалітаў. Епіскап меў рэзідэнцыяй горад і кіраваў рэлігійным жыццём прыхаджан горада і прылеглай акругі. Межы больш буйной царкоўнай адзінкі звычайна супадалі з межамі правінцыі, вышэйшай духоўнай асобай у ёй быў епіскап галоўнага горада правінцыі (напрыклад, Карфагена ў Праконсульскай Афрыцы). Мітраполія складалася звычайна з некалькіх правінцый, узначальваў яе епіскап (мітрапаліт) найбольш значнага горада (напрыклад, епіскап таго ж Карфагена – мітраполію, што складалася з правінцый-дыяцэзаў Праконсульскай Афрыкі, Нумідыі, Маўрытаніі). З цягам часу найбольш уплывовых епіскапаў-мітрапалітаў пачалі тытуляваць папамі. Першым так быў тытуляваны рымскім духавенствам карфагенскі епіскап Кіпрыян у 250 г., праз некалькі гадоў з тытулам "папа" звярталіся ўжо і да епіскапа егіпецкай Александрыі. За епіскапам Рыма тытул "папа" замацаваўся не раней IV ст., а ў 1073 г. рымскі папа Грыгорый VII забараніў ужываць гэты тытул да якога-небудзь епіскапа, акрамя рымскага.

У межах дыяцэза ўлада епіскапа была па сутнасці манархічнай. Епіскапы іерархічна падпарадкоўваліся архіепіскапам, мітрапалітам. Галоўныя ж пытанні царкоўнага жыцця вырашаліся вышэйшым духавенствам (епіскапатам) калектыўна на саборах (лакальных або ўсяленскіх). Ніколі воля якога-небудзь епіскапа, мітрапаліта, папы не магла быць вышэй, чым рашэнні сабора.

Вядома, становішча епіскапаў Рыма было асобым у царкве. Гэта вынікала з таго, што Рым быў сталічным горадам вялізнай дзяржавы – калыскі хрысціянства. Ужо ў III ст. усталявалася паданне, што першым епіскапам Рыма быў апостал Пётр, прызначаны Ісусам Хрыстом галоўным сярод апосталаў. У позняй антычнасці рымскія папы (асабліва Леў I) пачалі выкарыстоўваць гэтае паданне, каб абгрунтаваць сваю асаблівую ролю ў царкве, таму што яны з'яўляюцца пераемнікамі самага галоўнага з апосталаў. Але практычныя спробы рымскіх пап навязаць епіскапам іншых мясцін імперыі сваю пазіцыю па тых ці іншых пытаннях царкоўнага жыцця сустракалі рашучы адпор, хоць паходжанне іх пасады ад Пятра прызнавалася. Халкідонскі ўсяленскі сабор 451 г. прыняў свой 28 канон, у якім "першынство" і "асаблівы гонар" у царкве прызнаваліся за епіскапам Рыма, але такія ж "першынство" і "асаблівы гонар" прызнаваліся і за

епіскапам “другога Рыма” – Канстанцінопаля. Папа Леў I катэгарычна выступіў супраць гэтага канона і адмовіўся прызнаць яго. Гэта азначала, што папа рымскі паставіў сябе вышэй усяленскага сабора, які быў вярхоўным органам усёй царквы.

Такі інцыдэнт не застаўся нейкім адзінкавым эпізодам. З другой паловы V ст. выразна вырысоўваецца тэндэнцыя рымскіх пап да надання сваім пастановам аўтарытэту, роўнага пастановам сабораў. Кананічнае права фарміравалася ў заходнім хрысціянстве з дзвюх крыніц – канонаў сабораў і папскіх пастаноў. Усходнія ж хрысціянскія цэрквы будавалі сваё кананічнае права толькі на пастановах царкоўных сабораў. У заходняй царкве тэндэнцыя да ўзвышэння асаблівай канстытуцыйнай ролі рымскіх пап у жыцці царквы вылілася ў рэшце рэшт ужо ў высокім сярэдневякоўі ў палажэнні “Дыктату папы” (1075 г.) Грыгорыя VII, дзе сцвярджалася, што ніводны саборны канон не можа быць прызнаны кананічным без санкцыі папы і ніхто не можа адмяніць пастанову папы, а сам ён адмяняе ўсялякія.

Значна ўзвысіла аўтарытэт рымскіх пап іх бескампрамісная барацьба з ерасямі. Яны ўнеслі значны ўклад у перамогу артадоксіі над арыянствам, монафізітствам, а ў VIII ст. занялі непрымірымую пазіцыю супраць іканаборства, якое на пэўны час узяло верх у Візантыі. Не зламіла іх і тое, што візантыйскі імператар пазбавіў рымскіх пап шэрагу іх уладанняў у Італіі і іх царкоўнай юрысдыкцыі над Ілірыяй і некаторымі іншымі тэрыторыямі.

Садзейнічала пашырэнню царкоўнай улады рымскіх пап і дзейнасць пасланых імі місіянераў, якія распаўсюджвалі хрысціянства часта ў далёкіх ад Рыма землях.

Калі ўсходнія хрысціяне па-ранейшаму не прызнавалі вяршэнства пап з Рыма над усёй царквою, то ў раннім сярэдневякоўі на Захадзе папства пазбавілася моцных канкурэнтаў у барацьбе за царкоўны прымат.Аднымі з такіх канкурэнтаў былі паўночнафрыканскія папы – епіскапы Карфагена. Яны карысталіся высокім аўтарытэтам у хрысціянстве. Дастаткова зазначыць, што менавіта Паўночная Афрыка (а не Рым) была радзімай царкоўнай латыні, адтуль паходзілі такія знакамітыя дзеячы царквы, як Тэртуліян, Кіпрыян, Аўгусцін і іншыя. Арабскае заваяванне прывяло да поўнага заняпаду карфагенскай царквы. Захоп арабамі Пірэнейскага паўвострава падарваў моц іспанскіх мітрапалітаў. Варварскія заваяванні аслабілі і некалі вялікую ролю епіскапаў Мілана, Галіі ў царкве.

Аднак рашаючую ролю ва ўстанаўленні прымату рымскіх пап у заходнім хрысціянстве адыграў іх саюз з каралямі франкаў. Галоўнымі вехамі ў гэтым саюзе былі каранацыя папамі Піпіна Кароткага як караля франкаў і каранацыя Карла Вялікага ў 800 г. як імператара. Менавіта да аўтарытэту рымскага папы прыбег Карл Вялікі, каб прадэманстраваць, што ён ні ў чым не саступае пераемнікам антычных рымскіх імператараў – уладарам Візантыі. Гэта сведчыла і аб тым, што Каралінгі (а за імі і іх падданыя) лічылі папу Рыма вышэйшай

духоўнай персонай на Захадзе. Большасць хрысціянскіх вернікаў Заходняй Еўропы ў той час жыла ў вялізнай дзяржаве франкаў, і папы ўзначалілі яе царкву. Неўзабаве ў выніку дзейнасці місіянераў з Рыма хрысціяне англасаксонскіх каралеўстваў Брытаніі, а разам з імі і ірландскія, таксама падпарадкаваліся рымскім папам. Папы энергічна падтрымлівалі Рэканкісту, і для пірэнейскіх хрысціян яны зноў жа былі вышэйшымі царкоўнымі аўтарытэтамі.

Усталяванне ў раннім сярэдневякоўі прымату рымскіх пап у заходнім хрысціянстве азначала не проста фармальнае прызнанне іх вышэйшымі царкоўнымі асобамі. Паступова ўсё царкоўнае жыццё падпарадкавалася рымскім узорам. Былі ліквідаваны адрозненні мясцовых цэркваў у веравучэнні, набажэнствах, абрадах, нават у адзенні і прычосках святароў. Гэтаму садзейнічала каралеўская ўлада. Так, Карл Вялікі абавязаў франкскіх епіскапаў выконваць набажэнствы і абрады строга па рымскім ўзоры.

Заходняя (каталіцкая) царква стала ўяўляць сабою строга цэнтралізаваную арганізацыю на чале з рымскім папам, які кіраваў ёю як поўнаўладны манарх. Для кіравання царквою папы стварылі ў Рыме свой бюракратычны апарат – курыю з яе шматлікімі чыноўнікамі-святарамі. Галоўную ролю ў курыі адыгрывалі кардыналы, асноўныя паплечнікі і радцы папы. Інстытут кардыналаў вядомы з VI ст., калі папы пачалі прыцягваць да выканання набажэнстваў сярод шматлікіх хрысціян Рыма епіскапаў суседніх гарадоў.

Далей за папам і кардыналамі ў іерархіі духавенства ішлі архіепіскапы, епіскапы, прэсвітэры, дыяканы. Архіепіскапы і епіскапы кіравалі дыяцэзамі, на якія былі падзелены тэрыторыі ўсіх каталіцкіх краін. Прэсвітэры ўзначальвалі прыходы (*парафіі*) – ніжэйшыя адміністрацыйныя царкоўныя адзінкі. Дыяканы дапамагалі прэсвітэрам, епіскапам у розных сферах царкоўнага жыцця. Абавязковымі для мясцовага духавенства былі не толькі загады папы, але і яго пасланнікаў – легатаў.

Дасягнуўшы вярхоўнай улады над заходнехрысціянскай царквой дзякуючы саюзу з франкскімі каралямі, папы, аднак, апынуліся ў моцнай залежнасці ад гэтых каралёў, якія ўмешваліся не толькі ў выбары пап, але і архіепіскапаў, епіскапаў, абатаў, прызначаючы сваіх стаўленікаў.

**Манаства ў Заходняй Еўропе.** Хрысціянскае манаства ўзнікла на рубяжы III–IV ст. у Рымскай імперыі. Спачатку гэта быў рух нешматлікіх адзіночак – пустэльнікаў. Найбольш вядомымі з першых пустэльнікаў былі егіпцяне Антоній і Павел Фівейскі. Такія людзі ўцякалі ад астатняга свету ў пустыні Егіпта, Палесціны, Сірыі, каб цалкам прысвяціць сваё жыццё рэлігіі, каб нішто не перашкаджала іх малітвам і роздуму аб Богу. Яны не наведвалі набажэнстваў, іх лад жыцця быў незвычайны. Адна з галоўных задач пустэльнікаў (або анахарэтаў, ад грэч. anachoresis – уцёкі) – барацьба са спакусамі зямнога жыцця, ад якіх яны катэгарычна адмаўляліся. З гэтай мэтай яны шырока выкарыстоўвалі розныя

сродкі аскетызму, сярод якіх былі адмова ад любых праяў сексуальнага жыцця, доўгія і суровыя пасты, жабрацтва, маўчанне, галізна, наўмысныя фізічныя пакуты, адзіноцтва, бесперапынныя паўторы малітваў (па памяці) і інш. Існавалі і такія экзатычныя формы аскетызму, як замуроўванне сябе на доўгія гады ў цесных хацінах, шматгадовае жыццё на слупах (паміж небам і зямлёю). Найбольш вядомы са “слупнікаў” Сімяон пражыў на слупе (драўлянай калоне), па розных звестках, ад 37 да 47 гадоў. Незвычайны лад жыцця, святасць анахарэтаў рабілі іх надзвычай папулярнымі сярод хрысціян.

Даволі рана ўзнікла і кінавіційная (агульнажыццёвая) форма манаства, калі манахі пачыналі жыць не па адным, а разам, групуючыся вакол найбольш аўтарытэтнага, звычайна старэйшага манаха, якога яны звалі “бацькам” (аббатам, ад старажытнаяўрэйскага abbas – бацька). Першы манастыр быў заснаваны ў Егіпце ў 328 г. Пахоміем, які напісаў і першыя правілы для сумеснага жыцця манахаў. Неўзабаве пасля мужчынскіх з’явіліся і жаночыя манастыры (пустэльніцтва было чыста мужчынскай з’явай).

Манаства набыло масавы характар не ў той час, калі хрысціянства было гнанай рэлігіяй, а тады, калі яно набыло афіцыйны статус у Рымскай імперыі і зрабілася ў ёй адзінай афіцыйнай рэлігіяй. У пэўным сэнсе манаства ўяўляла сабой пэўны пасіўны пратэст супраць новага становішча царквы ў грамадстве, супраць саюзу царквы з уладамі імперыі. Першыя манахі былі сяляне па паходжанні, амаль усе яны былі непісьменныя. Іх інтэлектуальны ўзровень быў нізкім, рэлігійныя вераванні і практыкаванні – даволі прымітыўныя, ніякія філасофскія пошукі іх не цікавілі, наогул, філасофія была абвешчана шкодай для душы.

З манаствам у хрысціянства прыйшло шмат простанародных забабонаў, вераванняў у дэманаў, міфаў, нават казак у хрысціянскай інтэрпрэтацыі. Пэўны ўплыў быў зроблены і на адносіны да жанчыны – для манахаў гэта была адна з галоўных крыніц спакусы, а значыць і адносіны да жанчын былі негатыўныя. Але з цягам часу манаства пачалі прымаць і высокаадукаваныя людзі, якія склалі ў ім сапраўдную інтэлектуальную эліту. Адным з такіх людзей быў Васіль Вялікі (IV ст.), які напісаў правілы манаскага жыцця, стаўшыя надзвычай папулярнымі сярод манахаў. У гэтых правілах акцэнт зроблены на сумесны характар жыцця манахаў. Амаль усё ў манахаў павінна быць агульным: малітва, жыллё, ежа, праца, аднолькавая форма адзення. Васіль асудзіў празмерны аскетызм, аскетызм у яго правілах быў даступным амаль для кожнага чалавека. Васіль патрабаваў ад манахаў выканання трох зарокаў: цнатлівасці, жабрацтва, паслушэнства.

Манахі павінны былі забяспечваць сябе самі. Але яшчэ ў антычныя часы, і асабліва падчас варварскіх заваяванняў у выніку падарункаў набожных людзей, у манастыроў з’явілася шмат сродкаў, зямлі, якую самі манахі былі не ў стане апрацаваць. Зарок жабрацтва, які даваў кожны манах, захаваўся – ён быў

індывідуальным, а маёмасць манастыра лічылася ўласнасцю ўсёй яго манаскай абшчыны.

Манаства ўзнікла на ўсходзе Рымскай імперыі, адтуль яно было распаўсюдзілася на захад. Спачатку ў Заходняй Еўропе суіснавалі дзве формы манаства: пустэльніцтва і кінавіція. Ужо ў V ст. быў шырока вядомы манастыр на востраве Лерыне на поўдні Галіі. Паступовa кінавіція выцесніла анахарэтызм. Гэта было звязана не толькі з унутранай эвалюцыяй манаства.

Манаства ўяўляла сабой сур’ёзную праблему для кіраўніцтва царквы. Манаства ўзнікла ў асяроддзі міран, манахі не належалі да духавенства. Разам з тым лад жыцця манахаў, цалкам прысвечаны рэлігіі, ствараў вакол іх сярод шырокіх колаў вернікаў своеасаблівы арэол святасці. Манаства выступала як новы, трэці элемент структуры царквы, які знаходзіўся паміж міранамі і духавенствам. У пэўным сэнсе яно было канкурэнтам аўтарытэту духавенства ў царкве. Сітуацыя абвастрылася, калі манахі пачалі актыўна ўмешвацца ва ўнутрыцаркоўныя справы. Непакой такім становішчам выразна гучаў у пастановах царкоўных сабораў, у тым ліку ўсяленскіх (ад Халкідонскага 451 г. да Трульскага 692 г.). У прынцыпе ў царкоўнага кіраўніцтва былі два шляхі ў адносінах да манаства: забараніць манаства ці паставіць манахаў пад кантроль епіскапата. Быў абраны другі шлях – пачынаючы з Халкідонскага сабора вышэйшае духавенства абавязвала манахаў падпарадкоўвацца мясцовым епіскапам, а таксама абатам. Асабліва рашучыя меры былі накіраваны супраць безкантрольнай дзейнасці манахаў у гарадах – ім забаранялася пакідаць свае манастыры без дазволу абата, загадвалася сілай вяртаць вандроўных манахаў у манастыры.

У гэтым напрамку вялікую ролю адыграла дзейнасць Бенедыкта Нурсійскага (каля 480–545), які выступіў сапраўдным стваральнікам заходняга манаства. Калі да Бенедыкта заходнееўрапейскія манахі карысталіся рознымі статутамі свайго жыцця, і тут было шмат бязладнасці, то створаны ім манаскі статут неўзабаве стаў (пры падтрымцы епіскапата) найбольш папулярным і ўзорным для многіх наступных статутаў. Гэта садзейнічала уніфікацыі манаскага жыцця на Захадзе, ліквідацыі анархіі ў ёй.

Па статуце Бенедыкта манастыр уяўляў сабой аўтаномную абшчыну манахаў, якая сама забяспечвала сябе сродкамі існавання.  Галоўным абавязкам манахаў было служэнне Богу, але яны былі абавязаны і працаваць фізічна для самазабеспячэння. “Ora et labora” (маліся і працуй) – вось лозунг Бенедыкта. У статуце падрабязна распісвалася, у якія гадзіны манахі павінны былі маліцца, у якія чытаць Біблію або працы айцоў царквы, у якія фізічна працаваць. Манахі выконвалі тры традыцыйныя зарокі: цнатлівасць, жабрацтва, паслушэнства. Апошняму Бенедыкт надаваў асаблівую ўвагу і разумеў паслушэнства перш за ўсё як безумоўнае падпарадкаванне манахаў свайму абату. Абат выбіраўся манахамі,

яго пасада была пажыццёвай. Улада абата ў манастыры была манархічнай, ніхто не меў права не выканаць яго рашэння, яго нельга было змясціць. Нават на сустрэчу са сваімі роднымі манах павінен быў абавязкова атрымаць дазвол абата.

Абат падпарадкоўваўся мясцоваму епіскапу. Істотным палажэннем статута Бенедыкта было абавязковае прыпісванне кожнага манаха да пэўнага манастыра, накіраванае супраць бадзяжніцтва манахаў. Бенедыкт увёў абавязковы выпрабавальны тэрмін (навіцыят), які павінен быў прайсці кожны, хто жадаў зрабіцца манахам, на працягу года. Аскетызм статута Бенедыкта быў умераным, даступным для многіх.

Статут Бенедыкта спачатку стаў папулярным у Італіі і сярод англасаксонскіх манахаў. Пры падтрымцы папства і франкскіх каралёў з дынастыі Каралінгаў ён да канца ранняга сярэдневякоўя дамінаваў у заходнееўрапейскім манастве. З цягам часу стварыўся і ордэн бенедыкцінцаў, манахі якога жылі па адным статуце – статуце Бенедыкта. Адрозненнем гэтага ордэна ад іншых пазнейшых манаскіх ордэнаў была адсутнасць у ім цэнтральнага кіраўніцтва – кожны манастыр выступаў як аўтаномная адзінка.

**Царква ў сацыяльна-эканамічным і палітычным жыцці Заходняй Еўропы.** Яшчэ ў позняй антычнасці царква зрабілася ўладальніцай шматлікіх зямель і іншых багаццяў. Зямельныя ўладанні епіскапаў і манастыроў мелі шмат падатковых ільгот, людзі, якія працавалі на гэтай зямлі, знаходзіліся ў юрыдычнай залежнасці ад царквы. Пэўную частку даходаў з зямлі кожнага рымскага горада неабходна было аддаваць мясцовай царкве. Духавенства і манахі вызваляліся ад муніцыпальных павіннасцей і вайсковай службы. Царква атрымала і судовую ўладу па шэрагу грамадзянскіх спраў. У позняй Рымскай імперыі хрысціянскае духавенства ўяўляла сабой прывілеванае саслоўе.

Імператары актыўна змагаліся з ерасямі, клапаціліся аб адзінстве царквы, расколатая царква не магла быць надзейным ідэалагічным гарантам імператарскай улады. У адносінах царквы і дзяржавы панавала дактрына цэзарапапізму – імператар фактычна кіраваў найбольш важнымі бакамі царкоўнага жыцця, царква не імкнулася адыгрываць якую-небудзь самастойную палітычную ролю або ўзвысіцца над імператарскай уладай.

Падчас краху Заходняй Рымскай імперыі ў выніку варварскіх нашэсцяў значна ўзрасла роля вышэйшага духавенства ў сацыяльным і палітычным жыцці, епіскапы фактычна выконвалі шмат функцый мясцовай свецкай улады. Нягледзячы на заваяванні варвараў буйное царкоўнае землеўладанне ў асноўнай сваёй масе захавалася. Перамога артадоксіі над арыянствам у многіх варварскіх каралеўствах дала новы штуршок росту ўладанняў царквы. Землеўладанне духавенства і манастыроў расло ў выніку дарэнняў каралёў, набожных магнатаў. Царква была ўцягнута ў працэс феадалізацыі і часам ішла наперадзе яго. Так, нягледзячы на забарону свабоднага адчужэння зямлі "Баварская праўда" ў

пачатку VIII ст. па-рознаму заахвочвала зямельныя дарэнні царкве. Свабоду дараванняў царкве абвясціла і “Алеманская праўда”.

Царква актыўна ўключылася ў прэкарныя адносіны. Збяднелыя вольныя людзі траплялі такім чынам у пазямельную залежнасць ад царквы. На царкоўных землях быў распаўсюджаны “прэкарый з узнагародай”. У адрозненне ад буйнога свецкага землеўладання, царкоўнае і манастырскае землеўладанне не драбілася паміж спадчыннікамі. Кабальныя адносіны, камендацыя таксама былі тыповымі ў адносінах царквы і збяднелых сялян. У выніку іерархі царквы і манастыры ператварыліся ў буйных землеўладальнікаў (напрыклад, манастыр у Фульдзе валодаў больш за 250 тыс. га зямлі), ад якіх у пазямельнай і асабістай залежнасці знаходзілася вялікая колькасць людзей, што працавалі на гэтых землях. Патрабаванне да манахаў жыць за кошт працы сваіх уласных рук было абыйдзена сцвярджэннем, што фізічная праца перашкаджае манахам выконваць іх абавязкі перад Богам. Дарэчы, ужо ў статуце Бенедыкта Нурсійскага дазвалялася выкарыстоўваць у манастырах працу свецкіх людзей у тыя гадзіны, калі манахі маліліся. Па розных падліках, духавенству і манастырам у дзяржаве франкаў належала ад 1/3 да 1/2 усёй зямлі, што апрацоўвалася. Як і свецкія землеўладальнікі, духавенства і манастыры атрымлівалі ў сваіх уладаннях імунітэтныя правы.

Вялізныя памеры царкоўнага землеўладання і недахоп дзяржаўнага зямельнага фонду прывялі да таго, что асноўным зямельным фондам пры правядзенні Карлам Мартэлам бенефіцыяльнай рэформы сталі менавіта землі цэркваў і манастыроў. Вядома, гэта пагаршала адносіны паміж царквой і каралеўскай уладай, і ўжо Піпін Кароткі пайшоў на пэўны кампраміс, абвясціўшы, што раздадзеныя ў якасці бенефіцыяў царкоўныя землі з’яўляюцца ўласнасцю царквы, а бенефіцыяры павінны аддаваць ёй за гэта частку сваіх даходаў. Але ж пры гэтым такія “царкоўныя бенефіцыяры” павінны былі несці воінскую службу толькі на карысць караля.

Яшчэ далей пайшоў Карл Вялікі, які запатрабаваў ад царквы пастаўляць у войска пэўную колькасць воінаў са сваіх зямель (так, як гэта былі павінны рабіць і свецкія сеньёры). Такім чынам, епіскапы, абаты ўцягваліся ў адносіны сюзерэнітэта-васалітэта. Франкскія каралі, асабліва Карл Вялікі, лічылі сваім абавязкам умешвацца ў царкоўныя  справы ў якасці апекуноў царквы, у тым ліку ў выбары епіскапаў і абатаў. Карл Вялікі таксама прыцягваў духавенства на дзяржаўную службу як каралеўскіх пасланцоў, што пасылаліся каралём кантраляваць справы на месцах.

Росту багаццяў царквы спрыяла ўвядзенне яшчэ Піпінам Кароткім абавязковай царкоўнай дзесяціны для ўсіх падданых франкскіх правіцеляў. Кожны чалавек павінен быў аддаваць царкве дзесятую частку сваіх даходаў.

Царква, такім чынам, усё больш феадалізавалася, уцягвалася ў свецкія

адносіны, вышэйшае духавенства і абаты ўключаліся ў іерархічную феадальную лесвіцу. Нямала епіскапаў і абатаў паводзілі сябе, як і свецкія феадалы: бавілі час на паляванні, баляваннях, парушалі цэлібат. Тым больш, што іншы раз абатамі былі сапраўды свецкія людзі, якія атрымалі пасаду ў якасці ўзнагароды ад караля.

Аднак такая сітуацыя супярэчыла як царкоўным канонам, так і прызначэнню царквы ў грамадстве. Прызваннем духавенства была пасрэдніцкая роля паміж Богам і людзьмі, а не свецкія справы, дзе іерархія духавенства раствaралася ў свецкай феадальнай іерархіі. Царква мела асобную іерархію, якая складалася па іншых прынцыпах, чым адносіны сюзерэнітэта – васалітэта. Усведамленне небяспекі для царквы тых працэсаў, што адбываліся ў выніку працэсу феадалізацыі, набывала ўсё большы размах сярод манахаў, духавенства, міран. Ужо ў пачатку высокага сярэдневякоўя яно выльецца ў магутны рух за рэформу царквы. Важным момантам гэтага руху будзе перагляд адносін паміж царквою і дзяржаўнай уладай у бок незалежнасці царквы. Але яшчэ напрыканцы ранняга сярэдневякоўя можна ўбачыць першыя рашучыя спробы ліквідаваць умяшальніцтва свецкай улады ў справы царквы. Гэта адносіцца перш за ўсё да дзейнасці папы рымскага Мікалая I (858–867).

Папа Мікалай I абвясціў, што ўлада папы над царквою дадзена самім Богам, і таму ўсялякае ўмяшальніцтва звонку ў царкоўныя справы недапушчальна. Больш таго, улада папы вышэй за ўладу імператараў. І гэты тэзіс Мікалай I імкнуўся ажыццяўляць на практыцы. Ён умяшаўся ў сямейныя справы брата імператара Людовіка II, прымусіўшы таго развесціся з яго другой жонкай. Папу не напалохала нават пасланае ў Рым імператарскае войска, а рашэнне царкоўнага сабора, якое ішло насуперак яго патрабаванню, ён проста адмяніў.

Пры Мікалаі I адбыўся і востры канфлікт паміж папам рымскім і Візантыяй. Ён не прызнаў нізлажэнне канстанцінопальскага патрыярха Ігнацыя і прызначэнне на гэтую пасаду Фоцыя, які, дарэчы, не меў ніякага духоўнага звання. Пад ціскам Мікалая I Латэранскі царкоўны сабор нізлажыў Фоцыя і прызнаў законным патрыярхам Ігнацыя. Але Візантыя не прызнала папскага ўмяшальніцтва, і сабор візантыйскага духавенства адлучыў папу ад царквы. Наступны ж папа рымскі прызнаў легітымнасць Фоцыя.

Дзейнасць папы Мікалая I у значнай ступені была абумоўлена слабасцю каралеўскай улады пасля падзелу імперыі франкаў. У наступным аж да XI ст. ніводзін папа не адважваўся выступаць з падобнымі тэакратычнымі амбіцыямі.

**Царква і культура ранняга сярэдневякоўе Заходняй Еўропы.** Канец эпохі антычнасці і першыя стагоддзі заходнееўрапейскага сярэдневякоўя характарызуюцца глыбокім культурным заняпадам. У адрозненне ад грамадзян старажытнагрэчаскіх полісаў і жыхароў рымскіх гарадоў, насельніцтва раннесярэдневяковай Заходняй Еўропы, за рэдкім выключэннем, было непісьменным. І гэта тычыцца не толькі простых людзей, але і знаці і нават

каралёў. Антычная сістэма адукацыі была разбурана. Амаль адзіным і галоўным асяродкам захавання і існавання культуры з'яўлялася царква. Царкве належала выключная роля ў захаванні і перадачы культурных набыткаў антычнасці ў наступныя эпохі. Мы звычайна не задумваемся, якім чынам трапілі да нас выдатныя творы антычных аўтараў, створаныя шмат стагоддзяў назад. А між тым большасць антычных рукапісаў захавалася менавіта таму, што іх перапісвалі і захоўвалі людзі сярэдневякоўя, у асноўным манахі. Аддаючы павагу дзеячам Адраджэння, усё ж не трэба забываць, што і яны карысталіся ў сваёй большасці рукапісамі сярэдневяковых манахаў.

Вядома, царква адмоўна ставілася да многіх з'яў антычнай культуры і клапацілася перш за ўсё аб захаванні тэкстаў Бібліі, прац айцоў царквы, саборных канонаў, літургічных твораў. Але гэтыя творы ў асноўным былі культурным набыткам антычнасці. Царква, у рэшце рэшт, захавала лацінскую мову – галоўную мову адукацыі, навукі, літаратуры ў сярэдневякоўі.

Царква была зацікаўлена ў развіцці адукацыі, перш за ўсё для сваіх унутраных патрэб. Для таго каб весці набажэнства, правільна арыентавацца ў штогадовым літургічным цыкле, каб чытаць Біблію і тэалагічныя творы, быў патрэбен пэўны ўзровень адукацыі. Галоўныя тыпы школ у раннім сярэдневякоўі – гэта манастырскія (яны сталі дамінуючымі да канца гэтага перыяду) і кафедральныя. Першыя ствараліся пры манастырах, другія – пры рэзідэнцыях епіскапаў. Ва ўсіх іх выкладчыкамі з'яўляліся толькі духоўныя асобы. Кафедральныя школы рыхтавалі будучых святароў з моладзі, якая звычайна належала да вышэйшых слаёў грамадства. Менавіта з такіх людзей у асноўным фарміравалася вышэйшая царкоўная іерархія. У манастырскіх школах вучыліся галоўным чынам будучыя манахі, але там вучыліся і хлопчыкі, якіх бацькі не збіраліся аддаваць у манахі. Адукацыя была рэлігійнай, але падставу для яе складалі яшчэ антычныя "сем вольных мастацтваў". Пры гэтым асаблівы акцэнт ставіўся на trivium (граматыка, дыялектыка, рыторыка), а таксама на вывучэнне музыкі (каб можна было спяваць па тагачасных нотных запісах), матэматычным прадметам надавалася мала ўвагі.

Царква Заходняй Еўропы ў раннім сярэдневякоўі мела сапраўдную манаполію ў сферы адукацыі. Але не трэба перабольшваць узровень адукацыі тагачаснага духавенства. Належны ўзровень адукацыі мелі вышэйшыя царкоўныя іерархі, існавала вялікая розніца паміж імі і малаадукаванай масай прыходскага і ніжэйшага духавенства. Адукацыя большасці сельскіх святароў абмяжоўвалася звычайна ўменнем чытаць па-латыні і правіць набажэнства.

Сярод выдатных дзеячаў ранняй сярэдневяковай культуры большасць належала да духавенства ці манаства. Аўтар "Гісторыі франкаў" Грыгорый Турскі быў епіскапам, вялікі энцыклапедыст ранняга сярэдневякоўя Ісідар Севільскі – епіскапам Севільі, святаром – гісторык Англіі Беда Шаноўны. Тое ж тычыцца і

галоўных дзеячаў “каралінгскага адраджэння”: паэт Тэадульф – епіскап Арлеана, філолаг Алкуін – дыякан з Йорка, гісторык Павел Дыякан – манах, гісторык і выкладчык лацінскай мовы для Карла Вялікага Пётр Пізанскі – дыякан.

Кнігі перапісваліся галоўным чынам у манастырах. Там жа знаходзіліся і буйнейшыя бібліятэкі (напрыклад, у Фульдзе было каля 600 кніг). Наогул зборы кніг існавалі пры кожнай царкве, без адпаведных кніг нельга было адслужыць набажэнства.

Значны ўздым у раннім сярэдневякоўі перажыла царкоўная музыка (дакладней, спевы). Звычайна найбольш прыгожымі будынкамі былі саборы, якія ўпрыгожваліся жывапіснымі і скульптурнымі выявамі на рэлігійныя тэмы. Праўда, мастацкі ўзровень іх значна ўступаў антычным узорам. Для большасці неадукаванага, знясіленага штодзённай працай насельніцтва наведванне храма было адзінай магчымасцю далучэння да выяўленчага і музыкальнага мастацтва.

Духавенства і манаства былі найбольш адукаванымі слаямі ранняга сярэдневяковага заходнееўрапейскага грамадства. Менавіта з іх і складалася тагачасная інтэлектуальная эліта.

## § 8. Візантыя

**Візантыйская імперыя ў канцы V ст.** Падзенне Заходняй Рымскай імперыі ва ўсходняй частцы калісьці адзінай краіны прайшло практычна незаўважаным. Занадта вострымі і складанымі былі яе ўласныя праблемы. Толькі ў жніўні 476 г. імператар Зянон (474–491) здолеў вярнуць сабе прастол пасля 20-месячнага выгнання. Наступныя крокі імператара (ісаўрыйца па паходжанні, г. зн. з горнай вобласці на поўдні Малой Азіі) паспрыялі стабілізацыі становішча ў краіне. У 482 г. пры актыўным удзеле Зянона была значна змякчана напружанасць паміж праваслаўнымі і монафізітамі, якія сцвярджалі, што Ісус Хрыстос мае толькі адну прыроду – боскую, а не дзве – боскую і чалавечую. Праўда, зробленыя ўступкі прывялі да дагматычных разыходжанняў з Рымам. Пераадолены яны былі толькі ў 519 г. У 484 г. было задушана паўстанне ў Малай Азіі, якое пачаў былы бліжэйшы дарадца імператара ісаўрыец Ілус. Апошняга праз чатыры гады пакаралі смерцю. У 488 г. Зянон здолеў адвесці ад Візантыі рэальную пагрозу заваявання з боку остготаў Тэадорыха. Дасягнуць гэтага ўдалося пры дапамозе пераарыенціроўкі экспансіянісцкіх планаў германскага караля на захоп Італіі. Астатнія гады праўлення Зянона прайшлі больш-менш

спакойна.

Новае абвастрэнне ўнутраных супярэчнасцай адбылося ў канцы V ст. Рамеі патрабавалі прыходу да ўлады імператара-рамея, а не ісаўрыйца або германца, зноў пачалі абвастрацца адносіны праваслаўных і монафізітаў, нарасталі эканамічныя праблемы. У гэтых умовах да ўлады ў Візантыі прыйшоў імператар Анастасій I (491–518).

Зыходзячы з таго палітычнага становішча, што склалася, яму было неабходна пачаць барацьбу з ісаўрыйцамі, якія былі пры ўладзе, і праводзіць больш наступальную палітыку супраць монафізітаў. Найбольшых поспехаў імператарская ўлада дасягнула пры рэалізацыі першага кірунка. Прынамсі, многія з уплывовых раней ісаўрыйцаў былі перасялілі ва Фракію. Па другім кірунку Анастасій не зрабіў фактычна аніякіх захадаў. Апошняя абставіна з аднаго боку ўзмацніла яго пазіцыі ў Егіпце і Сірыі, але крыху аслабіла іх у цэнтральных раёнах краіны.

Эканамічная палітыка Анастасія была вельмі паспяховай, што дазваляе вытлумачыць наяўнасць у казне ў канцы яго праўлення 320 тыс. фунтаў золата. Да найбольш удалых эканамічных захадаў можна адтнесці скасаванне хрысаргіра, падатка, які спаганяўся з гараджан, што, як можна меркаваць, стымулявала гандаль і рамяство.

Разам з тым паступова абвастралася знешнепалітычнае становішча краіны. Няўстойлівая раўнавага ў традыцыйным процістаянні з Сасанідскім Іранам была парушана на карысць апошняга. Да 518 г. Пад кантроль персаў зноў перайшлі гарады Феадосіяполіс, Аміда і Нісібіс.

**Эпоха Юсцініяна.** Калі праўленне Анастасія падрыхтавала фінансавую базу наступнаму ўзлёту Візантыі ў 30-х гадах VI ст., то праўленне яго пераемніка, былога камандзіра палацавай гвардыі Юсціна (518–527) у пэўным сэнсе сфарміравала ідэалагічны падмурак будучай экспансіі. Новы імператар пачаў вельмі актыўна шукаць рашэнне для задачы, якую старанна абыходзіў яго папярэднік, – менавіта рэлігійнага пытання. Ужо ў 518–519 гг. пачалося актыўнае наступленне на монафізітаў, якое прывяло да паляпшэння адносін з рымскім

папствам. У 523 г. выдадзены эдыкт, скіраваны супраць арыян. Прычым місія папы Іаана І, які быў пад моцным ціскам караля остготаў Тэадорыха, якая прыбыла ў Канстанцінопаль і прасіла пра скасаванне эдыкта, была, нягледзячы на асобные дробныя саступкі Юсціна, беспаспяховай.

На ўсходзе становішча Візантыі крыху стабілізавалася, у той час як на поўначы абвастрылася. Славянскія плямёны пачалі пераходзіць Дунай і пранікаць на Балканы.

У апошнія гады праўлення Юсцін знаходзіўся пад поўным кантролем свайго пляменніка Юсцініяна, які і быў абвешчаны суімператарам за некалькі месяцаў да смерці Юсціна.

Праўленне Юсцініяна (527–565) фактычна завяршае антычную стадыю развіцця візантыйскага грамадства і знаменуе наступны пераход да сярэдневякоўя.

Ужо ў 529 г. Юсцініян пачаў праведзенне юрыдычнай рэформы. Паводле яго распараджэння юрысты пачалі збіраць імператарскія законы і дэкрэты ад Адрыяна да Юсцініяна. У выніку з‘явіўся знакаміты Corpus Juris Civilis (“Збор цывільнага права”), які, пачынаючы з XII ст., стагоддзямі вывучалі заходнееўрапейскія юрысты. У Збор ўваходзілі чатыры кнігі: “Збор Юсцініана” (529) – перапрацаваны “Збор Феадосія” з дадаткамі больш позніх законаў, “Дігесты” (533) – падборка меркаванняў знакамітых рымскіх юрыстаў, “Інстытуцыі” (533) – кароткі падручнік па рымскім праве, “Навелы” – указы самога Юсцініяна ад 534 аж да 565 г. Першыя тры кнігі былі напісаны на лацінскай мове, большая частка чацвёртай – на грэчаскай.

Асноўнай знешнепалітычнай праблемай для Візантыі ў гэты час заставаліся адносіны з Іранам, на мяжы з якім адбываліся пастаянные сутыкненні, што вымушала імперыю трымаць тут значныя вайсковыя сілы і замінала ў іх выкарыстанні для экспансіі на іншых кірунках. У 532 г. Юсцініян, каб развязаць сабе рукі на захадзе, падпісаў “вечны мір” на ўсходзе.

Праўда, экспансіяніскія планы былі часова адтэрмінаваны з-за моцнага гарадскога паўстання Ніка (Перамагай!), якое пачалося 11 студзеня 532 г. з

сутыкненняў паміж дзвюма партыямі балельшчыкаў на іпадроме, і праз два дні перарасло ва ўзброенае паўстанне. Партыі балельшчыкаў у Канстанцінопале, якія называліся паводле колеру вопраткі вазніц калясніц (“белыя”, “чырвоныя”, “блакітныя”, “зялёныя”), былі не звычайнымі аб‘яднаннямі па спартыўных інтарэсах, а своеасаблівымі сацыяльна-палітычнымі групоўкамі. Паўстанне пачалі партыі “зялёных” (адлюстроўвала інтарэсы гандлёва-рамесных слаёў) і “блакітных” (гарадскія землеўладальнікі). Гараджане патрабавалі замяніць імператара. Паўстанне было задушана толькі ноччу 18 студзеня вернымі ўладзе войскамі, якія прыйшлі з бліжэйшых гарадоў, пры гэтым было забіта каля 30 тыс. чалавек.

Паўстанне ніякім чынам не паўплывала на планы імператара па разгортванні знешняй агрэсіі ў Міжземнаморскім рэгіёне. Была афіцыйна абвешчана праграма па тэрытарыяльным аднаўленні былой Рымскай імперыі. Пры гэтым Юсцініян імкнуўся рэалізаваць яе па двух паралельных кірунках: 1) аднавіць цэласнасць дзяржавы, законнай спадчыніцай якой з‘яўляецца Візантыя; 2) абараніць праваслаўную веру адд арыян. Абодва кірункі вызначалі аб‘екты для атакі – германскія каралеўствы ў Заходняй Еўропе.

Поспехі экспансіі на заходнім напрамку былі ашаламляльнымі. У 533–534 гг. было заваявана каралеўства вандалаў і аланаў у Паўночнай Афрыцы, у 534 г. – Сіцылія, да 555 г. знішчана Остгоцкае каралеўства ў Італіі, у 562 г. пад візантыйскі кантроль перайшла Бетыка (поўдзень Пірэнейскага паўвострава). На ўсходзе, аднак, становішча ўскладнілася тым, што скарыстаўшы перакідку візантыйскай арміі на захад, Іран у аднабаковым парадку скасаваў “вечны мір”. Магчыма шахіншаха Хасрова да гэтага кроку падштурхнула гоцкае пасольства, якое прыбыла ў 539 г. Так ці інакш, але ў 540 г. Іран атакаваў рубяжы Візантыі, пачаў вайну, якая цягнулася да 561 г. Нарэшце, быў падпісаны мір на 50 год. Юсцініян пагадзіўся працягваць штогадовыя выплаты Хасрову, Хасроў згадзіўся не прэтэндаваць на Лазіку (Калхіду) і абяцяў на сваёй тэрыторыі не перашкаджаць хрысціянам. Акрамя таго, дагавор рэгуляваў праходжанне гандлёвага шляху з Ірана ў Рым праз Канстанцінопаль.

Найменш удалымі для Візантыі былі спробы надзейна перакрыць паўночную мяжу і спыніць штогадовыя ўварванні варвараў (торкаў-протабалгар, авараў, славян).

Постаянные войны (з 38 год праўлення Юсцініян ваяваў 32 гады) і падтрымка боегатоўнасці вялізарнай арміі подрывала  эканамічную магутнасць імперыі. Апошнія гады праўлення Юсцініыяна характарызуюцца ўзмацненнем падатковага ціску, сгортваннем будаўніцтва (у тым ліку ваеннага), скарачэннем арміі.

**Спадчынікі Юсцініяна (565–610).** Сацыяльна-эканамічны крызіс, які пачаўся ў апошнія гады праўлення Юсцініяна, асаблівай вастрыні дасягнуў пры яго бліжэйшых спадчынніках: Юсціне ІІ (565–578), Тіберыі ІІ (578–582). Асноўным выяўленнем крызісу сталі заняпад у аграрным сектары эканомікі, павышэнне ролі сената, узмацненне ўплыву правінцыяльнай знаці, нарастанне незадаволенасці ў арміі ў выніку скарачэння і нерэгулярнасці выплат. Да праблем унутраных дадаваліся знешнепалітычныя. Візантыя фактычна страціла здольнасць да актыўнага процістаяння агрэсіі па ўсіх напрамках. З поўначы працягваўся актыўны рух славян і протабалгар, на ўсходзе перыядычна абвастраліся адносіны з Іраном, на захадзе пад ударамі лангабардаў была пакінута большая частка Італіі.

Пэўная стабілізацыя ў знешнепалітычным становішчы адбылася пры імператары Маўрыкіі (582–602). З яго імем звязаны ўрэгуляванне адносін з Іранам і рэарганізацыя сістэмы візантыйскага кіравання на заходніх тэрыторыях. У першым выпадку ў 591 г. было заключана пагадненне пра візантыйскую падтрымку Хасрова ІІ у абмен на ўзмацненне яго пазіцый у Арменіі, што значна палепшыла эканамічнае становішча Візантыі. У другім выпадку Маўрыкій адмовіўся ад прынцыпу падзелу грамадзянскай і вайсковай улады на тэрыторыях Равены і Карфагена. Тут былі створаны экзархаты. Экзархі, якія стаялі на чале іх, сканцэнтравалі ў сваіх руках усю паўнату ўлады. Экзархаты дзяліліся на больш дробныя адзінкі – дукаты. Пры гэтым аснову войска складалі не наёмнікі, а мясцовыя землеўладальнікі.

Аднак галоўнай праблемай Візантыі ў гэты перыяд былі пастаянныя сутыкненні з аварамі на Балканах. Адносны поспех у барацьбе з імі (выцісканне за Дунай у 602 г.) прывёў да гібелі дынастыю, якая была пры ўладзе. Загад войску размясціцца на зімоўку за Дунаем выклікаў іх паўстанне, абвяшчэнне імператарам сотніка Фокі і паход на Канстанцінопаль. У сталіцы супраць Маўрыкія аб‘ядналіся партыі “блакітных” і “зялёных”. Законны імператар і пяць яго сыноў былі забіты, частка знаці, якая не прызнала яго ўладу была фізічна знішчана.

Васьмігадовае праўленне Фокі (602 – 610) не вырашыла ані воднай з праблем, што стаялі перад краінай, а наадварот, давяло іх да крытычнага становішча. Хасроў II скарыстаў забойства свайго саюзніка Маўрыкія для таго, каб пачаць новую вайну супраць Візантыі і адарваць ад яе некаторыя землі на ўсходзе і поўдні. Унутры краіны час ад часу пачыналіся паўстанні. Найбольш значным сярод іх было паўстанне карфагенскага экзарха ў 608 г.

Сын гэтага экзарха, Іраклій, пачаў марскі паход на Канстанцінопаль. Пры гэтым карфагенскі флот абыходзіў тэрыторыі ўздоўж паўночнага ўзбярэжжа Міжземнага мора і значна павялічваў свае сілы. Тым часам незадавальненне жыхароў сталіцы праўленнем Фокі дасягнула апагея і Іраклій быў сустрэнуты імі як вызваліцель.

**Установленне фемнага ладу.** Пасля атрымання ўлады Іраклій (610–641) здолеў максімальна выкарыстаць адведзены яму гісторыяй час і стабілізаваць становішча ў краіне, даведзенай да эканамічнай катастрофы праўленнем “салдацкага імператара” Фокі. Рашэнне задачы, аднак, было немагчымым без усталявання поўнага кантролю над арміяй, а грошай на яе ўтрыманне ў казне не хапала. Ключ да рашэння праблемы быў знойдзены ў пашырэнні на асноўныя тэрыторыі Візантыйскай імперыі досведа адміністрацыйнай рэформы, якая прывяла да з‘яўлення Равенскага і Карфагенскага экзархатаў. Вынікам праведзеных пераўтварэнняў было ўстанаўленне фемнага ладу.

Першапачаткова *фемамі* называліся вялікія ваенныя акругі з размешчанымі там атрадамі. На чале фемы стаяў *стратыг*, у руках якога была сканцэнтравана ўся паўната ваеннай і грамадзянскай улады (у тым ліку судзебнай і фіскальнай).

Аснову арміі складалі *стратыёты*. Гэта былі сяляне, занесеныя ў спецыяльныя спісы. За сваю службу сяляне атрымлівалі неадчужаемые зямельные надзелы, якія маглі перадавацца ў спадчыну, і вызваленне ад усіх падаткаў (за выключэннем пазямельнага) і выплат казне. Падтрымка неабходнага ўзроўню прафесійнай падрыхтоўкі забяспечвалася правядзеннем перыядычных ваенных збораў і практыкаанняў. Пры гэтым стратыгі і фемные камандзіры больш нізкіх рангаў не маглі пакуль ганарыцца знатным паходжаннем і большасць сваіх спадзяванняў на лепшую будучыню звязвалі з вайсковай службай і вернасцю імператару.

Першыя фемы з‘явіліся ў Малай Азіі. З цягам часу ўся тэрыторыя Візантыі была падзелена на гэтыя ваенна-адміністрацыйныя акругі. Устанаўленне і паступовае развіццё фемнага ладу знаменавала канчатковы пераход візантыйскага грамадства ў сярэдневяковы перыяд свайго развіцця.

Першыя вынікі знешнепалітычнай дзейнасці Іраклія былі дастаткова значнымі. На працягу 20-х гадоў VII ст. Іран спачатку быў выцеснуты з заваяваных ім візантыйскіх зямель, а ў 628 г. разгромлены ўшчэнт. Шахіншах Хасроў II был пазбаўлены трона і забіты пасля палацавай змовы. Аднак у хуткім часе, на Усходзе з‘явілася новая, вельмі агрэсіўная і моцная ў вайсковым плане сіла – мусульмане Аравіі. У 634 г. арабы ўварваліся ў Сірыю, у 636 г. разграмілі візантыйцаў у бітве пры р. Ярмук, у 638 г. арабы заваявалі Іерусалім і Антыёхію, потым Месапатамію і візантыйскую Арменію, у 641 г. Егіпет без супраціўлення прызнаў уладу заваёўнікаў і на наступны год патрапіў пад іх поўны кантроль.

Поспехі арабаў пры барацьбе за падпарадкаванне Сірыі і Егіпта можна вытлумачыць тым, што вельмі ўплывовыя ў гэтых правінцыях монафізіты, атрымаўшы выбар паміж кампраміснай прапановай па пытанню прыроды Хрыста, зробленай Іракліем у 638 г., і перспектывай свабоды веравызнання пры арабах, выбралі апошняе.

Да 648 г. арабы дайшлі да Карфагена, а ў канцы стагоддзя заваявалі апошнія візантыйскія землі ў Паўночнай Афрыцы. У Італіі пад уладай Канстанцінопаля заставаліся толькі Калабрыя, Апулія і Сіцылія. У 681 г. на Балканах узнікла Першае Балгарскае царства, якое ператварылася на гады і дзесяцігоддзі ў

суперніка Візантыі. У цэлым тэрыторыя імперыі, у параўнанні з часам Юсцініяна скарацілася на 2/3. Правіўшыя ў гэты час прадстаўнікі дынастыі Іраклія Канстанцін III (люты–май 641 г.), Канстант II (641–668), Канстанцін IV (668–685), Юсцініян II (685–695, 705–711), які быў дэтранізаваны ў 695 г., але здолеў вярнуць сабе трон пры падтрымцы балгар, рабілі некаторыя крокі, дастаткова паспяховыя для таго, каб становішча выраўнялася. Прынамсі ў 674–678 гг. Канстанцінопаль пры дапамозе “грэчаскага полымя” вытрымаў марскую арабскую аблогу і падпісаў выгадны для сябе мір. У 688–689 гг. праведзена паспяховая атака акупіраваных славянамі зямель ва Фракіі і Македоніі. Але гэтых крокаў было.

Яшчэ больш пахіснуўся аўтарытэт імператарскай улады пры захапіўшым візантыйскі прастол армяніне Бардане, правіўшым пад імем Філіпа (711–713), і меўшым схільнасць да *монафеліцтва*. Монафеліцтва да таго часу было асуджана царквою як ерась за тое, што яго прыхільнікі меркавалі, быццам Ісус Хрыстос мае адзіную волю, а не дзве (боскую і чалавечую). Новы імператар Анастасій II (713–715), былы імператарскі сакратар, які прыйшоў да ўлады ў выніку дзяржаўнага пераварота, выправіў кірунак рэлігійнай палітыкі, але не паладзіў з уплывовымі камандзірамі з фемы Опсікон. У выніку паўгадавой аблогі Канстанцінопаля прастол быў літаральна навязаны былому чыноўніку падатковай службы Феадосію III (715–717). Палітычная мізэрнасць апошняга таксама не спрыяла ўплыву імператарскай улады. У 717 г. арабы пачалі новую аблогу Канстанцінопаля, на гэты раз і з мора, і з сушы.

**Перыяд іканаборства.** Пагроза знікнення Візантыі пад ударамі знешніх ворагаў зноў актуалізавалася. Аднак вастрыня сітуацыі была знята стратыгам фемы Анатолік Львом III (717–741), што прыйшоў да ўлады. Ужо ў 718 г. арабаў вымусілі адступіць ад Канстанцінопаля. Для больш поўнай нейтралізацыі арабскага фактору новы імператар пачынае пошук саюзнікаў. Імі становяцца хазары. Візантыйска-хазарскі саюз быў замацаваны ў 733 г. шлюбам сына імператара Канстанціна і дачкі хазарскага кагана.

Найбольш значнай падзеяй, звязанай з праўленнем Льва III быў выбух

*іканаборскага руху*, пачатак якога быў адзначаны яшчэ ў VI ст. Яго ўдзельнікі ўспрымалі шанаванне ікон як выяўленне ідалапаклонства. У 726 г. іканаборства было ўзведзена ў ранг афіцыйнай палітыкі імператара. У 730 г. шанаванне ікон афіцыйна забаранілі.

Да нашага часу медыявісты не прыйшлі да агульнага меркавання наконт ацэнкі дадзенага руху. Адным з найбольш прыймальных поглядаў на праблему ўяўляецца думка вядомага расійскага візантыста Г. Л. Курбатава. Паводле яго меркаванняў у іканаборстве неабходна вылучыць некалькі аспектаў.

Па-першае, аспект ідэалагічны. Культ ікон, культ святых, спадзяванні на дапамогу “боскага выратаваціеля” ўмацоўвалі аўтарытэт і ўплыў царквы, але не імператараў. Перамогі Льва III дазволілі яму патрабаваць падпарадкавання менавіта яму, як “богавыбранаму імператару”, а не праваслаўнай царкве.

Па-другое, аспект эканамічны. Канфіскацыя пэўнай часткі царкоўна-манастырскіх скарбаў і скасаванне асобных падатковых прывелей дазволіла імператарскай уладзе атрымаць сродкі для ўтрымання стабільна баяздольнай арміі, для процістаяння арабскай конніцы.

Па-трэцяе, аспект сацыяльна-палітычны. Іканаборства было рухам новых сацыяльных сіл, якія арыентаваліся на стварэнне новай Візантыі. “Імператары-іканаборцы, – падкрэслівае гісторык, – не толькі абапіраліся на гэтыя сілы, але былі, па сутнасці, выразнікамі іх інтарэсаў”.

Як бы то ні было, але праз 14 гадоў пасля правядзення іканаборскай палітыкі візантыйская армія стала настолькі боездольнай, што ўшчэнт разграміла арабаў у бітве пры Акроіне (740). Гэта азначала крах планаў устанаўлення арабскага панавання ў Малай Азіі.

Канстанцін V (741–775), які прыйшоў да ўлады пасля таго, як было задушана выступленне фем Опсікіон і Арменікіон, вёў вельмі актыўную, хоць і не заўсёды паспяховую, знешнюю палітыку. Праўда, перамог было больш. Так, ён разграміў аслабленых межусобнай барацьбой арабаў на тэрыторыі Сірыі, трымаў пад візантыйскай акупацыяй Балгарыю (756–775). Да відавочнага паражэння трэба аднесці страту Візантыяй Равенскага экзархата ў 751 г. У плане рэлігійна-

царкоўным Канстанцін V працягваў бацькоўскую лінію і надаў іканаборству больш карэктнае кананічнае афармленне. У 754 г. іконашанаванне было афіцыйна асуджана па волі 338 епіскапаў на царкоўным саборы.

Іканаборскі сабор 754 г. паказаў, што рух выйшаў на кульмінацыйны пункт свайго развіцця. Пры гэтым было зразумела, што асноўныя мэты, якія стаялі перад ім, былі дасягнуты. У выніку пытанне пра шанаванне ікон страціла былую вастрыню і актуальнасць. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць наступныя падзеі. Пры “імператары” (менавіта такі быў тытул, а не “імператрыца”) Ірыне, удаве Льва IV (775–780), якая кіравала разам са сваім сынам Канстанцінам VI (780–797), а пасля яго асляплення паводле яе ж загада – самастойна (797–802), іконашанавальнікі здолелі ўзяць рэванш. У 787 г. VII Сусветны сабор (у Нікее) асудзіў іканаборства, прычым яго прыхільнікі з ліку епіскапаў павінны былі адмовіцца ад былых поглядаў у пісьмовай форме.

Пасля дэтранізацыі ў выніку змовы “імператара” Ірыны (802 г.) іканаборства было адноўлена, але не ў радыкальнай форме, як можна было чакаць пры захаванні актуальнасці пытання, а ў вельмі памяркоўнай. Канчаткова іконашанаванне перамагло пры імператрыцы Феадоры, якая правіла разам са сваім сынам Міхаілам III (842–867 гг.) ў 843 г., але землі, канфіскаваныя ў царквы, так і заставаліся ў руках дзяржавы і служылай знаці.

Узнаўленне іконашанавання прывяло да таго, што візантыйская ўлада ўшчыльную занялася барацьбой с *паўлікіянамі*, прыхільнікамі дуалістычнага руху, блізкага па сваіх вераспавядальных поглядах да хрысціянізаванага маніхейства. Паўлікіяне адмаўлялі не толькі шанаванне ікон, але і дзяржаўныя інстытуты наогул. Правадыры руху Карвеас і Хрысохір здолелі арганізаваць дастаткова баяздольныя атрады самаабароны і кантраляваць значныя тэрыторыі на ўсходзе Малай Азіі (правінцыя Арменія) вакол крэпасці Тэфрыка. Аднак у 872 г. паўліканская армія была разгромлена, Тэфрыка пала. Пры гэтым было знішчана больш 100 тыс. прыхільнікаў руху.

**Знешнепалітычнае становішча Візантыі ў IX ст.** Першым вынікам адмовы ад іканаборства на саборы 787 г. стала нармалізацыя адносін з франкамі.

Ужо ў 802 г. пачалася актыўная прапрацоўка магчымага шлюбу Карла Вялікага з Ірынай. Але дэтранізацыя апошняй і высылка на востраў Лесбас пазбавіла гэтыя планы якога-небудзь сэнсу.

Пасля гэтага адбылося абвастрэнне адносін з балгарскім ханам Крумам, у выніку чаго Візантыя страціла гарады Сердзіка (809) і Адрыянопаль (813), прычым балгарская армія падышла да Канстанцінопаля. Праўда пасля раптоўнай смерці Крума з яго сынам Омартагам быў падпісаны мірны дагавор. У канцы стагоддзя Візантыя спыніла вайсковае процістаянне супраць балгар і славян. Імперыя ўзяла курс на іх мірнае падпарадкаванне праз евангелізацыю. Пры гэтым былі дасягнуты значныя поспехі: місія Кірылы і Мяфодзія ў Маравіі (863), хрышчэнне балгарскага цара Барыса (870).

Адносіны з арабамі, увага якіх была засяроджана на ўласных праблемах, што ўзніклі пасля смерці халіфа Гаруна ар-Рашыда, некалькі гадоў былі стабільнымі. Але ў хуткім часе арабская экспансія ўзнавілася. Візантыйцы ўсё больш страчвалі кантроль над раёнамі Міжземнага мора. У 826–827 гг. арабы захапілі Крыт, крыху пазней пачалося заваяванне Сіцыліі.

**Сацыяльна-эканамінае развіццё.** Аж да канца VI – пачатку VII ст. візантыйская эканоміка, яе аграрны і гарадскі сектары, развівалася ў рэчышчы тэндэнцый, якія абазначыліся яшчэ ў перыяд даміната. Яе падтрымлівала пастаяннае тэрытарыяльнае расшырэнне, звязанае з заваяваннямі Юсцініяна. Аднак эканамічны эфект апошніх быў кароткачасовым. Падтрымка сістэмы на неабходным узроўні паглынала шмат рэсурсаў. У канцы праўлення Юсцініяна пачаўся эканамічны крызіс, у выніку якога познерымскі каланат быў не здольны забяспечыць паступленне нават мінімальнай колькасці прадуктаў, неабходных для простага ўзнаўлення сялянскай сям‘і, невялікія гарады прыходзілі ў заняпад, насельніцтва перасялялася ў вёску. У першай палове VIII ст. крызіс ускладніўся пачаткам арабскіх заваяванняў, якія прывялі да значнага скарачэння візантыйскіх уладанняў. У выніку ў VII–IX ст. асноўнай рэсурснай базай сталі Малая Азія і Балканы. Ў краіне пачалася карэнная перабудова эканамічнага жыцця.

Пачынаючы з VII ст., каланат канчаткова губляе сваё эканамічнае значэнне,

на першае месца выходзіць селянін-абшчыннік, уладальнік ворыва на правах прыватнай уласнасці, які таксама мае права на карыстанне абшчыннымі ўладаннямі і млынамі. Пры гэтым абшчына цалкам нясе адказнасць за выкананне дзяржаўных плацяжоў. З сялян спаганяўся пазямельны падатак (*дзімосій*), падушны падатак з двара (*капнікон*). Акрамя таго, яны забяспечвалі будаўніцтва ўмацаванняў, камунікацыйных шляхоў і мастоў. Значнай асаблівасцю падатковай сістэмы Візантыі была кругавая парука.

Дастаткова поўнае ўяўленне пра жыццё візантыйскага сялянства дае запісаны ў пачатку VIII ст. судзебнік "Земляробчы закон", які шмат у чым нагадвае германскія праўды. Калі ж улічыць, што рабства ў "Законе" згадваецца толькі ў пяці артыкулах з 85, прычым ніводны з іх не звязаны з асноўнымі гаспадарчымі заняткамі, можна зрабіць выснову пра мінімізацыю ролі рабскай працы на зямлі.

Вельмі значна змяняецца структура гарадской сістэмы краіны. Калі ў IV–VI ст. гарадоў у іх традыцыйным разуменні было больш за 1000, то цяпер на гэты статус маглі прэтэндаваць толькі некалькі дзяесяткаў найбольш буйных цэнтраў, такіх як Фесалонікі, Нікея, Эфес, Трапезунд і некаторыя іншыя. Астатнія гарады трансфарміраваліся або ў аграрныя гандлёвыя пасяленні, або ў крэпасці, вакол якіх пазней зноў пачалі фарміравацца гарады. На гэтым фоне асаблівая роля належала візантыйскай сталіце Канстанцінопалю, засярэдзіўшаму і развіўшаму ў сваіх межах разнастайную рамесную вытворчасць і гандлёвую дзейнасць. Яна ж была цэнтрам будавання караблёў і вайскова-марской базай, якая мела ў сваім распараджэнні найбольш магутную на тыя часы зброю – "грэчаскае полымя".

Нарэшце, захавалася сістэма паступленняў у казну ад дзяржаўных маёнткаў, майстэрняў і руднікоў.

**Сістэма кіравання.** Уся паўната ўлады (заканадаўчай, адміністрацыйнай, судовай) у Візантыі, у поўнай адпаведнасці з рымскай традыцыяй, належала імператару. Апошні лічыўся "Богавыбраным космакратарам", які стаяў на чале зямнога парадку, быўшага адлюстраваннем парадку нябеснага. Пры гэтым ён нёс адказнасць перад Богам за дзеянні сваіх падданых, у той час, як за іх душы

адказваў патрыярх Канстанцінопальскі.

Пры Іракліі адбылася знакавая падзея пры вызначэнні ролі імператара. Былы лацінскі тытул "імператар" быў заменены на яго грэчаскамоўны аналаг "*васілевс рамеяў*". Гэтым адмаўлялася закладзеная ў былы тытул ідэя выбарнасці кіраўніка. Цяпер імператар станавіўся манархам. Адначасова падкрэслівалася пераймальнасць Візантыі і Рымскай імперыі.

У VII ст. была скасавана вельмі груваcткая і непаваротлівая бюракратычная сістэма, якую Візантыя атрымала ў спадчыну ад Усходняй Рымскай імперыі. Яе месца заняла сістэма *лагафесій* (цэнтральных устаноў), на чале з *лагафетамі*. *Лагафет генікона* кіраваў казначэйствам, *лагафет стратыётаў* распараджаўся вайсковай казной, *лагафет дрома* (гэтая пасада вядома з VIII ст.) стаяў на чале візантыйскага дыпламатычнага корпуса, а таксама кіраваў знешняй разведкай, перапіскай, быў знешнепалітычным дарадцай імператара, *лагафет статкаў* (з IX в.) распараджаўся дзяржаўнымі пашамі  табунамі, *лагафет сакрэтаў* (з XI ст.) цалкам кантраляваў сістэму грамадзянскага кіравання.

Да VII ст. дастаткова значная роля ў палітычным жыцці Канстанцінопаля і імперыі належала партыям іпадрома: *венетам* ("блакітным") і *прасінам* ("зялёным"). Першыя абапіраліся на падтрымку буйных землеўладальнікаў, другія – на гандлёва-рамесныя слаі. Удзельнікі партый дапамагалі ва ўстанаўленні парадку ў горадзе, рамонце муроў, арганізацыі спартыўных спаборніцтваў. Але яны маглі выяўляць і пэўныя палітычныя інтарэсы, што прыводзіла да хваляванняў і ўзброеных паўстанняў. Аднак у VII ст. барацьба партый страціла свае значэнне. Гэта было звязана з тым, што насельніцтва сталіцы паступова падпадала пад усё больш шчыльны кантроль з боку імператарскай улады, якая звяла яго палітычную актыўнасць да нуля.

## § 9. Міждзяржаўныя адносіны ў Заходняй Еўропе ў V – IX ст.

**Палітычная карта Заходняй Еўропы ў V – VIII ст.** У пачатку V ст. н. э. Заходняя Рымская імперыя складалася з дзвюх прэфектур – Галіі (дыяцэзы Галія і Іспанія) і Італіі (дыяцэзы Італія і Афрыка) і горада Рыма ў якасці асобнай адміністрацыйнай адзінкі. Рэзідэнцыя імператара знаходзілася ў Равене. Пасля ўзнікнення германскіх каралеўстваў палітычная карта рэгіёну спачатку страціла былую ўстойлівасць, але ў хуткім часе стала выяўляцца тэндэнцыя да больш-менш жорсткага дзяржаўнага размежавання на субрэгіянальным узроўні. Да

азначаных субрэгіёнаў адносіліся Брытанія, Галія, Іспанія, Італія.

Тэрыторыю правінцыі Брытанія (дыяцэз Галія) рымскія легіёны пакінулі ў 410 г. У выніку некаторыя кельцкія дзяржавы вострава набылі поўную незалежнасць ад імперыі. Але вельмі нізкі ўзровень баявой падрыхтоўкі не дазваляў ім арганізаваць дастаткова эфектыўную сістэму абароны ад піктаў, якія жылі за "Адрыянавым валам". На востраў былі запрошаны атрады саксаў з кантынентальнай Еўропы, якія, аднак, у хуткім часе пачалі заваяванне кельцкіх зямель на поўдзень ад заліва Уош. Паступова ў канцы V – пачатку VI ст. тут у асноўным сфарміраваліся тэрытарыяльныя абрысы дзяржаў саксаў: Кент, Сасекс, Уэсекс, Эсекс, Мідлсекс. На поўнач ад Хамбера сяліліся англы, якія прышлі з паўднёвай Ютландыі. Пра падзеі, звязаныя з іх паяўленнем, крыніцы нічога не паведамляюць. Можна толькі канстатаваць відавочны факт наяўнасці ў адзначаны перыяд шэрагу каралеўстваў англаў: Усходняя Англія, Мерсія, Ліндсэй, Сярэдняя Англія, Дэіра. У 30–40-х гг. VI ст. да іх дадалася яшчэ адна дзяржава – Берніка.

Дзяржаўнае размежаванне ў брытанскім субрэгіёне праходзіла па двух асноўнах кірунках, якія можна вызначыць тэрмінамі "выцісканне" і "паглынанне".

Рэалізацыя першага кірунку завяршылася ў 70-х гадах VI ст., пасля таго, як адна частка брытаў была выціснута ў Каледонію і Камбрыю (Уэльс), а другая частка эмігрыравала на кантынент, на паўвостраў Арморыка, які пасля гэтага атрымаў назву Брэтань.

Рэалізацыя другой тэндэнцыі прывяла да ўсталявання ў Брытаніі "гептархіі" (сяміўладдзя). Пасля таго, як Мерсія далучыла да сабе Сярэднюю Англію (сярэдзіна VI ст.) і Ліндсэй (канец VII ст.), Дэіра аб'ядналася з Бернікай у Нартумбрыю (пачатак VII ст.), Эсекс уключыў у свой склад Мідлсекс (VII ст.), на палітычнай карце субрэгіёну заставалася толькі сем каралеўстваў: Кент, Сасекс, Уэсекс, Эсекс, Усходняя Англія, Мерсія, Нартумбрыя. На поўнач ад гептархіі знаходзіліся племянныя каралеўствы брытаў Каледоніі і скотаў, кельцкага племені, якое прыйшло ў Брытанію з Ірландыі ў V–VI ст. і падпарадкавала піктаў, на захад – племянныя каралеўствы брытаў Камбрыі – Гвінед, Гвент і іншыя.

На тэрыторыі дыяцэза Галія ў 476 г. знаходзіліся наступныя дзяржавы і напаўдзяржаўныя ўтварэнні: 1) Каралеўства вестготаў з цэнтрам у Тулузе, якое ўзнікла ў 418 г.; 2) другое каралеўства бургундаў, якое было заснавана ў Савойе ў 443 г. пасля разгрому гунамі першага бургундскага каралеўства на Рэйне; 3) племяннное каралеўства франкаў, дзе толькі пачынаўся працэс афармлення дзяржавы; 4) Сіагрыя – своеасаблівы ўламак Рымскай імперыі, які знаходзіўся пад уладай Эгідыя, сына рымскага палкаводца Сіагрыя; 5) Арморыка (у наступным – Брэтань).

У гальскім субрэгіёне, як уяўляецца, таксама можна прасачыць тэндэнцыі "выціскання" і "паглынання", але з пэўнай карэкціроўкай першай з іх. Справа ў тым, што франкамі за межы Галіі выціскаліся не карэнныя жыхары, а германцы

(вестготы).

Рэалізацыя другой тэндэнцыі разгортвалася пад дыктоўку франкаў, якія ў 486 г. разграмілі Сіагрыю, у 507 г. захапілі гальскія ўладанні вестготаў, у 534 г. далучылі да сваёй дзяржавы Каралеўства бургундаў. У VIII ст. франкі вялі пастаянныя войны дзеля ўмацавання і пашырэння сваіх межаў – з лангабардамі (754, 774), кантынентальнымі саксамі (772–804), аварамі (788–796), арабамі (732, 778, 785  811). У выніку да пачатку IX ст. дзяржава франкаў ахапіла значную частку Заходняй Еўропы. На межах краіны ствараліся буферныя зоны: маркі (Іспанская, Брэтонская, Дацкая, Панонская, Фрыульская) і рубяжы (Саксонскі і Сербскі).

На поўнач і ўсход ад дзяржавы франкаў знаходзіліся племянныя германскія каралеўствы Скандынавіі і ўласна Германіі.

На тэрыторыі дыяцэза Іспанія працэсы “выціскання” і “паглынання” разгортваліся не паралельна, а паслядоўна. Спачатку  мела месца своеасаблівае добраахвотнае выціскание, калі ў 429 г. вандалы і аланы рушылі ў Паўночную Афрыку, дзе і заснавалі свае каралеўства. Потым пачалася барацьба за кантроль над Пірэнейскім паўвостравам паміж свевамі і іспана-рымлянамі. Пры гэтым апошнім значна дапамаглі федэраты імперыі – вестготы і бургунды. У 455 г. свеўская экспансія была спынена. Тэрыторыя іх каралеўства лакалізавалася на паўночным захадзе Іспаніі.

Аднак ужо ў 468 г. вестготы разарвалі федэратыўныя адносіны з Рымам і ў хуткім часе заваявалі астатнюю частку Пірэнейскага паўвострава. У наступным межы Вестгоцкага каралеўства мяняліся некалькі разоў: у 507 г. былі страчаны гальскія ўладанні, у 551 г. Візантыя захапіла Бетыку (на паўднёвым усходзе паўвострава), у 585 г. вестготы канчаткова разграмілі свеваў і ператварылі іх краіну ў сваю правінцыю, у 636 г. адваявалі Бетыку. Такім чынам, у канцы VII ст. каралеўства вестготаў занімала ўвесь Пірэнейскі паўвостраў.

Аднак у пачатку VIII ст. палітычная карта Пірэнеяў зноў мяняецца. У 711 г. пачалася бербера-арабская агрэсія, у выніку якой была заваявана практычна ўся краіна (да 714 г.) за выключэннем невялікай апорнай базы на поўначы Пірэнейскага паўвострава. Менавіта тут ісламскі націск быў спынены і пачалося фарміраванне новага каралеўства – Астурыі.

Палітычная карта Апенінскага паўвострава рэпрэзэнтуе вельмі цікавы сінтэз “выціскання” і “паглынання”. Тут азначаныя працэсы набылі выгляд паслядоўнага існавання некалькіх дзяржаў на адной і той жа тэрыторыі.

Першым каралеўствам на зямлі дыяцэза Італія стала дзяржава Адаакра (476–493), другім – каралеўства остготаў (493–553), потым уся гэтая тэрыторыя ўваходзіла ў склад Візантыі (553–568). Больш за сто гадоў Апеніны былі падзелены паміж Візантыей і лангабардамі. Пасля разгрому апошніх у 774 г. на тэрыторыі паўвострава размяшчаліся ўладанні франкаў, свецкія ўладанні рымскіх

пап (з 756 г.), лангабардскае герцагства Беневент, візантыйскія ўладанні.

**Палітычная карта Заходняй Еўропы ў IX ст.** Вызначальны ўплыў на змены ў палітычнай карце Брытаніі ў IX ст. зрабілі наступныя фактары: 1) узмацненне пазіцый Уэсекса; 2) пачатак экспансіі германскіх плямёнаў Скандынавіі, вядомых пад агульнай назвай "датчане".

У 825 г. Уэсекс уключыў у свой склад землі Сусекса, Кента. У 829 г. пад яго намінальную ўладу перайшла Нартумбрыя, была заваявана Мерсія. Такім чынам, амаль усе англасаксонскія каралеўствы былі сабраны ў межах адной дзяржавы, што дазваляе некаторым гісторыкам лічыць гэтую дату годам узнікнення каралеўства Англіі. У наступным годзе, аднак, Мерсія вызвалілася з-пад улады Уэсекса і захоўвала незалежнасць да 70-х гадоў IX ст.

У 844 г. датчане пачалі заваяванне Нартумбрыі, дзе ў 872 г. пасадзілі на прастол залежнага караля, а ў 876 г. заснавалі тут ўласнае каралеўства – Йорк. У 877 г. датчане падзялілі на дзве часткі Мерсію. Заходнюю аддалі пад кантроль Уэсекса, усходнюю, дзе пазней была створана канфедэрацыя пяці бургаў, пакінулі сабе. У 879 г. датчане адваявалі ў Уэсекса Усходнюю Англію і заснавалі тут уласнае каралеўства. З гэтага часу тэрыторыя Йорка, Усходняй Англіі і пяці бургаў вызначаецца тэрмінам Дэнло ("Вобласць дацкага права").

Дзяржава франкаў у самым пачатку IX ст. значна павысіла свой міжнародны прававы статус. У 800 г. папа рымскі Леў III каранаваў Карла Вялікага імператарскай каронай. У 812 г. новы тытул з пэўнымі агаворкамі вызнаў Канстанцінопаль.

Пасля смерці Карла Вялікага яго імперыя ўступіла ў паласу міжусобнай барацьбы. Нарэшце, у 843 г. па умовах Вердэнскага дагавора краіна была падзелена на Ўсходнефранкскае і Заходнефранкскае каралеўствы, якія падзяляла каралеўства Лотара, ці Латарынгія (італьянскія землі імперыі разам з вузкай паласой ад Альп да Паўночнага мора). Па умовах Мерсінскага дагавора 870 г. гэтая паласа была падзелена паміж Усходнефранкскім і Заходнефранкскім каралеўствамі.

Акрамя азначаных каралеўстваў у Заходняй Еўропе пачалі афармляцца тэрытарыяльныя абрысы новых дзяржаў – Фландрыя, заснаваная Балдуінам I Жалезнарукім (862–879 гг.) і ўзмацніўшая свае пазіцыі пры яго сыне Балдуіне II (879–918 гг.), Бургундыя пры Рычардзе (880–921 гг.), першае і другое каралеўства Праванс (адпаведна 855–863 гг. і 879–934 гг.).

У 884–888 гг. адзінства імперыі было адноўлена апошні раз. Карл III Тоўсты ў 881 г. стаў імператарам франкаў і каралём Італіі, у 882 г. – каралём Усходнефранкскага каралеўства, у 884 г. – каралём Заходнефранкскага каралеўства.

У самым канцы стагоддзя (892 г.) перад Заходняй Еўропай паступова пачала вымалёўвацца яшчэ адна знешнепалітычная праблема. Кароль Арнульф,

уступіўшы ў барацьбу з мараўскім князем Святаплукам, запрасіў на дапамогу фіна-угорскае племя венграў.

**Процістаянне ісламскай цывілізацыі.** Па тэрыторыі Заходняй Еўропы праходзілі дзве лініі процістаяння ісламскай цывілізацыі. Першая з іх узнікла пасля бербера-арабскага заваявання Пірэнейскага пўвострава ў 711–714 гг., другая – пасля арабскага заваявання Сіцыліі ў 827 г. і горада Бары ў 847 г., падчас грамадзянскай вайны ў Беневенце (839–849).

На Пірэнейскім паўвостраве пачалася шматвяковая вайна, Рэканкіста. Першым яе цэнтрам сталі каралеўства Астурыя і Каталонія. У склад апошняга рэгіёну ўваходзілі графствы, якія ўзніклі пасля першых поспехаў хрысціянскай арміі – Арагон, Бургас, Лантарон, Лара і інш. Другі цэнтр Рэканкісты звязаны з аб‘яднаннем вакол графа Барселоны Віфрэда Калматага графстваў Іспанскай маркі, якая была пад юрысдыкцыяй Заходнефранкскага каралеўства (873). Трэці цэнтр Рэканкісты сфарміраваўся ў самым канцы IX ст. разам з узнікненнем каралеўства Навара.

Процістаянне заходнееўрапейскай і ісламскай цывілізацый на Апенінах было больш паспяховым. Сын Лотара, кароль Італіі Людовік II (844–875) у 866–867 гг. сабраў вельмі моцную армію (магчыма, самую моцную ў Італіі за IX ст.) і пры падтрымцы Беневента і Візантыі пачаў аблогу Бары, які быў захоплены ў 871 г. Пасля перамогі армія італьянскіх Каралінгаў засталася на поўдні Апенін.

**Асноўныя прынцыпы заходнееўрапейскіх міжнародных адносін ранняга сярэдневякоўя.** Паміж асобнымі германскімі каралеўствамі існавалі пэўныя міждзяржаўныя адносіны. Была практыка абмену пасольствамі, прычым апошнія мелі гарантаваную абарону і дастаткова высокі статус. Складаліся пасольствы як правіла з двух чалавек, каралеўскага прыбліжанага і клірыка, і адпаведнай світы. Абаранялася жыццё паслоў згодна з дадаткам да “Салічнай праўды”, вергельдам у 1800 солідаў.

Новым момантам, у параўнанні з рымскай традыцыяй, стала практыка асабістых сустрэч каралёў дзеля вырашэння найбольш важных пытанняў і падпісання дагавароў. Пра ўзровень падрыхтоўкі апошніх сведчыць Вердэнскі дагавор 843 г. пра падзел імперыі Карла Вялікага. Над ім працавала больш за сто экспертаў, тэкст быў падрыхтаваны на дзвюх мовах – усходне- і заходнефранкскай.

Практычную рэалізацыю асноўных прынцыпаў міжнародных адносін, узятых у комплексе і на працягу дастаткова доўгага перыяду, дазваляе прасачыць фіксацыя знешнепалітычнай лініі імператара Карла Вялікага ў Лоршскіх аналах. Тут адзначаецца выкарыстанне судзебнай працэдуры для пачатку заваявання (канфлікт з лангабардамі ў 770 г., адхіленне ад улады баварскага герцага Тасілона ў 788 г.), узяцце заложнікаў пры заключэнні міра (дагаворы з саксамі 779, 780,

797, 798 гг., баварамі 787 гг., славянамі-вільцамі 789 г.), дынастычныя шлюбы (абручэнне дачкі Карла Вялікага Хратруды з візантыйскім імператарам Канстанцінам IV), заключэнне агульнага пагаднення з падуладнымі тэрыторыямі (788 г.), выкарыстанне ў знешнепалітычных мэтах хрышчэння (сакс Відукінд у 785 г., аварскі царэвіч Тудун у 795 г.), заключэнне саюзаў (франка-абадрыцкі саюз 798 г.).

Разам з тым германцы не адмаўляліся і ад рымскай спадчыны. Яе адаптацыя да новых умоў звязана з імем Флавія Касіядора Сенатара (каля 490–590), аўтара "Варый", зборніка, у склад якога ўвайшлі 468 дакументаў, падрыхтаваных для Тэадорыха Вялікага. Дыпламатычная перапіска з "Варый" на стагоддзі стала ўзорам для заходнееўрапейскага прыдворнага справаводства.

Флавій Касіядор вельмі шмат увагі звяртаў на дынастычныя сувязі, лічыў, што з улікам неразвітай сістэмы камунікацыяў неабходна аператыўна інфармаваць усіх гасудароў рэгіёну ў выпадку ўступлення на прастол новага караля ў якой-небудзь краіне. Аўтар "Варый" падкрэсліваў таксама неабходнасць існавання трацейскага суду для ўрэгулявання міждзяржаўных спрэчак, канкрэтызаваў асобныя аспекты практыкі адносін паміж краінамі. На яго думку, парушэнне дагавора ці пагаднення адным бокам робіць яго неабавязковым для выканання іншым удзельнікам дамовы. У пэўных умовах, лічыў Касіядор, дзяржава можа даваць прыстанішча палітычным ворагам з суседняй дзяржавы без шкоды для адносін з гэтай краінай.

## Частка другая
## Высокае сярэдневякоўе
## (X–XIII ст.)

### § 10. Заходнееўрапейскае грамадства высокага сярэдневякоўя

**Фнадальнае грамадства.** Заходнеўрапейскае грамадства X–XIII ст. вызначаецца як феадальнае (ад лац. feudum – маёнтак). У шырокім сэнсе тэрмін “феадалізм” азначае сістэму панавання-падпарадкавання, якая была заснавана на передачы за выкананне пэўнай службы надзелу (феода) у спадчыннае трыманне і аб’ядноўвала такім чынам вышэйшы слой сярэдневяковага заходнееўрапейскага грамадства. У вузкім сэнсе тэрмін “феадалізм” азначае заходнееўрапейскае грамадства, стрыжнёвым прынцыпам арганізацыі эканамічнага, сацыяльнага, палітычнага жыцця і менталітэту выступаюць карпаратывізм, іерархізм, каталіцызм.

**Заходнеўрапейская эканоміка.** Агульнымі, формаўтваральнымі рысамі эканамічнай сферы жыцця заходнееўрапейскага феадальнага грамадства можна лічыць: 1) своеасаблівую форму ўласнасці на асноўныя сродкі вытворчасці; 2) панаванне аграрнага сектара эканомікі над прамысловым і гандлёвым; 3) неразрыўнае адзінства паміж вытворцам і прыладамі працы, вызначальная роля асабістага вытворчага досведу, індывідуальны характар вытворчасці; 4) эканамічную аўтаркію; 5) мінімальную матывацыю да працы.

**Аграрны сектар эканомікі.** Аснову заходнееўрапейскай эканомікі ў часы высокага сярэдневякоўя складала аграрная вытворчасць – земляробства, жывёлагадоўля, хатнія промыслы, рыбалоўства і паляванне. Развівалася яна ў асноўным па экстэнсіўнаму шляху, праз расшырэнне плошчы ўрабляемых зямель падчас унутраннай каланізацыі XI – XIII ст. Каланізацыя ў асноўным мела перасяленчы характар. Сярэднія і малодшыя сыны сялян, якія не мелі ніякіх спадзяванняў на атрыманне спадчыны, рушылі на засваенне новых зямель, дзе і засноўвалі новыя вёскі. Ініцыятыва на перасяленне магла зыходзіць і ад караля ці магната. У гэтым выпадку новыя вёскі фактычна ператвараліся у вайсковая пасяленні, жыхары якіх (*госпіты*) абаранялі знешнія межы ўладанняў і гандлёвыя шляхі. У якасці апорных пунктаў унутраннай каланізацыі выступалі і кляштары.

У пэўных выпадках унутраная каланізацыя прыводзіла да інтэнсіўнага

шляху развіцця сельскай гаспадаркі. Гэта адбывалася, напрыклад, за кошт больш рацыянальнага выкарыстання альменды ці праз уведзенне ў гаспадарчы абарот зямель, раней непрыгодных для ўраблянbackside (адхоны гор і халмоў, балоты). Інтэнсіўны шлях развіцця быў таксама звязаны з прагрэсам аграрных тэхналогій, якія развіваўся на ўласным падмурку, без уплыву антычнай спадчыны (шматразовае ўзорванне, новая сістэма запрэжкі, плуг з атвалам). З‘явілася трохполле. Але гэтая сістэма пакуль яшчэ не раскрыла свой патэнцыял цалкам. Двухполле давала два сярэдніх ураджаі за тры гады, трохполле – адзін вельмі добры за гэты ж тэрмін.

**Феадальная ўласнасць.** Праца ў аграрным сектары эканомікі мела патрэбу ў пэўных сродках вытворчасці. У першую чаргу гэта былі зямля, жывёла, адпаведныя прылады працы, запасы, сродкі транспарту, млыны, прэсы і г. д. Менавіта адносна гэтых сродкаў вытворчасці вытворцу трэба было рэалізоўваць свае правы ўласнасці, г. зн. , па-першае, магчымасць валодаць, карыстацца і распараджацца чымсьці, па-другое, магчымасць не дапусціць, каб хтосьці іншы валодаў, карыстаўся і распараджаўся дадзенай уласнасцю.

Феадальная зямельная ўласнасць сялян заключалася ў поўных правах на жывы і мёртвы інвертар і абмежаваную ўласнасць на зямельны надзел, за які яны плацілі аброк і адпрацоўвалі паншчыну. Фактычна надзел знаходзіўся ў спадчыннай уласнасці сялян, але юрыдычна гэта не было замацавана. Меркаванне аб тым, што зямля  была ў фактычнай спадчыннай уласнасці сялян, заснавана на надзвычайна нізкай частаце згадак пра канфіскацыі сялянскіх надзелаў іх феадаламі. Разам з тым некаторые катэгорыі сялянства мелі пэўныя юрыдычныя гарантыі – англійскія вясковыя і гарадскія землеўладальнікі, напрыклад *фрыгольдэры*. Практычна поўны набор уладальніцкіх праў быў у англійскіх сялян-аладыстаў (*ёменаў*) і скандынаўскіх свабодных абшчыннікаў *бондаў*.

Фарміраванне феадальнай уласнасці высакароднага саслоў’я было звязана з трансфармацыяй бенефіцыю ў феод (фьеф, лен), якая завяршылася ў X – XI ст. Вонкавай адзнакай гэтага служыць сінанімічнае ўзаемазаменяемае  выкарыстанне абодвух тэрмінаў у дакументах X ст. і перавага тэрміна “феод” у больш позні час. У адрозненне ад бенефіцыю перадача феода ў спадчыну не падвяргалася сумненням.

Асоба, якая давала феод, называлася *сеньёрам* (ці *сюзерэнам*), асоба, якая атрымлівала феод, называлася *васалам*. Інвестытура, г. зн. цырымонія перадачы феода васалу, суправаджвалася *фуа*, прысягай у асабістай вернасці, і *амажам*, калі васал, на адным калене, без зброі, з непакрытай галавой, укладваў свае далоні, зведзеныя разам, у рукі сеньёра і прасіў пры гэтым лічыць яго сваім чалавекам.

Такім чынам феод быў звязаны з двумя цэнтрамі, адкуль зыходзілі правы ўласнасці. Сеньёр меў права распараджацца зямлёю (dominium directum), васал

меў права карыстацца ёю (dominium utile). Адначасова ён адказваў за захаванасць гаспадаркі феода.

Абмежаванне ўладальніцкіх праў васала на атрыманы ім феод было звязана з магчымасцю яго перадачы ў спадчыну. Пры гэтым дзейнічалі наступныя перашкоды. Па-першае, правіла года і аднаго дня для прынясення прысягі за феод або новым васалам, альбо новаму сеньёру. Па-другое, прынцып недзялімасці, рэалізаваны ў праве маярату (ад лац. major – старэйшы). У апошнім выпадку феод, ці, як варыянт, 2/3 яго часткі мог атрымаць толькі старэйшы сын васала пры ўмове прынясення амажу і выплаты *рэльефу* (relivium, relief, rachat) – выкупа за спадчыну. Памеры апошняга вызначаліся сеньёрам, што, у выпадку яго значнага павышэння,  дазваляе аднесці яго да ліку пэўных перашкод. Калі ж не меў спадчыннікаў, то феод разглядаўся як вымарачаны і вяртаўся да сеньора.

Бліжэйшым наступствам развіцця феадальных адносін стала суб'інфеадацыя, г. зн. перадача васалам часткі атрыманага феода больш дробнаму васалу ў якасці лена, што прывадзіла да фарміравання іерархічнай сістэмы паслядоўнага панавання-падпарадкавання, якая ахоплівала ўсю высакародную частку грамадства.

Феадальная царкоўная ўласнасць шмат у чым нагадвала ўласнасць высакароднага саслоў' я. Часта прэлаты трымалі цалкам свецкія лены ад магнатаў ці каралёў. Асаблівасцю касцёльнай зямельнай уласнасці была яе здольнасць да канцэнтрацыі – землі належалі не асобнаму чалавеку, а катэдры (сабору, кляштару). Аднак і ўладальніцкія правы касцёла на зямлю не былі неабмежаванымі. Каралі, напрыклад, не вельмі пасяшалі даваць санкцыю на замяшчэнне вакансій у царкоўнай іерархіі, у выніку чаго прыбыткі з касцёльных зямель пэўны час паступалі ў казну.

**Даменіяльная гаспадарка.** Даменіяльная сістэма гаспадарання панавала ў аграрным сектары эканомікі ў Х – ХІІІ ст. Пры гэтым панская зямля (дамен) займала большую частку маёнтка, а сервільныя надзелы – меншую. Маёнтак фактычна паглынаў вёску. Базавалася даменіяльная гаспадарка на выкарыстанні матэрыяльных рэсурсаў сялянскай гаспадаркі. Сяляне працавалі на панскіх палях з уласным інвентаром і рабочай жывёлай. Пры гэтым аб'яднання працы непасрэдных вытворцаў не адбывалася. Кожны селянін выконваў свой урок. Выключэнне складалі часы ворыва і ўборкі ўраджаю, калі сяляне працавалі на пана талакой. Гаспадарчыя праблемы маёнтка рашалі аканомы праз вельмі дэталёвую фіксацыю і рэгламентацыю павіннасцей.

**Гарадскі сектар эканомікі.** Працэс феадальнай урбанізацыі, які пачаўся ў Х–ХІІІ ст. актыўна працягваўся да 90-х гадоў ХІІІ ст., калі толькі за дзесяцігоддзе было заснавана больш 200 новых гарадоў, пасля чаго рэзка пайшоў на спад.

Аснову гарадской эканомікі складала таварная гаспадарка, заснаваная на асабістай працы непасрэдных вытворцаў. Эканамічная дзейнасць гараджан, яе

вытворчая (рамеснікі), гандлёвая (купцы) і абслуговая (юрысты, урачы, шынкары) сферы былі арганізаваны па карпаратыўным прынцыпе. Карпарацыя (ад лац. corporatia – аб‘яднанне) у кантэксце заходнееўрапейскага сярэдневякоўя азначае замкнута-манапольную супольнасць з фіксаванымі правамі і абавязкамі, структурай і ўнутранай іерархіей, грамадскім статусам, які быў замацаваны ў законах ці традыцыях. Гэта была не толькі вытворчая адзінка, але адначасова і стыль жыцця (прычым адзіны магчымы) і сацыяльнае асяроддзе.

Карпаратыўны прынцып арганізацыі эканомікі быў механізмам рэгулявання вытворчасці ва ўмовах надзвычайна вузкага спажывецкага рынку, калі звязка попыт-прапанова яшчэ не працавала. Рамесныя цэхі кантралявалі аб‘ёмы вытворчасці і збыту, сачылі за якасцю вырабаў, вызначалі мінімальна неабходны адукацыйны і прафесійны ўзровень падрыхтоўкі. Паступовае пашырэнне спажывецкага рынку не выклікала істотных змяненняў у арганізацыі вытворчасці – проста вылучаліся новыя спецыялізацыі. Напрыклад, вытворчасць цецівы для лукаў была асобнай галіной.

Эканамічная прырода горада была дваістай. З аднаго боку, рамеснік як вытворца тавараў і ўладальнік асноўных сродкаў вытворчасці на правах прыватнай уласнасці, а таксама гандляр, які дзейнічаў на ўласны страх і рызыку, у эканамічным плане ад сеньёра не залежалі. Але з другога боку горад, як правіла, стаяў на зямлі сеньёра, апошні мог быць і яго фундатарам, што ставіла гараджан у васальную залежнасць. Аброк пры гэтым яны плацілі сваімі вырабамі. У кішэню сеньёра паступалі і розныя зборы – мытныя, судовыя.

Эканамічная самастойнасць і нізкі сацыяльна-палітычны статус гараджан падштурхнулі іх да барацьбы супраць васальнай залежнасці. Гэтая барацьба вядома ў гісторыі пад назвай *камунальны рух*. *Камуна* (ад лац. communus грамада) азначае не толькі арганізацыю мясцовага самакіравання, але і аб‘яднанне гараджан для барацьбы супраць сеньёраў.

Шмат якія гарады здолелі перамагчы ў гэтай барацьбе і амаль цалкам вызваліліся з-пад улады сеньёраў. За апошнімі захавалася толькі права на атрыманне фіксаваных выплат і на скліканне ў пэўных выпадках гарадскога апалчэння. Гарады Фландрыі, Паўночнай Італіі і імперскія гарады Свяшчэннай Рымскай імперыі фактычна ператварыліся ў сапраўдныя незалежныя дзяржавы.

**Гандаль.** Сярэдневяковы заходнееўрапейскі гандаль меў развазны характар, калі сувязь паміж асобнымі кірмашамі ажыццяўлялася пры дапамозе караванаў. Значнымі перашкодамі на шляху развіцця гандлёвых сувязяў паміж рознымі рэгіёнамі стала, у першую чаргу, палітычная раздробленасць, якая прывяла да фарміравання вельмі складанай і шкоднай для купецкай справы сістэмы мытных збораў – маставыя (pontaticum), брамныя (portaticum), з колаў (rotaticum), са статкаў (pulveraticum) і інш.

Не меньшай праблемай была неразвітасць манетнай сістэмы (амаль усё

сярэдневякоўя ажыццяўляліся эмісіі сярэбраных манет; першая залатая манета, фларын, з’явілася ў Фларэнцыі ў 1252 г.) і фінансавых інструментаў. Да ліку апошніх адносіліся жыро (аперацыя перапіскі з аднаго рахунка на іншы па ўказанні кліентаў) і вядомыя з XIII ст. просты і пераваднып вэксалі. У першым выпадку атрымальнік грошай (*трасант*) асабіста браў грошы ў крэдытора (*рэмітэнта*) і асабіста аддаваў, у другім прысутнічалі два важныя дадаткі – вяртанне грошай мог зрабіць іншы чалавек (*трасат*) у іншым горадзе.

**Эканамічныя погляды Фамы Аквінскага.** Эканамічныя погляды аднаго з галоўных заходнееўрапейскіх ідэолагаў высокага сярэдневякоўя Фамы Аквінскага (1227–1274) можна прааналізаваць па наступных кірунках: гарадская гаспадарка, праблема прыбытку, матывацыя да плённай працы.

Горад разглядаецца ў якасці самай дасканалай грамадскай формы. Жыць у горадзе для чалавека прыродная і неабходная справа, таму што чалавек ад прыроды гарадское стварэнне (sequitur, quod homo sit animal naturaliter civile). Прычым найлепшым горадам, на думку Аквіната, з‘яўляецца той, што знаходзіцца на ўрадлівых глебах і можа цалкам забяспечыць сябе ўсім неабходным, што набывае асаблівае значэнне падчас вайны. Разам з тым ідэальнае месца для размяшчэння горада адшукаць практычна немагчыма, што вымушае Фаму прызнаць неабходнасць гандлю для развіцця горада – пастаўка неабходных прадуктаў і вываз зробленага звыш патрэбы. Гандаль пры гэтым павінен засноўвацца на чэсным кошце (justum pretium), які звязаны з рэччу і не залежыць ад волі прадаўца (у дадзеным выпадку непасрэднага вытворцы) ці пакупніка. Зыходзячы з таго, што апошнія імкнуцца да яго скажэння, кошт мусіць усталёўвацца дзяржавай, гарадскімі ўладамі або цэхам.

Што тычыцца праблемы прыбытку, атрыманага купцамі-пасрэднікамі, то для яе ўрэгулявання неабходны механізм самаабмежавання: “Нічога не замінае накіроўваць прыбыткі для нейкай неабходнай мэты ці нават высакароднай, і, такім чынам, гандаль стане дазволеным. Так бывае, калі хтосьці накіроўвае ўмераны прыбытак, які атрымлівае, занімаючыся гандлем, на ўтрыманне свайго дома ці на дапамогу тым, хто мае ў гэтым патрэбу; альбо калі хтосьці займаецца гандлем на карысць грамадства, а менавіта для таго, каб айчызна не заставалася без неабходных для жыцця рэчаў, і імкнуцца да прыбытку не як да самамэты, але як да аплаты за працу (et lucrum expetit non quasi finem set quasi stipendium laboris)”.

Падобнае самаабмежаванне характэрна для эканамічных поглядаў Фамы Аквінскага і пры вызначэнні мэты працы. Прычым трэба вызнаць, што матывацыя да плённай працы была мінімальнай. Аквінат пісаў: “Праца мае чатыры мэты. Перш за ўсё і галоўным чынам яна павінна даць харчаванне; па-другое, павінна выгнаць гультайства, крыніцу шмат якіх бед; па-трэцяе, павінна ўтаймоўваць юр, забіваючы цела; пачацвёртае, яна дазваляе рабіць міласціну”.

Атрыманы падчас эканамічнай дзейнасці сукупны грамадскі прадукт дзеліцца на дзве часткі: неабходны, які накіроўваўся на простае ўзнаўленне, і дадатковы, які накіроўваўся на пашыранае ўзнаўленне. У канкрэтных умовах заходнееўрапейскага сярэдневякоўя простае ўзнаўленне набыло форму падтрымкі вызначанага сацыяльнага статусу. Сацыяльны статус феадала падтрымліваўся войнамі, банкетамі, будаваннем палацаў і замкаў, што прыводзіла да амярцвлення велізарных сродкаў. У выніку на патрэбы пашыранага ўзнаўлення выпадала мізэрная частка сукупнага грамадскага прадукта, і то ў асноўным пад уплывам дэмаграфічных фактараў.

Нязначнае пашыранае ўзнаўленне магло забяспечыць існаванне толькі параўнальна невялікіх і кампактных гаспадарчых комплексаў. Усё гэта разам з неразвітай сістэмай камунікацый, вузкім спажывецкім рынкам для вырабаў гарадскіх рамеснікаў, кансалідацыяй юрысдыкцыі, у тым ліку і вышэйшай, на мясцовым узроўні прывяло эканамічнай аўтаркіі маёнткаў.

**Сацыяльная структура.** Аўтары часоў высокага сярэдневякоўя ў сваіх творах зафіксавалі тры асноўныя групы ў складзе сацыяльнай структуры грамадства. Кароль Англіі Альфрэд Вялікі лічыў, што грамадства складаецца з вайскоўцаў (fyrdmen), клірыкаў (jebedmen), працоўных (weorcmen). Такую ж думку выказвалі паўночнафранцузскія аўтары XI ст. Жэрар, епіскап Камбрэ і Адальберон, епіскап Лана. У пачатку XII ст. вядомы тэолаг Ганорый Аўгустадунскі заўважыў, што працоўныя дзеляцца на дзве групы: сялян і гараджан.

**Свецкае высакароднае саслоўʻе.** Галоўнай адзнакай высакароднасці служыў *лінеаж* (радавод па мужчынскай лініі). Неабходным мінімумам для таго, каб лічыцца высакародным чалавекам была наяўнасць чатырох асабіста свабодных продкаў. Толькі пры гэтай умове можна было атрымаць рыцарскае званне. Імунныя правы ўсё больш пашыраліся і замацоўваліся ў законах. Буйныя і сярэднія землеўладальнікі атрымалі права *бана* (вышэйшай юрысдыкцыі) ў межах сваіх уладанняў, пасля чаго завялі турмы, дзе катавалі і каралі смерцю сваіх падданых. У выніку *субʻінфеадацыі* сфарміравалася лесвіца паслядоўнага падпарадкавання феодаў, з якой у пэўнай ступені супадала іерахічная лесвіца сеньёраў і васалаў.

З X ст. ідзе хуткі працэс кансалідацыі свецкага высакароднага саслоўʻя. Яго вонкавым выяўленнем стае практыка перадачы ў спадчыну дзецям тытулаў нават тады, калі яны не атрымлівалі зямлю (у тытул уключалася назва родавых уладанняў). Была ўпарадкавана практыка пасвячэння ў рыцары: з XII ст. гэта маглі рабіць толькі кароль ці яго прамы васал, з XIII ст. – толькі кароль. У той жа час аднолькавай для ўсіх заходнееўрапейскіх краін мадэлі феадальнай іерархіі не было. Кожная дзяржава ці рэгіён, акрамя агульных рыс (адносін панавання – падпарадкавання, заснаваных на асабістай і пазямельнай залежнасці) мела

ўласныя асаблівасці. У германскі “парадак шчытоў” (Heershildordung), што складаўся з сямі рангаў, уваходзілі вышэйшыя царкоўныя іерархі і невысакародныя свабодныя людзі, якія нарадзіліся ў законным шлюбе, г. зн. лінеаж быў неабавязковым, як і ў Англіі, дзе наданне звання рыцара звязвалася з маёмасным цэнзам. У той жа Англіі пасля нармандскага заваявання ўсе свабодныя грамадзяне далі прысягу на вернасць каралю і сталі такім чынам яго прамымі васаламі. У Францыі, згодна з традыцыйнай нормай “васал майго васала – не мой васал”, арʻервасал (васал другой рукі) мог не падпарадкоўвацца сеньору свайго сеньёра, што было відавочным разрывам у ланцугу панавання-падпарадкавання. Вельмі своеасаблівы характар мела феадальная іерархія ў хрысціянскіх каралеўствах Пірэнейскага паўвострава і ў Скандынаўскіх краінах.

Сістэма панавання-падпарадкавання не была зарыянтавана на жорсткую ўладу сеньёра. Васал за атрыманы феод павінен быў выконваць для свайго сеньёра вайсковую службу (ў сярэднім 40 дзён у год), засядаць у яго судовай курыі, ў вызначаных выпадках дапамагаць грашыма (aid, auxilium) – калі яго старэйшы сын пасвячаўся ў рыцары, калі ў першы раз выходзіла замуж яго старэйшая дачка, калі трэба было выкупіць сеньёра з палону, на крыжовы паход. Адначасова сеньёр павінен быў абараняць свайго васала. Калі ж апошні вырашаў, што сеньор выконвае свае задачы без належнага імпэту, то мог выступіць супраць яго са зброяй у руках.

У ролі васалаў і сеньёраў выступалі таксама і манархі. Каралі Англіі давалі амаж каралям Францыі за шэраг сваіх уладанняў на кантыненце, што ў пэўнай ступені абмяжоўвала іх самастойнасць у гэтым рэгіёне. Каралі Партугаліі вызналі сябе васаламі папы рымскага, што давала ім гарантыі ў барацьбе з экспансіяністскімі імкненнямі суседней Кастыліі. Французскія каралі праз асобых упаўнаважаных чыноўнікаў давалі амаж за пэўныя землі французскім магнатам.

У XII ст. у краінах Заходняй Еўропы, за выключэннем дзяржаў Паўночнай Італіі, пашырылася права маярату. У выніку сярэднія і малодшыя сыны феадалаў пачыналі фарміраваць шматлікі слой рыцарства, пазбаўленага сродкаў для існавання, прычым усіх іх паглынуць світы магнатаў былі проста няздольныя. У гэтых варунках ролю сацыяльнага рэгулятара, своеасаблівай помпы, адыграла феадальная экспансія, накіраваная на пошук вайсковай здабычы і зямлі як у самой Еўропе (нармандскае ўварванне ў Англію), так і за яе межамі (крыжовыя паходы).

**Клірыкі.** Каталіцкая царква мела сваю структуру, якая не супадала са свецкай. Яе складала паслядоўнасць царкоўных пасад, заснаваная на хіратаніі: іпадыякан, дыякан, ксёндз, епіскап, кардынал, папа. Паслядоўнасці зямельных уладанняў у гэтым выпадку не было. Не было ў царкоўнай іерархіі і афіцыйнага лінеажу. Канешне, папам рымскім прасцей было стаць чалавеку высакароднаму, але былі пантыфікі і сялянскага паходжання (Адрыян IV) і дзеці рамеснікаў (Грыгорый VII). У той жа час прэлаты маглі браць лены ад свецкіх магнатаў і

манархаў, выконваць вайсковую службу, што збліжала іх са свецкім высакародным саслоў‘ем.

**Сяляне.** Заходнееўрапейскае сялянства распадалася на катэгорыі, якія адрозніваліся адна ад адной аб‘ёмам феадальных павіннасцей. Адпаведна з памяншэннем гэтага аб‘ёму адбывалася павелічэнне ступені асабістай свабоды.

Найменшую свабоду мелі асабіста залежныя сяляне (французскія *сервы*, англійскія *віланы*, каталонскія *рэменсы*), якія выконвалі цяжкую паншчыну (2–4 дні на тыждзень), плацілі зневажальныя сервільныя падаці (у тым ліку і шлюбную), адвольныя падаткі (*талья*). Іх правы на надзел не абараняліся законам і сеньёр мог канфіскаваць апошні, праўда гэта здаралася вельмі рэдка. Асабіста залежныя сяляне складалі прыблізна 30–40 % вясковага насельніцтва.

Пазямельна залежныя сяляне складалі прыблізна 40–50 % вясковага насельніцтва. Яны выконвалі лёгкую паншчыну (паўрочную), плацілі натуральны, а потым грашовы аброк, мелі больш-менш гарантаваныя правы на свой надзел, не выконвалі сервільных павіннасцей.

Прыблізна 5–10 % складалі сяляне-перасяленцы (госпіты), якія праводзілі ўнутраную каланізацыю і выконвалі чыста намінальныя павіннасці. Не больш 5 % складалі сяляне-аладысты.

**Гараджане.** Паступова, па меры ўзнікнення гарадоў і іх вызвалення з-пад улады феадалаў, пачынае фарміравацца саслоў‘е бюргераў (ад нем. Burger – гараджанін). Бюргер меў поўны набор гарадскіх прывілегій: права на жыхарства, на ўдзел у гарадскім самакіраванні, на набыццё нерухомасці, на абарону з боку гарадскіх улад у выпадку неабходнасці і г. д. Бюргер быў абавязаны выконваць гарадское цягла і ўдзельнічаць у гарадскіх плацяжах.

Сацыяльная структура гарадскога насельніцтва не вельмі нагадвала феадальную – бюргеры не ўключаліся ў сістэму сеньярыяльна-васальных адносін. Але горад цалкам мог выступаць у якасці калектыўнага васала, што лагічна ўпісвала яго ў феадальнае грамадства.

**Феадальная раздробленасць.** Відавочным адлюстраваннем эканамічнай аўтаркіі, якая склалася ў Заходняй Еўропе ў часы ранняга сярэдневякоўя, і феадальнай іерархіі стала аўтаркія палітычная, вонкавым выяўленнем якой было распыленне палітычнай улады па шматлікіх перыферыйных цэнтрах уплыву і фарміраванне леннай дзяржавы.

Ленная дзяржава складалася з пэўнай колькасці самастойных ці амаль самастойных феадальных уладанняў, якія былі звязаны паміж сабой васальна-леннымі адносінамі і намінальнай уладай манарха. Кароль пры гэтым меў фактычна толькі сеньярыяльную ўладу. Дзяржаўная юрысдыкцыя замяняецца прыватнай. Базавай адзінкай дзяржаўнасці становіцца лен с замкам, асноўным зместам палітычнай гісторыі – шматлікія войны.

Распыленне палітычнай улады ў краінах Заходняй Еўропы адбывалася ў

розныя тэрміны і ў розных формах. Толькі ў другой палове XIII ст. акрэслілася дастаткова ўстойлівая тэндэнцыя, накіраваная на стварэнне цэнтралізаваных нацыянальных дзяржаў. З ею звязана фарміраванне новай палітычнай арганізацыі грамадства, калі на першы план выходзяць не сеньярыяльныя, а манархічныя паўнамоцтвы (кіраванне дзяржавай публічна-прававымі сродкамі) і фарміруецца агульнадзяржаўны апарат кіравання, у склад якога ўваходзяць вышэйшыя службовыя асобы (канцлер, казначэй, маршал) і каралеўская курыя (савет). У канцы XIII ст. пачалося фарміраванне саслоўна-прадстаўніцкіх устаноў (англійскі парламент). Картэсы, саслоўна-прадстаўніцкія ўстановы, вядомыя ў Пірэнейскіх краінах яшчэ з XII ст., былі выкліканы да жыцця форс-мажорнымі абставінамі Рэканкісты і таму не могуць разглядацца як пачатак агульнаеўрапейскай тэндэнцыі.

**Менталітэт.** Новым момантам у заходнееўрапейскай ментальнасці можна лічыць паступовую трансфармацыю зыходнай апазіцыі "свой–чужы" да большай варыятыўнасці. З аднаго боку працягваецца лінія на рэзкае процістаўленне хрысціянскага (каталіцкага) свету ўсім астатнім. Пры гэтым да складу другога элемента апазіцыі ўключаюцца не толькі мусульмане і яўрэі (супраць першых накіроўваліся крыжовыя паходы, па другіх наносіліся ўдары падчас пагромаў), але таксама заходнееўрапейцы-ерытыкі (Альбігойскія войны) і схізматыкі (праваслаўныя). Першы элемент арыентаваўся на ўнутраную кансалідацыю, усеахопнасць, універсалізм, уніфікацыю – агульны касцёл, агульная мова як для набажэнства, навукі, адукацыі (латынь), так і для большасці рыцарства (lingua franca), агульныя тэндэнцыі ў развіцці архітэктурна-мастацкіх стыляў.

Паралельным варыянтам рэалізацыі апазіцыі "свой–чужы" стае ўзнікненне арыентацыі на нацыянальную самасвядомасць, калі першы элемент звязваецца выключна з носьбітамі роднай мовы. Характэрным прыкладам у гэтым плане служыць аповесць Вернера Садоўніка "Селянін Гельмбрэхт" (XIII ст.). Сын селяніна Гельмбрэхта, таксама Гельмбрэхт, вярнуўся дамоў і вітаў дамачадцаў на розных мовах. Сястры сказаў: "Gratia vester!", маці: "Dobra ytra!", бацьку: "Deu sol!". Вынік быў наступным. Бацька сказаў: "Гэта раманец, хаця ён і падобны вельмі на майго сына, хай яму дапамагае Гасподзь, але гэта не ён… Калі ты сын мой, Гельмбрехт, то я прыйму цябе тады, калі ты скажаш слова па нашаму звычаю, падобна дзедам нашым, каб я мог цябе ўразумець".

Вызначальнай характарыстыкай адлюстравання сацыяльнага асяроддзя ў заходнееўрапейскай ментальнасці высокага сярэдневякоўя быў карпаратывізм. Чалавек у сацыяльным жыцці ніколі не выступаў асобна, індывідуальна. Нават яго прыватнае жыццё праходзіла "на вачах грамадскасці" – сярэдневякоўя не ведала ізаляваных пакояў.

Чалавек абавязкова ўваходзіў у склад пэўнай сацыяльнай групы, якая ў сваю чаргу належала да пэўнага ўзроўню іерархіі. Прыналежнасць да карпарацыі

вызначала правы і абавязкі чалавека перад грамадствам, якія ўспрымаліся як абавязкі перад Богам. Чалавек мог пераходзіць з адной групы ў другую (міжсаслоўная мабільнасць была не вельмі значнай, але была – чалавек мог стаць клірыкам, студэнтам, свецкім спецыялістам), селянін мог ператварыцца ў гараджаніна і наадварот. Нельга было зрабіць толькі адно – апынуцца па-за межамі карпарацыі наогул. Апошняе на практыцы азначала яго грамадзянскую смерць. У выніку, адной з базавых апазіцый ментальнасці можна вызначыць наступную: “карпарант-ізгой”.

Стрыжням, які звязваў у адно цэлае і сацыяльнае, і прыроднае асяроддзе, быў прынцып іерархізму. Іерархія пранізвала ўвесь сусвет: яго духоўную частку (свядомасць у апісанні схаластаў), прыродную частку (паслядоўнасць жывых істот ад расліны да анёла), сацыяльную арганізацыю (феадальная сістэма панавання-падпарадкавання). Адлюстраваннем іерархіі ў менталітэце стае апазіцыя “верх–ніз”, вонкавым выяўленнем якой служыць гатычны сабор.

Пры гэтым, аднак, неабходна ўлічваць, што ўплыў апазіцыі “верх–ніз” на ментальнасць быў варыяцыйным.

Як член карпарацыі чалавек быў членам іерархіі цалкам і тое, што тут адбывалася прама ці ўскосна, уплывала на яго жыццё. У выніку на яго пачыналі ціснуць і ўласныя грахі, і грахі карпарацыі, і грахі ўсёй іерархіі (салідарная адказнасць). Ціск дасягаў максімальнай адзнакі ў дачыненні да простага чалавека, якому за ўсё гэта трэба было адказваць на Страшным судзе!

Выхад, як уяўляецца, быў у выкупленні грахоў яшчэ да канца часоў, на працягу зямнога жыцця. Улічваючы, што прыходзілася выкупаць грахі практычна ўсяго хрысціянскага свету, трэба вызнаць, што чалавеку ў пэўным сэнсе прыходзіцца паўтарыць тое, што ў пачатку новай эры зрабіў Ісус Хрыстос. Знешнім выяўленнем дадзенага кірунку развіцця апазіцыі “верх–ніз” служаць яскравыя выбухі рэлігійнага энтузіазму, часам нават аж да фанатызму: крыжовыя паходы дзетак (1212), жабрацкія манаскія ордэны (францысканцы, 1223), рух лупцоўшчыкаў-флагелантаў (у Італіі ў сярэдзіне XIII ст., пазней у Германіі і Фландрыі).

Найбольш радыкальным варыянтам было фактычнае атаясамліванне сябе з Хрыстом. Пасля больш чым тысячагадовай гісторыі хрысціянства з’явіліся стыгматыкі – людзі, на целе якіх без бачных прычын узнікалі пяць ран, прычым у тых жа месцах, што і ў укрыжаванага Іісуса Хрыста. Першым стыгматыкам каталіцкі касцёл афіцыйна вызнае Францыска Асізскага, атрымаўшага стыгмы 14 верасня 1224 г. пасля 40-дзённага пасту.

Паралельны варыянт рэалізацыі апазіцыі “верх–ніз” у заходнееўрапейскім менталітэце прадстаўлен менш драматычнай мадэллю паводзін, зарыянтаванай на пераважную большасць насельніцтва. Гэтых людзей цалкам задавальнялі атрыманыя ад касцёльных ідэолагаў тлумачэнні пасмяротнага лёсу людзей.

Апошні момант адбіўся ў завяршэнні распрацоўкі агульнай карціны замагільнага свету і яе фіксацыі ў вельмі папулярным у свой час “Бачанні Тнугдала” (XII в.), вядомым у ірландскай, германскай, дацкай, французскай, англа-нармандскай і іспанскай версіях.

**Патойбаковы свет паводле бачання Тнугдала.** Герой бачання патойбаковага свету рыцар Тнугдал патрапляе на той свет не ў выніку хваробы, а раптоўна за сталом, знаходзячыся ў доме сябра. Гэта адбылося па божаскім наканаванні, каб папярэдзіць дрэнны ўчынак рыцара ў адносінах да свайго знаёмага. Шлях назад зачынены: душа, якая выйшла з цела, стаіць над ім і ўвайсці назад не можа. Разгубленая, яна бачыць увесь горад з плошчамі і вуліцамі напоўненымі нячыстымі духамі. Адзін з духаў выявіўся блізкім знаёмым Тнугдала, але ён яго ніколі дагэтуль не бачыў, хоць і следаваў яго парадам. Побач з Тнугдалам у жыцці быў і анёл, якога візіянер таксама ніколі не бачыў і не чуў.

Такім чынам сувязь патойбаковага свету з рэчаіснасцю не яўная (не ведаў, але следаваў). Адначасовае ж існаванне злога і добрага духаў сведчыць, як можна дапусціць, вонкавым выяўленням апазіцыйнасці замагільнага свету.

Знаходжанне сярод злых духаў стварае вельмі моцны адмоўны эмацыйны фон, які знімаецца з‘яўленнем добрага анёла. Апошгні, аднак, робіць Тнугдалу заўвагу, што яго пакуты будуць складаць вельмі маленькую частку ад заслужанага ім.

Пакінуўшы гэтае месца, яны доўга ішлі ў цемры і патрапілі ў даліну вельмі значных памераў. Тут усё было ў пастаянным руху – душы спускаліся, звальваліся, падсмжваліся, растапляліся, праліваліся, вярталіся. Гэта месца для першага пакарання бацька-, брата- і чалавеказабойцаў. Потым іх чакаюць яшчэ больш жудасныя пакуты.

Наступнае месца звязана з пакараннем інтрыганаў і вераломных. У кантраст глыбокай даліне тут Тнугдал бачыць вялізную гару, якая падзяляецца сцежкай на дзве часткі – з аднаго боку снег і вецер з градам, з другога – геена вогненная. Душы грэшнікаў пакутавалі спачатку ў халодным месцы, а потым злыя духі перакідвалі іх на процілеглы бок.

У наступным сектары Тнугдал зноў патрапляе ў глыбокую даліну, унізе якой цячэ рака. Праз раку перакінута вельмі доўгая (тысяча крокаў) і вузкая (адна стапа) дошка. Прайсці па ёй здолелі толькі святары, якія неслі пальму як сімвал паломніцтва ў святыя мясціны.

Пазней Тнугдал павінен быў пераадолець яшчэ адну перашкоду – утыканы жалезнымі шыпамі мост у дзве тысячы крокаў у даўжыню і адну далоню ў шырыню. Пад ім было возера з жахлівымі жывёламі, што пажыралі душы. У свой час Тнугдал скраў карову і цяпер, каб пазбавіцца ад гэтага граху, мусіў прайсці праз мост з каровай і двума душамі на сваіх плячах. Праз гэта выпрабаванне ён ачышчаецца ад граху і атрымлівае добры шанс патрапіць у рай

пасля сваёй сапраўднай смерці.

У наступным візіянер праходзіць яшчэ некалькі сектараў, дзе прыблізна аднолькавыя па цяжкасці пакуты церпяць рознага кшталту грэшнікі – ганарлівыя, сквапныя, злодзеі, рабаўнікі, ненажэры, юрліўцы і іншыя.

Для Тнугдала гэтыя месцы свайго роду чысцілішча, прайшоўшы праз якое, ён патрапіў у далейшым сваім вандраванні ў райскія мясціны. Але гэта толькі для Тнугдала і таго, хто яго слухае. Унутраная логіка размяшчэння гэтых мясцін пабудавана па прынцыпе ізаляваных сектараў, паміж якімі знаходзіцца цемра, і ўзмацненне пакут пры пераходзе ад сектара да сектара. Канчатковым пунктам можа стаць толькі месца найбольшых пакут, адкуль няма выйсця.

Нарэшце Тнугдал дасягае і гэтага месца – “браму пякельную”, дзе ён бачыць пакутуючага Люцыфера.

Сярод насельнікаў гэтага сектара, акрамя самога гаспадара, прысутнічаюць духі цемры і слугі Сатаны, тыя сыны Адама, якія не вызналі Хрыста ці не верылі ў Бога, прэлаты і магутныя ўладары свету, якія лічылі, што іх улада не ад бога, сябры і знаёмыя рыцара.

Пасля пекла Тнугадл патрапляе ў месцы для пакарання і адпачынку не вельмі добрых і не вельмі кепскіх, дзе сустракае трох ірландскіх каралёў – Кантабера, Даната і Кормарка. Апошні з іх знаходзіўся на троне ў вельмі цудоўным упрыгожаным будынку.

У наступным Тнугдал па нарастаючай праходзіць шэраг сектараў райскай часткі замагільнага свету – сярэбраны горад, дзе атрымліваюць асалоду праведныя свецкія людзі; залаты горад, месцазнаходжанне пакутнікаў, аскетаў, манахаў, інакінь. Тут Тнугдал бачыць дрэва, якое ўвасабляе святую царкву. Завяршаецца падарожжа сустрэчай рыцара са святым Патрыкам і вялікай колькасцю епіскапаў у горадзе з каштоўных камянёў.

Пасля вяртання душы ў цела Тнугдал карэным чынам мяняе свой лад жыцця і раздае сваю маёмасць жабракам.

Як уяўляецца, “Бачанне Тнугдала” дазваляе выйсці на лагічнае завяршэнне высноў, якія былі зроблены на матэрыяле раннесярэдневяковых бачанняў.

Па-першае, тут прысутнічае далейшая дэталізацыя сектараў па двух кірунках – якасным (катаванне паасобку пэўных груп грэшнікаў) і колькасным (ад лёгкіх да больш цяжкіх). Раней акцэнт рабіўся на другім кірунку.

Па-другое, больш паслядоўна праводзіцца processing проціпастаўленне пякельнага і райскага аддзелаў замагільнага свету. Першы з іх уяўляе сабой стракатую хаатычную сумесь асобных элементаў звыклага чалавеку ландшафту, што ўвасабляе прыроднае асяроддзе людзей. Другі рэпрэзэнтаваны гарадамі, прыгажосць якіх нарастае па меры руху ўверх. Тут можна бачыць увасабленне ўпарадкаванай часткі прыроднага асяроддзя, што стварае камфортныя ўмовы да наступнага жыцця чалавека пасля цялеснай смерці.

Па-трэцяе, узрастае актыўнасць візіянера. Ён ужо не толькі з’яўляецца назіральнікам ці пасрэдніцкім звяном, але і актыўным удзельнікам падзей унутранага жыцця пекла. Прынамсі, Тнугдал дзеля выкуплення ўласнай правіны асабіста праходзіць па мосцеу.

Нарэшце, візіянер наведвае полюсныя сектары замагільнага свету. У выніку ў “Бачанні Тнугдала” ўпершыню за гісторыю жанра сярэдневяковых бачанняў з‘ яўляецца партрэтная замалёўка Люцыфера.

## § 11. Узнікненне і рост сярэдневяковых гарадоў

XI стагоддзе – час, калі ў большасці краін Заходняй Еўропы ў асноўным склаліся гарады. У сярэдневякоўі горад быў носьбітам дынамічнага пачатку. Горад садзейнічаў росквіту феадалізму, выяўленню ўсіх яго магчымасцяў, ён жа апынуўся ля вытокаў яго распаду. У сацыяльна-эканамічных адносінах горад быў цэнтрам таварных промыслаў і рамяства, наёмнай працы, тАварнага абмену і грашовых аперацый, унутраных і знешніх сувязяў. Жыхары былі ў асноўным асабіста свабоднымі. У горадзе размяшчаліся рэзідэнцыі каралёў, епіскапаў і іншых асоб. Тут жа знаходзіліся цэнтры адміністрацыйнай, фіскальнай, ваеннай службы, цэнтры епархій, саборы і манастыры, школы і ўніверсітэты. Па сацыяльнай сутнасці гэта быў феадальны горад. Аднак развіты феадальны горад узнік не адразу, ён меў сваю працяглую перадгісторыю.

**Развіццё гарадскога жыцця ў раннім сярэдневякоўі.** У раннім сярэдневякоўі яшчэ не існавала развітой гарадской сістэмы. Аднак гарады ўжо былі. Гэты былі перш за ўсё ацалелыя ад варварскіх уварванняў заходнерымскія гарады, у рознай ступені спустошаныя і разбураныя Мілан, Фларэнцыя, Балонья, Неапаль, Парыж, Кёльн, Майнц, Страсбург, Аўгсбург, Вена, Лондан, Йорк, Трыр і інш. Многія з іх страцілі сваё былое значэнне гандлёва-рамесных цэнтраў і служылі рэзідэнцыямі епіскапаў, каралёў і свецкай знаці. У Візантыі, Італіі і арабскай Іспаніі гарады працягвалі адыгрываць ролю цэнтраў гандалю, у прыватнасці з краінамі ўсходу. На большай жа частцы Еўропы, дзе не было антычных традыцый, існавалі асобныя гарадскія ачагі і нешматлікія раннія гарады, пасяленні гарадскога тыпу былі рэдкія , малалюдныя і не мелі істотнага эканамічнага значэння.

**Аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі**. Асноўным фактарам развіцця сярэдневяковых гарадоў стаў далейшы рост вытворчых сіл, якія раней за ўсё праявіўся ў аграрнай галіне.

Са шматлікіх існуючых крыніц X–XI ст. вядома, што рамяство шырока было распаўсюджана ў сялянскім асяроддзі. Большая частка сялянскіх сем’яў уласнай працай задавальняла свае патрэбы ў рамесных вырабах: вопратцы, абутку, зброі, пабудовах. Некаторыя сяляне выплачвалі аброк сеньёру не толькі сельскагаспадарчымі, але і рамеснымі, часцей за ўсё тэкстыльнымі вырабамі.

Такім чынам, сялянская сям’я самастойна выраблялa ўсе сельскагаспадарчыя прадукты і бытавыя прылады не толькі для ўласнага ўжывання, але і для выплаты аброку феадалу. Гэтае спалучэнне сельскай працы з рамяством з’явілася характэрнай рысай натуральнай гаспадаркі.

Існаваў у той час і абмен прадуктаў, але ён быў нязначны і не закранаў сутнасці самой вытворчасці. Таварная вытворчасць, ці вытворчасць прадуктаў, што былі спецыяльна разлічаны на продаж, амаль што не было развіта. У абмен на прывазныя купцамі тавары пастулала толькі нязначная частка прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі.

Да X–XI ст. у гаспадарчым жыцці Еўропы адбыліся важныя змены, якія паспрыялі аддзяленню рамяства ад сельскай гаспадаркі. Перш за ўсе гэтыя змены ўвасобіліся ў далейшым развіцці земляробства і жывёлагадоўлі. З удасканаленнем прылад і спосабаў апрацоўкі глебы, асабліва з шырокім распаўсюджваннем жалезнага плуга, а таксама двух- і трохполля, адбыўся значны рост прадукцыйнасці працы ў сельскай гаспадарцы. Павялічыліся плошчы апрацаванай глебы, расчышчаліся лясы, распрацоўваліўся новыя зямельныя масівы. У выніку гэтых змен у сельскай гаспадарцы павялічылася колькасць і разнастайнасць сельскагаспадарчых прадуктаў, скараціўся час для іх вытворчасці. Дзякуючы гэтаму сялянская сям'я атрымала магчымасць надаваць больш часу заняткам рамёствамі. З цягам часу вытворчасць рамесных вырабаў пачынае ўсё больш і больш пераўтварацца ў асаблівую сферу працоўнай дзейнасці, якая адрозніваецца ад сельскагаспадарчай. Трэба звярнуць увагу і на тое, што да гэтага часу ў выніку росту вытворчых сіл у перыяд ранняга сярэдневякоўя (што выразілася ў паступовых зменах і развіцці тэхнікі, навыкаў рамеснай працы, у прыкметнай дыферэнцыяцыі рамяства і г. д.) значна ўдасканальваліся асобныя віды рамёстваў, напрыклад здабыча, плаўка і апрацоўка металу – перш за ўсё кавальская і зброевая справа, выраб тканін, асабліва сукна. Такім чынам, сярод сялян пачынае ўзрастаць колькасць рамеснікаў-спецыялістаў, што пачалі ўжо выплачваць сваймy сеньёру ўсю рэнту вырабамі пэўнага віду рамяства. Такія рамеснікі паступова пачынаюць абслугоўваць і сваіх аднавяскоўцаў.

Такім чынам, у сельскай абшчыне з'яўляюцца прадстаўнікі розных спецыяльнасцей. Яны ўсё яшчэ сяляне, але сельская гаспадарка ўжо не адыгрывае пераважную ролю ў іх існаванні.

Для далейшага падзелу рамёстваў на новыя галіны, удасканалення тэхнікі вытворчасці і навыкаў працы патрабавалася далейшая спецыялізацыя рамесніка. Але такая спецыялізацыя была несумяшчальнай з тым становішчам, у якім знаходзіўся селянін: ён самастойна вёў сваю гаспадарку і аданачасова працаваў і як земляроб, і як рамеснік. Неабходна было пераўтварэнне рамяства з дапаможнай гаспадаркі пры земляробстве ў самастойную галіну гаспадаркі і канцэнтрацыя яго ў асобых цэнтрах.

Гэта адзін бок працэсу, які падрыхтаваў аддзялене рамяства ад сельскай гаспадаркі.

Другі бок працэсу – далейшы рост вытворчых сіл у аграрнай галіне (гэта было адзначана вышэй), што ў значнай ступені вызваліла селяніна ад неабходнасці вырабляць усе рамесныя прылады ў яго гаспадарцы.

Але да таго часу пакуль рамеснік заставаўся ў вёсцы пад уладай феадала, ва ўмовах пастаянна мацнеючай эксплуатацыі ён, вядома, не мог у поўнай ступені развіць сваю вытворчасць. Феадальны прымус рабіў перашкаджаў самастойнаму развіццю рамёстваў. Акрамя таго, у вёсцы высокая кваліфікацыя рамесніка не знаходзіла дастатковага выкарыстання, таму што на яго рамесныя вырабы там не было дастатковага попыту. Рынак збыту рамесных вырабаў быў вельмі вузкі. Таму рамеснікі, што вылучыліся з агульнай масы сельскага насельніцтва, імкнуліся выйсці з-пад улады сваіх паноў, імкнуліся збегчы ў такія месцы, дзе яны здолелі б знайсці больш спрыяльныя ўмовы для самастойнай працы і збыту сваёй прадукцыі, для вядзення самастойнай гаспадаркі, дзе яны змаглі б вызваліцца ад сеньёрыяльнага прыгнёту.

Неабходна адзначыць, што разам з рамеснікамі з вёсак уцякалі і сяляне-земляробы. Чым жа былі выкліканы ўцёкі гэтай катэгорыі сельскага насельніцтва? Канчатковым запрыгоньваннем і цяжкім сеньёрыяльным прыгнётам. Неабходна звярнуць увагу на той факт, што ўцёкі сялян з вёскі з’яўляліся адначасова і выказваннем іх супраціўлення ўзмацненню феадальнага прыгнёту.

Да таго моманту, калі пачаліся ўцёкі феадальна-залежных сялян з сельскай мясцовасці, рамяство ад сельскай гаспадаркі аддзялялася толькі ў рамках сельскай абшчыны. Аднак у сувязі з уцёкамі гэты працэс аддзялення выходзіць за межы сельскай абшчыны і пачынае развівацца ў рамках усяго грамадства. Намячаецца грамадскі падзел працы.

Разам з азначанымі вышэй гаспадарчымі перадумовамі на рубяжы І і ІІ тысячагоддзяў з'явіліся важныя сацыяльныя і палітычныя перадумовы складвання спецыялізаванага рамяства і сярэдневяковых гарадоў цалкам. Перш за ўсё да азначанага часу завяршыўся працэс феадалізацыі. Дзяржава і царква бачаць у зноў ствараемых цэнтрах свае апорныя пункты і крыніцы грашовых паступлленняў, па-свойму падтрымліваюць іх і садзейнічаюць іх развіццю.

Павялічэннню слоя прафесіянальных рамеснікаў садзейнічалі і феадалы, якім пастаянна патрабаваліся раскоша, зброя, асаблівыя ўмовы жыцця.

Такім чынам, аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі і развіццё абмену, уцекі сялян з вёскі прывялі да росту ў Заходняй Еўропе гарадоў новага феадальнага тыпу. Яны з’яўляліся цэнтрамі рамяства і гандаля, выдзяляліся складам і асноўнымі заняткамі свайго насельніцтва, яго сацыяльнай структурай.

**Тэорыі паходжання сярэдневяковых гарадоў.** Гісторыя горада складае непарыўную частку гісторыі феадальнага грамадства. Таму распрацоўка пытання

пра прычыны і абставіны ўзнікнення сярэдневяковага горада прадстаўляе вялікі інтарэс.

Узнікненне феадальнага горада – гэта складаная праблема. Галоўная цяжкасць у тым, што сам прадмет даследвання – горад – знаходзіцца ў глыбіні вякоў. Зыходныя моманты гісторыі горада вельмі слаба адлюстраваны ў крыніцах. Што да археалагічных дадзеных па Германіі, Францыі, то яны даволі бедныя. Болей таго, нямецкія і французскія археолагі, якія вывучалі ранняе сярэдневякоўе, накіроўвалі сваю ўвагу галоўным чынам на вывучэнне помнікаў архітэктуры, асабліва царкоўнай, рэшткаў збудаванняў, менш за ўсё надавалася ўвагі даследаванню прадметаў, што адлюстроўвалі сацыяльны быт.

Уся гэтая недасканалая вывучанасць праблемы выклікала самыя разнастайныя тэорыі адносна пытання ўзнікнення сярэдневяковых гарадоў.

У канцы ХУІІІ – першай палове ХІХ ст. распаўсюджванне атрымала “раманістычная тэорыя” паходжання горада, якая будавалася галоўным чынам на матэрыяле раманізаваных абласцей Еўропы. Яе асноўны змест – гэта ідэя бесперапыннасці гарадскога развіцця ад рымскіх часоў да новага часу, ідэя непасрэднага перараджэння горада Рымскай імперыі ў сярэдневяковы горад. Найбольш вядомымі прыхільнікамі гэтай тэорыі былі Савіны, Гізо, Рэнуар, Цьеры.

Гісторыкі, якія абапіраліся ў асноўным на матэрыялы Паўночна-Заходняй і Цэнтральнай Еўропы (перш за ўсё нямецкія, англійскія крыніцы па гисторыи сярэдневяковых гарадоў) шукалі ў прававых праяўленнях феадальнага грамадства. Так, у ХІХ ст. у Германіі ўзнікла “вотчынная тэорыя”. Найбольш паслядоўным яе прадстаўніком быў нямецкі гісторык К. Ніч. Згодна з гэтай тэорыяй горад развіваўся з феадальнай вотчыны, усе асноўныя слаі гарадскога насельніцтва выйшлі з вотчыннага насельніцтва, а гарадскія ўстановы – з вотчыннага ўпраўлення і вотчыннага права. Адзіным элементам, чужым для вотчыны, аднак адыграўшым ролю пры ўзнікненні горада, быў, на думку Ніча, рыначны абмен, які з'явіўся крыніцай гарадскога права. Прыхільнікі гэтай тэорыі вельмі спрашчалі праблему паходжання горада, зводзячы яе галоўным чынам да пытання пра ўзнікненне грамадска-палітычнага лада, гарадскіх публічных устаноў. Нараджэнне новага горада аказалася больш цяжкім, чым гэта падавала “вотчынная тэорыя”.

Шырокае распаўсюджванне набыла “маркавая” тэорыя паходжання горада. Яна звязана з імем нямецкага гісторыка Георга Людвіга Маўрэра. Ён праводзіў прамую пераемную сувязь паміж насельніцтвам і арганізацыяй пляменнай маркі, насельніцтвам і арганізацыяй суседскіх сялянскіх марак, што вылучыліся з яе, і, нарэшце, насельніцтвам і арганізацыяй гарадскіх марак, якія вылучыліся ў далейшым ходзе развіцця з сялянскіх. Органы кіравання сялянскай абшчыны і іх функцыі, на думку Маўрэра, сталі органамі кіравання гарадской абшчыны і яе

функцыямі. Маўрэр, як і Ніч, прызнае, аднак, значэнне абмена як асновы, на якой склалася гарадское права.

Адным з асноўных цячэнняў гісторыяграфіі з'яўлялася "рыначная" тэорыя паходжання сярэдневяковых гарадоў. Прадстаўнікі гэтай тэорыі зыходзяць з перабольшанай ацэнкі ролі гандлю ў паходжанні горада і ў развіцці гарадской эканомікі. У гэтым цячэнні вылучаюць два кірункі: паходжанне горада з рынку і паходжанне горада з купечаскага пасялення.

Прадстаўніком "рыначнай" тэорыі паходжання сярэднявечнага горада з'яўляецца нямецкі гісторык Рудольф Зом. Ён засяроджвае ўвагу на юрыдычным аспекце пытання. Сутнасць горада, па яго зацвярджэнні, заключаецца ў гарадскім праве, аднак гарадское права ёсць нішто іншае, як рынкавае права. У гандлі і адпаведна ў "рыначным праве" Зом бачыў галоўныя фактары фарміравання горада. Аднак паколькі рыначнае права Зом лічыў стварэннем каралеўскай улады, то вялікую ролю ў паходжанні гарадоў ён надаваў дзяржаве. Канцэпцыя Зома не атрымала шырокага распаўсюджвання і нават выклікала пярэчанні сярод большасці гісторыкаў.

Прадстаўніком "гандлёвай" тэорыі з'яўляецца бельгійскі гісторык Анры Пірэн. У адрозненне ад большасці сваіх папярэднікаў, ён адводзіў пэўную ролю ў паходжанні гарадоў эканамічнаму фактару – міжкантынентальнаму і міжрэгіянальнаму транзітнаму гандалю і яго носьбіту – купецтву. У кнізе "Сярэдневяковыя гарады і адраджэнне гандалю" ён развіў тэорыю гандлёвага паходжання гарадоў. Пірэн абвяшчаў, што яны ўзніклі ў спрыяльных для гандалю месцах у выніку эканамічнай дзейнасці купецтва. Ён правільна шукаў рашэнне праблемы ў аналізе эканамічнага развіцця гарадоў, аднак памылкова перабольшваў ролю гандаля ў пад'ёме гарадоў. У яго разуменні асноўная крыніца паходжання горада, як і асноўны фактар эканамічнага развіцця сярэдневяковага грамадства – гандаль, творца гарадоў – купецтва.

Акрамя таго, Пірэн пераацэньваў значэнне пытання пра месца ўзнікнення гарадоў толькі на перакрыжаванні гандлёвых шляхоў. На самой справе гарады маглі з'яўляцца ў самых розных месцах. Нарэшце, у сваёй канцэпцыі Пірэн недаацэньвае ролю аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі і ўздыму апошняй, ва ўзнікненні гарадоў, не заўважае спецыфіку горада як феадальнай структуры.

Такія важнейшыя канцэпцыі па пытанні аб паходжанні сярэдневяковых гарадоў, прапанаваныя замежнай гістарыяграфіяй. І як бачна, для большасці гэтых тэорый характэрны фармальна-юрыдычны падыход да праблемы. Яны засяроджваюць увагу не на галоўных, а другаступовых пытаннях, менавіта на тым, як, якім шляхам, з якіх прававых інстытутаў выраслі сярэдневяковыя гарады. У тэорыях надавалася ўвага паходжанню і развіццю спецыфічных гарадскіх устаноў, гарадского права, а не сацыяльна-эканамічным асновам працэсу. Пры

такім падыходзе немагчыма растлумачыць карэнныя прычыны паходжання гарадоў.

У сучаснай замежнай гістарыяграфіі вялікае значэнне надаецца археалагічным дадзеным, тапаграфіі і планам сярэдневяковых гарадоў (Гансгоф, Планіц, Веркотэрэн, Эбель і інш.), што вельмі важна для даследавання у перадгісторыі і пачатковай гісторыі гарадоў, якая амаль не асвятляецца ў пісьмовых крыніцах. Распрацоўваецца пытанне пра ролю ў фарміраванні сярэдневяковых гарадоў палітыка-адміністрацыйных, ваенных і культавых фактараў. Нямала ўвагі надаецца і сацыяльна-эканамічнаму боку справы. Існуюць і развіваюцца канцэпцыі феадальнага горада перш за ўсё як цэнтра рамяства і гандалю, а працэс яго ўзнікнення трактуюць як вынік грамадскага падзелу працы. Па словах вядомага французскага гісторыка Жака Ле Гофа: “Горад – гэта майстэрня. І асабліва важна, што ў гэтай майстэрні пачаўся падзел працы”.

У савецкай медыявістыцы былі праведзены істотныя даследаванні па гісторыі гарадоў амаль усіх краін Заходняй Еўропы. Вучоныя імкнуліся растлумачыць, чаму, на аснове якіх эканамічных змен у Заходняй Еўропе ў X– XII ст. паўсюдна раслі гарады. У сувязі з гэтым працяглы час рабіўся акцэнт у асноўным на сацыяльна-эканамічную ролю гарадоў пры меншай увазе да іх іншых функцый. У апошнія гады сярод гісторыкаў СНД праяўляецца тэндэнцыя разглядаць усю разнастайнасць сацыяльных характарыстык сярэдневяковага горада. Горад вылучаецца не толькі як найбольш дынамічная структура сярэдневяковай цывілізацыі, але і як арганічны кампанент усяго феадальнага ладу.

**Узнікненне феадальных гарадоў.**_Канкрэтныя шляхі ўзнікнення гарадоў былі даволі разнастайнымі.

Перад збеглымі з вёсак стаяла праблема рынку і свабоднай працы, г. зн. працы па-за межамі сеньёрыяльнай залежнасці. Ім неабходна было знайсці месца, дзе б існавала магчымасць рэгулярнага збыту рамеснай прадукцыі і магчымасць працы. Гэтыя ўмовы былі паблізу больш ці менш буйных пасяленняў – умацаваных каралеўскіх, княжацкіх, архіепіскапскіх рэзідэнцый, цэнтраў адміністрацыйнага кіравання, вялікіх манастыроў і проста крэпасцей.

Часта сяляне асядалі ў месцах, дзе часова сяліліся купцы: пунктах скрыжавання гандлёвых сухапутных шляхоў і водных магістралей, там, дзе знаходзіліся ўтульныя гавані. У гэтых месцах прыезджыя купцы прад'яўлялі попыт на вырабы асеўшых тут рамеснікаў і на некваліфікаваную працу сялян, якія тут таксама пасяліліся і працавалі грузчыкамі, лодачнікамі, насільшчыкамі і г. д. Такія “рыначныя мястэчкі” пры значным росце іх насельніцтва ператвараліся ў гарады.

Развіццё гарадоў праходзіла няроўнамерна, не з аднолькавай хуткасцю ў розных краінах, нават не было раўнамерным у розных частках адной і той жа

краіны. Напрыклад, у Італіі гарады як цэнтры рамяства і гандля сталі афармляцца ўжо ў VIII–IX ст. (Венецыя, Генуя, Піза, Бары, Неапаль, Амальфі і інш.). Ужо ў VIII ст. у Ламбардыі склалася цэлая сетка дробных і сярэдніх гарадоў. Рака По, што працякала па Ламбардыі, садзейнічала ажыўленым зносінам гарадоў паміж сабой і нават з аддаленымі пунктамі Паўночнай Італіі. Акрамя таго, пад'ёму італьянскіх гарадоў садзейнічаў гандаль з Візантыяй і краінамі ўсходу. Пэўную ролю ў раннім узнікненні тут гарадоў адыграла захаванне рэшткаў шматлікіх рымскіх гарадоў і крэпасцей. Менавіта ў іх збеглыя сяляне лягчэй, чым у зусім неабжытых мясцінах, маглі знайсці прытулак, абарону і традыцыйныя рынкі.

У X–XI ст. сталі ўзнікаць феадальныя гарады ў Паўночнай Францыі, Германіі, Нідэрландах, Англіі. Аднак  і тут не ўсе гарады склаліся адначасова. Напрыклад, раней за ўсё ў Германіі ўтварыліся прырэйнскія гарады і гарады на Верхнім Дунаі. Самыя старажытныя з іх – Кёльн, Страсбург, Рэгенсбург. Поўнасцю як гарады яны аформіліся ўжо ў пачатку X ст.  Другая па часу паходжання група гарадоў – Франкфурт-на-Майне, Эрфурт, Магдэбург. На арэну гісторыі яны выступаюць як сапраўдныя гарады некалькі пазней за прырэйнскія і верхненямецкія. Да трэцяй групы гарадоў па часе іх паходжання адносяцца Нюрнберг, Браўншвейг і інш., што ўпершыню былі ўпамянутыя ў XI ст. І нарэшце, пазней з'яўляюцца гарады, якія знаходзяцца за Эльбай, гэта Любек – у сярэдзіне XII ст., Росток, Вісмар, Штральзунд – у першай трэці XIII ст.

Таксама нераўнамерна, як і ў Германіі, развіваліся гарады ў іншых краінах Заходняй Еўропы. Напрыклад, у скандынаўскіх краінах, у Ірландыі  гарады з'яўляюцца толькі ў XII – XIII ст. Такое позняе з'яўленне гарадоў тлумачыцца крайне павольным развіццём тут феадальных адносін. Прычым, усе гарады раслі, як правіла, з рынкавых мястэчкаў, а таксама з абласных (былых племянных) цэнтраў.

Сетка гарадоў у Заходняй Еўропе таксама была нераўнамернай. Асабліва густой яна была ў Паўночнай і Сярэдняй Італіі, у Фландрыі  і Брабанце па Рэйне. Аднак і ў іншых краінах і рэгіёнах колькасць гарадоў была такой, каб селянін меў магчымасць дабрацца да якога-небудзь горада на працягу аднаго дня.

У адносінах да часу і месца ўзнікнення гарадоў трэба мець на ўвазе, што гэта развіццё і не магло быць аднолькавым, не магло насіць раўнамерны характар. Развіццё гарадоў залежала ад пэўнай гістарычнай абстаноўкі, ад цэлага комплексу прычын: наяўнасці выхаду да мора, прыродных багаццяў,  урадлівасці глебы, узроўню сельгаспадарчай культуры, шчыльнасці насельніцтва, гандлёвых шляхоў, што праходзілі праз краіну, ад контураў граніц кожнай асобнай краіны, ад яе міжнародных зносін, ад характару палітычнай эвалюцыі краіны. Развіццё гарадоў залежала ад ступені зацікаўленасці розных катэгорый феадалаў у росце гарадоў, ад суадносінасці праслоек феадальнага саслоўя, ад зацікаўленасці цэнтральнай улады ў росце гарадоў і г. д. Спалучэнне пералічаных фактараў параджала ў

сярэднія вякі вялікую разнастайнасць ў гарадскім развіцці як у сэнсе іх эканамічнай структуры і значэння ў грамадскім і дзяржаўным жыцці.

Аднак пры ўсёй рознасці месца, часу і пэўных умоў узнікненне таго ці іншага горада заўсёды было вынікам агульнага для ўсёй сярэдневяковай Еўропы аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі і развіцця абмену. Гэты працэс меў працяглы характар, аднак у X–XI ст. ён працякаў асабліва інтэнсіўна.

**Насельніцтва і знешні выгляд сярэдневяковых гарадоў.** Характэрнай асаблівасцю дэмаграфіі, сацыяльнай структуры і гаспадарчага жыцця горада былі пярэстасць, складанасць прафесійнага, этнічнага, маёмаснага, сацыяльнага складу насельніцтва і яго заняткаў. Асноўную частку насельніцтва горада складалі людзі, занятыя ў сферы вытворчасці і абарачэння тавараў. Гэта перш за ўсё рамеснікі розных спецыяльнасцей, гандляры і іх вярхушка – купцы, якія звычайна займалі вядучае месца ў горадзе. Вылучэнне купецкай дзейнасці, фарміраванне асаблівага слоя занятых у ёй людзей было новым і важным крокам да грамадскага раздзялення працы.

Значная частка гарадскога насельніцтва занималася абслугоўваннем вытворчасці і гандлю, у тым ліку абслугоўваннем рынку: насільшчыкі, возчыкі, лодачнікі, матросы, тракціршчыкі і ўтрымальнікі пастаялых двароў, повары, цырульнікі, прыслуга і г. д.

Складвалася ў гарадах і інтэлігенцыя: натарыўсы і адвакаты, урачы і аптэкары, правазнаўцы і г. д. Усё больш павялічвалася праслойка чыноўнікаў: зборшчыкі падаткаў, пісцы, суддзі, кантралёры і іншыя. З XIЎ ст. у некаторых гарадах – універсітэцкіх цэнтрах значную частку насельніцтва складалі студэнты-шкаляры і прафесары.

У буйных гарадах асабліва палітыка-адміністрацыйных цэнтрах, жылі феадалы са сваімі васаламі і прыслугай. Яны мелі ў гарадах пабудовы і цэлыя сядзібы. Значную частку насельніцтва некаторых гарадоў складалі духавенства і манахі. У гарадах, асабліва партовых, пражывала нямала іншаземцаў, якія мелі свае кварталы і складалі нібы асаблівыя калоніі.

Жыхары сярэдневяковага горада нароўні з рамяством і гандлем працягвалі нейкі час займацца і сельскай гаспадаркай. Яны доўга захоўвалі сваі палі, пашы, агароды, як унутры, так і па-за горадам, трымалі жывёлу. Аднак заняткі сельскай гаспадаркай мелі дапаможны характар і тлумачыліся слабай таварнасцю сельскай гаспадаркі тых часоў. У гарады часта звозіліся паступленні з сельскіх сядзіб сеньёраў: гарады служылі месцам іх канцэнтрацыі, пераразмеркавання і збыту. Увогуле ж цесная сувязь гараджан з зямлёй – тыповая асаблівасць сярэдневяковага горада.

Па колькасці насельніцтва сярэдневяковыя гарады былі невялікія. Звычайна пераважалі гарады з насельніцтвам 1–2 тыс. жыхароў. Найбольш характэрным для Заходняй Еўропы, асабліва Англіі, Францыі, быў сярэдні горад які складаў

прыблізна 3–5 тыс.насельніцтва, шырока развітыя рамёствы і гандаль, моцны рынак, развітую муніцыпальную арганізацыю.

Вялікім лічыўся горад ужо з 9–10 тыс. насельніцтва. Нават у XIV–XV ст. велізарнымі лічыліся гарады з 20–30 тыс. жыхароў. Ва ўсёй Еўропе такіх гарадоў налічвалася крыху больш за сто: Кёльн, Любек, Нюрнберг, Мец, Лондан, Рым і інш. Толькі некаторыя гарады мелі насельніцтва якое перавышала 80–100 тыс. чалавек (Канстанцінопаль, Парыж, Мілан, Венецыя, Фларэнцыя, Кордава, Севілья).

Знешні выгляд і тапаграфія сярэдневяковага горада адрознівалі яго не толькі ад вёскі, але і ад антычных гарадоў, а таксама ад гарадоў новага часу. Большасць гарадоў той эпохі акружалі высокія каменныя, радзей драўляныя, сцены ў адзін-два рады. Сцяна ўключала вежы і масіўную браму. Звонку яна была акружана глыбокім ярам, напоўненым вадой. Усё гэта павінна было служыць абаронай ад нападзенняў феадалаў і нашэсця непрыяцеля. Гарадская брама на ноч запіралася, а мост паднімаўся. Жыхары гарадоў неслі ахоўную службу, асабліва ноччу, складалі гарадское ваеннае апалчэнне.

Сцены вакол горада абмяжоўвалі яго тэрыторыю, з цягам часу станавіліся цеснымі, не маглі ўмясціць усіх забудоў і пастаяннага прытоку насельніцтва. Таму вакол сцен, што першапачаткова акружалі гарадскі цэнтр (бург, сітэ, град) паступова ствараліся новыя прадмесці (пасады, слабоды), якія ў сваю чаргу акружаліся ўмацаваннямі. Такім чынам, узнікла другое кола гарадскіх сцен і ўмацаванняў. Цэнтральным месцам у горадзе была рынчная плошча. Побач з ёй звычайна размяшчаўся гарадскі сабор, а там, дзе існавала самакіраванне гараджан, і ратуша (будынак гарадскога савета).

Планіроўка сярэдневяковага горада была радыяльна-кругавой, з XIII ст. прамавугольнай – (гатычнай). Сцены перашкаджалі расці гораду ўшыркі, і таму вуліцы ў заходнееўрапейскіх гарадах рабілі вельмі вузкімі. Нават на галоўных вуліцах з цяжкасцю раз’язджаліся дзве павозкі. Шырыня звычайных вуліц не павінна была перавышаць кап’я. Дамы будаваліся ў некалькі паверхаў, прычым верхнія паверхі будынкаў выступалі над ніжнімі, так што дахі дамоў, якія знаходзіліся насупраць, амаль сутыкаліся. У выніку – на вуліцах заўсёды былі прыцемкі, нават у сонечныя дні. Вулічнага асвятлення ў горадзе не існавала. На вуліцах адсутнічалі тратуары ці брукоўка, таму летам у спёку было вельмі пыльна, а вясной і восенню – вельмі брудна. Па вуліцы было цяжка прайсці і праехаць. А глыбокія лужыны маглі стварыць перашкоду нават конніку. Першыя брукаваныя вуліцы ў Парыжы з'явіліся з XIV ст., у Аўгсбургу – у XIV ст. У гарадах не існавала каналізацыі. Смецце, харчовыя адыходы і нечыстоты звычайна выкідваліся на вуліцу. Тут жа па вуліцы хадзілі свінні, козы, авечкі, рыліся куры і гусакі.

У выніку цеснаты і антысанітарных умоў у гарадах часта здараліся эпідэміі,

якія нярэдка забіралі ад 1/2 да 1/3 насельніцтва гарадоў. Гарады з іх драўлянымі пабудовамі і дахамі, нярэдка пакрытымі саломай, часта падвяргаліся пажарам, ад якіх многія выгаралі поўнасцю.

**Камунальны рух.** Першапачаткова гарадскія рамеснікі і гандляры сяліліся на зямлі, што належала аднаму, а іншы раз і некалькім феадалам. Гэта азначала, што прышлыя людзі зноў траплялі ў залежнасць ад сеньёра, вымушаны былі плаціць яму грошы, падпарадкоўвацца яго адміністрацыі, юрысдыкцыі і нават нярэдка адпрацоўваць паншчыну. Сеньёр быў гаспадаром горада, які станавіўся нібы яго калектыўным васалам ці трымальнікам.

Феадал быў зацікаўлены ва ўзнікненні горада на сваёй зямлі, таму што атрымліваў вялікі даход ад гарадскіх рамяства і гандлю. Па меры эканамічнага росту гарадоў узрастала і імкненне феадалаў здабыць ад горада больш даходаў. Гэтая абставіна перашкаджала далейшаму развіццю гарадскога рамяства і гандлю. Таму наступленне сеньёраў на гарады выклікала адпор з боку гараджан і барацьбу за вызваленне ад найбольш цяжкіх форм феадальнага прыгнёту.

Барацьбу гарадоў з сеньёрамі, якая адбывалася паўсюль у Заходняй Еўропе ў X–XIII ст. прынята называць *камунальным рухам*. У адрозненне ад сялян гараджане перамагалі колькасцю, багаццем, тэрытарыяльнай згуртаванасцю, карпаратыўнай арганізаванасцю. Таму яны часта выходзілі пераможцамі з барацьбы. Спачатку яны дабіваліся вызвалення ад цяжкіх форм феадальнага прыгнёту і скарачэння пабораў. Поспехі ў гэтай барацьбе немінуча прыводзілі і да вырашэння палітычных задач: набыцця гарадскога самакіравання і правоў. Гарады набывалі своеасаблівы палітычны лад.

Барацьба гарадоў з феадальнымі сеньёрамі, у ходзе якой складалася гарадское самакіраванне, праходзіла ў краінах па-рознаму. Гэта было звязана з асаблівасцямі іх гістарычнага развіцця. Для Італіі характэрна ранняе з'яўленне і рост гарадоў, развіццё таварна-грашовых адносін. Таму эканамічна магутныя гарады Паўночнай і Сярэдняй Італіі ўжо ў XI–XII ст. дабіліся незалежнасці ад сеньёраў. Гэта былі перш за ўсё Венецыя, Мілан, Генуя, Фларэнцыя, Балонья і інш. У сувязі з заняпадам імператарскай улады ў XIII ст. гэтыя гарады здолелі дабіцца не толькі самастойнасці, але падпарадкаваць сабе сельскія вобласці вакол горада і больш дробныя гарады. Такім шляхам узніклі гарады-дзяржавы, некаторыя з якіх ператварыліся нават у самастойныя дзяржавы агульнаеўрапейскага значэння.

Аналагічны працэс назіраўся і ў Германіі. Тут ва ўмовах заняпаду імператарскай улады рост рамяства і гандлю прывёў да з'яўлення ў XII і асабліва ў XIII ст. так званых імперскіх гарадоў. Гэтыя гарады фармальна залежалі ад імператара, а фактычна захоўвалі сваю самастойнасць, былі незалежнымі гарадскімі рэспублікамі (Любек, Гамбург, Аўгсбург, Кёльн, Нюрнберг і інш.). Аб гэтым сведчыць тое, што яны мелі права самастойна абвяшчаць вайну, заключаць

мір, чаканіць манету і г. д.

Гарады Паўднёвай часткі Францыі дабіліся самакіравання без кровапраліцця ўжо ў IX–XII ст. На працягу XII ст. амаль ва ўсіх гарадах паўднёвай Францыі ўстанаўліваецца кансулат, г. зн. праўленне консулаў –выбарных асоб ад дваран, купцоў і рамеснікаў. Побач з кансулатам у гарадах існавалі таксама і Вялікія саветы, якія складаліся з усіх паўнапраўных грамадзян.

Гарады Паўночнай Францыі дабіліся свабоды ў выніку вельмі вострай і працяглай барацьбы. У XI–XII ст. больш за 40 гарадоў Францыі атрымалі правы вольных ці гарадоў-камун. З іх неабходна назваць такія гарады, як Лан, Суасон, Марсель, Тулуза і інш.

Гарадская камуна ўяўляла сабой тыпова феадальнае аб’яднанне, яна была па сутнасці калектыўным сеньёрам. Камуна мела свае зямельныя ўладанні і эксплутавала сялян, якія там знаходзіліся, сваё самакіраванне, свой суд, фінансы, войска. Яна магла самастойна заключаць саюзы, падпісваць мірны дагавор, уступаць у дыпламатычныя зносіны. Вярхоўным органам кіравання з’яўляўся гарадскі савет, члены якога выбіраліся. У Англіі і Францыі кіраўнік савета называўся мэрам, у Германіі – бургамістрам. Абавязкі горада-камуны ў адносінах да яго сеньёра зводзіліся да невялікага штогадовага ўзносу.

Аднак не ўсе гарады Заходняй Еўропы, нават вельмі значныя і багатыя, дабіліся права камуны. Гэта было характэрна для гарадоў на каралеўскай зямлі, а таксама для краін з адносна магутнай цэнтральнай уладай. Праўда, гэтыя гарады карысталіся шэрагам прывілей і вольнасцяў, правам выбіраць органы самакіравання. Аднак уся іх дзейнасць кантралявалася чыноўнікамі караля ці іншага сеньёра. Горад рэгулярна плаціў гарадскія і экстраардынарныя дзяржаўныя падаткі. У такім становішчы былі многія гарады Францыі (Парыж, Арлеан, Бурж і інш.) і Англіі (Лондан, Оксфард, Кембрідж, Лінкольн і інш.). А многія гарады, асабліва дробныя, так і заставаліся цалкам пад уладай сваіх сеньёраў.

Адным з важнейшых вынікаў камунальнага руху ў Еўропе стала вызваленне гараджан ад асабістай залежнасці. У сярэдневяковай Еўропе ўсталявалася правіла, згодна з якім залежны селянін, які ўцёк ад свайго пана і змог пражыць у горадзе год і адзін дзень, станавіўся свабодным чалавекам. Нездарма ў сярэднія вякі склалася прыказка: “Гарадское паветра робіць свабодным”.

**Гарадское саслоўе.** Развіццё гарадоў, камунальны рух, сацыяльныя працэсы, што працякалі як сярод самога насельніцтва гарадоў, так і ўсяго заходнееўрапейскага грамадства ў цэлым, прывялі да фарміравання асаблівага саслоўя гараджан.

Эканамічнай асновай новага саслоўя былі гандлёва-рамесная дзейнасць і уласнасць, заснаваныя не толькі на вытворчасці, але і на абмене. У палітыка-прававым сэнсе гараджане мелі шэраг спецыфічных у тагачасным феадальным грамадстве правоў і прывілей: асабістую свабоду, права выбіраць органы

гарадскога самакіравання і быць абранымі ў іх, праваабавязак удзельнічаць у гарадскім апалчэнні, падсуднасць гарадскому суду. Гараджане шэрагу краін удзельнічалі ў саслоўна-прадстаўнічых установах. Усе гэтыя правы і прывілеі складалі статус паўнапраўнага гараджаніна. У той жа час саслоўе гараджан заставалася нераўнапраўным у адносінах да вышэйшых саслоўяў: яно несла дзяржаўнае цягла і лічылася "невысакародным" у рамках карпаратыўнага феадальнага грамадства.

Першапачаткова гарадское саслоўе атаясамлівалася з паняццем "гараджане", жыхары гарадоў. З IX ст. у верхненямецкіх крыніцах з'яўляецца адэкватны тэрмін "burgari" ад Burg – горад (адкуль пайшло сярэдневяковае лацінскае burgensis і французскі тэрмін bourgeoisie, які першапачаткова таксама абазначаў гараджан).

Гарадское саслоўе ніколі не было адзіным. Па маёмасным і сацыяльным становішчы ўнутры яго выдзяляліся патрыцыят, радавыя працаўнікі і гарадскі плебс. Найбольш уплывовым, багатым і прывілеяваным з іх быў патрыцыят, які складаўся з заможных гандляроў, ліхвяроў, домаўладальнікаў і багатых землеўладальнікаў. Як правіла, менавіта патрыцыят сканцэнтраваў у сваіх руках кіраванне гарадамі, іх фінансы, ваенныя сілы і гарадскія суды. Багацелі гэтыя людзі звычайна на гандлі і ліхвярстве! Па меры паглыблення раслаення гараджан тэрмін "бюргер" змяніў сваё значэнне. Ужо ў XII–XIII ст., калі гараджан па ўсёй Еўропе сталі называць мяшчанамі, бюргензэс, сітызэнс (ад слав. "място", герм. "бург", раманскага "сітэ" – горад), тэрмін "бюргер" азначаў толькі паўнапраўных гараджан, "грамадзян горада". Іншае гарадское насельніцтва (прадстаўнікі нізоў, адмежаваныя ад гарадскога самакіравання) не ўключалася ў гэтае паняцце. У XIV–XV ст. гэты тэрмін "бюргеры" звычайна прымянялі да багатых і заможных грамадзян.

Гарадское насельніцтва займала асаблівае месца не толькі ў эканамічным, але і ў сацыяльна-палітычным жыцці заходнееўрапейскага феадальнага грамадства. Нягледзячы на неаднароднасць, гараджане згуртоўваліся ў барацьбе з феадаламі. Іх саюзнікам у гэтай барацьбе іншы раз выступала каралеўская ўлада. У канцы высокага і ў познім сярэдневякоўі гарадское саслоўе разам з дваранствам і духавенствам ўдзельнічала ў саслоўна-прадстаўнічых органах дзяржаў Заходняй Еўропы.

Насельніцтва сярэдневяковых гарадоў вызначалася як асобнае саслоўе. Аднак яго неаднароднасць, мясцовыя інтарэсы кожнага горада, якія выліваліся ў саперніцтва і нават войны паміж гарадамі, ускладнялі сумесныя выступленні бюргерскага саслоўя ў масштабах кожнай краіны. Але гаспадарчая, грашовая, ваенна-стратэгічная сіла грамадзян была важнай апорай дзяржаўнай цэнтралізацыі ў маштабах цэлых краін ці на княжацка-тэрытарыяльным узроўні.

**Рамеснікі ў гарадах. Цэхі.** Характэрнай рысай сярэдневяковага рамяства ў Заходняй Еўропе была яго карпаратыўная арганізацыя, г. зн. аб'яднанне

рамеснікаў пэўнай прафесіі ў межах кожнага горада ў асаблівыя карпарацыі (аб’яднанні, саюзы) – цэхі, брацтвы. Пытанне пра паходжанне цахоў выклікала у буржуазнай гістарыяграфіі такую ж вялікую колькасць спрэчак, як і праблема паходжання горада. Зыходзячы толькі з фармальных прызнакаў, многія гісторыкі прапанавалі шэраг тэорый паходжання цэхавага ладу: тэорыя паходжання цэхаў з рымскіх карпарацый, з саюзаў мясцовых рамеснікаў, тэорыя арганізацыі цэхаў гарадской уладай з мэтай кантролю за рамяством і гандлем і інш. Некаторыя з гэтых тэорый не зусім абгрунтаваныя, супярэчаць ці абвяргаюць адна адную. Сучасная навука прапануе сінтэтычную тэорыю паходжання цэхаў. Яна звязвае розныя праяўленні дзейнасці цэхаў у агульным вузле феадальных адносін эпохі.

Цэхі былі народжаны ўсёй сукупнасцю ўмоў жыцця феадальнага грамадства. Аб'яднанне рамеснікаў асобных спецыяльнасцей было неабходным для таго, каб арганізаваць і рэгуляваць працэс вытворчасці і продаж рамесных прадуктаў, каб змагацца з сеньёрамі, а пазней – з патрыцыятам, каб пазбавіцца ад канкурэнцыі сялянскага і іншагародняга рамяства і г. д. Рамесныя цэхі ў Заходняй Еўропе ўзніклі амаль адначасова з самімі гарадамі (у Італіі ўжо ў X ст., у Францыі, Англіі, Германіі – з XI – пачатку XII ст.), праўда, запісаны іх статуты былі пазней, як і юрыдычнае прызнанне іх сеньёрамі або каралямі.

Рамеснікі, якія аб’ядноўваліся ў цэхі, з’яўляліся непасрэднымі вытворцамі і ўласнікамі сродкаў вытворчасці. Кожны з іх працаваў ва ўласнай асобнай майстэрні са сваімі інструментамі і сыравінай.

Рамяство перадавалася ў спадчыну, было сямейным сакрэтам. Асноўным памочнікам рамесніка была яго сям'я. Разам з ім працавалі таксама адзін ці некалькі падмайстраў і вучняў. Аднак членам цэха з’яўляўся толькі майстар, уладальнік рамеснай майстэрні.

Майстар, падмайстр і вучань складалі своеасаблівую цэхавую іерархію. Распаўсюджванне вучаніцтва ў сярэднія вякі тлумачыцца спецыфікай сярэдневяковага рамяства. Яно заключалася ў тым, што ўнутры майстэрні не існавала падзелу працы і кожны рамеснік павінен быў ад пачатку да канца рабіць усе аперацыі – “рамеснік зрастаўся са сваімі сродкамі вытворчасці настолькі ж цесна, як улітка з ракавінай”. Адсюль і неабходнасць вучаніцтва, тэрмін якога быў розным у залежнасці ад складанасці рамяства ад 2 да 7, а ў асобных цэхах дасягаў 10–12 гадоў.

Падмайстар уяўляў сабой ужо дастаткова навучанага платнага работніка, які, аднак, яшчэ не паспеў стаць майстрам. Цэхавы закон дазваляў юнаку, прайшоўшаму тэрмін навучання, адразу ж адкрыць майстэрню. Аднак даволі часта юнак быў пазбаўлены такой магчымасці ў сувязі з адсутнасцю матэрыяльных сродкаў, неабходных для абсталявання майстэрні. Менавіта гэта абставіна прымушала яго пастпаць у работнікі. З цягам часу ўжо склаўся такі звычай, згодна з якім вучань, прайшоўшы тэрмін навучання, павінен быў

праслужыць пэўны час у майстра ў якасці работніка, перш чым атрымоўваў права на адкрыццё майстэрні. Гэты звычай ужо сведчыў пра тое, што доступ да майстэрства стаў больш цяжкім.

Цэхавыя статуты ўстанаўлівалі ўсе падрабязнасці адносін паміж падмайстрамі і майстрам. Падмайстар быў падпарадкаваны майстру не толькі ў працэсе вытворчасці, але і ва ўсім асабістым жыцці. Падмайстры былі пазбаўлены права ствараць саюза для абароны прафесійных інтарэсаў.

Майстар з’яўляўся галоўнай фігурай у цэху. Ён узначальваў вытворчасць у майстэрні і трымаў у сваіх руках усё кіраванне цэхам. Вышэйшым органам цэха быў агульны сход яго паўнапраўных членаў- майстраў. Сход разглядаў і вырашаў усе важныя справы, што датычыліся цэха: ён прымаў новых членаў, змяшчаў старых і выбіраў новых старшынь цэха, абвяшчаў цэхавыя статуты, праводзіў суд і г. д.

Галоўная функцыя цэхавых органаў заключалася ў іх кантролі над працэсам вытворчасці і продажу рамесных вырабаў. Рамеснікі цэха былі зацікаўлены ў шырокім і выгадным сбыце вырабаў, імкнуліся забяспечыць роўныя ўмовы для ўсіх сваіх майстроў. Таму ўнутры кожнага цэха была створана дэталёвая рэгламентацыя ўсіх бакоў і ўсяго працэсу вытворчасці. Пазней яна была ўключана ў цэхавыя статуты. Напрыклад, кожнаму майстру дазвалялася мець толькі пэўную колькасць падмайстраў і вучняў, вырабляць пэўную колькасць вырабаў і г. д. Рэгламентаваўся колер, вага, памер, цана той ці іншай прадукцыі. Майстраў, што парушалі правілы, чакала суровае пакаранне, літаральна да знішчэння тавару.

Такая складаная рэгламентацыя вытворчасці ў сярэдневяковы перыяд не выпадковая. Яна была прадыктавана ўзроўнем развіцця вытворчых сіл, выклікана неабходнасцю пазбегнуць канкурэнцыі, а таксама абмежаванымі магчымасцямі збыту тавараў. На першым этапе існавання цэха (да пачатка XV ст.) строгая рэгламентацыя адыгрывала прагрэсіўную ролю, паколькі садзейнічала назапашванню вопыту і ўдасканальванню працоўных навыкаў і прыладаў працы, падтрымлівала на высокім узроўні якасць вырабаў і іх рэпутацыю.

Цэх ахопліваў многія бакі жыцця гарадскога рамесніка і адыгрываў вялікую ролю не толькі ў вытворчай дзейнасці, але і ва ўсім яго жыцці. Цэхі былі своеасаблівымі саюзамі ўзаемадапамогі рамеснікаў. Маючы грашовыя сродкі, якія ствараліся за кошт уступных узносаў, штрафаў і іншых плацяжоў, цэхі аказвалі дапамогу сваім майстрам і іх сем’ям, калі тыя мелі ў ёй патрэбу ў цяжкія для іх часы. Цэх з’яўляўся і ваеннай арганізацыяй. Падчас ваенных дзеянняў кожны цэх на чале са сваімі кіраўнікамі выступаў як асобная баявая адзінка гарадскога апалчэння. Цэхі аб’ядноўвалі гараджан для барацьбы з сеньёрамі, а потым з засіллем патрыцыята. Цэх з’яўляўся своеасаблівай культавай арганізацыяй. Ён меў свайго святога-апекуна, дзень якога святкаваў, і сваю царкву ці часоўню. Усе святы члены цэха праводзілі разам, завяршаючы іх пірушкай-трапезай (і многія

статуты дакладна выдзяляюць правілы паводзін на такіх пірушках).

Цэхавая арганізацыя ў Еўропе не была універсальнай. У некаторых краінах яна не існавала. У шэрагу гарадоў (паўднёвай Францыі, Паўночнай Еўропы і некаторых іншых краін і раёнаў Еўропы) існавала так званае “свабоднае” рамяство, г. зн. не аб'яднанае ў асобныя саюзы. У гэтым выпадку функцыі цэхавага нагляду, рэгламентацыі, абароны манаполіі гарадскіх рамеснікаў і іншыя функцыі цэхаў бралі на сябе органы гарадского самакіравання.

**Барацьба цэхаў з патрыцыятам.** У выніку барацьбы гарадоў з феадальнымі сеньёрамі гарадское ўпраўленне перайшло ў рукі гараджан. Расслаенне ўнутры самога гарадскога саслоўя прывяло да таго, што не ўсе гараджане атрымалі права прымаць удзел у кіраванні гарадскімі справамі. Вынікі барацьбы гараджан з сеньёрамі скарыстала вярхушка гарадскога насельніцтва – домаўладальнікі, ліхвяры, купцы-аптавікі, занятыя транзітным гандлем – патрыцыят. Гэты прывілеяваны слой гарадскога насельніцтва быў фактычна замкнутай групай, своеасабліва спадчыннай гарадской арыстакратыяй, якая з вялікімі цяжкасцямі дапускала ў сваё асяроддзе новых людзей. Патрыцыят захапіў у свае рукі ўсе пасады ў гарадскім упраўленні (пры захаванні выбарнасці пасад і гарадскіх саветаў). Гэтыя людзі ці іх стаўленнікі вяршылі суд над гараджанамі, вызначалі памеры падаткаў, распараджаліся фінансавымі сродкамі гарадскіх камун і г. д.

Узмацненне цэхаў і незадаволенасць рамеснікаў засіллем патрыцыята з цягам часу прывяло да таго, што рамеснікі, дробныя гандляры пачалі барацьбу з патрыцыятам за ўладу ў горадзе. Да іх далучыўся і бедны люд. Амаль ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы ў XIII – XIV ст. разгарнулася барацьба паміж цэхамі і патрыцыятам за ўладу ў горадзе (так званыя цэхавыя рэвалюцыі). Часта гэтая барацьба набывала вельмі востры характар, іншы раз вылівалася і ва ўзброеную барацьбу. Вынік яе залежаў ад характара эканомікі горада. У тых гарадах, дзе рамяство было развіта менш, чым гандаль, перамогу атрымоўвала гарадская вярхушка (патрыцыят). Так, напрыклад, абстаяла справа ў паўночнагерманскіх гандлёвых гарадах: Гамбургу, Любеке, Ростаке, у буйнейшых гандлёвых рэспубліках Італіі: Венецыі, Генуе. У тых гарадах, дзе шырокае распаўсюджванне мела рамесная вытворчасць, цэхі атрымалі перамогу і дабіліся ўдзелу ў гарадскім кіраванні (Кёльн, Базель, Фларэнцыя і інш.). Аднак у гэтай групе гарадоў, дзе перамогу атрымалі цэхі, кіраванне не станавілася выключна дэмакратычным, паколькі заможная вярхушка цэхаў пасля сваёй перамогі аб’ядноўвалася з часткай патрыцыята і ўстанаўлівала новае алігархічнае кіраванне.

**Пачатак разлажэння цэхавага ладу.** Ужо ў познім сярэдневякоўі адбыліся значныя змены ў арганізацыіі рамеснай вытворчасці. Змянілася і роля цэхаў. Цэхі з іх строгай рэгламентацыяй вытворчасці, з іх імкненнем захаваць дробную вытворчасць, традыцыйныя метады і прылады працы перашкаджалі тэхнічным удасканаленням з-за боязі канкурэнцыі, ператвараліся ў тормаз для далейшага

развіцця вытворчасці, для тэхнічнага прагрэса. Ужо ў XIV ст. назіраецца эканамічная і сацыяльная няроўнасць у цэху. З асяроддзя раней адзінай масы рамеснікаў вылучаецца заможная цэхавая вярхушка, якая эксплуатуе дробных майстроў. Расслаенне ўнутры цэхавага рамяства знаходзіла ўвасабленне і ў дыферэнцыяцыі цэхаў, у раздзяленні іх на больш багатых і ўплывовых (“старэйшыя” ці “вялікія”) і на “малодшыя” ці “малыя” цэхі, якія ў маёмасных адносінах сталі рэзка адрозніваццa ад старэйшых цэхаў. Так адбывалася ў найбольш буйных гарадах: Фларэнцыі, Перуджы, Лондане, Парыжы. “Старэйшыя цэхі” ўстанаўлівалі сваё панаванне над “малодшымі”, пазбаўлялі майстроў “малодшых” цэхаў эканамічнай самастойнасці, ператваралі іх фактычна ў наёмных работнікаў.

У сувязі са зменамі, якія адбываліся ўнутры цэхаў у XIV – XV ст. крайне пагаршаецца становішча падмайстраў. Да гэтага часу з”яўляецца шэраг патрабаванняў, якія значна ўскладнілі доступ да майстэрства. Так, каб стаць майстрам, падмайстар павінен быў выканаць узорную работу (“шэдэўр”). Напрыклад, статуты залатых спраў майстроў у горадзе Любеку ўстанаўлівалі, што той, хто жадае стаць майстрам, павінен зрабіць тры рэчы: пярсцёнак ажурнай работы, англійскае запясце, якое дарылася пры абручэнні, і пярсцёнак для рукаяткі кінжала. Патрабаванні да шэдэўраў завышаліся з тым, каб спыніць доступ у разрад майстроў. Звычайна пры ўступленні падмайстра ў цэх ад яго патрабавалі буйны ўступны ўзнос на карысць цэхавай абшчыны, а таксама арганізаваць дарагую пірушку для сяброў цэха. У XIV і асабліва ў XV ст. адбываецца так званае “замыканне цэха”. У цэху з’яўляецца правіла, згодна з якім ў майстры прымаліся толькі сыны і сваякі членаў цэха. Падмайстры ператвараліся такім чынам у “вечных падмайстраў”, а па сутнасці, у наёмных работнікаў.

Для абароны сваіх інтарэсаў эксплуатуемыя падмайстры аб'ядноўваліся ў асобныя арганізацыі-брацтвы, кампаньянажы, якія з'яўляліся саюзамі ўзаемадапамогі і барацьбы з майстрамі. У ходзе барацьбы з цэхавымі майстрамі брацтвы вылучаюць эканамічныя патрабаванні: павышэнне заработнай платы, змяншэнне працоўнага дня. У гэтую барацьбу уключылася і гарадское плебейства. У XIV – XV ст. у многіх гарадах Заходняй Еўропы ніжэйшыя слаі гарадскога насельніцтва ўзнялі паўстанне супраць гарадской алігархіі і вярхушкі цэхаў: у Фларэнцыі, Перуджэ, Кёльне, Сіене і інш. Гэтыя паўстанні былі сведчаннем вострых сацыяльных супярэчнасцей унутры сярэдневяковага горада.

Такім чынам, у сацыяльнай барацьбе ў сярэдневяковых гарадах можна вылучыць тры асноўныя этапы. На першым этапе ўся маса гараджан вяла барацьбу за вызваленне горада ад улады феадальных сеньёраў. Гэтая барацьба прыходзіцца на XI – XIII ст. Другім этапам з’яўляецца барацьба цэхаў з гарадскім патрыцыятам за ўладу ў горадзе. Храналагічныя рамкі гэтага этапа –прыблізна XIII – XIV ст. І нарэшце, трэці этап – барацьба гарадскіх нізоў супраць майстроў і

купцоў (другая палова XIV – XV ст.).

**Развіццё гандлю і крэдытнай справы ў Заходняй Еўропе.** Рост гарадоў у Заходняй Еўропе садзейнічаў развіццю унутранага і знешняга гандлю. У высокім сярэдневякоўі еўрапейскі гандаль быў сканцэнтраваны ў двух рэгіёнах. Адзін з іх – раён Міжземнага мора. Праз яго ў асноўным ішоў гандаль заходнееўрапейскіх краін – Іспаніі, Паўднёвай і Цэнтральнай Францыі, Італіі – паміж сабой, а таксама з Візантыяй і краінамі ўсходу. Галоўную ролю ў гэтым гандлі адыгрывалі купцы Венецыі, Генуі, Марселя і Барселоны. З Усходу увозіліся галоўным чынам прадметы раскошы, вострыя прыправы, віно, часткова зерне і інш. На Усход вывозіліся металы, сукно, бурштын, зброя і інш.

Іншая зона еўрапейскага гандаля ахоплівала Балтыйскае і Паўночнае моры. У яе былі ўключаны паўночна-заходнія вобласці Русі (асабліва Ноўгарад, Пскоў), Вялікае княства Літоўскае, Польшча і ўсходняя Балтыка, Паўночная Германія, Скандынаўскія краіны, Фландрыя, Барбант і Паўночныя Нідэрланды, Англія, а таксама Паўночная Францыя. Тут гандлявалі пераважна таварамі шырокага спажывання: рыбай, салам, соллю, мёдам, воскам, футрай, воўнай, сукном, ільном, лесам, вырабамі з дрэва і інш.

Значная роля ў сярэдневяковым гандлі належала кірмашам, якіх было мноства ў Францыі, Італіі, Германіі, Англіі ўжо ў XI – XII ст. Найбольш буйнымі былі шампанскія кірмашы ў Францыі, якія працягваліся амаль круглы год, Развіццю гэтых кірмашоў садзейнічала і геаграфічнае месцазнаходжанне і палітычныя ўмовы ў самой Шампані. Кірмашы праводзіліся ў Бругэ, Жэневе, Ліоне, Гранадзе і іншых гарадах. Але эканамічнае значэнне гэтых кірмашоў далёка ўступае той ролі, якую адыгрывалі кірмашы ў Шампані ў гаспадарчым развіцці Заходняй Еўропы. Гаворачы пра развіццё сярэдневяковага гандлю не трэба перабольшваць яго масштабаў. Ён абмяжоўваўся нізкай прадукцыйнасцю, панаваннем у вёсцы натуральнай гаспадаркі, мясцовай разгуртаванасцю, феадальным сепаратызмам. Знатныя рыцары ды і самі каралі нярэдка рабавалі купецкія караваны. На моры квітнела піратства. Пры пераездзе з уладанняў аднога феадала ва ўладанні другога (не гаворачы пра перасячэнне дзяржаўнай мяжы) з купцоў бралі шматлікія пошліны: дарожныя і маставыя, рачныя, вагавыя і інш.

Сур'ёзнымі перашкодамі ў развіцці гандлю былі слабое развіццё грашовай гаспадаркі, вялікая колькасць манетных сістэм і нізкая якасць манеты. У сувязі з гэтым ужо ў XII ст. значную ролю ў гандлі пачынаюць адыгрываць мянялы. Яны давалі купцам узамен прывезеных грошай тыя, што мелі хаджэнне ў даннай мясцовасці. У далейшым мянялы пашырылі кола аперацый і сталі пасылаць у розныя краіны Еўропы сваіх агентаў. У гэтым выпадку купец, заплаціўшы мяняле ў сваім горадзе пэўную суму грошай, атрымоўваў ад яго дакумент. Прыбыўшы да месца прызначэння, ён прад'яўляў гэты дакумент агенту мянялы і атрымоўваў

адпаведную суму ў мясцовай манеце. Так узнік пераводны вэксаль. У выніку купец пазбаўляўся розных нязручнасцей, а галоўнае, рызыкі, звязанай з правозам вялікіх грашовых сум. Гэтыя аперацыі аплочваліся і былі выгадныя для мянял.

Вэксаль стаў шырока выкарыстоўвацца ў крэдытных аперацыях. Купец, напрыклад, мог узяць па вэксалю грашовую суму, якая яму была неабходна для закупкі тавара, а потым, распрадаўшы тавар, вярнуць пазыку. Так, у XIII – XIV ст. пачала шырока развівацца крэдытная справа.

Пашырэнне крэдытных і абменных аперацый прывяло да стварэння спецыяльных банкаўскіх кантор. Першыя з іх ўзніклі ў Паўночнай Італіі – у Ламбардзіі. Таму ў сярэднія вякі слова "ламбардзец" было сінонімам банкіра і ліхвяра. Ад яго ж паходзіць і слова "ламбард". Буйнейшыя крэдытныя і ліхвярскія аперацыі ажыццяўляла рымская курыя, куды сцякаліся вялізныя грашовыя сродкі з многіх краін Еўропы. ___

**Горад ў сярэдневяковым грамадстве Заходняй Еўропы.** Шэраг гісторыкаў схіляецца да думкі, што горад быў як бы чужародным элементам у феадальным грамадстве, прынамсі, у пэўныя перыяды яго гісторыі. І для гэтага сцвярджэння ёсць даволі сур'ёзныя аргументы. Аснову феадальнага грамадства складалі адносіны панавання-падпарадкавання і адпаведныя пазямельныя адносіны. Апошнія з іх непасрэдна амаль не датычыліся гараджан – яны займаліся падсобнай сельскай гаспадаркай, але не на палях, не на палявых надзелах. Гарадская камуна як сукупнасць гараджан-"грамадзян" будавалася не на вертыкальных сувязях паміж людзьмі (як іерархія феадалаў ці асабістая і пазямельная залежнасць сялян-земляробаў ад іх паноў), а на гарызантальных. Назваць гарадскую камуну "згуртаваннем роўных", як робяць некаторыя вучоныя, было б, канешне, перабольшваннем. Розніца паміж сярэдневяковай гарадской камунай і абшчынай грамадзян антычнага поліса была істотнай як у сацыяльна-палітычным, так і ў эканамічным сэнсе. Трэба ўлічваць расслаенне самога сярэдневяковага гарадскога саслоўя, сацыяльную барацьбу ўнутры яго. Правы грамадзян поліса былі сапраўды грамадзянскімі правамі, а правы гараджан высокага і позняга сярэдневякоўя толькі ў нечым (і толькі некаторыя з іх) нагадвалі іх. Тым не менш гараджане змагаліся супраць сваіх сеньёраў-феадалаў і, перамогшы, дабіваліся "вольнасцяў". У гарадскім саслоўі не існавала феадальных сувязей панавання-падпарадкавання, асабістай залежнасці.

Горад у сярэдневякоўі часта называюць "рухавіком" эканомікі таго часу. Сапраўды, гарады былі цэнтрамі рамяства і гандлю, асаблівы кантраст яны ўяўлялі на фоне панаваўшай натуральнай гаспадаркі. Гарады далі магутны штуршок развіццю таварна-грашовай гаспадаркі.

Нават ментальнасць гараджан і астатняга насельніцтва сярэдневяковай Заходняй Еўропы істотна адрознівалася. Ужо сам характар вытворчых заняткаў гарадскога насельніцтва вызначаў іншае ўспрыняцце прыроды, навакольнага

асяроддзя, чым у сялян, іншае разуменне сэнсу працы, чым у феадалаў. Нават час рамеснік ці гандляр успрымаў інакш – ён не мог карыстацца толькі порамі года, месяцамі ці днямі, і першыя механічныя гадзіннікі ў Еўропе з'явіліся менавіта ў гарадах. Гарадскі патрыятызм – катэгорыя тыповая для ментальнасці гараджан сярэдневякоўя. Васал ішоў ваяваць за свайго сеньёра нават супраць караля краіны.

Але ўсё ж будзе больш правільным гаварыць, што гарады былі арганічным кампанентам феадальнага ладу ў сярэдневяковай Заходняй Еўропе. Гараджане былі адным з саслоўяў тагачаснага грамадства, са сваёй спецыфікай (свая спецыфіка была і ў іншых саслоўяў). Не трэба забываць, што і самі гарады-камуны ў адносінах да прылеглай сельскай акругі часта выступалі ў якасці сеньёраў. Тэрыторыі гэтых акруг з сялянскімі абшчынамі часта ўключаліся ў склад горада, а горад кіраваў сялянамі фактычна на тых жа правах, што і феадал. Патрыцыят гарадоў імкнуўся нават знешне пераймаць многае з жыцця феадалаў, імкнуўся парадніцца з імі (а феадалы жылі і ў гарадах), пазней гарадская вярхушка нямала грошай укладвала ў куплю зямлі, гэтыя людзі станавіліся і землеўладальнікамі, іншы раз буйнымі. У Фларэнцыі напрыканцы сярэдневякоўя дайшло да таго, што без згоды гаспадара-землеўладальніка селянін-арэндатар не мог пакінуць надзел да сканчэння абумоўленага тэрміну, не мог нават ссекчы дрэва без яго дазволу. Яму забаранялася станавіцца рамеснікам.

Сярэдневяковую заходнееўрапейскую цывілізацыю нельга назваць гарадской хоць бы таму, што насельніцтва гарадоў было ў дзесяткі разоў меншым, чым сельскае. У адрозненне ад старажытнагрэчаскай ці рымскай яна хутчэй была "сялянскай". Гарады сярэдневякоўя не былі "рухавіком" палітычнага жыцця. Гараджане выступалі саюзнікам каралеўскай улады ў яе барацьбе за стварэнне цэнтралізаванай дзяржавы. Але саміх дзяржаў-гарадоў было няшмат і, як ні дзіўна, у той жа Італіі, дзе іх было больш усяго, не толькі на працягу сярэдневякоўя, але і большай часткі эпохі Новай гісторыі адзінай дзяржавы створана не было.

У культурным жыцці сярэдневяковай Еўропы горад адыграў важную ролю. Гарадскія школы падарвалі манаполію царквы на адукацыю, а універсітэты з'явіліся ў гарадах. Многія даследчыкі лічаць, што і готыка як мастацкі стыль абавязана сваім паходжаннем гарадам.

Гарады не маглі існаваць ізалявана ад сельскай мясцовасці, ад астатняга грамадства. Горад быў спажыўцом сельскагаспадарчых прадуктаў, сыравіны. Яго насельніцтва спачатку фарміравалася, а потым часткова папаўнялася людзьмі з вёскі. Гораду патрэбны былі рынкі сбыту. У таварна-гандлёвыя адносіны, цэнтрамі якіх былі гарады, уцягвалася і астатняе насельніцтва. Развіццё таварна-гандлёвых адносін у сярэдневяковай Еўропе не было нейкім аднабаковым працэсам, які развіваўся толькі пад уплывам гарадоў, гэта быў узаемны працэс. У яго было ўцягнута не толькі гарадское насельніцтва, але і феадалы, сяляне.

Патрэбны быў пэўны ўзровень развіцця не толькі рамяства і гандлю, але і сельскай гаспадаркі.

Пад уплывам таварна-грашовых адносін значна ўзмацнілася расслаенне сялянства. Ужо ў X–XI ст. у асяроддзі залежнага сялянства ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы вылучаліся розныя маёмасныя катэгорыі: багатыя, сярэдняга дастатку, бедныя малазямельныя. Да канца XIII ст. гэтыя маёмасныя адрозненні значна павялічыліся за кошт росту малазямельных і безнадзельных сялян.

Сур'ёзныя перамены адбыліся і ў панскай гаспадарцы. Найбольш істотнай з'явай была камутацыя рэнты: замена адпрацовачнай і прадуктовай рэнт грашовай рэнтай. Феадалы пераводзілі сялян на грашовую рэнту, каб атрымаць большы даход ад сваіх зямель. Свой дамен, землі якога раней апрацоўвалі асабіста залежныя ад яго сяляне, феадал сдаваў у арэнду ці апрацоўваў яго, выкарыстоўваючы працу малазямельных ці беззямельных сялян. У выніку адбываецца ліквідацыя дамена, паншчыны, большай часткі прадуктовай рэнты. Гэты працэс актыўна разгарнуўся ў многіх краінах Заходняй Еўропы з канца высокага сярэдневякоўя. Паралельна ішло і вызваленне сялян ад асабістай залежнасці ад феадалаў. Сяляне атрымлівалі значную эканамічную самастойнасць, іх юрыдычнае становішча палепшылася (што зусім яшчэ не азначала аўтаматычнага паляпшэння іх матэрыяльнага становішча). Асноўная маса феадальна-залежнага сялянства Заходняй Еўропы да канца сярэдневякоўя вызвалілася ад асабістай залежнасці. Але аб іх становішчы ў грамадстве сведчаць і масавыя сялянскія паўстанні XIV-XV ст.

На некаторых тэрыторыях Заходняй Еўропы ўцягванне панскай гаспадаркі ў таварна-грашовыя адносіны дало іншы вынік. Феадалы, асабліва там, дзе існаваў шырокі знешні рынак, бралі ініцыятыву ў свае рукі і імкнуліся павялічыць даходы са сваіх даменаў шляхам павелічэння паншчыны для сялян і ўмацавання іх асабістай залежнасці. Так адбывалася, у прыватнасці, на большай частцы Германіі, ў паўднёва-усходняй Англіі і ў шэрагу іншых рэгіёнаў.

У сярэдневяковых гарадах Заходняй Еўропы можна бачыць толькі парасткі будучага грамадства новага часу. Бюргерства не было буржуазіяй, буржуа ў сярэдневяковай Францыі – гэта толькі прадстаўнік гарадскога саслоўя. Бюргерства не перарадзілася аўтаматычна ў буржуазію новага часу, якая была носьбітам капіталістычных адносін.

## § 12. Англія

**Англія да нармандскага заваявання (X – першая палова XI ст.).** Уэсекскія каралі, якія правілі на паўднёвым захадзе і поўдні Вялікабрытаніі, паступова адваўўвалі тэрыторыі, захопленыя дацкімі вікінгамі. Яшчэ Альфрэд у 886 г. захапіў Лондан. Пры каралі Эдуардзе Старым (900 – 924) было захоплена

Ёркскае каралеўства вікінгаў і далучана Мерсія. Адначасова англійскім каралям прыходзілася змагацца са скотамі, кельтамі, вікінгамі, асеўшымі ў Ірландыі. Важную перамогу над імі ў 937 г. атрымаў уэсекскі кароль Этэльстан, які прыняў тытул "караля ўсёй Брытаніі". У 40-я гады X ст. каралі ўэсекскай дынастыі адваявалі ў вікінгаў Нартумбрыю і, такім чынам, тэрыторыя Дэнло к сярэдзіне X ст. цалкам перайшла пад іх уладу. У 973 г. кароль Эдгар ужо меў поўную падставу ўрачыста прыняць тытул "караля англічан".

Але ў самым канцы X ст. зноў узмацніліся набегі датчан на Англію. Новае дацкае заваяванне Англіі пачалося пры каралі Даніі Свене Вілабародым. Пасля смерці англійскага караля Этэльрэда Непаслухмянага (у 1016 г.) сын Свена Канут ажаніўся з удавой памерлага Эмай Нармандскай. Пасля барацьбы за прастол Англіі з братам Этэльрэда Канут у 1017 г. стаў англійскім каралём. Неўзабаве ён усталяваў сваё праўленне ў самой Даніі, а таксама ў Нарвегіі і частцы Швецыі. З 1017 па 1035 г. Англія была часткай вялізнай дзяржавы Канута Вялікага. Пасля яго смерці гэтая дзяржава распалася. Пасля кароткага праўлення ў Англіі сыноў Канута з 1042 г. дынастыя уэсекскіх каралёў аднавіла сваю ўладу над Англіяй. Новым англійскім каралём стаў сын Этэльрэда Эдуард Спаведнік (1042–1066).

Дацкія заваяванні не маглі не адбіцца на сацыяльна-эканамічных адносінах у Англіі. У той жа частцы, якая складала вобласць Дэнло, было больш свабодных сялян, феадальныя адносіны фарміраваліся там больш марудна. Разам з тым вікінгі на тэрыторыі Дэнло прынялі хрысціянства раней, чым іх суайчыннікі ў Скандынавіі.

Працяглыя і цяжкія войны з датчанамі пагоршылі становішча англійскіх сялян. Яны былі абавязаны выплочваць спецыяльныя падаткі (акрамя іншых), якія выкарыстоўваліся на войны ці выплаты даніны датчанам. Сяляне павінны былі будаваць, рамантаваць абарончыя ўмацаванні, забяспечваць іх гарнізоны. Яны таксама складалі аснову фірда – пешага апалчэння, якое ўдзельнічала ў баях з датчанамі. Але галоўнай ваеннай сілай англійскіх каралёў быў ужо не сялянскі фірд, а цяжка ўзброенае войска, аснову якога складалі тэны. Большасць тэнаў паходзіла з заможных сялян. Стаць тэнам караля, знатнага чалавека або епіскапа мог толькі той, хто меў не менш за пяць гайд зямлі. Толькі гэта давала магчымасць набыць поўнае ўзбраенне, а праца на зямлі залежных людзей дазваляла тэну прафесійна рыхтавацца да вайны. Былі і больш бедныя тэны, якія аб'ядноўваліся ў групы, каб набыць неабходны "цэнз" і служылі па чарзе. Ад сеньёраў тэны атрымлівалі землі на правах бокенда. З цягам часу тытул тэна рабіўся спадчынным. Так складваўся слой рыцарства.

У X – першай палове XI ст. для Англіі ўжо характэрна наяўнасць манораў (вотчын). Большасць іх складалася на аснове боклендаў. Іх ўладальнікі, атрымаўшы фіскальную і судовую ўладу над свабоднымі кэрламі, паступова ператваралі іх у залежных ад сябе людзей. Важную ролю ў фарміраванні асабістай

залежнасці сялян адыгралі глафардат і імунітэтныя пажалаванні караля феадалам – сокі. Сяляне такой імунітэтнай акругі зваліся сокменамі, і хоць яны былі асабіста свабодныміт, але знаходзіліся пад судовай уладай імуніста, які прымушаў іх выплачваць паборы і выконваць павіннасці на сваю карысць.

У маноры дамен складаў ад 24 да 40 % усёй зямлі. Большым быў дамен у дробных манорах, значную долю сярод тых, хто яго апрацоўваў, складалі рабы. Асноўнай жа масай земляробаў у маноры былі залежныя сяляне. Крапіцы называюць тры катэгорыі такіх сялян: геніты, гебуры і котсетлы. Геніты былі ўласнікамі сваіх зямельных надзелаў, але павінны былі выплачваць аброк, выконваць конную павіннасць, удзельнічаць ва ўборцы ўраджаю і сенакосе на зямлі дамена. Гебуры атрымлівалі зямельны надзел, прылады працы і рабочую жывёлу ад гаспадара, прычым усё гэта пасля іх смерці вярталіся гаспадару. Гебуры выплачвалі аброк і кожныя два-тры дні на тыдні абавязаны адбывалі паншчыну. Гэтая катэгорыя людзей паходзіла часткова з былых рабоў і часткова са збяднелых свабодных. Котсеттлы адрозніваліся ад гебураў галоўным чынам тым, што атрымлівалі ад гаспадара намнога меншыя зямельныя надзелы.

Многія асаблівасці феадальных адносін у Англіі былі знівеліраваны ў выніку нармандскага заваявання.

**Нармандскае заваяванне.** У 1066 г.  Эдуард Спаведнік памёр. У хуткім часе адбылася каранацыя эрла Гаральда. 25 верасня англійская армія  перамагла нарвежскае войска на чале з каралём Гаральдам III Сігурдсанам пры Стамфардбрыджы. Гэтая перамога, аднак, не гарантавала Англіі спакойнага існавання.

Свае прэтэнзіі на карону Англіі высунуў герцаг Нармандыі Вільгельм II Народжаны Па-за Шлюбам. Пры гэтым ён заяўляў, што кароль-нябожчык абіцяў яму перадаць карону яшчэ ў 1051 г. Пасля каранацыі Гаральда Вільгельм пачаў падрыхтоўку дэсанта ў Англію.

У канцы верасня 1066 г. нармандская армія агульнай колькасцю ў 5000 чалавек на 700 барках перасякла праліў Ла-Манш. 14 кастрычніка каля порта Гастынгс англійская армія была разгромлена ўшчэнт. Кароль Гаральд загінуў у баі. Карона Англіі спачатку перайшла да Эдгара Эцелінга, ўнука Эдмунда II Жалезнабокага, але ў хуткім часе пад ціскам большасці магнатаў перададзена герцагу Нармандыі, які каранаваўся на Каляды і стаў каралём Вільгельмам I Заваёўнікам (1066–1087). Аднак поўнаўладным гаспадаром Англіі ён стаў пасля таго, як былі задушаны два паўстанні на карысць Эдгара Эцелінга: 1069–1070, 1075 гг., а апошні англасаксонскі эрл памёр у турме.

**Вільгельм I Заваёўнік (1066 – 1087).** У самым пачатку праўлення пер-шага прадстаўніка нармандскай дынастыі ўся зямля была абвешчана кара-леўскай ўласнасцю. У выніку ўсе землеўладальнікіператварыліся ў тры-мальнікаў каралеўскай зямлі. Кароне ж Вільгельм I пакінуў дамен, які ахопліваў 1/7 частку

краіны і даваў добры прыбытак. Па дадзеных на 1086 г., апошні складаў 11 тыс. фунтаў, у той час калі ўсе англійскія землі давалі 73 тыс. фунтаў.

Перабудову васальна-ленных адносін новы манарх пачаў рабіць па ўзору нармандскага грамадства, калі ўсе свабодныя жыхары былі прамымі васаламі герцага. У 1085 г. насельніцтва Англіі прысягнула Вільгельму І Заваёўніку (“Салсберыйская прысяга”).

Уітэнагемот быў заменены каралеўскай курыяй. Фрыгольдэры, як гараджане, так і сяляне, якія цяпер сталі трымальнікамі зямлі ад караля, маглі прызывацца ў фірд. Трымальнікі “панцырнага лена” выконвалі свой вайсковы абавязак на працягу 40 дзён у гаду. Буйныя трымальнікі, бароны, выстаўлялі па загаду караля пэўную колькасць рыцараў, якія трымалі “панцырныя лены” ад іх.

Аднак ў цэлым англійскія справы не вельмі цікавілі Вільгельма І Заваёўніка. Прынамсі, апошнія 15 гадоў свайго праўлення ён бываў у Брытаніі дастаткова рэдка, прычым 5–7 гадоў не быў тут ні разу.

**Вільгельм ІІ Руды (1087–1100).** Перад смерцю Вільгельм і Заваёўнік падзяліў краіну на дзве часткі. Пры гэтым яго старэйшы сын Роберт атрымаў Нармандыю, а малодшы, Вільгельм, – Англію. Гэта, аднак, не супадала з інтарэсамі французскіх баронаў, якія прыбылі ў Англію ў складзе нармандскай арміі. Яны імкнуліся да максімальнай аўтаноміі ад каралеўскай улады ў сваіх уладаннях і таму выступалі за пераход кароны да Роберта, чалавека са слабым характарам і нерашучага. Але абодва баронскія паўстанні (1088 і 1095 гг.), накіраваныя супраць Вльгельма ІІ былі задушаны. Вельмі значную падтрымку пры гэтым манарху прадаставіла мясцовае англасаксонскае насельніцтва. У выніку кароль узяў адназначны курс на абмежаванне эканамічнай магутнасці баронаў. Рэльеф быў значна павышаны і стаў амаль роўны вартасці самога лена.

Асноўныя інтарэсы Вільгельма ІІ Рудага былі ў Нармандыі. Пасля сямігадовай вайны (1089–1096) герцагства было падпарадкавана, а Роберт ператварыўся ў саюзніка, цалкам залежнага ад брата, фактычнага правіцеля Нармандыі Вільгельма ІІІ (1096–1100).

У выніку імкнення караля паставіць пад свой кантроль царкву пачаўся востры канфлікт паміж ім і Ансельмам Кентэрберыйскім, які ў 1097 г. выехаў у Рым, пасля чаго кафедральная зямля перайшла да кароны.

**Генрых І (1100–1135).** У 1100 г. Вільгельма ІІ Рудага забілі падчас палявання. Галоўным прэтэндэнтам на англійскую карону лічыўся старэйшы сын Вільгельма І Заваёўніка Роберт. Але менавіты ў гэты час ён быў у Палесціне, у крыжовым паходзе. Таму каралём Англіі стаў яго малодшы брат Генрых.

5 жніўня, у дзень каранацыі, Генрых І выдаў “Хартыю свабод”, якая прадугледжвала наступныя крокі новага манарха. Па-першае, заяўлялася, што кіраванне будзе ажыцяўляцца паводле законаў Эдуарда Спаведніка. Гэта супадала з імкненнямі баронаў з ліку англічан. Але адначасова вызнаваліся і законы

Вільгельма І Заваёўніка, што падтрымлівалі бароны з ліку французаў. Па-другое, Генрых І скасаваў большую частку запазычанасці магнатаў. Па-трэцяе, кароль запрасіў Ансельма вярнуцца з Рыма ў Англію.

У цэлым "Хартыя свабод" адказвала інтарэсам большасці баронаў, таму, калі Роберт вярнуўся ў Англію, апазіцыі каралеўскай уладзе не было, і ён быў вымушаны вызнаць легітымнасць пераходу кароны да свайго малодшага брата і вярнуцца ў Нармандыю.

Роберта, аднак, гэта не выратавала. У 1106 г. яго армію разбілі англічане, а сам ён патрапіў у палон і правёў рэшту свайго жыцця за кратамі ва Уэльсе.

У наступным, 1107 г., пэўны поспех быў дасягнут у спробах кароны паставіць пад свой кантроль касцёл. Па пагадненні з Ансельмам Кентэрберыйскім прэлаты пры атрыманні зямель давалі амаж каралю.

**Міжусобная барацьба 1135–1154 гг.** Пасля смерці ў 1135 г. Генрыха І ў Англію тэрмінова прыбыў Стэфан, граф Блуа, яго пляменнік па лініі сястры Адэлы. У Лондане яго вызналі легітымным прэтэндэнтам (Вільгельм, адзіны законны сын караля, памёр у 1120 г., а перадаваць карону Матыльдзе, дачцы Генрыха, бароны не жадалі) і каранавалі ў прысутнасці двух біскупаў, асобных магнатаў і шматлікіх гараджан. У хуткім часе новы манарх выдаў дзве хартыі. Першая з іх пацвярджала правы баронаў і рыцараў, замацаваныя Эдуардам Спаведнікам і Генрыхам І. Другая абвяшчала юрыдычную аўтаномію рымска-каталіцкай царквы ў Англіі ад свецкай улады.

Аднак з перадачай кароны Англіі Стэфану не была згодна Матыльда. Яна была дастаткова вядомай жанчынай тагачаснай Еўропы – удава імператара Генрыха V, жонка Жофруа Плантагенета, графа Анжуйскага. Ужо ў 1138 г. стрыечны брат Матыльды, Роберт, граф Глостэрскі, пачаў на яе карысць паўстанне. У верасні 1139 г. у Англію прыбыла сама Матыльда. 2 лютага 1141 г. бароны-англічане выбралі яе валадаркай Англіі і Нармандыі (храніст піша наступнае: "in Angliae Normandiaeque dominam elegimus"). Матыльда пачала раздаваць тытулы і выдаваць хартыі.

У краіне пачалася міжусобная барацьба, якая цягнулася з пераменным поспехам аж да 1153 г. Урэшце рэшт у лістападзе было падпісана мірнае пагадненне, паводле якога карона пасля смерці Стэфана пераходзіла да Генрыха Плантагенета, сына Матыльды.

**Генрых ІІ Плантагенет (1154–1189).** Пасля смерці караля Стэфана ў 1154 г. да ўлады ў Англіі прыйшла новая дынастыя – Плантагенетаў, якая з'яўлялася малодшым адгалінаваннем нармандскай дынастыі. Генрых да таго, як атрымаў англійскую карону, стаў ужо герцагам Нармандыі (1150), графам Анжу, Мэн, Турэні (1151), герцагам Аквітаніі (1152). Першым крокам новага караля было выданне хартыі, якая пацвярджала царкве, баронам і рыцарам ўсе тыя правы і свабоды, якія ім гарантаваў Генрых І. Пасля гэтага кароль узяўся за рэалізацыю

ўласнай палітыкі.

Адзін з асноўных яе кірункаў – вырашэнне царкоўнага пытання. Справа ў тым, што пры Стэфане рымска-каталіцкая царква ў Англіі стала аўтаномнай ад каралеўскай улады, яе юрысдыкцыя ахоплівала значныя сферы прававых адносін, а значыць, па-за каралеўскай казной праходзілі вялікія грошы.

У кастрычніку 1163 г. Генрых II склікаў Вялікі савет з баронаў і рыцараў, дзе выступіў з прапановай падпарадкаваць клірыкаў свецкай юрысдыкцыі за выключэннем тых выпадкаў, якія тычыліся пазбаўлення сана. Супраць каралеўскай прапановы дастаткова рэзка выступіў кентэрберыйскі архіепіскап Томас Бэкет. Але пры падтрымцы свецкіх феадалаў прайшла каралеўская прапанова і ў студзені 1164 г. было выдана 16 артыкулаў “Кларэнданскіх пастаноў”.

Дакумент прадугледжваў наступнае: 1) спрэчкі пра царкоўны патранат перадаваліся на каралеўскі суд; 2) клірыкі, якія трымалі каралеўскія лены, не маглі без дазволу манарха пакідаць краіну; 3) ніводны васал караля не мог быць адлучаны ад царквы пакуль пра гэта не паведамяць каралю; 4) кароль меў права вышэйшай апеляцыі; 5) духоўныя васалы выконвалі такія ж павіннасці, як і свецкія; 6) вакантныя архіепіскаўствы, абатствы і прыарствы, размешчаныя на каралеўскіх даменіяльных землях пераходзілі да караля, які прымаў прысягу ад прэтэндэнтаў на гэтыя царкоўныя пасады.

Томас Бэкет зноў выступіў супраць. Але ў канцы 1164 г. артыкулы пачалі дзейнічаць. Бэкет збёг з Англіі і звярнуўся за дапамогай да папы рымскага. Калі ж у 1170 г. ён вярнуўся дамоў, то быў забіты (магчыма па загаду караля).

Тым часам абвастрылася становішча ў каралеўскай сям’і. Герцагіня Аквітаніі і каралева Англіі Элеанор была на 11 год старэйшая за свайго мужа, але яе жыццё ў шлюбе было дастаткова паспяховым. За 1153–1167 гг. яна нарадзіла восемь дзетак, у тым ліку чатырох сыноў – Генрыха, Жофруа, Рычарда, Джона.

У 1170 г. старэйшы сын, Генрых, назначаны сукіраўнікам караля, але рэальнай улады ён не меў. У 1173 г. ён пачаў паўстанне супраць бацькі, якое падтрымалі і члены каралеўскай сям‘і (Элеанор і прынцы), і суседнія манархі (Людавік VII, кароль Францыі, і кароль Шатландыі Вільгельм Леў). Перамога, аднак, была за Генрыхам II. Кароль жа дзеля ўздыму свайго аўтарытэту быў вымушаны выканаць укленчаны абрад пакаяння на магіле Бэкета (12 ліпеня 1174 г.).

Пасля царкоўных спраў Генрых II перайшоў да спраў вайсковых. У 1181 г. ён выдаў асізу (пастанову) пра зброю. Цяпер кожны свабодны чалавек быў абавязаны мець зброю, якая б адпавядала яго маёмасным магчымасцям. Від зброі вызначаўся прысяжнымі. Роля феадальнага апалчэння адыходзіла на другі план, тым больш што рыцарская служба ў пэўных выпадках замянялася грашыма (“шчытавыя грошы”), якія накіроўваліся на аплату наёмнага войска. На першае

месца зноў пачаў выходзіць амаль забыты фірд. А гэта, у сваю чаргу, азначала меншую залежнасць караля ад баронаў.

У канцы 80-х гадоў XII ст. адносіны паміж Генрыхам і яго сынам Рычар-дам рэзка абвастрыліся. У 1188 г. апошні даў амаж каралю Францыі Філіпу II Аўгусту за англійскія ўладанні на кантыненце. У 1189 г. ён прымусіў бацьку вызнаць сябе спадчыннікам.

**Рычард I Львінае Сэрца (1189–1199).** Вельмі моцны ўдар па пазіцыях каралеўскай улады, якія пачалі ўзмацняцца пры Генрыху II, і па англійскай фінансавай сістэме нанесла праўленне караля Рычарда I Львінае Сэрца. Англійскія справы яго не цікавілі. Прынамсі, з 10 гадоў праўлення ён правёў у Англіі не больш паўгода. Адзінай мэтай караля стаў удзел у Трэцім крыжовым паходзе. На зваротным шляху Рычард патрапіў у палон да свайго асабістага ворага Леапольда V, герцага Аўстрыі, які перадаў яго імператару Генрыху VI. Апошні вызваліў караля за велічэзны выкуп у 150 тыс. марак серабра (1194). Пасля гэтага грошай у англійскай дзяржаўнай казне амаль не заставалася. Загінуў Рычард I Львінае Сэрца ў 1199 г. у Францыі падчас войнаў з Філіпам II Аўгустам.

**Джон Беззямельны (1219–1216).** Новым каралём стаў малодшы сын Генрыха II Джон. Падчас вайны з Францыяй 1202–1204 гг. ён страціў англійскія кантынентальныя ўладанні (Нармандыя, Анжу, Мэн, Турэнь, Пуату), за што атрымаў ад сучаснікаў мянушку Беззямельны.

Імкненне вярнуць сабе гэтыя тэрыторыі наканавала ўсю наступную па-літыку манарха. Англія вяла няспынныя войны супраць Францыі, што прыво-дзіла да росту падатковага ціску (напрыклад, толькі ў 1210 г. кароль, як пад-крэсліў храніст, спагнаў “незлічоны падатак”, Нікалас дэ Статвіль заплаціў у 1205 г. рэльеф памерам у 10 тыс. марак за землі свайго брата). Акрамя таго, войны выклікалі незадавальненне англійскіх баронаў, якія ў 1213 г. пайшлі на адкрытае выступленне. Пры гэтым было заяўлена, што васалы маюць служыць англійскаму каралю выключна на зямлі Англіі.

Адначасова пачалося абвастрэнне адносін з папам рымскім. Канфлікт пачаўся ў 1207 г., калі кароль Джон адмовіўся вызнаць паўнамоцтвы Стэфана Лэнгтана, якога папа рымскі Інакенцій III назначыў архіепіскапам Кэн-тэрберыйскім. У адказ на гэта ў 1208 г. папа абвясціў Англіі інтэрдыкт. У 1209 г. ён заявіў пра нізлажэнне Джона Беззямельнага. У 1212 г. правы на англійскую карону былі перададзены каралю Францыі Філіпу II Аўгусту.

У гэтых варунках кароль Джон здаўся. У 1213 г. ён вызнаў васальную залежнасць ад папы рымскага і пачаў плаціць 1000 марак серабра штогадова. У 1214 г. інтэрдыкт быў зняты.

**“Вялікая хартыя свабод”.** Стэфан Лэнгтан пасля замацавання на Кэнтэрберыйскай архіепіскапскай кафедры, вырашыў паставіць пад свой кантроль і свецкую ўладу. Абапіраўся ён пры гэтым на баронаў, незадаволеных

паборамі караля.

25 жніўня 1213 г. на таемнай нарадзе магнатаў і вышэйшага кліра ён заявіў, што быццам была знойдзена нейкая невядомая раней хартыя Генрыха I, якая дазваляе аднавіць усе былыя правы і свабоды. Гэтая сфальсіфікаваная грамата з‘явілася яшчэ адзін раз у лістападзе 1214 г. на таемнай нарадзе баронаў і графаў у касцёле св. Эдмунда ў Эдмандсбэры. Усе ўдзельнікі нарады прысягнулі выступіць супраць караля, калі той адмовіцца ад аднаўлення іх прывілей.

На бліжэйшыя Каляды да караля Джона прыйшлі магнаты, якія перадалі свае патрабаванні. Кароль заявіў, што ён абмяркуе гэтае пытанне, але яму патрэбны час, і папрасіў вызначыць тэрмін да Вялікадня. Магнаты згадзіліся. Але кароль у хуткім запатрабаваў, каб усе свабодныя жыхары Англіі далі яму васальную прысягу.

На Вялікдзень 1215 г. у Стэмфардзе сабралася каля дзвюх тысяч рыцараў, якіх склікаў архіепіскап Кэнтэрберыйскі Стэфан. Прадстаўнікі баронаў зноў звярнуліся да караля, але безвынікова. Аднак іх падтрымалі лонданцы.

9 чэрвеня баронская армія заняла англійскую сталіцу. Адсюль разаслалі лісты тым магнатам, якія захавалі вернасць каралю, з запрашэннем на агульны сход, што адбыўся 15 чэрвеня на лузе паміж Стэндам і ўіндзарам. Тут Джон Беззямельны падпісаў баронскія артыкулы – Capitula que barones petunt, якія пазней былі перапрацаваны ў “Вялікую хартыю свабод” (Magna Charta Libertum).

“Вялікая хартыя свабод” пацвярджала ўсе ранейшыя правы касцёла, абмяжоўвала паўнамоцтвы караля пры спагнанні шчытавых грошай і васальнай дапамогі. У апошнім выпадку грошы можна было атрымаць толькі са згоды савета каралеўства за выключэннем палону, шлюбу старэйшай дачкі і па-свячэння ў рыцары старэйшага сына. Кароль не мог умешвацца ў юрысдыкцыю баронскіх курый. Акрамя таго, пацвярджаліся правы і свабоды Лондана, такія ж правы набывалі і астатнія гарады і бургі Англіі. Кожнаму свабоднаму чалавеку гарантаваўся суд па законах краіны і па воле роўных яму людзей. Па сутнасці, гэта азначала стварэнне для баронаў асобнага саслоўнага суду.

Кантроль над выкананнем “Вялікай хартыі свабод” перадаваўся калегіі з 25 баронаў, якія мелі права ў выпадку яе парушэння каралеўскай уладай “падняць супраць караля ўсё насельніцтва краіны”.

Значэнне дакумента для англійскай гісторыі было неадназначным. З аднаго боку ён фактычна так і не быў рэалізаваны на практыцы ў поўным аб’ёме, а з другога боку пераемнікі Джона Беззямельнага, англійскія каралі XIII ст., пацвярджалі яго. А гэта значыць, што Хартыя з‘яўлялася актыўным фактарам сацыяльна-эканамічнага жыцця.

У хуткім часе кароль Джон скасаваў “Вялікую хартыю свабод”, вайна пачалася зноў.

**Генрых III (1216–1272).** Пасля смерці ў 1216 г. Джона Беззямельнага

англійская карона перайшла да яго дзевяцігадовага сына Генрыха. Малы ўзрост манарха не спрыяў умацаванню каралеўскай улады. Тым больш, што прыдворныя ўзялі адназначны курс на ўсталяванне трывалага саюзу з папскай курыяй. Час ад часу папа рымскі браў грошы з каралеўскай казны, быццам з уласнай. Нарэшце, у 1258 г. у Вялікім савеце каралеўства Генрых III ад імені папы рымскага выступіў за перадачу курыі 1/3 ўсёй маёмасці краіны, як рухомай, так і не рухомай. Дадзеная фінансавая аперацыя разглядалася як плата за юрыдычную перадачу Эдмунду, малодшаму сыну Генрыха III, сіцылійскай кароны, якая пакуль была ў Гогенштаўфенаў і якую яшчэ трэбы было заваёўваць.

30 красавіка 1258 г. да караля прыйшла дэпутацыя баронаў, прычым удзельнікі яе былі са зброяй. Бароны прапанавалі тэрмінова правесці рэформы і выбраць дзеля гэтага камітэт з 24 чалавек. 2 мая каролл даў неабходную санкцыю. Наступны Вялікі савет было вырашана склікаць у чэрвені ў Оксфардзе. Лідэры баронаў на чале з Сімонам дэ Манфорам вырашылі, што ў выпадку невыканання каралём дасягнутых дамоўленнасцяў яны разам выступяць супраць яго.

Вялікі савет у Оксфардзе пачаў свае пасяджэнні ў вызначаны тэрмін, прычым магнаты прыйшлі разам з буйнымі атрадамі. У выніку былі прыняты так званыя “Оксфардскія правізіі”, якія пацвердзілі “Вялікую хартыю свабод” і стварылі савет з 15 баронаў. Функцыяй савета быў кантроль над дзеяннямі караля і, у прыватнасці, над яго кадравай палітыкай (назначэннем вышэйшых службовых асоб). Для рашэння найбольш важных пытанняў кароль павінен быў звяртацца да Вялікага савета з 27 чалавек (Савет Пятнаццаці і 12 прадстаўнікоў ад рыцараў і гарадоў, якіх выбіралі бароны). 18 кастрычніка кароль Генрых III і яго сын Эдуард пагадзіліся выконваць умовы “Оксфардскіх правізіяў”.

28 сакавіка 1259 г. Вялікі савет выдаў ардананс, паводле якога члены савета бралі на сябе такія ж самыя абавязкі адносна сваіх васалаў, якія кароль меў адносна сваіх. Такога нахабства Генрых III не вытрымаў і заявіў, што больш не будзе выконваць “Оксфардскія правізіі”. Кароль звярнуўся за дапамогай да папы рымскага. Апошні ў 1262 г. вызваліў яго ад клятвы, якую той даў баронам. У 1263 г. Сімон дэ Манфор пачаў вайну супраць манарха. Баявыя дзеянні цягнуліся да канца года. Нарэшце абодва бакі вырашылі звярнуцца да трацейскага суда. Але выбраны на гэтую ролю французскі кароль Людовік IX заявіў, што “Оксфардскія правізіі” трэба скасаваць. Бароны лічылі інакш, таму вайна працягвалася.

17 мая 1264 г. у бітве пры Люісе бароны перамаглі. Генрых III і прынц Эдуард патрапілі ў палон, дзе вымушаны былі падпісаць пагадненне, якое перадавала вышэйшую ўладу ў краіне камісіі з трох суддзяў, якія фарміравалі склад вышэйшых службовых асоб. Фактычна Англія перайшла пад уладу Сімона дэ Манфора.

22 чэрвеня 1264 г. У Лондане быў скліканы Вялікі савет, у пасяджэннях якога, акрамя баронаў і прэлатаў, удзельнічалі рыцары, па чатыры ад графства. 20

студзеня 1265 г. быў скліканы яшчэ адзін Вялікі савет, дзе, акрамя баронаў і прэлатаў, было па два рыцара ад графства і па два прадстаўніка ад горада. Менавіта гэты Вялікі савет па традыцыі лічыцца першым англійскім парламентам. Аднак першым мадэльным парламентам быў парламент 1295 г.

Тым часам прынц Эдуард здолеў збегчы з палону. У хуткім часе ён стаў на чале каралеўскай арміі і 4 жніўня 1265 г. разграміў баронаў. Сімон дэ Манфор загінуў, яго армія была фактычна знішчана. Апошнія ачагі супраціўлення баронаў зніклі ў 1266 г.

Кароль аднавіў уладу па ўсёй тэрыторыі Англіі, вярнуў сабе ўсе былыя ўладанні, дакументы перыяду кіравання баронаў вызнаваліся несапраўднымі. Адначасова Генрых ІІІ выявіў сябе дастаткова гнуткім палітыкам. Ён не імкнуўся да канчатковага і поўнага знішчэння палітычных супраціўнікаў. Таму прыхільнікі Сімона дэ Манфора атрымалі магчымасць, пры ўмове выяўлення лаяльнасці да каралеўскай улады, вярнуць сабе канфіскаваную маёмасць.

**Эдуард І (1272–1307).** Пасля разгрому апазіцыі баронаў і ўзмацнення пазіцый каралеўскай улады новы манарх пачаў актыўную знешнюю экспансію, накіраваную супраць суседніх краін – Уэльса і Шатландыі.

У першым рэгіёне найбольш моцным было княства Гвінед на чале з Лівелінам ап Грыфітам Апошнім (1246–1283), адзіным валійскім правіцелем, якога англічане афіцыйна вызнавалі прынцам Уэльскім. У гады грамадзянскай вайны ён быў саюзнікам Сімона дэ Манфора, пасля яе заканчэння прызнаў свой васалітэт ад Генрыха ІІІ. Гвінед заваявалі англічане ў 1276–1277 гг. У 1282 г. Лівелін і яго брат Давід пачалі нацыянальна-вызваленчае паўстанне, якое, аднак, было задушана ў 1283 г. Пры гэтым старэйшы брат загінуў, а малодшага павесілі і чацвертавалі (упершыню ў англійскай юрыдычнай практыцы).

Падчас войнаў з валійцамі англічане перайшлі да новай тактыкі бою – сумесеных дзеянняў атрадаў стралкоў з вялікага лука і рыцарскай конніцы. Лучнікі пры гэтым прабівалі брэшы ў пяхоце праціўніка, куды потым урывалася конніца. У 1301 г. Уэльс у якасці лена быў перададзены сыну Эдуарда І, які адпаведна атрымаў тытул "прынц Уэльскі". У наступным дадзены тытул замацаваўся за спадчыннікам англійскай кароны.

Пасля смерці караля Шатландыі Аляксандра ІІІ ў 1286 г. на карону прэтэндавала 13 чалавек, але найбольшыя шанцы былі ў двух: Джона дэ Баліоля і Роберта дэ Бруса. Першы з іх стаў каралём і прысягнуў Эдуарду І. Аднак пасля таго, як кароль Англіі пачаў патрабаваць ад шатландцаў вайсковай службы ў Францыі, у Шатландыі пачалося паўстанне. У 1295 г. шатландцы падпісалі саюз з Францыяй, у 1296 г. краіна была акупіравана англійскім войскам. Адказам на акупацыю стала новае паўстанне, якое перарасло ў вайну за незалежнасць 1297–1314 гг.

**Сістэма кіравання.** Нармандскае заваяванне Англасаксонскай дзяржавы

прывяло да фарміравання дастаткова арыгінальнай сістэмы кіравання, асабліва ў XII ст., вядомай у англійскай гістарыяграфіі як "эпоха юстыцыяраў". Інстытут юстыцыярыяў з' явіўся ў Англіі падчас кіравання Генрыха I. Справа была ў тым, што манархі праводзілі ў краіне не вельмі шмат часу. Сам Генрых I правёў па-за межамі Англіі амаль палову свайго праўлення, Генрых II быў у Англіі агульным лікам 13 гадоў з 34 год свайго праўлення, Рычард I Львінае Сэрца – не больш за паўгода. У выніку англа-нармандскай дзяржавай пры адсутнасці караля ў адной з частак краіны або пры яго ўдзеле ў крыжовым паходзе, выканаўчая ўлада пераходзіла да юстыцыяра Англіі ці Нармандыі. Пасля страты Нармандыі англійскі кароль ператварыўся ў "дамаседа" (stay-at-home monarch), а інстытут юстыцыяраў стаў палітычным анахранізмам, пакуль не знік у другой палове XIII ст.

У другой палове XIII ст. у асноўных рысах сфарміравалася сістэма кі-равання Англіяй як цэнтралізаванай нацыянальнай дзяржавай. На чале краіны стаяў кароль. Пры ім дзейнічаў савет (curia regis), у склад якога ўваходзілі 20 – 30 магнатаў і прэлатаў, а таксама прадстаўнікі каралеўскай адміністрацыі. Цэнтральную выканаўчую ўладу рэпрэзэнтавала ведамства канцлера, захавальніка каралеўскай пячаткі, які адказваў за справаводства караля і курыі. Справаводства стала больш упарадкаваным. Пачынаюць збірацца копіі хартый, грамат, судовых рашэнняў курыі. Магнаты, члены курыі, абавязкова прысягалі каралю.

Акрамя таго, перыядычна склікаўся магнацкі Вялікі савет (magnum concilium) і саслоўна прадстаўнічны орган улады – парламент. Апошні быў аднапалатным. На яго пасяджэнні асабістымі лістамі караля запрашаліся магнаты і прэлаты, а таксама выбраныя на мясцовых сходах прадстаўнікі гарадоў (па 2 чалавекі) і графстваў (па 2 рыцара). У 1297 г. Эдуард I даў згоду на атрыманне парламентам права ўдзельнічаць у вызначэнні падаткаў. Паступова пачынае акрэслівацца тэндэнцыя, накіраваная на зліццё Вялікага савета і магнацкай часткі парламента.

Мясцовая ўлада з судовымі, ваеннымі і адміністрацыйнымі функцыямі была рэпрэзэнтавана шэрыфамі ў графствах і бейліфамі ў сотнях. Ніжэйшая юрысдыкцыя належала манарыяльным курыям.

Матэрыяльным падмуркам каралеўскай улады, акрамя каронных ула-данняў, была фіскальная сістэма, якую складалі прамыя падаткі на рухомую маёмасць (1/10, 1/15, 1/20 часткі і г. д.) і ўскосныя падаткі. Фінансавая сістэма кіравалася "палатай шахматнай дошкі", якая вылучылася з каралеўскай курыі ў асобнае ведамства. Назва палаты звязана з прынцыпам арганізацыі падліку грошай. Чыноўнікі сядзелі за спецыльным сталом, які быў пакрыты абрусам у клетку. Падлік рабілі пры дапамозе жэтонаў, якія ў залежнасці ад пазіцыі азначалі і 1, і 10, і 10 000 фунтаў стэрлінгаў. Усё гэта нагадвала гульню ў шахматы, асабліва, калі жэтоны перасоўвалі.

***Сацыяльна-эканамічнае развіццё.*** Як і раней, пануючым сектарам англійскай эканомікі, які ахопліваў больш 90 % насельніцтва, быў аграрны. Пра становішча, якое там склалася ў першыя дзесяцігоддзі пасля нармандскага заваявання, дазваляе зрабіць пэўныя высновы так званая “Кніга Страшнага суда” – матэрыялы ўсеанглійскага пазямельнага перапісу 1086 г. Тут ёсць інфармацыя пра памеры манораў, размеркаванне ворнай зямлі, жывога і мёртвага інвентару паміж даменам і гаспадаркамі сялян-трымальнікаў, пра колькасць трымальнікаў, іх юрыдычны і маёмасны статус. Зыходзячы з матэрыялу перапісу можна зрабіць выснову, што манор прыняў завершаны выгляд. Прынамсі, у канчатковым варыянце “Кнігі Страшнага суда” адзінкай уліку з‘яўляецца ужо вёска, а менавіта манор.

Сяляне-трымальнікі дзяліліся на некалькі катэгорый. Асабіста залежнае сялянства рэпрэзэнтавалі віланы, бардарыі і катарыі. Віланы мелі поўны надзел зямлі, віргарту (30 акраў), або частку надзела і частку ў абшчынных уладаннях. Яны выконвалі паншчыну і плацілі натуральны і грашовы аброк. Бардарыі мелі надзел у 7–15 акраў і таксама выконвалі паншчыну і плацілі аброк. Катарыі (пазней – котэры) мелі 2–3 акра, працавалі на лорда і выконвалі розныя дапаможныя работы (пастухі, вясковыя кавалі, цесляры). Асабіста свабоднымі трымальнікамі былі фрыгольдэры, якія плацілі невялікую грашовую рэнту і выконвалі лёгкія павіннасці. Абшчынныя землі афіцыйна ўваходзілі ў склад манора, хаця імі карысталіся сяляне. Кіравалі манорамі панскія аканомы (сцюарты). У прававым плане ўсе жыхары манора, і асабіста свабодныя, і асбіста залежныя, знаходзіліся пад юрысдыкцыяй манарыяльнага суда.

У XIII ст. шырока разгортваецца ўнутранная каланізацыя, якая злучалася з інтэнсіфікацыяй сельскай гаспадаркі. У выніку павышаецца ўраджайнасць збожжавых культур і расшыраецца паша для авечак. Апошняя тэндэнцыя была таксама звязана з ростам попыту на збожжа і воўну ў Фландрыі і Італіі. Сельскагаспадарчы экспарт, у які вёска ўцягвалася часта незалежна ад гарадоў, стымуляваў развіццё таварна-грашовых адносін.

У выніку ў англійскай вёсцы ў XIII ст. аформіліся дзве процілеглыя тэндэнцыі. Першая была звязана з камутацыяй рэнты і асабістым вызваленнем сялянства. Рэалізоўвалася яна ў дробных і сярэдніх манорах. У буйных манорах рэалізоўвалася тэндэнцыя, накіраваная на расшырэнне панскіх палёў за кошт пустэчаў і абшчынных зямель, паншчына тут павялічвалася, паны перашкаджалі асабістаму вызваленню сялян.

Што да гарадской эканомікі, то “Кніга Страшнага суда” налічвае ў Англіі да ста гарадоў. Найбольш буйныя (Лондан, Ёрк, Глостэр, Чэстэр, Брыстоль) былі размешчаны на каралеўскіх даменіяльных землях. Гэтая акалічнасць мела не толькі станоўчы бок (гарантаваную падтрымку з боку цэнтральнай улады), але і адмоўны. Камунальны рух у гэтых варунках быў практычна немагчымым, таму

ніводны з англійскіх гарадоў не набыў аўтаноміі. Змены ў іх прававым становішчы звязаны з удзелам гараджан у розных выступленнях магнатаў супраць каралеўскай улады.

Пасля нармандскага заваявання англійскія купцы атрымалі вельмі добрыя гандлёвыя базы на кантыненце, што актывізавала экспартныя аперацыі. У Еўропу акрамя збожжа і воўны паступала волава, жывёла, скуры. У XII ст. значна вырас абарот унутрыанглійскіх кірмашоў (Вінчэстэр, Бостан, Ёрк, Стэмфард), якія пачынаюць наведваць купцы з Фландрыі, Германіі, Італіі. Эканамічнаму развіццю Англіі спрыяла таксама ўвядзенне адзінай манеты ў XII ст. і адзінай сістэмы мер і вагі ў XIII ст.

## § 13. Францыя

**Першыя Капетынгі. Феадальная раздробленасць.** Палітычная гісторыя Францыі пачынаецца з IX ст., з моманту заключэння знакамітага Вердзенскага дагавору (843 г.), які падзяліў дзяржаву франкаў — імперыю Карла Вялікага — паміж яго ўнукамі (сынамі Людовіка Благачасцівага) на тры часткі: Заходнефранкскае каралеўства, Усходнефранкскае каралеўства і каралеўства Латара.

Каралеўствы, якія ўзніклі ў 843 г. паклалі пачатак тром асноўным дзяржавам Заходняй Еўропы, а менавіта Францыі (на захадзе), Германіі (на ўсходзе) і Італіі (на поўдні).

Заходнефранкскае каралеўства (ці Францыя, як яна пачала называцца з X ст. па назве вобласці Іль-дэ-Франс, што размясцілася паміж Парыжам і Арлеанам), дасталася (у 843 г.) Карлу Лысаму.

На працягу X ст. за карону Францыі ішла бесперапынная і жорсткая барацьба паміж апошнімі Каралінгамі (намінальна правілі з IX ст.) і багатымі графамі Парыжскімі (Раберцінамі). У 987 г. пасля смерці бяздзетнага Каралінга Людовіка V на з’ездзе духоўных і свецкіх сеньёраў каралём Францыі выбралі прадстаўніка Раберцінаў – герцага (“вялікі герцаг Францыі”, як ён называўся) Іль-дэ-Франса Гуга Капет(987–996). Гэта прозвішча Гуга атрымаў за любімы ім галаўны ўбор.

На змену дынастыі Каралінгаў прыйшла новая і, мабыць, першая сапраўды французская дынастыя – дынастыя Капетынгаў, прамая лінія якой заставалася на французскім прастоле да 1328 г., а нашчадкі па бакавой лініі і пазней – да 1848 г.

Францыя X–XI ст. была слабай і параўнальна невялікай дзяржавай і не мела тых межаў, у якіх існуе зараз. Тэрыторыя сучаснай Францыі фактычна распалася на рад самастойных уладанняў.

Галоўнымі з якіх былі:

- на поўначы – герцагствы Нармандыя, Брэтань і графства Фландрыя;
- на ўсходзе – графства Шампань, герцагства Бургундыя

- на захадзе і па¢днёвым захадзе – графствы Анжу, Пуату, герцагства Аквітанія, графства Тулузскае (Лангедок);
- у цэнтры – герцагства Французскае, потым Іль-дэ-Франс (“Востраў Францыі”, ці Францыя ў вузкім сэнсе слова) – тэрыторыя па сярэднім цячэнні р. Сены і р. Луары, паміж Парыжам і Арлеанам, ці дамен Капетынгаў.

Драбленне французскай тэрыторыі на больш ці менш буйныя герцагствы і графствы (і нават гэтых апошніх на яшчэ больш дробныя феадальныя ўладанні) прывяло да стварэння палітычнай структуры, атрымаўшай назву “феадальная раздробленасць”.

Асабістыя валоданні (дамен) першых Капетынгаў — Гуга Капета і яго бліжэйшых пераемнікаў – наступных трох Капетынгаў: Роберта Благачасцівага (996–1031), Генрыха I (1031–1060) і Філіпа (1060–1108) былі вельмі сціплымі, але як выявілася ў далейшым, землі Капетынгаў знаходзіліся вельмі ўдала: іх тэрыторыю, сціснутую сярод другіх цалкам незалежных абласцей, адрознівалі цудоўныя прыродна-геаграфічныя ўмовы, а менавіта наяўнасць урадлівых зямель, паўнаводных рэк, сухапутных дарог, а таксама высокая для сярэдневякоўя шчыльнасць насельніцтва.

Каралеўская ўлада першых Капетынгаў была слаба. Па сутнасці, першыя Капетынгі з’яўляліся толькі “першымі сярод роўных”, г. зн. не мацнейшыя, а часта слабейшыя за многіх буйных феадалаў, нават сваіх непасрэдных васалаў.

Казна Капетынгаў была невялікай. Кароль збіраў даходы толькі ў сваім дамене і, галоўным чынам, натурай. Акрамя таго, Капетынгі спаганялі судовыя штрафы, атрымлівалі дары ад манастыроў і духавенства.

Пастаяннай сталіцы ў першых Капетынгаў не было і, фактычна, яны вялі качавое, паўбадзяжнае жыццё, пераязджаючы са сваёй світай з аднаго маёнтка ў другі, карыстаючыся правам пастою. З канца X ст. каралеўскі двор часцей знаходзіўся ў Парыжы. Некаторы час галоўнай рэзідэнцыяй першых Капетынгаў лічыўся Арлеан.

У эпоху першых Капетынгаў (X–XI ст.) Францыя не была адзіным цэлым не толькі палітычна, але і этнічна.

Поўнач і поўдзень Францыі размаўлялі на розных раманамоўных дыялектах. Моўная мяжа поўначы і поўдня праходзіла крыху на поўдзень ад Луары, па лініі Пуацье – Ліон.

Поўдзень Францыі (Праванс, Аквітанія, Беарн, Лімузен і інш.) разма¢ля¢ на мове “лангедок” (Langue d’oc), поўнач – на мове, якая насіла назву “лангедойль” (“Langue d’oil) (паколькі слова “да” вымаўлялася на поўдні як “ок” (“oc”), на поўначы як “ойль” (“oil”). З гэтай прычыны чаго паўночную частку Францыі часта называлі Лангедойль, а паўднёвую – Лангедок.

Уся паўночная палова Францыі (выключна Брэтань, якая размаўляла на

кельтскай мове) уяўляла сабой тэрыторыю паўночна-французскай народнасці, паўднёвая – правансальскай (ці паўднёва-французскай). На ускраінах пражывала нераманскае (у сваёй большасці) насельніцтва: на крайнім паўднёвым захадзе, у Гасконі – баскі; на крайнім паўночным захадзе, у Брэтані – кельты; на поўначы, у Фландрыі – германа-моўныя фламандцы.

Па-сапраўднаму з каралём Капетынгам лічыліся толькі на паўночным усходзе. Можна нават сказаць, што першыя Капетынгі з’яўляліся гасударамі паўночна-ўсходняга рэгіёна, хоць, як мы ўжо адзначалі, улада караля ў асноўным была распаўсюджана на Іль-дэ-Франс.

За межамі дамена ўлада Капетынгаў прызнавалася толькі таму, што яны з’яўляліся вярхоўнымі сеньёрамі (сюзерэнамі) і ўзначальвалі феадальную іерархію.

Такія паўночныя тэрыторыі, як герцагства Нармандыя, герцагства Брэтань, графства Фландрыя, былі толькі па імені васаламі караля, а фактычна незалежнымі (мелі права збіраць падаткі, пачынаць войны, чаканіць сваю манету і г. д.).

Але тым не менш на поўначы Францыі, дзякуючы сістэме сеньярыяльна-васальных сувязяў, якія склаліся да XI ст., існавала пэўнае (хоць і вельмі падманлівае) палітычнае адзінства, і ў захаванні гэтага адзінства, заснаванага на структуры феадальнай іерархіі, былі зацікаўлены ўсе – і кароль, і асобныя феадалы.

Што да феадалаў паўднёвай і паўднёва-заходняй Францыі, то яны наогул не прызнавалі ўладу Капетынгаў і паводзілі сябе вельмі незалежна. Так, герцагі Аквітаніі называлі сябе “гарцагамі Аквітанскай манархіі” і ведаць Капетынгаў не жадалі.

Ужо першыя Капетынгі паставілі перад собой мэту – стварыць моцную адзіную Францыю з цвёрдай уладай манарха. І пачалі са свайго дамена, у якім, – знайшоўшы моцных саюзнікаў у асобе духавенства, а пазней гарадоў – выступілі супраць непакорных васалаў.

Потым Капетынгі зрабілі першы крок да збірання зямель Францыі: яны збавіліся ад створанага сеньёрамі звычая выбіраць каралёў і зрабілі прастол унаследаваным, г.зн. яшчэ пры жыцці Капетынгі прызначалі сабе пераемнікаў (у асобе старэйшага сына), і кожны з іх стараўся да сваёй смерці дабіцца прызнання свайго пераемніка каралём, для чаго ў Рэймсе (дзе калісьці хрысціўся першы франкскі кароль Хлодвіг) павінна была прайсці цырымонія памазання новага караля.

**Французскае грамадства і яго структура.** Раздумваючы над уладкаваннем соцыўму, чалавек сярэдневякоўя стварыў тэорыю трох саслоўяў: oratores (тыя, хто моляцца, духавенства); bellatores (тыя, хто ваюе, рыцары-феадалы); laboratores (тыя, хто працуе: у асноўным сяляне).

Першае ўпамінанне аб гэтай схеме адносіцца да IX ст. Але дасканальна трохчастковая мадэль грамадства была распрацавана пазней, у IX ст. епіскапамі з Паўночнай Францыі Герардам з Камбрэ і Адальберонам з Лана.

Трэба заўважыць, што XI ст. для Францыі ў многіх адносінах было знамянальным. Так, побач з тэорыяй трох саслоўяў да XI ст. у Францыі ўсталёўваецца феод і складваецца сістэма ўзнагароджвання ўмоўнымі зямельнымі ўтрыманнямі (феодамі). У XI ст. заканчваецца афармленне галоўных класаў феадальнай Францыі – дваранства (феадалы) і сялянства.

Да канца XI ст. французскае дваранства (ці набілітэт) вырасла колькасна, поўнасцю адлучылася ад іншых слаёў грамадства і ператварылася ў замкнёную прывілеяваную групу. Прычым працэс афармлення пануючага свецкага слоя — феадальнага дваранства – прайшоў у Францыі хутчэй, а галоўнае – адрозніваўся вялікай закончанасцю ў адрозненне ад другіх краін Заходняй Еўропы.

Далей трэба адзначыць, што да XI ст. пасля пэўнай эвалюцыі, свае клаісічныя рысы набыло французскае рыцарства (miles). Яно ператварылася ў асобы слой дваранства. Рыцарамі не нараджаліся, нават кароль. Імі станавіліся пасля цырымоніі пасвячэння.

Аднак рэчаіснасць была такой, што практычна ўсе феадалы Францыі станавіліся рыцарамі і лічылі сябе “цветам” свету.

У канцы XI ст. французскі набілітэт распаўся на некалькі груп. Фактычна, ён падзяліўся на вышэйшы і ніжэйшы слаі знаці. Да вышэйшага належаць шатэлены (уладальнікі замка), бароны і гаспадары буйных тэрыторый (напрыклад, герцаг Нармандыі, Брэтані, Бургундыі, а таксама кароль).

Ніжэйшым слоем лічыліся простыя рыцары ці рыцарская беднота, якая не мела сваіх замкаў-крэпасцей, так званыя “аднашчытныя” рыцары.

Адметныя рысы французскага дваранства:

- паходжанне ад знатных продкаў, г. зн. высокароднасць: прыналежнасць да прывілеяванай группы, якая вызначалася нараджэннем;
- валоданне зямлёй, манаполія на зямлю;
- валоданне судова-сеньярыяльнымі правамі ў адносінах да залежных людзей (сялян);
- спецыфічная грамадская функцыя феадалаў – прафесійны занятак ваеннай справай, ваенная служба.

Ужо пры першых Капетынгах у феадальным асяроддзі Францыі склалася іеархія (іерархічная лесвіца) ўладальнікаў ф’ефаў (ад аднашчытных рыцараў да караля), пабудаваная па вертыкалі; аформіліся васальныя сувязі.

Феадальная іеархія аб’яднала ўсіх феадалаў, паколькі кожны з іх уключаўся ў яе як васал якога-небудзь сеньёра і як сеньёр якога-небудзь васала. Сеньёрам лічыўся той, хто прадстаўляў феод ва ўладанне, васалам – той, хто яго браў.

Вярхоўным сеньёрам (сюзерэнам) быў кароль (дарэчы, сістэма

ўзнагароджвання феодамі ў многім узнікла таму, што першыя Капетынгі не мелі вялізнай казны і не маглі ўзнагароджваць сваіх прыбліжаных за службу нічым, акрамя зямельных уладанняў). Яго ф’ефам лічыўся дамен Капетынгаў.

На Поўначы феадальная іеархія дасягнула найбольшай складанасці. У выніку разгалінавай сістэмы субінфеадацыі (г.зн. перадачы сеньёрамі часткі сваёй зямлі васалам ва ўладанне) вялікія зямельныя ўладанні драбіліся і пераходзілі да больш дробных уладальнікаў.

Згодна з прававым звычаем, існаваўшым у Францыі, кароль быў сеньёрам толькі для сваіх непасрэдных васалаў – герцагаў і меў над імі фармальны сюзерэнітэт. Васалы герцагаў каралю не падпарадкоўваліся – у Францыі (і толькі тут) дзейнічала прававая норма “Васал майго васала – не мой васал”.

Да XI ст. феадалы Францыі манапалізавалі ўсю ўласнасць на зямлю (у краіне дзейнічала норма “Няма зямлі без сеньёра”), а таксама правам баналітэта.

Маючы манаполію на зямлю, французскія сеньёры сканцэнтравалі ў сваіх руках важкую палітычную ўладу, галоўным рычагом якой было права судаводства. Буйныя сеньёры да таго ж валодалі правам вышэйшай юрысдыкцыі.

У канцы XI ст. буйнейшыя феадалы Францыі перадалі частку сваіх паўнамоцтваў (і вельмі істотную) уладальнікам замкаў, якія пачалі будавацца ў Францыі з IX ст. Аднак ільвіная доля добра ўмацаваных замкаў-крэпасцей узнікла толькі ў X–XI ст. (гэты працэс атрымаў назву інкастэламента, г. зн. “азамкаванне”). Замак быў сімвалам незалежнасці феадалаў і сродкам панавання над сялянамі акругі. Увядзенне замкаў было выклікана пастаяннымі войнамі, набегамі (напрыклад, нарманаў) і страхам перад сялянскімі хваляваннямі.

І нарэшце, у XI ст. закончылася фарміраванне залежнага сялянства.

Рэчаіснасць была такой, што ў X–XI ст. асноўная маса французскага сялянства знаходзілася ў той ці іншай форме залежнасці, як правіла, пазямельнай ці асабістай. Сяляне Францыі падзяляліся на два разрады – віланаў і сервэў. Першыя, г. зн. віланы – людзі асабіста вольныя, якія знаходзіліся ў пазямельнай залежнасці, – трымалі свой надзел зямлі ад мясцовага сеньёра і з’яўляліся карыстальнікамі (трымальнікамі) гэтага надзелу. Карыстанне магло быць вечным, спадчынным, часовым, пажыццёвым, тэрміновым. За зямлю віланы неслі рэнту да XII ст., у асноўным адпрацоўную (г. зн. паншчыну).

Большую частку залежнага сялянства складалі сервы — асобы, якія знаходзіліся ў пазямельнай, асабістай і судзебнай залежнасці ад сеньёра.

Сервы падзяляліся на дзве катэгорыі:

- якія жылі ў панскім доме – чэлядзь, па сутнасці дваровыя рабы, надзела яны не мелі, а аб’ём іх павіннасцей не рэгламентаваўся;
- надзельныя сяляне, якія мелі ў карыстанні (як і віланы) надзел зямлі. За карыстанне зямлёй гэтыя сяляне выконвалі той ці іншы від рэнты (да XII ст. адпрацоўную).

Асабістая залежнасць сялян – серваў юрыдычна вызначалася чатырма павіннасцямі:

- пасмяротным паборам, г. зн. паборам са спадчыны (“мёртвай рукі права”) з нашчадкаў памёрлага селяніна – серва ў карысць сеньёра (сеньёр меў права патрабаваць лепшую галаву жывёлы, або адзенне са сваякоў нябожчыка);
- шлюбным паборам (фармальяж), у выпадку, калі серв уступаў у шлюб з сялянкай таго ж статусу з другой сеньярыі або з вольнай асобай;
- пагалоўным паборам (шэваж) (лічылі вельмі ўнушальным);
- адвольнай тальяй (у гэтым выпадку сеньёр мог патрабаваць неабмежаваных павіннасцей і выплат).

Гэтыя чатыры павіннасці і азначалі асабістую (самую цяжкую) залежнасць французскіх сялян.

Акрамя рэнты, французскія сяляне павінны былі выконваць будаўнічыя, транспартныя, пастойныя, дарожныя, маставыя і іншыя службы і павіннасці.

Залежнасць сялян у судовых адносінах выражалася ў наступным: селянін павінен быў судзіцца і весці ўсе судовыя справы ў памесным судзе сеньёра, за што плаціў судовыя выдаткі і штрафы.

І нарэшце, паколькі да XI ст. аформіліся баналітэтныя правы сеньёраў (г. зн. манаполія на печ, вінаградны прэс, мельніцу), залежныя сяляне павінны былі малоць зерне на мельніцы феадала, выціскаць вінаград на яга прэсе і пячы хлеб у яго печы.

Акрамя формаў залежнасці, сяляне адрозніваліся памерамі зямельных надзелаў, юрыдычным статусам і станам зямлі, мясцовымі звычаямі і інш.

У цэлым на час праўлення першых Капетынгаў прыходзіцца ўзмацненне феадальнай залежнасці сялянства і пагаршэнне іх эканамічнага стану. Гэты працэс больш драматычна працякаў на поўначы Францыі, дзе адбыліся два буйныя сялянскія паўстанні (у 997 г. у Нармандыі і ў 1024 г. у Брэтані) супраць сеньярыяльных парадкаў.

**Вёска і горад**. У X–XIII ст. значнае развіццё ў Францыі набывае сельская гаспадарка. Асаблівы пад’ём, пачынаючы з другой паловы XI ст., назіраўся ў земляробстве, што, безумоўна, было выклікана прымяненнем удасканаленых прылад працы (з жалезнымі дэталямі), выкарыстаннем каня і метадам чатырохкратнага ўзворвання.

На поўначы Францыі распаўсюдзілася трохполле, у паўднёвых абласцях (у сілу асаблівасцей глебы і клімата) захаваліся двухпольная сістэма і лёгкі плуг, але гаспадарка вялася больш інтэўсіўна, вялікія плошчы займалі вінаграднікі, пасевы тэхнічных культур і пладовыя дрэвы.

З XII ст. пачалася расчыстка пад раллю абложных зямель і лясоў. Гэты працэс атрымаў назву “ўнутранай каланізацыі”. Ініцыятыва ў расчыстках належала сялянам, у якіх былі прылады працы з жалеза высокай якасці,

зробленыя гарадскімі рамеснікамі.

Сен'ёры і царква спрыялі расчысткам, паколькі маглі атрымаць з узараных зямель дадатковую рэнту і дзесяціну.

У выніку ўнутранай каланізацыі пасяўныя плошчы ў Францыі значна пашырыліся і павысілася ўраджайнасць хлеба (у прыватнасці, і за лік прымянення ўгнаенняў – гною і мергеля); так, замест ураджаю "сам-2", "сам-3" (у каралінгскую эпоху) нармальным лічыўся ўраджай "сам-6", "сам-7".

Сяляне-гаспіты, якія перасяліліся на новыя землі, абкладваліся натуральным аброкам і плацілі невялікую грашовую суму, – гэта людзі асабіста вольныя (віланы); асноўная ж маса французскіх сялян XII ст. была яшчэ ў становішчы асабістай залежнасци (сервы).

Рост прадуктыўнасці працы і інтэнсіфікацыя гаспадаркі ў XII ст. назіраліся ў першую чаргу ў сялянскай гаспадарцы; сеньёры вельмі хутка ўсвядомілі, што ў іх інтарэсах збіраць рэнту не ў выглядзе прымусовай працы на панскіх землях (баршчына), а з ураджаю, знятага з надзелу селяніна (аброк), г. зн. перавясці асноўную частку сялян на аброчную сістэму. У сувязі з гэтым стала скарачацца (а потым і ліквідавацца) панская ворная зямля (дамен), якая драбіліся, а потым раздавалася сялянскім сынам або прышлым у спадчыннае ўтрыманне за аброк. Зроблена гэта было ў многім і таму, што французскі феадал гаспадарчай дзейнасцю ніколі асабліва не займаўся. Ён быў рыцар-воін, а ні ў якім разе не гаспадар.

Так, у Францыі за кошт скарачэння палявой баршчыны і ўзрастання выплат быў зроблены пераход ад рэнты адработачнай да рэнты натуральнай (XII–XIII ст.). Трэба толькі адзначыць, што свецкія сеньёры перайшлі да натуральнай рэнты хутчэй, чым феадалы духоўныя.

Пераход да натуральнага аброку дазволіў сялянам набыць большую гаспадарчую самастойнасць і замацаваць сваю гаспадарку, аднак замена адработачнай рэнты аброкам суправаджалася павелічэннем пабораў, сяляне вымушаны былі аддаваць усё больш значную частку зробленага імі прадукта. Гэта выклікала супраціўленне сялян: яны адмаўляліся плаціць новыя паборы, уцякалі ў гарады, ішлі ў іншыя месцы, масамі ўступалі ў атрады крыжаносцаў, часта паўставалі.

Барацьба сялян, як правіла, насіла мясцовы характар у межах сеньярый. Выключэннем было буйное паўстанне 1251 г., так званае паўстанне "пастушкоў", якое ахапіла шэраг абласцей краіны. У руху ўдзельнічалі каля 100 тыс. сялян і беднаты горада; у ходзе паўстання былі захоплены Парыж, Арлеан, Тур.

Рух "пастушкоў", як зрэшты і другія паўстанні, хутка падаўляліся, але не праходзілі зусім бясследна – сяляне дабіваліся фіксацыі павіннасцей у вызначаных памерах, дастатковых для далейшага развіцця сялянскай гаспадаркі.

З X ст. у Францыі ажыло і гарадское жыццё. У выніку аддзялення рамяства

ад сельскай гаспадаркі з’явіліся сярэдневяковыя гарады – цэнтры рамяства і гандлю. Аднак у развіцці гарадоў паўночнай і паўднёвай Францыі меліся яўныя адрозненні.

На поўдні Францыі адраджаюцца гарадскія пасяленні, заснаваныя некалі рымлянамі: Марсель, Нарбона, Нім, Тулуза, Бардо і інш. Іх росквіт прыйшоўся на ХІ ст. і ўзмацніўся ў ХІІ ст.

У прошлым старажытнарымскія муніцыпіі, гарады поўдня (таксама як італьянскія, іспанскія гарады міжземнаморскага рэгіёна) выкарыстоўвалі сваё выгаднае геаграфічнае становішча і ўдзельнічалі ў традыцыйным гандлі па Міжземным моры (асабліва гэты гандаль ажывіўся ў час крыжовых паходаў), а таксама ўстанавілі прамыя сувязі з краінамі Бліжняга Ўсходу – Левантам.

Акрамя таго, яны выступалі пасрэднікамі ў гандлёвых аперацыях з Паўночнай Еўропай. Праз міжземнаморскія порты Францыі ішлі ўсе ўсходнія леванційскія, а таксама італьянскія і іспанскія тавары. Пасрэдніцкі гандаль французскіх гарадоў садзейнічаў развіццю рамяства, асабліва сукнаробства.

Гарады Нім і Монпел’е пачалі вырабляць тонкае, ярка афарбаванае сукно, якое ішло на экспарт. Аднак цэхі ў паўднёвых гарадах не прыжыліся, рамяство засталося “свабодным”.

Паўднёвыя гарады рана дабіліся палітычнай самастойнасці (у асноўным з дапамогай выкупу, фінансавых пагадненняў). Існуючы з рымскіх часоў, яны змаглі захаваць не толькі сваю юрысдыкцыю, але і часткова муніцыпальнае ўпраўленне. У пачатку ХІІ ст. паўднёвыя гарады былі багатымі самастойнымі рэспублікамі, мала звязанымі з іншымі рэгіёнамі краіны (у прыватнасці, з даменам Капетынгаў).

У ХІІ ст. формай гарадскога самакіравання гэтых гарадоў быў кансулат. Консулы, выбраныя ад гарадской вярхушкі дваранства (феадалы прымалі ўдзел у гарадскім жыцці і гандлі), духавенства, багатых рамесленых колаў, ажыццяўлялі ўсю выканаўчую ўладу. Заканадаўчым органам быў Вялікі савет, які складваўся з паўнапраўных грамадзян горада (“буржуа”).

Крыху інакш развіваліся паўночныя гарады. На іх долю выпаў больш цяжкі лёс. Гэтыя гарады знаходзіліся пад уладаю сеньёраў, пераважна епіскапаў. Многія з іх – Арас, Бове, Амьен, Нуайон, Лан, Рэймс – сталі буйнымі цэнтрамі сукнаробства (паколькі знаходзіліся ў вобласці развітай авечкагадоўлі і гандлю, і ў ХІІ ст. перажывалі свой эканамічны росквіт.

На працягу ХІ ст. паўночныя гарады неаднаразова адкупаліся ад прэтэнзій сеньёраў і дабіваліся пэўных свабод. Але сеньёры часта парушалі свае абавязкі, і гарады вымушаны былі звяртацца да ўзброеных паўстанняў і заваёўваць камунальную свабоду. Першым свабодным горадам (горадам-камунай) стаў горад Камбрэ (1077 г.). Перанялі яго прыклад у ХІІ ст. гарады – Сен-Кантэн, Бове, Нуаён (у 1108 г.), Лан (у 1112 г.), Амьен, Суасон (1113 г.) і інш. У выніку

камунальнага руху (паўстанняў) XI–XII ст. многія паўночныя гарады атрымалі тую ці іншую ступень камунальнай свабоды. З сеньёрамі яны ўступалі ў дагаворныя адносіны, якія вызначалі правы, прывілеі горада, ступені яго незалежнасці, абавязкі ў адносінах да сеньёра (усё гэта фіксавалася ў гарадской хартыі). Паўнапраўныя гарады-камуны атрымалі выбарнае самакіраванне (г. зн. гарадскі савет з мэрам), сваё падаткаабкладанне і свой суд. Каралі, хоць і не адразу, зразумелі для сябе выгаднасць гарадоў-камун (нейкі час яны падтрымлівалі або горад, або сеньёра – у залежнасці ад таго, хто больш плаціў). Нарэшце сталі падтрымліваць гарады ў іх барацьбе з сеньёрамі, паколькі гарады-камуны сталі надзейнымі саюзнікамі караля ў барацьбе са знаццю.

У сваіх валоданнях Капетынгі не віталі з’яўленне камун, даючы магчымасць гарадам толькі права на частковае самакіраванне пад кантролем каралеўскіх чыноўнікаў (Парыж, Арлеан). Дарэчы, і ў гарадах каралеўскага дамена (таксама як і ў гарадах-камунах) ствараліся спрыяльныя ўмовы для развіцця рамяства і гандлю. Напрыклад, у Парыжы, па даных Эцьена Буало, які склаў “Кнігу рамёстваў” (XIII ст.), налічвалася каля 5500 рамеснікаў, аб’яднаных у 100 цэхаў. Доступ у цэхі быў адкрыты для ўсіх, хто быў знаёмы з рамяством і мог купіць у караля права ім займацца. У цэхах яшчэ не патрабавалася вырабляць шэдэўр і адсутнічалі некаторыя абмежаванні (напрыклад, у колькасці вучняў).

У гарадах-камунах нярэдка хаваліся сяляне-сервы; пражыўшы вызначаны там тэрмін, яны атрымлівалі свабоду.

Паўночныя гарады на рэках Сене, Уазе, Марне, Соме, Луары былі звязаны паміж сабой рачнымі і сухапутнымі шляхамі, што садзейнічала развіццю гаспадарчых сувязяў.

У XII ст. пры Людовіку VII у Парыжы была створана “Ганза рачных купцоў”, якая аб’яднала купцоў Парыжа і Руана, гандлюючых па Сене. У далейшым з’явіліся і іншыя таварыствы купцоў, напрыклад, гандлюючых па Луары. Вялікую ролю ў эканамічным жыцці Францыі адыгрывалі кірмашы Шампані, якія праходзілі амаль круглы год (6 разоў у год па 1,5 месяца) у гарадах Труа, Провен, Ланьі, Барсюр-об. Гэтыя гарады з’уляліся цэнтрамі рачных шляхоў.

Росквіт шампанскіх кірмашоў прыйшоўся на XIII ст. (з 1284 г. Шампань далучылася да каралеўскага дамена).

У заключэнні трэба заўважыць, што гарады Паўночнай Францыі перажывалі пэўны гаспадарчы пад’ём і ўвогуле знаходзіліся ў больш цесных гаспадарчых сувязях паміж сабой, чым гарады поўдня, і былі зацікаўлены ва ўмацаванні каралеўскай улады.

З XII ст. горад з яго развіваючай грашовай гаспадаркай стаў аказваць усё больш заметны ўплыў на жыццё французскай вёскі. Паколькі памеры дамена феадалаў скарачаліся і ўводзілася аброчная сістэма, асноўным пастаўшчыком сельскагаспадарчых прадуктаў (тавараў) на гарадскім рынку стаў французскі

селянін. Праз сялянскую гаспадарку ажыццяўлялася гало¢ная, пераважная сувязь французскай вёскі з горадам і яго рынкам, феадал у тавараздвароце практычна не ўдзельнічаў. Падобная з'ява была важнейшай асаблівасцю французскай эканомікі XIII і далей XIV–XV ст.

Паколькі селянін не толькі ствараў, але і прадаваў на рынку свой прыбавачны прадукт, ён усё больш уцягваўся ў актыўны гандаль і грашовыя адносіны, меў у сваіх руках "жывыя" грошы.

Мабыць, таму ў вёсцы вельмі хутка адбываецца камутацыя рэнты, г. зн. паступовая замена натуральнай рэнтай грашовай.

Вынікам развіцця таварна-грашовых адносін і камутацыі рэнты стала і вызваленне серваў ад асабістай залежнасці і ператварэнне іх у віланаў. Ліквідацыя серважа пачалася ў XIII ст. і працягвалася на працягу XIV–XV ст.

Былы серв выкупляў чатыры павіннасці (аб якіх размова ішла вышэй, г. зн. пабор з наследства, шлюбны пабор, адвольную талью і пагалоўны пабор). Выкуп гэтых чатырох павіннасцей азначаў асабістую свабоду. Працэс асабістага вызвалення прымаў розныя формы: выкупаліся як асобныя сем'і, так і вёскі, а то і групы вёсак. Сума выкупу вызначалася ў выніку спрэчкі паміж феадалам і селянінам і магла быць рознай. Уклады афармляліся спецыяльнымі граматамі. Грошы на ўклады селянін браў галоўным чынам у гарадскіх ліхвяроў (і трапляў у пазыковую кабалу).

Пасля вызвалення селянін працгяваў плаціць феадалу фіксаваную грашовую рэнту (цэнз) за карыстанне зямлёй, паколькі зямля па-ранейшаму заставалася ўласнасцю сеньёра. Зямельны ўчастак ад слова "цэнз" стаў называцца – цэнзіва, а сам селянін – цэнзітарый.

Селянін меў права закладваць і прадаваць трыманне, але пры адчужэнні феадал атрымліваў дадатковую плату.

З'явілася і яшчэ адно новаўвядзенне: асабіста свабодны вілан (цэнзітарый) мог звяртацца ў Каралеўскі суд, каб апеляваць на рашэнне суда сеньёра.

Пасля вызвалення селянін разам з цэнзам павінен быў выплачваць падаткі на карысць дзяржавы, а таксама працягваў выплачваць і царкоўную дзесяціну.

**Пачатак аб'яднання Францыі.** XII ст. стала пераломным момантам у працэсе ўмацавання каралеўскай улады, ці цэнтралізацыі краіны. Да канца стагоддзя Капетынгі займаліся ¢мацаваннем улады ¢ межах дамена.

Важнае значэнне ў гэтых адносінах мела праўленне сына Філіпа І –Людовіка VI, празванага Тоўстым (1108–1137). Адрозніваючыся незвычайнай энергіяй, Людовік Тоўсты на працягу 20 год вёў рашучую барацьбу з незалежнасцю асобных сеньёраў свайго дамена (феадамі Мантлеры, Пюізе, Томасам дэ Марль і інш.), сам узначальваў карныя атрады, разбураў замкі непакорлівых васалаў ці пакідаў у іх свае гарнізоны.

Праводзячы палітыку ўмацавання каралеўскай улады, Людовік VI абапіраўся

на гарады і асабліва царкву, якую ён вельмі падтрымліваў і якую шчодра адорваў. Галоўнымі саветнікамі караля былі асобы духоўныя, сярод якіх асабліва вылучаліся абат Сан-Дэні і канцлер Сугерый, дарэчы, ён напісаў біяграфію-панегерык Людовіка VI.

Пры дапамозе захопаў, канфіскацый, набыццяў кароль стаў поўным гаспадаром Іль-дэ-Франса. Разрозненныя часткі дамена пры ім аб’ядналіся ў адзінае цэлае, а сам дамен ператварыўся ў суцэльную замкнёную тэрыторыю.

У 1124 г. лёс паставіў Людовіка VI на чале нацыі: у момант, калі супраць яго выступіў кароль Англіі Генрых І (які лічыўся васалам караля Францыі як герцаг Нармандыі), пад сцягам караля – каралеўскай арыфламай – аб’ядналася рыцарскае апалчэнне розных частак Паўночнай Францыі.

Значны крок у далейшым аб’днанні Францыі быў зроблены ў пачатковы перыяд праўлення Людовіка VII (1137–1180), сына Людовіка VI.

У многім слабы, Людовік VII захаваў пры сабе ў якасці галоўнага саветніка абата Сугерыя, які часта кіраваў краінай у час ад’ездаў караля (напрыклад, у час другога крыжовага паходу 1147–1149).

У першыя гады праўлення Людовік VII далучыў гарады Бурж і Санс, а потым з дапамогай дынастыйнага шлюбу з дачкою герцага Аквітаніі Аліянор прыдбаў самае буйное герцагства Францыі – Аквітанію з графствам Пуату, тэрыторыя якіх у некалькі разоў перавышала асабістыя валоданні самога Людовіка.

Шлюб з Аліянор аказаўся няўдалым, пасля разводу з ёй і яе новага шлюбу з графам Анжу Генрыхам Плантагенетам Аквітанія перайшла ў рукі апошняга.

Генрых валодаў таксама графствамі Мен, Турэнь, герцагствам Нармандыя, а з 1154 г. стаў англійскім каралём, пасля чаго ўсе французскія землі ад Ла-Манша да Пірэнееў перайшлі да Англіі. Валоданні Плантагенетаў у Францыі сталі значна перавышаць валоданні Капетынгаў.

Само па сабе ўзнікла пытанне: па якім шляху пойдзе далейшае аб’яднанне Францыі — па лініі Капетынгаў ці Плантагенетаў?

Саперніцтва двух правячых дамоў уступіла ў новую фазу пры Філіпе ІІ Аўгусце (1180—1223), адным з самых адароных і славутых каралей Францыі. Стаўшы каралём ва ўзросце 15 гадоў, Філіп вельмі рана выявіў бліскучыя якасці ўмелага дыпламата і палітыка.

Асноўнай лініяй яго знешняй палітыкі была барацьба з Плантагенетамі. Самых буйных поспехаў Філіп дабіўся ў барацьбе з англійскім каралём Іаанам Беззямельным. Разглядваючы англійскага караля як свайго васала, які меў шэраг французскіх тэрыторый, г. зн. выкарыстоўваючы свае правы вярхоўнага сеньёра, Філіп ІІ аб’явіў (1202) вельмі непапулярнаму ў французскіх землях Іаану, што ўсе яго валоданні ў Францыі канфіскаваны, а потым напаў на жамчужыну англійскай кароны – Нармандыю, якую захапіў параўнальна хутка (1202–1204), паколькі бароны і гарады Нармандыі, раззлаваныя вымаганнем Іаана, не аказалі Філіпу

супраціўленне.

Захоп і далучэнне Нармандыі меў каласальнае значэнне для Капетынгаў. Гэтая акцыя забяспечыла бяспеку Парыжу, размешчанаму каля мяжы Нармандыі, у рукі французскага караля трапіла ніжняе цячэнне р. Сены і выхад да мора, а сама Нармандыя назаўсёды ўвайшла ў склад валоданняў Капетынгаў.

Далей Філіп захапіў Анжу, Мен, Турэнь, частку Пуату з горадам Пуацье. Такім чынам, усе вобласці, што належалі Англіі ад поўначы р. Луары і часткова да поўдня ад яе, перайшлі ў рукі французкага караля. У Плантагенетаў у Францыі засталіся толькі частка графства Пуату і герцагства Аквітанія.

Жадаючы вярнуць страчанае, Іаан Беззямельны ўступіў у саюз з германскім імператарам Атонам IV, графам Фландрскім (і другімі феадаламі), пасля чаго вайна набыла характар еўрапейскага канфлікту.

У бітвах пры Ларон-а-Муане (каля Анжэра) і Бувіне (у Фландрыі) (1214) Філіп II атрымаў перамогу над англа-германскай кааліцыяй. Удзельнік апошняй бітвы Атон IV кінуў на полі бою свой імператарскі штандарт і ледзь пазбегнуў палону.

У атрыманых перамогах Філіп замацаваў свае заваёвы. У выніку дамен Капетынгаў павялічыўся ў 4 разы (пашырыўся ад Ла-Манша да Лангедока); значна выраслі даходы караля (з 19 тыс. ліўраў у месяц пры Людовіку VII да 36 ты. пры Філіпу II), паступова замацавалася ўлада караля ў межах новага дамена.

Далей перад Філіпам паўстала важная задача – арганізаваць упраўленне новай вялізнай тэрыторыяй, даць ёй новае адміністрацыйнае ўстройства, у сувязі з чым Філіп II правёў рэформы кіравання (у далейшым развітыя яго пераемнікамі). Ф'ефная сістэма была паступова скасавана, уступіўшы месца новаму парадку кіравання на службовых пачатках.

Аснову дзяржаўнага апарату кіравання склалі цэтральныя органы, а менавіта Каралеўскі савет – вярхоўны орган упраўлення. Каралеўскі савет існаваў побач з саветам буйнейшых васалаў караля (каралеўская курыя), быў пастаянным органам і складваўся з угодлівых каралю феадалаў – прынцаў крыві і проста прыбліжаных да караля сеньёраў, а таксама легістаў (спецыяльна вывучаных праву і фінансам чыноўнікаў), якія выйшлі з асяроддзя гараджан, часткова рыцарства і духавенства.

У Каралеўскі савет увайшлі канетабль (галоўнакамандуючы), канцлер (загадваў каралеўскай канцылярыяй), камерарый (загадваў асабістай казной караля і каралеўскім палацам), бутыкулярый (штосьці накшталт міністра фінансаў) і інш.

На месцах, на чале асобных акругоў, на якія быў цяпер разбіты каралеўскі дамен, знаходзіліся прэво, якія раней упраўлялі каралеўскімі дварамі.

Прэво стаў галоўнай асобай, які праводзіў палітыку караля на месцы. Ён валодаў судовай і палітычнай уладай, з'яўляўся кіраўніком рыцарскага апалчэння

акругі.

Акругі (прэвоцтва) злучаліся ў больш буйныя адзінкі – бальяжы, на чале з каралеўскімі чыноўнікамі – балі. Нанава далучаныя пры Філіпе II тэрыторыі — сенешальствы – кіраваліся каралеўскімі чыноўнікамі – сенешалямі. Часцей кароль прызначаў сенешаляў з ліку мясцовых сеньёраў, каб прыцягваць іх на свой бок. У пачатку XIII ст. налічвалася прыблізна 20 бальяжаў і 5 сенешальстваў.

Каралеўскія балі і сенешалі мелі ў сваіх руках адміністрацыйную, ваенную і судовую ўладу: маглі ўмешвацца ў справы феадалаў, захаваўшых незалежнасць, ахоўвалі правы гарадоў, назіралі за тым, каб васалы караля неслі на яго карысць ваенную службу і г. д., іншымі словамі выкарыстоўвалі свае правы для ўмацавання ўлады манарха.

У XIII ст. узрасло значэнне каралеўскай улады ў тых рэгіёнах Францыі, якія яшчэ не былі часткай каралеўскага дамена, кароль дазваляў сабе ўмешвацца ва ўнутраныя справы буйных сеньёраў, патрабаваў выканання васальных абавязкаў (напрыклад, ваеннай службы), выкарыстоўваў сутыкненні паміж герцамі (графамі) і іх васаламі.

Да гэтага часу адносіцца і з’яўленне імедыятызацыі (ад лац. immedius – непасрэдны). Пад гэтым словам падразумевалася ўстанаўленне непасрэдных васальных адносін паміж васаламі васалаў караля і самім каралём. Напрыклад, васалы графа Фландрыі звярталіся да караля і прыносілі яму васальную прысягу непасрэдна.

Такім чынам, паступова стала парушацца старое правіла “Васал майго васала – не мой васал”. Адзначым, аднак, што напрыканцы праўлення Філіпа II самастойных ад караля ўладанняў было мала – Фландрыя, Брэтань, Аквітанія. Бургундыя ж і Шампань знаходзіліся пад значным уплывам каралеўскай улады.

**Альбігойскія войны.** Далейшае павелічэнне каралеўскага дамена адбылося ў XIII ст. за лік паўднёвай Францыі. Да XIII ст. поўдзень Францыі жыў адасоблена. Лангедок (графства Тулузскае) захаваў амаль поўную незалежнасць ад караля і ў цэлым, перавышаў поўнач і ў эканамічных, і ў культурных адносінах (тое ж можна аднесці да Праванса, паўднёвай часткі ранейшага каралеўства Бургундыі, які ўяўляў сабой і ў эканамічным і ў культурным плане працяг графства Тулузскага).

Яшчэ ў рымскую эпоху гэты рэгіён быў “краінай пісанага права” (г. зн. пісаных рымскіх законаў, астатняя Францыя была краінай права звычайнага); у пачатку XIII ст. паўднёвая Францыя была краем квітнеючых багатых гарадоў (аб чым мы ўжо гаварылі), тут нарадзіліся асаблівая рыцарская культура і рыцарская паэзія трубадураў на правансальскай мове.

У XII ст. у гарадах Лангедока (а потым і ў сельскай мясцовасці) з’явілася ерэтычнае вучэнне катараў і вальдэнсаў, у далейшым іх сталі называць агульным імем – альбігойцы (па г. Альбі – цэтру распаўсюджвання ерасі).

Ерась мела многа агульнага з ерассю паўлікіян (Візантыя) і балгарскіх багамілаў. Альбігойцы сцвярджалі, што зямны свет ёсць параджэнне злосці, а каталіцкая царква ёсць стварэнне д’ябла. Яны адмаўлялі асноўныя дагматы і таінства каталіцызма, патрабавалі ліквідаваць царкоўную іерархію, зямельныя валоданні царквы і дзесяціну. Адмаўлялі неабходнасць любой улады – ці ўлада свецкая, ці царкоўная.

Напрыклад, вальдэнсы прызнавалі толькі раннехрысціянскія каштоўнасці – евангельскую прастату, бядоту і роўнасць першых хрысціян і ўсяляк выступалі за адказ ад багаццяў (“Ніхто не павінен нічым валодаць”).

Альбігойствам асабліва захапляліся жыхары гарадоў, а таксама сялянства. Іменна яны склалі асноўную масу ерэтыкоў. Вядома, што да альбігойства прымыкалі і прадстаўнікі знаці, рыцары Лангедока, што ў некаторай ступені тлумачыцца іх жаданнем захапіць багацці царквы.

Альбігойцы набылі вялікую сілу, іх ерась распаўсюдзілася па ўсім графстве Тулузскім. У адным з пасланняў граф Тулузскі Раймонд V пісаў: “Цэрквы закінуты і разбураны, свяшчэннікі паддаліся пошасці, я бяссільны што-небудзь зрабіць, ерассю захоплены самыя ўплывовыя людзі маёй краіны, натоўп ідзе за імі і пакінула веру”.

Да альбігойства прымкнуў граф Тулузскі Раймонд VI – сын Раймонда V, што прывяло да сутыкнення паміж імі і папам Інакенціем III.

Трэба сказаць, што царква неаднаразова хацела прысекчы распаўсюджванне ерасі, пачынаючы з 70-х гг. XII ст. для багаслоўскіх спрэчак з альбігойцамі папа паслаў сваіх тэолагаў і прапаведнікаў. Напрыклад, Інакенцій III адправіў у Лангедок французскага манаха Пятра Касцельно, які ў выніку канфлікту быў забіты, што дало права да аб’яўлення крыжовага паходу супраць ерэтыкоў.

У 1209 г. папам Інакенціем III быў арганізаваны крыжовы паход супраць альбігайцаў, у якім прынялі ўдзел паўночнафранцузскія епіскапы і іх васалы пад кіраўніцтвам папскага легата, а таксама вялікая колькасць рыцараў паўночнай Францыі.

Ваенным кіраўніком апалчэння стаў удзельнік IV крыжовага паходу барон Сімон дэ Манфор. Кароль Францыі Філіп II у паходзе не ўдзельнічаў, паколькі быў заняты барацьбой з Іаанам Беззямельным.

Крыжакі-паўночнікі бязлітасна абрушваліся на квітнеючыя вобласці Лангедока, рабуючы і забіваючы яго жыхароў, і іншы раз не адрозніваючы католікаў і ерэтыкоў. “Забівайце ўсіх, Гасподзь потым разбярэ сваіх”, – гаварыў папскі легат.

Альбігойцы адчайна супраціўляліся. У 1213 г. Сімон дэ Манфор у бітве пры Мюрэ (замак) атрымаў рашучую парамогу: бой, у якім на баку Раймонда Тулузскага прыняў удзел яго цесць кароль Арагона Пётр II, закончылася для альбігойцаў ганебна.

Далей палі гарады Безье і Каркасон. Раймонд Тулузскі ўтрымаў за сабой Тулузу, Нім, Бокер і Ажан, астатнія гарады аказаліся ў руках Сімона дэ Манфора. Поўдзень Францыі быў разгромлены і падзелены паміж заваёўнікамі.

У 1218 г. Сімон дэ Манфор у ходзе ўспыхнуўшага ў Лангедоке паўстання быў забіты, пасля чаго ў вайну ўмяшаўся кароль Францыі Людовік VIII. У выніку двух паспяховых паходаў (1224, 1226) ён далучыў да дамена Капетынгаў графства Тулузскае (1229) і частку зямель на ўзбярэжжы Міжземнага мора (1229). Цяпер каралеўскі дамен распасціраўся ад поўначы да самага поўдня Францыі, ад Ла-Манша да Міжземнага мора. Апошняя крэпасць альбігойцаў – Монсегюр – была ўзята пасля працяглай асады ў 1244 г. Толькі Аквітанія, па-ранейшаму знаходзілася ў руках Плантагенетаў.

У гады свайго праўлення Людовік VIII (1223—1226), паклаўшы канец ерасі альбігойцаў і далучыўшы да свайго дамена паўднаёва-усходнюю частку Францыі, канчаткова ўстанавіў прынцып спадчыннасці каралеўскай улады, увёўшы юрыдычнае абаснаванне незалежнасці ўлады караля ад выбараў сеньёраў.

У 1226 г. пасля трох гадоў праўлення ён раптам памёр, пакінуўшы наследнікам свайго непаўналетняга сына Людовіка IX (1226–1270), рэгенткай пры якім стала Бланка Касцільская (маці караля). Карыстаючыся часам рэгенцтва, рад феадалаў Францыі хацелі вярнуць страчаныя вольнасці, але Бланцы Касцільскай удалося атрымаць перамогу над кааліцыяй знаці.

**Рэформы Людовіка IX.** Пасля дасягнення паўналеццтя Людовік IX правёў вялікія рэформы ўнутранага ўпраўлення.

На тэрыторыі дамена былі забаронены судовыя паядынкі, якія ўстройваліся для дазволу спрэчных спраў у сеньярыяльных судах.

Юрысдыкцыя сеньярыяльных судоў была абмежавана, шэраг важных спраў (напрыклад, крымінальных) быў пераданы ў Каралеўскі суд (тут засядалі лігісты – знаўцы права), у якіх уводзілася папярэдняе расследаванне спраў, а спрэчныя пытанні рашаліся з удзелам прысяжных, акрамя таго, дапускалася абскарджанне рашэння¢ гарадскіх і сеньярыяльных судоў у форме апеляцыі ў Каралеўскі суд.

Вярхоўнай судовай інстанцыяй стаў Парыжскі парламент (галоўны парламент краіны) – асобая палата, якая выдзялілася пры Людовіку IX з Каралеўскага савета. Пры паступовым далучэнні новых абласцей парламенты ўводзіліся і там, у сталіцах рэгіёнаў.

Нараўне з Парыжскім парламентам (ці вярхоўным судом каралеўства) ад Каралеўскага савета адлучылася фінансавае ведамства – Падліковая палата, якая камплектавалася з грашовых людзей Парыжа.

Акрамя таго, Людовік IX правёў рэформу ваеннай справы, паспрабаваў замяніць рыцарскае апалчэнне войскам наёмнікаў, а таксама, жадаючы абмежаваць частыя войны феадалаў, ён забараніў іх на тэрыторыі свайго дамена. У недалучаных да дамена валоданнях быў узаконены звычай “40 дзён караля”, г.

зн. тэрмін паміж аб’яўленнем вайны і яе пачаткам, на працягу якога праціўнікі маглі адумацца, дамовіцца, атрымаўшы вызаў меў права звярнуцца за разглядам сутнасці справы ў Каралеўскі суд, апеляваць каралю.

І нарэшце, Людовік IX увёў адзіную манетную сістэму. Каралеўская (залатая ці сярэбраная) манета стала адзінкай у дамене Капетынгаў і прымалася на тэрыторыі краіны нараўне з мясцовай манетай сеньёраў (права чаканіць асабістую манету мелі каля 40 сеньёраў).

Новая каралеўская манета садзейнічала паступоваму выцясненню мясцовых грошай феадалаў, яна пашырала сувязі паміж рэгіёнамі краіны, спрасціла гандлёвыя пагадненні і крэдытныя аперацыі, а ў канчатковым выніку садзейнічала эканамічнаму згуртаванню Францыі. І вельмі хутка купецтва аддало перавагу каралеўскай манеце і патрабавала яе пры правядзенні гандлёвых пагадненняў. У знешняй палітыцы Людовік IX, празваны за набожнасць і апякунства царквы “Святым”, усяляк стараўся замацаваць палажэнне Францыі ў басейне Міжземнага мора. Ён дапамог брату Карлу Анжуйскаму авалодаць паўднёвай часткай Італіі з Сіцыліяй, а таксама паспрабаваў замацаваць свае пазіцыі ў Егіпце і Тунісе, для чаго выступіў арганізатарам VII (1248) і VIII (1270) крыжовых паходаў (паходы супраць “няверных” аказаліся непаспяховымі: у 1250 г. у час VII крыжовага паходу Людовіка ўзяў у палон егіпецкі султан, а ў 1270 г. ён памёр ад чумы ў час VIII крыжовага паходу). У 1259 г., жадаючы замацаваць за сабой раней далучаныя да Францыі тэрыторыі, Людовік IX заключыў мір у Парыжы з Англіяй, згодна з якім англійскі кароль адказаўся ад прэтэнзій на страчаныя французскія землі, захаваўшы за сабой Аквітанію і Гасконь.

У другой палове XIII ст. Людовік IX не раз выступаў арбітрам у міждзяржаўных канфліктах, што дазваляла гаварыць аб высокім міжнародным прэстыжы Францыі.

За гады праўлення Людовіка IX значна ўзрос аўтарытэт каралеўскай улады, быў зроблены важкі крок у працэсе цэнтралізацыі краіны, чаму, безумоўна, значна садзейнічалі рэформы, праведзеныя каралём. Каралеўская ўлада была настолькі моцнай, што манарх пачаў выдаваць агульнадзяржаўныя законы, якія мелі сілу на ўсёй тэрыторыі Францыі. Такімі законамі сталі пастановы караля аб судзе, манеце і іншых справах агульнадзяржаўнага значэння.

Важнае месца ў праўленні Людовіка IX мела і ўмацаванне апарату ўлады ў каралеўскім дамене. Кароль увёў строгі кантроль за дзейнасцю ўсіх служачых правінцыяльнай адміністрацыі: сенешалы, бальі і прэво пры ўступленні на пасаду павінны былі прыносіць публічную прысягу, абяцаючы ахоўваць правы караля.

## § 14. Германія

**Германія ў пачатку X ст. Племянные герцагствы.** Пачатак X ст. не абяцаў

германскім землям нічога добрага і было цяжка прадбачыць, што ў хуткім часе на некалькі стагоддзяў гэта краіна зробіцца галоўным прэтэндэнтам на палітычнае лідэрства ў Заходняй Еўропе. Справа ў тым, што на працягу ўсяго IX ст. каралеўская ўлада слабела, а цэнтрабежныя сілы ў краіне ўзмацняліся. Усходняя галіна Каралінгскага дома так і не дала энергічнага і таленавітага правадыра, які б аднавіу магутнасць Імперыі. У 900 г. каралём зрабіуся Людовік Дзіцяця (900–911), які не карыстаўся ў краіне аўтарытэтам. Гэта было тым больш страшна, што на германскія землі абрынуліся набегі ваяўнічых суседзяў – нарманаў (у асноўным датчан) на поўначы, палабскіх славян на ўсходзе і венграў на паўднёвым усходзе. Гэты качавы народ не так даўно прыйшоў з глыбінь еўраазіяцкіх стэпаў і замацаваўся ў сярэднім цячэнні Дуная – у Паноніі. Набегі венграў на германскія землі былі найбольш спусташальнымі і разбуральнымі.

Ва ўмовах заняпаду каралеўскай улады і росту міжусобнай барацьбы ўзмацняліся мясцовыя ўладары – герцагі. Першапачаткова гэта былі каралеўскія службовыя асобы. якія ставіліся Каралінгамі дзеля кіравання асобнымі тэрыторыямі з ліку сваіх сваякоў ці з асяроддзя найбольш блізкіх і адданых вайсковых правадыроў. Пры аслабленні каралеўскай улады герцагі ужо ў хуткім часе пачалі праводзіць усе больш самастойную палітыку. Гэты працэс паскараўся і існаваннем знешняй пагрозы, якую былі не ў стане адбіць каралі і герцагі зрабіліся адзінай сілай, якая гэтую пагрозу стрымлівала. У пачатку X ст. герцагі дамагліся значнейшай прывілеі – іх улада зрабілася фактычна спадчыннай. Унутры герцагстваў складваліся асабістыя васальныя сістэмы, якія залежалі толькі ад герцагаў.

Адной з прычын хутка склаўшагася сепаратызму было тое, што раней герцагі атрымоўвалі пад сваё кіраўніцтва землі, якія амаль адпавядалі быломy племяннoму падзелу. Справа ў тым, што германскія землі у межах імперыі Карла Вялікага былі адносна адсталымі і тут захоўваліся старыя, яшчэ племянные грамадскія і сацыяльныя адносіны. На гэтых землях уплыў старажытнарымскай культуры быў прыглушаны. Гарады існавалі толькі на захадзе па берагах ракі Рэйн. Улада Каралінгаў прынесла хрысціянства, дарэчы адносна позна, аднак яго прыняцце праходзіла няпроста і нават у X ст. у некаторых рэгіёнах яшчэ адчуваўся значны ўплыў паганства. З Каралінгамі на германскіх землях з’явілася і буйная сеньярыяльная вотчына, але тут яна была не настолькі пашырана, як на захадзе былой дзяржавы. Племянная ж структура была толькі надламана і яе сувязі пранізвалі грамадства. Хоць племянные сходы пад уплывам герцагаў у асноўным толькі зацвяржалі іх загады, тым не менш рашэнні гэтых сходаў заставаліся ўплывовымі у іншых пытаннях. У значнай меры захоўвалася традыцыйнае племяннoе права. Племяннoе паспалітае рушэнне працягвала адыгрываць галоўную ролю ў ваенных дзеяннях. Асноўную масу насельніцтва па-ранейшаму складалі вольныя людзі. Галоўным сацыяльным інстытутам у весцы

заставалася абшчына-марка, якая ахоўвала інтарэсы сваіх прадстаўнікоў. Кожны абшчыннік меў спадчынны зямельны надзел – алод. Існаванне родаплемянных перажыткаў садзейнічала адноснаму замаруджванню сацыяльнай дыферэнцыяцыі унутры племені і абшчыны. Тым не менш некаторыя аладысты пачыналі паступова павялічваць сваю зямельную маёмасць за кошт зямель збяднеўшых суседзяў.

Але ж назначэнне герцагаў каралямі і замацаваўшаяся сістэма леннага васалітэта сведчаць, што племянныя інстытуты страчвалі сваё значэнне. Перад намі пераходны этап ад племені да больш сталых і развітых палітычных структур. Гэтыя тэрытарыяльныя аб'яднанні у гістарычнай навуцы атрымалі назву – племянныя герцагствы. Гэтая назва яшчэ раз падкрэслівае, што інтарэсы каралінгскіх герцагаў аказаліся звязанымі з мясцовымі племяннымі інтарэсамі, асабліва калі іх улада зрабілася спадчыннай. Яны абапіраліся не толькі на сваіх васалаў, але і на пачуцці племяннай супольнасці.

Самымі буйнымі сярод племянных герцагстваў былі Саксонія (на поўначы Германіі, паміж рэкамі Рэйн і Эльба), Франконія (у сярэднім цячэнні Рэйна), Швабія (Алеманія) (у верхнім цячэнні Рэйна і Дуная) і Баварыя (на поўдні у верхнім цячэнні Дуная). Самым моцным сярод герцагстваў была Саксонія, дзе замацавалася дынастыя Ліўдольфінгаў – нашчадкаў вайсковага правадыра, пастаўленага яшчэ каралём Людовікам Нямецкім (804–876). Саксонія, дзякуючы таленавітаму і энергічнаму кіраванню Ліудольфінгаў, адбівала асноўны націск набегаў нарманаў, славян і венграў, што спрыяла яе вайсковаму ўзмацненню.

**Захаванне палітычнага адзінства германскіх зямель.** У 911 г. апошні кароль дынастыі Каралінгаў Людовік Дзіцяця памёр, не пакінуўшы нашчадкаў. Каралеўская ўлада рассыпалася на кавалкі проста на вачах і самым цяжкім было пытанне пераемнасці каралеўскага тытула. Знаць Франконіі, якая прызвычаілася лічыць сябе цэнтрам былой Каралінгскай імперыі, абрала разам з саксонскай знаццю ў каралі герцага Франконіі Конрада І (911–918), блізкага сваяка Каралінгаў. Але паўднёвыя герцагі адмовіліся прызнаваць яго каралём, і міжусобіцы прымалі ўсё больш вострыя характар. Узніклі супярэчнасці, а потым і войны з герцагамі Саксоніі. Гэтую барацьбу Конрад І практычна праіграў. Толькі пасля фактычнага прызнання Конрадам поўнай унутранай самастойнасці Швабіі і Баварыі іх герцагі тэарэтычна пачалі падначальвацца германскаму каралю. Вынікам беспаспяховай палітыкі Конрада І была думка, пашыраўшаяся ў народзе, што боскія сілы адвярнуліся ад каралеўскай улады. Гэта магло зрабіцца апошнім ударам па прэстыжу каралеўскай улады.

Перад самай смерцю Конрад І назваў сваім пераемнікам менавіта свайго ворага – здольнага вайскоўца герцага Саксоніі Генрыха. У 919 г. знаць Франконіі і Саксоніі абрала таго германскім каралём. Генрых І Птушкалоў (919–936) зрабіўся заснавальнікам першай ужо менавіта германскай каралеўскай дынастыі –

Саксонскай (919–1024) і змог кардынальна змяніць лёс германскай манархіі.

Першапачаткова Генрых I быў вымушаны прызнаць рэальна склаўшуюся сітуацыю з племяннымі герцагамі Швабіі і Баварыі: ён прызнаў за імі важнейшыя каралеўскія прэрагатывы – інвестытуру біскупаў у герцагскіх валоданнях і атрыманне самімі герцагамі васальнай прысягі ад сваіх падданых. У хуткім часе ўсе герцагі прызналі вярхоўную ўладу Генрыха. Але Генрых I аказаўся вельмі мэтанакіраваным і цярплівым палітыкам, а яго адступленне перад герцагскім сепаратызмам было толькі часовай з'явай. Адной з галоўных апор каралеўскай улады ў гэтай барацьбе зрабілася царква. Падчас міжусобіц племянные герцагі спрабавалі паглынуць ці іншым чынам выкарыстаць царкоўныя землі у сваіх інтарэсах, і гэтыя спробы былі паспяховымі. Генрых I пачаў змагацца за самастойнасць царквы ў межах герцагскіх валоданняў. Царква была зацікаўлена ў моцнай каралеўскай уладзе, бо яшчэ з пачатку Франкскай дзяржавы менавіта каралеўская, а потым імператарская ўлада з'яўлялася галоўным апекуном рымскай царквы. Менавіта імператарская ўлада праводзіла шырокую хрысціянізацыю сярод паганскіх плямён і пашырала ўплыў царквы. Менавіта адзіная ўлада караля ці імператара спрыяла аб'яднанню самой царквы і адпавядала ідэалагічнаму пастулату царквы таго часу: адзіны Бог – адзіная Царква – адзіны хрысціянскі ўладар. Акрамя таго, менавіта цэнтральная імператарская ўлада была галоўным падаравацелям ільгот і зямельных валоданняў на карысць царквы. Таму германскія царкоўнікі з разуменнем падтрымалі палітыку Генрыха I. Ён пачаў ставіць на царкоўныя пасады сваіх саюзнікаў, у значнай меры з асяроддзя мясцовых арыстакратаў, і зрабіў першыя крокі на шляху павелічэння іх аўтарытэта як незалежных уладароў унутры герцагскіх валоданняў. Гэта быў ўжо моцны палітычны саюз.

У знешняй палітыцы Генрых I таксама праявіу сябе рэалістам. Атрымаўшы ўладу, ён спыніу амаль усе знешнія войны, нават пачаў плаціць даніну венграм, каб яны спынілі набегі на краіну. Але гэты час адноснага спакою быў выкарыстаны дзеля стварэння добраарганізаванага, цяжкаўзброенага, коннага рыцарскага войска, якое павінна было адбіць венгерскую конную навалу. Ваярам раздалі шмат ленных валоданняў на каралеўскіх землях. Генрых пачаў будаваць агульнадзяржаўную сістэму бургаў – невялікіх умацаванняў ў асноўным на памежных тэрыторыях. Бургі павінны былі даваць прытулак і абарону мясцоваму насельніцтву пад час варожых уварванняў. У будучым шматлікія бургі зробяцца падмуркам для стварэння сярэдневяковых гарадоў.

Усе гэтыя меры далі свой плён. У хуткім часе Генрыху I, абапіраючыся на незадаволенасць мясцовай знаці, змог адарваць Латарынгію ад Французскага каралеўства. Пасля гэтага пачаліся паходы ў землі палабскіх славян. Паходы аказаліся паспяховымі і некалькі славянскіх плямён былі вымушаны прызнаць уладу нямецкага караля. Паспяхова склалася і вайсковая кампанія супраць датчан.

У выніку Генрых адмовіўся плаціць даніну венграм, што выклікала ў 933 г. іх паход у Германію. Але войска Генрыха было падрыхтавана да гэтага і нанесла венграм цяжкае паражэнне, нават не прапусціўшы іх далёка ў глыб краіны.

Генрых I быў прыкладам караля-рыцара, які ўвесь час свайго кіравання правёў у бесперапынных войнах, сілаю сваёй зброі абараніўшы краіну ад знешніх нападаў і сцішаўшы ўнутраныя міжусобіцы. Але нельга растлумачыць працэс захавання палітычнага адзінства германскай дзяржавы, толькі зыходзячы з фактара яго вайсковых здольнасцей. Гэтаму адзінству спрыяў і больш шырокі кантэкст складвання на працягу некалькіх стагоддзяў гаспадарчых, культурных і этнаграфічных традыцый, якія стварылі падмурак будучай германскай нацыі. Вялікім аб'ядноўваючым фактарам была і агульназразумелая мова, хоць і падзеленая ў гэты час на вялікую колькасць мясцовых дыялектаў, час ад часу дастаткова далёкіх адзін ад аднаго. Але ўжо распачаўся працяглы працэс іх збліжэння і нівеліроўкі. Трэба ўлічваць і фактар знешняй небяспекі, які пагражаў значнымі тэрытарыяльнымі стратамі і вынішчэннем часткі насельніцтва. Гэтая пагроза штурхала герцагаў да наладжвання кантактаў. Так, Саксонія, якая дзякуючы паспяховай абароне зрабілася самым моцным у вайсковым плане герцагствам, адначасова была і самым залежным. Яе герцагі былі вымушаны трымаць асноўныя вайсковыя сілы на мяжы і былі зацікаўлены ў дапамозе астатніх рэгіёнаў. Тыя ж, у сваю чаргу, дапамагая Саксоніі, адначасова карысталіся ёю як шчытом. Напрыканцы адзначым ідэалагічны ўплыў царквы, якая аб'ядноўвала грамадства на працягу ўсяго сярэдневякоўя і якая ў гэты час выступіла абаронцам каралеўскіх інтарэсаў у Германіі. Галоўная ж заслуга Генрыха I у тым, што ён змог аднавіць аўтарытэт каралеўскай улады ў самыя цяжкія часы.

**Стварэнне Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі.** Пасля ўзмацнення каралеўскай улады падчас кіравання Генрыха I германская карона без усялякіх турбот перайшла да яго сына – Атона I (936–973). Ён працягваў палітыку свайго бацькі і таксама аказаўся выдатным палітыкам і ваяром. Але ж праявам яго здольнасцей спрыяла і знешнепалітычная сітуацыя. Так, ён умяшаўся ў барацьбу Каралінгаў і Рабертынаў у Францыі і ўсё мацней далучаў Латарынгію да сваёй дзяржавы. Апошняя была спадчынным валоданнем Каралінгскага імператарскага дома, калыскай дынастыі. Панаванне над ёю у тых умовах ужо з'яўлялася прэтэнзіяй на спадчыну былой імперыі. Акрамя таго Латарынгія была адным з найбольш эканамічна развітых рэгіёнаў тагачаснай Заходняй Еўропы. Тут квітнелі шматлікія, дастаткова буйныя гарады, латарынгскія гандляры мелі сталыя сувязі з далёкімі краінамі, напрыклад, з Кардоваю.

У 951 г. Атон I прэдпрыняў першы паход германскіх каралёў у Італію. Ён атрымаў карону лангабардскіх каралёў і ўсталяваў сваё панаванне над Паўночнай Італіяй. У Італіі не было моцнага палітычнага цэнтра, які мог бы супрацьстаяць

германскаму заваяванню. Папскі ж прастол апынуўся ў гэты час у глыбокім ідэалагічным і маральным крызісе. З гэтага моманту і на доўгі час італьянская палітыка будзе прыярытэтам для многіх германскіх каралёў. Усё большы ўплыў Атон І аказваў і на справы ў Бургундскім каралеўстве (басейн рэк Роны і Praванс). Атон перайшоў і да планамернага наступлення на землі палабскіх славян, хаця тут адно за адным узнімаліся паўстанні супраць нямецкай улады.

Але ўсе гэтыя знешнепалітычныя поспехі Атона І былі б нетрывалымі, калі б ён не ўмацаваў сваю ўладу ўнутры Германіі. Неаднойчы паміж Атонам і племяннымі герцагамі ўзнікалі сутыкненні. Адным з самых небяспечных выступленняў супраць улады Атона было паўстанне аднаго з яго сыноў – Ліудольфа, герцага Швабіі, наўвакол якога аб’ядналіся ўсе каралеўскія недобразычліўцы. Але процістаянне скончылася неспадзявана. Падчас ваенных дзеянняў прыйшла вестка аб уварванні ў межы Паўднёвай Германіі вялікай вянгерскай арды, якая хутка прасоўвалася ў глыб краіны. Перад сур’ёзнай пагрозай праціунікі аб’ядналі свае намаганні. Венграў у бітве пры Лехфельдзе каля Аўгсбурга ў 955 г. ушчэнт разбілі і з гэтага часа іх агрэсія была спынена. Пасля гэтай перамогі ўжо ніхто адкрыта не мог выступіць супраць неверагодна ўзросшага аўтарытэта Атона І у краіне, так што яго праціўнікі павінны былі затаіцца.

У 962 г. Атон І прэдпрыняў паход у Італію з мэтай атрымання імператарскай кароны. 2 лютага 962 г. ён быў каранаваны ў Рыме папам Іаанам XII. Узнікла дзяржава, якая пазней атрымае назву Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі. Назва паказвае глыбінны ідэалагічны і рэлігійны сэнс, якой германскія ўладары надавалі саюзу іх дзяржавы з рымскай царквою. Адначасова атрыманне імператарскага тытула было заяўкай на палітычнае лідэрства ва ўсім заходнееўрапейскім рэгіёне. І пад гэтым ужо быў моцны падмурак: пад рэальную ці намінальную ўладу Атона трапілі шматлікія тэрыторыі і каралеўствы, якія раней складалі імперыю Карла Вялікага. У межы Свяшчэннай Рымскай імперыі ўваходзілі (праўда, у розныя часы некаторыя землі выходзілі ці спрабавалі выйсці з-пад германскага ўплыву) усе германскія землі, Латарынгія, Бургундскае каралеўства, Чэскае каралеўства, землі Паўночнай Італіі і Папская вобласць, Фрысландыя і г. д.

Каранацыя Атона імператарскай каронай прывяла да сутыкнення з Візантыяй, якая прэтэндавала на адзіны ў Еўропе імператарскі тытул, так як і на выключную спадчыну, якая засталася ад Рымскай імперыі. Пасля вайсковай барацьбы з Візантыяй за Італію Атон І дамогся для свайго сына Атона рукі візантыйскай прынцэсы Феафаны, сваячкі імператара Іаана Цiмісхія. З гэтага моманту аўтарытэт новай дзяржавы ўжо не аспрэчваўся. Але гэта не азначала, што заходнееўрапейскія каралі прызналі кіраўніцтва германскага імператара, ці што спынілася барацьба некаторых зямель (напрыклад, італьянскіх і славянскіх)

за сваю незалежнасць.

Каранаванне і ўзнаўленне саюза з рымскай царквой далі Атону I яшчэ адну зброю ў змаганні з герцагскім сепаратызмам. Узяўшы царкву пад сваю апеку (рымскі папа зараз павінен быў прыносіць імператару прысягу), Атон I абвясціў сябе абаронцам царкоўных інтарэсаў унутры Германіі. Гэта было працягам палітыкі Генрыха I, але ў больш шырокіх рамах. Атон I перадаў пад кіраванне епіскапам і архіепіскапам вялікія зямельныя валоданні унутры земель герцагаў, чыё самаўладдзе ён ужо значна абмежаваў. А юрысдыкцыя царкоўных феадалаў ахоплівала яшчэ большыя тэрыторыі ўнутры герцагстваў. Ні ў адной з краін Еўропы царква не мела такіх буйных землеўладанняў. Але пры моцнай імператарскай уладзе кантроль за царкоўнымі землямі з боку імператара быў дастаткова жорсткім. Гэта дасягалася выключна імператарскім правам царкоўнай інвестытуры, а дзякуючы цэлібату гэта была не пустая прэрагатыва. Створаная Атонам сістэма атрымала назву імперскай царквы.

Спакойна праходзілі каранацыі нашчадкаў Атона – Атона II (973–983) і Атона III (983–1002). Прынцып спадчыннасці германскай манархіі нікім не аспрэчваўся. Але ж гэтая відавочная магутнасць Саксонскай дынастыі, мары яе прадстаўнікоў аб аднаўленні агульназаходнееўрапейскай імперыі адыгралі з імі злы жарт. Усе сілы Германіі былі скіраваны ў гэты момант на вырашэнне заваёўніцкіх задач. Так, Атон II вёў амаль бесперапынныя знешнія войны, усе больш часу праводзячы па-за межамі Германіі. Нягледзячы на сваю энергічнасць і ваяўнічасць, ён пацярпеў паражэнні у шмат якіх істотных знешнепалітычных канфліктах: з Францыяй, з арабамі за паўднёваітальянскія землі, адстаяла сваю фактычную незалежнасць Чэхія, а ў 983 г. пачалося вялікае антыгерманскае паўстанне ў землях палабскіх славян-язычнікаў, якое было з цяжкасцю падаўлена, ды і тое толькі з дапамогай хрысціянскай Польшчы.

Атон III, які стаў каралём ужо ў трохгадовым узросце, пасля дасягнення поўналецця ўсе свае сілы сканцэнтраваў менавіта на аднаўленні Рымскай імперыі. Ён амаль увесь час праводзіу ў Рыме, нават сам спрабаваў афіцыйна назначаць рымскіх пап. Але гэта палітыка відавочна прыходзіла ў супярэчнасць з інтарэсамі самой Германіі. Узнікла змова нямецкіх феадалаў, якую спыніла толькі неспадзяваная смерць Атона III у 1002 г. у вельмі маладым узросце 22 гадоў. З яго смерцю скончылася імперская рамантыка і пачаўся перыяд сталай дзяржаўнасці, цэнтрам якой, бясспрэчна, ужо была Германія.

Упершыню пасля ўмацавання Саксонскай дынастыі новы кароль Генрых II (1002–1024), бліжэйшы сваяк Атонаў і герцаг Баварыі, быў не толькі зацверджаны, але і абраны на з'ездзе германскай знаці. Пры гэтым ён пайшоў на ўступкі шматлікім феадалам. Генрых II адразу дэклараваў ідэалы Франкскай (Германскай) імперыі, і гэта была істотная змена знешнепалітычных прыярытэтаў. Але канчаткова выкрэсліць італьянскі напрамак імперскай палітыкі

было немагчыма – менавіта ў Рыме “знаходзілася” імператарская карона.

Такім чынам, у другой палове X–XI ст. у Цэнтральнай Еўропе ўзнікла новая прэтэндаваўшая на агульнаеўрапейскае ўладаранне імперыя, этнічным і палітычным цэнтрам якой былі германскія землі. Сапраўды, з моманту кіравання Атона I і да пачатка XIII ст. імперыя шмат у чым вызначала палітычнае і ідэалагічнае жыццё ўсёй Еўропы. Але спробы ўсталяваць еўрапейскую гегемонію ўжо ў XI ст. пачыналі падрываць сілы Германіі і яе ўладароў.

У гэты час Германія аказалася найбольш цэнтралізаванай краінай сярод еўрапейскіх дзяржаў. Герцагі ўжо не выступалі супраць прынцыпу падначалення германскаму імператару, а змагаліся толькі за правы кіравання на сваіх землях.

**Узмацненне імператарскай улады пры першых прадстаўніках Франконскай дынастыі.** У 1024 г. у Германіі адбылася змена дынастый, так як Генрых II памёр без нашчадкаў. Германская знаць, карыстаючыся прынцыпам спадчыннасці, абрала каралём праўнука Атона I па жаночай лініі Конрада II (1024–1039). На германскім прастоле замацавалася Франконская (Салічная) дынастыя (1024–1125).

Конрад II вёў вельмі актыўную знешнюю палітыку. Ён зноў звярнуўся да італьянскай палітыкі і аднавіў уладаранне імперыі ў Паўночнай Італіі. Ён змог дамагчыся і каранавання імператарскай каронай. У 1034 г. да імперыі было канчаткова далучана Бургундскае каралеўства.

Конрад II зрабіў і пэўныя захады дзеля абмежавання ўлады буйных феадалаў. Але ў поўнай меры гэта палітыка праводзілася пры яго сыне Генрыху III (1039–1056). Уладаранне гэтых каралёў лічыцца найвышэйшым уздымам магутнасці імперскай улады ў высокім сярэдневякоўі, хоць можна гаварыць і аб тым, што менавіта ў гэты час былі закладзены прычыны будучага крызісу.

І Конрад II, і Генрых III спрабавалі абапірацца на розныя палітычныя сілы. Была праведзена вайсковая рэформа, мэта якой – стварэнне пастаяннага войска з міністэрыялаў, якое залежала б толькі ад караля і несла пастаянную службу ў гарнізонах. У войска набіраліся людзі не высакароднага паходжання, нават трапіўшыя ў розныя формы залежнасці. У хуткім часе ўлады пачалі выкарыстоўваць міністэрыялаў на адміністрацыйных пасадах. Міністэрыялы паходзілі з шырокіх сацыяльных слаеў, гэта пашырала падтрымку імператарскай улады. Таксама гэта давала каралю магчымасць мець войска, незалежнае ад феадальнага рушэння. Трэба адзначыць яшчэ адну новую сацыяльную сілу, якая падтрымлівала імператарскую ўладу – усе больш узмацняліся германскія гарады.

Працягвалася актыўнае супрацоўніцтва імператарскай улады з царквою. Конрад II скіраваў свае намаганні на тым, каб зрабіць з царквы частку дзяржаўнага апарату, і ў гэтым плане актыўна спрабаваў падначаліць сабе розныя царкоўныя пасады. Генрых III падтрымаў рух клюнійскіх царкоўных рэфарматараў, якія змагаліся за аднаўленне аўтарытэта каталіцкай царквы і

папскага прастола. Неаднаразова ён выступаў і як пасрэднік у міжцаркоўных спрэчках. Пры ім германская царква атрымала асабліва вялікія прывілеі.

Імператары Франконскай дынастыі актыўна падтрымлівалі сваіх падвасалаў у канфліктах з іх непасрэднымі сеньерамі-герцагамі. Пры гэтым Генрых III часта адбіраў у герцагаў невялікія часткі іх валоданняў, каб раздаць іх больш дробным васалам ці сваім сваякам. У выніку актыўна ішло драбленне герцагскіх валоданняў, узнікалі заблытаныя сітуацыі з падначаленнем васалаў. Усе больш разлагаўся племянны падмурак герцагстваў, і яны ператвараліся ў звычайныя буйныя феадальныя валоданні. Больш за тое: у нейкі час кіравання Генрыха толькі ў Саксоніі і Латарынгіі заставаліся герцагскія дынастыі. Усе астатнія герцагствы апынуліся ў руках імператарскага дома. Акрамя таго першыя імператары Франконскага дома ўпершыню пачалі паступова ствараць асабісты дамен імператарскай сям’і у цэнтральнай частцы Германіі.

Але жорсткая палітыка Конрада II і Генрыха III у дачыненні да феадалаў выклікала і ўзмацненне іх незадаволенасці, якое выражалася ўсе больш адкрыта. Акрамя таго, ва ўмовах адноснай заблытанасці васальных адносін з’яўлялася ўсе больш феадалаў, якія лічылі сябе ў сілах процістаяць не толькі герцагам, але і імператарам.

У канцы кіравання Генрыха III пачала пагаршацца і знешнепалітычная сітуацыя. Асабліва гэта тычылася ўсходняга напрамку. Калі раней васальную залежнасць ад імперыі прызнавалі Польшча, Чэхія і Венгрыя, то зараз Польшча і Венгрыя змаглі пазбавіцца сваёй васальнай залежнасці, а Чэхія яе захавала толькі пасля ўпартай вайны. Зноў пачаліся няўдачы ў палабскіх землях. Колькасць праблем нарастала і у гэты час у 1056 г. нечакана памер Генрых III.

**Сістэма каралеўскай улады ў Германіі.** Улада германскіх каралёў, якія адначасова лічыліся імператарамі пасля каранацыі ў Рыме, у часы кіравання Саксонскай, а потым Франконскай дынастыі была дастаткова моцнай. Ужо ў сярэдзіне XI ст. тытул германскага караля зрабіуся сінонімам тытула імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі (так мы далей і будзем выкарыстоўваць гэтыя паняцці).

Кароль традыцыйна лічыўся гаспадаром усяго насельніцтва краіны, у тым ліку і арыстакратаў. Каралеўскі двор адначасова з’яўляўся і вышэйшай дзяржаўнай ўладай ў Германскай імперыі, своеасаблівым яе ўрадам. Ён складаўся з членаў каралеўскай сям’і і іх слуг, а таксама з міністэрыялаў і асоб вольнага паходжання, якія складалі апарат кіравання. Акрамя таго пры каралеўскім двары знаходзілася шмат свецкіх і царкоўных феадалаў.

На працягу ўсяго сярэдневякоўя каралеўскі двор не меў сталага месца размяшчэння і увесь час перасоўваўся па ўсёй тэрыторыі краіны. Гэта было звязана з тым, што германскія каралі першапачаткова не мелі свайго дамена, а таксама ў Германіі не было такога горада, які б, як Парыж у Францыі, ужо ў

раннім сярэдневякоўі зрабіўся сімвалам краіны. Акрамя таго, няспынныя вандроўкі па краіне давалі магчымасць каралю падтрымліваць сваю ўладу ў розных кутках краіны, своечасова рэагаваць на феадальныя выступленні ці на варожыя ўварванні. Паўсюдна, дзе з'яўляўся каралеўскі двор, правы караля былі вышэй правоў феадалаў, і ён меў магчымасць праводзіць судовыя пасяджэнні, прыбытак ад якіх трапляў ў каралеўскую скарбніцу.

Цэнтральны дзяржаўны апарат імперыі складаўся з канцлера – першы міністр пры двары, у распараджэнні якога знаходзіліся практычна ўсе справы кіравання; пфальцграфа (дазорац палаца); маршала (галоўнакамандуючы) і інш. Гэтыя пасады належалі часцей за ўсе моцным князям, якія пазней ператварылі іх у спадчынныя лены. Так саксонскі герцаг стаў маршалам, архіепіскап Майнцкі – канцлерам імперыі, архіепіскап Трырскі – канцлерам Італіі і г. д.

Практычна ўсе справы ўрада дзяржавы вялі міністэрыялы двара, функцыі якіх выходзілі далёка за межы асабістай дварцовай службы, так як іншых органаў выканаўчай улады германская манархія не мела. Міністэрыялы займалі і высокія прыдворныя пасады.

Германскі кароль сканцэнтраваў у сваіх руках заканадаўчую, судовую і адміністрацыйную ўладу і ў сацыяльнай самасвядомасці сярэдневяковага чалавека забяспечваў стабільнасць грамадства і з'яўляўся ўвасабленнем не толькі боскай, але і агульнай волі, сацыяльнай разумнасці. Сярод галоўных прававых інстытутаў, з якіх складалася ўлада караля, можна назваць наступныя: каралеўскі бан, каралеўскія рэгаліі, каралеўская юрысдыкцыя.

Каралеўскі бан прадастаўляў права аддаваць загады прымусовага характару ў галіне кіравання дзяржавай, якім павінны былі падпарадкавацца ўсе жыхары краіны. З X ст. кароль меў выключнае права выкарыстоўваць прымусовую сілу ў выглядзе адміністрацыйных і судовых мер. Германскі імператар валодаў ваенным банам (мог патрабаваць ад сваіх васалаў ваеннай імперскай службы, а сам з'яўляўся вярхоўным ваеначальнікам), бургавым банам (правам засноўваць бургі і прымушаць насельніцтва да будаўніцтва крэпасцей), гандлёвым банам (правам на беспошлінны гандаль).

У галіне вышэйшай юрысдыкцыі імператар лічыўся носьбітам правасуддзя і вярхоўнай судовай улады ў імперыі, а каралеўскі суд, або суд каралеўскага двара – вышэйшым у краіне. Гэты суд не меў пастаяннага складу і дакладна вызначанага кола падсудных яму спраў, аднак ён мог прымаць розныя пастанаўленні адміністрацыйнага, ваеннага і карнага характару. Германскія каралі вельмі часта перадавалі свае судовыя функцыі службовым асобам – графам і царкве ў якасці лена, якія мелі права судзіць загадам (банам) караля. У сувязі з гэтым к канцу XIII ст. судовая каралеўская ўлада была распаўсюджана толькі на вузкае кола каралеўскіх васалаў і страціла ўсеагульны і неабмежаваны характар.

Другім вельмі важным прававым інстытутам з'ўляліся каралеўскія рэгаліі –

правы на разнастайныя даходы кароны ад карыстання палітычнымі, судовымі, зямельнымі, фінансавымі, гаспадарчымі правамі і прывілеямі. Да важнейшых рэгалій адносілася манетная рэгалія – выключнае права караля на чаканку манеты, замены яе новай і г. д. Спачатку гэта рабіў каралеўскі манетны двор у Альтэнбургу, а з X ст. права чаканкі манеты пачало перадавацца ў выглядзе каралеўскай прывілеі асобным магнатам.

Існавала таксама зямельная рэгалія. Кароль з’яўляўся крыніцай усіх ленных падараванняў. Са зменай манарха ўсе прававыя акты каралеўскай улады аб перадачы зямлі васалам гублялі юрыдычную сілу, а землі вярталіся кароне. Новы кароль мог аднавіць акт аб перадачы зямлі, або адказаць былому ўладальніку ў лене.

Да вельмі значных рэгалій нямецкага караля адносіліся права назначаць на вышэйшыя службовыя пасады ў дзяржаве, права распараджацца казной, а таксама інвестытура – права назначэння епіскапаў. Асобная галіна вышэйшай улады германскай манархіі – рэгуляванне адносін паміж буйнымі феадаламі ў імперыі. Да караля звярталіся за дапамогай і абаронай. У выніку епіскапальнай палітыкі Атона I германская царква фактычна ператварылася ў вышэйшы дзяржаўны інстытут, а яе служыцелі ўвайшлі ў склад леннай іерархіі імперыі. Яны карысталіся імунітэтнымі прывілеямі і мелі судова-адміністрацыйную ўладу над насельніцтвам у межах царкоўных уладанняў.

Германскі манарх карыстаўся і вышэйшай паліцэйска-адміністрацыйнай уладай. Ён мог караць за злачынствы супраць манархіі і царквы і спаганяць штрафы са сваіх службовых асоб – фогтаў, графаў і г. д.

Акрамя названых вышэй каралю належалі таксама горная, саляная, піўная і іншыя рэгаліі.

Даходы ад рэгалій складалі буйныя матэрыяльныя сродкі германскай кароны і ўзмацнялі каралеўскую ўладу. Рэгаліі абмяжоўвалі правы розных саслоўяў, тэрыторый, гарадоў з боку манарха і мелі вельмі вялікае палітыка-прававое значэнне. Забарона дзяржаўным службовым асобам парушаць межы імунітэтных тэрыторый фактычна азначала адмову караля ад усялякіх паступленняў публічна-прававога характару.

**Эканамічнае і сацыяльнае развіцце Германіі у другой палове X–XII ст.** Ужо з другой паловы X ст. у сацыяльным і гаспадарчым жыцці Германіі пачаліся істотныя змены. Ішло расслаенне раней адносна аднароднага племяннога грамадства, якое да гэтага складала асноўную масу насельніцтва. Стварэнне Генрыхам I тяжкаўзброенага войска вылучала частку абшчыннікаў у шэраг трымальнікаў ленаў. Узнікла дробнае рыцарства. Аднак улады былі зацікаўлены ў прымацаванні астатняй часткі сялян да зямлі, каб выкарыстоўваць іх працу ў гэтых ленах. Падобныя вынікі мела і міністэрыяльная рэформа.

XI ст. – перыяд феадалізацыі германскага грамадства, хоць у цэлым гэты

працэс быў адносна замаруджаны ў агульнаеўрапейскім маштабе ў параўнанні, напрыклад, з Францыяй. Да XI ст. лены былі яшчэ не спадчыннымі ўладаннямі, а даваліся толькі за службу. На працягу XI ст. лены зрабіліся спадчыннымі уладаннямі. Той жа працэс адбываўся і у герцагствах у цэлым. Праявай росту магутнасці феадалаў, у тым ліку эканамічнай, было актыўнае будаўніцтва феадальных замкаў па ўсёй краіне.

Герцагі карысталіся ўжо дастаткова шырокімі правамі на сваёй тэрыторыі, аднак астатнія феадалы яшчэ не мелі такіх правоў на сваіх землях і правоў на сялян. Перш за ўсё гэта тычылася судовай юрысдыкцыі, якая па-ранейшаму ўваходзіла ў каралеўскі бан. У XI ст. шмат што змянілася: каралі давалі феадалам і асабліва царкве шырокія правы на юрысдыкцыю (бан) на сваіх землях і ў першую чаргу на пазямельназалежных сялян. У XII ст. гэта прывяло да стварэння імунных феадальных тэрыторый, што канчаткова было пацверджана каралямі у XIII ст.

Царква, атрымаўшы права агульнай судовай юрысдыкцыі, не магла карыстацца найвышэйшым з гэтых правоў – правам “крывавай” юрысдыкцыі, смертным пакараннем. Таму гэты суд у царкоўных валоданнях ажыццяўлялі спецыяльныя людзі, юрысты-законнікі – фогты. Яны прызначаліся царквой з асяроддзя мясцовай арыстакратыі. Хутка фогты пачалі адыгрываць значную ролю і у валоданнях свецкіх феадалаў.

XI ст. было і часам агульнага наступлення на правы сялян і ўзмацнення іх залежнасці і эксплуатацыі. На працягу ўсяго X ст. абшчыны-маркі заставаліся вольнымі, а вольныя абшчыннікі складалі асноўную частку насельніцтва. Зараз жа сяляне траплялі ў розныя формы эканамічнай, пазямельнай, судовай, асабістай і іншай залежнасці. У XI–XII ст. адбывалася нівеліроўкі сялянства ў адносна аднароднае залежнае насельніцтва. Амаль паўсюдна феадалы заявілі свае правы на альменду (абшчынныя ўгоддзі – лясы, азёры, рэкі, пашы і г. д.). Хоць абшчыны і спрабавалі ў судах адстойваць свае правы, аднак феадалы звычайна перамагалі. Адным са значных вынікаў пераўтварэння вольнага германскага абшчынніка ў залежнага селяніна было тое, што залежныя не маглі насіць зброю і аддавалі сябе пад вайсковую абарону свайго феадала.

Тым не менш у Германіі захоўвалася і вольнае сялянства, што абумоўлівалася рознымі прычынамі. Так было ў Саксоніі (асабліва на славянскім памежжы), у Фрысландыі, Цiроле і іншых горных рэгіёнах.

Галоўнай буйной вытворчай адзінкай заставалася феадальная вотчына, узорам для якой першапачаткова была яшчэ вотчына Франкскай дзяржавы. Вотчына адначасова заставалася і дзяржаўна-адміністрацыйнай адзінкай. У кожнай феадальнай вотчыне існаваў асабісты апарат прымусовай улады, які складаўся з міністэрыялаў і васалаў феадала. Кожная вотчына мела свой асабісты суд, паліцыю, войска. Гэты апарат ажыццяўляў адначасова і гаспадарчыя, і

судова-адміністрацыйныя функцыі. У царкоўных вотчынах ён складаўся з фогтаў і іх памочнікаў, старасты і іншых гаспадарчых службовых асоб.

У XI ст. ідзе буйны рост вотчыннага землеўладання, па ўзоры буйных вотчын узнікаюць і вотчыны больш дробных феадалаў. Існавалі царкоўныя вотчыны, добра арганізаваныя, з эфекіыўным апаратам кіравання, яны часта былі прыкладам для свецкіх феадалаў. Развіццю іх гаспадаркі садзейнічала і тое, што царква была вызвалена ад усіх дзяржаўных павіннасцей. Маючы гэткія ільготы царква сама магла даваць ільготы вольным сялянам, якія па розных прычынах абіралі сабе апекуна. Трэба адзначыць і такі момант, што ўжо ў XII ст. нямецкая царква лічыла карысным атрымліваць і атрымлівала прыбыткі у грошах, што таксама садзейнічала хуткаму развіццю царкоўнай гаспадаркі.

Асноўную масу вотчынных залежных сялян (серваў) складалі дзве катэгорыі: першая – цалкам залежныя і фактычна прыналежныя да зямлі, на якой яны жылі, і другая – спадчынныя трымальнікі зямлі, якія былі да яе прымацаваныя, але карысталіся абмежаванымі правамі. Галоўным відам сялянскай адпрацоўкі ў вотчыне была паншчына.

З канца XI ст. пачынаецца рост сялянскіх павіннасцей, што было звязана са шматлікімі прычынамі. Так, атрыманне права юрысдыкцыі давала магчымасць феадалам узмацняць сялянскую залежнасць. Павялічваюцца каралеўскія павіннасці на сялянства і перш за ўсё павіннасць па пабудове каралеўскіх бургаў, асабліва ў часы кіравання Генрыха IV у Саксоніі і Цюрынгіі. Ад караля не адставалі і феадалы, якія пачалі будаўніцтва замкаў па ўсей краіне. Палітычныя цяжкасці перыяду грамадзянскіх войнаў у канцы XI ст. таксама адбіліся на становішчы сялянства, за кошт якога феадалы спрабавалі павялічыць свае прыбыткі на вядзенне вайны і ўтрыманне вялікага войска. Ды і простае павелічэнне колькасці феадалаў ужо ўзмацняла ціск на сялянства.

Але ўзмацненне эксплуатацыі вяло і да сялянскага пратэсту. Нездарма менавіта на канец XI ст. адносяцца першыя выбухі сялянскай незадаволенасці, найбольш яскравым момантам якой было саксонскае паўстанне 1073–1075 гг., калі сяляне разбурылі некалькі буйных каралеўскіх замкаў, і нават былі заклікі разбурыць усе феадальныя замкі.

Развіццё закранула і германскія гарады. Існаваўшыя да другой паловы X ст. гарады Германіі былі закладзены яшчэ ў рымскія часы і размяшчаліся на заходніх і паўднёвых памежных тэрыторыях Германіі – Кёльн, Майнц, Трыр, Аахен. Гарады былі у асноўным рэзідэнцыямі каралёў, царкоўных іерархаў і буйных магнатаў. З другой паловы X ст. пачынаецца аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі і рамеснікі пераходзяць жыць у старыя гарады і пачынаюць будаваць новыя на ўсёй тэрыторыі краіны. Для ўзнікнення горада былі патрэбны дзве галоўныя ўмовы: гандлёвыя шляхі і магчымасці абароны. Асноўныя гандлёвыя шляхі праходзілі па рацэ Рэйн. Таксама гандаль развіваўся на ўзбярэжжы

Паўночнага і Балтыйскага мораў і каля альпійскіх перавалаў. Тут рост гарадоў быў найбольш хуткі. Тым не менш, урбанізаванасць Германіі адставала ад перадавых абласцей тагачаснай Еўропы. Сказвалася і тое, што ў Германіі не было сталіцы, якая б зрабілася маральным лідэрам гарадскога будаўніцтва.

XI–XII ст. прынеслі не толькі феадалізацыю германскаму грамадству. У гэты час актыўна развівалася гаспадарка, ішла ўнутраная каланізацыя і расла колькасць насельніцтва. А з другой паловы XII ст. увогуле назіраецца выразны эканамічны ўздым. XII ст. было часам актыўнай каланізацыі славянскіх зямель. Развівалася рудная справа, зараз у Германіі здабывалі шмат серабра, медзі і жалезнай руды.

**Германская каланізацыя на ўсходзе.** Мяжа са славянамі была адной з самых небяспечных яшчэ ў пачатку X ст. Неаднаразова славяне рабілі паспяховыя набегі на германскія землі пры аслабленні германскай манархіі. Генрых I і Атон I пачалі фарміраваць сістэму ўсходняй палітыкі. Але калі Генрых I у асноўным будаваў бургі, каб стрымліваць небяспечныя набегі, то Атон I перайшоў да сталага вайсковага наступлення на славянскія землі.

Акрамя таго, Атон I стварыў Магдэбургскае епіскапства, якое павінна было хрысціць усходнія народы, перш за ўсё славян. Місіянерская дзейнасць нямецкіх манахаў дасягала нават гарадоў Кіеўскай дзяржавы. Місіянерскае пранікненне спалучалася з вайсковымі намаганнямі імператараў і саксонскіх герцагаў. У хуткім часе германскіх місіянераў прынялі Польшча, Чэхія і Венгрыя, прыняўшыя хрысціянства ў рымска-каталіцкім варыянце. Але нягледзячы на магутны палітычны ціск імперыі, яны змаглі адстаяць сваю палітычную незалежнасць. Больш за тое, у часы кіравання Генрыха II Германія сутыкнулася і са спробамі польскага караля Балеслава Храбрага стварыць дзяржаву, у якую вайшлі б усе заходнеславянскія народы. З цяжкасцю імператар змог спыніць стварэнне магчымага саюза. Абвяшчэнне ў 1000 г. у прысутнасці германскага імператара Атона III Гнезненскага біскупства ў Польшчы паклала канец і спробам царкоўнага падначалення гэтай славянскай краіны.

Нязначнымі ў X ст. былі і поспехі ў падначаленні палабскіх плямён, якія заставаліся язычнікамі і часта прызнавалі нямецкую ўладу толькі намінальна. У 983 г. пачалося шырокае антыгерманскае паўстанне ў палабскіх землях, калі былі знішчаны нямецкія гарнізоны і паселішчы. Імперыя аднавіла свой уплыў з вялікімі намаганнямі і пры дапамоге хрысціянскіх Польшчы і Чэхіі. Але вайна з палабскімі плямёнамі прымала ўсё больш жорсткія формы, калі прыгадваліся шматлікія крыўды з абодвух бакоў. Аднак гэтае становішча было небяспечным менавіта для славянскага насельніцтва, якое стаяла на больш нізкім узроўні развіцця. Пачыналіся яго паступовае фізічнае вынішчэнне і асіміляцыя.

XII–XIII ст. – гэта перыяд няспыннай германскай каланізацыі на ўсход (Drang nach Osten). Перш за ўсё гэта тычылася зямель палабскіх славян паміж рэкамі Эльбай і Одэрам і земляў Карынтыі і Штырыі на поўдні. Безумоўна, што

адной з галоўных прычын поспеху гэтай каланізацыі быў вялікі дэмаграфічны выбух у Германіі. Усе групы германскага насельніцтва былі зацікаўлены ў асваенні новых зямель. Германскія імператары таксама ўдзельнічалі у гэтым працэсе, асабліва дынастыя Гогенштаўфенаў. Вынікам гэтых паходаў магло быць распаўсюджанне іх палітычнага ўплыву, атрыманне імі новых земляў і насаджэнне сваіх міністэрыялаў. Але ніколі нямецкія імператары не накіроўвалі і не падначальвалі увесь працэс каланізацыі. Гэта быў шырокі рух, у якім удзельнічалі шырокія масы германскага насельніцтва.

Так, шмат сялян пераходзіла ў землі за Эльбай з XII ст., што было выклікана недахопам зямлі ў цэнтральных германскіх землях. Нават германскія феадалы ў гэтых умовах, пазбягаючы масавай паўперызацыі сялянства, мэтанакіравана зганялі залішкі сялянскага насельніцтва са сваіх зямель, адначасова звальняючы іх не толькі ад зямлі, але і ад усіх формаў эканамічнай і асабістай залежнасці. Апынуўшыся на каланізуемых землях, часта ўжо асабіста вольныя сяляне атрымоўвалі ад мясцовых феадальных уладароў вайсковую і юрыдычную абарону і зямельныя надзелы ў спадчыну ці на ўмовах трымання. Пры гэтым іх падаткі былі вельмі невялікімі, а эканамічныя павіннасці і юрыдычны ціск вельмі легкімі. Гэтымі ільготамі феадалы ўмацоўвалі свае ўладанні. Таксама яны былі зацікаўлены ў стварэнні новых гарадоў. Рамеснікі, асабліва з добрай кваліфікацыяй, атрымоўвалі шматлікія ільготы. Паступова пачаўся рост гарадоў, што было выклікана і выгадамі мясцовага гандлю з усходняй Еўропай. У 1237 г. упершыню ўзгадваецца Берлін.

Безумоўна, што не было недахопу ў добраахвотніках з дробных рыцараў удзельнічаць у войнах за палабскія землі. Гэта давала ім магчымасць атрымаць новыя землі і ўзвысіць свой статус на феадальнай лесвіцы.

Актыўным удзельнікам каланізацыі была германская царква, якая працягвала змагацца за нехрышчоныя душы славян, не забываючы пры гэтым атрымліваць і новыя зямельныя ўладанні. У 1202 г. епіскап Адальберт заснаваў Рыгу. З пачатку XIII ст. пачалі актыўна дзейнічаць вайскова-манаскія ордэны перш за ўсё на прыбалтыцкіх землях: з 1202 г. Ордэн мечаносцаў мячом хрысціянізоўваў племя ліваў, у 1226 г. Тэўтонскі ордэн па запрашэнні мазавецкага князя пачаў дзейнасць па хрысціянізацыі племені прусаў. Манаскія ордэны атрымоўвалі дапамогу ад імперыі і ад нямецкіх гандлёвых аб’яднанняў.

Найбольш актыўна ў каланізацыі ўдзельнічалі заможныя феадалы. Войны на ўсходзе прыносілі вайсковую славу. Акрамя таго можна было павялічыць, ці нават стварыць новыя дастаткова буйныя феадальныя валоданні, што было асабліва важна ў перыяды ўзмацнення ціска каралеўскай улады на герцагаў. Так герцаг Саксоніі Генрых Леў (1142–1180), мабыць, адным з нямногіх пачаў добра арганізаваную кампанію па далучэнні ўсходніх зямель да сваіх валоданняў.

Напрыканцы трэба зрабіць заўвагу, што нельга разглядаць працэс германскай

каланізацыі толькі як вайсковую экспансію на славянскія землі. Гэта быў таксама шырокі рэлігійны і культурны ўплыў. Германскія каланісты прынеслі на славянскія землі і новыя метады вядзення сельскай гаспадаркі і новыя прылады працы, такія як цяжкі плуг. З імі прыйшлі новыя архітэктурныя, будаўнічыя і рамесныя прыёмы і шмат што іншае. Так, ужо з XII ст. славянскія ўладары Багеміі і Сілезіі былі зацікаўлены ў прыцягненні германскіх пасяленцаў на свае землі і стваралі дзеля гэтага адпаведныя ўмовы.

**Грамадзянскія войны і барацьба з папствам.** Каралю Генрыху IV (1056–1106) было толькі 6 гадоў, калі памёр яго бацька, і ён заняў германскі прастол. Да свайго паўналецця ён быў цацкай у руках некалькіх феадальных груповак. Спачатку дзейнасць каралеўскага двара кантралявала царкоўная групоўка на чале з архіепіскапам Кёльна Анонам, якая выкарыстоўвала гэтую магчымасць дзеля атрымання новых зямель і асабістага абагачэння. У выніку Генрых быў фактычна выкрадзены групай буйных феадалаў, незадаволеных такім становішчам. Усё гэта аб’ектыўна спрыяла ўзнікненню асабістай варожасці паміж рознымі палітычнымі лідэрамі.

Пасля дасягнення свайго паўналецця Генрых IV перш за ўсё пачаў спробы аднаўлення магутнасці каралеўскай улады і дынастыі. Але хутка аказалася, што абставіны з часоў першых каралёў Франконскай дынастыі значна змяніліся і на шляху ўзмацнення каралеўскай улады з’явіліся моцныя сілы. Асабліва незадаволена была арыстакратыя, якая бачыла пагрозу ў працягу палітыкі Конрада II і Генрыха III. Перш за ўсё гэта было звязана з раздачамі шматлікіх зямельных ленаў дробным каралеўскім васалам і з адбіраннем юрыдычных правоў і зямельных валоданняў ў высакародных германскіх сем’яў. У стварэнні міністэрыяльнага войска, створанага нават з асяроддзя напалову залежных людзей, таксама бачылася ўмяшанне каралеўскай улады ў галоўную сферу высакароднай дзейнасці феадалаў – вайсковую справу. Пастаяннае міністэрыяльнае войска зніжала палітычную залежнасць караля ад васальнага скліканага рушэння. Арыстакратыя была незадаволена і няспынным павелічэннем палітычнай вагі, гаспадарчай моцы і іншых розных ільгот на карысць царквы.

Усе большую незадаволенасць праяўляла і нямецкае сялянства, становішча якога відавочна пагаршалася. Асабліва гэта было адчувальна на поўначы краіны ў Саксоніі, дзе раней захоўвалася шмат вольнага сялянства.

Першым крокам Генрыха IV была спроба вярнуць землі каралеўскай дынастыі, страчаныя падчас яго непаўналецця і перш за ўсе ў Саксоніі. Быў аддадзены загад будаваць на каралеўскіх землях замкавыя ўмацаванні. Адказам на гэтыя крокі караля было Саксонскае паўстанне ў 1073 г., у якім прынялі удзел вельмі розныя сацыяльныя сілы. Акрамя феадалаў, адным з галоўных удзельнікаў паўстання было паўднёвасаксонскае сялянства, на якое леглі асноўныя абавязкі па адбудове каралеўскіх бургаў. Незадаволенасць выклікала і дзейнасць каралеўскіх

прадстаўнікоў у Саксоніі, якія паходзілі з цэнтральнай часткі Германіі. Да паўстання далучылася і большая частка мясцовых клірыкаў.

Сваімі сіламі Генрых IV не змог падавіць паўстанне і звярнуўся за дапамогай да паўднёвагерманскіх герцагаў. Арыстакратыя паўднёвай Германіі, якая таксама не мела цёплых пачуццяў да палітыкі караля, тым не менш далучылася да яго войска. У значнай меры гэта рашэнне было звязана з неабходнасцю падавіць выступленне сялян, якія ўжо патрабавалі разбурыць не толькі каралеўскія, але і усе феадальныя замкі. Летам 1075 г. аб’яднаныя войскі Генрыха IV і яго саюзнікаў нанеслі паражэнне сілам паўстаўшых. Але канчаткова вырашыць пытанне не ўдалося і  саксонскія феадалы не страцілі свае асноўныя вайсковыя магчымасці і землі.

Паўднёвагерманская знаць адышла ад саюза з каралём. Справа ў тым, что палітычная сітуацыя кардынальна змянілася. Як ні дзіўна, на гэты раз небяспека каралеўскай уладзе пагражала з боку яе даўніх саюзнікаў – каталіцкай царквы і рымскага папы. Тут усе большую моц набіралі прыхільнікі клюнійскай рэформы, галоўнай мэтай якой было аднаўленне рэлігійнага аўтарытэту царквы і ачышчэнне яе дактрыны, у тым ліку і абмежаванне ўплыву свецкай улады на царкву. У 1073 г. рымскім папам быў абраны паслядоўны і фанатычны клюніец Грыгорый VII (1073–1085), які дэкляраваў прымат духоўнай улады над свецкай. Гэтым ён фактычна распачаў барацьбу не толькі за духоўнае, але і за палітычнае лідэрства ў Заходняй Еўропе, што павінна было сутыкнуць яго з германскімі каралямі-імператарамі. Ідэі Грыгорыя VII былі не проста летуценнем, бо ён быў разважлівым і рэалістычным палітыкам. У яго сілах аказалася выкарыстаць палітычнае становішча ў Германіі.

Першы ўдар Грыгорый VII нанёс у 1074 г., калі адкрыта выступіў супраць сіманіі (куплі і продажу царкоўных пасад) і супраць залежнасці кліра ад свецкай улады. Гэта ўнесла збянтэжанасць у асяроддзе германскага духавенства, якое зраслося са свецкай арыстакратыяй і назначалася імператарам на галоўныя пасады. У 1075 г. Грыгорый VII аб’явіў некананічнай інвестытуру клірыкаў, атрыманую ад свецкіх улад. А ў хуткім часе пад пагрозай адлучэння ён запатрабаваў ад Генрыха IV спыніць практыку назначэння на царкоўныя пасады.

Пагроза была вельмі моцнай і Генрых IV правеў своеасаблівы агляд сіл –  у студзені 1076 г. у Вормс былі запрошаны германскія свецкія і духоўныя феадалы. З буйных свецкіх феадалаў амаль ніхто не з’явіўся, але царкоўныя ўладары аб’ядналіся вакол караля. Пад яго ціскам было прынята рашэнне аб тым, што нямецкае духавенства не будзе падначальвацца Грыгорыя VII.

І тады ў лютым 1076 г. папа ў саборы Св. Пятра адлучыў Генрыха IV і звольніў яго падданых ад прысягі яму. Гэта адразу было выкарыстана германскімі феадаламі, якія сабраіліся на з’езд у Трыбуры. Сюды ж прыехалі і папскія легаты. Было ўзнята пытанне аб прыродзе каралеўскай і імператарскай улады ў Германіі,

спрэчкі аб чым ішлі ужо некалькі гадоў. Прыхільнікі Генрыха IV, абапіраючыся на Біблію, даводзілі боскае паходжанне свецкай улады. У адказ паслядоўнікі Грыгорыя VII сцвярджалі, што ўлада свецкая атрымоўвае святасць толькі ад улады духоўнай праз абрад мірапамазання, а таму духоўная ўлада вышэй за свецкую. Гэтую ж думку падтрымлівала нямецкая знаць і яе ідэолагі. Але яны пачалі адмаўляць спадчыннасць каралеўскай улады і прызнавалі толькі яе выбарны характар. Больш таго, яны выступалі за правы народа (безумоўна толькі высакароднага) процістаяць каралю ў выпадку яго тыраніі і пазбаўляць яго ўлады. А тыранію яны бачылі у метадах кіравання Генрыха IV, а потым яго сына – Генрыха V. Фактычна ж гаворка ішла аб тым, каб зрабіць германскіх каралёў залежнымі ад князёў. Цікава, што, мабыць, упершыню спрэчка зрабілася не толькі удзелам феадальнага саслоўя, бо абодва бакі ужо даўно актыўна апелявалі у касцёлах да грамадскай думкі Германіі.

У Трыбуры нямецкія феадалы запрасілі Грыгорыя VII у хуткім часе з’явіцца ў Германіі, каб удзельнічаць у выбарах новага караля. На самой справе Грыгорый VII быў больш зацікаўлены ў прызнанні сваіх умоў, у тым ліку аб падначаленасці рымскім папам, менавіта законным каралём Генрыхам IV.

Паколькі як сітуацыя ўнутры Германіі складвалася не на карысць Генрыха IV, ён у самым пачатку 1077 г. са сваім дваром перайшоў Альпы і з’явіўся каля папскага замка Каноса ў гарах Паўночнай Італіі. Сустрэча адбылася толькі пасля таго, як Генрых “замаліў свае грахі”. Генрых падпісаў усе патрабаванні папы, якія атрымалі назву “Дыктат папы”, і пасля гэтага адлучэнне было снята.

Тым не менш частка нямецкай знаці не адмовілася ад сваіх планаў і ў сакавіку 1077 г. абрала новым каралём Рудольфа Швабскага (1077–1080). Але спрыяльны момант для іх быў ўжо страчаны. Рымская курыя не падтрымала Рудольфа, таксама як і большая частка германскага кліра і нават значная частка германскай знаці. Рэйнскія гарады, найбольш буйныя і ўплывовыя ў Германіі, таксама выступілі на баку Генрыха IV. Так, жыхары Майнца прагналі Рудольфа Швабскага адразу пасля яго каранацыі у гэтым горадзе.

Але выбух грамадзянскай вайны быў ўжо непазбежны і на некалькі дзесяткаў год Германія трапіла ў полымя міжусобіц. Валоданні Генрыха IV і яго саюзнікаў у Цэнтральнай Германіі не давалі магчымасці аб’яднацца яго ворагам з Саксоніі і з Паўднёвай Германіі. Вайна не спынілася і пасля смерці Рудольфа Швабскага ў бітве ў 1080 г. Быў абраны новы антыкароль, а вайна рассыпалася на дробныя вайсковыя тэатры ў асобных рэгіёнах.

Гэта дало магчымасць Генрыху IV звесці свае рахункі з Грыгорыем VII, без чаго ён не мог аднавіць свой імператарскі аўтарытэт. У 1084 г. нямецкія войскі увайшлі у Рым, а Грыгорый збёг з горада, зноў адлучыўшы Генрыха ад царквы. Але на гэты раз гэта не дапамагло. Генрых IV быў каранаваны імператарскай каронай сваім стаўленікам Кліментам III.

На нейкі час поспехі Генрыха IV амаль спынілі вайну ў Германіі. Але тое, што адлучэнне Грыгорыя VII не было знята, садзейнічала ўзнікненню ўсё новых феадальных кааліцый супраць Генрыха IV. Праціунікі імператара змаглі выкарыстаць супярэчнасці ўнутры яго сям'і. Вайна зноў пачала ўзмацняцца, калі на бок паўстаўшых перайшлі сыны караля – спачатку ў 1092 г. Конрад (памёр у 1100 г.), а потым у 1104 г. Генрых, якога актыўна падтрымалі князі. У разгар гэтай новай грамадзянскай вайны Генрых IV памёр. Германскі прастол заняў кіраўнік мяцежнікаў яго сын Генрых V (1106–1125).

Першапачаткова Генрых V трапіў пад уплыў князёў, сваіх саюзнікаў. Але ў хуткім часе ён змог пазбавіцца іх апекі і фактычна пачаў праводзіць палітыку свайго бацькі па ўмацаванні каралеўскай улады: пашыраў свой дамен за кошт зямель праціўнікаў, узмацняў крэпасці, спрабаваў умешвацца ў справы буйных землеўладальнікаў. У процістаянні з князямі ён абапіраўся на гарады і на міністэрыялаў. Гэта зноў выклікала феадальнае паўстанне на чале з герцагам Саксоніі Лотарам. Адразу аднавіўся і канфлікт з рымскім папам Калікстам II адносна інвестытуры царкоўнікаў у германскіх землях. Гэта было больш дробным пытаннем у параўнанні з ідэалагічнай праблемай прызнання прымату духоўнай улады, але больш небяспечнай у палітычным плане.

Фактычна германскія князі зрабіліся арбітрамі ў барацьбе Рыма і імперскай улады. Менавіта яны настаялі на тым, каб абодва бакі пайшлі на кампраміс. Вынікам дамовы быў так званы Вормскі канкардат 1122 г., па якім свецкая і духоўная інвестытуры былі падзелены. Клір абіраў на вышэйшыя пасады царкоўных іерархаў, а імператар толькі замацоўваў гэтае рашэнне. Імператары страцілі важныя рычагі уздзеяння на царкоўныя справы, хоць у германскіх землях фактычна захавалі уплыў на мясцовую царкву.

Генрых V памёр у 1125 г., не пакінуўшы нашчадкаў. Франконская дынастыя перастала існаваць. Вынікам панавання апошніх яе прадстаўнікоў было рэзкае ўзмацненне феадальнага сепаратызму і аслабленне імператарскай улады. І гэта нягледзячы на энергію імператараў. Германія страціла свае знешнепалітычныя пазіцыі ў Заходняй Еўропе, страціла кантроль над Паўночнай Італіяй і за папскім прэстолам. У барацьбе з папствам быў страчаны і прэстыж імператарскай улады як кіраўніка каталіцкага сусвета. Трапіўшы ў паласу працяглых міжусобіц, Германія не ўдзельнічала ў вырашэнні агульнаеўрапейскіх праблем, як, напрыклад, у I крыжовым паходзе і нічога не атрымала ад яго поспехаў, хоць шматлікія лідэры крыжакоўбылі васаламі германскага імператара. Больш таго, пад пагрозу быў пастаўлены сам прынцып спадчыннасці манархіі.

**Барацьба Гогенштаўфенаў і Вельфаў. Станаўленне тэрытарыяльных княстваў у Германіі.** Абранне новага германскага караля праходзіла ва ўмовах узмацнення буйных нямецкіх феадалаў, якія не былі зацікаўлены ў аднаўленні магутнасці каралеўскай улады. Каралём абралі былога саксонскага герцага і

кіраўніка паўстання супраць Генрыха V – Лотара III (1125–1137). Бліжэйшыя сваякі былой дынастыі прэстол не атрымалі – упершыню германскія князі адкрыта адмовіліся ад прынцыпу кроўнага сваяцтва пры абранні караля.

Лотар III амаль усе намаганні сканцэнтраваў на ўзмацненні свайго Саксонскага герцагства, ён і паводзіу сябе як герцаг. Ва ўсіх справах саступаў буйным феадалам. Амаль не маючы ўлады ўнутры краіны, Лотар правёў толькі адну знешнепалітычную акцыю – паход на Рым, каб атрымаць імператарскую карону.

Пасля яго смерці узнавілася барацьба феадальных груповак вакол каралеўскага абрання. На карону прэтэндаваў Генрых Горды, герцаг Баварыі з дынастыі Вельфаў. Ён быў зяцем Лотара III і пасля яго смерці кантраляваў палову германскіх зямель ад Паўночнага да Міжземнага мора, што зрабіла б яго магутным каралём. Тады выбар князёў спыніўся на бліжэйшым сваяке Франконскай дынастыі – Конрадзе III Гогенштаўфене (1138–1152).

Больш чым на стагоддзе на германскім прастоле замацавалася дынастыя Гогенштаўфенаў (1138–1250). Унутрыпалітычныя ўмовы Германіі аніяк не сведчылі, што палітыка Гогенштаўфенаў будзе лагічным працягам палітыкі Франконскай дынастыі, але на нейкі час становішча дынастыі стабілізавалася. У Германіі аднавіуся парадак і спыніліся міжусобіцы.

Лёс роду Гогенштаўфенаў добра адлюстроўвае змены ў тагачасным развіцці Германіі і з’яўляецца прыкладам хуткага ўзвышэння адносна невялікага арыстакратычнага роду. Гэта адбылося ў выніку жаніцьбы аднаго з іх прадстаўнікоў на дачцэ Генрыха IV. Хутка ў іх руках апынуліся немалыя зямельныя ўладанні, якія не маглі у гэты момант параўнацца з уладаннямі Вельфаў. Конрад III быў першым германскім уладаром на працягу некалькіх стагоддзяў, які не атрымаў імператарскай кароны ў Рыме. Яго вельмі рэалістычная палітыка была сканцэнтравана на ўнутрыгерманскіх справах. Ён вельмі мудра лавіраваў паміж інтарэсамі розных феадальных груповак, не саступаючы іх патрабаванням і карыстаючыся пры гэтым у асноўным палітычнымі, а не ваеннымі сродкамі. Але яго настойлівыя спробы паменшыць зямельныя валоданні і ўплыў сваіх галоўных ворагаў — Вельфаў былі пакуль амаль беспаспяховымі.

Палітычная мудрасць Конрада III праявілася і у тым, што перад смерцю ён прасіў князёў абраць каралём не свайго сына, а свайго пляменніка – Фрыдрыха I Барбаросу (1152–1190). Яго часта лічаць самым знакамітым германскім каралём з часоў Генрыха III. Барбароса быў неверагодна папулярным у народзе і яго вобраз захаваўся ў народным фальклоры, як прыклад ідэальнага караля-ваяра.

Першыя крокі Фрыдрыха I былі накіраваны на змяншэнне палітычнай напружанасці у германскіх землях. Гэтаму спрыяла яго паходжанне з роду Гагенштаўфенаў і адначасовае сваяцтва з Вельфамі. Фрыдрых вярнуў усе

канфіскаваныя раней у іх землі новаму главе рода Вельфаў – Генрыху Льву, зноў зрабіушы яго буйнейшым феадалам краіны. Ды і ў цэлым ён падтрымліваў з князямі добрыя адносіны, прызнаў склаўшаяся да яго становішча, калі тыя незаўсёды законнымі сродкамі раней завалодалі зямельнымі даменамі. Тым не менш нельга сказаць, што Фрыдрых саступаў князям у важных пытаннях. Так, Фрыдрых Барбароса працягваў палітыку свайго бацькі па ўмацаванню агульнага “земскага міра”, які забараняў распачынаць несправакаваныя вайсковыя дзеянні. Прадугледжаныя за гэта пакаранні стрымлівалі ваяўнічасць феадалаў.

На шляху заспакаення краіны Фрыдрых Барбароса дамогся значных поспехаў. Пачаўся кароткі перыяд, калі у Германіі сціхлі міжусобныя войны, хуткімі тэмпамі не толькі аднаўлялася, але і развівалася гаспадарчае жыццё. Кароль надаваў шматлікія прывілеі гарадам, якія таксама перажывалі ўздым. Зноў пачаў павялічвацца каралеўскі дамен, аднаўляліся даходы каралеўскай скарбніцы.

Далейшы шлях узмацнення каралеўскай улады Фрыдрых Барбароса ўбачыў у правядзенні актыўнай знешняй палітыкі. Мабыць гэта было слушнае рашэнне з пункту гледжання захавання балансу інтарэсаў феадальных груповак, склаўшагася ўнутры краіны пры непасрэдным удзеле караля.

Некалькі дзесяцігоддзяў працягваюцца няспынныя паходы Фрыдрыха ў Паўночную Італію, каб аднавіць тут панаванне імперыі і зноў падначаліць папства. На гэта былі сканцэнтраваны ўсе сілы Імперыі. Пасля першых поспехаў у Італіі, якія былі дасягнуты вайсковай перавагай і жорсткім прымусам, на нейкі час удалося фактычна скасаваць умовы Вормскага канкардата. Але ўзмацненнем германскага ўладарання ў Італіі былі незадаволены ўсе мясцовыя палітычныя сілы, у выніку чаго папства заключыла саюз з эканамічна развітымі паўночнаітальянскімі гарадамі. У 1176 г. магутная феадальная армія Фрыдрыха Барбаросы была ўшчэнт разбіта ў бітве пры Леньяна паспалітым рушэннем міланцаў і іх саюзнікаў. Аказалася, што ваенныя магчымасці імперыі ўжо дастаткова абмежаваныя і папярэднія поспехі былі адразу перакрэслены. Зноў адбіла чарговае наступленне імператараў і папства. Таксама зноў знешнепалітычныя намаганні імператара выклікалі аслабленне самой Германіі і далі пачатак унутрыпалітычнай барацьбе.

Фрыдрых Барбароса, вярнуўшыся ў Германію, абвінаваціў Генрыха Льва ў парушэнні васальных абавязкаў, калі той адмовіўся даць войска для паходу ў Італію. Генрых за гэты час актыўна пашыраў свае валоданні за кошт далучэння славянскіх зямель да Саксонскага герцагства. Генрых Леў распачаў узброеную барацьбу, але пацярпеў паражэнне, а ў 1180 г. быў пастаўлены па-за законам і пазбаўлены сваіх валоданняў. Процістаянне з Вельфамі скончылася, але ўсю выгаду ад іх паражэння атрымала не каралеўская дынастыя Гогенштаўфенаў. Пераможцамі аказаліся буйныя германскія феадалы, за якімі зараз замацаваўся тытул – “імперскія князі”. Менавіта яны падзялілі паміж сабой канфіскаваныя ў

Генрыха Льва землі.

Суд па справе Генрыха Льва быў важным паваротным пунктам у германскай гісторыі. Можна сцвяржаць, што рашэнні суда канчаткова паклалі канец старой сістэме племянных герцагстваў. Феадальныя межы ўнутры герцагстваў поўнасцю змянілі тэрытарыяльную канфігурацыю, сцёрлася і пачуцце племяннной агульнасці. Месца племянных герцагстваў занялі так званыя тэрытарыяльныя княствы, якія будаваліся на падмурку класічных васальна-ленных адносін. На чале іх стаялі дынастыі імперскіх князёў. Князі рашуча пачалі браць сабе ўсё больш гучныя тытулы. Пакуль ішлі грамадзянскія войны ўладальнікі княстваў паступова бралі ў свае рукі ўсе магчымыя феадальныя правы ўнутры сваіх валоданняў, якія раней былі рассыпаны каралеўскай уладай сярод шматлікіх зямельных, юрыдычных і іншых уладальнікаў. Да іх перайшлі і каралеўскія рэгаліі: правы чаканкі грошай, атрыманне мыта, пропуска праз сваю зямлю, правядзенне ярмарак і г. д. У выніку княскія дынастыі фактычна стварылі імунныя тэрыторыі. Яшчэ раней Фрыдрых Барбароса прызнаў права абавязковага інфеадзіравання – кароль, адабраўшы ад феадала зямлю, не мог далучаць яе да свайго лена, а абавязкова за год і адзін дзень павінен быў перадаць яе ў валоданне іншаму феадальнаму ўладару.

Пасля суда над Генрыхам Львом Фрыдрых Барбароса працягваў энергічна займацца знешнепалітычнымі справамі з мэтаю аднавіць прэстыж каралеўскай улады. Але беспаспяхова. У 1190 г. Фрыдрых Барбароса загінуў пры пераправе ў Малай Азіі падчас кіравання нямецкім войскам у III крыжовым паходзе. Аказалася, што нават гэткае яскравае панаванне так і не змагло пераламіць тэндэнцый развіцця Германіі і перш за ўсё спыніць узнікненне тэрытарыяльных княстваў.

Працэс стварэння імунных тэрытарыяльных княстваў атрымаў сваё лагічнае завяршэнне пры слабых нашчадках Фрыдрыха Барбаросы, асабліва пры Фрыдрыхе II (1211–1250). У 1216 г. ён адмовіўся ад каралеўскага права ставіць сваіх людзей на феадальныя валоданні. А потым у некалькіх дакументах ён пацвердзіў законнасць імунных правоў свецкіх і царкоўных феадалаў на свае землі і адмовіўся ад права на маёмасць памерлага феадала, ад права юрысдыкцыі на феадальных землях. ад будаўніцтва каралеўскіх гарадоў на феадальных землях і г. д. У краіне знік цэнтральны каралеўскі суд і цэнтралізаванае кіраванне.

Усё больш значную ролю ў жыцці краіны адыгрывалі з’езды імперскіх князёў. Раней яны былі толькі дарадчымі органамі пры імператарах. Зараз імператары абавязаны былі збіраць іх у вызначаны час, а іх рашэнні рабіліся незалежнымі ад думкі караля і ўсё больш уплывовымі у краіне. У XIII ст. на з’езд з’яўляліся крыху больш за сто імперскіх князёў, прычым большая іх частка была з царкоўных феадалаў.

**Новае сутыкненне з папствам і вынішчэнне дынастыі Гогенштаўфенаў.**

Як заўсёды пасля кіравання на германскім прастоле моцнага імператара, здавалася, што пануючая дынастыя стала трымае ўладу. Прастол без перашкод перайшоў да сына Фрыдрыха Барбаросы – Генрыха VI (1190–1197). Ён зноў зрабіў спробу аднавіць пазіцыі ўлады: далучаў феадальныя землі да каралеўскага дамена нягледзячы на абавязковае інфеадзіраванне, падтрымліваў міністэрыялаў і нават спрабаваў накіроўваць іх у феадальныя землі дзеля выканання каралеўскіх загадаў, абапіраўся на гарады. Ён распачаў арганізацыю новага крыжовага паходу. Генрых VI атрымаў карону Сіцылійскага каралеўства, узяўшы шлюб яшчэ намаганнямі свайго бацькі з мясцовай прынцэсай. Гогенштаўфены разлічвалі, што далучэнне да імперыі Сіцылійскага каралеўства, дзе, дарэчы, яны былі неабмежаванымі ўладарамі, дасць магчымасць заціснуць Папскую вобласць паміж дзвумя вогнішчамі і прымусіць папства да капітуляцыі. Але, як заўсёды, імперыя пачала вязнуць у італьянскай палітыцы.

Склаўшаеся ўражанне аб узмацненні імператарскай улады дало магчымасць Генрыху VI прапанаваць з’езду князёў прызнаць спадчынныя правы яго дынастыі. Гэта быў бы канец княжацкага кантроля за ўладай, і прапанова была адхілена. І сапраўды, спробы Генрыха VI былі хутчэй летуценнямі. На самой справе становішча дынастыі Гогенштаўфенаў няспынна пагаршалася пад палітычным ціскам розных ворагаў, галоўнымі з якіх былі тэрытарыяльныя князі і папства.

У 1197 г. Генрых VI неспадзявана памёр, пакінуўшы трохгадовага сына Фрыдрыха, які пражываў у Сіцылійскім каралеўстве пад наглядам сваёй маці. У Германіі мясцовыя феадалы не прызналі яго каралём. Адразу ўзнавілася міжусобная барацьба паміж прыхільнікамі Гогенштаўфенаў і Вельфаў. Абедзве групоўкі абралі каралямі сваіх стаўленікаў, якія актыўна змагаліся паміж сабой. Трэба адзначыць і тое, што ўпершыню ва ўнутрыгерманскія справы пачалі умешвацца паступова набіраючыя сілы суседнія дзяржавы – Англія і Францыя. Грамадзянская вайна адбірала ўсе сілы краіны. Сярод насельніцтва і князёў усё больш папулярнай рабілася думка, што трэба запрасіць на прастол прамога нашчадка Генрыха VI – Фрыдрыха, які дасягнуў ужо паўналецця. Ён быў выдомы як дастаткова здольны ўладар і вельмі адукаваны чалавек (напрыклад, ён ведаў арабскую мову, добра разбіраўся ў матэматыцы – вялікая рэдкасць у сярэдневякоўі). У 1220 г. Фрыдрых II (1220–1250) быў каранаваны германскай каронай.

Але сказалася выхаванне: Фрыдрых II лічыў сябе перш за ўсё сіцылійскім каралём і мала цікавіўся германскімі справамі. Падчас свайго ўладарання ён правёў у Германіі не так шмат часу, а займаўся ў асноўным італьянскай палітыкай, бесперапынна змагаючыся з паўночнаітальянскімі гарадамі і папствам. Зноў барацьба ў Італіі паглынала ўсе сілы дынастыі, і ўжо не ў першы раз імператары былі адлучаны ад царквы. Французскія каралі змаглі перайсці у контрнаступленне на заходніх межах імперыі, паступова паглынаючы

кантраляваныя ею землі, асабліва ў Нідэрландах. Паходы татара-мангольскіх ордаў у Цэнтральную Еўропу стварылі напружанасць і на ўсходніх межах Германіі, на што Фрыдрых II таксама не рэагаваў.

Ва ўнутраным жыцці Германіі Фрыдрых ва ўсім саступаў імперскім князям, толькі каб яны знешне яго падтрымлівалі. Князі атрымалі шырокія прывілеі, аб якіх ужо ішла гаворка, што прывяло да ўзнікнення фактычна імунных феадальных тэрыторый.

Калі Фрыдрых памёр у 1250 г., барацьба з папствам была ў самым разгары. Папа Інакенцій IV (1243–1254) актыўна падбухторваў нямецкіх феадалаў не падначальвацца імператару і дамогся абрання антыкараля ў Германіі. Італьянскую палітыку свайго бацькі спрабаваў працягваць і сын Фрыдрыха II – Конрад IV (1250–1254), які адразу пакінуў Германію і накіраваўся ў Італію, дзе ў хуткім часе памёр. Яго малалетні сын Канрадзін, кароль Сіцылійскага каралеўства, увогуле не з’явіўся ў Германіі і нямецкія князі не прызналі яго нямецкім каралём. А ў 1268 г. войскі Канрадзіна пацярпелі паражэнне ад саюзніка папства французскага прынца Карла Анжуйскага, які прэтэндаваў на сіцылійскую карону. Канрадзін быў пакараны смерцю ў Неапале. Папа Клімент IV (1265–1268) запатрабаваў вынішчыць увесь род Гогенштаўфенаў, назваўшы іх ерэтыкамі, у крыві якіх пылае нянавісць да царквы. Заклік папы быў выкананы, а апошні Гогенштаўфен памер у вязніцы.

Была вынішчана апошняя дынастыя германскіх каралёў высокага сярэдневякоўя, якія яшчэ спрабавалі адстойваць каралеўскія правы, але апошнія прадстаўнікі якой самі аддалі іх.

**“Вялікае міжкаралеўе”. Пачатак абрання германскіх імператараў.** Пасля смерці Фрыдрыха II Гогенштаўфена цэнтральнай улады ў Германіі ўжо не было. Пачынаецца “вялікае міжкаралеўе” (1250–1273), калі краіну паглынулі феадальная анархія, беззаконнасць, зацятыя міжусобіцы, няўпэўненасць у будучыні.

У Германіі адначасова было абрана некалькі каралёў, якія ўвесь час змагаліся паміж сабой. У 1257 г. сем самых уплывовых імперскіх князёў пачалі прадпрымаць спробы знайсці сярод іншаземных каралеўскіх дынастый кандыдатуру на новага германскага імператара. Але ніхто з абраных нават не з’явіўся ў Германіі. Аднак гэтая падзея мела вельмі важны вынік – у 1263 г. рымскі папа выдаў булу, па якой выключнае права абрання германскага імператара атрымалі менавіта сем князёў, прымаўшых удзел у выбарах 1257 г. Пасля гэтага германскія імператары канчаткова зрабіліся цацкамі у руках імперскіх князёў і вымушаны былі даваць ім усё большыя прывілеі. Пасля вынішчэння дынастыі Гогенштаўфенаў германскія імператары абіраліся з’ездам імперскіх князёў, прычым звычайна з іх асяроддзя, і таму залежалі ад іх. І пасля абрання яны па сваім рэальным становішчы былі звычайнымі тэрытарыяльнымі

князямі.

Першым быў абраны Рудольф Габсбург (1273–1291), другарадны граф са Швабіі. Ён нават спрабаваў аднавіць магутнасць цэнтральнай улады. Але нягледзячы на некалькі вайсковых перамог над сваімі праціўнікамі і рост аўтарытэта ў краіне, імперскія князі адмовілі яму ў каранацыі сынавей, каб пазбегнуць стварэння новай дынастыі. Наступнага абранніка імператара Адольфа Насаўскага князі нават паспрабавалі пазбавіць тытула. Гэта ім удалося, і Адольф загінуў у бітве, спрабуючы адстаяць свой трон. Пасля гэтага імператары з розных сем'яў змянялі адзін аднаго.

У Германіі перамагла феадальная раздробленасць, прынцыпы цэнтралізацыі былі канчаткова адкінуты. Цэнтрабежнай пазіцыі феадалаў да імператарскай улады садзейнічала і тое, што на працягу некалькіх стагоддзяў Германія не была аб'ектам варожых уварванняў. Гэта адбывалася ў той момант, калі Францыя і Англія, наадварот, сталі на шлях цэнтралізацыі, што ў вельмі хуткім часе зробіць іх перадавымі краінамі Еўропы. Германія ж пасля ўздыма X–XII ст. у палітычным плане пачынае адставаць.

**Эканамічнае і сацыяльнае развіцце Германіі у XIII ст.** Нягледзячы на палітычную нестабільнасць, якая панавала ў краіне на працягу XIII ст., у гаспадарчым жыцці Германіі назіраецца хуткі ўздым, які пачаўся яшчэ ў другой палове XII ст.. Працягвалася інтэнсіўнае асваенне новых зямель, як унутры Германіі, так і шырокая, няспынная каланізацыя палабскіх зямель. Лясы пастулова адступалі пад ціскам людзей, іх замянялі апрацаваныя палі. Выключна важныя змены адбываліся ў сельскай гаспадарцы. Паўсюдна зараз выкарыстоўваецца жалезны атвальны плуг. Коні замянілі быкоў у якасці цяглавых жывёл, што адразу значна павялічыла хуткасць і якасць многіх сельскагаспадарчых прац. Пашырыліся і новыя агранамічныя прыёмы, напрыклад, выкарыстанне трохполля. Галоўнай культурай зрабілася больш прыбытковае жыта. Вынікам усіх гэтых змен быў буйны рост вытворчасці прадуктаў харчавання і дэмаграфічны выбух. Калі па прыблізных падліках насельніцтва Германіі ў X ст. складала 1 млн чалавек, то ў XIII ст. – 12–15 млн чалавек.

Актыўна развівалася і германскае рамяство, асабліва апрацоўка воўны, ткацтва, апрацоўка і выраб металаў і г. д. Германія выйшла ў еўрапейскія лідэры па здабычы металаў: срэбра, жалеза і г. д. Амаль пастаянна адчыняліся новыя шахты ў Саксоніі і Цюрынгіі. У гарадах пачалося каменнае будаўніцтва.

Сацыяльнае жыццё Германіі вызначалася, з аднаго боку, тым, што канчаткова склаліся міжсаслоўныя перагародкі, а з другога, тым, што ўнутры саслоўяў ўсё кіпела і на працягу стагоддзя істотна змянялася прававое, эканамічнае становішча розных груп насельніцтва.

Сацыяльная структура нямецкага грамадства да пачатку XIII ст. значна

ўскладнілася. Вельмі стракатым зрабілася феадальнае саслоўе. Месца на вяршыні займалі імперскія князі і вышэйшая радавітая арыстакратыя. Шлюбы адбываліся толькі ўнутры гэтага прывілегіраванага кола і трапіць туды стала практычна немагчыма.

У склад сярэдніх і дробных феадалаў уваходзілі розныя групы. Па-ранейшаму яго касцяком было вайсковае рыцарства. Зараз, калі буйныя землеўладальнікі маглі дзяліць зямлю паміж сваімі сынамі, некаторыя іх нашчадкі драбнелі і апускаліся ніжэй па сацыяльнай лесвіцы, далучаючыся да рыцарства. Прамым следствам бесперапынных грамадзянскіх войнаў было павелічэнне колькасці міністэрыялаў, якія пачалі складаць значную частку каралеўскага і княжацкіх войскаў. Яны манапалізавалі сферу адміністрацыйнага кіравання не толькі ў каралеўскіх, але і ў княжацкіх землях. А ў XIII ст. ва ўмовах палітычных сутыкненняў, заняпада ўлады, феадальнай анархіі нават самыя ніжэйшыя міністэрыялы пачалі умацоўваць сваю ўладу на феадальных тэрыторыях, дзе раней яны выконвалі толькі адміністрацыйныя функцыі. Пастпова ім удалося прысвоіць сабе гэтыя землі і перавесці іх у свае спадчыннае валоданне. У выніку большасць міністэрыялаў увайшла ў феадальнае саслоўе. Больш таго, частка з іх, як і частка рыцараў, змагла самастойна прысвоіць сабе феадальныя тытулы і гэтым павысіць свой сацыяльны статус. Вельмі схожая сітуацыя была і з адвакатамі-фогтамі, якія таксама зрабіліся часткай феадальнага саслоўя.

Германія ў XIII ст. проста бурліла ад барацьбы феадалаў за правы на свае землі. У выніку нават сярэднія і дробныя ўладары сабралі у сваіх руках усе правы і зрабіліся цяпер напалову незалежнымі унутры тэрытарыяльных княстваў. У значнай меры ўзровень залежнасці быў звязаны з вайсковай магутнасцю таго ці іншага феадала. Гэтая сітуацыя вяла да феадальнай раздробленасці.

Вялікія змены адбываліся сярод сялянства, якое да канца XII ст. амаль паўсюдна трапіла ў поўную прыгонную залежнасць. У момант эканамічнага ўздыма феадалы пачалі пазбаўляць сялян ад розных формаў залежнасці, пераважна ад асабовай. Гэта павінна было прыдаць сялянам стымулы да павышэння вытворчасці і да каланізацыі новых зямель. Сяляне перш за ўсё атрымалі магчымасць пераходзіць з аднаго месца на іншае, перасоўвацца па краіне. Час ад часу феадалы нават зганялі сялян са сваёй зямлі, каб, напрыклад, не драбіць сялянскія надзелы пры павелічэнні росту насельніцтва.

Змяняліся формы гаспадарання феадалаў. Менавіта міністэрыялы, якія не мелі буйных вотчын, пачалі пераходзіць на збіранне чынша замест паншчыны. Пачынаецца камутацыя рэнты. Нават у буйных гаспадарках, асабліва ў Цэнтральнай Германіі, адказваюцца ад паншчыны. Яе месца займае мейерская арэнда, калі гаспадарская зямля аддаецца арандатару-мейеру. Час ад часу і залежныя сяляне страчваюць правы на сваю раней спадчынную зямлю і робяцца

тэрміновымі яе трымальнікамі ці таксама яе арандатарамі. Узнікае адносная вольнасць у распараджэнні сялянамі сваімі надзеламі, пры ўмове бесперапыннай выплаты феадалу грашовай рэнты. Усе азначаныя працэсы значна стымулявалі сялянскую працу.

Але гэтыя змены цяжка адбіваліся на размеркаваным жыцці сялян і выклікалі іх супраціуленне. Большасць сялян змагалася за аднаўленне сваіх спадчынных правоў на зямлю. Але на поўначы Германіі рэшткі вольнага сялянства спрабавалі адбіць наступленне феадалаў. Адным з самых яскравых момантаў барацьбы нямецкіх сялян было стварэнне ў пачатку XIII ст. на землях Брэменскага архіепіскапа “Саюза штэдынгаў” (штэдынг – берагавы жыхар). Саюз быў створаны дзеля абароны ва ўмовах наступлення архіепіскапа на правы сялян і меў добрую арганізацыю, у якую ўваходзілі нават вайсковыя адзінкі. Яны актыўна процістаялі спробам феадалаў захапіць сялянскую зямлю, знішчалі пабудаваныя на ёй бургі. У 1223 г. адбыўся скліканы рымскім папам крыжовы паход супраць штэдынгаў, які не прынёс аніякіх поспехаў. Саюз быў разгромлены толькі у 1234 г.

Усё больш хуткімі тэмпамі у Германіі раслі гарады. Але ўсё ж падначаленасць феадалам большасці з іх была адносным тормазам на шляху іх развіцця. Далёка не ўсе германскія гарады дамагліся шырокіх правоў на самакіраванне. Калі у Францыі і Англіі гарады былі актыўнымі саюзнікамі каралеўскай улады і актыўна ёю падтрымліваліся, то ў Германіі, дзе імператарская ўлада якраз адступала пад ціскам тэрытарыяльных князёў, гэта палітыка не была вызначана так яскрава. Напрыклад, у 1231 г. Фрыдрых ІІ выдаў эдыкт, накіраваны супраць гарадскіх камун. Нават Фрыдрых Барбароса, які параўнальна шмат што зрабіў для нямецкіх гарадоў, сутыкаючыся з італьянскімі гарадамі-камунамі, стрымана адносіўся да гарадскіх інтарэсаў і у Германіі. А з аслабленнем імператарскай улады феадальныя гарады нават пачалі узнікаць на імператарскіх землях.

Насельніцтва гарадоў станавілася ўсё больш стракатым. Гарадская вярхушка аддзялялася ад астатняй масы гараджан. У яе ўваходзілі кіраўніцтва горада, заможныя купцы, цэхавая вярхушка. Астатняе насельніцтва паступова страчвала магчымасці на сацыяльнае ўзвышэнне. Гэта вяло да ўзнікнення супярэчнасцей унутры гарадоў. Моцныя цэхі павялі барацьбу супраць гарадской арыстакратыі. Але ў Германіі гэта працэс не пайшоў яшчэ далека, як у некаторых краінах Еўропы і перш за ўсё ў Італіі.

Насельніцтва гарадоў няспынна павялічвалася, таму што гарады зрабіліся месцамі прыцягнення для сагнанай з зямлі сялянскай масы. Узнік стэрэатып, што ў гарадах добрае жыцце і заробкі. Людзі, прыйшлі ў гарады і не мелі занятка, пачалі стварацць так званы гарадскі люмпен-пралетарыят.

Германскі гандаль у XIII ст. хутка развіваўся, але ў значнай меры за кошт

мясцовага гандлю, калі невялікія гарады ператвараліся ў цэнтр адносін з навакольнымі вёскамі. Пераход да грашовай рэнты значна падштурхоўваў гэты працэс. Можна сцвярджаць, што мясцовы гандаль быў эканамічным падмуркам тэрытарыяльных княстваў.

Міжнародны гандаль групіраваўся каля Рэйна. Але ўсё большае значэнне пачалі адыгрываць паўночнагерманскія гарады, якія пастулова падначальваюць гандаль па Паўночнаму і Балтыцкаму морах. Некаторыя гарады нават пачалі аб'ядноўваць свае намаганні, каб ва ўмовах аслаблення цэнтральнай улады актыўна процістаяць канкурэнтам і актыўна праводзіць усходнюю каланізацыю. Так, у 1241 г. была заключана дамова паміж Любекам і Гамбургам, якая ў нейкай меры заклала падмурак будучай Ганзы. Усталёўваюцца добрыя адносіны гандлёвых гарадоў і Тэўтонскага ордэна і Ордэна мечаносцаў.

Такім чынам, XIII ст. нягледзячы на заняпад палітычнага прэстыжу Германіі, было часам эканамічнага ўздыму краіны. Германія была адной з найбольш дынамічна развіваючыхся краін Еўропы XIII ст.

## § 15. Італьянскія дзяржавы

**Гарады Паўночнай і Сярэдняй Італіі ў X–XIII ст. Утварэнне камун і гарадоў-дзяржаў.** На працягу ўсяго сярэдневякоўя Італія не была палітычна адзінай дзяржавай і ўяўляла сабой тры адасобленыя адна ад другой вобласці – Паўночную (Ламбардыя), Сярэднюю і Паўднёвую Італію, – якія ў эканамічных і палітычных адносінах развіваліся па сутнасці самастойна.

Паўднёвая Італія – Сіцылія, Сардзінія, Неапаль, Апулія і Калабрыя – з VI ст. знаходзілася ў руках Візантыі. З IX ст. у землі Апуліі ўварваліся арабы (сарацыны), якія потым захапілі Сіцылію і ўтварылі эмірат з цэнтрам у Палерма.

Паўночная частка Сярэдняй Італіі фармальна з 855 г. была адзінай дзяржавай, мела свайго караля з мясцовай знаці, які вянчаўся на царства ў старадаўняй сталіцы каралеўства Павіі, але фактычна знаходзілася пад уладай асобных сеньёраў. За карону гэтай часткі Італіі з канца IX ст. ішла пастаянная барацьба паміж феадаламі Паўночнай і Сярэдняй Італіі маркізамі Фрыўльскімі і герцагамі Спалета, у якую ўмешваліся каралі Праванса і Бургундыі.

Значную частку Сярэдняй (або Цэнтральнай) Італіі займала Папская вобласць – патрымоній (вотчына) Св. Пятра – са сталіцай у Рыме. На чале гэтай дзяржавы быў рымскі папа, які валодаў свецкай і духоўнай уладай і меў права вянчаць гасудароў імператарскай каронай. У васальнай залежнасці ад яго быў Равенскі экзархат і іншыя землі Італіі. З канца IX ст. улада пап аслабела і ў цэлым назіраўся заняпад папскага аўтарытэту. Папы сталі стаўленікамі рымскай знаці. У X ст. пап назначалі дзве знатныя разбэшчаныя і ўладалюбівыя рымлянкі Феадора і яе дачка Мароцыя. Апошняя ў 904 г. узвяла на папскі трон свайго фаварыта Сергія III. Потым у 931 г. Мароцыя зрабіла папам пад імем Іаана XI свайго сына.

У 932 г. другі сын Мароцыі (ад другога шлюбу) Альберык узяў штурмам папскі дварэц і, пасадзіўшы ў турму сваіх брата (папу Іаана XI) і маці, на працягу 22 гадоў (932–954) быў рымскім дыктатарам (“князем і сенатарам усіх рымлян”, як ён сябе сам называў). Ён прызначаў пап, але пакідаў ім толькі духоўную ўладу. У 955 г. зрабім папай пад імем Іаана XII свайго 16-гадовага сына Актавіяна. Новы папа Іаан XII вылучаўся разбэшчанасцю і праводзіў час у папойках, гульнях і паляваннях.

У X ст. тэрыторыя Італіі распалася на мноства феадальных уладанняў (герцагстваў, графстваў, маркізатаў і епіскапств) і гарадоў, якія вялі паміж сабой бясконцыя войны. У краіне панавалі хаос і феадальная анархія.

У 951 г. папа Іаан XII і некаторыя феадалы Паўночнай Італіі, стаміўшыся ад пастаянных усобіц, звярнуліся за дапамогай да германскага караля Атона I, які ўварваўся ў Італію па запрашэнні папы Іаана XII.

Перайшоўшы Альпы, Атон I (падчас першага паходу, 951 г.) умацаваў свае пазіцыі ў паўночнай частцы краіны. У час другога паходу (961–962) захапіў Павію і вянчаўся каралём Італіі. Потым ён пайшоў на Рым. Захапіўшы сталіцу Папскай вобласці, Атон I патрабаваў, каб Іаан XII усклаў на яго імператарскую карону.

У лютым 962 г. ён быў каранаваны на імператара і абвясціў стварэнне Свяшчэннай Рымскай імперыі, у склад якой уваходзілі Германія і Італія. За Іаанам XII была захавана Папская вобласць, але папы папалі пад кантроль германскага імператара, які, як правіла, садзіў на папскі прастол сваіх стаўленікаў.

Новая імперыя не мела адзінай этнічнай і эканамічнай базы і з’яўлялася штучным палітычным арганізмам. Гэтая дзяржава захоўвалася толькі сілай зброі і рабаўніцкімі па сутнасці паходамі ў Італію германскіх феадалаў.

Захоп Паўночнай і Сярэдняй Італіі не задаволіў Атона I. Ён імкнуўся заняць яшчэ і паўднёвыя вобласці краіны, якія належалі Візантыі. З гэтай мэтай ён ажаніў свайго сына (будучага Атона II) на дачцэ імператара Візантыі.

Паходы іншаземцаў, феадальныя ўсобіцы і звязаная з гэтым нестабільнасць у краіне, якая абвастралася частымі голадам і эпідэміямі, стваралі надзвычай цяжкае і трывожнае становішча ў Італіі. Так заканчвалася першае тысячагоддзе.

Адзінай сілай, здольнай процістаяць іншаземным нашэсцям і феадальнай анархіі, быў узмацнелы італьянскі горад, перш за ўсё горад Паўночнай і Сярэдняй Італіі (Ламбардыі і Тасканы).

Горад стаў галоўным фактарам, які абумовіў своеасаблівасць краіны ў эпоху сярэдневякоўя. Без перабольшвання можна сказаць, што сярэдневяковая Італія ў першую чаргу была краінай гарадоў, значная колькасць якіх узнікла яшчэ ў рымскую эпоху. Гэта Рым, Мілан, Турын, Верона, Парма, Балоння, Фларэнцыя і многія іншыя. Безумоўна, крушэнне Заходняй Рымскай імперыі і заваяванні варвараў прывялі да разбурэння і запусцення большай часткі гэтых старажытных гарадоў, але ўжо з VI–VII ст. яны пачалі ўзнаўляцца і набываць зусім новую

якасць, што адрознівала іх ад гарадоў антычнасці. Асноўным заняткам жыхароў горада становяцца рамяство і гандаль. Многія гарады сталі месцам пастаяннага знаходжання епіскапаў, якія прысвоілі сабе функцыі свецкай улады (не ўлічваючы ўсіх астатніх, у XI–XII ст. на тэрыторыі Італіі было каля 300 епіскапскіх цэнтраў).

У VIII–X ст. большасць гарадоў Сярэдняй і Паўночнай Італіі (як захаваўшыхся з антычнасці, так і новых гарадскіх цэнтраў, якія ўзніклі ў асноўным у IX–X ст.) перажывалі бурны ўздым эканомікі – безумоўна, больш ранні і больш хуткі, чым у іншых краінах сярэдневяковай Еўропы, што, дарэчы, з’яўлялася галоўным адрозненнем Італіі таго часу.

У XI–XII ст. агульная колькасць італьянскіх гарадоў дасягнула некалькіх тысяч. На XI–XIII ст. прыпаў асобы росквіт гарадоў Паўночнай і Сярэдняй Італіі. Па ўзроўні эканамічнага развіцця гэты рэгіён стаў прыкметна пераўзыходзіць усе краіны Заходняй Еўропы. У гарадах Ламбардыі і Тасканы адбываўся імклівы ўздым рамёстваў і гандлю.

Першымі да актыўнага гандлю ўзняліся марскія порты – Генуя, Піза, Венецыя, якія сталі галоўнымі пасрэднікамі ў гандлі Заходняй Еўропы з Блізкім Усходам (краінамі Леванта). Таму садзейнічалі даўнія сувязі гэтых гарадоў з Візантыяй.

Ажывіліся і міжгарадскія гандлёвыя кантакты (на Апенінскім паўвостраве), што дало штуршок спецыялізацыі рамеснай вытворчасці; г. зн. сканцэнтраванню намаганняў таго ці іншага горада на вядучай для яго прадукцыі.

Спецыялізацыя прынесла многім гарадам Італіі еўрапейскую вядомасць. Так, Мілан славіўся ткацтвам і збоевай справай. Лука вырабляла шаўковыя тканіны і тонкія сукны з прывазной іспанскай і французскай воўны. Венецыя пастаўляла на знешні рынак вырабы з рэдкага ў тыя часы шкла, аксаміт, парчу; вырабляла скуры, футра, кудзелю, здабывала ў лагуне соль і імкнулася ўстанавіць манаполію на гандаль гэтым прадуктам. У Пьячэнцы, Фларэнцыі, Пізе ўмелі вырабляць тонкае сукно, у Крэмоне – лён. Павія пастаўляла цудоўную скуру і вырабы з яе. У Венецыі, Генуі, Пізе набыло буйныя маштабы караблебудаванне. На венецыянскіх караблях ішлі тавары ў краіны Ўсходняга Міжземнамор’я. З цягам часу італьянскія судны пачнуць праводзіць на Блізкі Ўсход крыжаносцаў.

У канцы XII ст. у большасці гарадоў Італіі ўзніклі цэхі. Рамеснікі і купцы аб’ядноўваліся ў цэхавыя карпарацыі – арці. У Мілане (канец XII ст.) узнік саюз рамесных карпарацый – “Крэдэнца Св. Амвросія”.

Некалькі рамесных цэхаў афармілася ва Фларэнцыі: цэх “Лана”, у які аб’ядналіся рамеснікі, што выраблялі тонкае сукно з імпартнай шэрсці (сыравіны), і цэх “Калімала”, што займаўся перапрацоўкай грубых сартоў сукна (французскіх і нямецкіх).

Рамеснікі і гандляры розных спецыяльнасцей пасяляліся асобна адны ад другіх. Ужо ў канцы XI ст. у Мілане былі вуліцы залатароў, цырульнікаў, розных

збройнікаў (майстроў па вырабу мячоў, панцыраў, шпор), вуліцы шапачнікаў, гандляроў золатам, мультанам і г.д.

У некаторых гарадах Італіі знаходзіліся заезныя двары іншаземных купцоў. Напрыклад, у Венецыі існавала фандака – пастаянны заезны двор нямецкіх купцоў.

Далейшаму развіццю ўнутранага і міжнароднага еўрапейскага тавараабмену шмат у чым садзейнічалі італьянскія кірмашы.

Два разы ў год праходзілі кірмашы ў Ферары, дзе гандлявалі купцы Ламбардыі, Тасканы, Германіі і Францыі.

Чатыры разы ў год збіраліся кірмашы ў Мілане. Сюды прыязджалі таксама купцы з розных еўрапейскіх краін і вялі бойкі гандаль сукном, зброяй і ўсходнімі таварамі.

У эпоху высокага сярэдневякоўя ўзмацніліся гандлёвыя сувязі Генуі з Правансам і Каталоніяй, горад меў свае калоніі на поўначы Афрыкі.

У XI–XII ст. шэраг гарадоў Італіі падтрымліваў акты¢ныя гандлёвыя кантакты з Алжырам, Марока, Тунісам і Егіптам.

Венецыя, пакарыўшы шэраг гарадоў на Далмацінскім беразе Адрыятычнага мора, атрымала эканамічнае панаванне ў Далмацыі. З заходняга ўзбярэжжа Адрыятыкі Венецыя вывозіла прадукты сельскай гаспадаркі – віно, збожжа, аліўкавы алей.

Трэба заўважыць, што ў XII ст. венецыянскі порт стаў адзіным пасрэднікам у гандлі паміж Адрыятыкай і далінай ракі По.

Буйным гандлёвым цэнтрам Італіі была Піза, якая панавала на астравах Тасканскага архіпелага і займала моцныя пазіцыі на Корсіцы і ў Сардзініі.

Магутны штуршок да развіцця гарадоў Паўночнай Італіі далі крыжовыя паходы. Італьянцы іх шчодра субсідзіравалі, атрымліваючы ўзамен вялікія грошы і гандлёвыя прывілеі.

Падчас першага крыжовага паходу прыморскія гарады Італіі выдзелілі крыжаносцам транспартныя і ваенныя судны, забяспечылі іх грашамі і зброяй. Дапамога ўдзельнікам першага крыжовага паходу дазволіла Венецыі, Генуі і Пізе заснаваць калоніі ў Канстанцінопалі і гарадах Леванта (Сірыі, Палесціне) і весці яшчэ больш ажыўлены гандаль з Усходам.

А ў выніку чацвёртага крыжовага паходу Венецыя, напрыклад, стала больш чым на паўстагоддзя “пані адной чвэрці і адной восьмай” Лацінскай імперыі.

Акрамя таго, італьянцы атрымалі частку ваеннай здабычы крыжаносцаў, дабіліся для сабе многіх гандлёвых прывілей (перш за ўсё на Ўсходзе). Яшчэ ў большых маштабах італьянскія купцы пачалі вывозіць з Усходу вострыя прыправы (у першую чаргу перац), скуры, слановую косць, каштоўныя камяні, шаўковыя тканіны, бавоўну і фарбавальнікі, якія потым морам і праз альпійскія перавалы ішлі ў еўрапейскія краіны – Францыю, Германію і многія іншыя.

Дзякуючы крыжовым паходам прыбярэжныя гарады Італіі ператварыліся ў буйнейшыя транзітныя пункты абмену паміж Захадам і Ўсходам.

Акрамя таго, ранняму ажыўленню і далейшаму развіццю гарадскога рамяства і гандлю дапамагала і тая важная акалічнасць, што папскі Рым быў цэнтрам каталіцызму. Сюды (і ў шэраг іншых гарадоў Італіі) штогод збіраліся тысячы паломнікаў, якія пакідалі тут немалыя грошы.

Да сярэдзіны XII ст. энергічная эканамічная дзейнасць італьянскіх гарадоў прынесла ім значныя багацці.

Аднак далейшае развіццё рамяства і гандлю тармазілася існуючымі феадальнымі парадкамі, таму што рашэнне гаспадарчых пытанняў замыкалася на сеньёрах (у Італіі імі былі, як правіла, епіскапы) горада, якім яшчэ Атон I даў выключнае права адміністрацыйнага кіравання, суда, збору пошлін, чаканкі манет і знешніх кантактаў.

Таму гандлёва-рамесныя колы (папаланы) паўночна і сярэднеітальянскіх гарадоў пры падтрымцы дробных феадалаў (нобіляў, рыцараў, вальвасараў) яшчэ з X ст. пачалі адкрытую барацьбу з сеньёрамі за права самакіравання. У гарадах разгарнуўся рух за ўстанаўленне палітычнага ладу камуны, г. зн. за атрыманне адміністрацыйнай, судовай, фінансавай незалежнасці ад епіскапа альбо графа. Асабліва настойлівы характар гэта барацьба набыла ў XI ст.

У выніку большасць гарадоў Паўночнай, а потым і Сярэдняй Італіі ў XI – пачатку XII ст. здабылі свабоду і ператварыліся ў самакіравальныя камуны.

Юрыдычны статус камуны даваўся хартыяй германскага імператара (г. зн. кіраўніка Свяшчэннай Рымскай імперыі, вярхоўнага сюзерэна большай часткі зямель Паўночнай і Сярэдняй Італіі). У некаторых выпадках (ва ўмовах барацьбы імперыі і папства) камунальную свабоду давалі папы.

Камунальныя хартыі надавалі гарадам паўнамоцтвы, якія раней належалі сеньёру, і, як правіла, былі вынікам працяглай бязлітаснай барацьбы. Зрэшты, у шэрагу выпадкаў для атрымання камунальнай свабоды гарады выкарыстоўвалі і мірныя здзелкі з епіскапамі і графамі, напрыклад выкуп адміністрацыйных, фінансавых і судовых правоў.

Інакш кажучы, кожны горад ішоў да незалежнасці сваім асобным шляхам. Асабліва наглядная ў гэтым сэнсе гісторыя горада Мілана.

У 30–70-я гады XI ст. у Мілане адбылося некалькі паўстанняў супраць сеньёра горада – архіепіскапа. Рух за камуну пераплёўся тут з барацьбой за царкоўную рэформу, паколькі жыхароў горада надзвычай раздражняла абміршчэнне міланскага духавенства, разбэшчанасць і прадажнасць служыцеляў культу, адыход каталіцкай царквы ад прынцыпаў ранняга хрысціянства і рост яе багаццяў.

У Мілане ўзнік рух патарэнаў. Аб’яднанне прыхільнікаў рэформы царквы атрымала назву “патарыя”. У выніку ў 1098 г. у Мілане была абвешчана камуна, а

праз некаторы час, у 1117 г., устанавілася праўленне калегіі консулаў (саветнікаў).

Акрамя Мілана, у першым дзесяцігоддзі XII ст. статусу горада-камуны дабіліся Генуя, Падуя, Крэмона, Ферара, Піза, Сіена, Фларэнцыя, Балоння і іншыя, менш значныя гарады.

Са стварэннем камун барацьба гарадоў Паўночнай і Сярэдняй Італіі супраць феадалаў не скончылася.

Гарады-камуны імкнуліся падпарадкаваць сваёй уладзе бліжэйшую сельскую акругу (кантада), якая звычайна распасціралася ў радыўсе 15–20 км, і буйных феадалаў-землеуладальнікаў (грандаў), якія жылі там і чыі замкі былі крыніцай павышанай небяспекі для гараджан. Адгэтуль чыніліся нападзенні на купцоў і грабяжы іх караванаў. Акрамя таго, гранды перашкаджалі гаспадарчай дзейнасці папаланаў, кантралявалі гандлёвыя шляхі і горныя пераходы, патрабавалі з купцоў пошліну за праезд па іх уладаннях. Нарэшце, панаванне над сельскай акругай магло вырашыць праблему забеспячэння горада харчаваннем, што, безумоўна, было асабліва важна ва ўмовах частых феадальных войнаў.

У адказ на супраціўленне грандаў гарады Паўночнай і Сярэдняй Італіі ў XII ст. пачалі ўзброеную барацьбу.

Паступова яны пакарылі грандаў і разбурылі іх замкі, а саміх феадалаў прымусілі жыць у межах горада на становішчы васалаў камуны. Землі грандаў адышлі да гарадоў і некаторых папаланаў. У выніку сотні буйных феадалаў апынуліся ў гарадах пад строгім кантролем гарадскіх улад. Аднак, жывучы ў гарадах, феадалы і тут будавалі дамы – вежы крапаснога тыпу (фактычна замкі) з высокімі сценамі.

Перамога гарадоў не толькі зламала эканамічную і палітычную магутнасць сеньёраў, але і падарвала сістэму феадальнай іерархіі, што склалася ў краіне (с цягам часу гарады Італіі замянілі сабою феадальных сеньёраў: трымалі на сваёй тэрыторыі васалаў, вялі войны з іншымі гарадамі).

У далейшым камуны пашырылі сваю ўладу на яшчэ больш вялікую тэрыторыю з гарадамі, што знаходзіліся там (дыстрэта). Потым у канцы XIII ст. на базе гарадоў-камун у паўночнай і сярэдняй частках Італіі склалася каля 70 гарадоў-дзяржаў рэспубліканскага тыпу – Фларэнцыя, Мілан, Падуя, Сіена, Равена, Генуя, Венецыя і іншыя (што само па сабе было ўнікальнай з’явай у палітычным развіцці Еўропы), граніцы якіх урэшце рэшт амаль самкнуліся.

Палітычнае развіццё гарадоў-камун з XI па XIII ст. прайшло некалькі стадый.

З канца XI ст. да пачатку XIII ст. для большасці гарадскіх камун быў тыпічны этап консульскага праўлення.

Заканадаўчая ўлада ў гарадах належала, як правіла, двум саветам – Вялікаму (альбо Генеральнаму) і Малому (крэдэнца) – савет давераных асоб, выбіраўся невялікай колькасцю паўнапраўных грамадзян.

Выканаўчая ўлада знаходзілася ў руках калегіі консулаў, колькасць якіх

вагалася ад 2 да 20 у розныя гады і ў розных гарадах. У Мілане, напрыклад, калегія консулаў выбіралася ад трох груп насельніцтва — заможнага купецтва, вальвасараў і капітанаў, г. зн. рыцараў і сярэдніх феадалаў.

Члены саветаў і консулы выбіраліся на агульным сходзе камуны (арэнга, парламента) тэрмінам на некалькі месяцаў.

Па сканчэнні паўнамоцтваў магістраты публічна давалі справаздачу аб сваёй дзейнасці. Зноў (у другі раз) заняць месца ў савеце або сярод консулаў можна было пасля некаторага перапынку. Законы былі накіраваны на тое, каб не дапусціць узмацнення аднаасобнай улады.

Выбарчае права мелі тыя нобілі, рыцары, купцы, рамеснікі, якія актыўна ўдзельнічалі ў руху за гарадскія свабоды і прысягалі на адданасць камуне. Гэтыя правы захоўваліся і за іх нашчадкамі. Гарадскія апалчэнні звычайна ўзначальвалі нобілі сярэдняга рангу або рыцары – капітаны, вальвасары. Аднак галоўны плён перамогі гарадоў над сеньёрамі дастаўся гарадской арыстакратыі. Ад здабытай свабоды выйгралі ў першую чаргу гарадскія вярхі – знаць і буйное купецтва. Яны і прымалі ўдзел у кіраванні камунай. Сярэднія слаі горада атрымалі больш магчымасцей эканамічнага развіцця горада-камуны і прынцып юрыдычнага раўнапраўя грамадзян.

Па сутнасці ў Італіі ў XII ст. склаўся тып арыстакратычнай камуны, у якой знаць паступова адцясніла гандлёва-рамесную частку горада, а таксама сярэдніх нобіляў і рыцараў.

Правы камуны былі зафіксаваны ў яе канстытуцыі – статутах, якія рэгулявалі самыя розныя бакі жыцця горада: ад правоў грамадзян, абавязкаў магістратаў да пытанняў добраўпарадкавання горада.

Гарадское заканадаўства юрыдычна не дыферэнцыравала грамадзян: імі былі жыхары горада, якія плацілі падатак на ўласнасць. Выкананне законаў было абавязковым для ўсіх жыхароў горада, але палітычнымі правамі карысталіся толькі грамадзяне.

Новым (пасля консульскага) этапам праўлення і этапам палітычнага развіцця гарадоў-камун стаў час праўлення падэсты – пачатак і сярэдзіна XIII ст. Ён супаў с атрыманнем гарадамі Паўночнай і Цэнтральнай Італіі поўнай незалежнасці і ператварэннем іх у гарады-рэспублікі. Ранейшая сістэма кіравання была перабудавана. Выканаўчая ўлада (ад консулаў) перайшла да падэста (ад лац. potestas – улада). Падэста быў іншаземцам (лічылася, што іншаземец не будзе мець палітычных прыхільнасцей у горадзе) рыцарскага звання і запрашаўся на службу ў горад са сваім узброеным атрадам. Запрашалі яго толькі на адзін год, ён атрымліваў ад камуны вялікае жалаванне і выконваў адміністрацыйныя і паліцэйскія функцыі.

Дзейнасць падэсты рэгулявалася асобым статутам і кантралявалася гарадскім саветнікам, якога спецыяльна для гэтага прызначалі. Пасля заканчэння тэрміну

падэста павінен быў даць падрабязную справаздачу аб сваёй службе. Камуна назірала за тым, каб улада падэста не ператварылася ў ваенную дыктатуру.

Горад-камуна жыў у атмасферы несціхаючай унутранай палітычнай барацьбы за прадстаўніцтва ў саветах і органах улады.

У XIII ст. у барацьбу за ўладу рашуча ўключыліся заможныя папаланы: спачатку багатае купецтва (“тлусты” народ), а потым і рамесныя слаі папаланства. XIII ст. стала новым этапам у гісторыі ўнутрыпалітычнай барацьбы: усе папаланы выступалі супраць засілля гарадской арыстакратыі, кіруючага горадам патрыцыяту, у якім нярэдка пераважалі нобілі.

Саперніцтва праходзіла пад сцягамі гвельфаў і гібелінаў – прыхільнікаý папы і прыхільнікаý імператара. Варожыя палітычныя партыі (групоýкі0 гвельфаý і гібелінаý склаліся ў Італіі ў канцы XII – пачатку XIII ст. у ходзе барацьбы з германскім імператарам Фрыдрыхам I Гогенштаўфенам (Барбаросай).

Назва “гвельфы” ўтварылася ад прозвішча саксонскіх герцагаў Вельфаў (рода, варожага Гогенштаўфенам). Гвельфы былі праціўнікамі імператара і саюзнікамі папы, яны абапіраліся на папаланства.

Назва “гібеліна” пайшло ад лацінізаванай назвы аднаго з замкаў Гогенштаўфенаў (па-нямецку Вайблінген). Гібеліны былі прыхільнікамі імператара і абапіраліся на набілітэт (феадальнае дваранства).

У XIII ст. практычна ва ўсіх гарадах Італіі бушавалі гвельфа-гібелінскія страсці. Барацьба ішла за пераўтварэнне арыстакратычнай камуны ў камуну папаланскую (больш дэмакратычную).

У час канфліктаў (як правіла, узброеных) палярызацыя сіл у гарадах была дастаткова выразнай: з аднаго боку – набілітэт і частка купецтва (“тлустага” народу), звязаная з ім сваяцкімі і дзелавымі вузамі; з другога народ (popolo) – сярэднія гандлёва-рамесныя слаі.

Там, дзе пазіцыі папаланаў былі моцнымі, як аказалася, так здарылася ў большасці гарадоў Паўночнай і Цэнтральнай Італіі, папаланы адабралі ўладу ў гарадскіх нобіляў (хоць часам і працягвалі дзяліць з імі месцы ў гарадскіх саветах).

У другой палове XIII ст. папаланы атрымалі канчатковую перамогу ў Мілане, Балонні, Парме, Падуі, Перуджы, Фларэнцыі, і іншых гарадах Італіі.

У класічных формах два тыпы гарадской дэмакратыі склаліся ў Фларэнцыі і Венецыі: у канцы XIII ст. Фларэнцыя стала папаланскай рэспублікай; Венецыя да пачатку XIV ст. канчаткова аформілася як патрыцыянская алігархічная рэспубліка. У іншых гарадах Італіі існавалі змешаныя формы праўлення.

Галоўным вынікам барацьбы гандлёва-рамесных слаёў камуны стала пашырэнне рамак гарадской дэмакратыі.

Прадстаўнікі папаланства (галоўным чынам вярхі) у тых ці іншых маштабах былі дапушчаны да ўлады.

Старыя магістратуры не ліквідаваліся, а дапаўняліся новымі. Колькасць магістратур усялякіх камісій – па пытаннях гандлю, ваенных, судовых і іншых справах – узрасла. Важнай рысай гарадской дэмакратыі была кароткатэрміновасць магістратур (ад 2 да 6 месяцаў), немагчымасць увесь час займаць якую-небудзь пасаду.

Разам з Саветам камуны (Вялікім саветам), дзе засядалі прадстаўнікі набілітэту і часткі купецтва, пачалі выбіраць Савет народа – з купецтва і цэхавых майстроў. Павялічыўся колькасны склад Саветаў – ад 200 да 500 членаў. Гэта дазволіла дзесяткам соцень грамадзян кожны год прымаць удзел у кіраванні дзяржавай.

Выбарчым правам у італьянскіх рэспубліках карысталіся грамадзяне, якія мелі ўласнасць і плацілі падаткі. Безумоўна, грамадзяне складалі параўнальна невялікую частку гарадскога насельніцтва (так, маламаёмасныя, рабочы люд, слугі і жабракі ў лік грамадзян не ўваходзілі). Часта выбарчае права рамеснікаў абмяжоўвалася абавязковай прыналежнасцю да якога-небудзь цэха. Перавага аддавалася "старшым" цэхам (да якіх належалі цэхі мянялаў, аптэкараў, суконшчыкаў, шоўкаткачоў, ювеліраў і інш.), а не "малодшым" (карпарацыі мяснікоў, булачнікаў, шаўцоў і г. д.).

У выніку далейшай сацыяльнай барацьбы рамкі гарадской дэмакратыі маглі пашырацца (з цягам часу доступ у галоўныя магістратуры атрымаюць і радавыя рамеснікі). Акрамя таго, ўзнікла і новая структура папаланскай улады: капітан народа (з ваенна-адміністрацыйным штатам). Спачатку ён падзяляў паліцэйскія функцыі з падэстам, а потым і выцесніў гэтую пасаду.

Палітычная эвалюцыя гарадскіх рэспублік асабліва наглядна паўстае на прыкладзе Фларэнцыі. У яе гісторыі XII ст. прайшло пад знакам барацьбы з навакольнымі сеньёрамі. Многія замкі ў акрузе былі разбураны фларэнтыйцамі, а сем'і нобіляў прымусова перасялены ў горад. Ва Фларэнцыі выраслі дамы гэтай знаці – шматпавярховыя вежы-крэпасці. Як і ўсюды, тут скаліся дзве партыі – гвельфаў і гібелінаў. Пад сцягам гвельфаў аб'ядналіся рыцары і папаланы. Партыю гібелінаў сфарміравала частка нобіляў, якая шукала падтрымкі ў германскага імператара.

У 1250 г. ва Фларэнцыі была прынята першая ў гісторыі гарадскіх рэспублік Італіі папаланская канстытуцыя (якая замацавала панаванне папаланаў) і абвешчана "малая камуна" (ёй належала заканадаўчая ўлада).

Існаваў Савет камуны з падэстам на чале. Акрамя іх, былі створаны два новых органа: адзін аб'ядноўваў "12 старэйшын фларэнтыйскага народа", другім быў Савет народа. Абодва яны выбіраліся толькі ад цэхаў.

Узнікла і пасада капітана народа, які падзяляў з падэста ваенную і судовую ўладу.

Гібеліны былі выгнаны з горада, якім цяпер кіравалі папаланы.

У 1260 г. у бітве пры Мантаперці гібеліны, абапіраючыся на дапамогу імператарскага войска, нанеслі папаланам скрышальнае паражэнне. Папаланская канстытуцыя і ўлада народа былі знішчаны.

Толькі ў 1282 г. гвельфам удалося вярнуць папаланскае праўленне, якое набыло новую форму.

Заканадаўчая ўлада, як і раней, належала Савету камуны і Савету народа (у іх прадстаўнікі цэхаў пераважалі над нобілямі), а вышэйшая выканаўчая ўлада перайшла да прыярата – калегіі з 6 прыёраў, прадстаўнікоў ад трох "старшых" цэхаў, якая называлася "сіньярыяй". На чале прыярата быў ганфаланьер (сцяганосец) справядлівасці.

Новая дзяржаўная сістэма, якая замацоўвала пануючае палажэнне папаланства, атрымала назву "Florentina libertas". Яна была заканадаўча аформлена прыняццем у 1293 г. новай канстытуцыі – "Устанаўленняў справядлівасці".

Да ўлады прыйшлі заможныя папаланы ("тлусты" народ). Нобілі былі адхілены ад удзелу ў вышэйшых органах улады і пазбаўлены грамадзянскіх правоў. Імі валодалі цяпер у Фларэнцыі толькі члены цэхаў.

Зрэшты, шлях у цэхі для знаці не быў закрыты і многія яе прадстаўнікі ўступалі ў "старшыя" цэхі (такіх было 7 з 21), атрымлівалі выбарчае права і маглі быць выбранымі на вышэйшыя пасады.

Працэс збліжэння набілітэту і папаланства ў рамках цэхавых карпарацый падмацоўваўся сваяцкімі вузамі і дзелавым супрацоўніцтвам у фінансавых аперацыях, сукнаробстве, вытворчасці шаўковых тканін і г. д.

Межы паміж гэтымі сацыяльнымі слаямі размываліся, а ў XIV ст. атрымала перавагу тэндэнцыя да ўстанаўлення адзінага папаланскага статусу (гэтаму садзейнічала заканадаўства: яно абавязвала нобіляў пераходзіць у разрад папаланаў).

Аднак самі папаланы расслаіліся на "тлусты" народ (popolo qrasso) — багатае купецтва, уладальнікі майстэрань, банкаўскіх кантор і "худы" народ (popolo minuto) – дробныя гандляры і рамеснікі.

У Венецыі ж на чале ўлады стаяла купецкая (патрыцыянская) алігархія. Горадам кіравалі багатыя купцы, яны і складалі спадчынны патрыцыят. На чале Венецыі стаяў дож, якога выбіралі пажыццёва, улада яго была абмежавана Вялікім саветам. Дож меў адміністрацыйную і ваенную ўладу.

Заканадаўчым органам у Венецыі быў Вялікі савет, які ў канцы XIII ст. складаўся з 242 чалавек, што належалі да патрыцыянскіх сямей, занесеных у "Залатую кнігу набілітэту".

З канца XIII ст. у кіраванні Венецыяй яшчэ больш узмацніліся алігархічныя тэндэнцыі. З Вялікага савета вылучыўся "Савет запрошаных" (сенат), які паступова прысвоіў сабе ўсю паўнату выканаўчай улады. У 1310 г. быў створаны

Савет дзесяці, якому даручылі нагляд за ўрадавымі органамі аж да дожа.

Інакш праходзіла палітычнае жыццё ў Мілане. Тут папаланы аб’ядналіся з дробнымі і сярэднімі дваранамі. У створанай імі камуне пераважалі феадалы.

У канцы XII ст. у процівагу старой консульскай камуне цэхі арганізавалі свой савет. Выканаўчая ўлада перайшла да падэсты. На пасаду падэсты выбіралі прадстаўнікоў феадальна-папаланскай сям’і дэла Торэ. С сярэдзіны XIII ст. яны правілі Міланам у чыне спадчыннага капітана. Формай палітычнага кіравання Мілана стала сіньёрыя, блізкая да манархіі.

Пэўнае падабенства палітычнага ладу і эканамічнага жыцця італьянскіх гарадоў не прывяло да іх аб’яднання. На працягу ўсяго сярэдневякоўя яны знаходзіліся ў варожых адносінах. Галоўнай прычынай гэтай варожасці было гандлёвае саперніцтва (найбольш яскравым прыкладам якога можа служыць шматгадовая барацьба Генуі і Венецыі).

Пастаянныя сутыкненні паміж гарадамі адбываліся і з-за пагранічных зямельных уладанняў, дробных гарадоў, выгодных прыстаней.

**Барацьба гарадоў-камун Ламбардыі. і Тасканы з Фрыдрыхам I Барбаросам**. У другой палове XII ст. многім гарадам Італіі (перш за ўсё паўночнаітальянскім) прыйшлося сутыкнуцца з наступленнем на іх свабоды германскага імператара Фрыдрыха I Гогенштаўфена, вядомага па сваёй італьянскай мянушцы як Барбароса (Рыжабароды).

На працягу 22 гадоў (1154–1176) ён арганізаваў некалькі ваенных паходаў супраць камун Паўночнай Італіі. Падставай да захопу Фрыдрых I лічыў фармальную прыналежнасць Італіі (дакладней яе часткі) да Рымскай імперыі (з X ст.). Сапраўды, да італьянскіх паходаў Барбаросы залежнасць гарадоў Ламбардыі і Тасканы ад імперыі была, наогул кажучы, намінальнай: гарады абмяжоўваліся грашовымі субсідыямі і пастаўлялі імператару атрады дапаможнага характару, г. зн. папросту ад яго адкупляліся. Вярхоўных правоў імператара яны ўсур’ёз не прызнавалі.

У 1154 г. Фрыдрых I Барбароса ўступіў з войскам у Ламбардыю і запатрабаваў ад яе гарадоў рэалізацыі сваіх вярхоўных паўнамоцтваў, што ўвогуле сур’ёзна ушчамляла судова-адміністрацыйную і фінансавую незалежнасць гарадоў. Над гарадамі-камунамі навісла рэальная пагроза страты незалежнасці.

Сустрэўшы адмову з боку Мілана, Фрыдрых разбурыў некалькі падпарадкаваных гораду невялікіх камун.

У 1158 г. ён склікаў каля П’ячэнцы Ранкальскі сейм – савет з прадстаўнікоў гарадоў і знаці Ламбардыі, на які былі запрошаны чатыры вядомыя балонскія юрысты.

Пад націскам Фрыдрыха савет падтрымаў думку юрыстаў, якія спасылаліся на Кодэкс Юстыніяна аб правамернасці прытэнзій імператара на рэгаліі і судовую

уладу, г. зн. было прынята рашэнне аб ліквідацыі незалежнасці гарадоў Паўночнай Італіі. Угодлівыя балонскія юрысты абгрунтавалі сваё рашэнне формулай рымскага права: “Чаго жадае гасудар, тое мае моц закона”.

Аднак большасць камун Ламбардыі адмовілася падпарадкавацца рашэнням Савета. Першым аказаў супраціўленне горад Крэма – і па загадзе імператара ён быў разбураны. Потым уладу імператара адмовіўся прызнаць Мілан. У 1161–1162 гг. Фрыдрых I Барбароса аблажыў горад і пасля двух гадоў асады ўзяў яго і разбурыў дашчэнту. Жыхары горада былі ператвораны ў залежных сялян і адпраўлены на вёску.

Жорсткая палітыка Фрыдрыха I падштурхнула большую частку гарадоў-камун Італіі на саюз з папам Аляксандрам III.

У 1167 г. была створана Ламбардская ліга, дапамогу ў арганізацыі якой аказаў папа. Ліга аб’яднала 22 самыя буйныя гарады Паўночнай Італіі – Мілан (адбудаваны нанова на сродкі Лігі, на чале якой ён стаяў), Венецыю, Падую, Верону, Мантую, Крэмону і інш. Да Лігі далучыліся папа і Сыцілійскае каралеўства.

У 1174 г. (да пачатку новага паходу Фрыдрыха I у Італію) у Ламбардскую лігу ўваходзіла ўжо 37 гарадоў.

Каля пераправы праз раку По Ламбардская ліга ўзвяла заслон супраць войскаў Фрыдрыха – крэпасць Алесандрыю (па імені Аляксандра III). Фрыдрых, перайшоўшы Альпы ў пяты раз, узяць гэтую крэпасць не здолеў.

У 1176 г. у бітве пры Леньяна гарадскія апалчэнні Лігі нанеслі Фрыдрыху канчатковае паражэнне. Італьянскія гарады, выкарыстоўваючы саперніцтва папы і імперыі, абапіраючыся на ўласныя багацці і салідарнасць, дабіліся беспрэцэдэнтнай пераканаўчай перамогі. Барацьбу з папам Фрыдрых прайграў.

У 1183 г. у Канстанцы быў заключаны мір паміж папам і імператарам, які юрыдычна замацаваў перамогу гарадоў.

Прызнаўшы суверэнітэт імператара, яго права вышэйшай юрысдыкцыі, пастою, фармальнага зацвярджэння консулаў камуны, гарады, у сваю чаргу, набылі надзвычай шырокія паўнамоцтвы: права выбіраць магістратаў, чаканіць манету, здзяйсняць суд, мець уласнае войска, абвяшчаць вайну і заключаць мір.

Фактычна гарадскія камуны Паўночнай і Цэнтральнай Італіі, рэстаўрыраваўшы камунальныя свабоды, атрымалі статус незалежных дзяржаў. Ранкальскія пастановы быліануляваны.

**Вёска Ламбардыі і Тасканы. Становішча сялянства.** Энергічнае развіццё рамёстваў і гандлю ў гарадах Паўночнай і Сярэдняй Італіі, а таксама шырокае распаўсюджванне таварна-грашовых адносін прывялі да прыкметных зрухаў у аграрным ладзе.

Італьянскі горад увесь час адчуваў патрэбу ў павелічэнні прадукцыі сельскай гаспадаркі, у сувязі з чым паўстала пытанне аб пашырэнні плошчаў зямлі, якія

апрацоўваліся, што было зроблена за кошт расчысткі пустэч і асушэння балот.

У Італіі амаль знікла панская ворная зямля (дамен) феадалаў. Скараціўшы землі дамена, гранды ў канцы XI–XII ст. перадалі іх у арэнду сялянам, рыцарам і гараджанам або прадалі грашовым людзям.

Трэба адзначыць, што арэндныя адносіны на тэрыторыі Італіі пачалі складвацца яшчэ ў раннім сярэдневякоўі.

З IX ст. прыжылася лібела, г. зн. арэнда зямлі па дагаворы. Залежны селянін-лібелярый павінен быў аддаваць уласніку зямлі (феадалу) 1/3 ці 1/4 ураджаю, а таксама часам працаваць на паншчыне.

У X–XI ст. лібелярная форма арэнды стала пераважаць.

Здаралася, што сяляне трымалі зямлю на ўмовах прэкарыя, плацячы аброк і працуючы на паншчыне. Акрамя таго, быў распаўсюджаны эмфітэўзіс – вечнаспадчынная арэнда за натуральны або грашовы аброк.

У XI ст. у Паўночнай і Сярэдняй Італіі пачаўся працэс камутацыі рэнты: у XI–XII ст. шырокае распаўсюджанне атрымала грашовая рэнта. Аднак у шэрагу абласцей Паўночнай Італіі рост таварна-грашовых адносін выклікаў павелічэнне прадуктовай рэнты. І грашовая рэнта, якая займала важнае месца ў папярэдні перыяд, пачала трансфармавацца ў рэнту прадуктамі. У XIII і потым у XIV–XV ст. гэты від рэнты стаў пануючым, таму што ў сувязі з ростам гарадскога насельніцтва, якое адчувала патрэбу ў прадуктах харчавання, іх збыт быў вельмі прыбытковым. Феадалы, якія перасяляліся ў гарады, і папаланы, якія купілі землі ў акрузе, атрымліваючы з сялян рэнту прадуктамі, потым прадавалі іх на рынку, пакідаючы для сваіх патрэб невялікую частку.

Частае наведванне сялянамі горада, іх непасрэдная сувязь з рынкам (некаторую колькасць прадуктаў яны ўсё ж прадавалі самі) агульнае становішча ў краіне, дзе дамінаваў горад, – усё гэта прыводзіла да значных перамен у становішчы сялян.

Асабіста залежных сялян у Паўночнай і Сярэдняй Італіі было параўнаўча няшмат (у X ст. у асабістую залежнасць папала частка лібелярыяў і прэкарыстаў). У XII–XIII ст. асноўная маса асабіста залежных сялян атрымала свабоду. Гарадскія камуны нярэдка ў заканадаўчым парадку аб'яўлялі аб ліквідацыі асабістай залежнасці. Так, у 1256 г. быў выданы “Райскі акт” у Балонні, па якім улады горада выкуплялі асабістую залежнасць усіх сялян гарадской акругі. Была таксама ліквідавана асабістая залежнасць у Фларэнцыі (1289). У аснове такой палітыкі было жаданне гараджан павялічыць колькасць свабодных работнікаў у горадзе (сюды прыходзілі вызваленыя асабістыя сяляне) і ў кантада, а таксама аслабіць пазіцыі феадалаў.

Большасць сялян, якія вызваліліся, былі пазбаўлены зямельных надзелаў, паколькі не мелі сродкаў іх выкупіць.

Рост гарадоў выклікаў і іншыя перамены на вёсцы. Палепшылася становішча

лібелярыяў, якія атрымалі права распараджацца зямлёй па сваім вырашэнні.

У XIII ст. у Паўночнай і Сярэдняй Італіі распаўсюдзілася новая форма арэнды, якая ў наступныя стагоддзі стане асноўнай, – палавіншчына (па-італьянску – медзадрыя).

Палавіншчыкі (часцей імі станавіліся сяляне-беднякі) звычайна атрымлівалі ад зямельнага ўласніка інвентар, рабочую жывёлу і насенне. Плата за зямлю складала палавіну ўраджаю. Часам уласнік зямлі збіраў і дадатковыя паборы. Да заключэння тэрміну кантракта палавіншчык не мог пакінуць участак.

Палавіншчына была пераходным (ад феадальнай да капіталістычнай) тыпам арэнды.

Аднак на паўночным захадзе Італіі (у Пьемонце, Манферацэ, Савоі) ва ўмовах развіцця таварна-грашовых адносін назіралася рэзкае павелічэнне феадальнай рэнты і ўзмацненне старых формаў феадальнага прыгнёту.

І, напэўна, таму тут узнік шэраг ерэтычных сект, у склад якіх уваходзілі галоўным чынам сяляне або гараджане – нядаўнія выхадцы з вёскі. У XII–XIII ст. налічвалася некалькі дзесяткаў сект: катары, вальдэнсы (агульнаеўрапейскія), гуміліяты, фрацічэллі (чыста італьянскія) і інш.

Каля 1260 г. былы селянін з Пармскай акругі манах Сегарэлі заснаваў секту “апостальскіх братоў”. “Браты” прапаведавалі агульнасць маёмасці (павінны былі аддаваць пры ўступленні ў секту сваю маёмасць), роўнасць, непакорнасць сеньёрам і абвінавачвалі каталіцкае духавенства ў сквапнасці.

Дзейнасць “апостальскіх братоў” была забаронена, а кіраўнік секты Сегарэлі – арыштаваны і па распараджэнні папы спалены ў Парме.

З лангабардскіх часоў у Паўночнай і Сярэдняй Італіі існавала сялянская абшчына. Спачатку яна была свабоднай, а ў IX–XI ст. стала залежнай.

Абшчынныя арганізацыі вялі ўпартую барацьбу са сваімі сеньёрамі. У XII–XIV ст. многія з іх дабіліся самакіравання і ператварыліся ў камуны. Аднак большасць сельскіх камун узнікла нанава.

Сельскія камуны (як і гарадскія) выбіралі консулаў, мелі свой адміністрацыйна-фінансавы апарат, выдавалі статуты – заканадаўчыя пастановы, якія рэгулявалі адносіны ў камуне.

Абшчына валодала землямі альменды, г.зн. угоддзямі агульнага карыстання (часам, ворнай зямлёй).

Вызваліўшыся з-пад улады феадала, абшчыны карысталіся сваёй незалежнасцю вельмі нядоўга. Звычайна іх падпарадкоўвалі пад свой кантроль суседнія гарады. Па сутнасці, горад замяніў вясковым абшчынам (камунам) іх былога сеньёра і панаваў над вёскай і палітычна, і эканамічна. Магістраты горада абкладвалі сялян падаткамі, маглі ўстанаўліваць невысокія цэны на прадукты сельскай гаспадаркі. Селянін павінен быў прадаваць лішкі збожжа і купляць гарадскія тавары.

**Папская вобласць. Рымская рэспубліка. Арнольд Брэшыянскі.** Значную частку Сярэдняй (або Цэнтральнай) Італіі ў X–XII стст.займала тэакратычная дзяржава пап, т.зв. Папская вобласць з цэнтрам у Рыме (у XI–XII ст. тэрыторыя Папскай вобласці пашырылася за кошт часткі Тасканы, Беневента, Спалета, а таксама горада Перуджа).

Гасудар Папскай вобласці – папа рымскі, – як і раней, адначасова стаяў на чале ўсёй каталіцкай царквы.

Па ўзроўні эканамічнага развіцця Папская вобласць адставала ад Паўночнай (Ламбардыя) і астатняй часткі Сярэдняй (Таскана) Італіі. Тут непадзельна панавалі феадальныя адносіны. Асноўная маса сялян знаходзілася ў асабістай залежнасці. Гарады развіваліся вельмі павольна і знаходзіліся пад уладай сеньёраў. Усе спробы гарадоў Папскай вобласці ўстанавіць камунальнае кіраванне поспеху не мелі.

У 1143 г. зроблена першая спроба стварыць камуну ў сталіцы папскай дзяржавы – Рыме. Трэба адзначыць, што Рым у XII ст. (як і іншыя гарады рэгіёна) не быў буйным цэнтрам рамеснай вытворчасці (папа забараніў стварыць тут цэхі) і абмену і адставаў па эканамічных паказчыках, напрыклад, ад Фларэнцыі і Мілана.

Перш за ўсё Рым быў папскай рэзідэнцыяй, а таксама цэнтрам. дзе жыла большасць феадалаў акругі. У самім Рыме знаходзілася каля 200 феадальных замкаў. Асноўны даход горад атрымліваў ад абслугоўвання шматлікіх паломнікаў-пілігрымаў. Але львіная доля гэтых грошай ішла ў казну папскай курыі ў выглядзе пошлін і пабораў.

Раскоша і багацце рымскага духавенства вызывалі пастаянную незадаволенасць і раздражненне гараджан.

У 40-я гады XII ст. у Рыме пачаўся рух за ўстанаўленне камуны. У 1143 г. гараджане (купцы, рамеснікі, дробныя рыцары) захапілі ўрадавыя будынкі на рымскім Капітоліі і абвясцілі ў Рыме рэспубліку. Потым быў выбраны сенат (з 56 чалавек), у склад якога ўвайшлі простыя грамадзяне. Удзельнікі паўстання патрабавалі перадаць уладу над горадам камуне. Знаць і рымскае духавенства паспрабавалі ўзяць Капітолій. Падчас яго асады быў забіты папа Луцый II.

Асобую ролю ў кіраванні рэспублікай адыграў Арнольд Брэшыянскі – мяцежны мысліцель, праціўнік папства. Раней ён узначальваў рух супраць епіскапа і багатага духавенства Брэшыі, за што быў выгнаны з Італіі.Некалькі гадоў ён правёў у Францыі, дзе стаў вучнем і прыхільнікам вядомага філосафа П'ера Абеляра. У далейшым Арнольд вярнуўся ў Італію і стаў натхніцелем Рымскай рэспублікі.

У сваіх страсных пропаведзях ён адкрыта выступаў супраць папства і багаццяў царквы. Прадстаўнік ранняй ерасі гараджан, Арнольд заклікаў да экспрапрыяцыі зямель духавенства, патрабаваў пазбавіць папства свецкай улады і

аднавіць простую хрысціянскую царкву. Ён называў папу “чалавекам крыві, які спрыяе пажарам і забойствам, мучыцелям царквы, ганіцелям нявіннасці”, а кардыналаў – сквапнымі і крывадушнымі прэлатамі.

Выступаў Арнольд і супраць панавання феадальнай знаці, марыў аб магутнасці Рыма і стварэнні адзінай Італіі.

Нават праціўнікі Арнольда прызнавалі сілу і страснасць яго пропаведзяў. Яго “зубы – зброя і стрэлы, – пісаў фанатычны філосаф-містык абат Бернар Клервоскі, – язык – востры меч. Яго словы мягчэй за масла, але яны – коп’і”.

Натхнёныя палымянымі словамі Арнольда, рымляне разбуралі замкі рымскіх феадалаў і дамы кардыналаў. Папа і частка феадалаў былі выгнаны з Рыма.

У 1154 г. у Італію ўварваўся германскі правіцель Фрыдрых I Барбароса. Страх перад Рымскай рэспублікай прымусіў папу (Адрыяна IV) аб’яднацца з Барбаросам. Адхіліўшы саюз з Рымскай рэспублікай (сенат якой прапанаваў Фрыдрыху карону імператара), Фрыдрых уступіў у Рым і атрымаў карону з рук Адрыяна IV.

Нахабнасць і насілле нямецкіх рыцараў прывялі да ўзброенага супраціўлення рымлян.

У такіх умовах папа Адрыян IV налажыў на Рым інтэрдыкт, у выніку чаго прыток паломнікаў у Рым спыніўся, а даходы рымскага насельніцтва скараціліся. У горадзе нарастала напружанне. У рымскім сенаце ўзялі верх умераныя элементы, пасля чаго лідэра Рымскай рэспублікі выгналі з горада. Потым па загадзе імператара ў 1155 г. яго схапілі і пасля страшэнных катаванняў пакаралі смерцю. Аднак нават мёртвы Арнольд быў страшны сваім праціўнікам: каб народ не пакланяўся яго праху, труп Арнольда вырашылі спаліць.

Так, у 1155 г. з дапамогай Фрыдрыха Барбаросы папе Адрыяну IV удалося ліквідаваць Рымскую рэспубліку. Улада папы была адноўлена.

**Паўднёвая Італія у X—XIII ст. Сіцылійскае каралеўства. Анжуйская дынастыя.** На працягу ўсяго сярэдневякоўя Паўднёвая Італія развівалася адасоблена і трохі інакш, чым вобласці Паўночнай і Сярэдняй Італіі. Цёплы клімат і багацце гэтага краю ўвесь час прыцягвалі заваёўнікаў. Да XI ст. у Паўднёвай Італіі (раздробленай дзяржаве) панавалі візантыйцы і арабы.

У першай палове XI ст. некаторыя пункты Паўднёвай Італіі захапілі нарманы (выхадцы з Нармандыі). Да 1071 г. апошнія пад камандаваннем Роберта Гвіскара (Хітрага) авалодалі Апулеяй і Калабрыяй. Да канца стагоддзя яны адваявалі ў Візантыі ўвесь поўдзень, а таксама захапілі лангабардскія графствы Беневент і Спалета.

Паміж 1061–1091 гг. брат Роберта Ражэр адваяваў у арабаў Сіцылію. Нарманаў падтрымліваў рымскі папа, які меў патрэбу ў дапамозе супраць агрэсіі германскіх імператараў.

У 1130 г. пры Ражэры II адбылося аб’яднанне Паўдневай Італіі і Сіцыліі ў

адзіную дзяржаву – так утварылася Сіцылійскае каралеўства.

Ражэр II (тады герцаг) атрымаў ад папы тытул караля (1130—1154). Фармальна ён і яго пераемнікі лічыліся васаламі папскай курыі, але фактычна Сіцылійскае каралеўства было суверэнным.

У XII–XIII ст. яно ператварылася ў адну з самых моцных (калі не ў самую моцную) дзяржаў басейна Міжземнага мора. Тут раней, чым у іншых краінах Заходняй Еўропы, створана цэнтралізаванае бюракратычнае кіраванне. Вышэйшая судовая і адміністрацыйная ўлада была сканцэнтравана ў руках караля і яго юстыцарыя.

Кароль абапіраўся на шматлікі слой дробных і сярэдніх феадалаў і каталіцкую царкву, якая знаходзілася ў поўнай залежнасці ад дзяржавы.

Нарманскае заваяванне паскорыла развіццё феадальных адносін, якія наогул на поўдні аформіліся параўнальна позна.

У выніку заваяванняў нарманскія каралі захапілі частку зямель меснай феадальнай знаці і сялянства. Ільвіную долю гэтых зямель яны аставілі ў якасці каралеўскага дамена, а астатнюю раздалі як феоды сваім прыбліжаным (нарманскім феадалам) і каталіцкай царкве.

Сяляне поўдня паступова ператвараліся ў залежных трымальнікаў (хоць тут яшчэ доўга захоўвалася праслойка сялян-аладыстаў, якія жылі абшчынамі). У XII ст. у Сіцылійскім каралеўстве былі вядомы дзве катэгорыі залежнага сялянства – сервы і віланы, якія плацілі натуральную (радзей грашовую) і выконвалі адработачную рэнту.

У XIII ст. асноўнай катэгорыяй сялян стануць сервы – асабіста залежныя сяляне. Асноўнымі формамі рэнты лічыліся, як і раней, натуральны аброк (сальтус) і грашовая рэнта. Аброк уносілі 2–3 разы ў год прадуктамі ці грашамі. Акрамя таго, сяляне плацілі дзяржаўныя падаткі і царкоўную дзесяціну, некалькі дзён у год выконвалі адработачную рэнту (ангарыю).

Значную частку сялян складалі напаўсвабодныя і свабодныя (русцікі), якія, як правіла, аб’ядноўваліся ў абшчыны і жылі ў крэпасцях.

Акрамя таго, у XIII ст. існавалі часовыя і спадчынныя трымальнікі (эмфітэўты), якія пасяляліся на пустэчах, што належалі феадалам.

У цэлым працэс развіцця феадальных адносін у Сіцылійскім каралеўстве ішоў павольней, чым у другіх рэгіёнах Італіі.

У XI–XII ст. буйныя гарады Паўднёвай Італіі перажывалі эканамічны росквіт, звязаны з пасрэдніцкім транзітным гандлем. Высокага развіцця дасягнула тут і рамяство.

Да канца XI ст. гарады поўдня Італіі Неапаль, Палерма, Амальфі, Бары і іншыя карысталіся шырокімі правамі самакіравання. Аднак пасля заваявання гэтай часткі Італіі нарманамі іх становішча змянілася, паколькі нарманскія каралі пачалі праводзіць жорсткую палітыку цэнтралізацыі, ва ўмовах якой да канца XII

ст. гарады поўдня, як буйныя, так і невялікія, страцілі былыя свабоды.

Так, былі значна абмежаваны фінансавыя і судовыя правы гарадоў, а вышэйшая адміністрацыйная ўлада перайшла да чыноўніка, які назначаўся каралём, г. зн. гарады падпалі пад кіраванне каралеўскіх служачых, а іх даходы ад рамяства і гандлю цяпер ішлі ў каралеўскую казну.

У канцы XII ст. (у выніку дынастычнага брака) нарманская дынастыя параднілася з Гогенштаўфенамі (Штаўфенамі), да якіх перайшоў прастол Сіцылійскага каралеўства, што прывяло да часовага аслаблення пазіцый каралеўскай улады. З 1212 па 1250 г. на чале Сіцылійскага каралеўства быў унук Фрыдрыха Барбаросы Фрыдрых II Гогенштаўфен – адна з найбольш каларытных фігур сярэдневякоўя. Фрыдрых быў адным з самых адукаваных людзей XIII ст., ведаў грэчаскую, арабскую і лацінскую мовы, пісаў вершы і навуковыя трактаты, падтрымліваў навукі і мастацтвы.

У гады малалецтва Фрыдрыха II гаспадаром Сіцылійскага каралеўства стаў яго апякун папа Інакенцій III.

Дасягнуўшы паўналецця (1212), Фрыдрых пачаў умацоўваць сваю ўладу ў Сіцылійскім каралеўстве і пасправабаваў ператварыць апошняе ў плацдарм для пакарэння ўсёй Італіі (Паўночнай і Сярэдняй).

Абапіраючыся на дробнае рыцарства (большасць рыцараў была звязана васальнымі вузамі непасрэдна з каралём, а таму зацікаўлена ў існаванні моцнай каралеўскай улады, якая магла бы ахоўваць іх ад самавольства баронаў), Фрыдрых II зламаў супраціўленне буйнога дваранства.

У 1231 г. ён выдаў "Мельфійскую канстытуцыю" (зборнік законаў), па якой было загадана разбурыць да фундамента феадальныя замкі, пабудаваныя за апошнія 40 гадоў. Гэта нанесла адчувальны ўдар па феадальнай знаці.

"Мельфійская канстытуцыя" ўстанавіла ў каралеўстве адзіную адміністрацыйную сістэму і пазбавіла феадалаў і гарады палітычнай самастойнасці. У баронаў аднялі правы сеньярыяльнай юрысдыкцыі і свабоднага распараджэння ленамі (ім нават забаранялася насіць зброю.). У той жа час узмацніўся каралеўскі суд і былі павялічаны агульнадзяржаўныя падаткі.

Для павелічэння даходаў казны былі ўведзены прамы пазямельны падатак і шэраг ускосных (а таксама ўстаноўлена манаполія дзяржавы на гандаль соллю, металамі, шоўкам, збожжам). На даходы казны Фрыдрых II стварыў наёмнае войска з сарацынаў і рыцараў, пабудаваў вялікі флот.

Аднак узмацненне падатковага ўціску прывяло да істотнага збяднення насельніцтва. У канцы праўлення Фрыдрыха краіна будзе даведзена да заняпаду.

Працягваючы палітыку бацькі, Фрыдрых II вёў бесперапынныя войны за пакарэнне Паўночнай і часткова Сярэдняй Італіі, дзе наткнуўся на супраціўленне гарадоў. Пасля амаль 30-гадовай барацьбы з ламбардскімі гарадамі-кмунамі адлучаны ад царквы рымскім папам, Фрыдрых II пацярпеў крах, а з яго смерцю (у

1250 г.) у Паўднёвай Італіі пацярпела крах і дынастыя Гогенштаўфенаў.

Пасля смерці Фрыдрыха II у 1268 г. Сіцылія і Паўднёвая Італія (па прызыву рымскага папы) былі заваяваны Карлам Анжуйскім – братам французскага караля Людовіка IX. На поўдні ўстанавілася ўлада Анжуйскай дынастыі.

Карл Анжуйскі вёў актыўную заваявальную палітыку. Ён удзельнічаў у крыжовым паходзе ў Туніс, арганізаваў ваенны паход у Канстанцінопаль, пакарыў шэраг гарадоў Італіі. Карл збіраўся захапіць Папскую дзяржаву і аб’яднаць у сваіх руках усю Італію, а потым завалодаць Візантыяй.

Планы Карла патрабавалі немалых фінансавых затрат, таму, як раней Фрыдрых II, ён узмацніў падатковы ўціск – увёў пагалоўны пабор.

Значныя прывілеі Карл даў французскім феадалам, якія прыйшлі з ім. Яны атрымалі зямельныя ўладанні і завялі свае парадкі. Сталіца дзяржавы была перанесена з Палерма ў Неапаль.

Самавольства французаў і падатковы прэсінг вызвалі стыхійныя хваляванні італьянцаў. 31 сакавіка 1282 г. успыхнула паўстанне ў Палерма, падставай да якога паслужылі абразы, нанесеныя мясцовым жанчынам французскімі салдатамі. З воклічамі “Смерць французам!” жыхары Палерма накінуліся на іх і цалкам знішчылі фраууцзскі гарнізон, у якім было каля 4 тыс. чалавек.

Паўстанне ў Палерма ўвайшло ў гісторыю пад назвай “Сіцылійская вячэрня”, бо, згодна з легендай, яно пачалося па ўмоўным сігнале – звону ў царквах да вячэрні.

З Палерма паўстанне перакінулася на іншыя гарады Сіцыліі. Карл Анжуйскі асадзіў Месіну, ахопленую паўстаннем, але горад выстаяў і французам не здаўся.

Сіцылійская знаць звярнулася за дапамогай да караля Арагона Педра III. У 1302 г. Сіцылія стала часткай уладанняў арагонскага каралеўскага дома, тут устанавілася новая дынастыя – Арагонская. Астатняя частка Паўднёвай Італіі пад назвай “Неапалітанскае каралеўства” засталася пад уладай Анжуйскай дынастыі. Цэнтрам Неапалітанскага каралеўства па-ранейшаму быў горад Неапаль.

## § 16. Пірэнейскі паўвостраў

**Астура-Леонскае каралеўства ў Х – першай палове ХІ ст.** У пачатку Х ст. вядучае месца сярод хрысціянскіх дзяржаў Пірэнейскага паўвострава належала Астурыі, якая вызначаецца ў гістарыяграфіі як Астура-Леонскае каралеўства (па назве сваёй сталіцы).

Падчас Рэканкісты Астурыя захапіла значныя тэрыторыі. Пры Альфонсе І (739–757) лінія процістаяння з маўрамі перамясцілася на раку Дуэра, пры Альфонсе ІІІ Вялікім (866–910) – на раку Таха. Новыя раёны часткова ўключаліся ў гаспадарчы абарот, часткова служылі буфернымі зонамі паміж каралеўствам і Кардоўскім халіфатам. Адначасова вырасла эканамічная і палітычная магутнасць

асобных частак краіны. У першую чаргу гэта тычыцца Кастыліі, дзе пачалася рэгіянальная цэнтралізацыя, у выніку якой усе графствы на гэтае тэрыторыі перайшлі пад уладу Фернана Гансалеса (930–970).

Кастыльскі сепаратызм быў не адзінай перашкодай на шляху стабілізацыі ўнутрыпалітычнага становішча ў Астурыі. Не меншыя праблемы ствараў і архаічны парадак перадачы кароны ў спадчыну. Пасля смерці караля ўся краіна дзялілася паміж яго сынамі, якія пачыналі барацьбу за яе аб'яднанне. Прычым усё гэта адбывалася на фоне пастаянных набегаў пірэнейскіх арабаў (маўраў) Кардоўскага халіфата. Найбольш разбуральнымі былі набегі канца X– пачатку XI ст. на чале з альМансурам (у еўрапейскай сярэдневяковай традыцыі – Альмансор). У 985 г. маўры спалілі Барселону, праз тры гады – Леон. Толькі пасля смерці альМансура ў 1002 г. нападзенні спыніліся. Астура-Леонскае каралеўства выстаяла, але яго першынства сярод хрысціянскіх дзяржаў рэгіёна закончылася.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё.** Месцам перасялення вестготаў стала паўночная частка Пірэнейскага поўвострава, заселеная аўтахтоннымі плямёнамі кантабраў, астураў, баскаў, вельмі слаба развітая ў эканамічным плане. Першапачатковы штуршок развіццю астурыйскай эканомікі дала вестгоцкая спадчына – на новых землях аднаўлялася былая структура як эканамічных, так і сацыяльных адносін. Сапраўдным жа падмуркам гаспадарчага жыцця Астурыі стала Рэканкіста.

Эканамічнае развіццё краіны адбывалася ў выглядзе прэсуры (каланізацыі пустуючай і безгаспадарчай зямлі), якая найбольш актыўна разгортвалася ў X–XI ст.

Прэсура была справай асобнай сям'і ці групы сем'яў, якія атрымлівалі ад караля ці графа спецыяльныя граматы. Перасяленцамі маглі быць не толькі асабіста свабодныя сяляне, але і сервы. Прынамсі, з 51 вядомага дакумента па прэсуры 7 тычацца менавіта сerваў. З часам прэсурныя землі ператвараліся ў алоды.

Большая частка сялянства была асабіста свабоднай. У крыніцах IX ст. яны вызначаюцца вельмі шырокім юрыдычным тэрмінам – "людзі", без вылучэння несвабодных сerваў. У крыніцах X ст. ёсць ужо больш дакладныя тэрміны: для Леона і Галісіі – "хуньерас дэ эрэдад" і "хуньерас дэ кабеса", для раёна паміж рэкамі Дуэра і Таха – "каласас". Аналіз крыніц паказвае, што хуньерас дэ эрэдад былі асабіста свабоднымі, а хуньерас дэ кабеса – асабіста залежнымі сялянамі. Што ж да каласас, то іх сацыяльны і юрыдычны статус да гэтага часу канчаткова не высветлены.

Абедзве катэгорыі хуньерас карысталіся чужой зямлёю і за гэта выконвалі пэўныя павіннасці, аброк і адработкі, якія іх не вельмі абцяжарвалі. Эканамічная свабода хуньерас дэ кабеса была абмежавана. Аператыўнае кіраванне іх гаспадаркамі было ў руках землеўладальніка, пакінуць гаспадара яны не маглі.

Хуньерас дэ эрэдад маглі купляць зямлю, прыўласніваць пустэчы, мелі большую аўтаномію ў гаспадарках. Маглі яны і пакінуць землеўладальніка, але пры гэтым пазбаўляліся паловы набытай за ўвесь час зямлі і рухомай маёмасці.

Ступені эканамічнай свабоды адпавядаў і юрыдычны статус сялян. Хуньерас дэ кабеса плацілі падушны падатак, хуньерас дэ эрэдад замест гэтага служылі ў войску.

Прамежкавымі слаямі паміж асабіста свабодным сялянствам і магнатамі былі вядомыя з X ст. кабальерас-вільянас (сяляне, якія на ўласны кошт набывалі баявога каня, рыштунак і зброю, выконвалі вайсковую службу і атрымлівалі за гэта пэўныя прывілегіі) і інфансоны, якія за вайсковую службу атрымлівалі ад караля надзел землі (прэстымоній). Жыццё першых пры гэтым абаранялася вергельдам у 300, другіх – у 500 солідаў.

Магнаты гаспадаркай амаль не цікавіліся. Іх больш вабіла вайсковая здабыча і плата за выкананне судовых і адміністрацыйных функцыяў. У выніку ў маёнтках адведзеная пад дамен частка была не вельмі значнай.

**Сістэма кіравання.** Палітычная сістэма Астура-Леонскага каралеўства характаразавалася сістэмай проціваг паміж каралём і магнатамі. Манарх не меў заканадаўчай улады, не меў рэзідэнцыі, не чаканіў манету (у абароце былі гоцкія і арабскія грошы), праз інстытут імунітэту ён перадаваў магнатам значныя паўнамоцтвы ў адміністрацыйнай, судовай і вайсковай сферах улады – спагнанне падаткаў, паліцэйскія функцыі, ніжэйшую юрысдыкцыю над свабодным і залежным насельніцтвам рэгіёна.

Але адначасова кароль меў права на санкцыі супраць магнатаў, аж да выгнання і канфіскацыі маёмасці. Акрамя таго, карона мела значную ступень фінансавай самастойнасці. Падмуркам апошняй былі прыбыткі ад каралеўскіх маёнткаў, падаткі, штрафы, частка вайсковай здабычы. Сродкам ціску на магнатаў у руках караля былі і заваяваныя землі, якія стваралі значны фонд для наступных падараванняў.

**Гегемонія Навары.** У пачатку XI ст. адбылося кароткатэрміновае ўзмацненне пазіцый каралеўства Навара. Кароль (паводле афіцыйнай тытулатуры – імператар) Санча III Вялікі (1000–1035) далучыў да сваёй краіны Арагон і Кастылію. Аднак згодна з архаічным парадкам перадачы кароны, пасля смерці Санча III дзяржава была падзелена паміж сынамі.

У выніку, у сярэдзіне XI ст. на Пірэнеях існавалі наступныя хрысціянскія дзяржавы:

- Леона-Кастыльскае каралеўства (кастыльская карона ўзнікла пасля смерці Санча III Вялікага, Леон быў заваяваны пры каралі Фернандзе I (1035– 1065), пасля яго смерці новая краіна была падзелена паміж сынамі, зноў аб’ядналася пры Альфонсе IV (1065–1109));
- каралеўства Навара;

- каралеўства (з 1035 г.) Арагон;
- графства Барселонскае (фармальны васал Францыі да 1259 г.).

**Леона-Кастыльскае каралеўства ў другой палове XI – XIII ст.** Акрамя аб'яднання з Леонам кастыльскі кароль Альфонс IV вядомы заваяваннем Таледа (самаго горада ў 1081 г., навакольных княстваў у 1085 г.). Менавіта сюды пры праўленні яго дачкі ўракі (1109–1126) была перанесена сталіца дзяржавы. Пасля разрыва Уракі са сваім другім мужам, каралём Арагона Альфонсам I, і аб‘яўлення свайго сына ад першага шлюбу Альфонса Галісійскім каралём пачаўся кастыльска-арагонскі канфлікт. Адносіны былі ўрэгуляваны пасля смерці ўракі. Альфонс Галісійскі атрымаў кастыльскую карону і стаў Альфонсам VII (1126–1157), з Арагоном быў падпісаны мір і заключана пагадненне пра сумесныя дзеянні супраць маўраў.

Аднак пасля смерці краіна зноў была падзелена на Леон і Кастылію паміж прынцамі Санча і Фернанда. У выніку аслаблення дзяржавы ўнук Альфонса VIII Альфонс IX (1158–1214) пацярпеў ад маўраў страшнае паражэнне ў бітве пры Аларкосе (1195), пасля чаго хрысціяне пакінулі ўсю Новую Кастылію за выключэннем горада Таледо. Утрымацца краіне ў гэты цяжкі перыяд дапамаглі рыцары духоўнаманаскія ордэны, створаныя па ўзору ордэна Тампліераў: Санцьяга Кампастэла (1175), Алькантара (1176). Аналагічны ордэн быў і ў Леоне – Калатрава (1175). У 1212 г. аб'яднаная армія хрысціянскіх каралеўстваў Пірэнейскага паўвострава ўзяла больш чым пераканаўчы рэванш, ушчэнт разграміўшы маўраў у бітве пры Лас-Навас-дэ-Талоса.

Канчатковае аб'яднанне стала магчымым пасля таго, як карону Кастыліі атрымаў Фернанда III Святы, сын караля Леона Альфонса IX. Пасля смерці бацькі ў 1230 г. Фернанда стаў каралём аб'яднанай краіны.

Пры новым манарху Кастылія пачала актыўнае будаўніцтва караблёў на верфях у Севіл‘і. Наогул Фернанда III амаль не цікавілі справы за межамі краіны. Так, на заклік караля Францыі Людовіка IX далучыцца да крыжовага паходу кароль Кастыліі адназначна заявіў: "На маей зямлі хапае маўраў".

У 1252 г. карона Кастыліі перайшла да сына Фернанда III, які і стаў новым каралём – Альфонс X Разумны (1252–1284). Яго больш цікавілі не мясцовыя, але агульнаеўрапейскія справы. У 1257 г. ён паспрабаваў атрымаць імператарскую карону (па лініі сваёй маці, якая паходзіла са швабскага герцагскага дома), але няўдала. Не стаў Альфонс X імператарам і пасля другой спробы – у 1273 г. Найбольш значным унутрыпалітычным крокам манарха стала завяршэнне работы камісіі юрыстаў (1256–1265), па выніках якой шматлікія мясцовыя законы былі зведзены ў адзіны комплекс – "Патрыды". Аднак, дадзены акт каралеўскай улады выклікаў вельмі вострую адмоўную рэакцыю магнатаў і гараджан, якія ў 1272 г. выступілі ў абарону ўласных правоў і свабод і дабіліся іх пацвярджэння.

У 1275 г. у барацьбе з маўрамі загінуў старэйшы сын караля. Пры гэтым

бліжэйшымі спадчыннікамі кароны станавіцца другі сын караля Санча і ўнук Альфонс. Пытанне абвастрылася ў сувязі з хваробай манарха. У 1282 г. асамблея, у склад якой уваходзілі магнаты, прэлаты і прадстаўнікі гарадоў, перадалі ўладныя паўнамоцтвы Санча, які пасля смерці бацькі стаў каралём – Санча IV Адважны (1284–1305). Прыхільнікі Альфонса перайшлі ў апазіцыю, але не рабілі ніякіх рашучых крокаў.

**Вылучэнне каралеўства Партугалія.** Дзеля ўмацавання заходняй мяжы Леона кароль Альфонс VI стварыў у 1095 г. графства з цэнтрам у Портас-Кале (сучасны г. Порту) і аддаў яго ў якасці лена свайму зяцю Генрыху Бургундскаму. Аж да смерці цесця (у 1109 г.) граф Генрых Партугальскі добрасумленна выконваў васальныя абавязкі, але потым рэзка адмовіўся вызнаць над сваім ленам сюзерэнітэт спадчынніцы кастыльскай кароны Ўракі і яе малога сына Альфонса VII. Пасля смерці Генрыха ў 1112 г. гэтую жа палітычную лінію працягвала яго ўдава Тэрэза, родная сястра Уракі, але барацьбу прайграла. Пасля смерці Ўракі ў 1126 г. Тэрэза зрабіла яшчэ адну спробу скасаваць васальную залежнасць Партугаліі ад Кастыліі, але яе армія была разбіта Альфонсам VII ў 1127 г. Тэрэза спыніла барацьбу.

Цяпер у абарону партугальскай дзяржаўнасці выступіў яе сын, Афонсу Энрыкеш. У 1128 г. ён разграміў армію сваёй маці і стаў графам Партугаліі (1128–1185). Тэрэза была выслана.

Новы граф дзеля таго, каб узмацніць свае пазіцыі пачаў шукаць шляхі да часовага кампрамісу са сваім магутным усходнім суседам. У выніку ў 1137 г. у Туе быў падпісаны мірны дагавор, згодна з якім Афонсу пацвердзіў сваю васальную залежнасць ад Кастыліі ў абмен на вызнанне непарушнасці партугала-кастыльскай мяжы. Мір на ўсходзе дазволіў партугальцам рушыць супраць маўраў (1139). Пасля перамогі над апошнімі Афонсу абвясціў сябе каралём і пачаў наступленне на Кастылію, дзе разграміў армію Альфонса VII. У 1143 г. паміж хрысціянскімі каралеўствамі быў падпісаны мірны дагавор у Саморы. Згодна з яго умовамі, Кастылія вызнала існаванне Партугаліі як асобнай дзяржавы і, de facto, каралеўскі тытул Афонсу Энрыкеша. Адначасова кароль Партугаліі вызнаў сябе васалам Альфонса VII. З улікам таго, што апошні ў 1135 г. прыняў тытул імператара, у дадзеным выпадку гаворку можна весці толькі пра павышэнне палітычнага статусу Партугаліі, але не пра атрыманне ёю сапраўднай незалежнасці.

Тым часам Афонсу Энрыкеш зноў звярнуўся да Рэканкісты. Ён вырашыў скарыстаць наступную нагоду. У 1147 г. каля партугальскіх берагоў з’явіўся караван судоў з англійскімі, нямецкімі, французскімі і фламандскімі рыцарамі, якія накіроўваліся ў Палесціну. Кароль запрапанаваў ім затрымацца і прыняць удзел у сумеснай аперацыі, што і было зроблена. У выніку аб’яднанае войска адваявала ад маўраў Лісабон. У канцы 50-х гадоў XII ст. мяжа процістаяння

партугальцаў і маўраў стабілізавалася на лініі горада Эвора.

Аднак асноўнай мэтай караля было міжнароднае прызнанне яго краіны як паўнапраўнага суб'екта міжнародных адносін. Афонсу Энрыкеш неаднаразова звяртаўся да папы рымскага з прапановай пра ленную прысягу. Папа даваў прынцыповую згоду, але яна не фіксавалася юрыдычна. Курыя ўпарта звярталася да Афонсу Энрыкеша па графскаму тытулу. Толькі ў 1179 г. была выдадзена була, якая ўручала яму Партугальскае каралеўства "з усёй паўнатой каралеўскіх ушанаванняў і годнасцю, якая належыць каралям". А таксама ўсе землі, якія ўжо заваяваны і будуць заваяваны ў наступным. Штогадовы ўзнос папскай курыі пры гэтым вырас з 4 унцый золата (120 г) да 2 марак (460 г). Кастылія заявіла папе пратэст, які не меў ніякіх наступстваў.

Завяршылася станаўленне Партугаліі як самастойнай дзяржавы падчас кіравання Афонсу III (1245–1279). Пры ім пачалі складацца картэсы, адбылося тэрытарыяльнае размежаванне з Кастыліяй, актыўна фарміруецца літаратурная партугальская мовы, сталіцай краіны становіцца Лісабон.  Пасля захопу ў 1250 г. Алгарве Партугалія завершыла свой удзел у Рэканкісце.

Часы кіравання наступнага караля – Дыніша Земляроба (1279–1325) па праву можна лічыць перыядам росквіту Партугаліі. У краіне адзначана эканамічная стабільнасць, заснавана 48 кірмашоў (з 95, якія тут існавалі за ўсё сярэдневякоўя), пабудавана больш за 90 замкаў, працягвалася дзяржаўная распрацоўка срэбных руднікоў і радовішчаў серы, засяленне пустуючых зямель. Кароль клапаціўся і пра будучыню краіны, якую ён звязваў з развіццём гандлю – былі арганізаваны касы марскога страхавання ( 1283), па яго загаду ў Лейры пасадзілі лясы, з якіх праз сто год партугальцы пачалі будаваць свае караблі.

**Арагон у другой палове XI–XIII ст.** Арагон быў завешчаны каралём Навары Санча Вялікім сваему сыну Раміра разам з каралеўскім тытулам. Тэрыторыя новага каралеўства некалькі павялічалася за кошт атрымання Раміра ў спадчыну ад брата Гансала графств Сабрарбэ і Рыбачорсы. Наступныя каралі Арагона – Санча Рамірэс (1063–1094), Педра I (1094–1104), Альфонс I (1104– 1134) – расшырылі свае ўладанні за кошт адваявання зямель у маўраў – Уэскі на захадзе, Сарагосы і Дарокі на поўдне.

Пераемнікам бяздзетнага Альфонса I арагонская знаць выбрала яго брата Раміра II (манаха, вызваленага дзеля такога выпадку ад сваіх зарокаў папам рымскім). Новы кароль ажаніўся з Інэс Аквітанскай. Дачка, якая нарадзілася ў гэтым шлюбе, Петраніла ў 1137 г. выйшла за графа Барселонскага Берэнгара IV, а Раміра II вярнуўся ў кляштар. Шлюб 1137 г. азначаў усталяванне асабістай уніі каралеўства Арагон і Каталоніі (так з XI ст. называлася графства Барселонскае).

Сын Беренгара IV і Петранілы Альфонс II (1162–1196), кароль Арагона (ён жа Альфонс I, граф-кароль Каталоніі) у 1167 г. атрымаў у спадчыну герцагства Правансальскае, а ў 1172 г. – Русільёнскае, у выніку чаго ён быў вымушаны

пачаць барацьбу з графам Тулузскім за панаванне на поўдні Францыі.

Карэктнае юрыдычнае афармленне арагонскай кароны адбылася ў 1204 г., пасля таго як сын Альфонса II Педра II (1196–1213) зрабіў падарожжа ў Рым, дзе быў каранаваны, паасвечаны ў рыцары і вызнаў сябе васалам папы рымскага. Ад васалітэту, аднак, Педра II адмовіўся. Больш таго, падчас альбігойскіх войнаў ён ваяваў супраць крыжакоў і загінуў у баі.

Найбольш значным манархам Арагона перыяда Высокага сярэдневякоўе быў Хаіме I Заваёўнік (1213–1275). Ім былі адваяваны астравы Маёрка (1229) і Менорка (1232), а таксама Валенсія (1233 – 1238), востраў Івіс (1235). У 1243 г. Арагон захапіў Мурсію, але перадаў яе Кастыліі.

Пасля заваявання Валенсіі аформілася ядро дзяржавы: два каралеўствы (Арагонскае і Валенсійскае) і прынцыпат Каталонія. Іх адзінства і непадзельнасць былі зафіксаваны ў спецыяльнай прысязе, складзенай картэсамі ў 1319 г. Яшчэ адным наступствам заваявання Валенсіі стала актывізацыя Арагона ў раёне Міжземнага мора.

Перад смерцю Хаіме I падзяліў сваю краіну паміж сынамі. Старэйшы, Педра III Вялікі (1276–1285), атрымаў Арагон, Каталонію і Валенсію, а малодшы, Іаков, Балеарскія астравы і землі на поўдні Францыі.

Найбольш значныя падзеі перыяду былі звязаны з імем Педра III Вялікага (1276–1285). Ён ажаніўся з дачкой сіцылійскага караля Манфрэда Гогенштаўфена Канстанцай, што дало яму ў наступным зачэпку для прэтэнзій на сіцылійскую карону. Атрымаў ён яе ў 1282 г. як кароль Пьетра I.

Што да ўласна арагонскіх спраў, то Педра III ў 1283 г. прыняў “Генеральны прывілей”, згодна з якім магнаты атрымалі вельмі значныя правы. Сярод іх наступныя з’яўляюцца прынцыпова важнымі: 1) неадчужальнасць ганораў (спадчынных зямельных трыманняў); 2) вызначанасць тэрміну вайсковай службы каралю; 3) калегіяльны разгляд спрэчак паміж каралём і магнатамі; 4) прызнанне за магнатамі права на адмову ад удзелу ў каралеўскіх паходах за мяжу краіны.

Новы арагонскі кароль Альфонс III (1285–1291) паспрабаваў скасаваць гэты дакумент, але магнаты паўсталі і атрымалі ў выніку яшчэ больш шырокія правы. “Прывілей уніі” (1287) вызнаў за імі права на абарону свабод са зброяй у руках.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё Кастыліі.** Першым вынікам Рэканкісты для Кастыліі стала змяненне дэмаграфічнага становішча. Значная колькасць жыхароў аль-Андалуза (мусульманскай часткі Пірэнеяў) перасялялася на поўнач. Шлях на поўдзень адпаведна быў адкрыты жыхарам Старой Кастыліі. Захопленая ў маўраў зямля дзялілася на тры часткі: 1) для кароны; 2) для магнатаў і царквы; 3) для кансеха (гарадскіх абшчын). Зямлю ўсе суб‘екты атрымлівалі на правах спадчыннай уласнасці.

Другім вынікам Рэканкісты стаў рост буйнога землеўладання не толькі за кошт захопленых у маўраў зямель, але і шляхам перадачы магнатам зямель

аладыстаў і інфансонаў. У гэтым плане вельмі паказальны выпадак з далінай Лагнеа. Кароль Альфонс VI перадаў яе епіскапу Ав‘еда і падкрэсліў у спецыяльнай грамаце, што ўсе іншыя ўладальнікі, якія жывуць на гэтай тэрыторыі, могуць заставацца толькі на правах трымальнікаў за адпаведныя павіннасці або мусяць пакінуць свае ўладанні і ісці прэч.

Вышэйшыя слаі Кастыліі складаліся з двух саслоўных груп. Першая група – свецкая знаць, якая мела адпаведную моц і шанаванне, была вызвалена ад падаткаў, падпарадкоўвалася выключна каралю і яго курыі. Знатнага чалавека ні ў якім разе нельга было катаваць. Маёратная маёмасць, якая была уведзена ў часы Альфонса Х, не падлягала ніякаму адчужэнню.

У дадзены перыяд сфармаваліся дзве ступені свецкай знаці:

- Рыкас омбрэс (магнаты), 20–30 буйных родаў, вядомых яшчэ з вестгоцкіх часоў. Яны ўдзельнічалі ў Рэканкісце ўласнымі атрадамі і самастойна адваявалі шэраг рэгіёнаў. Рыкас омбрэс мелі сотні ўласных васалаў (дон Гуцьера Фернандэс дэ Кастра, апякун Альфонса VIII, пасвяціў у рыцары 500 чалавек, у дона Нуньё Гансалеса дэ Лара ў 1273 г. была тысяча кабальерас і г. д.). Менавіта магнаты ўваходзілі да складу каралеўскай курыі;
- інфансоны, вядомыя з астурыйскіх часоў, і кабальера, якія з XII ст. выступалі як пэўная суполка з уласнымі абрадамі, традыцыямі, пасвячэннем у рыцары. Кабальера быў абавязаны прытрымлівацца асобага маральнага кодэкса, які прадугледжваў абарону касцёла, дзяржавы, старых, слабых, удоў, сірот. Пры пэўных умовах, напрыклад, калі не было матэрыяльнай магчымасці годна выконваць абавязкі рыцара, кабальера мог адмовіцца ад высакароднасці, але потым аднавіць яе. Прымусова пазбавіць кабальера высакароднасці маглі толькі ў выпадках злачынства, уцёкаў з поля бою, фелоніі. Акрамя таго, кабальера было забаронена выконваць работу за грошы. Да XIII ст. інфансоны і кабальера фактычна зліваюцца ў адзін слой. Цяпер і тыя і другія называюцца ідальга (fijo d’algo – сын значнага чалавека).

Магнаты, у адрозненне ад кабальера, не адсякаліся ад эканамічнага жыцця. Наадварот, па меры руху Рэканкісты на поўдзень іх эканамічная актыўнасць узрастала, ў першую чаргу ў авечкагадоўлі. Пачынаюць узнікаць саюзы авечкагадоўцаў (месты). У 1273 г. у Кастыліі быў створаны падкантрольны свецкім і духоўным магнатам агульнадзяржаўны Савет месты.

Унутры духоўнай знаці таксама было дзве ступені. Вышэйшы клір фактычна прыраўноўваўся да магнатаў і ўваходзіў у склад каралеўскай курыі. Ніжэйшы клір карыстаўся правамі кабальера. Усе клірыкі вызваляліся ад падаткаў і дзяржаўных павіннасцяў, былі пад выключнай царкоўнай юрысдыкцыяй.

Паступова фарміраваўся слой залежнага сялянства. Спачатку існавала некалькі катэгорый сялян (хуньерас, каласас), якія трымалі зямлю і выконвалі павіннасці на карысць землеўладальніка. З цягам часу адбылося зліццё ўсіх

катэгорый у адну – салар‘егас. Апошні тэрмін у кастыльскім праве азначаў пасяленца на зямлі іншай асобы. Асабісты статус салар‘егас быў дваісты. З аднаго боку, існавала асабістая залежнасць. Напрыклад, згодна з Старым фуэра Кастыліі (XIII ст.) “у кожнага салар‘егас сеньёр можа ўзяць яго жыццё і маёмасць”. З іншага боку, салар‘егас мог набываць новыя землі, мець серваў, звяртацца са скаргамі ў каралеўскі суд, служыць у арміі. Існавала абшчына салар‘егас, якая выконвала такія ж функцыі, як і свабодная сялянская абшчына – бегетрыя.

Бегетрыя афармляла залежнасць ад сеньёраў асабіста свабодных сялян, якія добраахвотна бралі на сябе абавязак плаціць аброк, працаваць на паншчыне, выконваць іншыя службы. Трэба падкрэсліць, што павіннасці не вельмі абцяжарвалі сялян: паншчына складала 15–24 дзён у год. У сваю чаргу сеньёр павінен быў абараняць сялян. Пры гэтым, згодна з законам, бегетрыя магла мяняць паноў да “сямі разоў у дзень”.

Гарады выступалі як цэнтры каланізацыі і апорныя пункты Рэканкісты. Яны маглі быць кароннымі ці сеньярыяльнымі. Правы іх фіксавалі спецыяльныя дакументы – фуэрас. Асноўныя пасады ў гарадах занімалі кабальера. Менавіта яны прадстаўлялі кансеха ў органах саслоўнага прадстаўніцтва. Галоўнай галіной гарадской эканомікі была сельскагаспадарчая вытворчасць (авечкагадоўля, вырошчванне збожжавых культур, вінаградарства), развіваліся рамяство і дробны гандаль.

Для абароны сваіх інтарэсаў гарады стваралі саюзы – эрмандады. Першы такі саюз быў створаны ў 1282 г. гарадамі Кастыліі, Леона і Галісіі, выступіўшымі супраць Альфонса X на баку Санча. Пры гэтым яны патрабавалі прадастаўлення ім права на паўстанне ў выпадку нарушэння фуэрас і права на пакаранне каралеўскіх судзей і чыноўнікаў (аж да пакарання смерцю). У 1295–1296 гг. узніклі новыя эрмандады, а ў 1298 г. ствараецца іх саюз з уласнай адміністрацыяй, судом, ваеннымі атрадамі.

**Сістэма кіравання.** Пастаянныя шматгадовыя войны вымушалі каралёў імкнуцца да ўнутраннага грамадзянскага міру. У выніку ў 1188 г. кароль Альфонс IX склікаў у Леоне на нараду епіскапаў, магнатаў, выбарных прадстаўнікоў гарадоў. Тут ён прысягнуў, што не будзе абвяшчаць вайну і падпісваць мір без згоды на то епіскапаў, знаці і “добрых людзей”. У сваю чаргу епіскапы, магнаты і гараджане прысягнулі на вернасць манарху. Гэты сход традыцыйна лічыцца першымі кастыльскімі картэсамі.

Якасны склад дэпутатаў картэсаў пакуль не быў вызначаны. Так, на пасяджэннях шэрагу картэсаў не было гараджан (Тора ў 1207 г., Вальядалід у 1215 г.) ці не было знаці і святароў (Вальядалід у 1295 і 1299 гг.).

Картэсы склікаліся каралём, ці асобай, якая яго замяшчала, ці па ўласнай ініцыятыве (вельмі рэдка). Адбываліся пасяджэнні там, дзе ў гэты момант была рэзідэнцыя манарха. Пачынаў іх кароль, ён жа вызначаў парадак дня і раіўся з

картэсамі па асобных пунктах. Адказ манарху давала кожнае саслоўе асобна. Акрамя таго, саслоўі маглі перадаваць каралю петыцыі.

Паступова акрэслілася кола пытанняў, якія былі ў кампетэнцыі картэсаў: спагнанне падаткаў, абмеркаванне законаў, наданне фуэрас, пытанні вайны і міру. Фактычна да картэсаў пераходзілі функцыі каралеўскай курыі. Апошняя ў сваю чаргу ператваралася ў вышэйшы суд.

Мясцовае кіраванне засяроджвалася ў тэрытарыяльных акругах: спачатку ў графствах, потым у мерыдадах.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё Арагона.** Вышэйшыя слаі арагонскага грамадства значна адрозніваліся ад кастыльскіх. Прынамсі група рыкас омбрэс была больш разнастайнай.Тут адрознівалі шляхі набыцця тытулаў і зямельных уладанняў: па прыродзе, па каралеўскай грамаце, па праву вайны; тытулатура набліжалася да заходнееўрапейскай. У агульным плане сярод арагонскай знаці можна вылучыць вышэйшы слой магнатаў (віконты і каміты), сярэдні (вальвасары) і ніжэйшы (рыцары) слаі.

Сялянства складалася з залежных трымальнікаў зямлі. Гэта былі трымальнікі манса, якія маглі выступаць у судзе ў якасці прысяжных па маёмасных справах на суму 7 солідаў, бакалары, якія мелі права быць прысяжнымі ў маёмасных справах на суму 2 соліда, і арэндатары (баюлы), якія не маглі быць прысяжнымі. Яшчэ адну групу сялянства складалі рэменсы, якія ў XIII ст. былі замацаваны за зямельным надзелам. Але іх было не больш чвэрці ад агульнай сялянскай масы.

Становішча арагонскага сялянства было вельмі цяжкім. Ужо з XI ст. шмат якія з іх выконвалі так званыя “дурныя звычаі”: інтэстыю – права сеньёра на маёмасць селяніна, які памёр без запавету; экзоркію – права сеньёра на маёмасць трымальніка, у якога не было прамога спадчынніка; кугусію – права сеньёра на частку маёмасці селяніна, жонка якога зрабіла пралюбадзейства; арсіну – права сеньёра на маёмасць селяніна, у сядзібе якога па яго віне здарыўся пажар.

Гарады Арагона былі бліжэй да заходнееўрапейскай мадэлі развіцця ў параўнанні з кастыльскімі. Яны выступалі не ў ролі апорных пунктаў Рэканкісты, а ў якасці гандлёва-рамесных цэнтраў. Асноўныя галіны гарадской эканомікі – металаапрацоўка на сыравіннай базе горнай Каталоніі, вінаробства, кабатажны гандаль. Часта наведвалі арагонскія гарады купцы з далёкіх рэгіёнаў Міжземнага мора – Генуі, Пізы, Магрыба, Леванта.

У аснове сістэмы гарадскога самакіравання была штогадовая народная асамблея, якая выбірала пэўную колькасць пастаянных дарадчыкаў (5–6 нобляў). У канцы XIII ст. статус гарадоў павысіўся, яны атрымалі прадстаўніцтва ў картэсах, гараджане былі пазбаўлены дурных звычаяў.

**Сістэма кіравання.** Сумесныя сходы святарства і дваранства вядомыя ў Арагоне з 1071 г., прадстаўнікі гарадоў з’явіліся тут, на думку адных гісторыкаў у 1163 г., на думку іншых – у 1274 г. Канчаткова сфарміраваныя картэсы складаліся

з чатырох штатаў: святарства, магнаты, рыцары, гараджане.

Значнае і рэзкае узмацненне ролі і ўплыву картэсаў адбыліся падчас магнацкага паўстання 1283 г. Падпісаная тут “Генеральная прывілегія” больш дакладна вызначыла іх палітыка-прававы статус і паўнамоцтвы. Генеральныя картэсы Арагона склікаліся ў Сарагосе штогод, у іх кампетэнцыю ўваходзілі пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі, эканамічнага жыцця. У перыяд паміж картэсамі гэтыя пытанні перадаваліся на разгляд “дэпутацыі каралеўства” з васьмі чалавек (па два ад саслоўя).

Пасля магнацкага паўстання ўзмацніўся ўплыў і вялікага суддзі Арагона (justicia mayor), які першапачаткова назначаўся каралём для разгляду скаргаў. Цяпер суддзя імкнуўся падпарадкаваць свайму ўплыву і караля.

У пачатку 1283 г. была прынята канстытуцыя каталонскіх картэсаў. Але гэта адбылося без барацьбы. Паўнамоцтвы картэсаў Каталоніі былі больш абмежаваныя ў параўнанні з Арагонам. Граф-кароль мог склікаць картэсы ў зручны для сябе час і ў зручным месцы, мог пераносіць пасяджэнні. З 1283 г. вядомы таксама і картэсы Валенсіі.

**Сацыяльна-экамічнае развіццё і сістэма кіравання Партугаліі.** Падчас засялення адваяваных у маўраў зямель у Партугаліі ўзніклі самакіруемыя тэрытарыяльныя сялянскія абшчыны (кансельюш). Яны карысталіся пэўнай падтрымкай з боку каралеўскай улады, якая мела ў іх патрэбу ва ўмовах Рэканкісты. У плане царкоўным прадстаўніком кансельюш быў святар, у свецкім – выбарны суддзя. Унутранае жыццё абшчыны рэгулявалася фаралам 1203 г. караля Санту I Каланізатара (1185–1211). Гэты дакумент рэгуляваў вайсковую арганізацыю кансельюш і вызваляў яе сялян ад асабістай залежнасці (захоўваў юрыдычную моц аж да 1503 г.).

Пазямельна залежныя партугальскія сяляне жылі дастаткова прыстойна. Справа ў тым, што зямлі, у прынцыпе, хапала, таму магнаты, каб забяспечыць свае маёнткі працоўнымі рукамі, бралі з сялян невялікую арэндную плату, прычым ставілі яе ў залежнасць ад ураджайнасці надзелу, давалі сялянам пазыкі ў выглядзе інвентару і насення. Несвабодную частку вясковага насельніцтва рэпрэзэнтавалі калоны і рабы, у асноўным з ліку мусульман.

Праблемы ў аграрным сектары партугальскай эканомікі пачалі ўзнікаць толькі ў канцы XIII ст., што было вынікам росту насельніцтва пры нізкіх ураджаях.

Вышэйшыя слаі грамадства  складалі рыкас омбрэс, інфансоны і кабальера. Гэта былі землеўладальнікі, якія мелі фінансавы і часткова судовы імунітэт. Ніжэй за іх стаялі землеўладальнікі невысакароднага паходжання кабальерас-віланас, якія выконвалі вайсковую службу.

Картэсы Партугаліі пачалі склікацца ў XIII ст. У 1254 г. у асобную палату вылучыліся гарады, з 1261 г. пад кантроль картэсаў перайшло спагнанне падаткаў.

## § 17. Скандынавія

**Краіны Скандынавіі ў X ст.** У X ст. набегі вікінгаў на Заходнюю Еўропу спыніліся. Гэта было звязана з тым, што, па-першае, у шэрагу рэгіёнаў па вікінгах былі нанесены вельмі адчувальныя ўдары, па-другое, у самой Скандынавіі актывізаваўся працэс утварэння дзяржаў.

Аб‘яднанне Даніі завяршылася падчас кіравання Горма Старога (пам. каля 940) і яго сына Харальда Сінязубага (940–987). Пасля хрышчэння Харальда ў 960 г. пачалася хрысціянізацыя краіны і яе далучэнне да асноўнага варыянта заходнееўрапейскай цывілізацыі. З імем Харальда таксама звязваецца будаванне круглых умацаванняў Тралеборг, Нонэбакен, Фіркат, Агесборг (каля 980 г.).

Сын нарвежскага караля Харальда Прыгожавалосага, які ў канцы IX ст. аб‘ядняў краіну, Эйрык I Крывавая Сякера (мянушка была звязана з тым, што ён забіў сем са сваіх васьмі братоў) не здолеў утрымацца на прастоле і збег у Данію. Новым каралём стаў Хакон I Добры (933–960), які выхоўваўся пры двары англасаксонскага караля Этэльстана і таму быў хрысціянінам. Яго спробы пашырыць гэтае веравызнанне на бацькаўшчыне не былі паспяховымі. Каля 960 г. Хакон I Добры загінуў у барацьбе з атрадамі сына Эйрыка I Крывавая Сякера Харальдам Шэрым Плашчом, які атрымаў уладу над Нарвегіей і пачаў кіраваць тут як сапраўдны заваёўнік. Адначасова новы кароль, хоць і атрымаў карону пры дапамозе Даніі, не вельмі жадаў вызнаваць супрэматыю апошняй, што прывяло да дацка-нарвежскай вайны падчас якой ён загінуў (970 г.). Нарвегія на 25 год перайшла пад дацкі кантроль. Аднак у 995 г. пасля народнага паўстання яе карону атрымаў прадстаўнік рода Харальда Прыгожавалосага Олаф I Трыгвасон (995–1000). Менавіта ў гады яго кіравання пачалася актыўная хрысціянізацыя краіны.

На тэрыторыі сучаснай Швецыі працягвалася барацьба Свеаланда і Готаланда, якая закончылася каля 1000 г. аб‘яднаннем краіны Улафам Скетканунгам. Прыблізна ў гэты ж час у Швецыі з‘явіліся першыя апорныя базы каталіцкіх місіянераў.

**Гегемонія Даніі ў першай палове XI ст.** Пачатак барацьбы Даніі за панаванне ў суб‘рэгіёне звязана з імям караля Свена Вілабародага (987–1014). Спачатку ён разам з Улафам Скетканунгам выступіў супраць нарвежцаў. У марской бітве пры Сволдзе (гэта месца на Балтыцы, але яго лакалізацыя канчаткова не высветлена) каля 1000 г. саюзная армія перамагла. Нарвежскія землі былі падзелены паміж Даніяй і Швецыяй. Наступнымі этапамі дацкай экспансіі сталі рабаўніцкія набегі на Брытанію і захоп Лондана.

Лінію Свена Вілабародага працягваў яго сын Канут Вялікі, які ў 1016 г. атрымаў англійскую карону, у 1018 г. пасля смерці свайго брата Харальда II – дацкую, у 1028 г. – нарвежскую. Аднак пасля смерці Канута Вялікага ў 1035 г. яго

велізарная краіна распалася: дацкую карону атрымаў малодшы сын Хардэканут, англійскую – старэйшы сын Гаральд, Нарвегія аднавіла сваю незалежнасць.

Пасля смерці Гаральда ў 1040 г. Англія перайшла пад уладу Хардэканута, але пасля смерці апошняга ў 1042 г. аднавіла сваю незалежнасць. Тым часам дацкая карона перайшла да нарвежскага караля Магнуса I (1035–1047). У 1047 г. дацкія магнаты абвясцілі сваім каралём пляменніка Канута Вялікага Свена II Эстрыдсана (1047–1074), паўнамоцтвы якога пасля працяглай барацьбы былі вызнаны Нарвегіяй (1064).

Карона Даніі да 1134 г. мела "гарызантальны" характар спадчыннасці – яе ўладальнікам па чарзе станавіўся кожны з пяці сыноў Свена II Эстрыдсана. Гэты перыяд адзначаўся нестабільным унутранным становішчам, якое ўрэшце рэшт вылілася ў грамадзянскую вайну, пачаткам якой стала забойства сынам караля Нільса (1104–1134) Магнусам Моцным свайго стрыечнага брата Канута Лаварда ў 1131 г. Падчас вайны загінуў і сам Магнус, і яго бацька.

Стабілізацыя становішча пачынаецца толькі ў другой палове XI ст., пасля пераходу кароны да Вальдэмара I Вялікага (1157–1182), які адкрыў найбольш яскравую і славутую старонку ў гісторыі сярэдневяковай Даніі, пярыяд, вядомы пад назвай "эпоха Вальдэмараў" – час кіравання самога Вальдэмара I Вялікага і яго сыноў: Канута VI (1182–1202) і Вальдэмара II Пераможцы (1202–1241).

Першай значнай праблемай, якую трэба было рашаць неадкладна, сталі набегі вендскіх піратаў, у выніку якіх усходняе ўзбярэжжа Даніі было амаль не заселена, што перашкаджала развіццю рэгіёна. Цікава, што ў гэтым выпадку венды адносна датчан адыгрывалі такую ж ролю, што і самі датчане ў IX ст. адносна іншых народаў Заходняй Еўропы, якія пакутавалі ад іх набегаў. У 1169 г. Вальдэмар I арганізаваў экспедыцыю на востраў Руген, дзе знаходзілася сталіца вендскай дзяржавы. Піраты былі разгромлены ўшчэнт.

Вялікае значэнне для Даніі мелі яе неадназначныя адносіны з бліжэйшай суседкай на кантыненце – Германіяй. Спачатку Вальдэмар I пагадзіўся на вызнанне супрэматыі імператара Фрыдрыха Барбаросы, што выклікала незадавальненне бліжэйшага радцы караля епіскапа Абсалона. Пад уплывам апошняга пачынаецца змена дацкага курсу, вынікам чаго стаў выхад краіны на роўны дыялог, які прывёў да заключэння дынастычнага шлюбу паміж сынам Фрыдрыха Барбаросы і дачкой Вальдэмара I (1182).

Не менш паспяховай была знешняя палітыка і наступнага караля Даніі – Канута VI. У 1184 г. у марской бітве пры Стральзундзе быў ушчэнт разгромлены памеранскі флот (патоплена 465 караблёў з 500). На наступны год Багіслаў Памеранскі прысягнуў Кануту VI, які дабавіў да свайго тытулу словы Slavorumque rex.

Пашырэнне дацкага ўплыву на памеранскія землі выклікала рэзка адмоўную рэакцыю з боку Германіі. У 1197 г. пачалася дацка-германская вайна, дзе

разгарнуўся вайсковы талент брата караля Канута VI герцага Шлезвігскага Вальдэмара. Менавіта ён у 1201 г. захапіў шэраг германскіх зямель, у тым ліку і Галштэйн з горадам Гамбург. Дацкая супрэматыя была вызнана Шверыным.

Значную ўвагу Канут VI звяртаў і на стабілізацыю ўнутранага становішча ў краіне. Ён удасканаліў сістэму кіравання, заснаваў каралеўскую канцылярыю, пасады канцлера і казначэя. У руках караля была сканцэнтравана ўся заканадаўчая ўлада. Аднак, пры гэтым захоўвалася пэўная бачнасць традыцыйнай дэмакратыі – новыя законы трэба было прадстаўляць народнаму сходу.

Урэгуляванне дацка-германскіх адносін адбылося пры наступным каралі – Вальдэмары II Пераможцу. У адказ на яго вызнанне імператарскага тытулу Атона IV, апошні не стаў змагацца за вяртанне заваяваных датчанамі прыэльбскіх германскіх тэрыторый. Акрамя таго, пад сеньорыяльную залежнасць ад Даніі патрапілі епіскапствы Любек, Ратзебург, Шверын.

Стабілізацыя мяжы з Германіяй дазволіла Вальдэмару II Пераможцу актывізаваць балтыйскі кірунак знешняй экспансіі. У пэўным сэнсе гэта быў і вымушана крок. Папа рымскі Інакенцій III у абмен на вызнанне тэрытарыяльных набыткаў Даніі ў Германіі запатрабаваў праведзення крыжовага паходу супраць эстаў. У 1219 г. датчане захопілі паўночную Эстонію з горадам Рэвелем.

Перыяд актыўнай дацкай экспансіі быў не вельмі доўгім. У канцы 20-х гадоў XIII ст. у барацьбу за балтыйскія землі ўступае Германія. Пасля паражэння дацкай арміі пад Борнхоўдам (1227) карона згубіла ўсе захопленыя раней германскія землі і частку эстонскіх. Тым не менш пасля пагаднення ў Стэнсбі (1238) большая частка Эстоніі заставалася пад дацкім кантролем.

Спыненне экспансіі, у сваю чаргу, актуалізавала ўнутранную палітыку Вальдэмара II Пераможцы. У 1241 г. ім была праведзена першая кадыфікацыя дацкага права – з‘явілася “Ютландская праўда”.

Стабілізацыя Даніі ў эпоху Вальдэмараў была, аднак, нетрывалай. Пасля смерці Вальдэмара II Пераможцы пачалася міжусобная барацьба паміж яго сынамі: Эрыкам, Абелем, Крыстоферам.

Спачатку каралём стаў Эрык IV Плужны Грош (1241–1250). Мянушку сваю манарх атрымаў у сувязі са спагнаннем грошай на паход у Эстонію з кожнага плуга. Падчас падрыхтоўкі экспедыцыі кароль быў забіты сваім братам Абелем, які і быў выбраны знаццю новым каралём (1250–1252). Уведзеныя ім надзвычайныя падаткі выклікалі паўстанне фрызаў, падчас барацьбы з якімі кароль загінуў. Прастол перайшоў да Крыстофера I (1252–1259), сыну Абеля, Эрыку, быў перададзены Шлезвіг.

У хуткім часе Крыстофер I уступіў у канфлікт з магутнай каталіцкай царквой. Зачэпкай стала пасвячэнне дацкага святара Якаба Эрландскага ў сан Лундскага архіепіскапа без санкцыі караля. Адказ свецкай улады быў вельмі хуткім і жорсткім – новы прэлат патрапіў за краты, каталіцкая царква на дацкай

тэрыторыі была пазбаўлена свецкай абароны. У абарону царквы выступіў не толькі папа рымскі (быў абвешчаны інтэрдыкт), але і сын Абеля Эрык Шлезвігскі, Ярамір Ругенскі і граф Галштынскі.

Падчас вайны кароль Крыстофер I загінуў, карона перайшла да яго сына Эрыка V Гліпінга (1259–1286). Але яго армія ў 1261 г. была разгромлена і Эрык V разам з каралевай-маці Маргарытай патрапіў у палон да галштынцаў. У выніку наступныя падзеі разгортваліся пад дыктоўку магнатаў і іх лідэра Эрыка Шлезвігскага. Толькі пасля смерці апошняга ў 1272 г. кароль пачынае ставіць сітуацыю пад свой кантроль. У прыватнасці, у 1276 г. ён дабіўся вызнання свайго сына Эрыка спадчыннікам кароны. Магнаты ў адказ вымусілі караля ў 1282 г. даць ім вельмі значныя прывілеі: арэшт толькі пасля суду, дабраахвотнае выгнанне як вызваленне ад пакарання за злачынства, штогадовае скліканне нарад магнатаў (Dannehof – дацкі дом). У 1286 г. кароль быў забіты, магчыма па нейкіх асабістых матывах – помста за жонку.

Новым каралём стаў Эрык VI Менвед (1286–1319). Адразу было праведзена следства пра забойства яго бацькі. У 1287 г. абвінавачванне, магчыма, і несправядлівае, ў гэтым злачынстве было прад‘яўлена некаторым буйным магнатам, якія абвяшчаліся па-за законам і таму збеглі ў Нарвегію, дзе і пачалі збройную барацьбу супраць свайго караля. У хуткім часе да іх далучыўся герцаг Вальдэмар Шлезвігскі і святар Ёнс Гранд, які заняў Лундскую архіепіскапскую кафедру. Атрады мяцежнікаў пастаянна атакавалі дацкую тэрыторыю.

Кароль перамог у барацьбе. У 1295 г. было заключана пагадненне з Нарвегіяй, акая адмовіла ў падтрымцы мяцежнікам, герцаг Вальдэмар быў разгромлены, Гранд патрапіў за краты. Апошні крок караля выклікаў папскі інтэрдыкт (1297). Канфлікт быў вычарпаны ў пачатку XIV ст. вызнаннем Даніяй булы Unam sanctum (1303) і пагадненнем з імператарам Альбрэхтам (1304).

**Нарвегія ў другой палове XI–XIII ст.** Пасля распаду дзяржавы Канута Вялікага каралём Нарвегіі стаў Магнус I (1035–1047), які ў 1042 г. атрымаў таксама дацкую карону. Пасля смерці Магнуса I Данія пачала барацьбу за незалежнасць, якая закончылася ў 1064 г. узаемным прызнаннем права на самастойнае існаванне.

Падчас праўлення Олафа III Спакойнага (1066–1093 гг., да 1069 г. – разам з братам Магнусам II) праходзіла вельмі актыўная хрысціянізацыя краіны. Аформілася царкоўная структура, якая ўключала ў сябе чатыры епіскапствы. Спачатку кананічнае падпарадкаванне замыкалася на германскім Гамбургу, з 1103 г. – на дацкім Лундзе, з 1152 г. – на нарвежскім Нідаросе.

Наступны кароль Нарвегіі Магнус III Галаногі (1093–1103) праводзіў вельмі актыўную экспансіянісцкую палітыку. Пры ім былі праведзены тры экспедыцыі, якія паставілі пад нарвежскі кантроль Аркнейскія і Гебрыдскія астравы, а таксама востраў Мэн. Наогул, каралю вельмі падабалася кельцкая культура. Прынамсі,

сваю мянушку ён атрымаў за прыхільнасць да шатландскага кільта.

Сыны Магнуса III Галаногага, якія кіравалі разам, Олаф IV (1103–1115), Эйстан (1103–1122) і Сігурд I Крыжак (1103–1130), шмат увагі звярталі ў асноўным на касцёльныя справы. У краіне была ўведзена дзесяціна.

У другой палове XII ст. унутрыпалітычнае становішча ў Нарвегіі рэзка абвастрылася ў выніку буйнога сялянскага паўстання (1174). Паўстанцаў, вядомых пад пагардлівай мянушкай "біркебейнеры" (бярозаваногія) у хуткім часе разагналі і яны пахаваліся па лясах. Ужо праз тры гады баявыя дзеянні аднавіліся і паступова перараслі ў грамадзянскую вайну. На чале сялян стаяў былы клірык з Фарэрскіх астравоў Сверыр Сігурдсан, які паверыў сваёй маці, што яго сапраўдны бацька кароль Сігурд II. У 1184 г. паўстанцы ўшчэнт разграмілі каралеўскае войска і іх правадыр стаў Сверыр каралём (1184–1202). Прыхільнікі былога караля на чале з эрлам Элінгам – баглеры (ад лат. bagall – посах епіскапа) замацаваліся ў Эстландзе (паўночнай часцы сучаснай Эстонскай дзяржавы).

Новы кароль імкнуўся абапірацца на людзей таленавітых, хоць і не вельмі знатных. Яго паплечнікі атрымалі землі, маёмасць і пасады былых арыстакратаў і сталі моцным падмуркам новага рэжыму. Больш таго, пагардлівая мянушка "біркебейнеры" паступова набывае цалкам станоўчы змест і пачынае вызначаць вайскова-служылае саслоўе. Цяпер менавіта яны складаюць аснову прафесійнай каралеўскай арміі.

Процістаянне "біркебейнераў" і баглераў закончылася пры ўнуку Сверыра Хаконе IV Старым (1217–1263), з якім гісторыкі звязваюць росквіт сярэдневяковай Нарвегіі.

У краіне была створана каралеўская канцэлярыя, часцей пачаў склікацца савет каралеўства (рыксмот), у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі каралеўскай адміністрацыі (цэнтральнай і мясцовай), клірыкі, "лепшыя" (заможныя) бонды, па 12 чалавек ад дыяцэза. Адначасова склікаўся і выключна магнацкі савет. Значная роля належала і каралеўскаму савету (кунсрату). У 1247 г. царква атрымала ад каралеўскай улады пацвярджэнне сваіх прывілей і таму дала згоду на з'яўленне ў нарвежскай палітычнай практыцы прынцыпа перадачы кароны ў спадчыну. Канчаткова ён быў замацаваны ў законадаўстве ў 1260 г.

Лагічным завяршэннем працэсу цэнтралізацыі дзяржаўнага кіравання стала замена мясцовых законаў агульнанарвежскім законадаўствам "Ландслоў", праведзеная пры каралі Магнусе VI Выправіцеле Законаў (1263–1280). Гэта было першае агульнадзяржаўнае законадаўства ў Скандынавіі.

60-я гады XIII ст. адзначаны пэўнымі тэрытарыяльнымі набыткамі Нарвегіі. У 1262 г. ісландскі альцінг падпісаў з Хаконам IV васальны дагавор, згодна з якім Ісландыя вызнавала нарвежскую супрэматыю і пагаджалася плаціць штогадовы падатак пры ўмове, што Нарвегія захавае традыцыйныя структуры на востраве і гарантуе неабходныя аб'ёмы збожжавых паставак. Годам раней Нарвегія

падпісала дагавор з Грынландыяй. У XIII ст. таксама пачалася нарвежская каланізацыя Фінляндыі і Кольскага паўвострава.

Апошнія 20 гадоў XIII ст., перыяд праўлення Эрыка II (1280–1299), прайшлі пад знакам умацавання ўнутрыпалітычных пазіцый магнатаў і пастаянных канфліктаў з Даніяй і Ганзай.

**Швецыя ў другой палове XI–XIII ст.** Другая палова XI ст. у швецкай гісторыі звязана з поспехамі каталіцкіх місіянераў. У 60-я гады ў хрысціянства перайшоў кароль Стэнкіль. Пры яго сынах, каралях-братах Інге і Хальстане, быў разбураны славуты Упсальскі храм і забаронены паганскія святкаванні. Швецкія дыяцэзы (у 1120 г. – 6) спачатку знаходзіліся пад кананічнай юрысдыкцыяй Гамбурга, потым Лунда, нарэшце Упсалы, дзе ў 1164 г. было заснавана архіепіскапства. У плане палітыка-адміністрацыйным швецкае каралеўства ўяўляла сабой не адзіную краіну, а федэрацыю асобных тэрыторый, аб‘яднаных вызнаннем супрэматыі Упланда, дзе на цінгу выбіраўся кароль.

XII ст. у Швецыі вызначалася рэдкай палітычнай нестабільнасцю, калі ў краіне, пачынаючы з 1156 г., былі забіты тры каралі запар: Сверкер Стары (1130–1156) з Свеаланда, Эрык IX Святы (1156–1160) з Гаталанда, Карл VII (1160–1167), сын Сверкера Старога. Часовая стабілізацыя адзначалася толькі пры сыне апошняга караля, Кнуце (1167–1196), які заснаваў крэпасць на месцы сучаснага Стакгольма. Але пасля яго смерці зноў пачалася міжусобная барацьба, якая цягнулася аж да сярэдзіны XIII ст.

Швецыя выйшла на устойлівы шлях развіцця пасля смерці караля Эрыка XI Эрыксана (1222–1250). Прамых спадчыннікаў у яго не было, таму карона перайшла да бакавой лініі дынастыі – пляменніка караля Вальдэмара I (1250–1275). Аднак рэальная ўлада сканцэнтравалася ў руках бацькі новага манарха, Біргера, жанатага на сястры Эрыка XI. Яшчэ два сыны Біргера, Магнус і Эрыксан, сталі герцагамі.

Падчас рэгенства Біргера (памёр у 1266 г.) і кіравання яго другога сына Магнуса Амбарнага Замка (1275–1290) у Швецыі былі праведзены пераўтварэнні, накіраваныя на цэнтралізацыю краіны. З‘явілася агульнашведскае заканадаўства ("Ландслаг караля Магнуса Эрыксана"), паступова афармляўся цэнтральны апарат, рэпрэзентаваны пасадамі канцлера, казначэя, суддзі. Пры каралі існаваў савет знаці (хэрэдаг), у склад якога уваходзілі магнаты і вышэйшы клір. У 1252 г. Стакгольм набывае статус горада.

Знешняя экспансія Швецыі была накіравана на ўсход, галоўным чынам на фінскія землі. Сюды з 1157 г. яны арганізавалі серыю крыжовых паходаў, пасля чаго здолелі да сярэдзіны XIII ст. умацавацца ў паўднёвай частцы Фінляндыі, адкуль пачалі наступленне на яе цэнтральныя вобласці (1249–1250), а пазней – у Заходнюю Карэлію (1291–1300).

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё Скандынавіі.** Пасля таго як спынілася

экспансія вікінгаў галоўнай крыніцай прыбыткаў племяной знаці сталі не заморскія экспедыцыі, а сельская гаспадарка, што абумовіла пачатак унутранай каланізацыі. У раёнах, больш прыдатных да земляробства (большая частка Даніі, паўднёва-ўсходняя частка Нарвегіі, сярэдняя Швецыя), хутка расло буйное землеўладанне, галоўным чынам каралеўскае і царкоўнае. У жывёлагадоўчых раёнах кароль рэалізоўваў сваю эканамічную ўладу праз падатковую сістэму.

Дастаткова хуткімі тэмпамі развівалася і гарадская эканоміка. Новыя гарады пачынаюць узнікаць у Скандынавіі ўжо на мяжы X–XI ст.: Роскіле і Лунд у Даніі, Цёнсбарг і Нідарос (сучасны Тронхейм) у Нарвегіі, Сігтуна і Скара ў Швецыі. З сярэдзіны XII ст. іх колькасць узрастае, асабліва ў Даніі і Швецыі.

Сялянства па сваім статусе было неаднародным. Яго ніжэйшы слой складалі хусмэны, былыя патрыярхальныя рабы, пасажаныя на зямлю, ці бадзягі, якія атрымалі ў пана надзел зямлі ў карыстанне. Сярэдні слой складалі сяляне, трымальнікі зямлі: ландбу (Швецыя), ландбу, а пазней фестэры (Данія), лейлендзінгі (Нарвегія). Гэтыя катэгорыі сялянства не залежалі ад землеўладальніка, ні пазямельна, ні асабіста (толькі ў Даніі падпадалі пад яго юрысдыкцыю), мелі амаль поўны набор грамадзянскіх правоў, выконвалі дзяржаўныя павіннасці, праўда ў меншым аб‘ёме, чым вышэйшы слой сялянства. Умовы трымання, дакладней кажучы, арэнды, вызначаліся не воляй землеўладальніка, а традыцыяй.

Вышэйшы слой сялянства складалі бонды, якія ў Даніі і Нарвегіі мелі значную частку, а ў Швецыі і большую частку зямель. Адаль бонда абараняўся законадаўствам, якое давала сваякам перавагу пры набыцці безнадзорнага ці вымарачанага адаля і абмяжоўвала перадачу зямлі касцёлу.

Асабіста свабодныя сяляне павінны былі мець дома адпаведнуую зброю для пешага бою і ўдзельнічаць у апалчэнні. Падыходы да арганізацыі войска паступова змяняюцца. Пры захаванні сялянскага апалчэння на першы план паступова выходзіць рыцарская конніца. Пры гэтым воінская павіннасць бондаў замянялася натуральнымі і грашовымі плацяжамі, а рыцары атрымлівалі падатковыя прывілеі. Дацкія херэсманы атрымалі іх у 1241 г., шведскія фрэльсе – у 1280 г. Становішча адносна нешматлікага нарвежскага рыцарства было менш прывабным. Асобныя яго прадстаўнікі атрымлівалі прывілеі ў індывідуальным парадку, як праяўленне каралеўскай літасці. У той жа час, бонд, які меў дастаткова грошай, каб набыць баявога каня і зброю, мог перайсці ў рыцарскае саслоўе.

У другой палове XIII ст. на структуру рыцарскага саслоўя ўсё больш уплываюць заходнееўрапейскія традыцыі. Усе рыцары вызначаюцца тэрмінам “пан” (dominus), былыя ярлы сталі герцагамі, лендэрманы – баронамі, астатнія – рыцарамі.

Па меры фарміравання дзяржаў адзначаецца пэўнае узмацненне

каралеўскай улады. Манархі спаганялі даніну з падуладнага ім насельніцтва. З пачатку XI ст. зафіксавана адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне скандынаўскіх краін на вобласці, на чале якіх стаялі каралеўскія намеснікі (ярлы). Паступова каралі пачынаюць даваць намеснікам землі ў трыманне, або перадаваць ім правы на атрыманне пэўнай часткі каралеўскіх прыбыткаў (першапачаткова гэта былі правы на гадаванне).

Пачынаючы з XIII ст. актыўна будуюцца мураваныя замкі, куды накіроўваюцца каралеўскія ўпаўнаважаныя. Гэтыя службовыя асобы спаганялі падаткі, выконвалі паліцэйскія функцыі, камандвалі войскам у акрузе. Як узнагароду каралеўскія ўпаўнаважаныя атрымлівалі права на частку прыбыткаў. Такія рэгіёны вызначаліся як слоцлен. Варыянтам слоцлена выступаў “падсправаздачны лен”, калі фіксаваўся мінімум, які паступаў да яго трымальніка. У спадчыну лены як правіла не перадаваліся.

## § 18. Каталіцкая царква

**Царкоўны раскол 1054 г.** У сярэдзіне XI ст. адбыўся востры канфлікт паміж папам рымскім і канстанцінопальскім патрыярхам. Пачаўся ён як спрэчка з-за Паўднёвай Італіі. Гэтыя тэрыторыі ўваходзілі ў склад Візантыі яшчэ з часоў Юстыніяна. Аднак пазіцыі Візантыі значна пахіснуліся ў выніку нападаў арабаў (яны яшчэ ў канцы IX – пачатку X ст. захапілі амаль усю Сіцылію), а з пачатку XI ст. – і нарманаў, якія выцяснялі з поўдня Італіі як арабаў, так і візантыйцаў. Папа Леў IX (1049–1054) нават паспрабаваў падчас гэтых бурлівых падзей далучыць да сваёй дзяржавы шэраг паўднёва-італьянскіх тэрыторый. Аднак яго войска было разбіта нарманамі ў 1053 г.

Але прэтэнзіі папы на поўдзень Італіі рэалізоўваліся і іншым шляхам. Леў IX вырашыў падпарадкаваць сабе хрысціянскія цэрквы Паўднёвай Італіі, якія знаходзіліся пад царкоўнай юрысдыкцыяй канстанцінопальскага патрыярха. Папа паслаў на Сіцылію свайго архіепіскапа. Гэта выклікала вострае незадавальненне галавы візантыйскай царквы Міхаіла Кіруларыя, які меў вялікі ўплыў на візантыйскага імператара (менавіта ён абвясціў правіцелю краіны: “Я цябе, печ, пабудаваў, я цябе і разбуру”). Патрыярх забараніў у Канстанцінопалі набажэнствы па заходнім ўзоры, якія вяліся ў лацінскіх храмах візантыйскай сталіцы. Былі зачынены ў Візантыі і манастыры, манахі якіх жылі па заходніх статутах. У лісце Міхаіла Кіруларыя да свайго епіскапа ў Паўднёвай Італіі рымская царква абвінавачвалася ў сур'ёзных памылках у веравучэнні і абраднасці, якія ўяўляюць небяспеку для хрысціянства.

Папа Леў IX адказаў даволі жорсткім пасланнем, у якім заявіў, што ніхто не мае права вучыць яго, пераемніка апостала Пятра, у пытаннях веры, а ў візантыйскай царкве заўсёды было шмат ерасяў. Папа сцвярджаў, што ён адзін

з'яўляецца ўладыкай усёй хрысціянскай царквы. Затым у Канстанцінопаль былі адпраўлены папскія легаты (паслы). Патрыярх іх не прыняў. Тады яны прыбылі ў храм, дзе патрыярх праводзіў набажэнства, і ўсклалі на алтар папскую булу, ў якой папа адлучаў ад царквы канстанцінопальскага патрыярха і яго прыхільнікаў. У адказ Міхаіл Кірулары тэрмінова склікаў сабор візантыйскага духавенства, які ў сваю чаргу адлучыў ад царквы папу рымскага з яго прыхільнікамі.

Так адбыўся раскол 1054 г., які канчаткова замацаваў раздзяленне царквы на заходнюю (каталіцкую) і ўсходнюю (праваслаўную). Гэта было не першае сутыкненне папы рымскага і канстанцінопальскага патрыярха. Канфлікт з анафемамі адбыўся, напрыклад, і ў IX ст. пры папе Мікалаі I. У XI ст. матываў для спрэчак было ўжо больш: акрамя поўдня Італіі, спрачаліся і аб царкоўнай юрысдыкцыі над славянскімі краінамі. Узмацніліся і разыходжанні ў дагматыцы, абраднасці, царкоўнай арганізацыі і дысцыпліне. Але гэта былі толькі апошнія этапы канфлікта, які выспяваў даўно. Прычыны падзелу цэркваў былі намнога больш глыбокімі і асновай іх былі розныя гістарычныя лёсы хрысціянства ў Заходняй Еўропе і Візантыі, розныя лёсы заходнееўрапейскай і ўсходнееўрапейскай цывілізацый. Гэты падзел фактычна быў перадвызначаны яшчэ ў позняй антычнасці, калі адзіная Рымская імперыя падзялілася на Заходнюю і Усходнюю. І калі Візантыя больш-менш плаўна эвалюцыяніравала з антычнасці ў сярэдневякоўе, то для Заходняй Еўропы гэты пераход быў намнога больш бурлівым і разбуральным. Духоўнымі стрыжнямі цывілізацый, што склаліся ў сярэдневякоўі на захадзе і ўсходзе Еўропы, былі заходняя (рымская) царква і царква візантыйская (праваслаўная). Адрозненні паміж цывілізацыямі непазбежна адбіліся на ментальнасці, рэлігіі людзей. Паміж заходнееўрапейцамі і візантыйцамі склалася ўстойлівая непрыязнасць. Для візантыйцаў, якія толькі сябе лічылі сапраўднымі нашчадкамі велічы старажытных рымлян (адсюль яны і звалі "рамеямі" сябе, а не заходніх еўрапейцаў), жыхары Захаду ўяўляліся грубымі неадукаванымі дзікунамі, якія не ведаюць элементарных нормаў паводзін, спадзяюцца толькі на сляпую сілу і зброю і гатовыя лёгка праліць чужую кроў дзеля ўласнай здабычы. Для візантыйцаў яны былі "лацінянамі", але ніяк не рымлянамі. У сваю чаргу заходнееўрапейцы з пагардай адносіліся да візантыйцаў, як да людзей, на іх думку, разбэшчаных раскошай, якая незаслужана ім дасталася, бо не была непасрэдна здабыта ў жорсткай і крывавай барацьбе. Заходнееўрапейскія феадалы, для якіх імператывам паводзін была вернасць сеньёру, лічылі, што структура ўлады імператарскай Візантыі, прыдворны, службовы этыкет пабудаваны на ліслівасці, манернасці, хлуслівасці. З пазіцый сваёй рашучай ваяўнічасці, калі меч выхопліваўся без асаблівага роздуму пры самай малой нагодзе, заходнееўрапейцы трактавалі дыпламатычнасць, практычную ўраўнаважанасць візантыйцаў як простую баязлівасць. У вачах феадалаў Заходняй Еўропы візантыйцы не былі нашчадкамі Рымскай дзяржавы,

увесь час існавання якой быў насычаны бесперастаннымі войнамі. Заходнееўрапейцы называлі візантыйцаў “грэкамі”, а візантыйцы, у сваю чаргу, называлі сваіх заходніх суседзяў “лацінянамі”, што, дарэчы, адлюстроўвала і моўную розніцу – заходнееўрапейцы і візантыйцы не разумелі моў адзін аднаго. Адбілася гэта і ў царкоўным жыцці: мовай заходняй царквы была лацінская, візантыйскай – грэчаская. Праўда, у адрозненне ад каталіцкай, праваслаўнай царква была больш гібкай у пытаннях царкоўнай мовы і дазваляла, напрыклад, славянам весці набажэнства на царкоўнаславянскай мове, грузінам – на грузінскай.

Адрозненняў паміж заходнімі і ўсходнімі хрысціянамі, якія склаліся да часу канчатковага расколу царквы, было нямала, большасць з іх даволі дробязныя. Але шэраг разыходжанняў набыў прынцыповы характар. Перш за ўсё гэта тычылася спрэчкі аб “філіокве”, якая была звязана з разуменнем сімвала хрысціянскай веры. Праваслаўныя строга трымаліся формулы сімвала веры, які быў прыняты на Нікейскім усяленскім саборы 325 г. і дапоўнены Канстанцінопальскім саборам 381 г. Паводле гэтага сімвала Святы Дух зыходзіць ад Бога-Айца. На захадзе ж да гэтай фармулёўкі былі дададзены словы “і ад Сына” (filiogue), што азначала, што Святы Дух зыходзіць і ад Бога-Сына. Вучэнне аб “філіокве” з'явілася, магчыма, яшчэ ў вестгоцкай Іспаніі ў VI ст. Потым яго падтрымаў імператар франкаў Карл Вялікі. “Філіокве” на захадзе было ўключана ў сімвал веры. І хоць тэалагічныя спрэчкі з-за гэтага паміж Захадам і Усходам пачаліся яшчэ ў тыя часы, яны не набылі такога гучнага рэзанансу, як у XI ст. Справа ў тым, што да пачатку XI ст. у рымскай імшы (галоўным штодзённым набажэнстве) сімвал веры не гучаў. Калі ж ён быў уключаны ў яе склад, то гэта выклікала бурны пратэст усходніх іерархаў.

Пазней яшчэ адным з найбольш прынцыповых разыходжанняў у веравучэнні стала каталіцкае вучэнне аб чыстцы. Яно сфарміравалася ўжо ў XIII ст., а ў якасці дагмату было афіцыйна прынята Фларэнтыйскім саборам у 1439 г. У адпаведнасці з гэтым вучэннем душы грэшнікаў, якія не сплямілі сябе смяротнымі грахамі, трапляюць не ў пекла, а ў чысцец, дзе адбываюць пакуты, бо не атрымалі адпушчэння сваіх грахоў на зямлі. Агонь чыстца ачышчае грэшныя душы, каб яны маглі потым трапіць у рай. Зменшыць пакуты грэшнікаў у чыстцы дапамагаюць малітвы за іх жывых родных, знаёмых, святароў, манахаў. І такім малітвам у каталіцкай царкве пачало надавацца шмат увагі. Праваслаўная ж царква не прызнала існаванне чыстца, спасылаючыся на тое, што аб ім нічога не гаворыцца ў Свяшчэнным Пісанні.

Разыходжанні ў кульце былі, галоўным чынам, не ў сімвалічным змесце набажэнстваў, абрадаў, святаў, а ў асобных элементах рытуальных дзеянняў. Так, католікі прычашчаліся праснаковым хлебам, а праваслаўныя – квасным. У праваслаўных радавых вернікаў прычашчалі хлебам і віном, а ў католікаў –толькі хлебам. Праваслаўныя хрысцілі праз акунанне, а католікі – праз акрапленне

вадою. Не супадаў рытуал галоўнага набажэнства – літургіі (ці імшы – у каталікаў і абедні – у праваслаўных), аднак сімвалічны змест быў аднолькавым – з акцэнтам на апошнія падзеі зямнога жыцця Ісуса Хрыста, яго ахвярную смерць за людзей, уваскрашэнне і ўзнясенне. З XI ст. у каталіцкіх набажэнствах пачаў выкарыстоўвацца арган, праваслаўныя ж выкарыстоўвалі толькі харавую музыку. Адрознівалася і вопратка, і нават знешні выгляд святароў. Калі для каталіцкіх святароў узорамі адзення была вопратка рымскіх сенатараў, то для праваслаўных – візантыйскага імператарскага двара. Абавязковым звычаем для праваслаўных святароў стала нашэнне барады, каталіцкія ж выбрывалі на галаве танзуру. Аднолькавымі былі галоўныя святы, але каталікі мелі і свае святы, напрыклад свята Цела Хрыстова (з XIII ст.).

Істотныя адрозненні склаліся і ў царкоўнай арганізацыі. Каталіцкая царква была больш цэнтралізаванай на чале с сапраўдным царкоўным манархам – папам рымскім. У праваслаўнай царкве, акрамя канстанцінопальскага патрыярха, які лічыўся першым па гонару, былі і іншыя царкоўныя ўладыкі з такім самым тытулам (патрыярхі александрыйскі, антыяхійскі, іерусалімскі), якія ўзначальвалі фактычна самастойныя цэрквы. Праваслаўная царква не ведала інстытута кардыналаў, манаскіх ордэнаў. Неаднолькавай была роля цэркваў у палітычным жыцці: праваслаўная амаль на працягу ўсёй сваёй гісторыі была жорстка падпарадкавана вышэйшай свецкай уладзе, і яе самастойная палітычная роля была нязначнай, а каталіцкая часамі (на пачатку сярэдневякоўя і асабліва ў высокім сярэдневякоўі) істотна ўплывала на палітычныя адносіны ў Заходняй Еўропе (і не толькі ў ёй) і нават адыгрывала дамінуючую ролю (як у XIII ст.).

Вера была дамінантай ментальнасці сярэдневяковых людзей. Царкоўны раскол XI ст. канчаткова аформіў падзел адзінага хрысціянскага свету на свет каталіцкі (заходні) і свет праваслаўны (усходні), замацаваў непрыязныя адносіны паміж імі. Каталікі і праваслаўныя адносіліся адзін да другога як да ерэтыкоў. Варожасць узрасла ў выніку крыжовых паходаў, асабліва чацвёртага, калі крыжакі захапілі значную частку хрысціянскай Візантыі. Але разам з тым не трэба перабольшваць гэтую варожасць. Тыя ж крыжовыя паходы акрамя вызвалення хрысціянскіх святынь ад няверных-мусульман мелі сваёй мэтай таксама і дапамогу хрысціянам Усходу ў іх барацьбе з іншаверцамі. Аб гэтым, прынамсі, гаварыў у сваёй прамове з заклікам да першага крыжовага паходу папа рымскі Урбан II. Сапраўды варожымі былі адносіны да іншаверцаў.

Унутры Еўропы найбольшай супольнасцю іншаверцаў былі іудзеі. У карпаратыўным сярэдневяковым грамадстве яны стваралі замкнёную этнаканфесіянальную супольнасць. Улады і царква імкнуліся абмежаваць кантакты паміж іудзеямі і хрысціянамі. Забараняліся шлюбы паміж людзьмі хрысціянскага і іудзейскага веравызнання. Хрысціянам нельга было жыць у дамах, якія належалі іудзеям. Іудзеі не павінны былі мець рабоў-хрысціян.

Забаранялася абарачаць хрысціян у іудаізм. Іудзеям забаранялася набываць зямлю, і яны, такім чынам, апынуліся па-за рамкамі пазямельных феадальных адносін; таксама як і па-за рамкамі адносін сюзерэнітэту-васалітэту, бо ім забаранялася мець уладу над хрысціянамі. Разам з тым забаранялася прымусовае абарачэнне іудзеяў у хрысціянства, нельга было знішчаць іх сінагогі. Варожасць хрысціян да іудзеяў падагравалася яшчэ з антычных часоў абвінавачваннем, што іудзеі не прызналі Ісуса месіяй, што яны павінны ў яго смерці. Такое абвінавачванне трывала ўвайшло ў свядомасць сярэдневяковых заходнееўрапейцаў і вылілася ў яўрэйскія пагромы напярэдадні першага крыжовага паходу. У 1096 г. натоўпы простага люду разграмілі яўрэйскія кварталы ў шэрагу германскіх гарадоў, спрабуючы прымусіць іудзеяў прыняць хрысціянства. Трэба зазначыць, што ні ўлады, ні царква, ні нават самі крыжаносцы не былі ініцыятарамі гэтых пагромаў. У XIII ст. прымусовае абарачэнне іудзеяў у хрысціянства ўжо зрабілася звычайнай практыкай: іх прымушалі слухаць пропаведзі хрысціянскіх святароў, манахаў, удзельнічаць у тэалагічных дэбатах, публічна спальвалі экземпляры Талмуда (не чапаючы аднак біблейскія кнігі). З канца XIII ст. пачалося выгнанне іудзеяў з шэрагу заходнееўрапейскіх краін (з Англіі – у 1290 г., з Францыі – у 1306 г.).

У высокім сярэдневякоўі рэзка ўзрасла варожасць да мусульман. Нягледзячы на тое, што Рэканкіста, як свяшчэнная вайна супраць няверных на Пірэнейскім паўвостраве, вялася яшчэ з VIII ст., а ў канцы ранняга сярэдневякоўя разгарэлася вострая барацьба з мусульманамі на поўдні Італіі, сярод інтэлектуальнай хрысціянскай эліты ўсё ж існавала перакананне, што мусульман не трэба атаясамліваць с язычнікамі-варварамі, бо мусульмане вераць у аднаго Бога. Падобнымі былі адносіны да хрысціян і ў мусульман яшчэ з часоў прарока Мухамада, для якога хрысціяне і іудзеі, у адрозненне ад язычнікаў-многабожнікаў, былі “людзьмі Пісання”, якім Алах ужо адкрываў ісціну праз сваіх пракоркаў Мусу і Ісу, а іх вучэнне потым сказілі іх прыхільнікі. Моцным быў культурны ўплыў на Заходнюю Еўропу праз арабаў, перш за ўсё праз Пірэнейскі паўвостраў і Паўднёвую Італію. Цікава, што ў сярэдзіне XII ст. перакладчыкі знакамітага цэнтра перакладаў з арабскай мовы ў Таледа пераклалі на лацінскую мову Каран. Праз такія пераклады да заходнееўрапейцаў траплялі не толькі творы выдатных вучоных-мусульман (напрыклад, Авероэса, Авіцэны), але вярталіся і забытыя творы антычных аўтараў. Мірнымі былі да канца XI ст. вандроўкі набожных хрысціян да святых месцаў у Палесціну, якой валодалі яшчэ з VII ст. прыхільнікі ісламу. Сітуацыя рэзка змянілася падчас падрыхтоўкі і здзяйснення крыжовых паходаў на Усход. Папулярным у Еўропе стала перакананне, што найбольш прыдатнымі адносінамі да мусульман з'яўляецца перманентная свяшчэнная вайна супраць іх, жорсткасць да няверных, іх прымусовае абарачэнне ў хрысціянства. Крыжаносная ідэя і яе здзяйсненне на Блізкім Усходзе урэшце

рэшт прыйшлі ў заняпад, але антымусульманская прапаганда, кроў, здзекі і прыгнёт, якія неслі з сабою крыжакі, на многія стагоддзі абвастрылі варожасць паміж светам хрысціянскім і светам ісламу.

**Рух за рэформу царквы і барацьба за інвестытуру.** На пачатку высокага сярэдневякоўя духавенства, абаты былі моцна ўцягнутымі ў свецкія адносіны сюзерэнітэту-васалітэту. Парушалася кананічнае права, у адпаведнасці з якім епіскапы павінны былі выбірацца духавенствам, а абаты –манахамі. Звычайнай з'явай былі назначэнні епіскапаў, абатаў каралямі, герцагамі, графамі або іншымі буйныя феадаламі ў сваіх уладаннях. Такое назначэнне суправаджалася (як і ў свецкіх справах) публічнай цырымоніяй інвестытуры, пры якой назначаны епіскап прыносіў клятву вернасці сеньёру-каралю і атрымліваў ад яго посах і пярсцёнак, як сімвал улады над атрыманымі ўладаннямі. Там, дзе існавала адносна моцная каралеўская ўлада (як, напрыклад, у Германіі пры Атоне I), каралі імкнуліся ўзяць менавіта ў свае рукі прызначэнне епіскапаў і абатаў, спадзеючыся такім чынам стварыць сабе апору ў барацьбе з сепаратызмам буйных феадалаў. Атон I нават прызначаў епіскапаў на пасады графаў менавіта з гэтай мэтай.

Там, дзе каралеўская ўлада была слабой, пасадамі епіскапаў і абатаў распараджаліся буйныя феадалы. Нават прыходскія святары залежалі ад мясцовых феадалаў, якія маглі скінуць нездавальняючага іх ксяндза і прызначыць іншага. Зразумела, што ў такіх умовах часта епіскапамі і абатамі рабіліся свецкія людзі, якія не мелі неабходнага тэрміну служэння, не прайшлі лесвіцу духоўных санаў (дыякан – прасвітэр – епіскап). Затое гэтыя людзі былі або роднымі магутнага феадала, або адданымі яму людзьмі. Нямала было і сіманістаў, якія заплямілі сябе грахом сіманіі – купляй свайго духоўнага сану за грошы. Пад уплывам такіх наваяўленых святароў і абатаў духавенствам часта не выконвалася патрабаванне цэлібату, сярод святароў і манахаў нярэдкімі сталі разбэшчанасць, амаральнасць, невуцтва.

Не пазбегла гэтага і папства. Пасля распаду Каралінгскай імперыі папскі прастол стаў аб'ектам зацятай барацьбы паміж моцнымі рымскімі кланамі знаці, якія імкнуліся пасадзіць на яго сваіх стаўленікаў. І барацьба гэта з новай вастрынёй успыхвала пасля смерці чарговага папы, бо гэты прастол не перадаваўся ў спадчыну. З самага пачатку X ст. папскі прастол на працягу больш паўстагоддзя фактычна кантраляваўся рымскім родам Феафілактаў, галоўным чынам жанчынамі роду. Канец гэтаму "праўленню" паклаў германскі кароль Атон I, па волі якога папа Іаан XII у 962 г. каранаваў караля каронай імператара. У наступным годзе імператар скінуў гэтага папу з роду Феафілактаў і прызначыў папам свайго чалавека. На некаторы час менавіта германскія каралі (яны ж імператары Свяшчэннай Рымскай імперыі) узялі ў свае рукі вызначэнне, хто будзе папам рымскім. Вядома, што такая сітуацыя, якая яшчэ больш пагоршылася з надыходам феадальнай раздробленасці, вяла фактычна да растварэння царквы ў

свецкіх структурах феадальнага грамадства. Між тым у ментальнасці заходнееўрапейцаў галоўнымі сувязямі еднасці людзей былі менавіта рэлігійныя, асэнсаванне прыналежнасці да хрысціянскага свету, дзе ўсе, незалежна ад сацыяльнага становішча, этнічнага паходжання, полу і ўзросту, належаць да супольнасці хрысціян. Асэнсаванне таго, што царква страчвае належнае ёй у грамадстве месца, небяспека такога становішча царквы паступова пашыралася і набывала моц сярод духавенства і манаства. Пачаўся рух за царкоўную рэформу. Пачаткі яго паходзілі з асяроддзя манаства. Ачагі ўзніклі ў розных краінах, але асаблівую ролю адыгралі манахі манастыра ў Клюні (адсюль і назва "клюнійскі рух"). Гэты манастыр узнік у Бургундыі па волі і на сродкі герцага Вільгельма Аквітанскага ў 930 г. Па ўмовах заснавальніка кляштара яго манахі не павінны былі падпарадкоўвацца ніякім свецкім і духоўным уладам, акрамя самога папы рымскага. Рэформу манахі Клюні пачалі з сябе, галоўным сваім абавязкам яны лічылі строгае выкананне статута Бенедыкта Нурсійскага. Яны строга асуджалі сіманію, дабіваліся абавязковага выканання духавенствам цэлібату, змагаліся з разбэшчанасцю і амаральнасцю ў асяроддзі манаства і духавенства. Аднак яны былі ўмеранымі рэфарматарамі: асуджаючы ўмяшальніцтва свецкіх улад у царкоўныя справы, яны не змагаліся з гэтай практыкай на справе. У клюнійцаў знайшлося шмат паслядоўнікаў, спачатку XII ст. па іх правілах жылі манахі ўжо больш за 1000 манастыроў.

Была створана нават строга цэнтралізаваная кангрэгацыя такіх манастыроў на чале з абатам Клюні, якая стала моцнай апорай пап-рэфарматараў, прычым нямала з іх у мінулым былі манахамі Клюні (напрыклад, Грыгорый VII). Рэфарматары з'явіліся на папскім прастоле каля сярэдзіны XI ст. Папа Леў IX (1049–1054) павёў рашучую барацьбу з епіскапамі-сіманістамі. Каб выявіць іх, ён на саборы ў Рэймсе ў 1049 г. нават прымусіў епіскапаў прысягнуць перад мошчамі святога Рэмігія, што яны набылі свае саны не за грошы. Папа Мікалай II (1059–1061) зрабіў яшчэ адзін рашучы крок. Скліканы ім у 1059 г. у Рыме сабор вызначыў новы парадак выбараў рымскіх пап, які дзейнічае і да нашых дзён. Па рашэнні сабору выбіраюць папу толькі кардыналы, усе свецкія (і астатнія духоўныя) персоны ўдзельнічаць у гэтых выбарах не маюць права. У рэшце рэшт дайшла чарга і да галоўнага патрабавання рэфарматараў – аб незалежнасці царквы ад свецкай улады. І першы ўдар быў нанесены па свецкай інвестытуры епіскапаў і абатаў. Нанёс яго адзін з найбольш радыкальных лідэраў рэфарматараў папа Грыгорый VII (1073–1085). Адзін з першых яго крокаў – ўвядзенне абавязковага цэлібату для духавенства, а ў 1075 г. з'явіўся напісаны ім праграмны дакумент, вядомы як "Дыктат папы".

Гэты дакумент у сваіх мэтах пайшоў намнога далей ранейшых патрабаванняў рэфарматараў. Па сутнасці, гэта была праграма папскай тэакратыі з яскравым абаснаваннем ідэі, што ўлада папы не толькі вышэйшая ў царкве, але

яна вышэй любой свецкай улады. У 27 пунктах гэтага лаканічнага дакумента сцвярджалася, што рымская царква заснавана Богам, што толькі рымскі епіскап мае права называцца “ўсяленскім” і яго тытул – адзіны ў свеце, ніхто не мае права яго судзіць, ніхто не можа адмяніць яго рашэнні, а сам ён мае права адмяніць рашэнні любых улад, што любыя царкоўныя рашэнні не могуць лічыцца правамоцнымі без яго ўхвалення, ён можа змяшчаць і прызначаць епіскапаў без рашэння царкоўных сабораў. У “Дыктаце папы” гаварылася і аб тым, што ўсе князі павінны цалаваць папе ногі, і нават, аб тым што папа мае права вызваляць падданых нягоднага манарха ад прысягі вернасці яму. Гэтую праграму ажыццявіць Грыгорыю VII не ўдалося, яго рашучая барацьба са свецкай інвестытурай духоўных асоб прывяла да вострага канфлікту з германскім каралём Генрыхам IV.

У 1075 г. Грыгорый VII склікаў сабор у Рыме, які забараніў любым прадстаўнікам свецкай улады пад пагрозай адлучэння ад царквы даваць інвестытуру свяшчэннаслужыцелям. Паколькі Генрых IV працягваў прызначаць епіскапаў і абатаў, папа накіраваў яму пасланне з тлумачэннямі гэтага рашэння. У адказ Генрых IV склікаў у 1076 г. сабор лаяльнага да яго германскага духавенства, які абвясціў папу звергнутым. І тады Грыгорый VII адважыўся на беспрэцэдэнтны крок – ён адлучыў непакорнага караля ад царквы (у тых умовах гэта ставіла чалавека па-за межамі грамадства), а яго падданых вызваліў ад прысягі вернасці. Такі крок быў зусім не адчайным: Грыгорый VII правільна разлічыў сітуацыю ў Германіі, дзе ў караля было шмат праціўнікаў. Яны выкарысталі гэты момант, і з'езд германскіх князёў запатрабаваў ад праклятага папам караля дабіцца ад папы зняцця адлучэння на працягу года, інакш будзе абраны новы кароль. Генрыху IV заставалася толькі пайсці на ўступкі і паспрабаваць вымаліць у Грыгорыя VII прабачэння. Каралю прыйшлося спяшацца (да канца тэрміну заставалася мала часу) і зімою 1076/77 г. яму давялося са сваім дваром зрабіць даволі складаны пераход праз Альпы, каб патрапіць у Італію. Асцярожны папа засеў у замку Каносса, які належаў яго гарачай прыхільніцы маркграфіні тасканскай Мацільдзе і быў абнесены трыма радамі сцен. Папа доўга не згаджаўся выслухаць караля, і той вымушаны быў прастаяць трое сутак перад апошняй сцяною басанож і ў адной рубашцы без ежы і пітва (так сцвярджаў сам папа, па іншых звестках, кароль меў цёплую вопратку і няблага харчаваўся). У рэшце рэшт папа дапусціў Генрыха IV да сябе і пасля слёзнага пакаяння адмяніў яго адлучэнне. Але германскія князі не выканалі ўмоў ультыматуму Генрыху – не паспеў сысці яго тэрмін, як яны абралі новага караля. Генрых IV разграміў саперніка і зноў абвясціў папу, які моцна яго пакрыўдзіў, звергнутым. Тады Грыгорый VII паўторна адлучыў Генрыха ад царквы. Але на гэты раз расклад сіл быў не на карысць папы. Войска Генрыха IV узяло Рым, а папа ўцёк на поўдзень Італіі да нарманаў, дзе праз некаторы час памёр. Аднак барацьба паміж наступнымі папамі

і каралямі працягвалася. Быў час, калі канфлікт прадоўжылі папа Грыгорый VIII і германскі кароль Генрых V. Менавіта гэты кароль заключыў з папам Калікстам II Вормскі канкардат у 1122 г., які стаў вынікам барацьбы за інвестытуру.

Сам канкардат уяўляў сабой дзве граматы: папы і караля. Абодва бакі заявілі, што даюць адзін другому "сапраўдны мір", кароль абавязваўся вярнуць папе захопленую падчас канфлікту маёмасць. Было пастаноўлена, што епіскапы ў Германскім каралеўстве выбіраюцца толькі вышэйшым духавенствам, а абаты – манахамі. Са свецкіх персон на выбарах мог прысутнічаць толькі кароль, або яго прадстаўнік. Умяшальніцтва яго дазвалялася толькі ў выпадку сур'ёзных рознагалоссяў паміж духавенствам.

Пасля абрання епіскапа ці абата адбывалася двайная інвестытура: свецкая (кароль дакранаўся да абранага сваім скіпетрам, што сімвалізавала дараванне ўлады над землямі епіскапства або абатства) і духоўная (архіепіскап уручаў абранаму пярсцёнак і посах як сімвалы духоўнай улады і пастырскага служэння). Вормскі канкардат звычайна ацэньваюць як кампраміс паміж свецкай і духоўнай уладамі, галоўным чынам з-за таго, што на практыцы каралі іншы раз умешваліся ў выбары.

Але ж больш правільна лічыць гэтае пагадненне на карысць царкве – яно аднаўляла кананічную практыку абрання епіскапаў і абатаў самім духавенствам ці манахамі, значна абмяжоўвала ўмяшальніцтва свецкіх улад у царкоўныя справы. Царква набірала ўсё большую вагу ў феадальнараздробленым заходнееўрапейскім грамадстве з яго бесперапыннымі войнамі і усобіцамі феадалаў. Менавіта царква выступіла з лозунгамі "міру Божага" і "Божага перамір'я", якія адлюстроўвалі спадзяванні шырокіх слаёў грамадства. Пастановы аб іх прымаліся царкоўнымі саборамі, як мясцовымі, так і тымі, якія каталіцкая царква лічыла ўсяленскімі (напрыклад, III Латэранскім саборам у 1179 г.). Першая пастанова аб "міры Божым" была прынята саборам у Шару ў 989 г. Саборныя каноны аб "міры Божым" патрабавалі бяспекі падчас ваенных дзеянняў для шэрагу катэгорый мірнага насельніцтва: святароў, манахаў, жанчын, пілігрымаў, сялян, купцоў. Парушэнне "міру Божага" каралася адлучэннем ад царквы. З XII ст. распараджэнні аб "міры Божым" пачалі выдаваць і каралі. Епіскапат узначаліў і рух за "Божае перамір'е". З XI ст. царкоўныя саборы пачалі прымаць пастановы аб забароне ваенных дзеянняў у пэўныя дні і тэрміны года. Пад пагрозай адлучэння ад царквы не дазвалялася прымяняць зброю спачатку ў нядзелю, а потым з вечара кожнай серады да раніцы панядзелка, падчас Вялікага і Каляднага пастоў, царкоўных свят. Аднак, нягледзячы на суровыя санкцыі супраць парушальнікаў і масавую падтрымку насельніцтва, гэтыя меры царквы не здолелі ўтаймаваць анархію і свавольства феадалаў, не спынілі феадальныя ўсобіцы. Эфект іх ва ўмовах феадальнай раздробленасці быў нязначны. Намнога больш эфектыўным у гэтым плане быў крыжаносны рух, арганізаваны царквою на чале з папствам, якое

паступова ўзнімала свой аўтарытэт. Крыжовыя паходы пачаліся з заклікаў папы рымскага Урбана II у Клермон-Феране ў 1095 г. пасля праведзеннага там сабору, які, дарэчы, прыняў пастанову аб “міры Божым”. Канешне, царква кіравалася перш за ўсё рэлігійнымі матывамі, але аб'ектыўна менавіта яна, а ні якая свецкая ўлада, здолела аб'яднаць найбольш анархічныя і выбуховыя элементы заходнееўрапейскага грамадства (перш за ўсё феадалаў, а ў першым крыжовым паходзе і згаладнелых сялян) і накіраваць гэты небяспечны для Заходняй Еўропы паток за яе межы – на іншаверцаў. І гэта было, бадай што, галоўным вынікам крыжовых паходаў для Заходняй Еўропы, якія разам з тым прынеслі смерць, прыгнёт, здзекі і разбурэнне мусульманскім народам Усходу і праваслаўнай Візантыі. Аб'ектыўна крыжовыя паходы аслабілі феадальную анархію і яе наступствы на захадзе Еўропы. Гэта быў паказчык росту палітычнай моцы каталіцкай царквы на чале з папствам. На ўсходзе Еўропы праваслаўная царква, цалкам залежная ад свецкай улады, не здолела адыграць такую важную палітычную ролю. І гэта было адной з прычын падзення праваслаўных дзяржаў пад націскам агрэсіўных іншаверцаў з Усходу.

XII стагоддзе характарызавалася вострай барацьбою папства с германскімі каралямі, перш за ўсё з-за агрэсіўнай італьянскай палітыкі апошніх. Становішча пап у гэтай барацьбе ўскладнялася дваістым характарам іх улады. Яны былі духоўнымі ўладарамі ўсіх католікаў і разам з тым вярхоўнымі сюзерэнамі сваёй дзяржавы і феадальнымі сеньёрамі Рыма. Калі ў сярэдзіне XII ст. у Рыме паўсталі гараджане і на чале з Арнольдам Брэшыянскім абвясцілі рэспубліку, папа вымушаны быў звярнуцца за дапамогай да свайго заклятага ворага – караля Германіі Фрыдрыха I Барбаросы. За падаўленне паўстання ў Рыме папа каранаваў Фрыдрыха імператарам. Але хутка Фрыдрых вырашыў прызначыць новага, лаяльнага яму папу, і рымскі папа Аляксандр III адлучыў Фрыдрыха і яго “антыпапу” ад царквы. Папы прынялі ўдзел у антыгерманскай Ламбардскай лізе паўночнаітальянскіх гарадоў, якая разграміла войска Фрыдрыха I Барбаросы пад Ляньяна у 1176 г. Фрыдрых, які ледзь уратаваўся, вымушаны быў у 1177 г. (роўна праз 100 гадоў пасля Каносы Генрыха IV) уніжана выкленчваць прабачэнне ад папы.

**XIII стагоддзе – пік палітычнай магутнасці папства.** У XIII ст. папства дасягнула небывалай палітычнай магутнасці як у Заходняй Еўропе, так і на захопленых крыжакамі тэрыторыях. Многія манархі таго часу прызнавалі сябе васаламі пап, уладыкі каталіцкай царквы актыўна ўмешваліся ў канфлікты паміж краінамі і ўнутры краін. Папства стала наймацнейшай палітычнай сілай у раздробленай Заходняй Еўропе, яно ў значнай ступені вызначала палітычную сітуацыю ў заходнееўрапейскім грамадстве. Ні ў які іншы перыяд, ні да XIII ст. і ні пасля яго, папы рымскія не былі так блізка да ажыццяўлення сваёй тэакратычнай праграмы па ўсталяванні вярхоўнай улады над рознымі сферамі

жыцця каталіцкага свету і нават за яго межамі. Разам з тым у XIII ст. адбылася істотная цэнтралізацыя кіравання царквою папамі. Манархічная ўлада папы ў царкве перастала насіць з большага сімвалічны характар, як напрыканцы ранняга і ў пачатку высокага сярэдневякоўя, яна стала рэальнай.

Папа і яго рымскі апарат царкоўных чыноўнікаў (курыя) кіравалі ўсімі бакамі царкоўнага жыцця. Пачатак і аснову гэтай папскай магутнасці паклаў пантыфікат ужо першага з пап XIII ст. Інакенція III (1198–1216). Яго свецкае імя Лотар дэ Сені, паходзіў ён са знатнага роду. Будучы папа атрымаў дзве вышэйшыя адукацыі ў найбольш прэстыжных на той час універсітэтах: Сарбоне (тэалагічную) і Балонскім (юрыдычную). Калі Лотар стаў рымскім папам пад імем Інакенція III у 37-гадовым узросце, ён ужо меў рэпутацыю выдатнага царкоўнага адміністратара і таленавітага багаслова. У сваёй дзейнасці ён выкарыстоўваў дакладны аналіз палітычнай сітуацыі ў розных краінах, выкарыстоўваў супраць сваіх праціўнікаў самыя жорсткія сродкі: адлучэнне ад царквы, інтэрдыкт, крыжовы паход супраць ератыкоў.

Першым поспехам Інакенція III паспрыяла сітуацыя э Германіі –палітычны крызіс з-за раптоўнай смерці 32-гадовага імператара Генрыха VI. Спачатку папа аднавіў поўную ўладу над сваёй дзяржавай у цэнтры Італіі, выгнаўшы адтуль імператарскіх чыноўнікаў. У тым жа 1198 г. ён дабіўся таго, што ўдава Генрыха VI назначыла папу рэгентам Сыцылійскага каралеўства пры малалетнім Фрыдрыху II. Умацаваўшыся ў Італіі, Інакенцій III рашуча ўмяшаўся ў барацьбу за каралеўскую карону ў Германіі. падчас гэтай барацьбы ён адлучыў ад царквы непакорнага яму караля Атона IV, а яго падданых вызваліў ад прысягі вернасці. Нямецкіх князёў папа заклікаў абраць новага караля. Абраны каралём малады Фрыдрых II Гогенштаўфен цалкам залежаў ад папы.

Вострым быў канфлікт папы з англійскім каралём Іаанам (Джонам) Беззямельным. У ходзе яго Інакенцій III даказаў, што не пацерпіць ніякага грэбавання сваімі інтарэсамі нават з боку караля моцнай дзяржавы. Канфлікт успыхнуў з-за таго, што папа парушыў традыцыйную працэдуру выбараў архіепіскапа Кентэрберыйскага. Звычайна гэтую галоўную духоўную асобу ў Англіі выбірала мясцовае вышэйшае духавенства з адабрэння караля. На гэты ж раз Інакенцій III цалкам праігнараваў жаданне Іаана і дабіўся абрання свайго стаўленніка. Абураны кароль нават не пусціў новага архіепіскапа ў краіну. І тады Інакенцій III наклаў на ўсю Англію інтэрдыкт – забарону выконваць набажэнствы і абрады. Гэта было жудасным для сярэдневяковых людзей, жыццё якіх трывала звязвалася з царквою і ў свядомасці якіх аксіёмай было перакананне, што па-за царквою няма паратунку. Пасля жалобнай начной цырымоніі ў Англіі зачыніліся цэрквы, іконы ў іх былі знялі, распяцці задрапіравалі чорнай тканінай, перасталі званіць званы, не адбываліся імшы, хрышчэнні, шлюбы і, што, бадай, самае жудаснае, адпяванні памерлых. Усё вышэйшае духавенства з'ехала з Англіі. Праз

год пасля ўвядзення інтэрдыкту папа адлучыў ад царквы англійскага караля.

Але пракляты папам кароль не здаваўся некалькі гадоў. Ён канфіскаваў царкоўную маёмасць, што дало яму магчымасць знізіць падаткі і за кошт гэтага атрымаць пэўную падтрымку ў краіне. Аднак з-за апазіцыі баронаў і пад пагрозай французскага ўварвання Іаан Беззямельны праз пяць гадоў капітуліраваў перад папам. У маі 1213 г. ён пагадзіўся на ўсе ўмовы папы: прызнаў кандыдатуру архіепіскапа Кентэрберыйскага, вярнуў канфіскаваную маёмасць, пакрыў страты. Пасля Іаан адрокся ад кароны на карысць папе. Затым ён зноў яе атрымаў з рук папскага легата, прынёсшы васальную прысягу вернасці папе.

Васаламі папы прызналі сябе каралі Партугаліі і Арагона, якія вялі Рэканкісту і былі вельмі зацікаўлены ў дапамозе ўладыкі ўсіх католікаў. Дакладнымі былі разлікі Інакенція III, калі ён умяшаўся ў барацьбу за венгерскі прастол. Новы кароль Венгрыі прызнаў сябе папскім васалам. Тое ж зрабіў і дацкі кароль, зацікаўлены ў падтрымцы дацкай экспансіі на землі язычнікаў ва Усходняй Прыбалтыцы. Няўдачай скончыліся спробы Інакенція III падпарадкаваць сабе каралёў Нарвегіі (гэты кароль быў адлучаны ад царквы яшчэ папярэднім папам) і Швецыі. Калі да папы звярнуўся за дапамогай Іаан Беззямельны са скаргай на ваенную пагрозу французаў, папа забараніў каралю Францыі весці вайну супраць Англіі і прыгразіў яму адлучэннем і інтэрдыктам. Аднак Філіп II не спалохаўся папскіх пагроз, а папа не адважыўся іх ажыццявіць. Ужо тады французскае духавенства падпарадкоўвалася больш свайму каралю, чым папе. Філіп II лічыў царкву адным з дзяржаўных інстытутаў, а епіскапаў і абатаў сваімі васаламі, якія абавязаны былі выконваць шэраг дзяржаўных павіннасцей. У Францыі стваралася свая каталіцкая царква, падпарадкаваная каралеўскай уладзе і мала залежная ад рымскіх пап. Яна нават атрымала назву “галіканская” па антычнай назве тэрыторыі Францыі.

Свайго роду гістарычным казусам было часовае прызнанне сябе васалам папы рымскага цара праваслаўнай Балгарыі Калаяна. Калаян такім чынам шукаў процівагу Візантыі, незалежнасці ад якой дабілася Балгарыя. За гэта папа надаў Калаяну тытул “караля балгараў і валахаў”. Але неўзабаве крыжаносцы, якія захапілі Візантыю, пачалі паводзіць сябе агрэсіўна да Балгарыі, і балгарскі цар адмовіўся ад саюза з Рымам. Інакенцій III заахвочваў экспансію заходнееўрапейцаў ва Усходняй Прыбалтыцы і на Усходзе. Гэта ён санкцыяніраваў стварэнне ордэна мечаносцаў на землях ліваў. Ён апекаў тыя тэрыторыі, што засталіся ад дзяржаў крыжакоў на Блізкім Усходзе. Інакенцій III актыўна рыхтаваў чацвёрты крыжовы паход, увёў падаткі на яго падрыхтоўку. Правільна разлічыўшы, што галоўным праціўнікам крыжакоў на Усходзе з'яўляецца моцны Егіпет, папа планаваў нанесці ўдар менавіта па гэтай краіне. Аднак крыжаносцы не спраўдзілі надзей папы. Калі яны рушылі на Балканы, а потым захапілі хрысціянскі Канстанцінопаль, Інакенцій III двойчы адлучыў іх ад

царквы. Аднак пасля стварэння крыжакамі Лацінскай імперыі папа змяніў свае адносіны і стаў апекуном новай крыжацкай дзяржавы. Яго спробы падпарадкаваць заваяванае праваслаўнае насельніцтва царкоўнай уладзе Рыма былі марнымі, жыхары Візантыі не жадалі прымаць веру заваёўнікаў.

Інакенцій III арганізаваў першы крыжовы паход супраць ератыкоў. Агнём і мячом крыжакі вынішчылі альбігойскую ерась на поўдні Францыі, зруйнаваўшы гэты квітнеючы край. Паход 1209–1229 гг. скончыўся ўжо пасля смерці яго натхніцеля.

Дактрына папскай тэакратыі знайшла сваё найвышэйшае ўвасабленне ў дзейнасці і творах Інакенція III. Ен загадаў тытулаваць сябе ўжо не "наместнікам святога Пятра", а "наместнікам Ісуса Хрыста". Папа сцвярджаў, што яго ўлада вышэй улады свецкіх правіцеляў, абгрунтоўваў права папы ўмешвацца ў палітычныя справы еўрапейскіх дзяржаў. Ён развіў вучэнне аб "двух свяцілах". Паводле гэтага вучэння, Бог стварыў на небе два свяцілы: большае (Сонца), якое кіруе днём, і меншае (Месяц), якое кіруе ноччу. Большае свяціла – гэта царква, якая кіруе душамі людзей, а меншае – гэта каралеўская ўлада, якая кіруе целамі людзей. Але як свет Месяца паходзіць ад света Сонца, так і годнасць каралеўскай улады паходзіць ад аўтарытэту папы.

Важным крокам Інакенція III была забарона манархам уводзіць падаткі на царкоўную маёмасць без згоды папы. Пры ім папская курыя ў Рыме з сотнямі чыноўнікаў-святароў, сярод якіх галоўную ролю адыгрывалі кардыналы, стала сапраўдным цэнтрам кіравання каталіцкай царквой. Туды сцякаліся тысячы скаргаў на судовыя рашэнні па шлюбных, маёмасных справах. Кампетэнцыя царкоўных судоў наогул была значна пашырана. З Рыма на месцы пасылаліся паўнамоцныя прадстаўнікі папы – легаты, распараджэнні якіх былі абавязковымі нават для епіскапаў і мітрапалітаў. Архіепіскапы павінны былі даваць прысягу вернасці папе. Каб узмацніць залежнасць епіскапаў ад Рыма, для іх былі ўстаноўлены тэрміны абавязковага наведвання рэзідэнцыі папы. Для італьянскіх епіскапаў такі тэрмін складаў 1 год, для астатніх – ад 2 да 5 гадоў. Папы часта ўмешваліся ў выбары епіскапаў, прымушаючы выбіраць патрэбных ім кандыдатаў.

Была адладжана і фінансавая сістэма папства. У курыю ішлі даходы з розных крыніц: дзесяціна, зборы з царкоўных бенефіцыяў, візітныя грошы (плата епіскапаў за наведванне Рыма), палій (плата за ўзвядзенне ў сан ад новых архіепіскапаў), падарункі ад манархаў за каранацыю, "дынарый святога Пятра" ад шэрагу дзяржаў за асобае апякунства іх папамі і інш.

Пераемнікі Інакенція III на папскім прастоле імкнуліся захаваць і ўмацаваць той статус папства, якое яно набыло пры ім. На гэтым шляху яны ўступілі ў востры канфлікт з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрыхам II і іншымі прадстаўнікамі германскай каралеўскай дынастыі Гогенштаўфенаў.

Адносіны паміж Фрыдрыхам і папам Генорыем III (1216 – 1227), які ў 1220 г. каранаваў яго як імператара, спачатку былі больш чым прыязныя. Малады імператар усяляк дэманстраваў сваю залежнасць ад папы. Ен забараніў падаткі на духавенства, свецкі суд для святароў, царкоўным пастановам супраць ератыкоў надаў сілу дзяржаўных законаў, штогод выплачваў грошы папе ў знак васальнай залежнасці. Адносіны пагоршыліся, калі Фрыдрых II паспрабаваў вярнуць сваю ўладу над Італіяй. У адказ на папрокі папы, сярод якіх яму ставілася ў віну невыкананне абяцання адправіцца ў крыжовы паход на Усход яшчэ ў 1216 г., Фрыдрых II заявіў у рэзкім тоне, што ён з'яўляецца апекуном папскай дзяржавы і мае асобыя правы ў дачыненні да царквы.

Да рашучай сутычкі дайшло пры наступным папе Грыгорыі IX (1227 – 1241). За адмову выступіць у крыжовы паход папа адлучыў імператара ад царквы і наклаў інтэрдыкт на ўсе месцы, дзе будзе знаходзіцца прakляты імператар. Прыхільнікі Фрыдрыха II у адказ выгналі папу з Рыма. Адлучаны папай імператар усё ж адправіўся ў крыжовы паход. Там яму ўдалося дасягнуць галоўнай мэты крыжакоў – вярнуць Іерусалім хрысціянам. Прычым зроблена гэта было не крывавай разнёй, а дыпламатычным шляхам праз выкарыстанне зацятай барацьбы паміж унукамі Салах-ад-Дзіна, якія правілі Егіптам і Сірыяй. Здавалася б, чаго яшчэ трэба! Але ж папа абвінаваціў Фрыдрыха II у тым, што ён вёў справы з нявернымі і нават наклаў на Іерусалім інтэрдыкт. Калі імператар вярнуўся ў Еўропу, папа накіраваў у падуладную Фрыдрыху Сіцылію свае войска. Фрыдрых II разбіў армію папы, і той вымушаны быў зняць з яго сваё праклящце. Але ў 1239 г. Грыгорый IX ужо ў другі раз адлучыў імператара ад царквы. У самы разгар новай хвалі канфлікту папа памёр.

Фрыдрых II, не тоячыся святкаваў гэта як перамогу. Але і наступны папа Інакенцій IV (1243–1254) працягнуў барацьбу з ім. Папа вымушаны быў схавацца ад Фрыдрыха ў Францыі, адкуль у чарговы раз адлучыў яго ад царквы і вызваліў яго падданых ад прысягі вернасці. Інакенцій IV адважыўся нават на нябачаную яшчэ справу – на імператара быў арганізаваны крыжовы паход. Але становішча Фрыдрыха II у Германіі было моцным да самай яго смерці ў 1250 г. Ва ўзброенай жа барацьбе з нашчадкамі Фрыдрыха папа перамог з дапамогай французскага прынца Карла Анжуйскага. Фізічна былі знішчаны ўсе мужчыны дынастыі Гогенштаўфенаў.

Гэта быў трыумф папства. Аднак, перамога над манархам буйнейшай дзяржавы Еўропы прывяла праз некаторы час да пераацэнкі ўласнай моцы апошняга папы рымскага XIII ст. Баніфацыя VIII. Папа не зразумеў перамен у сітуацыі ў Еўропе, калі час раздробленасці змяняўся часам стварэння моцных цэнтралізаваных дзяржаў. Адной з такіх дзяржаў была Францыя і бясслаўная сутычка з французскім каралём Філіпам IV Прыгожым азначала крах палітычных амбіцый папства.

**Асноўныя манаскія ордэны высокага сярэдневякоўя.** Высокае сярэдневякоўе – гэта перыяд бурнага росту манаства. Былі створаны сотні манаскіх ордэнаў, шмат новых манаскіх статутаў. З'явіліся новыя, невядомыя да гэтага формы манаства, напрыклад духоўна-рыцарскія, жабрацкія ордэны. У рэшце рэшт царкоўнае кіраўніцтва, занепакоенае тым, каб гэта не прывяло да анархіі і канфліктаў у манаскім асяроддзі, на IV Латэранскім саборы ў 1215 г. пастанавіла не ствараць новых ордэнаў, а новастворанным манаскім супольнасцям жыць па адным з ужо існуючых статутаў. Выключэнні з гэтага правіла рабіліся рэдка і абавязкова патрабавалі асабістай санкцыі рымскіх пап. Манаскія ордэны (і мужчынскія, і жаночыя), нягледзячы на агульныя галоўныя рысы (перш за ўсё, абавязковыя для ўсіх манахаў зарокі цнатлівасці, жабрацтва і паслушэнства), усё ж мелі істотныя адрозненні ў сваім унутраным жыцці, у мэтах дзейнасці, у месцы і ролі, якую яны адыгрывалі ў грамадстве.

У пачатку высокага сярэдневякоўя вялікі ўплыў мелі бенедыктынцы. Але гэты ордэн з яго дэцэнтралізацыяй, аўтаноміяй асобных кляштараў неўзабаве саступіў месца новым. З X ст. многа манастыроў далучылася да клюнійскага аб'яднання. Але і клюнійскі рух не змог задаволіць многіх набожных людзей, якія імкнуліся жыць строга па евангельскіх ідэалах. Як рэакцыя на незадавальненне існаваўшымі на той час нормамі манастырскага жыцця, Заходнюю Еўропу на рубяжы I і II тысячагоддзяў ахапіла “другая хваля” пустэльніцтва. Гэта падагравалася эсхаталагічнымі чаканнямі, звязанымі са сканчэннем I тысячагоддзя ад нараджэння Хрыста. Многія з новых анахарэтаў набылі вялікую папулярнасць. Новая хваля пустэльніцтва сваім вынікам мела ўзнікненне шэрагу новых манаскіх ордэнаў, якія характарызаваліся суровым аскетызмам, поўнай замкнёнасцю ад астатняга свету. Гэтыя ордэны, вядома, мелі мінімальны ўплыў на жыццё грамадства. Такімі ордэнамі былі, ў прыватнасці, картэзіянцы, камедулы, валамбразіяны.

Першы кляштар картэзіянцаў быў заснаваны ў 1084 г. каля Грэнобля ў мясцовасці Шартрэз (што на латыні гучала як Cartusia – адсюль і назва ордэна). Эліту манахаў-аскетаў абслугоўвалі манахі ніжэйшага разраду, галоўным абавязкам якіх была фізічная праца. Ордэн, як і іншыя падобныя да яго, быў нешматлікім. Картэзіянцы з'явіліся і на Беларусі, праўда, позна – у XVIII ст., і манастыр іх быў толькі адзін – у Бярозе.

Неўзабаве на першыя ролі па масавасці і ўплыве на царкву і грамадства выйшлі ордэны цыстэрцыянцаў і прэманстрантаў, заснаваныя на рубяжы XI–XII ст.

Цыстэрцыянцы атрымалі сваю назву ад мясцовасці (Сіто – Cistercium), дзе ў 1098 г. быў заснаваны іх першы кляштар. Гэтыя манахі жылі па статуту Бенедыкта, але выконвалі яго вельмі строга: ежа была выключна вегетарыянскай, жылі толькі за кошт працы ўласных рук. Гэта адпужвала многіх, а пералом

адбыўся тады, калі ў ордэн уступіў 20-гадовы знатны феадал Бернар, заснаваўшы кляштар у Клерво. Бернар Клервоскі быў ярым прыхільнікам папскай тэакратыі, стаў ініцыятарам другога крыжовага паходу, ён быў галоўным абвінаваўцам у ерасі Пятра Абеляра і Арнольда Брэшыянскага. З цягам часу ён стаў найбольш уплывовай персонай у каталіцкім свеце, дыктаваў сваю волю папам, французскаму каралю.

Папулярнасць цыстэрцыянцам прынеслі як царкоўная і грамадская дзейнасць Бернара, так і змякчэнне ім строгасцей статута. Прынцып самазабеспячэння манахаў застаўся, але каб апрацаваць вялікія абшары падараванай і неасвоенай зямлі, Бернар увёў падзел манахаў ордэна на два разрады: духоўных і свецкіх братоў. Духоўная эліта канцэнтравалася на малітвах і іншых праявах рэлігійнага жыцця, яе складалі выхадцы з феадальных сем'яў. Шматлікія ж свецкія браты, якія давалі тыя ж манаскія зарокі, але паходзілі з сялян, галоўным абавязкам іх была фізічная праца. Яны не мелі права голасу ў ордэне, былі звычайна непісьменнымі. Дзякуючы бясплатнай працы свецкіх братоў, цыстэрцыянцы асвоілі шмат залежных зямель, браліся за складаныя на той час работы (напрыклад, меліяратыўныя). Яны набылі славу піянераў агратэхнікі. Багацці ордэна раслі і ў выніку гандлёвых аперацый, паставак сыравіны. Цыстэрцыянцы яшчэ пры жыцці Бернара сталі адным з найбольш масавых і багатых ордэнаў. Ужо ў 1150 г. ордэн меў 350 кляштараў.

Структура ордэна была федэратыўнай. Пяць першых (па часе заснавання) кляштараў лічыліся галоўнымі. Астатнія групаваліся вакол іх у пяць аб'яднанняў, абат аднаго з пяці галоўных кляштараў кантраляваў жыццё падуладных яму кляштараў. Штогод збіраўся генеральны капітул з усіх абатаў, які прымаў абавязковыя для ўсіх цыстэрцыянцаў пастановы.

У пачатку XII ст. узнік ордэн прэманстрантаў, якіх называлі таксама нарбертанамі па імені іх заснавальніка. Структура ордэна нагадвала такую як і ў цыстэрцыянцаў. Існаваў такой жа падзел манахаў на эліту і канверзаў, якія не мелі поўных правоў у ордэне і займаліся фізічнай працай. Важнейшыя рашэнні прымаліся генеральным капітулам. Своеасаблівы "ўрад" прэманстрантаў складаўся з абатаў чатырох галоўных кляштараў. Як і цыстэрцыянцы, прэманстранты хутка сталі адным з самых багатых і ўплывовых ордэнаў. Праз 100 гадоў пасля заснавання ордэн меў больш за 1000 кляштараў. Канверзы ордэна апрацоўвалі вялікую колькасць зямель. Галоўным адрозненнем нарбертан ад цыстэрцыянцаў было тое, што заснаваны ён быў рэгулярнымі канонікамі (святарамі, якія жылі разам па манаскіх зароках), і яго манахі-святары выконвалі набажэнствы і абрады.

Абодва гэтыя ордэны да пачатку XIII ст. адсунулі на другія ролі бенедыктынцаў і клюнійцаў. Каб не ўзнікала ўзаемных канфліктаў, генеральныя капітулы цыстэрцыянцаў і прэманстрантаў дамовіліся аб падзеле сфер уплыву:

калі ў нейкай мясцовасці засноўваўся кляштар аднаго з ордэнаў, то другі не павінен быў будаваць свой кляштар побач.

У час крыжовых паходаў у Палесціне з'явіўся новы тып манаскіх ордэнаў, які раней было цяжка нават уявіць. Гэта былі духоўна-рыцарскія ордэны, заснаваныя рыцарамі, якія прынялі манаскія зарокі, дадаўшы яшчэ адзін – узброенай барацьбы з нявернымі. Найбольш буйнымі з тых, што ўзніклі ў Палесціне, – гэта ордэны тампліераў, іаанітаў (шпітальераў), тэўтонаў. Шэраг ордэнаў быў створаны на Пірэнейскім паўвостраве ў ходзе Рэканкісты (Алькантара, Калатрава, Святога Якава Кампастэлійскага – з сярэдзіны XIII ст.). Ва Усходняй Прыбалтыцы ў 1202 г. узнік ордэн Рыцараў Хрыста (мечаносцаў).

Духоўна-рыцарскія ордэны складаліся з воінаў-манахаў. Іх галоўны абавязак і занятак – вайна з нявернымі і падрыхтоўка да яе. Гэта вызначала асаблівасці іх статутаў, якія не патрабавалі доўгіх пастоў, не забаранялі есці мяса, жорстка абавязвалі захоўваць дысцыпліну. Дробязныя палажэнні іх статутаў рэгламентавалі ўсё, што так ці інакш было звязана з узброенай барацьбой. Так, тампліерам забаранялася насіць доўгія валасы, бо яны маглі перашкодзіць падчас бітвы, зброя рыцараў-манахаў павінна была быць якаснай, але без залатых ці срэбраных упрыгожванняў. Структура такіх ордэнаў у галоўных рысах была аднаго ўзору. Галоўны яе прынцып – іерархічнасць. Усе манахі падзяляліся на тры ці чатыры разрады. Вышэйшы складалі браты-рыцары, абавязковым патрабаваннем для якіх было іх паходжанне з сем'яў феадалаў. Толькі браты-рыцары мелі поўныя правы ў ордэне, толькі яны збіраліся на генеральныя капітулы, дзе вырашаліся важнейшыя пытанні жыцця ордэна і выбіраўся вялікі магістр (альбо гросмайстар, як у тэўтонаў). Ніжэй стаялі браты-збраяносцы, звычайна з заможных гараджан. Толькі гэтыя два разрады манахаў удзельнічалі ў баявых дзеяннях, збраяносцы ваявалі са сваімі рыцарамі або складалі асобныя фарміраванні. Найбольш бяспраўнымі былі манахі-слугі, якія абслугоўвалі братоў-рыцараў і збраяносцаў. У шэрагу ордэнаў быў і разрад капеланаў (святароў), якія выконвалі набажэнствы, абрады, праўда, у іншых ордэнах іх не ўключалі ў склад манахаў.

На чале кожнага ордэна знаходзіўся вялікі магістр, які абіраўся братамі-рыцарамі пажыццёва. Улада яго была манархічнай, загад вялікага магістра быў законам для манахаў-воінаў. Пры вялікім магістры звычайна існаваў савет з некалькіх дыгнітарыяў, іншых вышэйшых персон у ордэне. У розных ордэнах склад іх быў неаднолькавым. У тампліераў гэта былі маршал (займаўся ваеннымі справамі і ўзбраеннем), вялікі камандор Іерусалімскага каралеўства (адміністрацыйныя і гаспадарчыя справы), сенешал (фактычна дублёр вялікага магістра). У шпітальераў дыгнітарыямі былі і вялікі шпітальер (гігіена і медыцына), вялікі адмірал (калі яны заснавалі сваю астраўную дзяржаву). Дыгнітарыі былі памочнікамі і дарадцамі вялікага магістра і складалі

своеасаблівы ўрад ордэна. Браты-рыцары кожнага ордэна мелі адметную форменную вопратку з сімволікай, зацверджаную рымскім папам. Тампліеры насілі белыя плашчы з выявай чырвонага крыжа на спіне (іх збраяносцы апраналі плашчы цёмнага ці бронзавага колеру), шпітальеры – чорныя плашчы з выявай на яго левым баку белага шырокалапчастага крыжа, які пазней назавуць мальтыйскім (у бой яны звычайна ішлі ў чырвоных туніках з белым крыжам), тэўтоны на свае белыя плашчы нашывалі з левага боку тонкі чорны крыж, а мечаносцы на спінах белых плашчоў мелі выявы чырвонага крыжа і мяча. А сімволіка ў іспанскіх рыцараў ордэна Крыла святога Міхаіла цалкам адпавядала назве – на плашчы была выява гэтага крыла.

Буйнейшыя духоўна-рыцарскія ордэны, створаныя ў Палесціне, атрымалі шмат істотных прывілей ад рымскіх пап. Яны былі вызвалены ад падпарадкавання любым свецкім і духоўным уладам, акрамя папы. У тагачасным грамадстве яны былі фактычна незалежнымі арганізацыямі, і павінны былі стаць надзейнай, прытым узброенай, апорай папства. На практыцы так і было, за выключэннем, бадай што, некаторых эпізодаў з гісторыі Тэўтонскага ордэна.

Спачатку ордэны дзейнічалі ў Палесціне. За іх барацьбу з нявернымі яны атрымалі шмат уладанняў не толькі ад іерусалімскіх каралёў, але і ў многіх краінах Еўропы. Пасля выгнання мусульманамі крыжакоў з Блізкага Усходу лёс духоўна-рыцарскіх ордэнаў складваўся па-рознаму.

Першы з гэтых ордэнаў (па афіцыйным зацвярджэнні папам рымскім –1128 г.) – ордэн тампліераў атрымаў назву ад суседства яго галоўнай рэзідэнцыі ў Іерусаліме з былым храмам Саламона (templum Solomonis). Акрамя даходаў ад зямель, тампліеры яшчэ ў часы крыжовых паходаў заняліся фінансавымі аперацыямі. Іх буйнейшыя кляштары ў Парыжы і Лондане іншы раз называюць цэнтрамі тагачаснай фінансавай сістэмы Заходняй Еўропы. Многія багатыя людзі, у тым ліку каралі, лічылі за лепшае зберагаць свае скарбы ў падзямеллях добра ўмацаваных замкаў-кляштараў пад надзейнай аховай выдатных воінаў. Там можна было атрымаць і пазыкі, тым больш, што тампліеры стаялі па-за рамкамі палітычных канфліктаў у Еўропе, і ваяваўшыя англійскі і французскі каралі маглі атрымаць пазыкі ў тампліераў адпаведна Парыжа і Лондана. Пры тагачаснай небяспецы дарог было даволі зручным для падарожніка здаць свае грошы ў бліжэйшую камандорыю тампліераў і па атрыманым сертыфікаце атрымаць неабходную суму ў камандорыі па месцы прыбыцця. Аднак багацце і згубіла гэтых буйнейшых фінансістаў Еўропы. На яго ў пачатку XIV ст. паквапіўся французскі кароль Філіп IV. Па яго волі і са згоды “кішэннага” папы француза Клімента V у адну з кастрычніцкіх начэй 1307 г. тампліеры па ўсёй Францыі былі арыштаваны. Іх судзілі па абвінавачваннях у ерасі, зносінах з д'яблам і г. д. У 1312 г. царкоўны сабор афіцыйна ліквідаваў ордэн тампліераў, яго манахі-воіны (па-за межамі Францыі) былі павінны ўліцца ў склад ордэна шпітальераў.

Гэты ордэн быў афіцыйна зацверджаны ўсяго праз некалькі гадоў пасля тампліераў. Праўда, перадгісторыя яго была больш доўгай, бо пачаткі ордэна ўзыходзілі да італьянскага шпітальнага брацтва, якое ўзнікла ў мусульманскім яшчэ Іерусаліме каля сярэдзіны ХІ ст. Пры зацвярджэнні папам у 1137 г. ордэн атрымаў афіцыйную назву "Рыцары Іерусалімскага шпіталя святога Іаана Хрысціцеля". Шпітальеры (ці іааніты) хутка сталі ўласнікамі зямель у Еўропе і на Блізкім Усходзе, у гарадах яны валодалі гандлёвымі лаўкамі, пякарнямі, мельніцамі, лазнямі і г. д. Займаліся яны і фінансавымі аперацыямі. Пасля выгнання крыжакоў з Палесціны шпітальеры захапілі востраў Радос і стварылі там сваю дзяржаву. Дзеля барацьбы з нявернымі яны перакваліфікаваліся з коннікаў у маракоў. У 1522 г. пры асадзе туркамі Радоса шпітальеры капітуліравалі на ганаровых умовах і з усім, што можна было ўзяць на караблі, пакінулі востраў. Неўзабаве новай тэрыторыяй іх дзяржавы стаў востраў Мальта.

Афіцыйная назва створанага ў Палесціне (1198) Тэўтонскага ордэна была "Ордэн шпіталя Найсвяцейшай Дзевы Марыі нямецкага дома ў Іерусаліме". Ён таксама паходзіў са шпітальнага брацтва немцаў-крыжакоў у Палесціне. Асаблівасцю ордэна было тое, што ў яго маглі ўступіць толькі нямецкамоўныя рыцары. Гэтага патрабавання не было ў статуце, але яно выконвалася строга. Адсюль і другая назва ордэна – у гонар германскага племені, якое адным з першых напала на Рымскую дзяржаву. Тэўтонскі ордэн не адыгрываў спачатку якой-небудзь істотнай ролі. Пералом адбыўся пры чацвёртым гросмайстры Германе фон Зальцы (1209–1239 гг.). Гэты лоўкі і дальнабачны дыпламат здолеў за кароткі час атрымаць ад папы Ганорыя III усе тыя прывілеі, якія ўжо мелі тампліеры і шпітальеры. Герман фон Зальца заручыўся і моцнай падтрымкай імператара Фрыдрыха II Гогенштаўфена. Гросмайстар добра разумеў, што панаванню крыжакоў на Блізкім Усходзе надыходзіць канец і пачаў шукаць шляхі для стварэння ордэнскай дзяржавы ў Еўропе. Першы шанец быў нявыкарыстаны. У 1211 г. венгерскі кароль Андрэй II падараваў тэўтонам землі ў Трансільваніі ўзамен на абяцанне рыцараў бараніць рубяжы яго дзяржавы ад полаўцаў. Але Герман фон Зальца абвясціў, што аддае гэтыя землі ў якасці васальных папе рымскаму. Абураны кароль у 1225 г. выгнаў тэўтонаў з Венгрыі.

Аднак не прайшло і года, як польскі князь Конрад Мазавецкі запрасіў тэўтонаў ва Усходнюю Прыбалтыку для барацьбы на польскіх рубяжах з прусамі. Ад Конрада тэўтоны атрымалі хелмінскія землі. Так быў пакладзены пачатак тэўтонскай дзяржаве ва Усходняй Прыбалтыцы. Тэўтоны вынішчылі прусаў, заваявалі і іншыя народы Прыбалтыкі на некалькі стагоддзяў сталі злейшымі ворагамі прыбалтаў, ўсходнеславянскіх народаў, палякаў. Пасля разгрому літоўцамі мечаносцаў пад Шауляем у 1236 г. па загадзе папы рымскага ў 1237 г. рэшткі гэтага ордэна ўліліся ў Тэўтонскі ордэн і склалі адну з яго 10 правінцый (Лівонскую).

Нялёгкія часы перажыў Тэўтонскі ордэн падчас канфлікту рымскага папы з Фрыдрыхам II. Ордэн выступіў на баку германскага караля. У 1241 г. справа дайшла да вайны ў Іерусалімскім каралеўстве паміж тэўтонамі і тампліерамі, якія падтрымалі папу. Тэўтонскі ордэн перажываў тады крызіс. У 1244 г. у рады тампліераў перайшоў гросмайстар Герард фон Мальберг, у 1256 г. ад сваёй пасады адмовіўся гросмайстар Вільгельм фон Урэнбах. Але тэўтоны не выканалі распараджэння папы ўліцца ў ордэн шпітальераў. Тэўтонскі ордэн праіснаваў да 1525 г., калі яго гросмайстар Альбрэхт Гогенцолерн абвясціў сябе герцагам, а тэўтонскую дзяржаву – свецкім уладаннем. Аналагічны лёс напаткаў у 1561 г. і Лівонскі ордэн.

Яшчэ адным прынцыпова новым тыпам манаскіх ордэнаў былі жабрацкія. Найбольш уплывовыя з іх былі францысканскі і дамініканскі. Першы з жабрацкіх ордэнаў – францысканскі – нарадзіўся на хвалі масавага незадавальнення багаццямі царквы і патрабаванняў звароту да евангельскай прастаты. Гэта было небяспечным для царквы, бо вылівалася ў радыкальныя ерасі, напрыклад альбігойскую са спробамі стварэння асобай, чыстай ад тагачасных заган царквы. Папа Інакенцій III зразумеў, што адных крыжовых паходаў у барацьбе з такой з'явай недастаткова і трэба ўвесці імкненне да евангельскай беднасці ў афіцыйныя рамкі пад кантролем царквы, каб не дапусціць істотных змен у яе становішчы. Таму ён з прыхільнасцю аднёсся да прапановы Францыска Асізскага аб стварэнні ордэна манахаў-жабракоў.

Заснавальнік ордэна Францыск (свецкае імя Джавані Бернардоні) паходзіў з сям'і багатага гандляра з італьянскага горада Асізы. У маладосці займаўся гандлем. Але пасля палону і цяжкай хваробы рэзка змяніў лад жыцця. Ён зрабіўся пустэльнікам, аскетам. Францыск і яго першыя паслядоўнікі жылі ў поўнай галечы, ежу здабывалі падзённай працай, прасілі міласціну (браць грошы забаранялася). Францыск Асізскі прапаведаваў любоў не толькі да людзей, але і да ўсіх стварэнняў Божых (адсюль “брат жаваранак”, “сястра ластаўка”, “брат Сонца” і да таго падобнае). Ён імкнуўся да ідэалу апостальскага жыцця, заклікаў людзей жыць у міры, пакаяцца. Разам з тым ён не асуджаў багацці духавенства, не падвяргаў сумненню кіруючую ролю духавенства ў царкве. Францыск быў адным з першых стыгматыкаў: у 1224 г. на яго руках, нагах і на баку з'явіліся стыгмы – крывавыя плямы ў тых месцах, куды былі нанесены раны Ісусу Хрысту на крыжы. Францыска кананізавалі (абвясцілі святым) у 1228 г., усяго праз два гады пасля смерці.

Манахі заснаванага Францыскам ордэна жылі па яго “Правілу”, зацверджанаму папам Ганорыем III у якасці статута. Важнай асаблівасцю гэтага статута была адмова не толькі ад індывідуальнай уласнасці кожнага манаха, але і ад калектыўнай уласнасці ўсяго ордэна. Жыць манахі павінны былі за кошт уласнай працы і міласціны. Калі міласціны аказвалася больш, чым трэба для

мізэрнай ежы манаха, ён павінен быў раздаць тое, што заставалася, бедным людзям. Спачатку вандроўныя францысканцы не мелі пастаянных месцаў пражывання, іх кляштары з'явіліся пазней. Хутка ордэн стаў самым масавым, у пачатку другой паловы XIII ст. францысканцаў было ўжо больш за 200 тыс. У ордэн уступалі людзі з розных слаёў грамадства, але найбольш там было гарадской беднаты. На чале ордэна стаяў генерал, тэрыторыя дзейнасці францысканцаў у розных краінах падзялялася на правінцыі на чале з правінцыяламі. Іерархі ордэна выбіралі генерала на сваім сходзе – капітуле.

Францысканцы актыўна займаліся прапаведніцкай дзейнасцю, місіянерствам. Напрыклад, у канцы XIII ст. быў адпраўлены ў Кітай францысканец Іаан Монтэкарвіна, і ордэн асталяваўся і там. Разам з дамініканцамі францысканцы неўзабаве апынуліся на вядучых ролях у выкладанні ва універсітэтах. Сярод іх з'явіліся вядомыя вучоныя (Роджэр Бэкан, Уільям Окам, адзін з генералаў ордэна Джавані Банавентура і інш.). Францысканцы вялі барацьбу з ерасямі, прынялі ўдзел у інквізіцыі.

Па разліках пап ордэн францысканцаў быў створаны як сродак барацьбы з тагачасным масавым незадавальненнем багаццямі царквы, феадалаў. Ордэн павінен быў увабраць у сябе такіх незадаволеных, паставіць іх пад кантроль папства, бо ордэнскае кіраўніцтва патрабавала падпарадкавання царкоўнай іерархіі. Але такія разлікі не спраўдзіліся цалкам. Гэтае незадавальненне востра праявілася ўнутры ордэна ў руху спірытуалаў, якія настойвалі на строгім выкананні запаветаў Францыска Асізскага, перш за ўсё абсалютнай галечы. Праціўнікамі іх выступалі канвентуалы, якія лічылі магчымым адступленне ад гэтага прынцыпу. Верх узялі апошнія, і папа Інакенцій IV змякчыў строгасці статута францысканцаў, абвясціўшы, што ўсё, чым валодае ордэн, з'яўляецца ўласнасцю папы, а манахі толькі карыстаюцца гэтай папскай уласнасцю. Такім чынам была абыдзена забарона Францыска мець індывідуальную ці калектыўную (усяго ордэна) уласнасць. Спірытуалы выступілі супраць гэтага рашэння. Іх лідэры асуджалі “плоцевую” (г. зн. афіцыйную) царкву і прадказвалі замену яе царквою “духоўнай”, заснаванай на першахрысціянскіх ідэалах. У спірытуалаў знайшлося нямала прыхільнікаў і сярод свецкіх людзей. З асяроддзя спірытуалаў выйшаў Сегарэлі, заснавальнік секты “апостальскіх братоў”, якая падрыхтавала паўстанне Дальчына. У рэшце рэшт погляды спірытуалаў былі аб'яўлены ерассю, і да 30-х гадоў XIV ст. іх рух быў разгромлены.

Заснавальнікам яшчэ аднаго жабрацкага ордэна быў іспанскі манах Дамінік Гусман. У пачатку XIII ст. разам са сваім абатам яго паслалі на поўдзень Францыі для барацьбы з ерассю альбігойцаў. Дыспуты с альбігойцамі пераканалі яго ў неабходнасці стварэння для барацьбы з ератыкамі манаскага ордэна, манахі якога мелі б глыбокую багаслоўскую падрыхтоўку і маглі б уздзейнічаць на веруючых як пропаведзямі, так і асабістым прыкладам па ўзоры апостальскага ладу жыцця.

У 1216 г. папа Ганорый III зацвердзіў ордэн дамініканцаў. Дамінік пасля смерці быў абвешчаны святым. Галоўнай мэтай ордэна была барацьба з ерасямі. Для таго каб палемізаваць з ератыкамі, дамініканцы атрымлівалі сур'ёзную тэалагічную адукацыю. Пры кожным іх кляштары дзейнічала школа, а ў Балонні, Манпелье, Кёльне, Оксфардзе дамініканцы стварылі свае вышэйшыя школы. Яны занялі багаслоўскія кафедры ва універсітэтах Заходняй Еўропы. З іх асяроддзя выйшла шмат вядомых тэолагаў сярэдневякоўя (найбольш знакаміты Фама Аквінскі). У 1232 г. дамініканцам была перададзена інквізіцыя, што рэзка ўзняло ролю ордэна ў каталіцкай царкве. Дамініканцы сталі афіцыйнымі цэнзарамі прававерʼя, атрымалі ў свае рукі магутную зброю барацьбы з ератыкамі, праціўнікамі папства. Адным з важных кірункаў дзейнасці ордэна было і місіянерства – дамініканцы дабіраліся нават да Манголіі і Кітая.

У адрозненне ад францысканскага, дамініканскі ордэн ніколі не адзначаўся шматлікасцю. Гэта быў элітны ордэн. Ён быў багаты, забарона на маёмасць ордэна была абыдзена такім жа шляхам, як і ў францысканцаў.

Абодва жабрацкія ордэны мелі яшчэ адзін моцны канал уплыву на грамадства. Яны заснавалі своеасаблівыя ордэны для сваіх свецкіх прыхільнікаў, у францысканцаў іх называлі тэрцыярыямі, дамініканскі ордэн такога кшталту меў назву “Рыцарства Хрыстова”. У склад іх уваходзілі людзі, якія заставаліся жыць у свеце і працягвалі свае паўсядзённыя справы, але імкнуліся наблізіцца да прынцыпаў манаскага жыцця.

І Францыск, і Дамінік стварылі свае жаночыя манаскія ордэны. Існавала і многа іншых жаночых ордэнаў, створаных пераважна ў высокім сярэдневякоўі ва ўмовах дэмаграфічнага росту. Але ўсё ж у сярэдневякоўі манаства было галоўным чынам мужчынскім. Гэта абумоўлівалася поглядамі на месца жанчыны ў грамадстве, дзе ёй адводзілася роля пакорлівай жонкі, абавязанай нараджаць і выхоўваць дзяцей, абслугоўваць мужчыну. Сялянкам да таго ж была ўгатавана цяжкая фізічная праца. Іх наогул рэдка прымалі ў манастыры. Шлях туды быў адкрыты пераважна для жанчын з сямей феадалаў. Аскетычныя нормы іх жыцця для многіх простых сялянак здаваліся мараю. Звычайна жаночыя манастыры былі эканамічна больш слабымі, чым мужчынскія, існавала і шмат праблем са святарамі для манашак, бо жанчыны не маглі станавіцца свяшчэннаслужыцелямі. Усё гэта зусім не азначала, што жанчыны былі менш рэлігійнымі.

**Царква і ерасі.** Эпоха позняй антычнасці, калі хрысціянства набыло статус афіцыйнай рэлігіі Рымскай імперыі, прынесла з сабою бурлівы ўсплёск мноства ерасяў, ератычныя рухі ўцягнулі ў сябе вялікія масы людзей. Царкве прыйшлося прыкласці шмат намаганняў для іх падаўлення. У раннім сярэдневякоўі сітуацыя была іншай. Калі ва ўсходняй (візантыйскай) царкве па-ранейшаму вяліся вострыя багаслоўскія спрэчкі, ўспыхвалі масавыя ератычныя рухі, напрыклад, іканаборства, якое нават мела імператарскую падтрымку, то на захадзе Еўропы

наступіла адноснае зацішша. Гэта было абумоўлена не столькі тым, што і ў антычнасці Захад нараджаў менш ерасяў, чым Усход, колькі тымі бурлівымі падзеямі, якія перажыла Заходняя Еўропа ў раннім сярэдневякоўі. Сказаліся войны і заваяванні варвараў-арыян (нават духавенства якіх слаба разбіралася ў тэалагічных разыходжаннях з афіцыйнай царквою) і варвараў-язычнікаў, паступовы працэс хрысціянізацыі язычнікаў, які працягваўся і ў высокім сярэдневякоўі. Безумоўна, сваю ролю адыграў агульны культурны заняпад. Ды і сацыяльныя супярэчнасці не дасягнулі той вастрыні, якую яны набылі ў другім перыядзе сярэдніх вякоў. Галоўныя намаганні царквы былі накіраваны на выкараненне рэштkaў прымітыўнага паганства ў свядомасці і звычках нядаўна ахрышчаных людзей. Нешматлікія ерасі ў заходнееўрапейскім раннім сярэднявеччы былі з большага здабыткам роздумаў адзінотак-інтэлектуалаў, накшталт вучэння манаха Готшалка аб прадвызначэнні адных людзей да паратунку, а другіх – да граху і пагібелі ці глыбока філасофскіх поглядаў Іаана Скота Эрыўгены на містычнае пазнанне Бога, на праблему паратунку чалавека, на сутнасць свету як эманацыі Бога. Сімптаматычна, што няпростыя для асэнсавання ідэі Эрыўгены былі асуджаны рымскімі папамі як процілеглыя вучэнню царквы толькі ў XII і XIII ст. Заняпад гарадскога жыцця ў раннім сярэдневякоўі ў значнай меры пазбавіў ерасі іх традыцыйнай для антычнасці масавай сацыяльнай базы.

Значныя змены, якія адбыліся ў жыцці заходнееўрапейскай цывілізацыі ў высокім сярэдневякоўі, падрыхтавалі глебу і да новых ератычных рухаў. Да ерасяў царква залічала разнастайныя вучэнні, якія разыходзіліся з яе афіцыйнай дактрынай. Сярод іх былі і вучэнні адзінотак-інтэлектуалаў, і ідэі ерасіярхаў, вакол якіх аб'ядноўвалася вузкае кола паслядоўнікаў-сектантаў, і радыкальныя вучэнні, якія ахоплівалі вялікія масы людзей, бо мелі яўны сацыяльны падтэкст, нягледзячы на тое, усведамлялі гэта ці не іх заснавальнікі. Апошнія былі найбольш небяспечнымі як для царквы, так і для тагачаснага грамадскага ладу. Царква была ідэалагічным гарантам грамадскіх адносін у сярэдневякоўі, а духавенства – першым, галоўным саслоўем грамадства. Трэба ўлічваць, што ва ўмовах, калі свядомасць і паводзіны людзей былі прасякнуты рэлігійнасцю, любы адкрыты адыход ад афіцыйнага веравучэння разглядаўся кансерватыўнай большасцю грамадства як выклік яго нормам, асновам.

Асуджэнне багаццяў царквы, уцягванне духавенства ў феадальныя адносіны набывала і выключна радыкальныя формы. Адзін з яскравых прыкладаў злучэння ерасяў з камунальным рухам можна назіраць у вучэнні Арнольда Брэшыянскага і антыпапскага паўстання ў Рыме 1143 – 1155 гг. Арнольд з Брэшыі быў вучнем Пятра Абеляра. Услед за сваім настаўнікам ён асуджаў вышэйшае духавенства за раскошу і распутства, сіманію, але пайшоў далей, абвінавачваючы епіскапаў і абатаў у патуранні рабаўніцтву і забойствам феадальных войн і заклікаў вярнуць царкву да яе першахрысціянскага становішча. Яго ідэалам была бедная царква без

багатых і заганных епіскапаў. За гэта Арнольд (як і Пётр Абеляр) быў абвінавачаны ў ерасі. Арнольду ўдалося патрапіць у Рым, гараджане якога выгналі свайго сеньёра-папу і абвясцілі рэспубліку. Палымяны аратар узначаліў паўстанне, хоць і не займаў у Рымскай рэспубліцы ніякіх афіцыйных пастоў. Нездарма яго галоўны праціўнік Бернар Клервоскі даваў такую характарыстыку Арнольду: “Яго зубы – зброя і стрэлы, яго язык – востры меч”. Папа здолеў падавіць паўстанне толькі з дапамогай Фрыдрыха Барбаросы і выкарыстаўшы беспрэцэдэнтную меру – накладанне на Рым, апостальскую сталіцу, інтэрдыкту. Схоплены Фрыдрыхам Барбаросай, Арнольд Брэшыянскі быў пакараны смерцю.

Найбольшы размах у высокім сярэдневякоўі набыла ерась альбігойцаў. Так называлі ератыкоў вальдэнсаў і катараў поўдня Францыі, адным з цэнтраў якіх быў горад Альбі. Паміж ерасямі вальдэнсаў і катараў было шмат падобнага, але існавалі і істотныя адрозненні. Яны ўзніклі ў эканамічна квітнеючым рэгіёне поўдня Францыі – Лангедоку.

Ерась катараў (ад грэч. katharos – чысты) з'явілася ў XI ст. і не толькі ў Францыі, але і ў Італіі. Асноўная ідэя іх вучэння – дуалізм у светабудове. Паводле іх поглядаў у свеце існуюць два пачаткі: Дабро (Бог) і Зло (Сатана). Матэрыяльны свет ёсць стварэнне Сатаны. Адсюль і феадальныя адносіны ў грамадстве выступалі як параджэнне Сатаны. Каталіцкую царкву яны лічылі д'ябальскай, называлі “маці распусты”, “вялікім Вавілонам”, католікаў абвяшчалі ератыкамі. Катары адверглі царкоўныя таінствы, абрады, набажэнствы, іконы, крыж, шмат догматаў. Яны адмаўлялі ўваскрашэнне цела і лічылі, што ўваскрасае толькі душа чалавека, якая пакідае зямны свет Сатаны і ўзносіцца ў вышэйшы свет. Па іх вучэнні паратунак чалавеку дае толькі прыналежнасць яго да катараў і выкананне над паміраючым асобага абраду “суцяшэння”.

У процівагу каталіцкай царкве катары стварылі сваю царкоўную арганізацыю. Усе яны былі падзелены на “дасканалых” і “веруючых”. Нешматлікія “дасканалыя” вялі строга аскетычны лад жыцця і толькі з іх фарміравалася іерархія кіраўніцтва. Асноўнымі прыхільнікамі гэтага вучэння былі рамеснікі, гандляры, сяляне. Да іх далучылася і шмат феадалаў поўдня Францыі, якія былі апазіцыйна настроены супраць каралеўскай улады і пакваліліся на маёмасць каталіцкіх храмаў і кляштараў.

Вальдэнсы атрымалі сваю назву ад прозвішча ліёнскага купца Пятра Вальдо, які ў пачатку 70-х гадоў XII ст. адмовіўся ад сваёй маёмасці, абвясціўшы, што жыць трэба ў беднасці, і заснаваў першае брацтва сваіх прыхільнікаў. Забарона папамі пропаведзяў Пятра і адлучэнне вальдэнсаў ад царквы далі адваротны эфект – рух пашырыўся і радыкалізаваўся.

Сярод вальдэнсаў пераважалі рамеснікі і сяляне. Тыя, хто ўступаў у іх арганізацыю, давалі зарокі беднасці і цнатлівасці. Каталіцкую царкву вальдэнсы лічылі ўстановай зла, адвяргалі яе іерархію духавенства. Яны стварылі ўласную

царкву з выбарнымі епіскапамі. Вальдэнсы адмаўлялі таінствы, замест каталіцкіх набажэнстваў стварылі свае, адверглі іконы, не хрысціліся. Яны адмоўна адносіліся да фізічнай працы, што было своеасаблівай формай сацыяльнага пратэсту. Вальдэнсы асуджалі царкоўнае землеўладанне, прымнажэнне багацця феадаламі, сцвярджалі, што любы чалавечы суд забаронены Богам. Сярод вальдэнсаў былі і радыкалы, і ўмераныя, на глебе чаго адбылося некалькі расколаў.

Не ў сілах падавіць альбігойскую ерась, царкоўнае кіраўніцтва вырашыла арганізаваць супраць ератыкоў крыжовы паход. Ён быў абвешчаны III Латэранскім саборам яшчэ ў 1179 г. Аднак жадаючых удзельнічаць у ім знайшлося нямнога, і, спусташыўшы шэраг тэрыторый Лангедоку, крыжакі праз два гады вярнуліся дадому. Наступны і апошні крыжовы паход быў арганізаваны папам Інакенціем III. У 1209 г. вялікія сілы крыжакоў на чале з баронам Сімонам дэ Манфорам уварваліся ў Лангедок. Паход суправаджаўся рабункамі, масавай разнёй мірнага насельніцтва. Толькі ў адной царкве ў г. Безье было забіта каля 7 тыс. чалавек, у асноўным старых, жанчын і дзяцей. Крыжакі спустошылі квітнеючы край. Калі ў альбігойскую вайну ўмяшаўся французскі кароль Людовік IX і да 1229 г. далучыў да свайго дамена шэраг тэрыторый, дзе дзейнічалі альбігойцы, з ерассю было фактычна скончана, хоць апошні бастыён альбігойцаў (крэпасць Мансегюр) быў узяты толькі ў 1244 г.

Працяглая і цяжкая барацьба з ерассю альбігойцаў востра паставіла перад царкоўным кіраўніцтвам праблему змагання з адступнікамі ад царкоўнай дактрыны. Важна было не дапусціць перарастання ерасяў у пагражальныя масавыя рухі, наносіць па ерасях прэвентыўныя ўдары. Мясцовы епіскапат, на які традыцыйна ўскладаўся абавязак выяўляць ератыкоў і караць іх, як паказалі падзеі, аказаўся не гатовым да належнага выканання гэтай місіі. Нават спрабавалі стварыць спецыяльныя органы супраць ератыкоў з боку свецкіх улад, напрыклад Фрыдрыха II. Але папства лічыла, што гэта павінна быць справаю царквы, а не каралёў.

Папа рымскі Грыгорый IX (1227–1241 гг.) стварыў надзвычайныя суды інквізіцыі. Інквізіцыя (ад лац. inquisitio – расследаванне) займалася выяўленнем і пакараннем ератыкоў. Яна была папскім інстытутам, а папа рымскі – яе вярхоўным галавою. Інквізітары прызначаліся папамі і падпарадкоўваліся толькі ім. Інквізіцыя заахвочвала даносы, у тым ліку і ананімныя. З гэтай ініцыятывы ўзнікла цэлая хваля даносаў, сярод якіх шмат было надуманых, карыслівых – людзі помсцілі адзін аднаму за былыя крыўды, даносілі з-за зайздрасці і г. д. Інквізіцыя была надзвычайным судом і дзейнічала па сваіх надзвычайных правілах. Абвінавачанага ў нешматлікіх выпадках, калі ён мог апраўдацца перад вытанчанымі знаўцамі багаслоўя дамініканцамі, адпускалі дадому. Калі ж ён прызнаваўся ў няправільных поглядах, то інквізітары накладалі на яго пакаранне,

якое магло быць цяжкім (доўгае турэмнае зняволенне, цялесныя пакаранні) ці было царкоўнай епітым'яй (пакаянне праз пэўныя пакуты: пост, доўгія малітвы і г. д.). Звычайна пры гэтым маёмасць вінаватага канфіскоўвалася. Упартага ератыка або таго, хто трапляў у суд інквізіцыі не першы раз, адлучалі ад царквы і перадавалі ў рукі свецкіх улад. Для чалавека, пастаўленага такім чынам па-за грамадствам, гэта азначала смяротнае пакаранне. Яго выконвала не інквізіцыя, а свецкія ўлады (звычайна спальвалі на вогнішчы падчас адпаведнай урачыста-жалобнай цырымоніі).

Дзейнасць інквізіцыі дала значны эфект у барацьбе з іншадумствам. Але пры гэтым было адабрана жыццё ў мноства непавінных людзей, яшчэ больш было пакалечаных чалавечых лёсаў. Ды і метады дзейнасці інквізіцыі зараз немагчыма ўвесці ў нейкія маральныя рамкі.

І ўсё ж нават інквізіцыя не здолела задушыць ератычныя рухі. Масавым быў рух францысканскіх спірытуалаў з яго радыкальнымі ідэямі Пятра Аліві, што каталіцкая царква – гэта “не Хрыстова царква, а жыллё дэманаў”. Як ератык, быў спалены на вогнішчы ў 1300 г. заснавальнік секты “апостальскіх братоў” Сегарэлі, які прапаведаваў, што ўсе людзі роўныя перад Богам, што зямля і яе багацці належаць усім людзям, і настане час, калі не будзе ні феадалаў, ні епіскапаў, а будзе панаваць любоў і справядлівасць. Справу Сегарэлі прадоўжыў адзін з яго вучняў – Дальчына, які зрабіў вучэнне “апостальскіх братоў” яшчэ больш радыкальным, а потым узняў паўстанне на поўначы Італіі. І зноў для яго падаўлення спатрэбіўся крыжовы паход. Але гэта адбылося ўжо ў пачатку новага XIV ст., якое істотна змяніла становішча царквы і асабліва папства ў жыцці заходнееўрапейскага грамадства.

## § 19. Візантыя

**Візантыя ў X ст.** Знешнепалітычнае становішча Візантыі ў самым пачатку X ст. было дастаткова складаным. У 902 г. арабы закончылі заваяванне Сіцыліі. Цяпер непасрэдная пагроза навісла над італьянскімі ўладаннямі імперыі. Крыт стаў апорнай базай арабскіх піратаў. Адсюль яны здейснілі разбуральную атаку на Фесалонікі ў 911 г. Спроба імператара Льва VI Разумнага (886–912) нанесці ўдар у адказ закончылася поўным правалам. Арганізаваная супраць арабаў ваенная экспедыцыя была разгромлена ў 912 г. каля Хіаса. Толькі ў 961 г. Нікіфар Фока, які тады камандаваў Візантыйскай арміяй на захадзе, здолеў захапіць Крыт. У выніку было адноўлена візантыйскае марское панаванне ва ўсходнім Міжземнамор’і.

Яшчэ адной праблемай для Візантыі сталі абвастрыўшыяся адносіны са славянамі: Балгарыяй і Кіеўскай дзяржавай. Балгарскі цар Сімеон (864/865– 927) значна пашырыў мяжу своёй краіны, у тым ліку за кошт візантыйскіх тэрыторый,

кіеўскі князь Ігар двойчы даходзіў да Канстанцінопаля (941 г. і 944 г.). Адносіны з Балгарыяй былі урэгуляваны пры дапамозе дынастычнага шлюбу новага балгарскага цара Пятра і візантыйскай прынцэсы. Адносна Кіеўскай дзяржавы быў узяты курс на евангелізацыю. У 957 г. хрышчэнне прыняла ўдава Ігара Вольга, візантыйскія місіянеры пачалі актыўную прапаганду на кіеўскіх землях.

У сакавіку 963 г. Нікіфар II Фока быў абвешчаны імператарам. Асновай яго палітыкі стала імкненне забяспечыць ваенную магутнасць імперыі. Дзеля гэтага ім былі здзейснены наступныя крокі. Па-першае, указ 964 г. забараніў заснаванне новых манастыроў і абмежаваў рост манастырскага землеўладання, што дазволіла расці свецкаму землеўладанню і павялічвала, такім чынам, матэрыяльную базу для цяжкаўзброенай конніцы (катафрактаў). Па-другое, мінімальны памер стратыётскага надзела быў павялічаны ўтрая. У выніку стратыёты вылучыліся з астатняй масы сялянства ў асобы сацыяльны слой. Зробленыя захады дазволілі імператару дасягнуць значных ваенных поспехаў: у арабаў былі адваяваны Кілікія і Кіпр (965), паўночная Сірыя з Антыёхіяй (969), пачалася вайна супраць Балгарыі, прычым у саюзе з Візантыяй выступіў кіеўскі князь Святаслаў.

Разам з тым адносіны Візантыі з заходнееўрапейскімі краінамі складваліся не зусім роўна, асабліва пасля каранацыі Атона II імператарскай каронай у Рыме. Пра некаторую напружанасць у адносінах паміж дзвюма імперыямі сведчыць правал дыпламатычнай місіі Ліутпранда Крэмонскага, пасла Атона II, накіраванага да Нікіфара II Фокі ў сувязі з пытаннем заключэння шлюбу паміж сынам германскага імператара і візантыйскай прынцэсай.

У 969 г. Нікіфар быў забіты. Улада ў Візантыі перайшла да Іаана Цімісхія (969–976), былога камандзіра армій на ўсходзе імперыі. Падчас яго праўлення візантыйская экспансія працягвала развівацца. У 971 г. імперыя падпарадкавала сабе паўночную Балгарыю, у 974–975 гг. візантыйская армія заняла амаль усю Сірыю і Палесціну.

Такім чынам, знешнепалітычныя поспехі Нікіфара II Фокі і Іаана Цімісхія падрыхтавалі глебу для росквіту сярэдневяковай Візантыі пры праўленні Васілія II (976–1025).

**Васілій II Балгарабойца (976–1025).** Васілій, сын імператара Рамана II і Феафаны, быў венчаны на царства разам са сваім братам Канстанцінам у якасці саімператара ў 960 г., аднак заставаўся на другіх ралях і пасля смерці Іаана Цімісхія. Кантроль над краінай перайшоў да стрыечнага дзеда Васілія II, таксама Васілія, і заставаўся ў яго руках аж да 985 г. Замацавацца на прастоле Васілію II удалося толькі ў 989 г., пасля таго як пры дапамозе кіеўскага князя Уладзіміра былі задушаны паўстанні правінцыйнай знаці на чале з Вардай Склірам і Вардай Фокай. Уладзімір за дапамогу атрымаў руку прынцэсы Анны і прыняў хрысціянства.

Асноўнай мэтай Васілія II было максімальнае пашырэнне межаў Візантыі

(зон напружанасці існавала больш чым дастаткова – Сірыя, Арменія, Грузія, Балканы, паўднёвая частка Італіі). Пры гэтым шырока выкарыстоўвалася не толькі ваенная сіла, але і дыпламатычнае майстэрства. Грузія (Іберыя) была інкарпарыравана імперыяй па дагаворы. Частка Арменіі была анексіравана, а астатняя пераходзіла пад уладу імперыі пасля смерці армянскага цара. Найбольш вострай праблемай сталі адносіны з Балгарыяй. Візантыя вяла супраць яе практычна перманентную вайну (986–1014 гг., з перапынкамі для экспедыцый на Усход), прычым з выключнай жорсткасцю. Пасля разгрому балгарскай арміі пад Охрыдай кожныя 99 са 100 уцалелых воінаў былі аслеплены цалкам, аднаму са 100 захавалі адно вока. Менавіта за гэтую расправу імператар і атрымаў мянушку Балгарабойцы. Нарэшце, у 1018 г. заходняе Балгарскае царства было падпарадкавана і інкарпарыравана. Сербія і Харватыя патрапілі ў васальную залежнасць. Пад імперскі кантроль перайшоў порт Дірахій на Адрыятыцы.

Дастаткова маштабныя планы меў Васілій II і адносна Заходняй Еўропы. Ён хацеў узмацніць візантыйскі кантроль над паўднёвай часткай Італіі, адваяваць Сіцылію ў арабаў, пасадзіць у Рыме грэчаскага папу, выдаць сваю пляменніцу Зою за імператара Атона III. Праўда ніводны з гэтых планаў не быў рэалізаваны. Імператар памёр падчас падрыхтоўкі пахода на Сіцылію.

Дзяцей у Васілія II не было, таму ўладу атрымаў яго брат Канстанцін VIII. Пасля смерці апошняга ў 1028 г. дынастычная лінія была прадоўжана яго дзвюма дачкамі – Зояй і Феадорай. Зоя была замужам тройчы: за Раманом III Аргірам (1028–1034), за Міхаілам IV (1034–1041) і за Канстанцінам IX Манамахам (1042–1055), які яе перажыў. Пасля смерці Канстанціна IX на працягу года (да сваёй смерці) правіла Феадора. У гэты ж перыяд адбыўся афіцыйны падзел адзінай хрысціянскай царквы на ўсходнюю і заходнюю (раскол 1054 г. і ўзаемнае анафемстваванне), але сучаснікі на гэтую падзею фактычна не звярнулі ніякай увагі.

У цэлым час, які мінуў пасля смерці Васілія II, быў перыядам аслаблення Візантыі, што выявілася ў частай змене правіцеляў (13 імператараў за 56 гаддоў), мецяжах знаці (1043, 1047, 1057 гг.), тэрытарыяльных стратах. У апошнім выпадку фатальным для Візантыі стаў 1071 г. У красавіку пасля трохгадовай нарманскай аблогі быў страчаны апошні апорны пункт у паўднёвай частцы Італіі (г. Бары), а ў жніўні візантыйцаў разгромілі ў бітве каля Манцыкерта туркі-сельджукі, новы вораг імперыі, які потым захапіў большую частку Малай Азіі. Стабілізавалася становішча пасля прыходу да ўлады Аляксея I Камніна (1081–1118).

**Эпоха Комнінов (1081 – 1180).** Трагедыя 1071 г. і наступныя падзеі прывялі да значнага скарачэння тэрыторыі візантыйскай імперыі і адпаведнай страце ею статуса адной з вядучых еўрапейскіх дзяржаў. Цяпер пытанне тычылася магчымасці выжывання ў новых умовах. Страта рэсурснай базы ў Малай Азіі і

недахоп эканамічных рэсурсаў на Балканах з аднаго боку, і наяўнасць дастаткова моцных праціўнікаў, з другога, прымусілі Візантыю шукаць дапамогу ў Заходняй Еўропе.

Пэўную перадышку, праўда, Аляксею I даў збег гістарычных абставін. Нарманы, якія захапілі ў 1082 г. Дірахій і планавалі высадку ў Фесалоніках, вымушаны былі адмовіцца ад сваіх планаў пасля смерці Роберта Гвіскара ў 1085 г. Міжусобная барацьба ў Румскім султанаце нейтралізавала пагрозу Візантыі з усходу. Нарэшце і сама імперыя пакуль не страціла канчаткова сваю баяздольнасць – у 1091 г. Алексей I разграміў печанегаў.

Часовая передышка была выкарыстана імператарам для пошуку саюзніка ў Заходняй Еўропе. Ім стала Венецыянская рэспубліка, чые купцы атрымалі значныя прывілеі на тэрыторыі Візантыі. Аднак гэтае рашэнне мела і адмоўныя наступствы для краіны. З сферы гандлю выціскаліся ўласныя візантыйскія купцы, што паспрыяла ўсталяванню недружалюбнага стаўлення да “лацінян”.

Венецыя магла быць саюзнікам у барацьбе з нарманамі, але яе сіл відавочна не хапала, каб рэалізаваць галоўную задачу Аляксея I – адваяванне Малай Азіі. Тут былі неабходны намаганні калі не ўсех, то прынамсі большасці заходнееўрапейскіх краін. Пачаліся дастаткова складаныя перамовы аб праведзенні сумеснай аперацыі супраць сельджукаў. Пры гэтым Аляксей I выказаў гатоўнасць абмеркаваць і пытанні веравызнання.

Тым часам папа рымскі Урбан II ініцыіраваў арганізацыю крыжовага паходу, прычым сярод яго лідэраў быў і Баэмунд, сын Роберта Гвіскара, традыцыйнага ворага Візантыі. Аднак імператар не ўхіліўся ад супрацоўніцтва з крыжакамі, чый шлях пралягаў праз Канстанцінопаль. Пры гэтым ён запатрабаваў ад лідэраў крыжакоў прысягнуць у тым, што яны вернуць імперыі тэрыторыі, адваяваныя ў туркаў.

Умовы пагаднення спачатку выконваліся. Заваяваная ў 1097 г. Нікея была перададзена Візантыі. Аднак захопленая ў 1098 г. Баэмундам Антыёхія засталася пад нарманскім кантролем. Больш таго, тут было заснавана самастойнае княства. Прыклад Баэмунда падштурхнуў іншых правадыроў крыжакоў да адпаведных дзеянняў. У выніку на адваяваных землях былі абвешчаны Іерусалімскае каралеўства, графствы Эдэса і Трыпалі. Цяпер мяжа паміж Візантыяй і сельджукамі праходзіла па сярэдзіне Малай Азіі. Крыху пазней (у 1108 г.) Алексей I ўсё ж такі прымусіў Баэмунда да васальнай прысягі па землях Антыёхійскага княства.

Палітыка Аляксея I, накіраваная на выжыванне краіны ў вельмі складаным міжнародным становішчы з выкарыстаннем гэтай складанасці для магчымага тэрытарыяльнага пашырэння, была прадоўжана яго пераемнікамі: сынам Іаанам II (1118–1143) і ўнукам Мануілам I (1143–1180). У прыватнасці, яны па прыкладзе заснавальніка дынастыі звярнулі пільную ўвагу на вельмі важкае стратэгічнае

палажэнне Венгерскага каралеўства, якое знаходзілася паміж германскай і візантыйскай імперыямі і мела агульную мяжу з Венецыяй і Сербіяй. У выніку і Венгрыя (у 1164 г.), і Сербія перайшлі пад кантроль Візантыі.

Акрамя таго набылі большую актуальнасць кантакты з каталіцкім Захадам. У прыватнасці, імператар Мануіл І "прыадчыніў" Візантыю для "лацінян", якія ветліва сустракаліся пры двары. З заходняй часткі Еўропы паходзілі яго жонкі (і першая, і другая). Палітыка адкрытасці Захаду дапамагла Візантыі ў яе барацьбе за нейтралізацыю сваіх традыцыйных супернікаў у гэтым рэгіёне – нарманаў, якія паспелі ў 1130 г. заснаваць свае каралеўства ў Сіцыліі. Прынамсі, калі падчас ІІ крыжовага паходу (1147) французскі кароль Людовік VII і кароль Сіцыліі Роджер планавалі атаку на Канстанцінопаль, адвесці небяспеку ўдалося толькі дзякуючы саюзу і асабістай дружбе Мануіла І з яшчэ адным правадыром крыжакоў, германскім імператарам Конрадам ІІІ.

Праўда, падобнае супрацоўніцтва стала немагчымым ужо пры наступным германскім імператары Фрыдрыху І Барбаросе. Апошні ўпарта звяртаўся да яго па тытулу караля Грэцыі, а не імператара, і збіраўся паставіць Візантыю пад свой кантроль.

Дастаткова нечакана абвастрыліся адносіны імперыі і Венецыі. Спробы Мануіла І аднавіць былы аўтарытэт сваёй краіны і падпісанне гандлёвых дагавораў з Генуяй (1169) і Пізай (1170) выклікалі варожасць венецыянцаў. 12 сакавіка 1171 г. адбылося моцнае антылацінскае выступленне ў Канстанцінопале, пасля чаго ўсе венецыянцы ў імперыі былі арыштаваны, а іх маёмасць канфіскавана. У выніку Венецыя папоўніла спіс заходнееўрапейскіх ворагаў Візантыі, дзе ўжо значыліся папа рымскі, Сіцылійскае каралеўства і Германія.

Самым вялікім знешнепалітычным правалам Мануіла І стала паражэнне ад туркаў пры Міракефалоне (1176), якое спыніла спробы візантыйцаў адваяваць Малую Азію.

Усе дасягненні Візантыі эпохі Камнінаў былі знішчаны пасля смерці Мануіла І. У выніку другога антылацінскага паўстання да ўлады прыйшоў яго стрыечны брат Андранік І (1183–1185). На хвалі патрыятычнага ўздыму былі забіты ўдава Мануіла І і яго сын Аляксей ІІ. Праведзеныя ж новым правіцелем рэформы, капітуляцыя перад Венецыяй і праследаванні арыстакратыі актывізавалі цэнтрабежныя тэндэнцыі ў імперыі. Ад Візантыі адыйшлі Венгрыя і Сербія, а праз два гады і Балгарыя, нарманы захапілі Фесалонікі, Ісаак Камнін, правіцель Кіпра абвясціў незалежнасць вострава. Позней Кіпр у яго забраў Рычард І Ільвінае Сэрца, але Візантыі ён больш не дастаўся. Потым у Канстанцінопале адбыліся новыя хваляванні і Андронік І быў забіты.

Адзінай больш-менш станоўчай падзеяй стала смерць аднаго з правадыроў ІІІ крыжовага паходу Фрыдрыха І Барбаросы, які збіраўся захапіць Канстанцінопаль.

**IV крыжовы паход і захоп Канстанцінопаля.** Новы візантыйскі імператар Ісаак II Анёл (1185–1195 гг., 1203–1204 гг.) заключыў з Венецыяй вельмі выгадны для яе абарончы і наступальны саюз (1187). Паводле умоў гэтага саюза, імперыя вяртала Венецыі ўсе яе былыя прывілеі і прадастаўляла поўны падатковы імунітэт. Венецыянцы маглі гандляваць па ўсёй тэрыторыі Візантыі. Для стварэння пэўнага канкурэнтнага асяроддзя аналагічныя прывелеі былі прадастаўлены купцам з Генуі і Пізы. Пацярпеў жа ад гэтага ўласна візантыйскі гандаль. Пасля дзесяці год праўлення Ісаак II был дэтранізаваны і асleплены сваім братам Аляксеем III (1195–1203).

Знешнепалітычнае становішча Візантыі ўскладнілася як ніколі. Германскі імператар Генрых IV атрымаў ад новага канстанцінопальскага правіцеля дань, закліканую гарантаваць бяспеку краіны, але ў 1197 г. Генрых IV памёр. На наступны год папам рымскім стаў Інакенцій III, да якога звярнуліся правіцелі Венгрыі, Сербіі і Балгарыі з просьбай забяспечыць ім суверэнітэт ад Візантыі. Сам папа рымскі імкнуўся аднавіць былое адзінства хрысціянства пад сваім кіраваннем. Венецыя дабівалася выціскання з Візантыі сваіх гандлёвых канкурэнтаў Генуі і Пізы. У выніку складаных перапляценняў міжнародных фактараў кірунак паходу змяніўся з Палестыны на Канстанцінопаль. У красавіку 1204 г. горад быў узяты штурмам. Галоўныя гавані і выспы на гандлёвых шляхах перайшлі да Венецыі. Праваслаўнае патрыяршаства было заменена каталіцкім. Візантыйская імперыя спыніла сваё існаванне. Месца яе заняла Лацінская імперыя, створаная крыжакамі. На неакупіраваных землях узніклі грэчаскія дзяржавы: Нікейская імперыя, Трапезундская імперыя, Эпірская дзяржава.

**Лацінская імперыя (Раманія).** Першы лацінскі імператар Балдуін I (граф Фландрыі Балдуін IX) атрымаў 1/4 заваяваных зямель, у тым ліку і Канстанцінопаля. Адначасова ён з’яўляўся сюзерэнам феадальных княстваў, створаных у Фракіі, Фесалоніке, Афінах і Марэе. Улада яго абмяжоўвалася саветам, у склад якога ўваходзілі найбольш уплывовыя магнаты і венецыянскі падеста з шасцю дарадцамі. Палітычная арганізацыя краіны замацоўвалася асізамі Раманіі, створаных на падставе парадыгмы, зададзенай французскім варыянтам феадальных адносін.

Гісторыя гэтага дастаткова штучнага ўтварэння была нядоўгай. У 1205 г. крыжакі атрымалі паражэнне ад балгарскага цара Калаяна. У 1225 г. армія Нікейскай імперыі перамагла пры Піманіёне, адваяваўшы значную частку былых візантыйскіх уладанняў. У 1235–1236 гг. нікейцы ў саюзе з балгарамі занялі большую частку Фракіі. Нарэшце ў 1259 г. у бітве пры Пелагоне візантыйцы атрымалі рашучую перамогу. 25 ліпеня 1261 г. нікейская армія на чале з Аляксеем Стратыгопулам, практычна не сустракаючы супраціўлення, уступіла ў Канстанцінопаль. Лацінская імперыя знікла з палітычнай карты Еўропы. Яе трэці

правіцель Балдуін II збёг у Італію, венеціянцы страцілі ўсю сваю маёмасць. У жніўні 1261 г. Міхаіл VIII Палеолаг каранаваўся ў Канстанцінопале, што азначала юрыдычнае аднаўленне Візантыйскай імперыі. Аднак улада Міхаіла VIII не была прызнана візантыйскімі правіцелямі Эпіра, Фесаліі і Трапезундскай імперыі, якія палічылі яго узурпатарам.

**Аднаўленая Візантыйская імперыя ў другой палове XIII ст.** Міхаіл VIII (1261–1282) адразу здзейсніў першасные неабходныя захады па ўзнаўленні сталіцы, павялічэнні яе насельніцтва, забеспячэнні абароназдольнасці. Для ажыўлення эканамічнай дзейнасці і прыўлечэння грошай былі прадастаўлены прывелеі італьянскім купцам. Акрамя таго была заснавана генуэзская гандлёвая калонія ў Галаце. Крыху пазней удалося вярнуць некаторыя тэрыторыі з ліку захопленых крыжакамі, у Марэе і на астравах. Аднак рэсурсная база краіны павялічылася нязначна ў параўнанні з Нікейскай імперыяй. Праводзіць актыўную знешнюю палітыку ваеннымі сродкамі Візантыя была няздольная. Новую актуальнасць набыло пытанне пра выжыванне, прычым цяпер галоўная роля належала візантыйскай дыпламатыі.

Галоўная небяспека для імперыі зыходзіла ад брата французскага караля Людовіка IX Карла Анжуйскага. У 1266 г. ён атрымаў карону Сіцылійскага каралеўства і пачаў бурную дзейнасць па фарміраванню анцівізантыйскай кааліціі, арганізацыі крыжовага паходу на чале з папам рымскім супраць грэчаскіх раскольнікаў і аднаўленні Лацінскай імперыі.

У гэтых складаных гістарычных умовах Міхаіл VIII зрабіў, як можна меркаваць, адзіны магчымы крок, здольны даць пэўную адтэрміноўку палітычнаму краху імперыі. Ён прапанаваў падпарадкаваць канстанцінопальскую царкву Рыму. Пры гэтым Міхаіл VIII спадзяваўся, што папа рымскі будзе пазбаўлены зачэпкі для паўтарэння сцэнарыю IV крыжовага паходу. Відавочна, што з боку Візантыі гэтая прапанова ўяўляла толькі дыпламатычны ход, але стаўленне да яе Грыгорыя X было дастаткова сур’ёзным і на II Ліонскам саборы (1274) візантыйская дэлегацыя ад імя  імператара была вымушана выказаць свае падпарадкаванне папству. Прынятая унія прадугледжвала вяршынства рымскага папы над усёй хрысціянскай царквою, яго кананічную юрысдыкцыю, памінанне падчас набажэнстваў. Аднак дадзеная лінія Міхаіла VIII выклікала фарміраванне апазіцыі, скіраванай супраць “лацінян”, у самой Візантыі. Праўда, яна жорстка праследавалася імператарскай уладай.

Зробленыя захады ў пэўнай ступені нейтралізавалі папу рымскага, але не Карла Анжуйскага, які ў 1281 г. арганізаваў уварванне ў Візантыю з сушы, а калі атака была адбіта – з мора. Прычым цяпер яго падтрымалі Венецыя, Сербія і Балгарыя. Планы Карла Анжуйскага, аднак, былі сарваны паўстаннем на Сіцыліі ў 1282 г. і пераходам вострава пад кантроль Арагона. Цалкам магчыма, што нейкую ролю ў падрыхтоўцы выступлення сіцылійцаў адыгралі візантыйскія агенты. Як

бы то ні было, але імперыя была выратавана. У хуткім часе Міхаіл VIII памёр. Падданыя ж праклінаплі яго як здрадніка і ерытыка.

**Сістэма кіравання.** У X ст. адзінаўладдзе імператара дасягнула свайго апагею. Сінкліт, у які ўваходзілі вышэйшыя чыноўнікі і знаць, меў толькі дарадчыя функцыі, патрыярхі былі стаўленікамі імператара. У пачатку X ст. закончылася фарміраванне дзяржаўнага апарату Візантыі. Цывільнае кіраванне складалі 60 урадовых устаноў (сакрэтаў). Як правіла, увесь чыноўнічы апарат знаходзіўся ў Канстанцінопале. Нават такія дробныя службоўцы, як практары, якія спаганялі падаткі, накіроўваліся ў правінцыю са сталіцы.

Увесь бюракратычны апарат імперыі складаўся з пасад, размеркаваных па 18 класах і 5 разрадах. Рух па іерархічнай лесвіцы пасад ажыццяўляўся паводле указаў імератара ў залежнасці ад выслугі гадоў. Пераход на новую кар'ерную прыступку азначаў значную прыбаўку дзяржаўнага ўтрымання. Паралельна існавала іерархія пажыццёвых тытулаў, якія таксама звязваліся з пэўнымі штогадовымі грашовымі выплатамі. Тытул мог купляцца. У апошнім выпадку гэта была дастаткова выгадная фінансавая аперацыя для абодвух бакоў. Дзяржава атрымлівала адзіназразова вялікую суму грошай, новы ўладальнік тытула атрымліваў штогадовы прыбытак на ўкладзены капітал (9,7 %).

**Сыцыяльна–эканамічнае развіццё.** Утрыманне велізарнага дзяржаўнага апарату выклікала рост падатковага гнёту. З X ст. быў наладжаны больш дакладны і дробны ўлік маёмасці,якая падлягала падаткаабкладанню. На прыктыцы гэтакім лічылася ўсё, чым валодаў селянін: зямля, луга, паша, хатнія жывёлы, птушкі, вуллі і г. д., падаткі плацілі нават беззяямельныя (уладальнікі жытла). Значныя сродкі казне давалі судовыя сборы. Асаблівы падатак (кананікон) спаганяўся на карысць царквы. У гарадах абкладалася нерухомая маёмасць (з пэўнай градацыяй у залежнасці ад яе прыбытковасці), спаганяліся гандлёвыя зборы з рамеснікаў і гандляроў і зборы з гандлёвых здзелак.

У XI ст. пачаўся ўздым некаторых правінцыяльных гарадоў (Афіны, Фівы, Карынф), ў асноўным за кошт развіцця шаўкоткацтва. Рост жа Канстанцінопаля прыпыніўся. У першай палове XII ст. пранікненне італьянцаў у гарадскую эканоміку стымулявала развіццё рамятсва, асабліва прадметаў раскошы. Дабратворна паўплывала на яе і пэўнае аслабленне манаполіі Канстанцінопаля. Пры Камнінах аналагічныя сталічным рамёствы развіваліся яшчэ ў цэлым шэрагу буйных гарадоў: акрамя згаданых вышэй Афін і Карынфа, у Нікее, Смірне, Эфесе, якія пачалі налажваць непасрэдныя сувязі з італьянскімі гандлярамі. Аднак уздым гарадской эканомікі быў нядоўгім. Візантыйскія рамеснікі не вытрымалі канкурэнцыі з больш таннымі і не менш якаснымі італьянскімі таварамі, што прывяло да антыітальянскіх выступленняў.

Аграрная вытворчасцць развівалася дастаткова устойліва, прычым не ў апошнюю чаргу дзякуючы традыцыйна высокай культуры земляробства.

Ураджайносць збожжавых значна вырасла, ад сам- 6 у X в. да сам-15 і нават сам-20 у XII ст. У выніку з'явілася добрая нагода павялічыць экспартныя пастаўкі сельскагаспадарчай прадукцыі (збожжа, віно, алей, гародніна, садавіна) у паўночнаітальянскія гарады.

У X–XI ст. аформіліся асноўныя катэгорыі насельніцтва. Значную частку сялянства ў концы XI ст. складалі *містыі* і *парыкі*. Першыя былі наёмнымі работнікамі ў гаспадарках буйных землеўладальнікаў (*дынатаў*) і манастыроў, а таксама ў майстэрнях. Другія маглі быць прыватнаўладальніцкімі і дзяржаўнымі. У першым выпадку – гэта спадчынныя трымальнікі зямлі буйнога землеўладальнікаў, якія выплачвалі натуральную і грашовую рэнту і выконвалі адработкі. У выпадку адчужэння надзела ўсе замацаваныя за ім выплаты і адработкі пераходзілі да новага работніка. Задача дзяржаўных парыкаў – забеспячэнне харчаваннем імператарскага двара. Меншая частка сялянства, як і раней, складала катэгорыю свабодных абшчыннікаў. Частка сялянства ўцякала ў манастыры (у самым пачатку XI ст. у імперыі налічвалася каля 7000 абіцелей).

Саслоўе стратыётаў у X ст. пачало расслайвацца. Ніжэйшая іх частка паступова збліжалася з сялянамі, вышэйшая складала аснову цяжкаўзброенай конніцы (*катафрактаў*).

Вышэйшыя слаі грамадства фарміраваліся вакол цэнтралізаванай фіскальнай сістэмы і гадаваліся або за кошт адвядзення ад яе патокаў і ручайкоў фіскальных паступленняў, або за кошт іх перакрыцця. У сувязі з гэтым вельмі цікавай з'яўляецца зўвага Г. Л. Курбатава, які ў выніку аналізу запаветаў знатных візантыйцаў зрабіў выснову пра тое, што ў XI ст. асноўная частка таго, чым яны валодалі, "складвалася не з іх уласных маёнткаў (мяркуючы па іх вартасці і прыбытках ад іх), а з паступленняў ад імператарскай улады (платы за службу, дарэнняў і пажалаванняў)".

Першы варыянт прадстаўлены ўстановамі (секрэтамі), якія дзейнічалі па прынцыпе самазабеспячэння. Апошняя абставіна азначала, што ўстанова валодала ў правінцыях прыпісанай да яго маёмасцю, прыбыткі ад якога паступалі ў яго казну. Частка дзяржаўных маёнткаў (як правіла найбольш важныя) знаходзіліся пад кіраваннем спецыяльных пасадовых асоб – куратарыеў, частка здавалася ў арэнду.

Другі варыянт рэпрэзэнтавала пронія, г. зн. ўсталяваная Канстанцінам IX Манамахам практыка пажалавання часткі праў на спагнанне з пэўных тэрыторыяў (ад некалькіх вёсак да некалькіх сем'яў) паступленняў дзяржаву ў выглядзе платы за дзяржаўную службу (вайсковую або грамадзянскую). Спаганяліся паступленні ў асноўным з сялян. Яшчэ адзін варыянт рэпрэзэнтаваў харысцікій – перадача прыватнай асобе права на атрыманне тых паступленняў ад манастыра, якія прызначаліся дзяржаве.

Трэці варыянт рэпрэзэнтавала экскусія – вызваленне зямельных уладанняў

экскусата (чалавека, які карыстаўся правам экскусіі) і сялян, якія жылі на гэтай тэрыторыі, ад дзяржаўных падаткаў, у асноўным экстраардынарных. Пры гэтым за дзяржавай захоўвалася вышэйшая юрысдыкцыя і права абмежавання або скасавання экскусіі.

## § 20. Крыжовыя паходы

**Перадумовы крыжовых паходаў.** Крыжовымі паходамі прынята называць ваенныя экспедыцыі заходнееўрапейскіх хрысціян з мэтай адваяваць і абараніць галоўныя хрысціянскія святыні ў Палесціне (Святой зямлі). Удзельнікі іх нашывалі на свае плашчы крыж – сімвал хрысціянства. Яны атрымлівалі ад рымскіх пап дараванне ўсіх сваіх грахоў. Менавіта каталіцкая царква, а дакладней папства, была арганізатарам крыжовых паходаў. Час крыжовых паходаў прынята адлічваць з 1096 г. (пачатку першага з іх) і заканчваць 1270 г. (апошні восьмы паход), або 1291 г., калі мусульмане ўзялі апошні аплот крыжакоў на Усходзе – крэпасць Акру. Пасля першых крыжовых паходаў у Палесціну папства пачало выкарыстоўваць крыжаносную ідэю і ў барацьбе з ератыкамі, і нават з непакорнымі каралямі. Крыжовыя паходы арганізоўваліся і ў XIV, і ў XV ст., у прыватнасці, супраць туркаў, але гэта былі ўжо асобныя эпізоды. Масавы крыжаносны рух існаваў менавіта ў канцы XI–канцы XIII ст.

Крыжовыя паходы былі, безумоўна, рэлігійнымі войнамі хрысціян супраць мусульман, але іх прычыны і характар намнога больш глыбінныя. У значнай меры яны былі адкрыта названы ў прамове папы рымскага Урбана II перад натоўпам гараджан, рыцараў, сялян, духавенства пасля царкоўнага сабора ў французскім горадзе Клермоне ў лістападзе 1095 г. Сама прамова не захавалася, але сведчанні сучаснікаў і саборныя каноны дазваляюць рэканструяваць яе змест. Па звестках рэймскага манаха Раберта, папа гаварыў аб тым, што на хрысціянскае “каралеўства грэкаў” (г. зн. Візантыю) напалі ворагі Бога з Усходу, якія жорстка забілі мноства людзей і многіх захапілі ў палон. Захопнікі разбурылі алтары, цэрквы, прымушалі выконваць абрады іх рэлігіі. Папа заклікаў дапамагчы Візантыі. Адзначыўшы, што і Іерусалім захоплены нявернымі, ён абвясціў: “Асабліва ж вас заклікае святая грабніца Выратавальніка і Госпада нашага, якой валодаюць зараз несумленныя народы”. Абяцаўшы адпушчэнне грахоў усім, хто адправіцца на вайну з нявернымі, Урбан II выказаў і словы, якія, здавалася б, былі далёкімі ад апеляцыі да рэлігійных пачуццяў: “Зямля, якую вы насяляеце, сціснута адусюль морам і горнымі хрыбтамі, і таму яна зрабілася цеснаю пры вашай шматлікасці, багаццямі яна небагатая, і ледзь дае хлеб тым, хто яе апрацоўвае. Адсюль адбываецца тое, што вы адзін другога кусаеце, ваюеце і наносіце смяротныя раны. Зараз жа можа спыніцца ваша нянавісць, змоўкне варожасць, сціхнуць войны і задрэмлюць міжусобіцы. Ідзіце ў шлях да труны

святой; адбярыце тую зямлю ў несумленнага народа і падпарадкуйце яе сабе. Зямля тая, як гаворыць Пісанне, “цячэ малаком і мёдам”... Іерусалім ёсць цэнтр зямлі, гэтая зямля ўрадлівей за ўсе іншыя, яна падобная на другі рай”. Пасля прамовы папы прысутных ахапіла нешта накшталт масавай істэрыі: выгукваючы “Так хоча Бог!” многія з іх тут жа давалі зарок ісці ў паход і нашывалі крыжы на вопратку. Прамова Урбана ІІ была трапнай, яна дала адказ на тыя чаканні і жаданні людзей, якія ўжо выспялі, але не знаходзілі рэальнага вырашэння. Менавіта гэтая прамова папы паклала пачатак першаму крыжоваму паходу. Сапраўды, яна акумуліравала ў сабе многія з надзённых праблем тагачаснага заходнееўрапейскага грамадства.

Гэта быў час так званага “аграрнага перанасялення”, калі ў Еўропе пачаўся дэмаграфічны ўздым, а пры тагачасных сродках вытворчасці зямля з цяжкасцю магла пракарміць узрастаючую колькасць насельніцтва. Людзі асвойвалі ўсё новыя землі пад сельскую гаспадарку, адваёўваючы іх у лясоў, балот. Але не толькі ў прыроды, а і ў суседзяў. Каланізацыяй была Рэканкіста. Гэтая рэлігійная вайна хрысціян супраць мусульман мела сваім вынікам адваяванне зямель і засяленне іх сялянамі, феадаламі ад паўночных рэгіёнаў да Пірэнейскага паўвострава. Каланізацыйны характар мела і адваяванне ў арабаў Сіцыліі. Тое ж было і з нямецкай экспансіяй на ўсход, на славянскія землі. Цяпер адкрываўся новы шлях, праўда, больш далёкі, але ж менавіта Блізкі Усход уяўляўся заходнееўрапейцам “краінай сказачных багаццяў”, асабліва для феадалаў, якія мелі магчымасць атрымаць адтуль раскошныя тканіны і вопратку, дзівосныя ювелірныя вырабы, экзатычную паўднёвую садавіну і гародніну. І такое ўяўленне мела пад сабой рэальную глебу, араба-ісламская цывілізацыя на той час па сваим развіцці значна пераўзыходзіла заходнееўрапейскую. Вядома, чаканні феадалаў і сялян ад авалодання Усходам былі рознымі. Мрояй сялян была зямля і вольнасць ад феадалаў, рыцары (асабліва абдзеленыя нерухомай маёмасцю ў адпаведнасці з правам маярату) разлічвалі на вялікія вотчыны і раскошу, магнаты імкнуліся яшчэ больш павялічыць свае ўладанні і багацці. І крыжовыя паходы сталі адным з каланізацыйных эксперыментаў заходнееўрапейцаў, але, бадай што, самым няўдалым. Свае інтарэсы мелі і купцы (перш за ўсё паўночнаітальянскіх гарадоў), якія спадзяваліся разбагацець на гандлі паміж Еўропай і Усходам, стаць яго сапраўднымі манапалістамі.

Крыжовыя паходы сталі спробай заходнееўрапейскай каланізацыі на Усходзе, пры гэтым яны былі ваенна-каланізацыйнай з'явай. Ваенны і рэлігійны характар крыжовых паходаў былі звязаны неразрыўна. Ініцыятарам і натхніцелем паходаў была каталіцкая царква. У той час папства паступова набірала палітычную вагу ў заходнееўрапейскім грамадстве. Першы значны крок у гэтым кірунку быў ужо зроблены – “каноская перамога” папы Грыгорыя VII. Царква паступова вызвалялася ад уплыву свецкіх улад, каб у XIII ст. папства змагло стаць

сапраўдным палітычным гегемонам у Заходняй Еўропе. Рост палітычнай магутнасці папства адбываўся ва ўмовах феадальнай раздробленасці, сур'ёзнага аслаблення каралеўскай улады. Гэта час бесперапынных феадальных міжусобіц, якія прыносілі людскія і матэрыяльныя страты, хаос грамадству. У такім стане феадальнай анархіі ў Заходняй Еўропе царква выступала як істотны элемент кансалідацыі грамадства. Адна вера, адна царква аб'ядноўвала розныя (у тым ліку і варожыя адна другой) групы насельніцтва. Дамінуючымі вузамі адзінства ў свядомасці заходнееўрапейцаў на той час былі менавіта рэлігійныя – усведамленне, што ўсе яны хрысціяне-каталікі і належаць да адной царквы. Практычнымі праявамі кансалідуючай ролі царквы былі ўзначаленыя епіскапатам рухі за “мір Божы” і “Божае перамір'е”. Самі саборныя пастановы аб гэтым паказвалі, што царква не ў стане спыніць феадальныя ўсобіцы, але яна імкнецца абмежаваць іх і зменшыць іх шкоду для мірных слаёў грамадства. Аднак эфект і такіх пастаноў быў несуцяшальным. І тады царква накіравала найбольш анархічныя і разбуральныя сілы заходнееўрапейскага грамадства за яго межы – на іншаверцаў. Такімі элементамі былі, перш за ўсё, буйныя феадалы і рыцарства (сімптаматычна, што ў першым крыжовым паходзе не прыняў удзел ніводзін кароль) і даведзеная да голаду і адчаю частка сялянства. Сацыяльныя супярэчнасці ўнутры грамадства былі ў свой час і адной з галоўных прычын вялікай грэчаскай каланізацыі, але яна не мела ні ваеннага, ні рэлігійнага характару.

Галоўны рэлігійны лозунг крыжовых паходаў, які абвясціла царква, – вызваленне і ахова хрысціянскіх святынь у Палесціне, перш за ўсё труны Гасподняй у Іерусаліме. Пачатак сярэдневякоўя прынёс уздым рэлігійных пачуццяў у Заходняй Еўропе. Узраслі эсхаталагічныя чаканні, асабліва ў сувязі з 1000 годам. Паводле хрысціянскай эсхаталогіі (вучэнне аб канцы свету), пасля апошняй перамогі над сатаной і яго прыхільнікамі і Страшнага суда з неба ад Бога сойдзе нябесны Іерусалім, дзе будуць жыць праведнікі. Нямала людзей прымітыўна інтэрпрэтавала вучэнне новазапаветнага апакаліпсіса Іаана аб тысячагадовым царстве Божым для праведнікаў на зямлі, якое будзе папярэднічаць апошняй бітве з сатаною, у тым сэнсе, што адлік гэтага царства пачаўся з нараджэння або ўваскрасення Ісуса Хрыста (адсюль асаблівыя чаканні ад 1000 і 1033 гг.). Многія імкнуліся сустрэць канец свету менавіта ў Іерусаліме ці хоць б пабачыць, ушанаваць там галоўныя хрысціянскія святыні. Паломніцтва да гэтых святынь узводзілася ў ранг аднаго з галоўных рэлігійных абавязкаў хрысціяніна. І царква трактавала крыжовыя паходы як своеасаблівае паломніцтва ў Палесціну і як абарону рэлігійных патрэбаў іншых паломнікаў. Іерусалім уяўляўся цэнтрам зямлі зусім не па геаграфічных крытэрыях.

Мэтай першага крыжовага паходу была і дапамога праваслаўным хрысціянам Візантыі, якая значна пацярпела ад нападу мусульман і сама шукала

дапамогу. Зразумела, папства разлічвала, што такая дапамога з боку заходнееўрапейскіх аднаверцаў будзе садзейнічаць пераадоленню царкоўнага расколу і пашырэнню папскага прымату на ўсходніх хрысціян.

Здзяйсненню планаў крыжовага паходу, абвешчанага рымскім папам Урбанам II, садзейнічала і палітычная сітуацыя на Блізкім Усходзе. Візантыя пасля разгрому яе арміі каля Манцыкерта ў 1071 г. туркамі-сельджукамі страціла амаль усе свае малаазійскія тэрыторі (у тым жа годзе туркі захапілі Іерусалім, які належаў егіпецкаму халіфату Фацімідаў). Напрыканцы 80-х гадоў сельджукі падышлі да сцен Канстанцінопаля, а печанегі нанеслі сур'ёзнае паражэнне візантыйцам на Балканах. І тады візантыйскі імператар пачаў перамовы з папам рымскім аб дапамозе, ён пагадзіўся нават на скліканне царкоўнага сабора для ўрэгулявання спрэчак паміж праваслаўнымі і каталікамі. І хоць візантыйцы неўзабаве паправілі сваё становішча ў барацьбе з сельджукамі і печанегамі, і сабор так і не быў скліканы, Урбан II заклікаў каталіцкіх вернікаў да дапамогі аднаверцам-сзіхматыкам.

Ісламскі свет у тыя часы быў расколаты як палітычна, так і канфесійна. Магутны тэакратычны Арабскі халіфат распаўся яшчэ да канца IX ст. Багдадскія халіфы неўзабаве страцілі ўсякую свецкую ўладу і заставаліся толькі духоўнымі ўладыкамі мусульман. Але не ўсіх, іх не прызнавалі сваімі духоўнымі кіраўнікамі шыіты. У адрозненне ад большасці мусульман (сунітаў), яны лічылі, што тры першых пераемніка прарока Мухамада былі узурпатарамі, а на чале прававерных павінны стаяць толькі патомкі чацвёртага халіфа Алі ад яго шлюбу з дачкой прарока Фацімой. Паколькі багдадскія халіфы не мелі такога паходжання, шыіты лічылі іх самазванцамі. У адным з буйнейшых асколкаў Арабскага халіфата – мусульманскім Егіпце – яны ўсталявалі сваю ўладу на чале з дынастыяй Фацімідаў.

Сам Багдад быў захоплены сельджукамі ў 1055 г., і хоць тамашнія халіфы такім чынам пазбавіліся ад ціску дынастыі шыіцкіх правіцеляў Буідаў, яны фактычна ператварыліся ў марыянетак сельджукскіх правіцеляў. Сельджукі былі сунітамі, і гэта падагравала варожасць паміж імі і Фацімідамі. Вялікая і эканамічна моцная дзяржава Фацімідаў напярэдадні першага крыжовага паходу значна аслабела ў выніку барацьбы груповак знаці, супраціўлення мясцовага насельніцтва і нападаў сельджукаў. Яна страціла свае ўладанні ў паўночна-заходняй Афрыцы, сельджукі адваявалі Сірыю і Палесціну. Праўда, выкарыстаўшы першыя паражэнні сельджукаў ад крыжаносцаў, Фацііміды здолелі зноў падпарадкаваць сабе частку Палесціны (у тым ліку, ў жніўні 1098 г. і Іерусалім), але ненадоўга.

Дзяржава Вялікіх Сельджукаў у часы першага крыжовага паходу знаходзілася на стадыі распаду. У 1077 г. сельджукі захапілі візантыйскую Нікею, якая стала сталіцай незалежнай дзяржавы туркаў-сельджукаў у Малай Азіі –

Румскага султанату. Непасрэдна перад і падчас першага паходу крыжакоў у дзяржаве Вялікіх Сельджукаў разгарэлася вострая барацьба за ўладу. Двойчы было па два султаны адразу, якія зацята змагаліся паміж сабою за ўладу. Мусульманскія правіцелі варагавалі адын з адным, потым яны нават выкарыстоўвалі сілы крыжакоў для ўсобнай барацьбы, і гэта спрыяла поспеху першага крыжовага паходу. Нават захоп крыжакамі Іерусаліма не выклікаў аб'яднання мусульман і абвяшчэня свяшчэннай вайны іншаверцам – джыхаду.

**Першы крыжовы паход (1096–1099).** Рымскі папа Урбан ІІ не абмежаваўся толькі заклікам у Клермоне да крыжовага паходу. Ён даручыў епіскапам, абатам разгарнуць агітацыйную кампанію па арганізацыі гэтага яшчэ новага для хрысціян мерапрыемства. Сам Урбан ІІ восем месяцаў правёў у Францыі, дзе зноў выступаў з заклікамі да абароны хрысціянскіх святынь, рассылаў адпаведныя лісты ў іншыя хрысціянскія краіны.

Сфармуляваная папам крыжаносная ідэя была падхоплена вялікай колькасцю агітатараў не толькі з ліку святароў і манахаў. Нямала рэлігійна экзальтаваных простых людзей расказвалі шматлікім даверлівым слухачам аб розных уяўленнях, знаках, якія быццам указвалі на будучую хуткую перамогу над няверными, аб багаццях Святой зямлі. Адным з найбольш энергічных прапаведнікаў быў Пётр Ам'енскі, яркі прадстаўнік “другой хвалі” пустэльніцтва, якая ахапіла Заходнюю Еўропу на рубяжы тысячагоддзяў (адсюль яго мянушка “Пустэльнік”). Палымянныя прамовы гэтага шчырага аскета былі надзвычай папулярнымі сярод сялян. Пры гэтым трэба ўлічыць, што дзейнічаў ён ва Усходняй Францыі, якая перад гэтым была ахоплена голадам і страшэннай эпідэміяй “вогненнай хваробы”.

І першымі ў крыжовы паход рушылі натоўпы беднаты. Асноўная іх маса выйшла менавіта з тых рэгіёнаў, якія больш за ўсё пацярпелі ад голаду і эпідэміі: з поўначы і ўсходу Францыі, з Латарынгіі і Германіі. Але людзі ішлі нават з Англіі. Яны амаль не мелі сродкаў ні для падарожжа, ні для вайны. Тыя, хто яшчэ нешта мелі, прадавалі сваю маёмасць, але атрыманых грошай не хапала нават на харчаванне падчас доўгай вандроўкі. Сапраўднай зброі ў іх таксама амаль не было, толькі косы, тапары, вілы, а то і проста калы, ды і то не ва ўсіх. Ахопленыя рэлігійнай экзальтацыяй, чаканнем лепшай долі беднякі не сталі чакаць, калі з імі выступяць сапраўдныя воіны – рыцары і іх сеньёры. Гэта быў так званы “народны паход” або “паход беднаты”. Да яго далучыліся некаторыя збяднелыя рыцары (накшталт Вальтэра з характэрнай мянушкай “Галяк”), рознага роду авантурысты, у тым ліку і крымінальныя элементы. Ніякага адзінага камандавання не існавала.

Новаспечаныя крыжаносцы, збіўшыся ў атрады, з розных куткоў Еўропы ў сакавіку 1096 г. накіраваліся да Канстанцінопаля, каб адтуль пераправіцца ў Малую Азію і ісці на адваяванне труны Хрыстовай. Дакладная іх колькасць невядома, але можна меркаваць, што рухалася некалькі дзесяткаў тысяч бедных

людзей. Адзін з найбольш вялікіх атрадаў узначаліў Пётр Ам'енскі (каля 14 тыс. чалавек). З нашытымі (а іншы раз і з выпаленымі на целе) крыжамі беднякі ішлі традыцыйным шляхам паломнікаў у Палесціну – на Венгрыю, потым на Белград і далей па балканскіх уладаннях Візантыі. Многія ішлі з сем'ямі, якіх нельга было пакідаць дома на галодную смерць. Як сведчаць храністы, малыя дзеці, ўбачыўшы новы горад ці замак, пыталіся, ці не Іерусалім гэта. Безграшовыя беднякі на сваім цяжкім шляху вымушаны былі здабываць сродкі ад галоднай смерці рабункамі, крадзяжамі. Яны ўчынілі масавыя яўрэўскія пагромы ў французскіх, нямецкіх і чэшскіх гарадах, забіваючы людзей іншай веры і рабуючы іх маёмасць пад лозунгам, што яўрэі забілі Ісуса Хрыста. Вядома, мясцовае насельніцтва давала жорсткі адпор гэтым рабаўнікам, і шмат крыжаносцаў склала галовы яшчэ не дайшоўшы да сталіцы Візантыі. Першыя з тых, хто дайшоў, з'явіліся там у сярэдзіне ліпеня 1096 г.

Але і там яны працягвалі красці і рабаваць, хоць візантыйскі імператар Аляксей Камнін выдзеліў ім некаторыя сродкі на пражыццё. Занепакоены імператар паспяшаўся хутчэй пераправіць гэтых небяспечных людзей праз Басфор, тым больш, што сама бедната ірвалася ў бой з няверным і гарэла жаданнем хутчэй дайсці да святынь. Спроба Пятра Ам'енскага арганізаваць ваенныя дзеянні крыжаноснага натоўпу толькі паказала яго няздатнасць да ваеннай справы, і ён ад'ехаў назад у Канстанцінопаль. У першай жа буйной бітве ў кастрычніку 1096 г. сельджукі знішчылі сялянскае “войска”, толькі тры тысячы чалавек здолелі пазбегнуць пагібелі і палону, імкліва ўцёкшы ў Канстанцінопаль.

Феадалы выступілі ў паход пазней. Гэта быў сапраўдны ваенны паход са стараннай да яго падрыхтоўкай. Аднак і рыцары-крыжаносцы не мелі адзінага камандавання. Васалы, як звычайна, падпарадкоўваліся свайму сеньёру. Рыцары аб'ядналіся ў некалькі атрадаў на чале з герцагамі і графамі. Рознымі шляхамі яны дабіраліся да Канстанцінопаля, дзе павінны былі сабрацца разам, каб потым рушыць у Палесціну. Калі сельджукі забівалі сялян каля Нікеі, феадалы яшчэ былі ў дарозе да сталіцы Візантыі, а некаторыя яшчэ і не выступалі. Першымі ў жніўні 1096 г. рушылі рыцары Латарынгіі і Германіі на чале з герцагам Готфрыдам Бульёнскім. У кастрычніку выступілі нарманскія рыцары Сіцыліі і паўднёвай Італіі на чале з князем Баэмундам Тарэнтскім і паўднёвай Францыі на чале з графам Раймундам Тулузскім. У паход рушылі і іншыя атрады, асабліва з сярэдняй і паўночнай Францыі. Адным з іх камандаваў герцаг Роберт Нармандскі, які меў мянушку “Кароткія Штаны” (ён быў сынам Вільгельма І Заваёўніка і пасля смерці бацькі імкнуўся адабраць англійскі прастол у свайго брата). У яго войску былі не толькі французскія васалы, але і рыцары і бароны з Англіі і Шатландыі.

Напалоханыя рабаўніцтвам і пагромамі крыжаноснай бедната (дарэчы, і за рыцарамі ішла некаторая колькасць сялян) улады тэрыторый, праз якія ішлі

крыжаносцы, рознымі мерамі імкнуліся абмежаваць свавольства шматлікіх узброеных паломнікаў (а іх было не менш за 100 тыс. чалавек). Так, венгерскі кароль даў згоду прапусціць крыжаносцаў праз свае землі толькі тады, калі яны пакінулі яму заложнікаў. Як толькі рыцары Готфрыда Бульёнскага пакінулі венгерскую тэрыторыю, заложнікі адразу далучыліся да іх. Але рыцары-крыжаносцы на сваім шляху часта не маглі ўстрымацца ад рабаўніцтва і захопу здабычы. У Далмацыі, напрыклад, многія жыхары пры набліжэнні крыжаносцаў уцякалі з сваіх паселішчаў і хаваліся. У канцы 1096 – пачатку 1097 г. атрады рыцараў сканцэнтраваліся ў Канстанцінопалі. Імператар Аляксей Камнін, які разлічваў выкарыстаць гэтую моцную ваенную сілу для аднаўлення візантыйскай улады над тэрыторыямі, што былі захоплены мусульманамі, паспрабаваў атрымаць ад правадыроў крыжаносцаў прысягу вернасці сабе, ведаючы, якую важную ролю яна адыгрывае ў адносінах паміж ¦лацінянамі°. Дзе дыпламатыяй, а дзе і проста ваеннай сілай, ён дабіўся такой прысягі ад многіх з іх. На пачатку баявых дзеянняў супраць сельджукаў візантыйскае войска дзейнічала разам з крыжаносным. Але розныя інтарэсы саюзнікаў прыводзілі да канфліктаў паміж імі, неаднойчы ўзгараліся і вострыя канфлікты паміж лідэрамі саміх крыжакоў.

У красавіку-маі 1097 г. візантыйцы пераправілі рыцараў у Малую Азію. Нікею, наваколлі якой сталі магілай для тысяч сялян, яны ўзялі пасля месячнай аблогі. Праўда, турэцкі гарнізон здаўся не ім, а візантыйскаму военачальніку. Той не дазволіў рыцарам рабаваць горад, які зноў пераходзіў пад уладу імператара. Спробы румскага султана дэблакіраваць сваю сталіцу былі няўдалымі, а неўзабаве рыцары разграмілі яго войска. Без асаблівых перашкод крыжаносцы дайшлі да Кілікіі на паўднёвым усходзе Малай Азіі, якая была населена армянамі, што ўцяклі туды яшчэ пры нашэсці сельджукаў на Арменію, але і на новым месцы трапілі пад ярмо гэтых жа заваёўнікаў. Кілікія была захоплена лёгка, яе хрысціянскае насельніцтва не жадала жыць пад уладай мусульманскіх правіцеляў. Потым крыжаносцы падзяліліся: большая частка рушыла на поўдзень – на Антыёхію ў Сірыі, а другая на чале з Бадуэнам Булонскім (братам Готфрыда Бульёнскага) – на ўсход на горад Эдэсу, які быў буйным цэнтрам караваннага гандлю і рамяства (ён знаходзіўся ў Месапатаміі). Армянскі правіцель Эдэсы шчыра вітаў крыжаносцаў як вызваліцеляў хрысціян. Ен нават усынавіў Бадуэна і зрабіў яго сваім суправіцелем. Але ўжо ў сакавіку 1098 г. жыхары Эдэсы паўсталі супраць армянскага правіцеля і забілі яго. Адзіным уладаром Эдэсы застаўся Бадуэн Булонскі. Так на Усходзе ўзнікла першая дзяржава крыжаносцаў – графства Эдэскае. Хутка Бадуэн значна пашырыў тэрыторыю сваіх уладанняў.

Найбольш цяжкія выпрабаванні выпалі на долю тых удзельнікаў першага крыжовага паходу, якія апынуліся ля сцен Антыёхіі. Апынуліся яны там лёгка – канфліктуючыя паміж сабою сельджукскія эміры ў Сірыі не здолелі перакрыць горныя праходы. Аднак сама багатая і прывабная для крыжакоў Антыёхія была

добра ўмацаванай і гатовай да доўгай абароны. Больш сямі месяцаў цягнулася аблога гэтага горада. Калі раней рыцары пакутавалі ад спякоты і смагі, то цяпер ад холаду і голаду. Дзіўна, але ад голаду пакутавалі не тыя, хто быў у аблозе, а тыя, хто яе трымаў. Узяць Антыёхію крыжаносцы змаглі толькі ў выніку здрады некаторых яе абаронцаў. Уварваўшыся ў горад ноччу з 2 на 3 чэрвеня 1098 г., рыцары ўчынілі крывавую разню людзей, нават і мясцовых хрысціян.

Знясіленае крыжаноснае войска праз тры дні само трапіла ў аблогу – да Антыёхіі падышло моцнае сельджукскае войска. Адчай ахапіў нядаўніх пераможцаў. Успомніўшы пра сваю галоўную місію яны цэлымі днямі маліліся ў хрысціянскіх царквах. І ў гэтай атмасферы адбыўся цуд. Адзін з беднякоў, які ішоў разам з рыцарамі, абвясціў, што бачыў сон быццам у адной з цэркваў закапана дзіда, якою рымскі воін прабіў бок распятага на крыжы Ісуса Хрыста. Гэтая рэліквія выратуе абаронцаў труны Гасподняй. І сапраўды ў царкве адкапалі кусок жалеза, які выдалі за дзіду. “Цуд святой дзіды” натхніў знясіленых крыжаносцаў і ў канцы чэрвеня яны разбілі сельджукаў за сценамі Антыёхіі. Але тут вымушаны былі затрымацца на некалькі  месяцаў. І не толькі, каб аднавіць свае сілы, але і з-за спрэчак, каму з іх дастанецца багаты горад. Галоўнымі дзеючымі асобамі канфлікту былі Баэмунд Тарэнтскі і Раймунд Тулузскі. У рэшце рэшт было вырашана, што валадаром Антыёхіі будзе Баэмунд Тарэнтскі. Ён не вярнуў горад візантыйскаму імператару, абвінаваціўшы свайго новаспечанага сеньёра, якому даваў прысягу, у тым, што імператар не прывёў сваё войска на дапамогу крыжакам каля Антыёхіі (той атрымаў звесткі, што крыжаноснае войска быццам знішчана). Так узнікла другая дзяржава крыжаносцаў – княства Антыяхійскае.

А Раймунд Тулузскі вырашыў за лепшае не задаволіцца малым, а здзейсніць галоўную мэту паходу – захапіць Іерусалім. І менавіта ён узначаліў адну з дзвюх калон крыжаносцаў, якія рушылі далей на поўдзень. Крыжакі цяпер амаль не затрымліваліся ля буйных умацаваных гарадоў, яны іх абыходзілі і ўпарта набліжаліся да Іерусаліма. 7 чэрвеня 1099 г. яны падышлі да горада. Абаронцы змагаліся зацята, ім на дапамогу з Егіпта было паслана войска. Некалькі штурмаў не далі аніякіх вынікаў. І ўсё ж 15 ліпеня крыжаносцы ўварваліся ў Іерусалім. Яны ўчынілі пагалоўную разню мусульман і іудзеяў. Толькі ў мячэці Амара было забіта, па звестках саміх крыжаносцаў, не менш за 10 тыс. чалавек. Захоплены горад уяўляў агіднае відовішча: у той час, калі адны забівалі і рабавалі, іншыя залітыя чужою крывёю заўзята маліліся ў хрысціянскіх храмах.

Спрэчкі сярод пераможцаў аб тым, хто будзе ўладаром горада, ледзь не прывялі да вайны паміж крыжаносцамі. Раймунд Тулузскі нарэшце адмовіўся ад прэтэнзій на іерусалімскі трон і правіцелем Іерусалімскага каралеўства быў урачыста абвешчаны Готфрыд Бульёнскі з тытулам “абаронцы труны Гасподняй”. Так быў пакладзены пачатак трэцяй (і галоўнай) дзяржаве крыжаносцаў.

Неўзабаве было разгромлена егіпецкае войска, якое не паспела абараніць Іерусалім. Пасля гэтага многія крыжаносцы пакінулі Палесціну і вярнуліся дадому палічыўшы выкананым свой зарок.

**Дзяржавы крыжаносцаў на Блізкім Усходзе.** Заваяванне Іерусаліма паклала пачатак існаванню трэцяй (і галоўнай) дзяржавы крыжаносцаў на Блізкім Усходзе – Іерусалімскаму каралеўству. Хоць сілы крыжаносцаў на Усходзе пасля заканчэння першага крыжовага паходу паменшалі, яны з дапамогай венецыянскага і генуэзскага флоту неўзабаве захапілі прыморскія гарады на палесцінска-ліванскім узбярэжжы – Кесарыю, Акру, Трыпалі, Бейрут і інш. Гэтыя заваяванні значна пашырылі тэрыторыю Іерусалімскага каралеўства і прывялі да стварэння яшчэ адной дзяржавы – Трыпалійскага графства паміж Іерусалімскім каралеўствам на поўдні і Антыяхійскім княствам на поўначы. У Трыпалі правілі нашчадкі Раймунда Тулузскага (сам ён памёр падчас сямігадовай аблогі гэтага горада).

Такім чынам, утварыліся чатыры дзяржавы крыжаносцаў: графства Эдэскае, княства Антыяхійскае, графства Трыпалійскае і каралеўства Іерусалімскае. Яны выцягнуліся доўгай вузкай стужкай уздоўж узбярэжжа працягласцю каля 1200 км. Галоўным з правіцеляў гэтых дзяржаў лічыўся іерусалімскі кароль, астатнія правіцелі прыносілі яму прысягу вернасці. Аднак у пэўнай залежнасці ад караля Іерусаліма знаходзілася толькі Эдэскае графства ў выніку таго, што пасля смерці Готфрыда Бульёнскага ў 1100 г. іерусалімскія рыцары пасадзілі на яго прастол Бадуэна Эдэскага (яго брата) і пакінутае ім графства лічылася каралеўскім ф’ефам. Правіцелі ж Антыёхіі і Трыпалі былі фактычна незалежнымі ад іерусалімскага караля.

На заваяваных землях крыжаносцы апынуліся ў няпростай сітуацыі. Сувязі з “лацінскім светам” Заходняй Еўропы былі слабымі – далёкая адлегласць пры тагачасных прымітыўных камунікацыях. Уладанні крыжаносцаў на Блізкім Усходзе называлі “зямлёю за марамі”. Доля прышэльцаў з іх сем'ямі на тэрыторыі створаных імі дзяржаў сярод агульнай масы насельніцтва была мізэрнай (2–3 %). Па этнічным і канфесійным складзе мясцовае насельніцтва было стракатым: арабы-мусульмане (большасць насельніцтва), армяне (хрысціяне-манафізіты, ератыкі для католікаў і праваслаўных), грэкі (праваслаўныя), сірыйцы (хрысціяне розных накірункаў, якія таксама лічыліся ератычнымі), яўрэі (іудзеі). Нязвыклай для заходнееўрапейцаў была і вялікая колькасць буйных гарадоў з развітымі гандлем і рамяством. Вядома, асноўная маса мясцовага насельніцтва не мела прыязні да заваёўнікаў. Да таго ж пастаянна існавала пагроза на межах ад суседніх мусульманскіх уладароў, якая часта ператваралася ў зацятыя войны. І галоўнай мэтай дзяржаў крыжаносцаў была абарона заваяваных тэрыторый і ўтрыманне ў падпарадкаванні мясцовага насельніцтва. Па сутнасці гэта былі ваенна-каланізацыйныя дзяржавы.

Криваёўнікі прынеслі з сабою звыклыя для іх грамадскія адносіны. Прычым адносіны сюзерэнітэта-васалітэта ў іх дзяржавах звычайна падаюцца даследчыкамі як класічны прыклад гэтых феадальных адносін. Але для мясцовых сялян было захавана нямала з тых адносін, якія існавалі і пры мусульманах.

Палітычны лад крыжаносцаў быў пабудаваны на строгай феадальнай іерархіі. На чале стаяў манарх (кароль, граф, князь). Ён быў буйным феадалам, але не абавязкова самым буйным. Толькі ў Антыяхійскім княстве дамен караля быў значна большым, чым уладанні баронаў. У Іерусалімскім каралеўстве ўладанні баронаў былі прыкладна роўнымі з каралеўскімі, да таго ж бароны мелі права чаканіць сваю манету, тварыць уласны суд і нават самастойна весці войны з мусульманамі, што іншы раз наносіла вялікую шкоду ўсяму каралеўству. А граф Трыпалі непасрэдна валодаў толькі сваёю сталіцай.

Дзяржавы падраздзяляліся на бароніі (у Іерусалімскім каралеўстве іх было чатыры), а тыя – на рыцарскія феоды (ф’ефы). У Іерусалімскім каралеўстве ўсе васалы павінны былі прысягаць каралю, не толькі яго прамыя леннікі, а і васалы іншых сеньёраў, для якіх прыярытэтнымі былі загады караля. А ў Антыяхійскім княстве каралю прысягалі толькі яго асабістыя васалы, а астатнія – сваім сеньёрам. Найлепш вядома дзяржаўная структура Іерусалімскага каралеўства. Нягледзячы на тое, што захоўваўся прынцып спадчыннасці пры перадачы каралеўскай улады, новы кароль усё ж такі павінен быў праходзіць праз працэдуру абрання ў Высокай палаце. Высокая палата з’яўлялася каралеўскім саветам, які складаўся з баронаў і іншых прамых васалаў караля. Яна істотна абмяжоўвала каралеўскую ўладу. Высокая палата абмяркоўвала і вырашала пытанні вайны і міру, без яе згоды кароль не мог прыняць якія-небудзь важныя рашэнні. Не мог ён і адмяніць рашэнні Высокай палаты. Гэты орган быў і вышэйшай судовай інстанцыяй – разглядаў спрэчкі рыцараў. Высокая палата сачыла за выкананнем феадальных звычаяў. З цягам часу склаўся звод законаў Іерусалімскага каралеўства – “Іерусалімскія асізы”. Іх галоўны змест – рэгламентацыя адносін паміж сеньёрамі і васаламі. Там, у прыватнасці, фіксавалася, што васалы могуць не выконваць службу свайму сеньёру (нават каралю), калі той парушае іх правы. Калі сеньёр незаконна адбіраў ф’еф у васала, астатнія васалы гэтага сеньёра былі абавязаны дапамагаць пакрыўджанаму.

У нізе феадальнай іерархіі знаходзіліся рыцары – васалы, якія валодалі ф’ефамі, атрыманымі ад сеньёра. Але ф’ефы былі не толькі зямельнымі ўладаннямі, так называліся і падараванні васалам сеньёрамі правоў на збор рыначнага, мытнага ці іншых падаткаў. Галоўным абавязкам рыцара перад сеньёрам была ваенная служба. Па загадзе сеньёра васал павінен з'явіцца ў поўным узбраенні і з чатырма канямі, а таксама з усёй патрэбнай абслугай, у тым ліку і са сваімі ўзброенымі людзьмі. Колькасць рыцараў у дзяржавах крыжаносцаў была невялікай; у Іерусалімскім каралеўстве, напрыклад, у 1100 г. іх

было толькі каля 300 чалавек, а праз 80 гадоў – 675, з іх прамымі васаламі караля было каля 200. Калі васал пакідаў свой ф’еф больш, чым адзін год і адзін дзень, сеньёр адбіраў у яго ф’еф. Такая асаблівасць у правах на феод была выклікана пастаяннай ваеннай пагрозай для заваёўнікаў.

З цягам часу першыя феадалы, якія аселі на заваяваных землях, пераржаніліся на жанчынах з сямей такіх жа прышэльцаў, і стварылі своеасаблівы слой мясцовай “знаці”. Гэтыя людзі з насцярогай адносіліся да тых, хто прыбываў з новымі хвалямі крыжаноснага руху. Такія людзі ўжо адрозніваліся ад заходнееўрапейцаў, яны шмат запазычылі з тубыльнага побыту.

Заваёўнікі прынеслі з сабою сваю веру. Каталіцкай царкве ў іх дзяржавах належала дамінуючая роля. Адразу пасля захопу Іерусаліма там быў пастаўлены каталіцкі іерусалімскі патрыярх. Былі створаны архіепіскапствы, епіскапствы. Праваслаўным епіскапам не дазвалялі вяртацца на іх месцы, што дадало варожасці да крыжакоў з боку Візантыі. Сірыйскім хрысціянам дазволілі захаваць іх духавенства, свабоду наведвання іерусалімскіх святынь.

Каталіцкія патрыярх іерусалімскі, архіепіскапы, епіскапы, абаты кляштараў былі буйнымі землеўладальнікамі. Яны атрымалі ў асноўным землі, што належалі раней мусульманскаму і часткова праваслаўнаму духавенству. Шмат зямельных падарункаў царква атрымала ад свецкіх сеньёраў. На царкоўных і манастырскіх землях працавалі залежныя сяляне. Некаторыя епіскапы мелі нават сваіх васалаў-рыцараў.

У адрозненне ад тагачаснай Заходняй Еўропы царква ў дзяржавах крыжаносцаў знаходзілася ў значнай залежнасці ад свецкай улады. Іерусалімскія каралі, напрыклад, адыгрывалі рашаючую ролю ў прызначэнні на вышэйшыя царкоўныя і манастырскія пасады. Папства з яго курыяй знаходзілася далёка за морам і на практыцы не магло эфектыўна ўплываць на жыццё царквы ў дзяржавах крыжаносцаў. А канфлікты пап з крыжаноснымі манархамі маглі прывесці да самых горшых вынікаў ва ўмовах напружанага існавання дзяржаў заваёўнікаў у атачэнні варожага да іх ісламскага свету.

Але разам з тым у папства з пачатку XII ст. з'явілася надзейная апора ў выглядзе духоўна-рыцарскіх ордэнаў. У адпаведнасці з іх статутамі, якія зацвярджаліся рымскімі папамі, гэтыя ордэны падпарадкоўваліся толькі папам і былі незалежнымі ад любых свецкіх ці іншых духоўных улад. На тэрыторыі крыжаносных дзяржаў склаліся ордэны тапмліераў, іаанітаў (шпітальераў), тэўтонаў, мантоеў. Найбольш значнымі былі два першыя ордэны, тамплієры мелі, напрыклад, 18 крэпасцей, іааніты – 5. Акрамя таго, яны мелі многа зямельных уладанняў і будынкаў у гарадах. Спачатку манахі-воіны, галоўным чынам, ахоўвалі паломнікаў і выконвалі паліцэйскія функцыі, але неўзабаве ўжо складалі істотную частку крыжаноснага войска. Ім належала рашаючая роля ў шэрагу перамог крыжакоў. Ордэны тэўтонаў і мантоеў былі створаны пазней, ужо пад

канец крыжаноснага руху. Тэўтоны вызначыліся ў Палесціне сваёй міжусобнай вайной з тампліерамі падчас канфлікту Фрыдрыха II з папамі, а ордэн мантоеў быў вельмі нешматлікім, бо складаўся з пірэнейскіх манахаў-рыцараў, якім хапала і сваёй Рэканкісты.

Абсалютную большасць сельскага насельніцтва складалі мусульмане. Асноўная іх частка залежала ад уладароў маёнткаў, на землях якіх яны працавалі. Але частка сялян была свабоднымі людзьмі, яны выплочвалі дзяржаўныя падаткі. Асноўныя павіннасці феадальна-залежных сялян –натуральны і грашовы аброк. Паншчыны амаль не было, феадалы ў дзяржавах крыжаносцаў у сваіх маёнтках не адводзілі частку зямель пад уласны дамен. Паншчына існавала толькі на плантацыях цукровага трыснягу. Гэта вельмі нагадвала адносіны, якія існавалі на гэтых тэрыторыях пры мусульманскіх уладах, калі уласнік атрыманага за службу маёнтка (ікта) не вёў уласнай гаспадаркі, а меў права на частку даходаў сялян, што жылі на яго зямлі. У прынцыпе захаваліся былыя асноўныя віды падаткаў з сялян, напрыклад, пазямельны падатак, які называўся ўжо не “хараджˮ, а “тэражˮ. Пры мусульманскім панаванні ўсе немусульмане павінны былі выплачваць падушны падатак (джызью), з прыходам крыжаносцаў падушны падатак (талью) плацілі ўжо ўсе сяляне. Тэндэнцыйным і неабгрунтаваным з'яўляецца тэзіс шэрагу савецкіх гісторыкаў аб нібыта ўзрастанні эксплуатацыі сялянства пры крыжаносцах. Мусульманскія аўтары-сведкі гавораць аб адваротным: аб лепшай долі земляробаў пры гаспадарах – “франкахˮ, чым пад уладай суседніх мусульманскіх правіцеляў. Асноўнае незадавальненне мясцовага насельніцтва выклікаў рэлігійны і нацыянальны прыгнёт.

У гарадах пераважала хрысціянскае насельніцтва розных веравызнанняў. Мясцовыя гараджане-хрысціяне захавалі сваю былую адміністрацыю. Вялікую ролю ў эканамічным жыцці гарадоў у дзяржавах крыжаносцаў адыгрывалі італьянскія купцы, асабліва з Венецыі і Генуі. У пачатку XII ст. венецыянцы атрымалі па кварталу ў кожным горадзе Іерусалімскага каралеўства. Італьянскія купцы мелі юрыдычныя прывілеі, у прыватнасці, іх судзілі толькі па законах іх рэспублік.

Італьянскія купцы разгарнулі інтэнсіўны знешні транзітны гандаль. З Еўропы яны завозілі хлеб, лес для будаўніцтва, металы, коней, вопратку. У Еўропу везлі шаўковыя і баваўняныя тканіны, цукар, віно, вострыя прыправы, красіцелі, слановую косць і каштоўныя камяні, шкляны посуд і многае іншае. Існаванне дзяржаў заходнееўрапейскіх заваёўнікаў на Блізкім Усходзе забяспечыла ўздым міжземнаморскага гандлю, але ён не быў доўгім і трывалым, як і існаванне саміх дзяржаў крыжаносцаў.

Свайго максімуму тэрыторыя гэтых дзяржаў дасягнула ў першыя гады пасля першага крыжовага паходу, які быў найбольш паспяховым. У далейшым яна пачала калі паступова, а калі імкліва скарачацца, каб наогул знікнуць

напрыканцы XIII ст.

**Другі і трэці крыжовыя паходы.** Другі крыжовы паход адбыўся ў 1147–1149 гг. Выкліканы ён быў захопам сельджукамі ў 1144 г. Эдэсы і большай часткі тэрыторыі гэтага графства. Іерусалімскія крыжаносцы звярнуліся за дапамогай да папы рымскага. Галоўным натхніцелем новага крыжовага паходу быў цыстэрцыянскі абат Бернар Клервоскі. Па яго закліку ў Францыі быў уведзены асобы пагалоўны падатак на патрэбы крыжовага паходу. Асаблівасцю другога паходу было тое, што ў ім упершыню прынялі ўдзел заходнееўрапейскія манархі: французскі кароль Людовік VII і германскі кароль Конрад III.

Спачатку пераправіліся ў Малую Азію нямецкія крыжаносцы. У першай бітве яны былі ўшчэнт разгромлены конніцай румскага султана. Іх ацалелыя рэшткі на чале з каралём уліліся ў войска Людовіка VII. Французскія кароль і знаць ішлі ў паход з жонкамі і прыдворнымі дамамі, вялікай світай. Па дарозе яны пазбавіліся ад натоўпу беднякоў, якія таксама пацягнуліся за імі ў Святую зямлю. Першыя крокі па тэрыторыях, занятых "нявернымі", паказалі ім небяспечнасць і цяжкасць сухапутнага шляху, і ў адным з візантыйскіх партоў знаць і рыцары за вялікую плату селі на караблі і дабраліся да Антыёхіі. У беднаты такіх грошай не было. У Сірыі крыжаносцы вырашылі не адваёўваць спачатку разбураную Эдэсу, а захапіць Дамаск, дзе яны спадзяваліся на вялікую здабычу. Такая самадзейнасць выклікала незадавальненне іерусалімскай знаці. Спрэчкі паміж крыжаносцамі і моцныя сілы мусульман, кінутыя на дапамогу Дамаска, прымусілі заваёўнікаў зняць аблогу горада і бясслаўна вярнуцца ў Еўропу.

Між тым знешняя сітуацыя для ўладанняў крыжаносцаў на Блізкім Усходзе рэзка пагоршылася. Калі раней яны мелі справу з разрозненымі высілкамі сельджукскіх і егіпецкіх правіцеляў, то ў 80-я гг. XII ст. мусульманскія тэрыторыі вакол дзяржаў крыжаносцаў былі аб'яднаны пад уладай магутнага егіпецкага султана Салахаддзіна (Саладзіна). Вайна султана з крыжакамі была фактычна справакавана дзеяннямі аднаго з графаў Іерусалімскага каралеўства – Рэнэ дэ Шаційёна. Гэты авантурыст даставіў праз пустыню да берага Чырвонага мора караблі ў разабраным выглядзе, потым караблі зноў сабралі і спусцілі на ваду. Рэнэ рабаваў гандлёвыя караблі, пазабіваў усіх паломнікаў на караблі, накіроўваўся ў Меку. Потым ён захапіў егіпецкі караван. Пасля апошняга рабунку Саладзін рушыў на крыжакоў са сваім войскам з Сірыі. Ён уварваўся ў Трыпалійскае графства і аблажыў замак, дзе схавалася жонка графа. На дапамогу Трыпалі крыжаносцы сабралі вялікае войска (амаль такое, як у Саладзіна), для чаго прыйшлося пакінуць многія гарады без гарнізонаў. 3 ліпеня 1187 г. каля Хіціна султан знішчыў амаль усё войска крыжакоў. У палон трапілі іерусалімскі кароль, вялікі магістр тампліераў, Рэнэ дэ Шаційён. Караля і вялікага магістра Саладзін дазволіў выкупіць, а Рэнэ ўласнаручна адсек галаву. Пакараны смерцю былі і ўсе ордэнскія рыцары.

У выніку хіцінская катастрофы Іерусалімскае каралеўства засталася амаль безабаронным. Саладзін рушыў на партовы горад Акру (Аку), жыхары якой адразу здаліся, і султан дазволіў ім пакінуць горад з іх маёмасцю. За тры месяцы ён заняў большасць гарадоў на ўзбярэжжы, а потым аблажыў Іерусалім. Праз некалькі дзён 2 кастрычніка 1187 г. жыхары Іерусаліма адчынілі вароты. Гэтае падзенне Іерусаліма рэзка кантраставала з тым, што адбылося ў 1097 г. Жыхарам горада Саладзін гарантаваў жыццё. Ім было прапанавана на працягу 40 дзён унесці выкуп, у адваротным выпадку яны станавіліся рабамі. Большасць выкупілася, але каля 15 тыс. беднякоў не змаглі сабраць патрэбных грошай і апынуліся ў рабстве. Наступныя спробы Саладзіна захапіць Трыпалі і Антыёхію былі няўдалымі.

Падзенне Іерусаліма выклікала бурную рэакцыю ў Еўропе. Разгарнулася актыўная агітацыя за новы крыжовы паход. У Англіі і Францыі была ўведзена "Саладзінава дзесяціна" – людзі павінны былі аддаць дзесятую частку сваіх даходаў на падрыхтоўку адваявання галоўных хрысціянскіх святынь. У крыжовы паход вырашылі рушыць англійскі кароль Генрых II, французскі Філіп II Аўгуст, кароль Германіі і імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрых I Барбароса. Але перад пачаткам паходу памёр Генрых II і яго месца заняў новы кароль Рычард, які потым атрымаў мянушку "Ільвінае сэрца" за сваю лютасць у баях. Трэці крыжовы паход адбыўся ў 1189–1192 гг. У ім удзельнічалі ўжо толькі рыцары і знаць, натоўпы беднякоў за імі не пацягнуліся.

Першым са сваім войскам выступіў Фрыдрых I Барбароса. Разрабаваўшы на сваім шляху балгарскія ўладанні Візантыі, германскія рыцары пераправіліся ў Малую Азію, дзе захапілі новую сталіцу Румскага султаната горад Іконій. Але пры пераправе праз адну з горных рэк у Сірыі Фрыдрых I Барбароса патануў. Узрушаная гэтым, большая частка яго воінаў вярнулася дадому, у Палесціну ж дабралася не больш за тысячу чалавек з 30-тысячнага войска. Германскія рыцары падыйшлі на дапамогу войску крыжаносных дзяржаў, якое ўжо даўно беспаспяхова асаджала Акру. Дапамога немцаў нічога не вырашала. Сітуацыя змянілася толькі тады, калі ў Палесціну на караблях прыбыло войска французскага і англійскага караля. Па дарозе Рычард захапіў Кіпр. Ён ужо атрымаў сваю мянушку за крывавую бойку з аднаверцамі на Сіцыліі. Яшчэ ў дарозе ўзгарэўся канфлікт паміж Рычардам і Філіпам II. Спрэчкі абвастрыліся яшчэ больш у Палесціне з-за таго, каго падтрымліваць на пасаду іерусалімскага караля (хоць Іерусалім быў мусульманскім).

У ліпені 1191 г. крыжаносцы ўзялі Акру. Пасля гэтага там і сядзелі "іерусалімскія" каралі альбо, як яшчэ гавораць, каралі "Другога Іерусалімскага каралеўства". Пасля ўзяцця Акры Філіп II вярнуўся дадому, дзе напаў на французскія ўладанні англійскага караля. Рычард жа застаўся ў Палесціне і ўпарта імкнуўся захапіць Іерусалім. Яму ўдалося нанесці моцнае паражэнне Саладзіну і

прымусіць султана вывесці войска з прыморскіх гарадоў. Але Іерусалім узяць не ўдалося. У 1192 быў заключаны дагавор, пзгодна з якім крыжаносцам была вернута прыбярэжная тэрыторыя Іерусалімскага каралеўства, а Іерусалім застаўся за Саладзінам.

**Чацвёрты крыжовы паход.** Пасля трэцяга паходу каталіцкія правіцелі зразумелі, што галоўным ворагам крыжаносцаў у Палесціне з'яўляецца егіпецкі султан. Рымскі папа Інакенцій ІІІ выступіў арганізатарам чацвёртага крыжовага паходу. Галоўны ўдар, па разліках папы, трэба было нанесці менавіта па Егіпту. Надзеі ўзмацняліся тымі абставінамі, што ў 1193 г. Саладзін памёр, а яго ўладанні былі падзелены паміж сынамі. Аднак чацвёрты крыжовы паход (1202–1204) разгарнуўся зусім па-іншым сцэнарыі, чым той, які быў падрыхтаваны Інакенціем ІІІ. Галоўнай асаблівасцю гэтага паходу было тое, што рэальным яго вынікам стаў разгром не мусульман, якія пагражалі Святой зямлі, а хрысціянскай Візантыі. Аднак змена кірунку адбылася толькі ў час самога паходу.

Рыхтаваўся ж чацвёрты крыжовы паход супраць тых дробных княстваў, якія атачалі рэшткі ўладанняў крыжаносцаў на Блізкім Усходзе (Хімскае, Дамаскскае, Заіарданскае і інш.), дзе правілі нашчадкі Саладзіна, і супраць егіпецкага султана з той жа заснаванай Саладзінам дынастыі Аюбідаў, які лічыўся галоўным сярод усіх нашчадкаў галоўнага пераможцы крыжаносцаў. Папа Інакенцій ІІІ нават прапаноўваў саюз візантыйскаму імператару для сумеснага адваявання Іерусаліма ў “няверных”, але візантыйцы на саюз не пайшлі. На заклікі папы да ўдзелу ў паходзе адгукнулася шмат рыцараў, графаў, герцагаў, баронаў, але ніводзін кароль у паход не рушыў. Магчыма, адсутнасць каралёў сярод крыжаносцаў і дазволіла арганізаваць адзінае камандаванне паходам. Падрыхтоўка была доўгай, першапачатковая дата выступлення (сакавік 1199 г.) была намнога аднесена. Збіраліся ў паход феадалы з многіх краін, але большасць была французаў. Каб не траціць сілы на цяжкі сухапутны пераход, правадыры крыжаносцаў вырашылі дабірацца да месца будучых баявых дзеянняў супраць мусульман марскім шляхам. Для гэтага патрабавалася вялікая колькасць караблёў, якіх у крыжаносцаў амаль не было. І яны заключылі дагавор з дожам Венецыі Дандола аб пераправе іх на венецыянскіх караблях. Дандола вызначыў суму грошай, якія павінны былі заплаціць крыжаносцы за перавоз (дарэчы, не надта вялікую), а таксама дамовіўся, што Венецыі перападзе палова ад заваяванага крыжаносцамі з дапамогай венецыянскага флоту.

Летам 1202 г. асноўныя сілы крыжаносцаў сканцэнтраваліся каля Венецыі. Але патрэбнай сумы грошай за перавоз яны не сабралі. Пацягнуліся месяцы чакання адпраўкі. Некаторыя вярнуліся дадому, тыя, хто выбраўся пазней, паплыла ў Сірыю, мінуючы Венецыю. У Сірыі невялікую групу крыжаносцаў разбілі мусульмане, а ў 1204 г. крыжаносныя правіцелі Акры заключылі шасцігадовы мір з Аюбідамі. А вось тыя крыжаносцы, што заставаліся каля

Венецыі, змянілі кірунак паходу. Аб тым, хто быў натхніцелем такой радыкальнай змены паходу супраць Візантыі, а не мусульман, сярод даследчыкаў існуюць самыя розныя меркаванні. Гэтую ролю адводзяць і венецыянскім правіцелям, і каралям Германіі і Францыі, і правадырам крыжакоў, і нават самому папе Інакенцію III. Такія вывады робяцца на аснове прынцыповага пытання: "Каму гэта было выгадна?" Аднак куды цяжэй будзе адказаць на пытанне аб тым, каму ў Заходняй Еўропе было нявыгадна захапіць Візантыю. Таму лепш аперыраваць фактамі.

Зразумеўшы, што крыжаносцы так і не выплацяць патрэбных грошай, і баючыся небяспечнага суседства іх лагера з Венецыяй, Дандола прапанаваў крыжаносцам "адпрацаваць" невыплачаную частку грошай захопам г. Задара (Зары), які знаходзіўся на ўсходнім узбярэжжы Адрыятычнага мора і належаў тады Венгрыі. Задар быў моцным гандлёвым канкурэнтам Венецыі. Прапанова дожа Венецыі была прынята правадырамі крыжаносцаў. У канцы лістапада 1202 г. пасля пяцідзённага штурму крыжаносцы захапілі і разгрмілі хрысціянскі Задар, які пасля гэтага трапіў пад уладу Венецыі. За гэта папа Інакенцій III адлучыў крыжаносцаў ад царквы. Але на "воінаў крыжа" гэтая страшэнная для сярэдневяковага чалавека кара не падзейнічала.

Пакуль крыжаносцы зімавалі ў Задары, да іх з'явіліся паслы сына звергнутага візантыйскага імператара Ісаака Ангела Аляксея. Аляксей прасіў крыжаносцаў дапамагчы аднавіць імператарскую ўладу яго бацькі ў Візантыі, абяцаючы за гэта вялікія грошы, удзел Візантыі ў паходзе на Іерусалім. Крыжаносцы далі згоду, зноў адклаўшы на потым галоўную мэту свайго паходу, пастаўленую папам Інакенціем III і якую яны ў рэшце рэшт так і не выканалі.

У канцы чэрвеня 1203 г. венецыянскі флот даставіў крыжаноснае войска да Канстанцінопаля. Перавага захопнікаў была падаўляючай. Пасля некалькіх дзён няўдалай абароны візантыйскі імператар уцёк з горада. Канстанцінопаль здаўся. Ісаак Ангел быў вызвалены з турмы і абвешчаны імператарам. Яго сын Аляксей стаў суправіцелем. Але ім трэба было разлічыцца з крыжаносцамі. Маруднасць выплаты ім выклікала незадавальненне заходнееўрапейскіх "саюзнікаў". Выбухнула і вострае незадавальненне Ангеламі візантыйцамі, на якіх тыя наклалі новыя падаткі, каб сабраць абяцаныя крыжаносцам грошы. У выніку канстанцінопальская знаць звергла Ангелаў. Яе стаўленнік жорстка запатрабаваў ад крыжаносцаў у тыднёвы тэрмін пакінуць Візантыю.

І тады "абаронцы труны Хрыстовай" пайшлі на штурм Канстанцінопаля. 13 красавіка 1204 г. яны захапілі горад. Тое, як крыжаносцы разрабавалі "другі Рым", можна параўнаць з рабаваннем Рыма вандаламі ў 455 г. "Змагары за хрысціянскую веру" абрабавалі нават саркафаг імператара Канстанціна I, празванага царквою Вялікім за яго выключныя заслугі перад хрысціянствам у тады яшчэ адзінай Рымскай імперыі. За ўзяцце хрысціянскага Канстанцінопаля і

святататства крыжаносцы яшчэ раз былі адлучаны ад царквы папам Інакенціем III. Але неўзабаве папа нібыта забыў пра гэтыя адлучэнні. Выгоды ад вынікаў крыжаноснай авантуры здаваліся значнымі. І папа нават узяў пад сваё асаблівае апякунства створаную крыжаносцамі дзяржаву. З'явіліся шанцы на падпарадкаванне папству праваслаўнай царквы. Але яны не спраўдзіліся.

Захапіўшы Канстанцінопаль, крыжаносцы заснавалі сваю Лацінскую імперыю. Першым яе імператарам стаў граф Балдуін Фландрскі. Неўзабаве яе межы павялічыліся. Тэрыторыю Лацінскай імперыі складалі Канстанцінопаль, невялікі лапік зямель на самым заходнім поўдні Малай Азіі, усходняя і паўднёвая частка Грэцыі. Значную частку захопленых зямель атрымала Венецыя. Але гісторыя Лацінскай імперыі была вельмі кароткай, візантыйцы ў 1261 г. вярнулі сабе Канстанцінопаль.

**Апошнія крыжовыя паходы.** Большасць даследчыкаў налічвае восем крыжовых паходаў, хоць іншы раз колькасць іх павялічваецца, калі да традыцыйнай лічбы дадаюцца звычайна безвыніковыя дробныя паходы невялікіх груп заходнееўрапейскіх рыцараў ці так званыя “дзіцячыя паходы”. Звесткі аб апошніх даволі сумніўныя. Прынамсі, калі нейкія масавыя паломніцтвы дзяцей у Палесціну, заснаваныя на веры, што бязгрэшныя дзеці здолеюць абараніць галоўныя хрысціянскія святыні (што не здолелі зрабіць узброеныя да зубоў дарослыя), і адбыліся, то ніводзін з гэтых натоўпаў маленькіх крыжаносцаў не здолеў нават выйсці за межы Еўропы.

У апошніх крыжовых паходах на Блізкі Усход удзельнічала ўжо намнога менш еўрапейскіх феадалаў, чым у чатырох папярэдніх. Пяты крыжовы паход (1217–1221) фактычна меў два этапы. Першы – ваенныя дзеянні ў Сірыі і Палесціне, другі – у Егіпце.

Пяты паход рыхтаваўся Інакенціем III (памёр у 1216 г.) і Ганорыем III. Асаблівыя надзеі ўскладаліся на германскага караля Фрыдрыха II і англійскага Іаана (Джона) Беззямельнага. Абодва гэтыя каралі, як і кароль Венгрыі Андраш II, далі зарок удзельнічаць у гэтым паходзе. Аднак Іаан Беззямельны памёр напярэдадні паходу, а складаная сітуацыя ў Свяшчэннай Рымскай імперыі прымусіла Фрыдрыха II застацца дома. У паход рушыў толькі Андраш II Вянгерскі. Для яго войска, якое сабралася ў Акры восенню 1217 г. далучыліся крыжаносцы галоўным чынам з паўднёвагерманскіх зямель. У самім Іерусалімскім каралеўстве не было адзінства наконт далейшага лёсу адносін з мусульманскімі правіцелямі. Калі іерусалімскі кароль Жан дэ Брыен, вялікія магістры ордэнаў шпітальераў і тэўтонаў выступалі за працяг мірнага дагавору с султанам Егіпта, то вялікі магістр тампліераў і частка мясцовых баронаў настойвала на вайне з нявернымі. Сваімі нападамі на мусульман тампліеры пачалі правакаваць султана на новую вайну. З'яўленне новых крыжаносцаў з Еўропы канчаткова пахавала намеры прыхільнікаў мірных адносін з мусульманамі. Усе

спробы крыжаносцаў захапіць мусульманскія гарады і крэпасці ў Сірыі і Палесціне былі адбіты. Расчараваны вянгерскі кароль неўзабаве вярнуўся дадому, а тампліеры ў жніўні 1218 г. атрымалі жорсткае паражэнне, некалькі соцень рыцараў-манахаў трапілі ў Іерусалім, але ў якасці палонных.

І тады крыжаносцы вырашылі нанесці ўдар па Егіпту, выканаўшы такім чынам няйдзесненую мэту яшчэ чацвёртага паходу. У маі 1218 г. яны высадзіліся ў дэльце Ніла, дзе аблажылі моцную егіпецкую крэпасць Даміету. Узначаліў камандаванне крыжаносным войскам Жан дэ Брыен. Вялікую ролю ў кіраўніцтве паходам адыграў і папскі легат Пелагій, які больш года выконваў функцыі камандуючага, калі іерусалімскі кароль вымушаны быў ад'ехаць у Акру. Амаль паўтары гады крыжаносцы асаджалі Даміету і, нарэшце, узялі яе. Яшчэ пры яе аблозе егіпецкі султан прапанаваў крыжаносцам замест Даміеты аддаць ім Іерусалім. Аднак Пелагій настаяў на ўзяцці крэпасці і далейшым паходзе ўглыб Егіпта. Крыжаносцы пасля ўзяцця Даміеты рушылі на Каір, атрымаўшы дапамогу з Еўропы. Але гэта быў якраз час разліву Ніла. Далейшы шлях па страшэннай гразі і вадзе быў немагчымы, а мусульмане адрэзалі адыход да Даміеты. Жан дэ Брыен трапіў у палон, Пелагію ўдалося ўцячы ў Еўропу. Крыжаносцы запрасілі міру. Егіпецкі султан дазволіў ім пакінуць Егіпет. Пяты паход з трэскам праваліўся.

А вось шосты паход (1228–1229) быў удацся, але поспех быў дасягнуты не ваенным, а дыпламатычным шляхам. Узначаліў яго кароль Германіі і імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрых ІІ. Бадай, што найбольш цікавым было тое, што паход узначаліў чалавек, адлучаны папам рымскім ад царквы. Канфлікт Фрыдрыха ІІ разгарэўся яшчэ напярэдадні паходу. Выкарыстаўшы неаднаразовую адтэрміноўку паходу Фрыдрыхам ІІ (які даў адпаведны зарок яшчэ ў 1215 г.) папа Грыгорый IX адлучыў яго ад царквы і забараніў яго паход. Аднак у Фрыдрыха ІІ былі істотныя ўласныя інтарэсы на Блізкім Усходзе. У 1225 г. ён ажаніўся на 13-гадовай Іаландзе, дачцэ іерусалімскага (а фактычна акрскага) караля Жана дэ Брыена, які вызваліўся з мусульманскага палону. Цесць уступіў яму карону, а сам неўзабаве стаў каралём Лацінскай імперыі. Фрыдрых ІІ такім чынам уключыў у склад сваёй Свяшчэннай Рымскай імперыі і Іерусалімскае каралеўства. Але ж сам Іерусалім знаходзіўся ва ўладанні мусульман.

Пракляты папам кароль прыбыў у Акру, захапіўшы па дарозе Кіпр. Там ён пасля доўгіх дыпламатычных высілкаў заключыў выгадны дагавор з егіпецкім султанам, выкарыстаўшы вострую барацьбу апошняга з эмірам Дамаска. За абавязацельства дапамагаць султану ў барацьбе супраць любых ворагаў імператар атрымаў ва ўладанне Іерусалім, Назарэт, Віфлеем і вузкую стужку зямлі, якая была дарогай да Іерусаліма ад узбярэжжа. Фрыдрых ІІ уступіў у Іерусалім і ўласнаручна надзеў на галаву карону іерусалімскіх каралёў – духавенства адмовілася каранаваць праклятага караля. Разглаваны папа абвінаваціў Фрыдрыха

ў змове з нявернымі, наклаў на Іерусалім інтэрдыкт і накіраваў сваё войска ў паўднёваітальянскія ўладанні Фрыдрыха. Той вымушаны быў вярнуцца з Палесціны і пачаць узброеную барацьбу з Грыгорыем IX. Фрыдрых разбіў папскія войскі, і Грыгорый IX зняў сваё адлучэнне з імператара і прызнаў яго мірны дагавор з султанам Егіпта.

Нягледзячы на тое, што ў 1239 г. Фрыдрых II працягнуў дагавор з султанам яшчэ на 5 гадоў, прыбыўшыя ў Палесціну новыя французскія і англійскія крыжаносцы разам з тампліерамі заключылі саюз з эмірам Дамаска і разам пачалі ваяваць з егіпецкім султанам. Скончылася гэта захопам мусульманамі ў 1244 г. Іерусаліма. Горад узялі 10 тыс. харэзмійцаў, якія перайшлі на службу да Аюбідаў пасля таго, як уцяклі сюды ад манголаў пасля захопу тымі Сярэдняй Азіі. На гэты раз мусульмане ўчынілі крывавую разню хрысціян. А неўзабаве пад Газай (у кастрычніку 1244 г.) егіпецкае войска разам з харэзмійцамі ўчынілі крыжаносцам “другі Хіцін”. Ад крыжацкага войска і саюзных ім сірыйскіх войнаў ацалела толькі некалькі дзесяткаў чалавек (з 300 тампліераў толькі 18). На доўгія стагоддзі Іерусалім зноў трапіў пад уладу мусульман.

Сёмы крыжовы паход (1248–1254) узначаліў французскі кароль Людовік IX. Гэты паход быў амаль паўторам пятага паходу, але з больш горкімі наступствамі для крыжаносцаў. Восенню 1248 г. яго войска даплыло да Кіпра. Там Людовік IX надоўга затрымаўся (вёў, у прыватнасці, перагаворы аб саюзе з манголамі) і высадзіўся ў дэльце Ніла толькі на пачатку лета 1249 г. Даміета, аднак, была ўзята адразу. Пасля зноў доўгай затрымкі ў Даміеце крыжаносцы, нарэшце, выйшлі з яе і захапілі наступную крэпасць Мансуру, якая і стала пасткай для іх. Мусульмане заблакавалі рыцараў у гэтай крэпасці, а флот крыжаносцаў патапілі. Тысячы крыжаносцаўў трапілі ў палон, у тым ліку і сам кароль Людовік IX. Егіпецкі султан вызвалиў іх з палону толькі за вялізны выкуп. Аслабелы ад хвароб кароль з рэшткамі свайго воінства (тымі, хто змог выкупіцца) адплыў у Акру. У Палесціне ён прабыў яшчэ чатыры гады, праводзячы час у малітвах, наведванні хрысціянскіх святынь і ўмацаванні крыжацкіх крэпасцей.

Між тым у Егіпце ў 1250 г. дынастыя Аюбідаў была звергнута мамлюкамі – воінамі-нявольнікамі, якія паходзілі з палавецкіх стэпаў і Каўказа. Пры першых мамлюкскіх султанах Егіпет знаходзіўся ў росквіце. Мамлюкскі султан Бейбарс (1260–1277), які адбіў напад манголаў на сваю дзяржаву, стаў для крыжаносцаў “другім Саладзінам”. Ен знішчыў рэшткі Іерусалімскага каралеўства (засталася толькі Акра), захапіў у 1268 г. Антыёхію.

У 1270 г. адбыўся апошні, восьмы, крыжовы паход. Яго завадатарам зноў быў Людовік IX. Войска, да якога далучыліся і рыцары будучага караля Англіі Эдуарда I, высадзіліся ў Тунісе. Яны захапілі Карфагенскую крэпасць. Але сярод крыжаносцаў пачалася эпідэмія (халеры ці чумы), ахвярай якой стаў і Людовік IX. Толькі мёртвае цела французскага караля пабачыў у Тунісе яго брат кароль

неапалітанскі Карл Анжуйскі, які прыбыў на дапамогу. Крыжаносцы яшчэ нядоўга паваявалі і, дамогшыся выплаты даніны Карлу туніскім эмірам вярнуліся дадому. Людовік IX у XIV ст. адным з авіньёнскіх пап быў абвешчаны святым.

А ў 1291 г. мусульмане захапілі апошні аплот крыжаносцаў на Блізкім Усходзе – Акру. Панаванню заходнееўрапейцаў у Палесціне прыйшоў канец. Рымскім папам больш не ўдалося арганізаваць новыя паходы па адваяванні хрысціянскіх святынь у няверных. Наступіў заняпад палітычнай магутнасці папства. Пераадольванне раздробленасці, стварэнне моцных цэнтралізаваных дзяржаў у Францыі і Англіі прывялі да таго, што папства само зрабілася інструментам палітыкі, якую дыктавалі магутныя манархі Заходняй Еўропы.

**Вынікі і наступствы крыжовых паходаў.** Крыжовыя паходы былі няўдалым вопытам заходнееўрапейскай знешняй каланізацыі. Яны не вырашылі тагачасных галоўных сацыяльна-эканамічных праблем Заходняй Еўропы. На заваяваных крыжаносцамі землях асела мізэрная колькасць заходнееўрапейскіх сялян, ды і феадалаў, якія стала жылі там, было вельмі мала. А адваяванне мусульманамі гэтых зямель і наогул ліквідавала землеўладанні заходнееўрапейскіх прышэльцаў. Праблема так званага аграрнага перанасялення была вырашана не за межамі, а ўнутры самой Еўропы – спачатку (ды і падчас крыжовых паходаў) праз асваенне новых зямель на абшарах Еўропы, а потым (з XIV ст.) праз інтэнсіфікацыю земляробства, што дазваляла атрымліваць большыя ўраджаі з ужо асвоеных зямель.

Істотная частка насельніцтва перасялілася ў гарады, інтэнсіўны рост якіх назіраецца ў высокім сярэдневякоўі і да якога крыжовыя паходы амаль не мелі ніякіх адносін. Выключэннем былі толькі некаторыя італьянскія гарады, асабліва Венецыя і Генуя, якія на час крыжовых паходаў зрабіліся сапраўднымі манапалістамі ў міжземнаморскім гандлі. падчас крыжовых паходаў міжземнаморскі гандаль Еўропы сапраўды перажыў уздым (калі Міжземнамор'е, па выразе шэрагу даследчыкаў, зрабілася “унутраным морам франкаў”). Аднак уздым гэты быў адносна кароткачасовым – войны на ўсходнім беразе Міжземнага мора з іх разбурэннямі, масавымі забойствамі і ўцёкамі людзей падарвалі эканоміку гэтага рэгіёна, а значыць, і магчымасць гандлю. Не спрыяла гандлю і рэзка ўзрослая варожасць мясцовага насельніцтва да ¦лацінян°, якія ў іх вачах былі перш за ўсё крывавымі заваёўнікамі.

У пэўным сэнсе, крыжовыя паходы аслабілі вастрыню феадальнай раздробленасці ў Заходняй Еўропе за кошт адтоку з яе тэрыторыі часткі ваяўніча-анархічных феадалаў, што паспрыяла працэсу стварэння цэнтралізаваных дзяржаў. Яны паспрыялі і канфесійнай кансалідацыі заходнееўрапейскага каталіцкага насельніцтва, але не трэба яе перабольшваць. Падрыхтоўка і сам ход паходаў паказалі, што канфлікты паміж каралямі і буйнымі феадаламі зусім не знікалі ў сумесных войнах супраць ¦няверных°, а працягвалі існаваць і іншы раз

нават абвастраліся.

Крыжовыя паходы рэзка абвастрылі варожасць паміж хрысціянскім светам і светам ісламу. Хрысціянскія войны за святыні ў Палесціне выклікалі ў адказ выбух свяшчэннай вайны за іслам (джыхад) сярод мусульман, для якіх, напрыклад, той жа Іерусалім быў таксама свяшчэнным горадам (па Карану менавіта там павінен адбыцца апошні суд Алаха над усімі людзьмі ў канцы свету). Іерусалім быў свяшчэнным горадам і для іудзеяў, а яўрэйскія пагромы, якімі суправаджаліся крыжовыя паходы, узмацнілі варожасць паміж іудзеямі і хрысціянамі. Заваяванне крыжаносцамі Канстанцінопаля і значнай часткі Візантыі прывяло да перарастання непрыязнасці яе праваслаўнага насельніцтва да заваёўнікаў-каталікоў у адкрытую варожасць. Крыжовыя паходы паглыбілі раскол унутры хрысціянскага свету на свет каталіцкі і свет праваслаўны. А ўдар нанесены Візантыі чацвёртым крыжовым паходам быў такім, што яна не здолела выйсці з заняпаду і стала ў далейшым ахвярай турак-мусульман.

Сярод шэрагу даследчыкаў існуе тэндэнцыя выводзіць шмат запазычаннасцей еўрапейцаў з Усходу ў матэрыяльным і духоўным жыцці менавіта з часоў крыжовых паходаў, з кантактаў крыжаносцаў з насельніцтвам Блізкага Усходу. Але на самой справе гэты “пазітыўны” ўплыў крыжовых паходаў на паўсядзённае жыццё заходніх еўрапейцаў быў амаль нулявым. Гаворыцца, напрыклад, што ўдзельнікі крыжовых паходаў завезлі ў Еўропу цукровы трыснёг, грэчку, рыс, цытрусавыя расліны, абрыкосы, бавоўну, ветраныя млыны, паперу, новыя прыёмы металургічнай і ткацкай справы і г.д. Але цукровы трыснёг, бавоўна, цытрусавыя, рыс, папера трапілі ў Еўропу праз арабаў Іспаніі і Сыцыліі, а тое, што многія крыжаносцы пабачылі ці пакаштававалі іх упершыню ў Палесціне зусім не азначае, што ўсё гэта было завезена ў Еўропу імі. Грэчка ж з'явілася ў Еўропе на землях Заходняй Русі, а на захадзе Еўропы яна распаўсюдзілася толькі ў канцы сярэдневякоўя. Застаюцца толькі абрыкос і, магчыма, ветраныя млыны як адзіныя запазычанні з Усходу, перададзеныя ў Еўропу ў выніку крыжовых паходаў.

Духоўныя каштоўнасці з Усходу (у тым ліку шмат здабыткаў антычнасці) траплялі ў заходнееўрапейскае грамадства зусім не праз крыжаносцаў, а зноў праз Іспанію, Сіцылію, а таксама Візантыю. Крыжаносцы знішчылі ў Палесціне вялікую колькасць кніжных збораў, помнікаў архітэктуры і мастацтва.

Не было і сур'ёзнага ўплыву на паўсядзённы побыт заходнееўрапейцаў, акрамя, бадай, узмацнення цягі феадалаў да раскошных рэчаў і дзівосных прадуктаў харчавання, што завозіліся крыжаносцамі ў якасці іх здабычы або тавараў з іх дзяржаў на Усходзе. Такія рэчы ва ўмовах панавання натуральнай гаспадаркі набыць было цяжка, яны каштавалі дорага, а гэта стымулявала феадалаў да назапашвання грошай, асноўнай крыніцай чаго быў грашовы аброк з сялян.

Галоўным адмоўным вынікам крыжовых паходаў былі забойствы многіх тысяч людзей, пераважна некаталіцкай веры. Асноўная ж рэлігійная мэта – пераход хрысціянскіх святынь у Палесціне да хрысціян – у канчатковым выніку так і не была дасягнута.

## § 21. Міждзяржаўныя адносіны

**Міжнародныя адносіны ў X–XII ст.** Высокае сярэдневякоўе ў Заходняй Еўропе пачалося пад знакам імперыі, ці то аднаўлення старажытнарымскай імперыі на новай глебе, ці то стварэння лакальнай імперыі.

Юрыдычна новая Рымская імперыя ўзнікла 2 лютага 962 г. пасля каранацыі ў Рыме імператарскай каронай германскага караля Атона I (936–973). У 996 г. пасля каранацыйнага паходу ў Рым Атона III (983–1002) рымскія імператары набываюць тытулатуру, аналагічную візантыйскай – “аўгусцейшы імператар рымлян”.

Пры двары Атона III уся Еўропа ўспрымалася як адзіная імперыя, адміністрацыйным ядром якой выступалі германскія і італьянскія землі. Астатнія краіны разглядаліся як сябры і саюзнікі рымскага народа. У строгай адпаведнасці з новым курсам рэзідэнцыя імператара была перанесена ў Рым, дзе на Авентынскім халме быў пабудаваны шыкоўны палац. На троне новага рымскага імператара былі сімвалічныя выявы чатырох нацый (рымлян, галаў, германцаў і славян), якія прыносілі свае падарункі.

Не менш значнай была практычная рэалізацыя новага курсу. У 1000 г. Атон III вызнаў незалежнасць Польшчы і даў яе князю Балеславу Храбраму тытул саюзніка Рыму. У гэтым жа годзе Атон III разам з папам рымскім Сільвестрам II пажалаваў каралеўскі тытул Іштвану I (Венгрыя).

Аднак пасля смерці 21-гадовага імператара рэалізацыя планаў аднаўлення Рымскай імперыі спынілася.

У XI ст. Рымская імперыя працягвала існаваць як самастойная еўрапейская дзяржава, не звязаная больш з антычнай традыцыяй. У гэты перыяд яна атрымала значны тэрытарыяльны набытак – каралеўства Бургундыя (Арэлат). У свой час бургундскі кароль Рудольф III вызнаў сваім спадчыннікам германскага караля Генрыха II. Сваю волю ён пацвердзіў і адносна новага караля Германіі – Конрада II. Урэшце рэшт пасля смерці ў 1033 г. Рудольфа III Бургундыя ўвайшла у склад Рымскай імперыі.

Тытул імператара прымалі і асобныя заходнееўрапейскія манархі. Прычым тут прасочвалася не імкненне ўсталяваць сувязь з рымскай дзяржаўнай традыцыяй, а звычайны прагматычны колькасны падыход – калі зямлі параўнальна шмат, то гэта імператар.

У Англіі першым імператарам такога кшталту быў Этэльстан (у 930 г.),

апошнім – Канут Вялікі (1016–1035), біёграф якога запісаў наступнае: “Ён падпарадкаваў пяць каралеўстваў – Данію, Англію, Брытанію, Шатландыю, Нарвегію – ён быў імператарам”.

Сярод хрысціянскіх каралёў Пірэнейскага паўвострава тытул імператара ў XI ст. прымалі кароль Навары Санча III Вялікі (1034), кароль Кастыліі Фердынанд I пасля заваявання Леона (1037). Кастыльскі кароль Альфонс VI пасля заваявання старажытнай вестгоцкай сталіцы Таледа (1077) тытулаваў сябе як “імператар Іспаніі”, “імператар Таледа”, “імператар дзвюх рэлігій” (апошняя тытулатура зафіксавана ў арабскіх крыніцах). Першая (яна ж апошняя) каранацыя імператара на Пірэнейскім паўвостраве была праведзена ў 1135 г. кастыльскім каралём Альфонсам VII.

Па меры развіцця феадальных адносін на тэрыторыі Заходняй Еўропы ўзнікалі рэгіёны, дзе панавалі ленныя адносіны і палітычная дэзінтэграцыя (Францыя, Італія, Нідэрланды). На гэтых землях адбываліся прыватныя войны, распрацоўваліся фармальныя прыёмы іх абвяшчэння праз спецыяльных веснікаў (герольдаў), зараджалася прыватная дыпламатыя. Законы феадальнай іерархіі пашыралі сферу свайго ўплыву і на міждзяржаўныя адносіны.

**Міжнародныя адносіны ў XII – XIII ст.** У XII ст. заходнееўрапейская сярэдневяковая цывілізацыя развівалася ўжо на ўласным, феадальным, падмурку, што выклікала адпаведную карэкціроўку знешнепалітычных арыенціраў. Курс на аднаўленне былой Рымскай імперыі антычных часоў стаў відавочным палітычным анахранізмам. Вызначальнымі ў міжнародным жыцці былі дзве палітычныя тэндэнцыі: 1) цэнтралізатарская, накіраваная на стварэнне нацыянальнай дзяржавы і замацаванне за ёю пэўнага месца ў Еўропе, і 2) універсалісцкая, накіраваная на стварэнне нацыянальнай палітычнай супольнасці пад эгідай аднаго манарха.

У палітыцы больш-менш моцнай і ўплывовай краіны прысутнічалі як правіла абедзве тэндэнцыі. Але ў залежнасці ад канкрэтна-гістарычных варункаў магла пераважаць адна з іх. Тыя дзяржавы, у палітыцы якіх пераважала цэнтралізатарская тэндэнцыя, імкнуліся да тэрытарыяльнага размежавання і захавання сваёй цэласнасці. Тыя дзяржавы, у палітыцы якіх пераважала універсалісцкая тэндэнцыя, імкнуліся да максімальнага пашырэння свайго ўплыву, заснаванага на васальна-ленных адносінах і сіле зброі.

У XII–XIII ст. міжнародныя адносіны пакуль не звязвалі ў неразрыўнае адзінства ўсю Заходнюю Еўропу, мелі лакальны характар. Найбольш важным пры гэтым для лёсу ўсяго рэгіёна быў вузел супярэчнасцей паміж Свяшчэннай Рымскай імперыяй, Францыяй і Англіяй. Меншы ўплыў мелі адносіны паміж хрысціянскімі краінамі Пірэнеяў і скандынаўскімі дзяржавамі.

У той жа час неабходна ўлічваць, што існавала сіла, якая звязвала ўсе заходнееўрапейскія рэгіёны ў адно цэлае і ўплывала ў той ці іншай ступені на іх

знешнепалітычнае развіццё, – рымска-каталіцкая царква.

**Месца рымска-каталіцкай царквы ў міжнародных адносінах XII–XIII ст.** Папы рымскія як кіраўнікі каталіцкай царквы мелі дастаткова магчымасцей для вызначальнага ўплыву на міжнародныя адносіны ў Заходняй Еўропе. Праўда уплыў гэты ў значнай меры залежаў ад суб'ектыўнага фактару – наколькі актыўным палітыкам быў той ці іншы папа рымскі.

Механізмам рэалізацыі знешнепалітычнай актыўнасці пап рымскіх была наяўнасць у іх руках шэрагу выключных правоў: 1) правы інтэрдыкту (поўнай ці частковай забароны набажэнстваў і абрадаў на пэўнай тэрыторыі), адлучэння ад касцёла, вызвалення падданых ці васалаў ад прысягі – у XII – пачатку XIII ст. пад гэтае пакаранне патраплялі Англія (Джон Беззямельны), Францыя (Філіп II Аўгуст) і Германія (Генрых IV, Фрыдрых II); 2) права распараджацца каралеўскімі каронамі – былі створаны Сіцылійскае (1139) і Партугальскае (1143) каралеўствы, сіцылійская карона была перададзена Карлу Анжуйскаму (1266) і г. д.; 3) права на рэгуляванне шлюбных і сямейных адносін манархаў – санкцыя на развод, вызнанне легітымнасці бастардаў, дыспенацыя (дазвол на шлюб паміж блізкімі родзічамі); 4) права на спагнанне грошай на арганізацыю крыжовых паходаў. Акрамя таго, папы рымскія маглі ўплываць на еўрапейскія справы праз манаскія ордэны, якія былі экстэрытарыяльнымі, і суд святой інквізіцыі.

Былі ў руках пантыфікаў і чыста свецкія правы. Некаторыя заходнееўрапейскія краіны ў пэўныя перыяды сваёй гісторыі былі васаламі папаў рымскіх (Англія, Партугалія, Арагон). Пры папскай курыі знаходзіліся пракуратары – прадстаўнікі манархаў, якія абаранялі іх інтарэсы. Свецкія пытанні абмеркоўваліся на касцёльных саборах – кандыдатура імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі ( IV Латэранскі, II Ліонскі, адпаведна 1216 і 1274 гг.), дэтранізацыя Фрыдрыха II Гогенштаўфена (I Ліонскі, 1245 г.).

Існавалі і агульнаеўрапейскія царкоўныя інстытуты, якія рэгулявалі адну з найбольш важных сфер сярэдневяковага міжнароднага жыцця – вайсковую. Гэта былі абавязковыя льготы крыжакам і іх семьям, у тым ліку абарона іх маёмасці, выключэнне з тэатра баявых дзеянняў пэўных тэрыторыяў (касцёлаў, кляштараў, могілак) і пэўных сацыяльных груп (клірыкаў, паломнікаў, сялян, жанчын). Нормы "Божага міру" былі накіраваны на абмежаванне тэатру баявых дзеянняў у часе. У абагульненным выглядзе, па матэрыялах мясцовых сабораў (1063 г. – Фландрыя, 1085 г. – Рымская імперыя, 1089 г. – Паўднёвая Італія) і Клермонскага сабору (1095 г.) забаранялася ваяваць: 1) ад заходу сонца ў сераду да ўсходу сонца ў панядзелак, 2) падчас вялікага посту і пэўных царкоўных святаў.

**Свяшчэнная Рымская імперыя ў сістэме міжнародных адносін XII–XIII ст.** У сярэдзіне XII ст. у склад Рымскай імперыі уваходзілі чатыры каралеўскія кароны – германская, чэшская, бургундская, італьянская, – падпарадкаваныя імператарскай. Універсалісцкая тэндэнцыя ў знешняй палітыцы Імперыі з

асаблівай сілай праяўлялася пры кіраванні Фрыдрыха І Барбаросы (1152–1190) і яго ўнука  Фрыдрыха ІІ Гогенштаўфена (1212–1250).

Пры Фрыдрыху І Барбаросе, у 1157 г., у палітычнай перапісцы імператара ўпершыню з’яўляецца новая назва краіны – “Свяшчэнная Рымская імперыя”, што павінна было падкрэсліць незалежнаць улады імператара  ад папы рымскага. Адначасова імператарская тытулатура пачала надавацца не пасля каранацыі ў Рыме, але падчас каранацыі германскай каралеўскай каронай.

Тэарэтычным абгрунтаваннем універсаліcцкай палітыкі стала распрацоўка і актыўнае тыражаванне ў афіцыйнай імперскай прапагандзе канцэпцыі “пераносу імперыі” ад заходніх германцаў (франкаў) да ўсходніх. Згодна з гэтымі меркаваннямі, імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі захоўваў усю паўнату юрыдычных правоў не толькі ў Італіі і Рыме, г. зн. на тэрыторыях, заваяваных Карлам Вялікім і Атонам І, але і ў Францыі, былой тэрыторыі рассялення заходніх франкаў. Больш таго, Фрыдрых І Барбароса і яго прыдворныя пісьменнікі-палемісты не забывалі час ад часу нагадваць еўрапейскай грамадскай думцы, што і Візантыя (а для азначаных аўтараў – проста Грэчаскае каралеўства) была калісьці часткай адзінай Рымскай імперыі.

Дзеля рэалізацыі мэт па ўсталяванні свайго панавання ў Еўропе быў неабходны кантроль над асноўнымі гандлёвымі шляхамі, якія ў тыя часы праходзілі па Міжземным моры і Паўночнай Італіі. Менавіта ў гэтым кірунку імперыя праводзіла надзвычайна актыўную, хоць і не вельмі паспяховую, знешнюю палітыку. Адгалінаваннем апошняй стаў удзел у барацьбе за кантроль над Сіцыліяй.

Адным з кірункаў гэтай палітыкі стала серыя войнаў у Італіі, якія спачатку прывялі да стварэння паўночнаітальянскімі гарадамі шэрагу ліг, Ламбардскай (1160), Вяронскай (1164), іх аб’яднання ў 1168 г., а потым, пасля Канстанцкага міру 1183 г., да атрымання імі фактычнай незалежнасці пры захаванні фармальнага падпарадкавання імперыі. Больш  паспяховай для Германіі стала барацьба за кантроль за Сіцылійскім каралеўствам, у выніку якой апошняе перайшло пад кантроль дынастыі Гогенштауфенаў (да 1268 г. – пакарання смерцю Канрадзіна, унука Фрыдрыха ІІ).

Выхад на міжнародную арэну атрымала і дынастычная барацьба Гогенштаўфенаў і Вельфаў. У выніку таго што апошніх падтрымалі англійскія Плантагенеты, першыя ў 1187 г. уступілі ў саюз з французскімі Капетынгамі.

Адным з реальных знешнепалітычных крокаў саюза Гогенштаўфенаў і Капетынгаў стала ўзгадненне захадаў па захопу англійскага караля Рычарда І Львінае  Сэрца, вяртаўшагася з крыжовага паходу. Генрых VI пры гэтым кантраляваў германскія землі, а Філіп ІІ Аўгуст блакіраваў міжземнаморскае узбярэжжа Францыі. У выніку ў 1194 г. Рычард І Львінае Сэрда, які прабіраўся на тэрыторыі, падкантрольныя Вельфам, быў захоплены сваім асабістым ворагам

аўстрыйскім герцагам Леапольдам і перададзены ім Генрыху VI. Знаходзячыся ў палоне, англійскі кароль даў германскаму імператару васальную прысягу. Поспех, аднак, быў кароткачасовым. У 1197 г. у сваім запавеце Генрых VI вызваліў Рычарда I ад прысягі па прычыне вымушанага характару апошняй.

У пачатку XIII ст. саюз Гогенштаўфенаў і Капетынгаў зноў актывізаваўся. Прынамсі менавіта пад фінансавыя гарантыі Філіпа II Аўгуста Фрыдрых II здолеў атрымаць буйную пазыку ў італьянскіх банкіраў. У 1214 г. у бітве пад Бувінам французская армія перамагла англа-вельфаўскую кааліцыю, Атон IV загінуў, Фрыдрых II урачыста каранаваўся ў Ахене (1215).

У 1223 г. саюз Гогенштаўфенаў і Капетынгаў быў пацверджаны. У новым пагадненні бакі абавязаліся не прымаць на сваіх землях апальных асоб і не дапамагаць ім. Акрамя таго было вырашана не заключаць дагавароў з Англіяй і сачыць, каб тое ж рабілі іх васалы.

Імперска-французскія адносіны пры Фрыдрыху II былі ў цэлым неадназначнымі. З аднаго боку імператар прытрымліваўся нязменнага курсу на сяброўскія адносіны з Францыяй, але з другога боку Францыя скарысталася нагодай пры аслабленні імперыі ў барацьбе з папам рымскім дзеля ўласных тэрытарыяльных набыткаў за кошт імперскіх ленаў. У 1239 г. Людовік IX купіў у лацінскага імператара Балдуіна графства Намюр, а ў 1246 г. пашырыў свой сюзэрэнітэт на імперскую частку Фландрыі і Генегау. Нарэшце, у 1268 г. пад кантроль малодшай лініі Капетынгаў (Карла Анжуйскага) перайшло Сіцылійскае каралеўства.

У цэлым роля Свяшчэннай Рымскай імперыі ў заходнееўрапейскіх міжнародных адносінах і адпаведна яе ўплыў на еўрапейскія справы развіваўся па сыходнай лініі: ад максімальнага ў пачатку перыяду да мінімальнага ў яго канцы.

**Англія ў сістэме міжнародных адносін XII–XIII ст.** Пасля таго як у 1154 г. англійскую карону атрымаў Генрых II Плантагенет, у Заходняй Еўропе пачалося фарміраванне велізарнай дзяржавы, якую сучасныя гісторыкі вызначаюць тэрмінам “Анжуйская імперыя”. У склад яе ўваходзілі Англія, Нармандыя, Анжу, Мэн, Турэнь, Пуату, Аквітанія. Кантынентальныя ўладанні Плантагенетаў уяўлялі сабой вельмі кампактны комплекс тэрыторый, які перавышаў па сваіх памерах дамен Капетынгаў і праз васальнае графства Тулузскае меў выхад да Міжземнага мора.

Завяршылася станаўленне Анжуйскай імперыі падчас вайны за спадчыну паміж Генрыхам II і яго братам Жофруа, якая пачалася ў 1156 г. Генрых II спачатку абапіраўся на Францыю. У 1158 г. былі праведзены перамовы пры магчымы шлюб Генрыха II і дачкі Людовіка VII Маргарыты. Пасаг маладой павінны былі скласці крэпасці нармандскага Вексэна, якія абаранялі Нармандыю ад уварванняў з боку Францыі. Акрамя таго Людовік VII даваў згоду на англійскі захоп Нанта, што дазваляла ўсталяваць кантроль над Брэтанню. У 1159 г. Генрых

II пачаў тулузскую кампанію. Мэтай яе было не толькі расшырэнне ўласных кантынентальных уладанняў, але і спроба не дапусціць умацавання пазіцый Капетынгаў у Лангедоку. У выніку ў 1160 г. Генрых II атрымаў правы графа на ўсёй тэрыторыі графства Тулуза, за выключэннем горада. Анжуйская імперыя стала рэальным фактарам у сістэме заходнееўрапейскіх міжнародных адносін.

Дастаткова значная знешнепалітычная актыўнасць праяўлялася Генрыхам II на ўскраінах Еўропы. У 1155 г. папа рымскі Адрыян пажалаваў яму ў спадчыннае трыманне Ірландыю. Паход на гэтую тэрыторыю быў арганізаваны ў 1171 г. Хоць кланавых правадыроў вострава разграмілі, аднак, пра пакарэнне Ірландыі гаварыць нельга. Пад стабільным кантролем Англіі была параўнальна невялікая тэрыторыя – Пэйл (агароджа).

Больш складана складаліся англа-шатландскія адносіны. Асабістая васальная залежнасць шатландскага караля ад англійскага была усталявана падчас праўлення Малькольма III. У 1173–1174 гг., пасля няўдалага ўмяшання Шатландыі і Францыі ў канфлікт паміж Генрыхам II і яго спадчыннікам Рычардам, быў усталяваны дзяржаўны васалітэт Шатландыі. Праўда, ужо ў 1189 г. палітычны статус краіны зноў павысіўся. Поводле умоў Кентэрберыйскай хартыі аднаўлялася асабістая васальная прысяга.

XIII ст. пачалося з абвастрэння англа-французскіх адносін: войны з Філіпам II Аўгустам, якія прывялі да страты Плантагенетамі сваіх кантынентальных уладанняў, спробы іх адваявання, высадка прынца Людовіка ў паўднёвай Англіі, падтрыманая атакай шатландцаў з поўначы (1216). Лагічным завяршэннем канфлікту стаў Парыжскі дагавор 1259 г., паводле якога англійскія каралі адмаўляліся ад тытулаў правіцеляў Нармандыі, Анжу, Мэна, Турэні, Пуату, што азначала юрыдычнае знікненне Анжуйскай імперыі. Праўда, гэты жа дагавор, у выніку якога Англія атрымала ў леннае трыманне Гасконь з прынясеннем васальнай прысягі французскаму каралю, стварыў падмурак для яшчэ аднаго канфлікту, які выліўся ў англа-французскую вайну за гэтую тэрыторыю (1294 – 1302).

Як і раней, далёкім ад вырашэння быў вузел англа-шатландскіх супярэчнасцяў. Імкненне Англіі ажыццявіць поўную інкарпарацыю сваёй паўночнай суседкі (увядзенне рэжыму прамога кіравання ў 1296 г.) сустрэлася з вельмі моцным супраціўленнем шатландцаў.

Спробы ж Англіі праводзіць актыўную знешнюю палітыку на дальніх дыстанцыях (удзел у барацьбе за Сіцылію) былі беспаспяховымі.

У цэлым, у канцы XIII ст. Англія заняла дастаткова стабільнае месца ў сістэме міжнародных адносін на кантыненце. Яна мела пэўны ўплыў на агульнаеўрапейскія справы, сфера яе бліжэйшых інтарэсаў вызначалася вузлом англа-франка-шатландскіх супярэчнасцяў, калі Шатландыя імкнулася адстаяць сваё права на незалежнасць у барацьбе з Англіяй, а Францыя выступала гарантам

шатландскай дзяржаўнасці (саюзны дагавор 1295 г.) і хацела замацаваць за сабой кантынентальныя ўладанні Плантагенетаў.

**Францыя ў сістэме міжнародных адносін у XII–XIII ст.** У XII ст. Францыя Капетынгаў, чый дамен быў не вельмі значным па сваіх памерах, была фактычна заціснута паміж дзвюма імперыямі – Рымскай на усходзе і Анжуйскай на захадзе, і не магла істотна ўплываць на еўрапейскія справы. Але менавіта барацьба супраць магутных суседзяў паступова вывела Францыю на пазіцыю лідэра Заходняй Еўропы.

Першым крокам у гэтым кірунку сталі сумесныя з Германіяй дзеянні супраць англійскага караля Рычарда I Львінае Сэрца (міланская сустрэча манархаў у 1191 г.) і захоп кантынентальных уладанняў Плантагенетаў на пачатку XIII ст. Апошняе азначала ліквідацыю Анжуйскай імперыі.

Развіць свой поспех і захапіць астатнюю тэрыторыю Англіі Францыя не здолела, хоць юрыдычны падмурак для гэтага быў створаны. У 1216 г. папа рымскі заявіў пра пазбаўленне Джона Беззямельнага кароны і пра перадачу яе французскаму прынцу Людовіку. Аднак пасля таго як англійскі кароль вызнаў сабе васалам папы рымскага, апошні адмовіў Францыі ў падтрымцы.

Заключным акордам у барацьбе Францыі за кантэнентальныя ўладанні Плантагенетаў стаў Парыжскі дагавор 1259 г., паводле якога Генрых III афіцыйна адмовіўся ад тытулатуры, звязанай з Нармандыей, Мэнам, Анжу, Турэнню, Пуату і прынёс васальную прысягу за Гасконь Людовіку IX.

Асабісты ўплыў Людовіка IX на агульнаеўрапейскія справы быў дастаткова высокім. За ім замацавалася рэпутацыя шчырага і справядлівага чалавека. Некалькі разоў ён выступаў у ролі трыцейскага суддзі. Прынамсі, менавіта ён выступіў трацейскім суддзёй падчас канфлікту паміж Генрыхам III і баронамі.

Відавочнымі знешнепалітычнымі поспехамі Францыі сталі перадача ў 1266 г. сіцылійскай кароны брату Людовіка IX Карлу Анжуйскаму і наступны захоп каралеўства французамі ў 1268 г., а таксама канчатковае далучэнне Лангедока пасля смерці брата Людовіка IX Альфонса дэ Пуацье (1271).

Яшчэ больш вырасла міжнароднае значэнне Францыі падчас праўлення Філіпа IV Прыгожага. Адносна гэтага пярыяду можна нават гаварыць пра гегемонію Францыі на кантыненце. Пад яе непасрэдным кантролем былі каралеўствы Наварскае і Неапалітанскае, кароны якіх належалі Капетынгам, шэраг імперскіх тэрыторый на мяжы з Германіяй. Саюзныя дагаворы пры відавочнай перавазе Францыі былі падпісаны з Кастыліяй (1288) і Шатландыяй (1295). Ціск з боку Англіі быў аслаблены пасля дынастычнага шлюбу дачкі Філіпа IV Прыгожага Ізабэлы са спадчыннікам англійскай кароны Эдуардам.

**Рэканкіста ў другой палове XI–XIII ст.** Усе хрысціянскія каралеўствы Пірэнейскага паўвострава ў той ці іншай ступені ўдзельнічалі ў Рэканкісце. Найбольш спрыяльныя ўмовы для яе развіцця сфармаваліся пасля распаду ў 1031

г. Кардоўскага халіфата. Пры гэтай нагодзе кастыльцы захапілі Таледа (1085).

Але тайфы, дробныя дзяржаўныя ўтварэнні, якія ўзніклі на тэрыторыі халіфата, звярнуліся па дапамогу да паўночнаафрыканскіх арабаў. У 1086 г. у бітве пры Салаке арабы перамаглі і лінія іх процістаяння з хрысціянскімі арміямі стабілізавалася.

Пасля бітвы пры Салаке працягваліся асобныя войны лакальнага характару, не вельмі значныя набегі і рабаўніцкія экспедыцыі, якія не прыводзілі да істотных змен у становішчы бакоў. Найбольш значнымі падзеямі гэтага перыяду сталі захоп у 1094 г. Валенсіі легендарным кастыльскім рыцарам Радрыга Дыясам дэ Біварам, больш вядомым як Сід Кампеадор (ад арабскага “сэід” – спадар), і яе адваяванне арабамі пасля яго смерці ў 1099 г.

Становішча змянілася карэнным чынам у пачатку XII ст., калі іспанскі касцёл падтрымаў клюнійскі рух. Гэта азначала далучэнне пірэнейскіх каралеўстваў да асноўнага варыянту заходнееўрапейскай цывілізацыі, а барацьба з маўрамі адпаведна ператварылася ў агульную для ўсіх каталіцкіх дзяржаў справу. Рэканкіста пачала набываць відавочныя адзнакі вайны за веру.

Паказальны прыклад у гэтым плане дае падрыхтоўка атакі на Сарагосу. Згодна з інфармацыяй позняга арабскага храніста аль-Макары, кароль Арагона Альфонс I Пераможца (1104–1134) разаслаў лісты з заклікам да ўсіх хрысціянскіх нацый дапамагчы яму адваяваць гарады ў даліне ракі Эбро. Абмеркаваннем аперацыі займаўся касцёльны сабор у Тулузе (1118). План аблогі быў распрацаваны такімі ўплывовымі правансальскімі магнатамі, вядомымі сваімі паходамі ў Святую зямлю, як Гастон дэ Бэрн, Цэнтула дэ Бічор, Бернард Каркасонскі. Папа рымскі Геласій II гарантаваў усім удзельнікам аперацыі дараванне грахоў. Урэшце рэшт у 1148 г. папа рымскі Яўген III афіцыйна вызнаў Пірэнеі рэгіёнам крыжовага руху.

Праўда, у 1195 г. маўры здолелі атрымаць больш чым пераконлівы рэванш. Імі былі адваяваны ўсе страчаныя раней вобласці на поўдзень ад ракі Таха, за выключэннем горада Таледа.

Карэны перalom у Рэканкісце адбыўся ў пачатку XIII ст. У 1207 г. папа рымскі Інакенцій III абвясціў крыжовы паход супраць маўраў. Лёс Рэканкісты вырашыўся 16 ліпеня 1212 г., калі аб’яднаная армія Кастыліі, Леона, Партугаліі, Арагона, Навары на чале з кастыльскім каралём Альфонсам VIII (1158–1217) і пры падтрымцы еўрапейскага рыцырства ў бітве пры Лас Навас дэ Талоса ўшчэнт разграміла маўраў. Пасля гэтай перамогі Рэканкіста развівалася вельмі хуткімі тэмпамі. Кастылія заваявала Кардову (1236), Севілью, Картахену, Мурсію (1248), Херас (1255), Кадэс (1262), Арагон – Маёрку (1229–1235), Валенсію (1238), Партугалія – Альгарві (1249–1250). Пад уладай маўраў застаўся толькі параўнальна невялікі Гранадскі халіфат. Рэканкіста прыпынілася.

**Арагон у сістэме міжнародных адносін другой паловы XIII ст.** У XIII ст.

каралеўства Арагон пачало вельмі актыўную знешнюю экспансію. Спачатку яна была абмежавана бліжэйшымі астравамі Міжземнага мора, але потым Арагон рашуча ўмяшаўся ў спрычкі вакол Сіцыліі, якія набылі агульнаеўрапейскі маштаб. Рашэнне, прапанаванае Арагонам, было дастаткова радыкальным. Ён у 1282 г. заваяваў востраў. У адказ раззлаваны папа рымскі Марцін IV заявіў пра дэтранізацыю Педра III і перадачу арагонскай кароны Францыі. Французскі кароль Філіп III арганізаваў супраць Арагона крыжовы паход, але ён праваліўся. У выніку Сіцылійскае каралеўства распалася на дзве часткі – уласна Сіцылію, якая знаходзілася пад кантролем Арагона, і Неапалітанскае каралеўства.